**С. М. Токць**

---

# САЦЫЯЛЬНЫЯ І КУЛЬТУРНЫЯ ПРАЦЭСЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ВЁСЦЫ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX – ПАЧАТКУ XX ст.

Мінск
ДІКСТ БДУ
2016

УДК 94(476)«1861–1914»
ББК 63.3(4 Беи)6
Т51

*Рэкамендавана*
*саветам гістарычнага факультэта БДУ*
*і навукова-тэхнічным саветам ДІКСТ БДУ*

Р э ц э н з е н т ы :
доктар гістарычных навук, дацэнт *А. Г. Каханоўскі;*
кандыдат гістарычных навук, дацэнт *Г. І. Маскевіч;*
кандыдат гістарычных навук, дацэнт *В. Р. Карнялюк*

**Токць, С. М.**
Т51 Сацыяльныя і культурныя працэсы ў беларускай вёсцы ў другой палове XIX – пачатку XX ст. / С. М. Токць. – Мінск : ДІКСТ БДУ, 2016. – 328 с.

ISBN 978-985-491-142-7.

У манаграфіі на аснове аналізу шырокага кола крыніц разглядаецца развіццё сацыяльных і культурных працэсаў у беларускай вёсцы ў другой палове XIX – пачатку XX ст. Аўтар стварае мадэль капіталістычнай мадэрнізацыі традыцыйнага сялянскага грамадства, асвятляе пытанні сацыяльнай дыферэнцыяцыі сялянства, дзейнасці мясцовага самакіравання, сацыяльнай мабільнасці вяскоўцаў, рэлігійнасці сялян, змен у штодзённым жыцці, пашырэння пісьменнасці.

Для прафесійных даследчыкаў гісторыі, выкладчыкаў гістарычных дысцыплін, студэнтаў, краязнаўцаў.

**УДК 94(476)«1861–1914»**
**ББК 63.3(4 Беи)6**

ISBN 978-985-491-142-7

## ЗМЕСТ

# Уводзіны

У другой палове XIX – пачатку XX ст. у беларускім грамадстве адбываліся складаныя працэсы сацыяльнай трансфармацыі, якія закранулі ўсе сферы яго жыцця і прывялі да кардынальных структурных змен і фарміравання новых мадэляў сацыяльных адносін і новых сацыяльных груп. Калі ў сярэдзіне XIX ст. беларускае грамадства яшчэ заставалася ў аснове сваёй грамадствам аграрнага, традыцыйнага тыпу, дык на пачатку XX ст. яго аблічча і характар развіцця вызначалі ўжо сучасныя інстытуты, характэрныя для індустрыяльнай эпохі. Большасць насельніцтва Беларусі ў гэты перыяд складала сялянства, якое толькі ў 1861 г. вызвалілася ад прыгоннай залежнасці. Вёска заставалася самым кансерватыўным сегментам грамадства, дзе ў найбольшай ступені захоўваліся архаічныя інстытуты і мадэлі сацыяльных адносін. Але кардынальныя змены адбываюцца ў паслярэформенны перыяд таксама ў сацыяльнай і культурнай сферах вясковага жыцця. Даследаванне характару і дынамікі гэтых змен з'яўляецца вельмі важнай і актуальнай навуковай задачай.

Гісторыя беларускай вёскі і сялянства належыць да ліку найбольш грунтоўна распрацаваных праблем у айчыннай гістарыяграфіі. Аграрная школа з'яўлялася адной з самых аўтарытэтных сярод беларускіх гісторыкаў. Пра гэта пераканаўча сведчыць колькасць выдадзеных айчыннымі гісторыкамі-аграрнікамі манаграфій, артыкулаў і калектыўных абагульняючых прац. Але дадзены факт не змяншае актуальнасць далейшых даследаванняў азначанай праблематыкі. На сённяшні дзень запатрабаваныя новыя метадалагічныя падыходы, якія дазволяць па-новаму пераасэнсаваць некаторыя складаныя і спрэчныя пытанні гісторыі беларускай вёскі ў дадзены перыяд. У айчыннай гістарыяграфіі сялянства галоўную ўвагу даследчыкаў прыцягвалі сацыяльна-эканамічныя пытанні і праблематыка класавай барацьбы. Сацыяльна-культурныя аспекты гісторыі вёскі заставаліся на другім плане. У апошнія гады гісторыкі ўсё часцей звяртаюцца да новых праблем, пачынаюць даследаваць пытанні сялянскага самакіравання, развіцця адукацыі, рэлігійнага жыцця, нацыянальнай свядомасці сялян і г. д. Дадзенае даследаванне скіравана на комплексны аналіз сацыяльных і культурных змен у паслярэформеннай беларускай вёсцы, на выяўленне іх дынамікі, узаемасувязяў і ўзаемазалежнасцяў.

Актуальнасць вывучэння гісторыі вёскі і сялянства ў вялікай ступені абумоўлена і тым фактам, што да 70-х гг. XX ст. вясковыя жыхары складалі большасць насельніцтва Беларусі. У выніку імклівых працэсаў урбанізацыі беларускага грамадства ў другой палове XX ст. сялянская моладзь масава пакідала родныя вёскі і перасялялася ў гарады. Гэтыя мігранты пераносілі з сабой і шматлікія элементы традыцыйнай сялянскай культуры, якая на працягу многіх стагоддзяў рэгулявала жыццё вясковых супольнасцей і часткова захоўвалася ў беларускай вёсцы на працягу ўсяго XX ст. Традыцыйныя каштоўнасныя арыентацыі і мадэлі паводзін трансфармаваліся ў новых умовах жыцця, але працягваюць існаваць у ментальнасці сучасных гарадскіх жыхароў і ў значнай ступені абумоўліваюць іх стаўленне да акаляючай рэчаіснасці. Нават на сучасным этапе станаўлення ўжо постіндустрыяльнага, інфармацыйнага грамадства вялікая частка гарадскога насельніцтва нашай краіны адчувае моцную эмацыянальную сувязь з роднымі вёскамі і падтрымлівае ўстойлівыя сацыяльныя сувязі з вясковымі супольнасцямі. Больш таго, у апошнія гады гэтая настальгія па страчанай «сялянскай ідыліі» і прага пошуку сваіх вясковых каранёў толькі ўзмацняюцца. Таму даследаванне сацыяльна-культурных працэсаў у сялянскім грамадстве Беларусі другой паловы XIX – пачатку XX ст. дазваляе таксама лепш зразумець многія праблемы нашага сённяшняга, ужо пераважна гарадскога грамадства.

Эканамічнае, сацыяльнае і культурнае адраджэнне вёскі выступае на сучасным этапе адным з прыярытэтных накірункаў унутранай палітыкі Рэспублікі Беларусь. Паспяховай рэалізацыі гэтай палітыкі можа пасадзейнічаць грунтоўны аналіз гістарычнага вопыту пераўтварэнняў, якія адбываліся на працягу апошніх двух стагоддзяў. Храналагічны перыяд другой паловы XIX – пачатку XX ст. у гэтым плане надзвычай цікавы, паколькі менавіта тады беларускае сялянства перажывала вельмі няпросты пачатак пераходу ад традыцыйных формаў жыцця да мадэлі сучаснага індустрыяльнага грамадства.

Працэсы мадэрнізацыі традыцыйнай вёскі на беларускіх землях пачалі набіраць сілу ў сярэдзіне XIX ст. Гэта стала вынікам усё большага наплыву ў сельскую мясцовасць прамысловых вырабаў і тэхналогій, а таксама правядзення ўрадавых рэформаў, і ў першую чаргу аграрнай рэформы 1861 г., якая скасавала прыгонную залежнасць сялян ад землеўладальнікаў і кардынальна змяніла асновы сацыяльнай арганізацыі вясковага жыцця. Верхняя мяжа даследавання звязана з пачаткам Першай сусветнай вайны, якая прынесла каласальныя гаспадарчыя і палітычныя сутрасенні і радыкальна змяніла палітычныя і сацыяльна-культурныя ўмовы развіцця беларускай вёскі. Геаграфічныя межы даследавання ўключаюць тэрыторыю Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў, дзе сярод сялянства пера-

важала этнічна беларускае насельніцтва. У працы выкарыстоўваюцца таксама статыстычныя даныя адносна 35 паветаў гэтых губерняў, якія ў большай ступені адпавядаюць сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Аб'ектам даследавання стала беларуская вёска другой паловы XIX – пачатку XX ст. як складаная і дынамічная сістэма сацыяльных адносін з уласным комплексам традыцыйных каштоўнасцей і нормаў паводзін.

Мэтай дадзенага навуковага даследавання з'яўлялася вызначэнне кірунку, зместу і дынамікі сацыяльных і культурных змен у беларускай вёсцы ў другой палове XIX – на пачатку XX ст. Для дасягнення пастаўленай мэты неабходным было вырашэнне наступных задач:

– вызначыць накірунак, асноўныя фактары і дынаміку працэсаў сацыяльна-маёмаснай дыферэнцыяцыі сярод жыхароў паслярэформеннай беларускай вёскі;

– устанавіць ступень уплыву сацыяльна-маёмаснай дыферэнцыяцыі сярод сялянства на характар сацыяльных і культурных узаемадачыненняў у вясковых супольнасцях, выявіць сацыяльна-культурныя характарыстыкі груп заможных і бедных сялян, вызначыць характар узаемаадносін паміж гэтымі групамі і ступень культурных адрозненняў паміж імі;

– ахарактарызаваць асноўныя механізмы і накірункі дзейнасці сялянскага самакіравання, яго месца і ролю ў жыцці паслярэформеннай вёскі, спецыфіку ўзаемаадносін з дзяржаўна-бюракратычным апаратам, вызначыць уплыў каштоўнасцей і нормаў традыцыйнай культуры і сялянскай ментальнасці на дзейнасць адказных асоб валасных і сельскіх устаноў, раскрыць стаўленне сялян да ўстаноў мясцовага самакіравання;

– выявіць прычыны, дынаміку і асноўныя накірункі тэрытарыяльнай і сацыяльнай мабільнасці ў паслярэформеннай вёсцы, іх уплыў на сацыяльную арганізацыю вясковых супольнасцей, стаўленне саміх сялян да гэтых працэсаў, а таксама ўплыў узрастання сацыяльнай мабільнасці на самасвядомасць вяскоўцаў;

– устанавіць дынаміку, асноўныя шляхі і накірункі вертыкальнай сацыяльнай мабільнасці сялянства, ахарактарызаваць працэс фарміравання інтэлігенцыі і чыноўніцтва сялянскага паходжання, выявіць характар і ступень уплыву гэтых груп на вясковыя супольнасці;

– вызначыць дынаміку пашырэння пісьменнасці сярод вясковага насельніцтва, ступень уздзеяння гэтага працэсу на самасвядомасць сялян і іх стаўленне да акаляючай рэчаіснасці, ахарактарызаваць успрыманне сялянамі пісьменнасці і адукаваных людзей;

– паказаць накірунак змен у рэлігійным жыцці паслярэформеннай вёскі, вызначыць узровень рэлігійнасці вяскоўцаў і яго дынаміку, выявіць уплыў рэлігійнага фактару на развіццё мадэрнізацыйных працэсаў у сялянскім грамадстве;

– ахарактарызаваць змены ў сферы традыцыйнай культуры, штодзённым жыцці беларускіх сялян, іх спецыфіку ў розных узроставых групах сялянскага насельніцтва, вызначыць ролі і месцы гэтых узроставых груп у функцыянаванні вясковых супольнасцей.

На пачатку даследавання была вылучана наступная гіпотэза: у другой палове XIX – пачатку XX ст. беларуская вёска перажывала складаныя і шматбаковыя працэсы мадэрнізацыйнага пераходу ад традыцыйнай да індустрыяльнай мадэлі грамадства, якія прыводзілі да важных сацыяльных і культурных змен у жыцці сялянства: узрастання маёмаснай дыферэнцыяцыі сярод вясковых жыхароў, павышэння ролі самаарганізацыі і самакіравання лакальных сялянскіх супольнасцей, росту паказчыкаў сацыяльнай мабільнасці, пашырэння пісьменнасці, зніжэння рэлігійнасці і пашырэння секулярызму, індывідуалізму і рацыянальных жыццёвых установак сярод сялян. Традыцыйная сялянская культура трансфармавалася ў новых умовах, часткова разбуралася пад уплывам «гарадскіх» ці «панскіх» культурных узораў, якія ўсё больш актыўна пранікалі ў вясковыя супольнасці, часткова дэфармавалася і адаптавалася да новых умоў.

У дадзеным даследаванні шырока выкарыстоўваліся наступныя гістарычныя даследчыя метады: апісальны, квантытатыўны (колькасны), гісторыка-параўнаўчы, метад рэтраспектыўнага аналізу. Асаблівую ролю адыграў мікрагістарычны падыход, паколькі сялянства ўяўляла сабой сукупнасць лакальных вясковых супольнасцей, а грунтоўнае асвятленне сацыякультурнага жыцця кожнай з іх магчыма толькі з дапамогай мікрагістарычнага аналізу. Прадстаўленае даследаванне з'яўляецца полідысцыплінарным, паколькі шырока выкарыстоўваліся сацыялагічныя, этналагічныя і культурна-антрапалагічныя паняцці, мадэлі і падыходы.

Вывучэнне сацыяльна-культурнай гісторыі беларускай вёскі мае вельмі добрыя далейшыя перспектывы. Існуе велізарны масіў крыніц, якія яшчэ не апрацаваныя гісторыкамі. Таксама можна вылучыць цэлы комплекс пытанняў, якія з'яўляюцца вельмі важнымі і маладаследаванымі на сённяшні дзень. Найперш гэта сацыяльна-дэмаграфічная тэматыка, праблема пачаткаў і дынамікі так званага дэмаграфічнага пераходу, актуальнасць распрацоўкі якой уяўляецца асабліва відавочнай у святле дэмаграфічных праблем нашага сённяшняга грамадства. Цікавымі і актуальнымі з'яўляюцца пытанні гісторыі старасці ў сялянскіх супольнасцях, дзяцінства і сацыялізацыі моладзі, гендэрная праблематыка, гісторыя маргінальных груп у вясковых грамадах, узаемадачыненні сялян з іншымі сацыяльнымі і этнаканфесійнымі групамі тагачаснага грамадства – памешчыкамі, засцянковай шляхтай, яўрэямі, цыганамі і г. д.

# Глава 1
# ГІСТАРЫЯГРАФІЯ, КРЫНІЦЫ І МЕТАДАЛОГІЯ ДАСЛЕДАВАННЯ

## 1.1. Гістарыяграфія даследавання

Айчынная гістарыяграфія беларускай вёскі і сялянства мае вельмі багатыя традыцыі. Яе пачынальнікам можна лічыць выдатнага гісторыка і грамадскага дзеяча Мітрафана Доўнар-Запольскага, які распачаў свае даследаванні яшчэ ў канцы XIX ст. [171], а ў 1920-х гадах былі выдадзены яго абагульняючыя працы – «Народное хозяйство Белоруссии (1861–1914 гг.)» [173] і «Гісторыя Беларусі» [179]. Мітрафан Доўнар-Запольскі разглядаў сацыяльныя аспекты гісторыі беларускай вёскі, даследаваў маёмасную дыферэнцыяцыю сярод сялянства, хаця не надаваў ёй істотнага значэння ў развіцці вясковага грамадства. Самым важным пытаннем, з яго пункту гледжання, з'яўлялася барацьба паміж сялянствам і памешчыкамі, якіх аўтар называў «непрацоўным» элементам у беларускім грамадстве. Доўнар-Запольскі з'яўляўся таксама выдатным этнографам, які асабіста наведаў і даследаваў шмат вёсак пераважна на поўдні Беларусі. Ён не толькі апытваў вяскоўцаў, але хіба што адзіны з тагачасных даследчыкаў, аналізаваў дакументальныя матэрыялы валасных судоў. Яго этнаграфічныя працы маюць вельмі вялікае значэнне для вывучэння сацыяльна-культурных працэсаў у тагачасным сялянскім грамадстве [170–172].

У 1920-я гады дамінуючыя пазіцыі ў маладой беларускай гістарыяграфіі займае марксісцкі метадалагічны падыход, які бачым у працы гісторыка і беларускага нацыянальнага дзеяча Аляксандра Цвікевіча «Западно-руссизм»: нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в.» [801]. Цвікевіч прызнаваў факт раскладання беларускага сялянства на дзве сацыяльна-класавыя групы з рознымі палітычнымі сімпатыямі і арыентацыямі: «"Дробненькія памешчыкі", якія выраслі дзякуючы расслаенню беларускай вёскі

і ўтварэнню кадраў заможнага сялянства, былі па сутнасці адзіным надзейным элементам у краі з пункту погляду расійскага ўрада. Але працэс разлажэння сялянства меў адваротны бок; побач з выдзяленнем кулакоў шпарка ўзрастаў лік пралетарызаванага сялянства, у сувязі з чым павялічваўся рост рэвалюцыйных настрояў» [802, с. 299]. Гэты аўтар адным з першых сярод даследчыкаў звязваў сацыяльна-эканамічныя працэсы ў беларускай вёсцы з фарміраваннем розных ідэалагічных плыняў: «<...> на чале новае клясы – сялянскае кулацкае буржуазіі – сталі “западно-руссы”» [802, с. 300]. Пытанні сацыяльнага і культурнага развіцця беларускай вёскі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. у рэчышчы марксісцкай парадыгмы разглядаліся ў 1920-я гады ў працах такіх вядомых гісторыкаў і грамадскіх дзеячаў таго часу, як Усевалад Ігнатоўскі [203–205], Уладзімір Пічэта [694], Аркадзь Смоліч [728].

Сялянская праблематыка ў 1920–1930-я гады становіцца адной з прыярытэтных у беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі. Пасля шэрагу публікацый у перыядычным друку выходзяць у свет вельмі грунтоўныя для свайго часу работы манаграфічнага характару [185; 186; 219]. Нарыс стану сельскай гаспадаркі Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст., прычым пераважна ўсходніх і цэнтральных рэгіёнаў краіны, утрымліваецца ў манаграфіі К. І. Кернажыцкага «Да гісторыі аграрнага руху на Беларусі перад імперыялістычнай вайной» [219], якая выйшла ў 1931 г. Асаблівую ўвагу аўтар надаў праблеме расслаення сялянства на сельскую буржуазію і пралетарыят. У даследаванні адзначаўся ўплыў на гэты працэс аграрнага крызісу 1880-х – першай паловы 1890-х гадоў і сталыпінскай зямельнай рэформы. Кернажыцкі адносіў да заможнага сялянства двары з надзелам большым за 15 дзес. і сцвярджаў, што сельская буржуазія паступова выцясняла памешчыкаў са сферы прыватнага землеўладання.

Праблематыка гісторыі паслярэформеннай беларускай вёскі і сялянства таксама разглядалася ў работах Д. А. Дудкова [185; 186]. Даследчык прааналізаваў асноўныя аспекты аграрнай рэформы П. А. Сталыпіна ў Віцебскай губерні, сувязь сельскай гаспадаркі з рынкам, развіццё адыходніцтва і промыслаў на вёсцы. Дудкоў сцвярджаў, што адыходніцтва сялян на заробкі ў беларускіх губернях набыло такі размах, які не назіраўся ў многіх іншых рэгіёнах Расійскай імперыі. Паводле падлікаў гэтага аўтара, сялянская беднята складала 40–42 % вясковага насельніцтва ў Беларусі, серадзнякі – 42–45 %, а сялянская буржуазія – 15–16 %. Шмат увагі гісторыі беларускай вёскі было адведзена ў выданні дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі, падрыхтаваных беларускімі гісторыкамі ў 1940 г. [118].

У пасляваеннай савецкай гістарыяграфіі (складовай часткай якой з’яўлялася ў перыяд СССР і беларуская гістарыяграфія, за выключэннем эмігранцкай) сялянская праблематыка стала адным з прыярытэтных накірункаў. Дамінантай у гістарычных даследаваннях, прысвечаных вёсцы і сялянству, стала вывучэнне сацыяльна-эканамічных пытанняў і класавай барацьбы. У адпаведнасці з марксісцкай тэорыяй сацыяльна-эканамічных фармацый перыяд другой паловы XIX ст. (а дакладней – перыяд пасля сялянскай рэформы 1861 г.) і пачатку XX ст. (да рэвалюцыі 1917 г.) разглядаўся як час панавання капіталістычнай фармацыі, у нетрах якой працягвалі сваё існаванне шматлікія феадальныя элементы-перажыткі, што стала галоўнай спецыфікай развіцця капіталізму ў Расійскай імперыі (у тым ліку і на беларускіх землях) і прычынай асаблівага абвастрэння тут класавых супярэчнасцей.

У 1950-я гг. у вывучэнні беларускай паслярэформеннай вёскі адбывалася крышталізацыя асноўных метадалагічных падыходаў і методык даследавання. У якасці прыкладу можна назваць працу Э. Хромавай, прысвечанай сацыяльнай дыферэнцыяцыі сялянства [791], даследаванні землеўладання ў Беларусі К. І. Шабуні [803], аграрных адносін і сялянскага руху П. І. Чарнушэвіча [792; 794]. У манаграфіі І. І. Саладкова разглядалася сацыяльна-эканамічнае становішча Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст. [715]. Абагульняючыя манаграфічныя даследаванні, прысвечаныя гісторыі сялянства, выходзяць у свет на пачатку 1960-х гадоў. У 1962 г. была выдадзена манаграфія К. І. Шабуні «Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905–1907 гг.» [804], а ў 1863 г. – праца А. І. Кажушкова «Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии во второй половине XIX в.» [225]. Апошні аўтар таксама даследаваў і сялянскі рух у Мінскай губерні [224]. У 1963 г. была выдадзена і калектыўная праца «Экономика Белоруссии в эпоху империализма, 1900–1917 гг.», у якой шмат увагі надавалася сацыяльнаму развіццю паслярэформеннай вёскі [811]. Таксама быў падрыхтаваны зборнік дакументаў і матэрыялаў, які ўключаў шмат крыніц па гісторыі вёскі [175].

Асаблівае месца ў айчыннай гістарыяграфіі заняла вышэйназваная работа К. І. Шабуні, якая склала зыходную пазіцыю для наступных даследаванняў аграрнай і сялянскай гісторыі другой паловы XIX – пачатку XX ст. Аўтар на грунце вывучэння вялікай колькасці архіўных крыніц і апублікаваных статыстычных матэрыялаў прааналізаваў пытанні развіцця землеўладання на беларускіх землях, памешчыцкай і сялянскай гаспадаркі, маёмаснай дыферэнцыяцыі сялянства і сялянскага руху ў часы рэвалюцыі 1905–1907 гг. Галоўным

крытэрыем сацыяльна-маёмаснай дыферэнцыяцыі, апроч памераў зямельнай уласнасці, К. І. Шабуня лічыў забяспечанасць сялянскай гаспадаркі рабочай жывёлай: да беднаты залічваліся ўладальнікі аднаго каня ці ўвогуле бясконныя сяляне, да сераднякоў – уладальнікі двух коней, да кулакоў – трох і болей. Найбольшае размежаванне сялянства назіралася ў заходніх Віленскай і Гродзенскай губернях, дзе доля беднаты, паводле падлікаў Шабуні, перасягнула 80 %. Галоўная ж выснова аўтара па гэтым пытанні гучыць наступным чынам: «общественно-экономическое развитие деревни шло по пути образования сельской буржуазии и вытеснения массы беднейших хозяев в ряды пролетариата <...> разложения крестьянства на две противоположные классовые группы» [804, с. 92].

К. І. Шабуня разглядаў сялянскую беднату як сацыяльную базу рэвалюцыйнага руху на вёсцы. Гэты даследчык прыйшоў да высновы, што «по мере развития капитализма, с одной стороны, непрерывно возрастало количество пролеторизованного крестьянства, а с другой – сокращался спрос на рабочую силу в связи с совершенствованием ведения хозяйства в помещичьих имениях». Менавіта таму ў вёсцы няспынна павялічваўся адносны лішак працоўных рук, стваралася так званая аграрная перанаселенасць [804, с. 103]. На думку Шабуні, гэты лішак складаў на пачатку XX ст. у беларускіх губернях звыш за 2 млн чалавек з 3,5 млн усяго дарослага насельніцтва, што прыводзіла ў выніку да масавага збяднення сялянства.

Сялянскай рэформе 1861 г. у беларускай гістарыяграфіі было прысвечана даследаванне М. Б. Фрыдман [783–785], якая на аснове аналізу заканадаўчых дакументаў і архіўных матэрыялаў разгледзела перадумовы, падрыхтоўку і рэалізацыю аграрных пераўтварэнняў у беларускай вёсцы, сялянскі рух напярэдадні рэформы. Галоўнай асаблівасцю ў правядзенні рэформы 1861 г. у заходніх губернях Расійскай імперыі, на думку даследчыцы, сталі карэктывы, унесеныя тут царскім самадзяржаўем у ход рэформы пасля паўстання 1863 г. Каб перадухіліць шырокі ўдзел сялянства ў паўстанні, урад зрабіў шэраг крокаў, якія істотна паляпшалі для вяскоўцаў умовы пераходу да сістэмы новых сацыяльных адносін. Тым не менш, як сцвярджала Фрыдман, сяляне Беларусі «получили недостаточно земли, их заставили выкупать наделы <...> обременили непосильными выкупными платежами и податями» [784, с. 172]. Аднак карэкціроўка ўрадам умоў адмены прыгоннага права на беларускіх землях пасля паўстання 1863 г. садзейнічала больш хуткаму росту капіталістычных адносін на беларускіх землях у паслярэформенны перыяд [784, с. 173].

У 1869 г. выходзіць у свет манаграфія В. П. Панюціча «Из истории формирования пролетариата Белоруссии. 1861–1914 гг.» [672].

На аснове шырокага кола крыніц аўтар даследаваў праблему адыходніцтва, якое ён лічыў адной з галоўных крыніц фарміравання прамысловага і сельскагаспадарчага пралетарыяту. Панюціч грунтоўна разгледзеў асноўныя кірункі і дынаміку адыходніцкіх промыслаў, да якіх ён таксама адносіў і міграцыю беларускіх сялян у Паўночную Амерыку. На аснове аналізу апісанняў асобных валасцей і прыходаў, а таксама і сялянскіх гаспадарак, выкананых на пачатку 1870-х гг. мясцовымі настаўнікамі і святарамі пад эгідай Рускага геаграфічнага таварыства, Панюціч прыйшоў да высновы пра высокі ўзровень сацыяльна-маёмаснай дыферэнцыяцыі беларускай вёскі ўжо на той час.

У 1971 г. выйшла манаграфія Л. П. Ліпінскага «Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии (вторая половина XIX в.)» [250]. Аўтар разглядае пытанні землеўладання і землекарыстання, развіцця памешчыцкай і сялянскай гаспадаркі, рост іх таварнасці, перажыткі прыгонніцтва і феадалізму, матэрыяльнае становішча сялян. На думку Л. П. Ліпінскага, у паслярэформенную эпоху можна вылучыць два перыяды ў развіцці сельскай гаспадаркі Беларусі. Першы перыяд ахоплівае 60–70-я гады XIX ст., ці час пасля адмены прыгоннага права і да пачатку аграрнага крызісу, што выбухнуў у канцы 70-х гадоў XIX ст., калі ў сельскай гаспадарцы пачала адбывацца рашучая ломка ранейшых адносін. Перыяд 60–70-х гадоў XIX ст., на думку Л. П. Ліпінскага, характарызаваўся перавагай старых накірункаў земляробства, панаваннем гандлёвай зерневай гаспадаркі, захаваннем трохпольнай сістэмы, руцінным станам сельскагаспадарчай тэхнікі. Другі перыяд – 80–90-я гады, калі сельская гаспадарка пачынае перабудоўвацца пад уплывам новых патрабаванняў капіталізму, змяняецца яе структура, з’яўляюцца новыя віды таварнага земляробства, хутка растуць рынкавыя сувязі, паскараецца пераход ад паўпрыгоннай да капіталістычнай сістэмы земляробства. У рэчышчы папярэдніх даследаванняў гэтай праблематыкі даследчык асаблівую ўвагу звяртаў на пытанне сацыяльнай дыферэнцыяцыі сялянства, як адной з галоўных адзнак развіцця капіталізму ў вёсцы: «Больше всего связаны с рынком крайние группы сельского населения – сельская буржуазия, с одной стороны, и сельские пролетарии и беднейшие крестьяне – с другой. Хозяйство этих груп носило наиболее ярко выраженный товарный характер <...> Хозяйство же середняка носило ещё полунатуральный характер» [250, с. 43].

Разгляд праблем сацыяльна-эканамічнага развіцця беларускай вёскі Л. П. Ліпінскі прадоўжыў у манаграфіі «Столыпинская аграрная рэформа в Белоруссии» [251]. Аўтар прааналізаваў развіццё

сельскай гаспадаркі ў Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст., працэс маёмаснай дыферэнцыяцыі сялянскага насельніцтва ў гэты перыяд. На думку Л. П. Ліпінскага, рэформа праводзілася ў інтарэсах пануючага класа з мэтай стварыць на вёсцы сацыяльную апору расійскага самадзяржаўя ў выглядзе заможнага сялянства – кулакоў. Задачай рэформы было разбурэнне сялянскай абшчыны і абшчыннага землекарыстання. Л. П. Ліпінскі ў цэлым адмоўна ацэньваў вынікі рэформы для беларускай вёскі, ахарактарызаваўшы іх як поўны правал царскай аграрнай палітыкі. На яго думку, «рэформа не улучшила, и только ухудшила положение крестьян» [251, с. 180].

У 1970-я гады выйшлі таксама манаграфічныя даследаванні З. Е. Абезгауза [7] і М. Ф. Болбаса [57], у якіх закраналіся аспекты ўдзелу сялянства ў прамысловым развіцці Беларусі ў другой палове XIX ст. У канцы 1970-х і ў 1980-я гады выходзіць у свет некалькі манаграфічных прац В. М. Міхнюка, прысвечаных гістарыяграфіі беларускага сялянства [288, 289]. Асаблівую цікавасць выклікае крытыка гэтым аўтарам крытэрыяў вызначэння класавай структуры беларускай вёскі, стасаваных да таго часу айчыннымі даследчыкамі. Міхнюк акрэсліў недахопы і абмежаванасць такіх крытэрыяў, як велічыня сялянскага надзелу, колькасць коней у гаспадарцы, выкарыстанне наёмнай працы і выказаўся за выкарыстанне даследчыкамі камбініраванага падыходу: «Только комплексное изучение крестьянских хозяйств по целому ряду существенных признаков и взятых в совокупности путем комбинированных таблиц может дать объективные научные результаты при исследовании вопроса о классовой структуре белорусской деревни дооктябрьского периода» [288, с. 33]. Дадзены тэзіс пазней аспрэчыў В. П. Панюціч, які адзначыў, што падобных комплексных даных у маштабах тагачаснай Беларусі проста не існуе [675, с. 14–15].

Шматмернае статыстычнае даследаванне сацыяльна-класавай структуры насельніцтва Беларусі ў другой палове XIX ст. ажыццявіў А. Г. Каханоўскі, які распрацаваў таксама сацыяльную тыпалогію асобных рэгіёнаў краіны. Даследчык прыйшоў да высновы, што сацыяльная дыферэнцыяцыя сялянства Беларусі мела выразныя рэгіянальныя асаблівасці: працэнт беднаты вагаўся ад 40,5 да 70,8 %, а заможнага сялянства – ад 2,4 да 11,8 %, а працэсы развіцця капіталістычных адносін мелі адносна слабы ўплыў на сацыяльна-класавую структуру беларускай вёскі [231].

У 1990 г. была выдадзена манаграфія В. П. Панюціча «Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861–1900 гг.» [676]. На грунце вывучэння вялікай колькасці архіўных і апублікаваных статыстычных матэрыялаў В. П. Панюціч падае шырокую і шматба-

кавую характарыстыку сацыяльна-эканамічных змен у паслярэформеннай беларускай вёсцы, аналізуе дэмаграфічнае развіццё сялянскага насельніцтва, аграрныя змены, гаспадарчае жыццё, расслаенне сялянскага саслоўя на сельскую буржуазію і пралетарыят. Вялікую ўвагу аўтар надае праблеме сялянскага землекарыстання. Ён адзначае, што ў выніку аграрных рэформаў 60-х гг. XIX ст. пераважная большасць беларускіх сялян была кепска забяспечана надзельнай зямлёй, у выніку чаго «обезземеление основной массы крестьян быстро возрастало и к началу XX в. достигло обширных размеров» [676, с. 108]. Асаблівае значэнне В. П. Панюціч надаваў працэсу сацыяльнага расслаення сялянства: «Основным содержанием социально-экономической эволюции деревни в первые два десятилетия после отмены крепостного права было (наряду со сменой феодальных отношений капиталистическими) формирование классов капиталистического общества – пролетариата и буржуазии. Шел процесс разложения крестьянства, вымывания средних слоев его. Это было качественно новое, важнейшее явление в социальном развитии пореформенной деревни» [676, с. 280]. Аўтар прыйшоў да высновы, што заможныя сяляне Беларусі пачалі паскорана збіраць зямлю, а бедната, наадварот, яе губляла. У 1905 г., паводле падлікаў Панюціча, адносная вага бядняцкіх двароў з зямельным участкам да 15 дзес. зямлі дасягнула 84,5 %. На падставе гэтага аўтар рабіў выснову аб вымыванні сярэдняга слою сялянства. Абеззямельванне сялянства больш інтэнсіўна праходзіла, як сцвярджае В. П. Панюціч, на захадзе і ў цэнтры Беларусі, дзе панавала падворнае землеўладанне. Расслаенне сялянства адбывалася тут больш інтэнсіўна, а сельская гаспадарка капіталістычнага тыпу развівалася больш дынамічна. У дынаміцы працэсу капіталістычнага развіцця Беларусь, на думку Панюціча, саступала толькі Прыбалтыцы, Правабярэжнай Украіне і прамысловаму цэнтру Расіі. Галоўная выснова аўтара гучыць наступным чынам: «Крестьянское сельскохозяйственное производство всё более концентрировалось в руках незначительного меньшинства, эксплуатировавшего деревенскую бедноту <...> Основная масса крестьян лишалась средств производства, нищала и разорялась, пополняя ряды пролетаритата, существовавшего главным образом продажей своей рабочей силы» [676, с. 346]. Разам з тым даследчык падкрэсліваў незавершанасць капіталістычнага развіцця сацыяльна-класавай структуры сельскага насельніцтва, што лічыў вынікам панавання «прускага, буржуазна-кансерватыўнага» шляху эвалюцыі аграрнага капіталізму і захаваннем істотных рэштак феадальна-прыгонніцкіх адносін, асновай якіх было латыфундзіяльнае памешчыцкае землеўладанне.

У 1996 г. выходзіць у свет новая манаграфія В. П. Панюціча «Наёмный труд в сельском хозяйстве Беларуси: 1861–1914 гг.» [675]. Аўтар прыйшоў да высновы, што па ўзроўню выкарыстання ў сельскай гаспадарцы наёмнай працы парабкаў Беларусь займала адно з першых месцаў у еўрапейскай частцы Расійскай імперыі, саступаючы толькі Прыбалтыйскім (Курляндская, Ліфляндская і Эстляндская) і Ковенскай губерням [675, с. 59]. Аднак тут батракі атрымлівалі меншую заработную плату, чым ва ўсіх астатніх рэгіёнах [675, с. 68]. Адной з галоўных прычын такога стану рэчаў аўтар бачыў існаванне яўрэйскай «мяжы аселасці», якая спрычынілася да перанаселенасці ў гарадах Беларусі, што стрымлівала працэс міграцыі з вёсак у гарады. На пачатку ХХ ст., паводле даных В. П. Панюціча, рост абеззямельвання сялянства працягваецца, што пашырае сацыяльную базу для выкарыстання наёмнай працы ў сельскай гаспадарцы. Матэрыяльнае становішча наёмных сельскагаспадарчых рабочых Беларусі было, згодна з высновамі аўтара, вельмі цяжкім: іх праца аплочвалася на 53,9 % ніжэй, чым у Прыбалтыйскіх губернях, на 21,7 % ніжэй, чым у Каралеўстве Польскім і ў два разы ніжэй, чым праца фабрычна-завадскіх рабочых Беларусі [675, с. 109]. У сваіх асобных артыкулах В. П. Панюціч аналізаваў пытанні пазямельных адносін на беларускай вёсцы, росту сялянскіх падаткаў, прававога становішча сялянства [674; 677; 680–682]. У 2005 г. даследчык выдаў манаграфію, прысвечаную гістарыяграфіі аграрнай гісторыі Беларусі [673].

Праблеме сялянскага руху ў Беларусі ў другой палове XIX ст. была прысвечана праца У. П. Крука [237]. Аўтар прыйшоў да высноў, што сялянскі рух на беларускіх землях у гэты перыяд развіваўся хвалепадобна. Пасля ўсплёску на першым этапе правядзення рэформы 1861 г. (1861–1863 гг.) наступіў спад, які працягваўся да сярэдзіны 70-х гадоў XIX ст. У гэты перыяд адбывалася ў сярэднім па 18 выступленняў у год. Потым адзначаецца паступовы прыліў выступленняў, якія дасягнулі свайго піку ў 1881 (42 выпадкі) і 1882 гг. [237, с. 58]. Усяго ж у 1876–1882 гг. у Беларусі аўтарам былі зарэгістраваны 204 выступленні (у сярэднім па 29 у год). Самага высокага ўзроўню, паводле У. П. Крука, сялянскі рух дасягнуў «у першыя 6 гадоў пасля выхаду краіны з "другой рэвалюцыйнай сітуацыі" (1883–1888 гг.)». За гэты час адбыліся 242 выступленні, або ў сярэднім па 40 за год. Затым пачынаецца спад да 1894 г., пасля якога ізноў пачынаецца паступовы рост. Усяго, паводле падлікаў У. П. Крука, за 1864–1900 гг. адбылося 978 сялянскіх выступленняў. Найбольш высокі ўзровень сялянскага руху назіраўся на захадзе і ў цэнтры Беларусі – у Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях, дзе адбылося 72 % выступленняў. Галоўнае месца займала барацьба за

зямлю – 65–70 %. Аўтар таксама прыйшоў да высновы аб нарастанні наступальных тэндэнцый у сялянскіх выступленнях.

Праблеме класавай барацьбы сялянства на пачатку XX ст. былі прысвечаны таксама манаграфіі Л. П. Ліпінскага і Е. П. Лук'янава «Крестьянское и солдатское движение в Белоруссии (1900–1907 гг.)» [249] і Л. П. Ліпінскага «Классовая борьба в белорусской деревне (1907–1914)» [252]. Паводле высноў гэтых аўтараў, сялянскі рух і на пачатку XX ст. захоўваў пераважна антыпамешчыцкі характар. Выступленні сялян супраць абшарнікаў складалі больш за 70 % ад колькасці ўсіх сялянскіх выступленняў. Паводле падлікаў Ліпінскага, асабліва актыўным быў у гэты перыяд сялянскі рух у Віцебскай губерні, а на другім месцы ішла Міншчына.

Рынкавыя сувязі сельскай гаспадаркі Беларусі ў эпоху капіталізму сталі прадметам даследавання ў працах Х. Ю. Бейлькіна [21–26]. На грунце аналізу вялікай колькасці архіўных крыніц і апублікаваных статыстычных матэрыялаў аўтар разгледзеў умовы фарміравання сельскагаспадарчага рынку Беларусі і яго арганізацыю, гандлёвыя сувязі з рознымі рэгіёнамі імперыі і замежнымі краінамі, ролю банкаўскага капіталу і г. д. Асаблівую цікавасць выклікае даследаванне Бейлькіным праблемы маёмаснай дыферэнцыяцыі беларускага сялянства. Ён крытычна паставіўся да высноў папярэдніх даследчыкаў, і ў першую чаргу В. П. Панюціча, а таксама да тых крытэрыяў, якія яны выкарыстоўвалі ў вызначэнні сацыяльна-маёмаснай структуры вясковага насельніцтва. Так, Х. Ю. Бейлькін лічыў недастатковым для вызначэння ступені маёмаснай дыферэнцыяцыі выкарыстанне крытэрыя памераў надзельнай зямлі сялян: «Распределение надельной земли ни в коем случае не отражает действительную картину расслоения крестьянства <…> очень часто малоземельные и даже безземельные крестьяне по надельной земле в действительности оказывались зажиточными крестьянами» [23, с. 134]. Як сцвярджаў гэты аўтар, толькі «распределение надельной, купчей и арендной земли в суммарном выражении является важнейшим показателем расслоения крестьян» [23, с. 136]. Паводле яго падлікаў, колькасць заможных сялян складала ў 1912 г. прыблізна 15 % сялянскага насельніцтва [23, с. 140]. Гэтая лічба прыкладна ўдвая перавышала тыя, якімі аперыравалі іншыя даследчыкі праблемы. Апроч таго, Х. Ю. Бейлькін вылучае дзве катэгорыі заможных сялян – фермераў і кулакоў. Фермеры займаліся арыентаванай на рынак сельскагаспадарчай вытворчасцю і пераважна жылі на хутарах [23, с. 147]. Паводле падлікаў даследчыка, ужо ў 1877 г. у Беларусі налічвалася каля 9 тыс. хутарскіх гаспадарак, а «первые известия о фермерских хозяйствах относятся к 60-м годам XIX в.» [23, с. 147]. Кулакі ж, на думку

Х. Ю. Бейлькіна, з’яўляліся «представителями торгово-ростовщического капитала в сельском хозяйстве» і атрымлівалі прыбыткі ў першую чаргу ад ліхвярства [23, с. 143].

Палітыку царскага самадзяржаўя адносна шляхты і сялян Беларусі ў другой палове XIX ст. разглядала ў сваёй манаграфіі С. М. Самбук [716]. Аўтар прыйшла да высновы, што гэтая палітыка ў цэлым мела антысялянскі, прадваранскі характар. Яна таксама звярнула ўвагу на пытанні рэлігійнай палітыкі царызму на беларускай вёсцы, на праблему русіфікацыі беларускіх сялян праз дзяржаўную школу і праваслаўную царкву. Праблематыку дынамікі землекарыстання і землеўладання былых памешчыцкіх сялян даследаваў У. А. Хілюта [788; 789]. Гэты аўтар прыйшоў да высновы аб скарачэнні сялянскага землекарыстання напярэдадні рэформы на карысць памешчыцкага землеўладання. Удзел выхадцаў з сялянства ў рабочым руху на беларускіх землях разглядаў М. В. Біч [46].

Перасяленне сялян з тэрыторыі Беларусі ва ўсходнія рэгіёны Расійскай імперыі ў другой палове XIX ст. – пачатку XX ст., выкліканае праблемай так званага зямельнага голаду, вывучалася ў працах П. Д. Верашчагіна [70; 71] і З. М. Сямейных [723; 724; 746; 747]. Паводле падлікаў гэтых аўтараў, больш актыўна перасялялася сялянства Віцебскай і Магілёўскай губерняў, прадстаўнікі якога складала 66,8 % ад колькасці ўсіх перасяленцаў. Царскі ўрад, на думку П. Д. Верашчагіна, разглядаў сялянскія перасяленні як своеасаблівы клапан, што дазваляў рэгуляваць узровень сацыяльнай напружанасці на вёсцы. Разам з тым улады стрымлівалі працэс перасялення праваслаўных сялян з заходніх рэгіёнаў Беларусі, каб не дапусціць аслаблення тут «рускага» элементу. Адначасова павялічвалася і колькасць сялян, якія выязджалі на заробкі з Беларусі за межы Расійскай імперыі ў Паўночную Амерыку і Заходнюю Еўропу. Апошняе пытанне падрабязна разглядалася на пачатку 1990-х гадоў у працах А. В. Ціхамірава [797–800].

Істотную ролю ў даследаванні праблематыкі беларускай вёскі адыгрывала падрыхтоўка і выданне зборнікаў дакументаў і матэрыялаў [31], а таксама калектыўных абагульняючых прац [95]. А падсумаваннем дасягненняў беларускай савецкай гістарыяграфіі сялянства стала падрыхтоўка фундаментальнага калектыўнага даследавання «Гісторыя сялянства Беларусі». Другі том гэтага выдання, прысвечаны другой палове XIX – пачатку XX ст., убачыў свет у 2002 г. [96]. У канцэптуальным плане гэтае даследаванне заставалася ў рамках марксісцкага метадалагічнага падыходу. У цэлым жа можна сцвярджаць, што ў савецкай гістарыяграфіі беларускага сялянства паслярэформеннага перыяду найбольш поўна была асветлена

сацыяльна-эканамічная праблематыка. Ключавым выступала палажэнне пра расслаенне ў гэты перыяд сялянства як асноўнага класа феадальнай фармацыі на два класы новага капіталістычнага грамадства шляхам вылучэння з яго асяроддзя заможнай меншасці – вясковай буржуазіі, збяднення і пераўтварэння ў сельскі пралетарыят большасці гаспадароў.

У работах выдатнага беларускага гісторыка Мікалая Улашчыка, які жыў і працаваў у Маскве, разглядаліся перадумовы і асаблівасці правядзення сялянскай рэформы 1861 г. [779; 780], пашырэнне пісьменнасці сярод сялян у паслярэформенны перыяд [778]. У працы «Была такая вёска» Улашчыкам пададзены вельмі грунтоўны і шматбаковы аналіз гаспадарчага і сацыяльна-культурнага жыцця асобнай беларускай вёскі Віцкі ў канцы XIX – на пачатку XX ст. [776; 777]. Гэтая праца адначасова мае рысы каштоўнай крыніцы, паколькі пераважна напісана на аснове асабістых успамінаў аўтара.

На пачатку 2000-х гадоў распачынаюцца пошукі новых метадалагічных падыходаў у даследаванні беларускага сялянства. Адным з піянераў у выкарыстанні мадэрнізацыйнага тэарэтычнага падыходу ў даследаванні сацыяльных працэсаў у паслярэформенным беларускім грамадстве з’яўляецца А. Г. Каханоўскі [215; 217; 218; 239]. У 2004 г. выходзіць кніга мінскага даследчыка Вячаслава Насевіча «Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе» [571]. Гэтую працу можна лічыць першым мікрагістарычным даследаваннем у сучаснай беларускай гістарыяграфіі, прысвечаным невялікаму сельскаму рэгіёну Кораньшчына ў цэнтральнай Беларусі. Раздзел кнігі Вячаслава Насевіча, прысвечаны паслярэформеннаму перыяду развіцця беларускай вёскі, называецца «Традыцыя і мадэрнізацыя». Пачаткам карэннай мадэрнізацыі беларускага традыцыйнага грамадства аўтар лічыць адмену прыгоннага права. У сваёй працы ён грунтоўна разгледзеў сацыяльныя працэсы ў лакальным сялянскім грамадстве: фарміраванне новай вясковай эліты, пашырэнне пісьменнасці, узрастанне сацыяльнай мабільнасці.

На пачатку 2000-х гадоў у айчыннай гістарыяграфіі актыўна праводзіліся даследаванні, прысвечаныя асобным пытанням гісторыі беларускага сялянства. С. А. Талмачова вывучае дзейнасць сялянскага самакіравання ў другой палове XIX ст. [749–753; 767]. Даследчыца прыйшла да высновы, што сялянскае самакіраванне выконвала шматлікія і разнастайныя функцыі, дапамагала сялянству абараняць свае саслоўныя эканамічныя інтарэсы, хаця яго дзейнасць была моцна забюракратызаваная і адбывалася пад строгім кантролем з боку дзяржавы, які яшчэ болей узмацніўся на пачатку XX ст. [753, с. 98]. Шмат даследаванняў у апошнія гады было прысве-

чана праблематыцы развіцця народнай адукацыі ў паслярэформенны перыяд. С. В. Снапкоўская разгледзела адукацыйную палітыку расійскіх улад і развіццё школьніцтва ў Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст. [729], В. М. Астрога вызначыла колькасную дынаміку і сацыяльную структуру вясковага настаўніцтва [13–17], М. А. Гулюк ахарактарызаваў палітыку расійскіх улад у галіне падрыхтоўкі педагагічных кадраў для вясковых школ у паслярэформенны перыяд [111–117], а Н. Я. Новік – развіццё прафесійнай адукацыі на беларускіх землях, якая карысталася асаблівай папулярнасцю сярод выхадцаў з сялянства [563–570]. Канфесійную палітыку ўрада адносна сялянскага насельніцтва, яго канфесійную структуру і розныя аспекты рэлігійнага жыцця асвятлялі ў сваіх працах В. В. Яноўская [815], А. І. Ганчар [90], А. Ю. Бендзін [32]. Уплыў беларускага нацыянальнага руху на вясковае насельніцтва на пачатку XX ст. разглядаўся ў манаграфіі мінскага гісторыка А. У. Унучака [781].

З пункту гледжання праблематыкі дадзенай працы асаблівы інтарэс выклікае даследаванне сацыяльнай стратыфікацыі сялянства Беларусі ў 60–90-я гг. XIX ст. Г. І. Маскевіч [263–272]. Даследчыца адыходзіць ад марксісцкага падыходу ў ацэнцы працэсаў стратыфікацыі ў беларускай вёсцы, адмаўляецца ад выкарыстання такіх тэрмінаў, як класы, класавая барацьба, кулакі, эксплуатацыя. Разам з тым Г. І. Маскевіч прытрымліваецца традыцыйнага для беларускіх гісторыкаў падыходу ў разглядзе маёмаснай стратыфікацыі сялянства, узяўшы ў якасці асноўнага крытэрыя памеры зямельных надзелаў сялян. Паводле яе падлікаў, у 1877 г. заможныя гаспадаркі складалі 10,4 % усіх сялянскіх двароў, а ў 1905 г. – 7,8 % [268, с. 12]. Працэс фарміравання маёмаснай іерархіі сялянства суправаджаўся, на думку аўтара, ростам сацыяльна-культурных адрозненняў паміж рознымі катэгорыямі сялян, складваннем новых нефармальных узаемаадносін у вёсцы: «Цягам часу адбывалася эвалюцыя самога разумення сялянамі тэрміну «заможны гаспадар», які вылучаўся ўжо не толькі памерамі ўладанняў, але і асаблівасцямі побыту, знешнім выглядам, спецыфічным правядзеннем традыцыйных для сялянскай культуры звычаяў і рытуалаў» [268, с. 12]. Удзельная вага серадня коў – уладальнікаў надзелаў памерам 15–20 дзес. зменшылася з 1877 па 1905 гг. з 27,7 да 9,7 %. У той жа час колькасць беднякоў за гэты перыяд вырасла з 61,9 да 82,5 %. Адначасова даследчыца адзначала, што і сярод беднаты «мяняліся стандарты жыцця, выкліканыя развіццём капіталістычных адносін, мадэрнізацыяй грамадства, што нярэдка праяўлялася ў змяненні сялянскага побыту і ўдасканаленні гаспадарак, пашырэнні магчымасцей сацыяльнай мабільнасці» [268, с. 13]. Г. І. Маскевіч разглядае ўплыў адукацыі

на сацыяльнае становішча асобы ў сялянскай супольнасці, аналізуе месца і ролю сістэмы сялянскага самакіравання ў фарміраванні сацыяльнай стратыфікацыі сялянства Беларусі ў 60–90-я гг. XIX ст. Аўтар звярнула асаблівую ўвагу на «неафіцыйную ўнутрысаслоўную стратыфікацыю», вылучыўшы групы жыхароў вёскі, якія займалі ў сялянскай супольнасці асаблівае месца (старажылы, бабкі-павітухі, знахары і г. д.), якое, аднак, не было ніякім чынам афіцыйна замацаванае ў нарматыўных актах. На складванне і развіццё гэтых нефармальных адносін уплывалі найперш асабістыя якасці чалавека. У дадзеным даследаванні былі выкарыстаны таксама даныя адносна дзейнасці Сялянскага банка ў беларускай вёсцы, якія атрымаў А. А. Кухарэнка [239], аналіз успамінаў міравых пасярэднікаў пра беларускую вёску, праведзены С. Л. Лугаўцовай [254], даследаванне праблем цераспалосіцы сялянскіх зямельных надзелаў К. Ю. Тарановіч [754].

У 2013 г. выходзіць у свет фундаментальная манаграфія А. Г. Каханоўскага «Сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства (1861–1914 гг.)». Мэтай гэтай працы з’яўлялася вызначэнне зместоўных характарыстык працэсаў трансфармацыі беларускага грамадства на этапе пераходу ад традыцыйнага да індустрыяльнага тыпу яго развіцця [216, с. 4]. У азначанай працы шмат увагі надаецца пытанням сацыяльнай трансфармацыі беларускай вёскі. Даследчык на грунце аналізу шырокай базы архіўных крыніц і апублікаваных статыстычных матэрыялаў прыйшоў да высновы, што ў канцы XIX – пачатку XX ст. набірае сілу працэс разлажэння традыцыйнай культуры ў беларускай вёсцы, хаця многія архаічныя элементы гэтай культуры захоўвалі сілу і стваралі трывалы бар’ер на шляху перамен. Беларускія сяляне негатыўна ставіліся да ўраўняльнага прынцыпу размеркавання надзельнай зямлі, але, разам з тым, выказвалі адмоўнае стаўленне да заможных гаспадароў. Сацыяльнае размежаванне сялянства, на думку аўтара, выразна паглыбілася ў канцы XIX – пачатку XX ст., узрасла яго міграцыйная і сацыяльная актыўнасць. Гэта, як лічыць А. Г. Каханоўскі, садзейнічала пераўтварэнню сялянства з саслоўнай у сацыяльна-прафесійную групу [216, с. 219].

Шмат інфармацыі адносна пасляэрэформеннай вёскі ўтрымліваюць працы дарэвалюцыйных даследчыкаў сялянства П. Баброўскага [47–52], К. Т. Анікіевіча [9], І. П. Кукушкіна [238], В. С. Манасеіна [260], А. І. Мілавідава [283], Р. Ф. Эркерта [813], Ю. Э. Янсана [816; 817], Ф. Ястрэмскага [277; 698; 741; 818; 819]. Яны пераважна напісаныя на памежжы эканомікі, статыстыкі і этнаграфіі, часам маюць больш публіцыстычны, чым навуковы характар, але ўтрымліваюць шмат вельмі важнага эмпірычнага матэрыялу. У пра-

цах дарэвалюцыйных расійскіх гісторыкаў Н. П. Дружыніна [181–183], А. Лявонцьева [245; 246], К. Стэфановіча [743] разглядаліся пераважна юрыдычныя нормы заканадаўства аб сялянах і ўмовы функцыянавання сялянскіх устаноў. А. А. Каўфман даследаваў аграрную праблематыку і сялянскія перасяленні ў Расійскай імперыі [212–214]. Выкарыстоўваліся ў дадзенай працы матэрыялы статыстычнага даследавання насельніцтва Расійскай імперыі А. Тройніцкага [770].

Для разумення спецыфікі развіцця сялянскай сям'і-дворагаспадаркі вельмі важнай з'яўляецца цыклічная канцэпцыя расійскага эканаміста-аграрніка А. В. Чаянава [793]. Паводле гэтай канцэпцыі, сямейная сялянская гаспадарка пераджывае ў сваім развіцці некалькі цыклаў, звязаных з суадносінамі колькасці «работнікаў» і «едакоў» у яе складзе. Чаянаў таксама лічыў трохскладовую схему сацыяльнай структуры вёскі (кулак, серадняк, бядняк) занадта спрошчанай і прапаноўваў уласную класіфікацыю, якая ўключала шэсць тыпаў сялянскіх гаспадарак: 1) капіталістычная, 2) паўпрацоўная, 3) сямейна-працоўная, 4) бядняцкая, 5) паўпралетарская, 6) пралетарская. Большасць у паслярэформеннай вёсцы, на яго думку, складалі гаспадаркі 2–4-га тыпаў. Гэтую класіфікацыю, аднак, вельмі цяжка выкарыстаць для аналізу маёмаснай структуры беларускай вёскі з прычыны недахопу адпаведных крыніц.

У працах расійскіх савецкіх даследчыкаў гісторыі сялянства паслярэформеннага перыяду галоўная ўвага надавалася рэалізацыі і наступствам рэформы 1861 г. (Н. М. Дружынін) [180], эканамічнаму становішчу і класавай барацьбе сялян (А. М. Анфімаў) [10; 11], функцыянаванню сялянскай абшчыны (П. Н. Зыранаў) [202], узаемаадносінам горада і вёскі (П. Г. Рындзюнскі) [714]. Гэтыя працы былі метадалагічна блізкія да работ беларускіх савецкіх гісторыкаў, што датычыла і высноў іх аўтараў. Яны ўтрымлівалі багаты фактлагічны матэрыял, які дазваляе лепш зразумець спецыфіку беларускай паслярэформеннай вёскі ў параўнанні з расійскай. Сацыяльныя канфлікты на вёсцы і ментальнасць сялян у Расійскай імперыі на пачатку XX ст. даследаваў беларускі гісторык А. Р. Бухавец [64]. Найбольш актуальнымі даследчымі праблемамі ў сучаснай расійскай гістарыяграфіі паслярэформеннай вёскі можна назваць наступныя: сацыяльна-маёмасная дыферэнцыяцыя, сацыяльна-культурнае развіццё вёскі, мясцовае самакіраванне, сацыяльна-дэмаграфічныя працэсы, побыт і штодзённае жыццё [83; 119; 189; 200; 201; 227; 240; 284; 286; 700; 730; 731; 787]. Назіраецца адыход ад марксісцкіх схем і пошук новых метадалагічных падыходаў. Актыўна выкарыстоўваецца рэгіянальны падыход, калі ў якасці аб'екту

даследавання абіраюцца асобныя рэгіёны з выразнай сацыяльнай і культурнай спецыфікай. Можна вылучыць даследаванні сацыяльнай гісторыі сялянства Б. Н. Міронава, які звяртаў асаблівую ўвагу на працэсы сацыяльнай мабільнасці, рост злачыннасці, распад абшчыны [284; 285].

Вялікую цікавасць у плане выкарыстання метадалагічных падыходаў уяўляюць таксама даследаванні паслярэформеннай расійскай вёскі, праведзеныя заходнімі аўтарамі, якія спрабуюць прыкласці для ее аналізу канцэптуальныя мадэлі, выпрацаваныя ў заходняй гістарыяграфіі [19; 84; 786]. Вядомы даследчык сялянства Эрык Вульф, напрыклад, сцвярджае, што галоўная прычына, якая падштурхоўвае сялян да актыўнага дзеяння – гэта зямля. Поспех мадэрнізацыі, паводле гэтага аўтара, залежаў ад таго, наколькі дзяржаве ўдавалася замяніць сваімі прадстаўнікамі традыцыйныя вертыкальныя сувязі сялянскага грамадства [84, с. 92–93]. Д. Байрау вывучаў удзел сялян у рэвалюцыі, сацыяльную структуру сялянства. «Кулакоў» ён вызначаў як сацыяльную групу сялянскага насельніцтва, якая нажываецца неземляробчай працай [19].

У сучаснай украінскай гістарыяграфіі асаблівую актуальнасць набываюць даследаванні сацыяльна-культурнай праблематыкі гісторыі сялянства, менталітэту вяскоўцаў. У першую чаргу тут трэба назваць працы Юрыя Прысяжнюка [701] і Аляксандра Міхайлюка [287]. Характар узаемадачыненняў польскай шляхты і ўкраінскага сялянства на тэрыторыі Правабярэжнай Украіны ў другой палове XIX – пачатку XX ст. разгледзеў французскі гісторык Даніэль Бавуа [53; 822]. З увагі на вялікае падабенства становішча і ўмоў развіцця тагачаснай украінскай вёскі да беларускай, гэтыя працы ўяўляюць вялікую цікавасць у плане параўнання.

Паслярэформенная беларуская вёска ў сваім развіцці мела шмат падабенстваў з тагачаснай польскай вёскай, асабліва на тэрыторыі Польскага Каралеўства. Таму працы польскіх гісторыкаў-аграрнікаў выклікаюць з гэтага пункту гледжання вялікую цікавасць. У перыяд Польскай Народнай Рэспублікі ў польскай гістарыяграфіі дамінаваў марксісцкі падыход, і галоўная ўвага гісторыкаў была скіравана на сацыяльна-эканамічнае развіццё вёскі, фарміраванне сельскага пралетарыяту і класавую барацьбу [839–841; 843]. У сучаснай польскай гістарыяграфіі новыя даследаванні паслярэформеннай польскай вёскі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. грунтуюцца на палажэннях мадэрнізацыйнай тэорыі. Яцак Кахановіч у сваім тэарэтычным даследаванні праблем развіцця сялянскай гаспадаркі сцвярджае, што для краін усходняй Еўропы характэрнай была так званая запозненая мадэрнізацыя, і вясковыя супольнасці ў гэтым рэгіёне ў дру-

гой палове XIX – на пачатку XX ст. увайшлі ў фазу посттрадыцыйнага развіцця, калі сялянскія дворагаспадаркі, хаця і адаптаваліся да патрабаванняў рынкавай эканомікі і засвойвалі новыя тэхналогіі, але заставаліся арыентаванымі пераважна на самазабеспячэнне і выжыванне сялянскай сям'і [854, s. 156]. Гэтая ідэя, на нашу думку, вельмі важная для разумення развіцця беларускай вёскі. Уладзімеж Мянджэцкі даследаваў працэсы сацыялізацыі сялянскай моладзі на землях Цэнтральнай Польшчы і тую ролю, якую гэтая ўзроставая група адыграла ў працэсах мадэрнізацыі польскай вёскі [862]. Юзаф Буршта ажыццявіў вельмі грунтоўнае мікрагістарычнае даследаванне малапольскай вёскі ў дадзены храналагічны перыяд [824]. Вялікую цікавасць выклікаюць метадалагічныя падыходы аўтараў гісторыка-дэмаграфічных даследаванняў польскай вёскі Міхала Капчыньскага [856], Дануты Маркоўскай [860], Эдмунда Пясецкага [869], Цэзарыя Кукло [859], а таксама канцэптуальныя даследаванні праблем дэмаграфічнай трансфармацыі грамадства Кшыштафа Заморскага [888].

У апошнія гады замежныя даследчыкі ўсё часцей звяртаюцца да вывучэння розных аспектаў гісторыі Беларусі другой паловы XIX – пачатку XX ст. Пытанні нацыянальнай і канфесійнай палітыкі расійскага ўрада адносна беларускага сялянства ў першыя пасляэформенныя гады асвятляюцца ў даследаваннях расійскага гісторыка Міхаіла Далбілава [176–178] і літоўскага аўтара Дарыуса Сталюнаса [732; 733; 873]. Палітыку Расійскай імперыі ў Паўночна-Заходнім краі разглядае расійская даследчыца А. А. Камзолава [226]. Развіццё школьнай адукацыі на беларускіх землях вывучаў польскі гісторык Лешак Заштаўт [889; 890]. Узаемаадносіны памешчыкаў і сялян у пасляэформенны час грунтоўна даследаваў польскі гісторык Раман Юркоўскі [845–850]. Гэтая праблема разглядаецца таксама ў працах польскіх аўтараў Марыі Задэнцкай [882], Міраслава Устшыцкага [881], Марыі Новак-Келбіковай [863]. Этнічная самасвядомасць беларускага сялянства ў XIX ст. стала прадметам даследавання ў манаграфіі польскага сацыёлага Рышарда Радзіка, які прыйшоў да высновы, што беларускае вясковае насельніцтва ў другой палове XIX ст. яшчэ не мела развітай нацыянальнай самасвядомасці ў сучасным разуменні гэтага тэрміна [870].

Вельмі важную ролю ў вывучэнні сацыяльна-культурнага жыцця пасляэформеннай беларускай вёскі адыгрываюць этнаграфічныя даследаванні, якія асабліва актыўна праводзіліся ў другой палове XIX – на пачатку XX ст. У працах М. Я. Нікіфароўскага [555–561], Е. Р. Раманава [278; 279; 711; 712], А. Я. Багдановіча [55], П. В. Шэйна [274–276], А. Кіркора [190; 221], І. А. Сербава [725], М. А. Янчу-

ка [817], У. Шукевіча [875] і іншых аўтараў утрымліваецца багацейшы факталагічны матэрыял па азначанай праблематыцы. У гэтых даследаваннях асаблівую цікавасць для нас выклікала не апісанне архаічных абрадаў і рытуалаў, а замалёўкі сацыяльных практык вясковых жыхароў у самых розных жыццёвых сітуацыях, паказ іх стаўлення да самых розных праблем тагачаснага жыцця. Многія матэрыялы ў працах азначаных аўтараў у большай ступені маюць характар крыніц. Напрыклад, дописы шматлікіх карэспандэнтаў П. В. Шэйна ўяўляюцца вельмі цікавымі менавіта з пункту гледжання аналізу сацыяльна-культурнай праблематыкі. Надзвычай грунтоўнае і ўсебаковае апісанне сацыяльна-культурных аспектаў жыцця вёскі Камаровічы Мазырскага павета, апублікаванае ў польскім часопісе «Wisła», выканала памешчыца Эма Яленская [844].

Вялікі факталагічны матэрыял, прысвечаны самым розным аспектам духоўнага і матэрыяльнага жыцця паслярэформеннай беларускай вёскі, сабраны савецкімі і сучаснымі беларускімі этнографамі [28–30; 106; 290]. Менавіта этнографы сталі піянерамі ў даследаванні этнанацыянальнай самасвядомасці беларускага сялянства ў паслярэформенны перыяд [755; 756; 796]. Для даследавання сацыяльна-дэмаграфічных працэсаў былі выкарыстаны працы дэмографаў А. А. Ракава [704] і А. Г. Рашына [707].

Багатыя традыцыі ў вывучэнні беларускай вёскі, пачынаючы з XIX ст., мае польская этнаграфія. Асобны том быў прысвечаны Беларусі ў шматтомным этнаграфічным выданні Оскара Колберга [855]. Велізарны матэрыял адносна сялянства Гродзеншчыны сабраў выдатны польскі этнограф і фальклярыст Міхал Федароўскі [832–844]. Грунтоўныя даследаванні вясковай культуры жыхароў беларускага Палесся, а таксама глыбокае тэарэтычнае асэнсаванне сабраных матэрылаў ажыццявіў Юзаф Абрэмбскі [865]. Культурныя змены ў беларускіх сялянскіх супольнасцях Беласточчыны адлюстраваў Уладзімір Паўлючук [868]. Шмат матэрыялаў па этнаграфіі беларускага сялянства прысутнічае ў працах вядомых сацыёлагаў і антраполагаў польскай вёскі Фларыяна Знанецкага [876] і Юзафа Халасінскага [826; 827]. У даследаванні былі выкарыстаны таксама метадалагічныя падыходы такіх польскіх антраполагаў і сацыёлагаў, як Войцах Буршта [825], Людвік Стома [874], Ізабэла Букраба-Рыльска [823], а таксама брытанска-ізраільскага сацыёлага Тэадора Шаніна [806].

У цэлым можна сцвердзіць, што гісторыя беларускай вёскі ў абраным храналагічным перыядзе на сённяшні дзень даследавана вельмі грунтоўна і шматбакова. Пэўным недахопам існуючай гістарыяграфіі, на думку аўтара, з’яўляецца дамінаванне сістэмна-струк-

турнага метадалагічнага падыходу, статыстычных метадаў аналізу. Недастаткова ўвагі звярталася айчыннымі гісторыкамі на вывучэнне менталітэту вяскоўцаў, іх светапогляду і стаўлення да тых падзей, што адбываліся з імі і вакол іх у тагачасным грамадстве. Сацыяльна-культурныя аспекты гісторыі паслярэформеннай беларускай вёскі даследаваны на сённяшні дзень у меншай ступені, чым сацыяльна-эканамічныя, і дадзеная манаграфія з'яўляецца спробай дапоўніць гэтую нішу ў айчыннай гістарыяграфіі.

## 1.2. Крыніцы

Увесь комплекс крыніц, выкарыстаных у дадзеным даследаванні, можна падзяліць на наступныя групы: 1) нарматыўна-прававыя дакументы; 2) матэрыялы афіцыйнага справаводства (дзяржаўнага, царкоўнага, грамадскіх арганізацый); 3) апублікаваныя статыстычныя матэрыялы; 4) матэрыялы перыядычнага друку; 5) крыніцы асабістага паходжання (успаміны, перапіска і дзённікі); 6) картаграфічныя матэрыялы і фотадакументы. Галоўную ж ролю адыгралі тры групы крыніц: матэрыялы дзяржаўнага справаводства, апублікаваныя статыстычныя матэрыялы і ўспаміны сучаснікаў.

У найбольшай ступені ў дадзеным даследаванні былі выкарыстаныя матэрыялы дзяржаўнага справаводства XIX – пачатку XX ст., якія захоўваюцца ў нацыянальных гістарычных архівах Беларусі ў Мінску і Гродне, а таксама ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў Вільнюсе. Беларускае сялянства ў паслярэформенны перыяд займала важнае месца ў палітыцы дзяржаўных улад Расійскай імперыі, таму ў канцылярыях адміністрацыйных устаноў сканцэнтравана вялізная колькасць дакументаў, якія адлюстроўваюць самыя розныя бакі жыцця тагачаснай вёскі.

Асноўны масіў дакументаў па гісторыі вёскі і сялянства захоўваецца ў фондах так званых сялянскіх устаноў: губернскіх па сялянскіх справах прысутнасцей і павятовых з'ездаў, павятовых і губернскіх «землеустроительных» камісій, канцылярыях міравых пасярэднікаў і земскіх начальнікаў. Гэтыя матэрыялы адлюстроўваюць сацыяльныя ўзаемадачыненні на вёсцы, канфлікты, паводзіны сялян у самых розных жыццёвых сітуацыях. У суме азначаныя архіўныя фонды адносна пяці беларускіх губерняў захоўваюць многія сотні тысяч асобных адзінак захавання і мільёны аркушаў пераважна рукапісных дакументаў. Таму паўстае вельмі няпростая праблема пабудовы выбаркі. У дадзеным даследаванні гэтая праблема вырашалася з дапамогай выкарыстання мікрагістарычнага падыходу.

У цэлым можна сцвярджаць, што ў комплексе ўрадавых дакументаў, якія ўтрымліваюць інфармацыю па гісторыі беларускай

вёскі другой паловы XIX – пачатку XX ст., пераважаюць матэрыялы эканамічнага характару, і ў меншай ступені прысутнічаюць матэрыялы па сацыяльнай гісторыі. Больш вузкае кола крыніц гэтай групы закранае аспекты культурнага жыцця сялянства, а дакументы, якія ўтрымліваюць звесткі пра самасвядомасць сялян, іх стаўленне да акаляючай рэчаіснасці, з'яўляюцца даволі рэдкімі. У дадзенай працы аўтарам асаблівая ўвага звярталася на тыя дакументы, якія ствараліся чыноўнікамі, што непасрэдна кантактавалі з сялянамі, асабіста бывалі ў вёсцы і дастаткова добра арыентаваліся ў сітуацыі, якая там складвалася. Такім спосабам у найбольшай ступені можна было наблізіцца да аб'екта даследавання. У гэтым плане асаблівую цікавасць уяўляюць дакументы, аўтарамі якіх былі сяляне. У паслярэформенны час колькасць такіх дакументаў увесь час узрастала. У большасці сваёй яны ўяўляюць сабой розныя скаргі і прашэнні, скіраваныя да дзяржаўнай адміністрацыі. Трэба ўлічваць той факт, што многія з гэтых дакументаў пісаліся не самімі сялянамі, а адукаванымі прадстаўнікамі іншых сацыяльных груп – звычайна яўрэямі і дробнымі шляхцічамі, якія часта выконвалі функцыі нефармальных адвакатаў у вясковым грамадстве. Тым не менш, хаця і ў дэфармаванай форме, што патрабуе іх крытычнага аналізу, гэтыя крыніцы даносяць да нас галасы жыхароў тагачаснай беларускай вёскі.

У дадзенай працы шырока выкарыстоўваліся таксама крыніцы, якія змяшчаюць інфармацыю дэмаграфічнага характару. Царкоўныя метрычныя кнігі не толькі дазваляюць устанавіць дэмаграфічныя параметры развіцця сялянскага грамадства на мікраўзроўні, але і адлюстроўваюць важныя асаблівасці ментальнасці і культуры штодзённага жыцця вясковых жыхароў, даюць магчымасць рэканструяваць складаную сетку сацыяльных узаемаадносін, сямейныя стратэгіі. Асабліва плённым з'яўляецца аналіз гэтых крыніц на працягу значнага храналагічнага перыяду і супастаўленне атрыманых вынікаў са статыстычнымі матэрыяламі на макраўзроўні. У дадзеным даследаванні прадстаўлены вынікі аналізу метрычных кніг Глыбоцкага праваслаўнага прыхода на памежжы Віленскай і Гродзенскай губерняў на працягу ўсяго паслярэформеннага перыяду [515–541]. Параўнанне вынікаў аналізу матэрыялаў метрычных кніг, рэвізскіх сказак і матэрыялаў перапісу 1897 г. дазваляе ўдакладніць дынаміку і характар змен у сацыядэмаграфічным развіцці беларускай вёскі.

Каштоўныя звесткі па сацыяльнай гісторыі ўтрымліваюць апісанні валасцей і прыходаў, выкананых на пачатку 1870-х гадоў школьнымі настаўнікамі і прыходскімі святарамі па замове Руска-

га геаграфічнага таварыства, значная частка якіх захоўваецца на сённяшні дзень у Бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта [34–45]. Важнай групай крыніц для вывучэння сацыяльна-культурных змен у паслярэформеннай беларускай вёсцы з'яўляюцца апублікаваныя статыстычныя матэрыялы. У дадзеным даследаванні шырока выкарыстоўваліся звесткі з губернскіх «Памятных кніжак» [633–671] і статыстычных аглядаў губерняў [581–617], а таксама «Труды местных комитетов о нуждах сельскохозяйственной промышленности», выдадзеныя ў 1903 г. [771–775]. Асобную групу крыніц склалі заканадаўчыя матэрыялы [82; 85–89; 572; 574; 575; 577–580; 718; 719], якія акрэслівалі фармальныя нормы жыцця і дзейнасці сялян, механізмы функцыянавання ўстаноў сялянскага самакіравання.

Важную ролю ў дадзеным даследаванні адыграла мемуарная літаратура. Абсалютная большасць успамінаў сучаснікаў, якія ўтрымліваюць інфармацыю пра беларускую вёску XIX – пачатку XX ст., належыць аўтарству прадстаўнікоў памешчыцкага асяроддзя [828; 851; 867; 878; 879; 883–887]. Для шляхецкіх мемуарыстаў характэрным было перакананне ў натуральнасці патрыярхальнага ўкладу вясковага жыцця, ідэя апекі над сялянамі з боку панскага двору, погляд на вяскоўцаў, як на «малодшых братоў» [881, s. 282]. Тым не менш, шляхецкая мемуарная літаратура з'яўляецца каштоўнай крыніцай для асвятлення праблемы сацыяльна-культурнага развіцця беларускай вёскі ў гэты перыяд. Успамінаў, якія належаць аўтарству саміх сялян, адносна даследуемага перыяду захавалася мала. Адным з першых аўтараў мемуараў сялянскага паходжання пра жыццё беларускай вёскі XIX ст. быў вядомы этнограф Адам Багдановіч, бацька класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча [54; 56], які свае ўспаміны пісаў у другой палове 1920-х гадоў ва ўзросце сямідзесяці гадоў. Ім былі вельмі дэталёва разгледжаны гаспадарчыя, сацыяльныя і культурныя сферы жыцця паслярэформеннай беларускай вёскі. Жыццё заходнебеларускай каталіцкай вёскі пачатку XX ст. таксама дэталёва адлюстравана ва ўспамінах беларускіх дзеячаў сялянскага паходжання Баляслава Грабінскага і Станіслава Грынкевіча [105; 109].

Шмат матэрыялаў пра вясковае жыццё публікавалася ў тагачасным перыядычным друку, і ў першую чаргу ў беларускамоўных газетах пачатку XX ст. «Наша Ніва» [1–6; 120; 233; 241; 576; 720; 782; 804; 812], «Bielarus» [842; 853] і «Беларускі звон» [255], якія былі адрасаваны сялянам і імкнуліся разглядаць на сваіх старонках найбольш актуальныя пытанні вясковага жыцця. Шмат інфармацыі адносна рэлігійнасці жыхароў праваслаўнай беларускай вёскі і развіцця пачатковага школьніцтва публікавалася ў царкоўным перыядычным

выданні «Литовские епархиальные ведомости» [59; 228; 232; 257; 281; 282; 683; 721; 814].

У цэлым можна сцвердзіць, што існуючая база крыніц дазваляе вырашыць пастаўленыя ў даследаванні задачы. Складанай праблемай з'яўлялася выбарка рэпрэзентатыўных матэрыялаў з той вялізарнай колькасці інфармацыі, якая захавалася па дадзенай праблематыцы адносна вывучаемага храналагічнага перыяду. Гэтая праблема вырашалася ў даследаванні з дапамогай мікрагістарычнага падыходу.

## 1.3. Метадалогія і метады даследавання

У дадзеным даследаванні камбініравана выкарыстоўваліся сістэмна-структурны (структурна-нарматыўны) і сацыякультурны (фенаменалагічны, інтэрпрэтацыйны ці канструктывісцкі) даследчыцкія падыходы. Сістэмна-структурны падыход грунтуецца на разуменні грамадства як складанай сістэмы, збудаванай з мноства ўзаемазвязаных і ўзаемазалежных элементаў. Базавымі элементамі выступаюць сацыяльныя групы і інстытуты. Сацыяльная сістэма з'яўляецца адной з падсістэм грамадства і ўяўляе сабой сукупнасць сувязяў і ўзаемадачыненняў паміж сацыяльнымі групамі, якая існуе ў дадзеным грамадстве [632, с. 99]. Культурная падсістэма грамадства ў рамках дадзенага падыходу разумеецца як сукупнасць правіл, нормаў паводзін, а таксама набор каштоўнасцей, якія лічацца найбольш важнымі і пажаданымі [632, с. 96–97]. Сацыяльная і культурная падсістэмы соцыуму цесна звязаныя паміж сабой [169, с. 105; 758, с. 112–117; 820, s. 47–54], і строгі падзел паміж культурай і сацыяльнай структурай правесці складана [807, с. 3–13].

У дадзеным даследаванні да сацыяльнай сістэмы былі аднесены сацыяльныя ўзаемадачыненні паміж рознымі групамі сельскага насельніцтва, адносіны ўлады і падпарадкавання ў вясковых супольнасцях, сацыяльна-маёмасная дыферэнцыяцыя, а да сферы культуры – традыцыйная сялянская культура як сістэма сімвалічных значэнняў і ведаў, якая ў вуснай форме перадавалася з пакалення да пакалення і з дапамогай якой вясковыя жыхары апісвалі, ацэньвалі і інтэрпрэтавалі акаляючую іх рэальнасць. У даследуемы храналагічны перыяд у вясковае грамадства пачынаюць усё больш актыўна пранікаць элементы іншых культурных сістэм, і ў першую чаргу так званай афіцыйнай, транслюванай праз дзяржаўную сістэму адукацыі, а таксама «панскай» і «гарадской» субкультур. Гэта стварала надзвычай складаную і дынамічную сацыяльна-культурную рэальнасць. Селянін часта паўставаў перад выбарам, якую культурную норму абраць для свайго канкрэтнага дзеяння, якой каштоўнасці з

шэрагу некалькіх альтэрнатыў аддаць перавагу. І гэты выбар быў звязаны з яго сацыяльнай пазіцыяй, маёмасным статусам, яго месцам у структурах улады і падпарадкавання.

Сацыяльныя пазіцыі індывідаў падштурхоўвалі іх на выкарыстанне розных, часта канфліктных паміж сабой стратэгій паводзін і культурных узораў. Можна сцвярджаць, што месцазнаходжанне індывіда ў структуры лакальнай супольнасці істотным чынам уплывала на выбар культурнай прыналежнасці, а апошні становіцца магчымым у сітуацыі пэўнага плюралізму культурных узораў, якая фарміруецца ў сялянскім грамадстве ў часе мадэрнізацыйнага пераходу ад традыцыйнага да індустрыяльнага тыпу грамадства. Такім чынам, пад сацыяльнай структурай сялянскага грамадства ў дадзеным даследаванні разумелася ўся сукупнасць сацыяльных пазіцый і адпаведных ім роляў і інстытутаў, а таксама сеткі сацыяльных сувязяў і ўзаемазалежнасці паміж імі ў вясковым грамадстве Беларусі другой паловы XIX – пачатку XX ст., а пад культурай – сукупнасць ведаў гэтага грамадства аб сабе самім і акаляючым прыродным асяроддзі, засвоеныя індывідамі ў працэсе сацыялізацыі каштоўнасці, а таксама нормы паводзін у розных жыццёвых сітуацыях.

Сацыякультурны падыход у адрозненне ад сістэмна-структурнага робіць акцэнт не на даследаванні сацыяльных структур і інстытутаў, а на вывучэнні суб’ектыўнага ўспрымання і інтэрпрэтацый індывідамі акаляючай рэчаіснасці, тых працэсаў і з’яў, што адбываліся ў іх грамадстве, пабудове імі ўласных жыццёвых стратэгій [761; 92, с. 11; 710, с. 64; 768, с. 112–117]. У рамках гэтага падыходу асаблівая ўвага звяртаецца на аналіз тэкстаў, мовы гістарычных персанажаў, сімвалічных сістэм, якімі яны карысталіся. Важная ідэя заключаецца ў тым, каб даць права голасу самім сялянам, адлюстраваць іх асабістае стаўленне да акаляючай рэчаіснасці.

Камбініраванае выкарыстанне сістэмна-структурнага і сацыякультурнага падыходаў дазваляе высветліць, як суб’ектыўныя ўяўленні і жаданні індывідаў – у дадзеным выпадку жыхароў пасляраформеннай беларускай вёскі – рэалізаваліся ў прасторы магчымасцей, абмежаванай існаваўшымі сацыяльнымі структурамі, як людзі паводзілі сябе адносна іншых у рэальных жыццёвых сітуацыях шырокага спектру – ад нармальных да анамальных. Вельмі важна было паказаць сацыяльна-культурныя змены ў беларускай вёсцы праз прызму дзейнасці сялян у канкрэтных абставінах, праз іх асабісты выбар пад уздзеяннем фактараў, сфарміраваных пад уплывам глабальных структур і мадэрнізацыйных працэсаў, якія змянялі тагачасны свет. Жыхары вёскі і пад ціскам гэтых фактараў заўсёды

мелі пэўны зазор свабоды і магчымасці для творчасці ў сітуацыі канфлікту розных сістэм каштоўнасцей і нормаў паводзін.

У дадзеным даследаванні таксама шырока выкарыстоўваўся мікрагістарычны даследчы падыход, сутнасцю якога з’яўляецца радыкальная змена маштабу навуковага аналізу, што дазваляе ўбачыць новую гістарычную рэальнасць, нябачную, умоўна кажучы, з вышыні макрагістарычнага ракурсу [760; 91, с. 18; 107, с. 292; 554; 702, с. 14; 708, с. 115]. Засяроджанне ўвагі на дробных (але не дробязных) дэталях дае магчымасць выхаду на шырокія абагульненні і лепшае разуменне фундаментальных уласцівасцей грамадства [244, с. 205]. Адно з ключавых тэарэтыка-метадалагічных пытанняў мікрагістарычнага падыходу звязана з пераходам з мікра- на макраўзровень сацыяльнай рэчаіснасці. Гэта вырашэнне праблемы рэпрэзентатыўнасці даследуемага аб’екта. У мікрагістарычным даследаванні, з увагі на яго незвычайную працаёмкасць, немагчыма прытрымлівацца жорсткіх патрабаванняў рэпрэзентатыўнасці, характэрных, напрыклад, для сацыялагічнай навукі [702, с. 19]. Але ў многіх выпадках гэты падыход з’яўляецца адзіна магчымым для эфектыўнага даследавання. Напрыклад, у даследаваннях дэмаграфічных працэсаў толькі мікрааналіз на ўзроўні асобнага царкоўнага прыхода, вёскі ці нават сям’і дазваляе атрымаць важныя вынікі, якія даюць магчымасць мадэліраваць спецыфіку сацыяльных працэсаў на ўзроўні ўжо вялікіх супольнасцей людзей. Канкрэтны прыклад (выпадак) ці аб’ект даследавання можа быць выбраны для мікрагістарычнага аналізу як з прычыны яго тыповасці, так і незвычайнасці. На фоне незвычайнага ці анамальнага выразней акрэсліваецца тыповасць і нармальнасць, ці тое, што ў грамадстве прынята было лічыць такім. Архівы перанасычаны дакументамі, якія адлюстроўваюць канфліктныя сітуацыі. Калі ўспрымаць іх некрытычна, можна атрымаць дэфармаваную канструкцыю мінулага. Але канфлікты сведчаць пра сацыяльную напругу ў грамадстве, прысутную, але амаль незаўважную ў звычайных сітуацыях. Такім чынам, на прыкладзе нейкай выключнай падзеі ці асобнага ўнікальнага індывіда, можна выявіць супярэчнасці, праблемы і непаслядоўнасці сацыяльных і культурных сістэм [66, с. 59]. У дадзеным даследаванні камбініравана выкарыстоўваліся мікра- і макрападыходы з выкарыстаннем прынцыпу шырокага кантэкстуалізму [258, с. 54], калі матэрыялы мікрагістарычнага даследавання разглядаюцца ў агульнабеларускім кантэксце, а адначасова служаць для верыфікацыі гістарыяграфічных тэзаў і палажэнняў, вылучаных на ўзроўні макрааналізу [795, с. 354–370].

У якасці агульнай сацыяльнай тэорыі ў дадзеным даследаванні выкарыстоўвалася тэорыя мадэрнізацыі [762]. Пад мадэрнізацыяй

разумеўся комплекс узаемазвязаных працэсаў, у выніку развіцця якіх адбывалася трансфармацыя традыцыйных аграрных грамадстваў у індустрыяльныя [695, с. 105; 696, с. 147; 808, с. 170–171]. Галоўная ідэя тэорыі мадэрнізацыі палягае на тым, што эканамічнае і тэхналагічнае развіццё грамадства ў пераходны перыяд спараджае цэлы комплекс сацыяльных і культурных змен [206, с. 48], суправаджаецца ўрбанізацыяй, змяншэннем ролі рэлігіі і магіі ў жыцці людзей, рацыяналізацыяй іх мыслення і дзейнасці, дэмакратызацыяй палітычных сістэм і разбурэннем сацыяльных бар'ераў, узмацненнем індывідуалізму і цэлым шэрагам іншых змен. У сацыяльнай сферы жыцця грамадства праявамі мадэрнізацыі выступаюць наступныя: рост сацыяльнай мабільнасці, рэкрутаванне на розныя сацыяльныя ролі шляхам механізмаў дасягнення, а не аскрыпцыі (прыпісвання, прымацавання, як у каставым ці саслоўным грамадстве).

У сферы культуры мадэрнізацыя характарызуецца: дыферэнцыяцыяй галоўных элементаў культурных і каштоўнасных сістэм (рэлігіі, філасофіі, навукі); шырокім распаўсюджваннем пісьменнасці і свецкай адукацыі; стварэннем складанай інстытуцыялізаванай сістэмы падрыхтоўкі да выканання ў грамадстве спецыялізаваных роляў; распаўсюджаннем сродкаў масавай камунікацыі і іх узрастаючым пранікненнем у шырокія пласты насельніцтва; станаўленнем новай культуралагічнай парадыгмы, акцэнтуючай увагу на прагрэсе, удасканаленні, эфектыўнасці, поспеху, натуральным выяўленні чалавекам сваіх магчымасцей і пачуццяў; стаўкай на індывідуалізм як асобую каштоўнасць; верай у навуку і новыя тэхналогіі, узрастаннем вартасці асабістага поспеху індывіда [66, с. 170–171; 622, с. 9–11; 695, с. 105–121; 696, с. 146–168; 858, s. 52–62]. У кожным асобным грамадстве працэсы мадэрнізацыі маюць сваю спецыфіку, што абумоўлена традыцыйнымі духоўнымі каштоўнасцямі і менталітэтам насельніцтва. Велізарнае значэнне мае назапашаны культурны набытак, а таксама характар ужо сфарміраваных інстытутаў і сацыяльных эліт, ступень іх успрымальнасці да новага і здольнасць да падтрымання традыцыі [196, с. 105–115].

Працэсы мадэрнізацыі ва ўсім свеце прыводзілі да трансфармацыі традыцыйнай сялянскай культуры, істотнейшымі рысамі якой з'яўляюцца пэўная ступень самаізаляванасці і кансерватызм. Існаванне замкнёнага «свайго» свету, які запэўніваў пачуццё бяспекі і заспакойваў асноўныя патрэбы асобы, прызнавалася сялянамі вельмі важным і вартым абароны. Парушэнне традыцыйных прынцыпаў існавання гэтага свету азначала ў свядомасці селяніна дэзарганізацыю, разбурэнне існуючага парадку без магчымасці замены яго іншым [868, s. 8]. Для абароны гэтага «свайго» свету трады-

цыйная сялянская культура выпрацавала спецыфічныя абарончыя механізмы. Адным з такіх механізмаў стала верыфікацыя ўсіх з'яў, фактаў і інфармацый, што даходзілі да традыцыйнай вёскі, з пункту гледжання сістэмы каштоўнасцей і спосабаў апісання свету, пануючых у гэтай лакальнай супольнасці, адмаўлення і адкідання ўсяго, што гэтым каштоўнасцям і спосабам супярэчыла [874, s. 138–139]. Менавіта дзейнасць азначанага механізму абумоўлівала моцны кансерватызм сялянскага грамадства і незвычайную жывучасць элементаў традыцыйнай культуры.

Кожнае традыцыйнае сялянскае грамадства мае сакралізаваны характар. Сакральнасць дамінуе нават у эканоміцы, задачай якой з'яўляецца запэўніванне вясковым супольнасцям самадастатковасці і стрымліванне свабоднага развіцця грашовых адносін [868, s. 19–20]. Паводле палажэнняў тэорыі мадэрнізацыі, у выніку пашырэння кантактаў сялян са знешнім невясковым светам традыцыйная культура пачынала паволі разбурацца, а вясковая супольнасць адчуваць праявы сацыяльнай дэзарганізацыі. У вясковым грамадстве распачыналася барацьба за захаванне ранейшай сацыяльнай сістэмы, але адначасова назіраліся праявы класавага рэвалюцыянізму і рэлігійнага радыкалізму. У выніку старыя каштоўнасці і нормы паволі замяняліся новымі [876, s. 13]. Такім чынам, менавіта пашырэнне кантактаў вясковай грамады са знешнім светам у вялікай ступені прыводзіла да паступовага раскладання традыцыйных каштоўнасцей сялянскіх супольнасцей і замены іх новымі, адпаведнымі ўжо індустрыяльнаму грамадству. Паводле палажэнняў тэорыі мадэрнізацыі, падобная мадэль змен у вясковым свеце назіралася з пэўнай спецыфікай амаль ва ўсіх сялянскіх грамадствах у пераходны перыяд ад феадальнай традыцыі да індустрыяльнага грамадства.

Галоўным героем гісторыі вёскі выступае селянін, хаця, апроч яго, у вясковым жыцці актыўна ўдзельнічалі і прадстаўнікі іншых сацыяльных груп – шляхта, духавенства, гандляры, рамеснікі. Сяляне вылучаюцца асобным стылем і ладам жыцця, якія маюць падобныя характэрныя рысы ва ўсіх рэгіёнах свету і ва ўсіх культурах, нягледзячы на рэлігійныя і цывілізацыйныя адрозненні [709]. Гэтыя рысы наступныя: сакральнае стаўленне да гаспадаркі; сям'я як асноўная сацыяльная група; скіраванасць дзейнасці на выжыванне; практыцызм і рацыянальнасць, якія спалучаюцца з рэлігійнасцю [871, s. 133–149]. Галоўным жыццёвым прынцыпам селяніна з'яўляецца перакананне ў вырашальным значэнні працы – штодзённага фізічнага высілку [871, s. 137]. Фізічная праца на ўласнай зямлі з'яўляецца галоўным фактарам прэстыжу для мужчыны. Адмова ад земляробства азначала для селяніна выключэнне з асяродка

сапраўдных мужчын і страту права ўдзелу ў галоўных рытуалах вясковай супольнасці [871, s. 138]. У гэтым часта хавалася прычына нежадання сялян займацца рамёствамі і гандлем, нават больш прыбытковымі ў параўнанні з традыцыйным земляробствам.

Сялянства амаль заўсёды з'яўляецца падпарадкаванай сацыяльнай групай, якую імкнуцца эксплуатаваць дамінуючыя эліты. Але сяляне супраціўляюцца гэтай эксплуатацыі. Прычым выкарыстоўваюць не адкрыты бунт (амаль заўсёды асуджаны на паражэнне), а пасіўныя, прыхаваныя стратэгіі супраціўлення, якія могуць быць даволі эфектыўнымі. І гэтае супраціўленне ў самых розных формах неабходна ўлічваць даследчыку пры аналізе функцыянавання сялянскага грамадства [562].

Сямейная гаспадарка выступае галоўнай адзінкай шматмернай сацыяльнай арганізацыі вясковага грамадства. Лакальная вясковая грамада таксама з'яўляецца абавязковай умовай для яго існавання. У грамадзе сяляне дасягаюць той самадастатковасці, якой немагчыма дасягнуць у сямейнай дворагаспадарцы. Вясковыя сялянскія супольнасці вызначаюцца цеснымі асабістымі кантактамі, адсутнасцю ананімнасці, высокім узроўнем гамагеннасці і тэндэнцыяй да эндагамнасці [806, с. 175]. У цэлым для сялянства характэрны нізкі (у параўнанні з іншымі сегментамі грамадства) узровень унутранай інстытуцыянальнай дыферэнцыяцыі. Але развіццё працэсаў індустрыялізацыі і ўрбанізацыі, рынкавай эканомікі і сродкаў масавай інфармацыі прыводзіла да паступовай дэінтэграцыі сялянскага грамадства, як спецыфічнай сацыяльнай структуры, і ўключэння сялян у новыя надлакальныя сеткі сацыяльных узаемадзеянняў [806, с. 179].

Тэорыя мадэрнізацыі і канцэпцыя сялянства як асобнага тыпу сацыяльнай арганізацыі ўяўляюць, на нашу думку, канцэптуальныя рамкі, прыдатныя для асэнсавання і навуковага асвятлення працэсаў пераходу традыцыйнай беларускай вёскі ў грамадства новага тыпу. База крыніц па дадзенай праблеме настолькі вялікая, што адным з ключавых пытанняў даследавання з'яўляецца пабудова сістэмы выбаркі. Выкарыстанне мікрагістарычнага падыходу стала шляхам вырашэння гэтага пытання. У цэлым жа можна сцвердзіць, што выкарыстаная ў дадзеным даследаванні база крыніц, а таксама метадалагічны інструментарый дазволілі, на думку аўтара, адэкватна апісаць даследуемую гістарычную рэальнасць і вырашыць пастаўленую мэту і даследчыя задачы.

# Глава 2
# МАЁМАСНАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ СЯЛЯНСТВА: САЦЫЯЛЬНА-КУЛЬТУРНЫЯ АСПЕКТЫ

## 2.1. Дыферэнцыяцыя сялянскага надзельнага землеўладання

Маёмасная дыферэнцыяцыя сялянскіх гаспадарак лічылася ў беларускай савецкай гістарыяграфіі ключавым, сутнасным працэсам сацыяльна-эканамічнага развіцця сялянства ў перыяд капіталізму, які непазбежна прыводзіў да фарміравання двух новых антаганістычных класаў – вясковай буржуазіі і беззямельнага пралетарыяту. У якасці галоўных крытэрыяў для вызначэння паказчыка маёмаснай дыферэнцыяцыі паслярэформеннай вёскі даследчыкі выкарыстоўвалі велічыню зямельнага надзелу і забяспечанасць сялянскай гаспадаркі працоўнай жывёлай. У беларускай гістарыяграфіі ўстанавіліся наступныя колькасныя параметры для вызначэння сацыяльна-маёмаснай структуры сялянскага насельніцтва: надзелы велічынёй да 15 дзес. – беднякі, 15–20 дзес. – серадпякі, звыш 20 дзес. – заможныя сяляне ці «кулакі». Галоўнай крыніцай менавіта такога падзелу паслужылі працы У. І. Леніна адносна расійскага сялянства [23, с. 134]. Таксама беларускія аўтары спасылаліся на меркаванні некаторых членаў нарадаў па патрэбах сельскагаспадарчай прамысловасці з пачатку XX ст., якія лічылі, што зямельны надзел меншы за 15 дзес. не можа забяспечыць нармальнае функцыянаванне сялянскай гаспадаркі ва ўмовах Беларусі [96, с. 156]. Да бядняцкіх таксама адносілі бясконныя і аднаконныя сялянскія гаспадаркі, а да кулацкіх тыя, у якіх мелася тры і больш коней. Колькасныя даныя адносна сацыяльна-маёмаснай структуры вёскі і яе дынамікі выводзіліся найперш на падставе ўліку гэтых двух параметраў.

Адным з галоўных тэарэтычных палажэнняў, якое падзялялі ўсе беларускія гісторыкі-аграрыі марксісцкай арыентацыі, выступаў тэзіс,

што на працягу паслярэформеннага перыяду колькасць бядняцкіх і заможных сялянскіх (кулацкіх) двароў узрастала, а колькасць серадняцкіх змяншалася. Для пацвярджэння гэтага тэзісу актыўна выкарыстоўваліся статыстычныя даныя пазямельнай статыстыкі за 1877, 1887 і 1905 гг. Напрыклад, К. І. Шабуня падлічыў, што ў 1905 г. на сялянскія двары, у карыстанні якіх было да 10 дзес. надзельнай зямлі (63,1 % ад усіх двароў), прыходзілася толькі 43 % усёй надзельнай зямлі на беларускіх землях, а на двары, якія мелі больш за 15 дзес. (17,5 % ад агульнай колькасці) – 34,2 % надзельнай зямлі [804, с. 76]. В. П. Панюціч сцвярджаў, што «разложение белорусского крестьянства в пореформенный период отчетливо прослеживается уже при анализе распределения всей надельной земли по группам крестьян» [676, с. 318]. Гэты аўтар падлічыў, што дварам з плошчай надзельнай зямлі да 15 дзес. (61,9 % ад агульнай колькасці) належала 49,3 % усёй надзельнай зямлі (11,6 дзес. на двор), а дварам з плошчай болей за 20 дзес. надзельнай зямлі (10,5 %) – 19 % (26,6 % на двор). Аднак даследчыкі дапускалі істотны пралік у ацэнцы дакладнасці азначаных статыстычных крыніц. У матэрыялах 1877 г. былі сабраны даныя пра колькасць сялянскіх двароў і іх надзеленасць зямлёй у адпаведнасці з устаўнымі граматамі адносна прыватнаўласніцкіх вёсак і люстрацыйнымі актамі адносна былых дзяржаўных сялян. Гэтыя даныя адлюстроўвалі надзеленасць беларускіх сялян зямлёй у выніку рэалізацыі рэформаў 1860-х гадоў. Яны абсалютна не ўлічвалі дыферэнцыяцыі зямельнага карыстання ўнутры асобных сялянскіх грамад (абшчын). Адрозненні ў памерах зямельных надзелаў паміж грамадамі таксама не абавязкова сведчылі аб іх маёмаснай дыферэнцыяцыі. Тое, што адна сялянская грамада атрымала надзелы па 40 дзес., а другая – па 5 дзес., яшчэ не значыла, што гаспадары першай былі больш заможнымі, чым гаспадары другой [763], хаця карэляцыя паміж заможнасцю і велічынёй надзелу ў цэлым безумоўна прысутнічала. У лясістых мясцовасцях з дрэннай якасцю глебы сяляне, асабліва казённыя, звычайна надзяляліся вялікімі зямельнымі ўчасткамі. Напрыклад, М. Доўнар-Запольскі пісаў пра паўднёвую частку Рэчыцкага павета Мінскай губерні: «<...> очень много семей владеют целыми наделами, а почти все полунаделами. Надел же здесь простирается до 30 десятин и <…> в некоторых селениях до 40» [170, с. 145]. Аднак нізкая якасць зямлі ў лясных рэгіёнах істотна зніжала вартасць такіх надзелаў, большая частка плошчы якіх сялянамі нават не абраблялася, альбо абраблялася з дапамогай архаічнага пералогу.

Але ў цэлым вартасць сялянскіх надзелаў з'яўлялася больш-менш аднолькавай і адпавядала агульнапрынятым уяўленням пра «нармальную» сялянскую гаспадарку, якія склаліся ў папярэднія

часы. Самі сяляне, калі гаварылі пра велічыню свайго надзелу, звычайна ўжывалі тэрмін «участак», а не дзесяціны, валокі ці моргі. Пра гэта, напрыклад, пісаў дзяржаўны чыноўнік у статыстычным аглядзе Гродзенскай губерні за 1911 г.: «Размеры надельного землевладения в Гродненской губернии учитываются не по площади, а по отношениям его к люстрационному (надельному) участку; как при раскладе земельных повинностей, наследовании, купле-продаже, так наконец, и для решения судов, мерилом служит люстрационный участок; все сводится к тому, какая часть этого участка принадлежит тому или другому домохозяину, какую долю получает каждый из наследников, какая часть участка продана или какую часть владения суд присудит по иску <...> на вопрос сколько у кого земли быстро ответят, напр. $^{3}/_{8}$, $^{2}/_{9}$, $^{5}/_{12}$ участка, а сколько это будет десятин, многие не смогут сказать, да и не знают» [601, с. 117].

Таксама і ў статыстыцы землеўладання за 1905 г. не ўлічвалася дыферэнцыраванасць зямельных участкаў унутры грамад. Акрамя таго, даследчыкі не звярталі ўвагі на адзін вельмі істотны момант. Колькасць сялянскіх двароў, пададзеных у статыстыцы 1905 г., далёка не адпавядала рэчаіснасці. Найперш гэта датычыла Віленскай і Гродзенскай губерняў, адносна якіх былі пададзеныя лічбы, якія амаль не адрозніваліся ад даных 1877 г. Таму, паводле статыстыкі 1905 г., атрымліваецца, што колькасць двароў у Гродзенскай губерні вырасла за гэты час усяго на 8 %, у той час, як у Мінскай губерні – болей чым у два разы. Між тым, у «Памятнай кніжцы» Гродзенскай губерні на 1896 г. прыведзена статыстыка падзелаў сялянскіх надзельных зямель у паслярэформенны перыяд, і там лічба 91 692 двары (даныя статыстыкі 1905 г.) фігуруе адносна колькасці ўчасткаў, надзеленых сялянам у часе рэформаў 1860-х гадоў. Інакш кажучы, гэтая лічба была ўдакладненнем першапачатковай лічбы 84 881 двор, якая была пададзена ў матэрыялах 1877 г. Гэта добра бачна пры параўнанні даных 1905 г. з лічбамі конскага перапісу 1906 г., дзе таксама прыводзілася колькасць сялянскіх двароў (табліца 2.1).

За адрэзак часу менш за 16 год пасля рэформы 1861 г. сялянскае насельніцтва беларускіх губерняў вырасла болей чым на 30 % (табліца 2.2). Прычым аўтары статыстычнага даследавання 1877 г. заўважылі карэляцыю паміж прыростам насельніцтва і велічынёй сялянскага надзелу. Напрыклад, па Літоўскай вобласці (у яе склад аўтары ўключылі Віленскую, Гродзенскую, Ковенскую і Мінскую губерні) насельніцтва ў тых грамадах, дзе прыходзілася болей за 6 дзес. зямлі на адну рэвізскую душу, вырасла за гэты перыяд на 38,3 %, а ў тых грамадах, дзе было меней за 1 дзес. на душу – толькі на 14,1 % [739, с. XL].

Табліца 2.1 – **Колькасць сялянскіх двароў у беларускіх губернях паводле статыстыкі сялянскага землеўладання за 1877 і 1905 гг. і даных ваенна-конскіх перапісаў за 1888, 1990, 1906 і 1912 гг.** [77–81; 739; 734–738]

| Губерня | 1877 г. | 1888 г. | 1900 г. | 1905 г. | 1906 г. | 1912 г. | 1912 г. адносна 1877 г., % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Віленская | 82 616 | 120 209 | 141 108 | 94 420 | 157 347 | 174 880 | 211,7 |
| Віцебская | 93 717 | 127 851 | 148 352 | 138 566 | 153 175 | 166 523 | 177,7 |
| Гродзенская | 84 881 | 131 629 | 158 225 | 91 692 | 169 513 | 183 956 | 216,7 |
| Магілёўская | 126 116 | 157 271 | 184 764 | 198 922 | 200 292 | 204 824 | 162,4 |
| Мінская | 105 968 | 162 576 | 206 822 | 213 924 | 223 322 | 246 002 | 232,1 |
| Разам | 493 298 | 699 536 | 839 271 | 737 524 | 903 649 | 976 185 | 197,9 |

Табліца 2.2 – **Мужчынскае сялянскае насельніцтва беларускіх губерняў паводле статыстычных даных за 1858 і 1877 гг.** [739]

| Губерня | Катэгорыі сялян | Мужчынскіх душ паводле рэвізіі 1858 г. | Наяўных мужчынскіх душ на 1877 г. | 1877 г. адносна 1858 г., % |
|---|---|---|---|---|
| Віленская | Прыватнаўласніцкія | 193 059 | 261 794 | 135,6 |
| | Дзяржаўныя | 101 675 | 139 732 | 137,4 |
| | Разам | 294 734 | 401 526 | 136,2 |
| Віцебская | Прыватнаўласніцкія | 211 363 | 286 050 | 135,3 |
| | Дзяржаўныя | 72 878 | 99 025 | 135,9 |
| | Разам | 284 241 | 385 075 | 135,5 |
| Гродзенская | Прыватнаўласніцкія | 178 271 | 239 585 | 134,4 |
| | Дзяржаўныя | 114 480 | 149 496 | 130,6 |
| | Разам | 292 751 | 389 081 | 132,9 |
| Магілёўская | Прыватнаўласніцкія | 264 441 | 353 242 | 133,6 |
| | Дзяржаўныя | 41 842 | 49 709 | 118,8 |
| | Разам | 306 283 | 402 951 | 131,6 |
| Мінская | Прыватнаўласніцкія | 286 054 | 388 236 | 135,7 |
| | Дзяржаўныя | 53 754 | 72 260 | 134,4 |
| | Разам | 339 808 | 460 496 | 135,5 |
| Разам | Прыватнаўласніцкія | 1 133 188 | 1 528 907 | 134,9 |
| | Дзяржаўныя | 384 629 | 510 222 | 132,6 |
| | Разам | 1 517 817 | 2 039 129 | 134,3 |

Імклівы дэмаграфічны рост у беларускай вёсцы адбываўся на працягу ўсяго паслярэформеннага перыяду. Паводле падлікаў В. П. Панюціча, з 1858 па 1897 гг. колькасць сялянскага насельніцтва на тэрыторыі сучаснай Беларусі вырасла болей чым у два разы (на 108,1 %) і дасягнула лічбы 4962,5 тыс., што складала 76,4 % ад агульнай колькасці насельніцтва (у 1858 г. – 72,1 %) [96, с. 133]. Гэты бурны дэмаграфічны рост спарадзіў такую балючую праблему ў гаспадарчым і сацыяльным развіцці паслярэформеннай беларускай вёскі, як падзелы сямейных гаспадарак. Усе крытэрыі маёмаснай дыферэнцыяцыі, якія грунтуюцца на пэўных колькасных параметрах сялянскай дворагаспадаркі, не ўлічваюць дынамікі азначанага працэсу. Заможная на сённяшні дзень, паводле гэтых паказчыкаў, сялянская гаспадарка пасля падзелу паміж сынамі гаспадара ў адзін момант магла ператварыцца ў дзве-тры сярэднія, а то і бедныя.

Напрыклад, у Бабруйскім павеце Мінскай губерні з 1874 па 1884 гг. колькасць сялянскіх гаспадарак вырасла з 11 596 да 14 052 (на 21,2 %), а непадзеленымі з часу рэформы тут заставаліся 5133 гаспадаркі (36,5 % ад лічбы 1884 г.) [312]. У чатырох валасцях Рэчыцкага павета (Брагінскай, Мікуліцкай, Савіцкай і Ручаеўскай) колькасць гаспадарак з часу рэформы вырасла з 2575 да 3650 (на 41,7 %). Непадзеленымі заставаліся тут 1663 гаспадаркі (64,6 % ад першапачатковай колькасці і 45,6 % ад лічбы 1884 г.) [312].

Паводле статыстыкі Гродзенскай губерні, на пачатак 1895 г. у выніку рэалізацыі аграрных рэформаў 1860-х гадоў было надзелена прыватнаўласніцкім і дзяржаўным сялянам 93 114 зямельных участкаў. У 1895 г., паводле даных, сабраных губернскім статыстычным камітэтам, з іх ліку на дзве часткі падзяліўся 28 742 участкі (30,9 %), на тры – 12 051 (12,9 %), на чатыры – 4430 (4,8 %), на пяць – 838 (0,9 %), на шэсць – 659 (0,7 %), на сем – 80 (0,1 %), на восем – 255 (0,3 %). Непадзеленымі засталіся 46 059 участкаў (49,5 %). Колькасць мужчынскіх душ вырасла ў 1,7 раза – з 291 788 да 486 196 [657]. Такім чынам, паводле азначаных даных, у Гродзенскай губерні на 1895 г. налічвалася 168 160 сялянскіх двароў, ці іх колькасць павялічылася ў 1,8 раза. Прычым дынаміка падзелаў была больш інтэнсіўнай на паўднёвым усходзе губерні (Палессе). Менавіта там і сялянскі рух набываў найбольш радыкальныя формы (табліца 2.3).

У Мінскай губерні, паводле статыстычных даных падатковай інспекцыі на 1897 г., з ліку 104 879 надзельных участкаў, нададзеных сялянам у часе рэформаў, падзяліліся самавольна 45 851, з дазволу сельскіх сходаў – 140, паводле пастаноў валасных судоў – 5363, губернскай прысутнасці – 15 [719, с. 217]. Непадзеленымі засталіся 52 510 двароў (50 %). Можна падлічыць, што ў выніку гэтых сямей-

Табліца 2.3 – **Драбленне надзельных сялянскіх участкаў у Гродзенскай губерні на 1895 г., % паводле паветаў**
[452, арк. 1–4 адв.; 657, с. 64]

| Павет | Колькасць надзельных участкаў паводле рэформы 1860-х гг. | Падзяліліся на | | | | Засталіся непадзеленымі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | дзве часткі | тры часткі | чатыры часткі | пяць і болей частак | |
| Гродна | 100 | 33,1 | 13,2 | 4,6 | 1,9 | 47,3 |
| Беласток | 100 | 28,8 | 7,8 | 1,7 | 0,3 | 61,5 |
| Бельск | 100 | 25,7 | 7,5 | 2,5 | 0,5 | 63,8 |
| Брэст | 100 | 35,6 | 15,2 | 5,8 | 2,6 | 40,8 |
| Ваўкавыск | 100 | 24,9 | 12,1 | 4,1 | 1,6 | 57,3 |
| Кобрын | 100 | 35,4 | 17,6 | 6,8 | 4,2 | 36,0 |
| Пружаны | 100 | 35,9 | 15,1 | 7,3 | 2,4 | 39,3 |
| Саколка | 100 | 27,6 | 8,2 | 2,4 | 0,5 | 61,2 |
| Слонім | 100 | 31,3 | 16,7 | 6,4 | 2,9 | 42,6 |
| Разам | 100 | 30,9 | 12,9 | 4,8 | 2,0 | 49,5 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

ных падзелаў у Мінскай губерні ў 1897 г. як мінімум (калі дапусціць, што двары дзяліліся толькі на дзве часткі) было 155 228 двароў (148 % ад першапачатковай колькасці).

Віцебская губернская нарада па справах заканадаўства аб сялянах прыйшла да такой высновы: «Семейные разделы в крестьянском быту представляют собой такое зло, с которым надо бороться самыми решительными мерами, почему вопрос о наибольшем стеснении и ограничении семейных разделов является вопросом чрезвычайной важности» [719, с. 201]. Прадстаўнікі Віленскай нарады прытрымліваліся больш талерантнай пазіцыі ў гэтым пытанні. Яны прызнавалі, што сямейныя падзелы паўсюдна пашыраны сярод сялян губерні і «объясняются характерной особенностью населения, заключающейся в том, что каждый член семьи стремится быть самостоятельным хозяином». Але працэс драблення, на думку членаў нарады, прывёў да таго, што «многия крестьянские семьи остались почти при одних огородах»: «Дальнейшее дробление еще более вредно отразится на крестьянском благосостоянии; тем не менее, совершенно прекратить семейные разделы невозможно, в виду того, что таковые вытекают из народного характера» [719, с. 200].

Даныя размеркавання надзельнай сялянскай зямлі па Віцебскай губерні за 1905 г. можна параўнаць з данымі пагаспадарчага перапісу сялянскіх гаспадарак гэтай губерні за 1907 г. (табліца 2.4). Паводле перапісу было ўлічана 155 669 сялянскіх надзельных участкаў (112,3 % адносна лічбы 1905 г.). Памеры надзельных сялянскіх гаспадарак у 1907 г. размяркоўваліся наступным чынам: да 2,5 дзес. – 8,7 %, ад 2,5 да 5 дзес. – 27,3 %, ад 5 да 7,5 дзес. – 23 %, ад 7,5 да 10 дзес. – 18,9 %, ад 10 да 15 дзес. – 14,5 %, ад 15 да 20 дзес. – 4,5 %, больш 20 – 3,1 %. Параўнанне з данымі 1905 г. паказвае значна больш высокі працэнт гаспадарак велічынёй да 10 дзес. – 77,9 % адносна 50 % у 1905 г., і вельмі нізкі працэнт гаспадарак памерам болей за 20 дзес. – 3,1 % адносна 8,9 % у 1905 г. Гэтыя лічбы сведчаць, што ішоў дынамічны працэс драблення надзельных сялянскіх гаспадарак, які закранаў як малыя, так і вялікія надзельныя гаспадаркі.

Табліца 2.4 – **Дыферэнцыяцыя надзельных сялянскіх гаспадарак Віцебскай губерні паводле статыстычных даных за 1905 і 1907 гг. адносна велічыні надзелу** [737; 790, с. 24–25]

| Год | Групы гаспадарак паводле велічыні надзелу, дзес. (%) | | | | Агульная колькасць |
|---|---|---|---|---|---|
| | Да 10 | 10–14 | 15–19 | 20–50 | |
| 1905 | 69 391 (50,0) | 49 543 (35,8) | 7314 (5,2) | 12 318 (8,9) | 138 566 (100,0) |
| 1907 | 121 320 (77,9) | 22 528 (14,5) | 6970 (4,5) | 4 851 (3,1) | 155 669 (100,0) |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Дадзены тэзіс пацвярджаецца і матэрыяламі ваенна-конскіх перапісаў (табліца 2.5). У 1888 г. гаспадаркі з колькасцю коней 3 і болей складалі ў беларускіх губернях 19,5 % ад агульнай колькасці, а ў 1912 г. – 8,9 %.

Аўтары даследавання Віцебскай губерні сцвярджалі, што плошча пасеву адпавядала ў сярэднім 39 % усяго надзельнага ўчастка селяніна. Калі прыняць такі крытэрый (улічваючы ўсю прыблізнасць), дык атрымаецца, што бядняцкія гаспадаркі з зямельнымі надзеламі да 15 дзес. складалі 86 %, серадняцкія – 7,4 % і заможныя гаспадаркі – 6,6 %. Гаспадаркі, большыя за 50 дзес., складалі 0,34 % ад усіх гаспадарак, ці адна такая гаспадарка прыходзілася прыблізна на 293 сялянскія гаспадаркі.

Дынамічны працэс драблення сялянскіх гаспадарак працягваўся і на пачатку XX ст., паколькі захаваліся высокія паказчыкі дэмаграфічнага росту вясковага насельніцтва. Паводле падлікаў В. Насевіча,

Табліца 2.5 – **Дыферэнцыяцыя сялянскіх гаспадарак адносна колькасці коней у беларускіх губернях паводле матэрыялаў ваенна-конскіх перапісаў за 1888 і 1912 гг., %** [77–81]

| Губерня | Групы гаспадарак паводле колькасці коней | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1888 г. | | | | | | 1912 г. | | | | | |
| | 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 і болей | 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 і болей |
| Віленская | 11,3 | 53,6 | 23,9 | 7,8 | 2,3 | 1,1 | 25,3 | 61,5 | 10,3 | 2,3 | 0,5 | 0,2 |
| Віцебская | 10,2 | 42,4 | 29,3 | 12,4 | 4,0 | 1,7 | 20,3 | 54,7 | 19,9 | 4,0 | 0,9 | 0,3 |
| Гродзенская | 30,1 | 41,4 | 19,4 | 5,4 | 1,1 | 2,6 | 22,2 | 54,6 | 17,1 | 4,5 | 1,2 | 0,4 |
| Магілёўская | 8,8 | 20,1 | 27,3 | 20,5 | 11,8 | 11,5 | 12,8 | 34,8 | 31,1 | 13,6 | 5,1 | 2,6 |
| Мінская | 23,4 | 40,0 | 22,9 | 8,9 | 3,2 | 1,6 | 21,1 | 50,9 | 20,6 | 5,4 | 1,5 | 0,5 |
| Разам | 17,0 | 39,0 | 24,5 | 11,3 | 4,8 | 3,4 | 20,2 | 50,8 | 20,1 | 6,2 | 1,9 | 0,8 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

насельніцтва Беларусі з 1897 па 1913 гг. павялічылася ў 1,4 раза, або на 38 % [96, с. 369]. Натуральны прырост за 1900–1913 гг. складаў па Беларусі 16 ‰, быў больш высокім на ўсходзе – у Магілёўскай і Віцебскай губернях, і ніжэйшым на захадзе – 13,3 ‰ у Гродзенскай губерні [96, с. 370]. Сярэдняя плошча надзельнай зямлі ў разліку на адну сялянскую гаспадарку ў выніку няспыннага падзелу апошніх увесь час змяншалася. Падатковы інспектар Гродзенскага павета ў сваёй справаздачы за 1910 г. назваў драбленне сялянскіх гаспадарак галоўнай бядой мясцовай вёскі, паколькі многія вяскоўцы не маглі проста пракарміцца са сваіх маленькіх надзелаў, нягледзячы на «выдающуюся скромность жизненных потребностей» [542, арк. 47].

Для ўдакладнення мадэлі працэсаў сацыяльнай дыферэнцыяцыі аўтарам было праведзена мікрагістарычнае даследаванне падзелаў сялянскіх гаспадарак на матэрыяле Скідзельскай і Берштаўскай валасцей Гродзенскага павета. У Скідзельскай воласці ў выніку рэалізацыі рэформы 1861 г. і працы паверачнай камісіі ў 1864–1865 гг. сялянам былі нададзены 822 надзельныя зямельныя ўчасткі агульнай плошчай 11 780 дзес. [467, арк. 17]. У сярэднім на адзін участак прыходзілася каля 14 дзес. На пачатак 1915 г., паводле даных праўлення Скідзельскай воласці, з 822 надзельных участкаў, утвораных пасля рэформы 1861 г., на дзве часткі падзяліліся 302 (36,7 % ад першапачатковай колькасці), на 3 – 234 (28,5 %), на 4 – 97 (11,8 %), на пяць – 31 (3,8 %), на шэсць – 8 (1,0 %), на сем – 4 (0,5 %), на восем – 11 (1,3 %). Непадзеленымі засталіся толькі 135 участкаў (16,4 %), якія цяпер складалі толькі 6,7 % ад колькасці ўсіх участкаў

(2 013) [550]. Колькасць сялянскіх гаспадарак павялічылася з часоў рэформы больш за два з паловай разы, а на адзін двор у сярэднім прыходзілася 5,5 дзес. Такім чынам, напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Скідзельскай воласці былі падзеленыя паміж нашчадкамі пяць з шасці надзелаў зямлі, нададзеных сялянам у часе рэформы. Тэарэтычна кожны са 135 поўных участкаў (без уліку агародных), якія захаваліся непадзеленымі з 1860-х гадоў, прыкладна ў 8 разоў пераўзыходзіў (калі не ўлічваць розную велічыню зямельных надзелаў у розных вёсках) па плошчы 88, атрыманых з ліку падзеленых на 8 частак. Калі ж паглядзець на гэтую з'яву з дэмаграфічнага ракурсу, дык падзеленыя ўчасткі звычайна прадстаўлялі найбольш паспяховыя ў дэмаграфічным плане сем'і. Але за гэты поспех яны вымушаныя былі плаціць малазямеллем сваіх шматлікіх нашчадкаў.

У вялікай дзяржаўнай вёсцы Бершты ў выніку люстрацыі 1869–1870 гг. сялянам было надзелена 48 поўных, 28 палавінных і 3 агародных надзелы зямлі. Поўны надзел складаў тут каля 42 дзес. У 1895 г. з ліку 34 поўных зямельных надзелаў 20 падзяліліся на дзве часткі, 13 – на тры і 1 – на чатыры. З 28 палавінных надзелаў 8 падзяліліся на дзве часткі, 3 – на тры і 1 – на чатыры. Непадзеленымі засталіся 14 поўных надзелаў (41,2 %) і 16 палавінных (57,1 %). Колькасць двароў у гэтай вёсцы ў 1895 г. склала лічбу 142 (229 % адносна 1870 г.). Мужчынскае насельніцтва павялічылася ў два разы [464, арк. 59–68]. У 1913 г. з 235 гаспадароў Берштаўскай сельскай грамады ўсяго толькі 3 (8,8 % ад колькасці поўных гаспадарак 1870 г. і 1,3 % ад колькасці ўсіх гаспадарак вёскі ў 1913 г.) захавалі поўныя зямельныя надзелы, вызначаныя люстрацыяй 1870 г., палавінныя ўчасткі зямлі мелі 57 гаспадароў, трацякі – 39, чацвяртакі – 54, шастакі – 28, васьмерыкі – 27 і г. д. [507, арк. 61 адв.]. Паводле ж велічыні надзелаў у дзесяцінах маёмасная структура гэтай вёскі выглядала наступным чынам: да 15 дзес. – 59,9 %, ад 15 да 20 дзес. – 16,6 %, больш за 20 дзес. – 25,5 %. Колькасць агародных надзелаў (8) не змянілася з 1869 г., адносна ж колькасці беззямельных сялян інфармацыі ў справе не было. Прычым ніхто з гаспадароў гэтай вёскі, калі меркаваць на падставе даследаваных матэрыялаў, не павялічыў свой надзел за кошт аднавяскоўцаў. Такім чынам, колькасць зямельных надзелаў (без уліку агародных) у гэтай вёсцы вырасла ў 1913 г. у параўнанні з 1870 г. у 3,8 раза.

Падрабязныя даныя аб працэсе драблення надзельных гаспадарак захаваліся адносна Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні за 1907 г. У выніку рэформаў 1860-х гг. тут налічвалася 7365 сялянскіх надзельных участкаў памерамі ад 6 да 55 дзес., а таксама 713 – 3-дзесяцінных участкаў былых панскіх парабкаў [476, арк. 32–37]. У 1907 г. на гэтай зямлі налічвалася ўжо 17 920 сямейных гаспадарак.

Прычым толькі 2226 (12,4 %) гаспадароў мелі больш за ½ участка. Ім належала 27 % усёй надзельнай зямлі, хаця яны складалі толькі 15 % усяго сялянскага насельніцтва. На адну такую гаспадарку выходзіла ў сярэднім 16,2 дзес., а на душу мужчынскага полу – 4,5 дзес. Гаспадарак, меншых за ¹/₅ надзелу, налічвалася прыкладна столькі ж – 2335 (13 %). Ім належала 7986 дзес. зямлі (6 %). На адну сярэднюю гаспадарку гэтай групы выходзіла 3,4 дзес., а на душу мужчынскага полу – 1,4 дзес. У гэтых сем'ях налічвалася 10,6 % сялянскага насельніцтва павета (гл. дадатак 1).

У Кобрынскім павеце Гродзенскай губерні ў выніку рэформаў налічвалася 8797 надзельных участкаў плошчай ад 4 да 56 дзес. [476, арк. 23]. У 1907 г. непадзеленых участкаў было 1057 (12 % ад першапачатковай колькасці і 4,3 % ад колькасці 1907 г.), палавінных – 6572, меншых за палову першапачатковага ўчастка – 16 829. Паводле плошчы зямлі на адну мужчынскую душу структура сялянскіх гаспадарак у гэтым павеце выглядала наступным чынам: менш 1 дзес. – 17 %, 1–2 дзес. – 34,5 %, 2–3 дзес. – 21 %, 3–4 дзес. – 10 %, 4–5 дзес. – 7 %, больш за 5 дзес. – 10,5 %. Такім чынам, 51,5 % гаспадарак налічвалі менш за 2 дзес. зямлі на мужчынскую душу, што, як пісалі члены камісіі па землеўпарадкаванні, «вследствие крайнего разнообразия почвенных и хозяйственных условий отдельных местностей уезда надо признать ниже достаточного средняго земельного обеспечения семьи» [476, арк. 24 адв.]. Камісія прыйшла да высновы, што забеспячэнне зямлёй у памеры менш за 2 дзес. на мужчынскую душу належыць прызнаць «острым малоземельем» і рэкамендавала ў першую чаргу аказваць дапамогу такім гаспадаркам у набыцці зямлі. Разам з тым камісія сцвердзіла, што з прычыны значных адрозненняў у якасці глебы Кобрынскі павет патрэбна падзяліць на тры зоны, для якіх нормай на сялянскую гаспадарку будуць адпаведна 10, 15 і 25 дзес. зямлі [476, арк. 26]. Такім чынам, стасаванне аднолькавых крытэрыяў велічыні сялянскіх гаспадарак адносна ўсёй тэрыторыі Беларусі можа быць вельмі неадэкватным да рэальнай сітуацыі.

Вельмі падрабязныя даныя пра дынаміку падзелу сялянскіх гаспадарак у Слонімскім павеце Гродзенскай губерні падаў у сваёй аналітычнай запісцы міравы пасярэднік Уладзімір Штэйн. У гэтым павеце сялянам былі нададзены ў часе рэформаў 7382 зямельныя ўчасткі, у тым ліку 11 палутарных, 4778 поўных (64,7 %), 1038 палавінных (14,1 %), 213 – 3-дзесяцінных (2,9 %), 1042 агародных (14,1 %). У 1858 г. тут налічвалася 22 267 мужчынскіх рэвізскіх душ. На пачатак 1895 г. 2325 (31,5 %) гаспадарак падзяліліся на дзве часткі, 1179 (16,0 %) – на тры, 489 (6,6 %) – на чатыры, 74 – на пяць, 87 – на шэсць, 9 – на сем, 26 – на восем і болей частак. Непадзе-

ленымі засталіся 3193 першапачатковыя ўчасткі (43,3 %). У 1895 г. у Слонімскім павеце ўсяго налічвалася 14 201 сялянская гаспадарка і 38 610 мужчынскіх душ. У параўнанні з першымі паслярэформеннымі гадамі колькасць гаспадарак вырасла ў 1,9 раза, а колькасць сялянскіх душ у параўнанні з 1858 г. – у 1,7 раза [508, арк. 93 адв.].

Сяляне добра ўсведамлялі згубнасць працэсу драблення іх гаспадарак. Напрыклад, на пасяджэнні Дзісненскай павятовай камісіі па справах сельскагаспадарчай прамысловасці валасныя старшыні шасці валасцей, якія бралі ўдзел у яе працы ў якасці экспертаў, выказалі наступнае меркаванне: «<...> раздел крестьянских участков составляет крайнее зло, вследствие семейной неурядицы. Раздел этот можно было бы устранить, если последует в законодательном порядке обязательство для одного из членов крестьянской семьи сплатить остальным членам за их части участка, при помощи банка, если такой член не будет иметь других средств» [771, с. 98]. Але дзяржава на той час не магла пайсці на гэтыя выдаткі і адкрыць падобнае крэдытаванне сялянства.

Можна меркаваць, што працэс пераразмеркавання надзельнай зямлі паміж сялянамі ўнутры грамад і пераход бядняцкіх надзелаў у рукі кулакоў у цэлым мелі нязначныя маштабы. У Віцебскай і Магілёўскай губернях было пашырана абшчыннае землеўладанне, якое тэарэтычна прадугледжвала перыядычныя перадзелы зямлі паміж абшчыннікамі паводле колькасці мужчынскіх душ. Але на практыцы такія перадзелы праводзіліся там выключна рэдка [753, с. 52]. У апісанні Магілёўскай губерні за 1881 г. гаварылася: «Положением 19 февраля 1861 г. для крестьян Могилевской губернии установлено общинное владение, хотя такового в действительности никогда и до того не было, и теперь нет». Разам з тым з тэксту апісання вынікае, што перадзелы ўсё ж такі існавалі: «Это установление оказывает то дурное влияние, что дает крестьянам и возможность посредством не всегда безпристрастных сельского схода и волостного суда, отнимать друг у друга целые наделы. Это явление и семейные разделы (начало прямо противоложное общинному владению – переделу земель) вредно влияют в губернии на быт крестьян» [619, с. 21]. У «Памятнай кніжцы» Віцебскай губерні на 1889 г. таксама гаварылася «Здесь в Витебской губернии до сих пор не встречалось еще нам ни одной деревни, где бы крестьяне переделяли свои наделы после 1861 года, даже мысль о возможности таких переделов не входит в сознание крестьян и они везде пользуются подворно участками» [642, с. XXV].

Больш істотным фактарам пераразмеркавання надзельнай зямлі магло быць перасяленне сялян у Сібір і іншыя аддаленыя рэгіёны імперыі. Перасяленцы звычайна прадавалі свае зямельныя

ўчасткі, каб мець грашовыя сродкі на далёкую дарогу і ўладкаванне на новым месцы. Але прадавалі амаль выключна сваякам альбо аднавяскоўцам. Члены Аршанскага павятовага камітэта па справах сельскай гаспадаркі, напрыклад, заявілі, што «земли крестьян, переселившихся в Сибирь, достаются преимущественно более зажиточным крестьянам» [775, с. 110]. Даныя па гэтым пытанні ўтрымліваюцца ў справаздачах падатковага інспектара Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні. У 1911 г. у гэтым павеце перасяліліся 37 сялянскіх сямей, пасля якіх засталося 49 надзелаў зямлі. З ліку гэтых надзелаў 34,5 перайшлі да заможных сялян, 12,5 – да малазямельных, а 2 – да перасяленцаў. Паколькі сярэдні надзел складаў каля 4 дзес. зямлі, вызвалілася 211,5 дзес. Падатковы інспектар пісаў, што «земли эти перешли главным образом в руки зажиточных крестьян, бедняки же, если и приобрели землю, то покупка таковой тяжело отразится на их сельском хозяйстве, ибо большинство таких крестьян, не желая упускать сподручной земли, сделали долги, платя более 40 % на капитал» [385, арк. 96]. Але ў наступным 1912 г. з 30 пакінутых надзелаў, 6 дасталося шматзямельным сем'ям і 24 (120 дзес.) малазямельным, а ў 1913 г. усе 60,5 такіх надзелаў (241 дзес.) дасталіся малазямельным [385, арк. 85 адв.].

У цэлым працэс пераразмеркавання надзельнай зямлі паміж сялянамі не адыгрываў істотнай ролі ў сацыяльным развіцці паслярэформеннай беларускай вёскі. Напрыклад, падчас працы Мінскай губернскай нарады па перагляду заканадаўства аб сялянах запрошаны ў якасці эксперта старшыня валаснога суда Сазановіч сцвярджаў, што «в наделе покупка нового хозяйства бывает редко, а большей частью покупкой лишь делаются добавки к родовой земле» [292, арк. 21 адв.]. Ключавым працэсам з'яўлялася драбленне надзельных участкаў і сямей у выніку імклівага росту насельніцтва. Дэмаграфічны фактар адыгрываў вельмі істотную ролю ў маёмаснай дыферэнцыяцыі беларускага сялянства, паколькі надзельная зямля заставалася на працягу паслярэформеннага перыяду асновай яго матэрыяльнага дабрабыту.

Значны ўплыў на працэсы дыферэнцыяцыі надзельнай зямлі і сацыяльнае развіццё беларускай вёскі ўвогуле аказала сталыпінская аграрная рэформа, рэалізацыя якой распачалася ў 1906 г. Галоўнай мэтай рэформы на беларускіх землях стала ліквідацыя зямельнай цераспалосіцы і стварэнне хутарскіх і абрубных гаспадарак. Цераспалосіца выступала важнейшым фактарам, які стрымліваў пашырэнне на вёсцы перадавых спосабаў гаспадарання. Сялянскія надзелы звычайна былі падзелены на дзясяткі дробных, вузкіх і выцягнутых у даўжыню палосаў («рысак»), да таго ж нярэдка вельмі аддаленых

адзін ад другога. З новымі сямейнымі падзеламі гаспадарак сітуацыя з цераспалосіцай толькі пагаршалася. Акрамя таго, цераспалосіца і стымулявала падзелы. Міравы пасярэднік са Слонімскага павета Гродзенскай губерні Уладзімір Штэйн пісаў у 1902 г. пра гэта: «Сельское население скучено на сравнительно малом пространстве большими поселениями в деревнях, надельная же земля участковых владельцев, состоящая не менее как из 7–8 отдельных кусков в виде длинных полос, разбросанна в разных местах общей площади надела, что ставит каждого домохозяина в хозяйственном отношении в тесную зависимость от соседей и всей деревни. Очевидно, такой распорядок земель подворных участков не отвечает условиям и требованиям понятия хозяйственной единицы, как о чем то целом, и раздел таких участков совершается поэтому без колебания – не имеется препятствующих неудобств нарушить целое» [508, арк. 96 адв.]. В. С. Манасеін пісаў, што «расчитывать на улучшение материального положения крестьянского населения Гродненской губернии <…> в ближайшем будущем нет никаких оснований» [260, с. 85].

Невялікая частка гаспадароў, пераважна былых «стральцоў» ці палясоўшчыкаў, яшчэ з дарэформенных часоў жыла хутарамі-аднаселямі («асабнякамі»). І ў большасці яны былі заможнымі гаспадарамі, што даказвала перавагу хутарскіх гаспадарак. Напрыклад, у Гродзенскай губерні ў 1861 г. палата дзяржаўных маёмасцей перасяліла 12 сямей сялян вёскі Лоські Пескаўскай воласці Слонімскага павета на зямлю казённай фермы Галоўчыцы, надзяліўшы іх асобнымі хутарамі. Праз некаторы час аказалася, што гэтыя сяляне жывуць заможней, чым гаспадары суседніх вёсак. На пачатку XX ст. жыхары тых вёсак таксама пажадалі перасяліцца на хутары [508, арк. 62 адв.].

Сяляне ў большасці сваёй выдатна разумелі праблему цераспалосіцы. Члены віцебскага камітэта па праблемах сельскай гаспадаркі адзначалі ў 1903 г.: «<…> в настоящее время замечается сильное стремление крестьян Витебского уезда перейти из чрезполосного пользования своей надельной землей на участковое или фермерское. К такому переходу принуждают крестьян крайне невыгодныя стороны чрезполосья, а именно: растянутость и отдаленность «шнуров» <…> невозможность правильной технической обработки почвы, невозможность отдельному домохозяину завести более разнообразное земельное хозяйство на своем наделе, напр., ввести многопольную систему с травосеянием, невозможность поэтому содержать скот более производительно, чем это возможно при рутинном деревенском трехполье, невозможность введения других отраслей сельского хозяйства, как-то садоводства и пчеловодства в

более обширных размерах» [772, с. 152]. Хаця дакладчык камітэта Чарноцкі адначасова пісаў пра немагчымасць пераходу да хутарской гаспадаркі для большасці мясцовых сялян «уже по одному тому, что весьма многие из них владеют не более как 2–3 десятинами земли, на которых ведение хуторного хозяйства немыслимо, и что самый переход на хуторное хозяйство сопряжен с переносом и обновлением сельскохозяйственных и жилых строений, требующих значительных денежных затрат, а денег то у крестьян и нет» [772, с. 176].

Мінусамі ў пераходзе да фермерскай гаспадаркі з'яўляліся недахоп і дарагавізна пасьбішчаў, частая адсутнасць вадапою для жывёлы, неабходнасць ставіць агароджы на новых участках. Асабліва адчувальнымі былі гэтыя недахопы для ўладальнікаў маленькіх зямельных надзелаў. Удзельнікі віцебскага камітэта адзначылі той факт, што «фермы возникли только там, где крестьяне к надельной земле прикупили помещичью» [772, с. 179]. Дакладчык гэтага камітэта Баршчэўскі адзначыў, што «88 деревень из 116 Веляшковской волости уничтожили деревни и разделили надельную и прикупленную к нею землю на участки (самый малый – величиною в 6 десятин), перенесли на эти участки постройки и начали на них фермерское хозяйство <…> известен факт, что крестьяне покупают от Крестьянского банка землю с целью разбить ее и свою надельную землю на фермы» [772, с. 177]. Падчас працы Дзісненскай павятовай нарады па справах сельскай гаспадаркі валасныя старшыні, якія прымалі ў ёй удзел, заявілі, што цераспалоснае землекарыстанне можна зліквідаваць «образованием отдельных в одном обрубе крестьянских участков принудительным порядком, за что впоследствии были бы довольны и сами крестьяне» [771, с. 98].

У ходзе працы гэтых нарадаў выказваліся таксама сур'ёзныя аргументы супраць стварэнняў абрубоў і хутароў. Так, адзін з членаў Дзісненскай нарады сцвярджаў, што розная якасць глебы прывядзе да таго, што «один владелец имел бы самое хорошее поле или луг, а другой самое скверное», а старанныя гаспадары, якія гадамі добра ўгнойвалі палеткі, страцяць шматгадовы плён сваёй працы. Пры гэтым ён прыводзіў выказванне на гэтую тэму аднаго гаспадара: «Працы мае шкода, паночку» [771, с. 103]. Пра гэтую праблему пісаў у 1909 г. ваўкавыскі маршалак шляхты С. У. Ольдэнборгер: «<...> хозяева, потерявшие труд и деньги в обработку своих шнуров, сознавая все неудобство черезполосицы, тем не менее не могут согласиться на выдел земли к одним местам, так как им попадется чужая скверная земля» [477, арк. 51–51 адв.]. Часам супраць хутарызацыі выступалі заможныя гаспадары вёскі, якія мелі лепшыя дамы і гаспадарчыя забудовы і не жадалі іх пераносіць. Напрыклад, у 1907 г.

у вёсцы Сухаўляны Гродзенскага павета супраць пастановы сходу грамады аб пераходзе на хутары выступілі толькі тыя гаспадары, якія захавалі поўныя зямельныя надзелы [506, арк. 5–7]. Міравы пасярэднік Штэйн з Гродзенскай губерні таксама пісаў: «Часть домохозяев пользуется сравнительно большими наделами вследствие захватов и распашки части общественной пастбищной земли и будучи лично заинтересованными в сохранении этго преимущества тормозят все дело» (хутарызацыі. – *С. Т.*) [508, арк. 97 адв.].

Такім чынам, аргументы тых сялян, якія працівіліся хутарызацыі, з'яўляліся дастаткова важкімі. Цытаваны вышэй Ольдэнборгер пісаў пра антырэформенныя настроі сялян у студзені 1909 г.: «Ныне, до выделения в личную собственность их скот пасется вместе по всей свободной от посевов земле, считая таковую общей, после же выдела негде будет пасти скот, так как ни один из домохозяев не позволит пасти на своей земле» [476, арк. 51–51 адв.]. Пры цераспалосіцы колькасць жывёлы ў гаспадарцы не залежала непасрэдна ад велічыні зямельнага надзелу. А пасля яе скасавання сітуацыя кардынальна змянялася, і вясковая бедната магла пасвіць жывёлу толькі на сваіх маленькіх палетках. Існаваў і адваротны бок гэтай праблемы. Адзін з членаў віцебскага камітэта заявіў, што часам «имеющий один надел крестьянин, но с коммерческими способностями <…> держал 8 штук ялового скота, а крестьянин при двух наделах и большом семействе не мог сбиться и на две дойные коровы; ясно, что первый содержал скот на счет второго» [772, с. 152]. Часта стаўленне да праблемы хутарызацыі падзялялі вясковыя грамады, а прыхільнікі высялення на хутары нават станавіліся ахвярамі агрэсіі [365].

У Віцебскай губерні, дзе сяляне найбольш прыхільна ставіліся да хутарызацыі, у 1907 г. толькі ў трох паветах паказчык хутарскіх гаспадарак перавышаў 10 % ад агульнай колькасці. Напрыклад, у Віцебскім павеце хутарскіх гаспадарак было 12,6 %, а абрубных – 0,4 %. У іншых «беларускіх» паветах губерні сітуацыя выглядала яшчэ горш: у Гарадоцкім і Дрысенскім паветах налічвалася ўсяго па 0,4 % хутарскіх гаспадарак (абрубоў там зусім не было), у Лепельскім налічвалася 0,4 % абрубных гаспадарак, але не было хутароў, у Полацкім павеце налічвалася 2,1 % хутароў [790]. У астатніх беларускіх губернях сітуацыя была нашмат горшая.

Але ўсяго за некалькі гадоў адносны паказчык хутарскіх гаспадарак істотна вырас. Паводле перапісу хатняй жывёлы ў сялян Віцебскай губерні, за чэрвень 1915 г. тут налічвалася 167 184 гаспадары, якія валодалі зямлёй, а ў іх ліку было 39 356 хутаран (23,5 %) [697, с. 32]. У пяці беларускіх паветах (на тэрыторыі сучаснай Беларусі) гэты паказчык з'яўляўся трохі ніжэйшым – 19,4 %. Паводле асобных

паветаў ён выглядаў такім чынам: Віцебскі – 52 %, Гарадоцкі – 12,4 %, Дрысенскі – 15,6 %, Лепельскі – 14,2 %, Полацкі – 15,9 %.

У Віленскай губерні да адкрыцця дзейнасці камісій па землеўпарадкаванні налічвалася ўсяго 385 хутароў на надзельных землях (5 074,5 дзес. зямлі) і 150 хутароў на купленых землях (2 493,5 дзес.). Такім чынам, сярэдні хутар на надзельнай зямлі меў велічыню 13,2 дзес., а на купленай – 16,6 дзес. У 1905 г. у гэтай губерні налічвалася 2471 прыватнае валоданне велічынёй ад 10 да 50 дзес. Можна меркаваць, што толькі адно з 15 прыватных валоданняў такога тыпу мела форму хутара. На 1 студзеня 1909 г. у Віленскай губерні налічвалася ўжо 2095 хутароў на надзельных землях (21 714 дзес.) і 444 хутары на купленых землях (8 075,7 дзес.). Сярэдні хутар на надзельных землях меў велічыню 10,4 дзес., а на купленых землях – 18,2 дзес. Найбольш актыўна ішоў працэс хутарызацыі ў заходнім Троцкім павеце, населеным пераважна этнічнымі літоўцамі, у той час як ва ўсходнім Вілейскім павеце, паводле гэтых даных, хутароў не было зусім [74].

Плюсы хутарызацыі ў цэлым значна пераважвалі мінусы. Прадукцыйнасць і прыбытковасць сялянскай гаспадаркі пасля пераходу на хутар ці абруб магла нават падвоіцца. Ды і сітуацыя з цераспалосным землекарыстаннем станавілася ўсё болей драматычнай. Адзін з чыноўнікаў Гродзенскай губерні пісаў у статыстычным аглядзе за 1912 г.: «Чрезвычайное разнообразие почвенных условий вызвало невероятную разбросанность надельных участков, а неограниченное дробление последних как результат наследования, купли-продажи, и наконец судебных решений для большинства крестьян создали почти полную невозможность вести сносно какое либо хозяйство на земле» [602, с. 109]. У выніку, паводле падлікаў Л. П. Ліпінскага, за 1907–1916 гг. у пяці беларускіх губернях выйшлі на хутары 114 тыс. двароў (10 % ад агульнай іх колькасці), якім належала 18,7 % надзельнай сялянскай зямлі. Найбольш ахвотна, на думку гэтага аўтара, выходзілі з абшчыны і высяляліся на хутары заможныя сяляне, а таксама беднata, якая звычайна хутка прадавала сваю зямлю і пераходзіла ў разрад пралетарыяў. У Віцебскай губерні перасяліліся на хутары 23,3 % сялянскіх двароў, у Магілёўскай – 12,3 %, Віленскай – 7,2 %, Гродзенскай – 5,8 %, Мінскай – 4,6 % [251, с. 76]. Прычым працэс хутарызацыі паступова набіраў ход – ²/₃ выхадаў на хутары адбылося ў 1911–1914 гг. Нязначныя паказчыкі хутарызацыі ў Гродзенскай і Мінскай губернях Л. П. Ліпінскі тлумачыў высокай ступенню тут малазямелля сялян і вялікай канцэнтрацыяй латыфундзіяльнага памешчыцкага землеўладання.

Неабгрунтаваным уяўляецца сцверджанне, што ў выніку праводзення ўрадам палітыкі хутарызацыі рэзка паскорыўся продаж

бяднейшымі сялянамі сваіх зямельных надзелаў. Напрыклад, паводле даных статыстычнага камітэта Гродзенскай губерні за 1911 г. тут у 32 грамадах 172 гаспадары прадалі «по премуществу своим родственникам, в редких случаях односельчанам, и только в одном случае постороннему крестьянину» 658 дзес. зямлі, што складала толькі 0,76 % плошчы, падзеленай на абрубы і хутары. Дзяржаўныя чыноўнікі даследавалі прычыны продажу, у выніку чаго аказалася, што ў 45 выпадках (228 дзес.) прычынай выступала набыццё новай зямлі, у 42 (25 дзес.) – продаж прысядзібных участкаў з прычыны перасялення на калонію, у 32 (144 дзес.) – непражыванне ў грамадзе, у 17 (111 дзес.) выплатаў пазыкаў, у 14 (50 дзес.) – бяздзетнасць і беднасць, у 11 (38 дзес.) – перасяленне ў Сібір, у 3 (24 дзес.) – пазбяганне раздзелаў паміж сваякамі, у 2 (16 дзес.) – продаж за непатрэбнасцю. Чыноўнік падсумоўваў гэтыя лічбы такой высновай: «Население крепко держится за свою землю» [601, с. 121].

Таксама ў статыстычным аглядзе Магілёўскай губерні за 1912 г. адзначалася, што «продажи хуторских участков после разверстания отмечены в весьма незначительном размере, 2,5 % по губернии» [616, с. 99]. Да пачатку 1914 г. у Магілёўскай губерні былі ўтвораны 25 703 хутарскія сялянскія гаспадаркі ў 1498 вёсках [617, с. 81]. Галоўнай тэхнічнай цяжкасцю ў іх утварэнні, як адзначаў аўтар агляду, з'яўлялася «чрезполосность надельных и купленных земель». Тут жа ён сцвярджаў, што ўраджайнасць у хутарскіх гаспадарках вырастала на 30–50 %, а іх рынкавы кошт прыкладна ў тры разы перавышаў кошт цераспалоснай гаспадаркі такіх жа памераў [617, с. 99–100].

Паспяховаму функцыянаванню хутарскіх гаспадарак таксама, як і цераспалосных, па-ранейшаму пагражалі раздзелы паміж нашчадкамі: «К сожалению, в виду укоренившегося обычая дробить при наследовании между наследниками владения, за отсутствием средств на выплаты сонаследникам за причитающиеся им доли в наследстве и регулирующаго данный вопрос закона, как крестьяне, так и лица, по быту своему неотличающиеся от крестьян, помимо своего желания вынуждены распылять при наследовании владения» [616, с. 100]. Напрыклад, на 1912 г. у Магілёўскай губерні было зафіксавана 96 выпадкаў драблення хутарскіх гаспадарак. Сяляне добра разумелі згубнасць такой практыкі. Адзіным рацыянальным выйсцем была перадача ўсёй гаспадаркі аднаму з нашчадкаў і добрая адукацыя для іншых, каб яны маглі паспяхова ўладкавацца ў горадзе ці ў іншых сферах дзейнасці па-за бацькоўскай гаспадаркай. Натуральна, што гэта патрабавала вельмі значных грашовых сродкаў, а таксама стымулявала зніжэнне нараджальнасці ў сялянскай сям'і.

Аднак далёка не ўсе хутарскія гаспадаркі з'яўляліся эканамічна ўстойлівымі і здольнымі да развіцця. У ліпені 1908 г. Галоўнае ўпраўленне землеўладкавання і земляробства даручыла мясцовым уладам сабраць звесткі пра стан хутарскіх гаспадарак. У Магілёўскай губерні былі абследаваны 174 такія гаспадаркі, з якіх 161 была ўтворана яшчэ да сталыпінскай рэформы. З гэтай лічбы 118 былі прызнаны ўстойлівымі і 49 неўстойлівымі. На адну ўстойлівую гаспадарку ў сярэднім прыходзілася 19,3 дзес. зямлі, у тым ліку 9,8 дзес. ворыва, 6,4 едака і 3,6 работніка. На аднаго едака выпадала 1,3 дзес. ворыва, а на работніка – 2,3 дзес., прычым 63,6 % устойлівых гаспадарак адчувалі недахоп працоўных рук. Промысламі дадаткова займаліся толькі ў 19,5 % такіх гаспадарак. Сярод гаспадароў 55,9 % з'яўляліся пісьменнымі, а 62,3 % – «прадпрымальнымі» (гэтая характарыстыка давалася аўтарамі даследавання і лічылася найбольш важнай для заснавання падобных гаспадарак): «Грамотность и особенно предприимчивость играют большую роль в устойчивости хозяйства» [387, арк. 31 адв.]. Галоўным тэхналагічным новаўвядзеннем ва ўстойлівых гаспадарках было актыўнае пашырэнне травасеяння. Такім чынам, устойлівая гаспадарка ў сярэднім налічвала каля 20 дзес. зямлі, але гэта была недасягальная мара для большасці сялян.

На фоне прагрэсуючага малазямелля большай часткі сялянскага насельніцтва ў выніку імклівага дэмаграфічнага росту, адносна невялікая група гаспадарак захоўвала свае першапачатковыя надзелы, а часам іх павялічвала. Пра гэта сведчыць і аналіз статыстычных даных на лакальным узроўні адносна асобных рэгіёнаў [514; 515]. Можна сцвярджаць, што заможныя сяляне ўзбагачаліся не за кошт вясковай беднаты, хаця такія выпадкі, канешне ж, таксама здараліся. Асноўнай прычынай дыферэнцыяцыі надзельнага землекарыстання выступаў у паслярэформеннай вёсцы дэмаграфічны фактар. Напрыклад, у 1878 г. заможны селянін Гродзенскага павета Іван Абухоўскі судзіўся з-за зямлі са сваім сынам Мікалаем, таксама заможным гаспадаром. У тэксце скаргі на імя гродзенскага губернатара В. В. Валя ён пісаў, што з яго дзяцей ад першага шлюбу 14 памерлі, а вырас толькі адзін Мікалай, які і спрачаўся з бацькам. Калі б, напрыклад, усе дзеці Івана Абухоўскага выжылі, то замест дзвюх заможных гаспадарак хутчэй за ўсё існавала б мноства бедных і малазямельных [422, арк. 1–2].

Такім чынам, сталыпінская рэфома надала штуршок больш актыўнаму фарміраванню групы стабільных фермерскіх гаспадарак, якія маглі супрацьстаяць пагрозе раздраблення. У перспектыве гэта магло прывесці да кардынальных змен у сацыяльнай арганізацыі сялянскіх супольнасцей, паколькі хутарызацыя прыводзіла да знікнення цесна забудаванай вёскі як галоўнага тыпу сялянскага паселішча, рады-

кальна пераафармляла прасторавую арганізацыю вясковага соцыуму. Але большасць сялянскіх гаспадарак з прычыны малазямелля нават не мела шанцаў стаць паспяховай гаспадаркай фермерскага тыпу. Менавіта малазямелле, якое было вынікам дэмаграфічнага росту і драблення першапачатковых зямельных надзелаў, стварала галоўны выклік у развіцці паслярэформеннай беларускай вёскі.

## 2.2. Рост і дыферэнцыяцыя прыватнага сялянскага землеўладання

Рэформа 1861 г. адкрыла для сялян магчымасці набыцця зямлі, якая з'яўлялася адной з галоўных каштоўнасцей у сістэме жыццёвых каардынат беларускага вяскоўца, у прыватную ўласнасць. І ўжо ў першыя гады пасля рэформы некаторыя гаспадары скарысталі такую магчымасць. Праўда, такіх звычайна было ўсяго па некалькі асоб на воласць. А самыя прадпрымальныя і паспяховыя нават сталі сапраўднымі латыфундыстамі [763]. Захаваліся статыстычныя звесткі пра памеры прыватнай зямельнай уласнасці сялян Віцебскай губерні на 1876 г. [637]. Паводле афіцыйных даных тут налічвалася 3372 прыватныя землеўладальнікі, сярод якіх было 588 сялян (17,4 %). Аднак апошнім належалі ўсяго 32 937 дзес. (1,7 % ад агульнай плошчы прыватнага землеўладання) [637, с. 393, 407]. Ад агульнай колькасці надзельных сялянскіх гаспадарак сяляне-землеўладальнікі складалі толькі 0,6 %, альбо прыкладна адзін гаспадар са 170 змог на той час набыць у Віцебскай губерні зямлю ў прыватную ўласнасць.

Паводле памераў валодання сялян-землеўладальнікаў Віцебскай губерні можна падзяліць на наступныя групы: уладальнікі да 20 дзес. – 344 (2427,5 дзес.); ад 20 да 100 – 184 (7146,5 дзес.); ад 100 да 250 – 36 (5292 дзес.); ад 250 да 500 – 13 (4635,5 дзес.); ад 500 да 1000 – 5 (3813 дзес.); ад 1000 да 5000 – 5 (9112 дзес.) [637, с. 394]. Такім чынам, толькі 243 гаспадары (41 % ад лічбы прыватных землеўладальнікаў сялянскага паходжання) мелі валоданні, большыя за 20 дзес., якія ў савецкай гістарыяграфіі прынята было адносіць да кулацкіх. Яны складалі каля 0,25 % ад усіх сялян. Пяцёра сялян з гэтай групы прыватных землеўладальнікаў паспелі на той час стаць ужо сапраўднымі латыфундыстамі, уладальнікамі больш за тысячу дзесяцін зямлі.

У 1877 г. паводле дзяржаўнай статыстыкі землеўладання ў пяці беларускіх губернях налічвалася 13 395 прыватных землеўладальнікаў сялянскага паходжання, якім належала 264 999 дзес. зямлі., ці ў сярэднім 19,8 дзес. на аднаго ўладальніка (табліца 2.6). Адносна надзельных двароў яны яшчэ складалі ўсяго каля 3 %, ці прыкладна адзін з 30 гаспадароў змог на той час купіць зямлю. Валоданні

плошчай за 100 дзес., якія можна аднесці да памешчыцкага тыпу, набыў 301 селянін, ці 4 % ад колькасці ўсіх землеўладальнікаў сялянскага паходжання. Прыкладна адзін з 750 сялянскіх гаспадароў змог на той час стаць памешчыкам. Найбольшая колькасць сялян-землеўладальнікаў назіралася ў Магілёўскай губерні, а на другім месцы была Гродзенская губерня. Але паводле плошчы набытай зямлі, Гродзенская губерня знаходзілася на апошнім месцы.

Табліца 2.6 – **Прыватнае землеўладанне сялян беларускіх губерняў на 1877 г.** [739]

| Губерня | Індывідуальныя землеўладальнікі | | | Прыватныя валоданні сялянскіх грамад | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць | Плошча зямлі, дзес. | У сярэднім на ўладальніка, дзес. | Колькасць | Плошча зямлі, дзес. | У сярэднім на грамаду, дзес. |
| Віленская | 2069 | 49 575 | 24,0 | 4 | 30 | 7,5 |
| Віцебская | 1500 | 50 744 | 33,8 | 2 | 2022 | 1011 |
| Гродзенская | 3871 | 40 431 | 10,4 | 12 | 690 | 57,5 |
| Магілёўская | 4027 | 69 576 | 17,8 | 24 | 5628 | 234,5 |
| Мінская | 1928 | 54 673 | 28,4 | – | – | – |
| Разам | 13 395 | 264 999 | 19,8 | 42 | 8370 | 199,3 |

*Заўвага.* Падлікі аўтара.

Апроч таго, 8370 дзес. зямлі купілі 42 сялянскія грамады. Адносна плошчы надзельнае прыватнае сялянскае землеўладанне ў 1877 г. складала 3,8 %. Калі параўнаць статыстычныя даныя 1877 г. па Віцебскай губерні з данымі «Памятнай кніжкі» на 1878 г., дык атрымліваецца больш за двухразовае разыходжанне ў колькасці ўладальнікаў. Даныя «Памятнай кніжкі» можна, напэўна, лічыць больш дакладнымі, паколькі там быў прыведзены пайменны спіс сялян-землеўладальнікаў. Высвятленне прычыны гэтых разыходжанняў не ўваходзіла ў нашу задачу, але яны выразна сведчаць пра недакладнасць тагачаснай статыстыкі.

Паводле даных магілёўскага губернатара А. С. Дамбавецкага, з 1861 па 1881 гг. 1499 сялян гэтай губерні набылі ва ўласнасць 50 471 дзес. зямлі (тут зноў жа бачым вельмі істотнае разыходжанне з данымі афіцыйнай статыстыкі за 1877 г.), апроч таго яшчэ 38 вясковых грамад калектыўна набылі 14 484 дзес. [621, с. 261]. Прычым у даследаванні Дамбавецкага адзначалася, што з кожным годам працэс набыцця сялянамі зямлі паскараецца [621, с. 262]. Толькі на працягу 1882 г. 128 гаспадароў купілі 3199 дзес. і 12 грамад 6347 дзес., а

ў 1883 г. (да 1 верасня таго года) 199 гаспадароў – 4088 дзес. і адна грамада – 475 дзес. [621, с. 261]. Уладанні плошчай больш за 100 дзес. набылі 278 сялян (складалі 10,7 % ад колькасці ўсіх прыватных землеўладальнікаў гэтай катэгорыі) [621, с. 46–256]. Усяго сялянам належала на той час 2,2 % плошчы прыватнай зямлі ў Магілёўскай губерні.

Набыццё сялянамі прыватнай зямлі ва ўласнасць на беларускіх землях ускладнялася шэрагам фармальных перашкод, выкліканых палітычнай сітуацыяй пасля паўстання 1863 г. Патрэбна было атрымаць дазвол дзяржаўных улад [139]. Пакупнікі абавязваліся запаўняць анкеты, дзе ўказвалася іх сацыяльнае паходжанне. Мясцовая дзяржаўная адміністрацыя высвятляла, «если покупщик крестьянин, то не принадлежит ли к бывшей польской шляхте», а таксама, ці не паходзіць «из упорствующих в исполнении обрядов православной веры» [421]. Калі пакупнік быў каталіком паводле веравызнання, дык важную ролю адыгрывала мова, якую апошні выкарыстоўваў у хатнім побыце. Беларуская мова і «беларускае паходжанне» ў дадзеным выпадку давалі перавагу ў параўнанні з польскай мовай і паходжаннем [364].

Улады таксама спраўджвалі, ці ў стане пакупнік абрабляць набытую зямлю сіламі ўласнай сям'і [398]. Адносна праваслаўных сялян дзейнічала распараджэнне віленскага генерал-губернатара К. П. Каўфмана, што «они могут беспрепятственно покупать земли и при разрешении им совершать купчие крепости должно руководствоваться прежде бывшими примерами» [451, арк. 4]. Адносна ж каталікоў дзейнічала распараджэнне генерал-губернатара А. Л. Патапава ад 13 ліпеня 1868 г. [451, арк. 6]. Сялянам каталіцкага веравызнання было забаронена набываць больш за 60 дзес. зямлі (з улікам надзельнай). Лічылася, што ўладальнікі такіх участкаў становяцца ўжо практычна памешчыкамі, а рост колькасці такіх памешчыкаў, хаця і сялянскага паходжання, псаваў урадавую статыстыку адносна павелічэння «русскага» памешчыцкага землеўладання. Аднак на практыцы гэтая забарона вельмі часта абыходзілася.

Папяровая валакіта сур'ёзна ўскладняла працэс набыцця сялянамі зямлі. У 1903 г. у віленскай камісіі па праблемах сельскагаспадарчай вытворчасці гаварылася: «Покупка земли для значительного числа наших крестьян обставлена множеством формальностей <…> влечет за собою хлопоты и неизбежную волокиту и лишает крестьянина значительной части трудовых грошей, уменьшая его покупную способность» [771, с. 39]. Члены аршанскага камітэта звярталі ўвагу на тое, што большасць сялян набывае памешчыцкія землі «из вторых или третьих рук, за что платят чуть ли не вдвойне сравнительно с местными ценами и покупают на чужие деньги,

вследствие чего становятся несостоятельными должниками» [775, с. 110]. Яны таксама адзначалі, што ў большасці выпадкаў сяляне набывалі зямлю таварыствамі і валодалі ёю цераспалосна.

Аднак з кожным годам колькасць пакупнікоў зямлі сярод сялян узрастала. Далёка не ўсе з іх ліку былі багацеямі ці нават проста заможнымі гаспадарамі. Напрыклад, за 1879 г. у Гродзенскай губерні 266 сялян атрымалі ад губернатара дазволы на набыццё 3300 дзес. зямлі (у сярэднім па 12,4 дзес. на гаспадара) [394]. Часам набываліся даволі вялікія маёнткі. Напрыклад, Віктар Красоўскі купіў маёнтак Фаустынава плошчай 135 дзес. у памешчыка Урсын-Нямцэвіча, а Карл Рагазінскі набыў 109 дзес. у памешчыка Валанцэвіча ў Пружанскім павеце. Але некаторыя набывалі кавалачкі зямлі плошчай усяго па некалькі соцен квадратных сажняў. Часта сяляне аб'ядноўваліся ў шматлюдныя таварыствы. Паводле канфесійнай прыналежнасці сярод пакупнікоў было 128 каталікоў і 98 праваслаўных. Такім чынам, сяляне-каталікі (якія складалі меншасць сярод сялянства губерні) на той час больш актыўна набывалі на Гродзеншчыне зямлю ў прыватную ўласнасць. Некаторыя таварыствы пакупнікоў мелі змешаны ў канфесійных адносінах склад.

У 1884 г. гродзенскі губернатар А. М. Пацёмкін выдаў ужо 432 дазволы 701 селяніну на набыццё 6895 дзес. зямлі (у сярэднім 9,84 дзес. на гаспадара) [395]. У большасці выпадкаў прадаўцамі выступалі памешчыкі, сяляне складалі сярод іх менш за 10 % (усяго 41 дазвол). Антон Ляўданскі са Слонімскага павета купіў у памешчыка Франца Пуслоўскага 321 дзес., Сафія Шукайла з Ваўкавыскага павета – 312 дзес. у памешчыка Уладзіміра Булгарына [395, арк. 12 адв., 14 адв.], а 45 гаспадароў сумесна купілі маёнтак Задворцы памешчыка Крумбека ў Брэсцкім павеце. Але ўзрасла і колькасць вельмі дробных пакупнікоў.

Віцебскі губернатар В. М. Даўгарукаў за 1886 г. выдаў 296 пасведчанняў на набыццё зямлі 482 сялянам [585, с. 34]. А ў наступным 1887 г. 1234 селяніны гэтай губерні атрымалі 357 пасведчанняў (60,3 % ад агульнай колькасці такіх пасведчанняў) на набыццё 25 264 дзес. (13,8 % ад усёй прададзенай у губерні зямлі) [586, с. 81]. У сярэднім на аднаго гаспадара прыходзілася 19 дзес. Тут таксама колькасць пакупнікоў узрастала, але змяншаліся сярэднія памеры набытых участкаў. Паводле афіцыйнай статыстыкі за 1887 г. у беларускіх губернях усяго налічвалася 13 163 сялян-землеўладальнікаў (27,3 % да колькасці ўсіх прыватных землеўладальнікаў), якім належалі 544 702 дзес. зямлі, што складала ўсяго 4,6 % ад агульнай плошчы прыватнага землеўладання ў пяці губернях (11 850 842 дзес.) і 6,6 % плошчы сялянскіх надзельных зямель (табліца 2.7).

Табліца 2.7 – **Прыватнае сялянскае землеўладанне ў беларускіх губернях паводле статыстычных даных за 1887 г.** [97–102]

| Губерня | Колькасць уладальнікаў | % ад усіх прыватных земле-ўладальнікаў | Плошча, дзес. | Сярэдняя велічыня валодання, дзес. | % ад агульнай плошчы землеўладання | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | прыватн. | сялянск. |
| Віленская | 2456 | 25,8 | 113 923 | 46,4 | 6,8 | 8,0 |
| Віцебская | 1040 | 20,2 | 88 708 | 85,3 | 4,4 | 5,8 |
| Гродзенская | 4945 | 35,6 | 70 669 | 14,3 | 5,4 | 5,3 |
| Магілёўская | 2970 | 28,7 | 186 997 | 62,9 | 8,1 | 10,9 |
| Мінская | 1752 | 19,0 | 84 405 | 36,8 | 1,4 | 3,8 |
| Разам | 13 163 | 27,3 | 544 702 | 41,5 | 4,6 | 6,6 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

З 1885 г. дапамогу сялянам у набыцці зямлі пачаў аказваць утвораны тады Сялянскі банк. Дзякуючы гэтаму значна пашырылася кола пакупнікоў. З кожным годам іх колькасць і плошча набытай імі зямлі ўзрасталі. У Віцебскай губерні за два гады пасля адкрыцця банка з яго дапамогай набылі зямлю 155 гаспадароў, у сем'ях якіх налічвалася 668 душ [642, с. XXVI]. Яны купілі 1510 дзес. зямлі (у сярэднім па 13 дзес. на двор), а агульны кошт здзелак складаў 57 548,5 руб. (у сярэднім 371,5 руб. на пакупніка). Прычым 22 142 руб. унеслі самі сяляне, а банкам былі выдадзены пазыкі на суму 32 726 руб. на 34,5 года (пад 7,5 % гадавых) і на суму 2825 руб. на 24,5 гадоў (пад 8,5 % гадавых). З ліку пакупнікоў тры гаспадары былі беззямельнымі (яны выплацілі 1823 руб. і ўзялі пазыкі на 1500 руб., каб набыць 95 дзес.), 50 мелі надзельнай і купленай зямлі да 1,5 дзес. на душу (даплацілі 5614,5 руб. і ўзялі пазыкі 10 637 руб., набылі 448,5 дзес.), 28 – ад 1,5 да 3 дзес. на душу (даплацілі 8513,5 руб. і ўзялі пазыкі 9959 руб., купілі 424,5 дзес.), 74 – ад 3 да 6 дзес. (даплацілі 6101 руб. і ўзялі пазыкі 13 455 руб., купілі 542,5 дзес.) [642, с. XXX]. У сярэднім на адзін двор выходзіла 10 дзес. і 143 руб. даплаты, 230 руб. пазыкі, а на мужчынскую душу 2,4 дзес., 33 руб. даплаты і 53 руб. пазыкі.

Аўтар нарыса пра дзейнасць Сялянскага банка адзначыў: «Видно, что приобретается земля в весьма незначительном количестве на двор и на душу и служит лишь как бы дополнением к надельным землям» [642, с. XXX]. У пакупнікоў было 278 коней (1,8 на двор), 723 каровы (4,7 на двор), 963 авечкі (6,2 на двор) і 498 свіней

(3,2 на двор). Чыноўнік адзначаў, што «покупщики принадлежат к среднему по благосостоянию разряду» і «земли покупаются преимущественно смежными крестьянами, из чего можно заключить с полною вероятностью, что покупки эти вызываются единственною целью – улучшить свое благосостояние путем увеличения земельного владения» [642, с. XXXI]. Большасць прададзенай у губерні зямлі належала шляхце, купцам і мяшчанам, а сялянам – толькі каля 2 %. У нарысе пра дзейнасць банка так апісваўся характар сялянскіх зямельных здзелак: «<…> большинство приходится на одиночек. Факт этот может быть объясняем преимуществом индивидуальности или обособленности землевладения в сем крае и желании покупщиков выделить, отгородить себя от других во всех отношениях. Это довольно характерная черта не только Витебской губернии, но и всего Западного края России» [642, с. XXV].

З кожным годам колькасць кліентаў Сялянскага банка ўзрастала, як узрастала сярод іх і лічба дробных пакупнікоў. Напрыклад, толькі за студзень 1893 г. гродзенскі губернатар Д. М. Бацюшкаў выдаў 59 дазволаў 147 сялянам на набыццё 527 дзес. (у сярэднім 3,6 дзес. на гаспадара). Самы вялікі надзел набыў Васіль Валасюк з Кобрынскага павета, які купіў 30 дзес. у памешчыка Мазеўскага [398, арк. 995– 999]. А ва ўсіх пяці беларускіх губернях з 1883 па 1914 гг. пры дапамозе мясцовых аддзелаў Сялянскага банка было рэалізавана 1 975 021 дзес. зямлі (24,8 % да ўсяго надзельнага землеўладання) і выдадзены 39 644 пазыкі. Прычым індывідуальным набыўцам было выдадзена 25 856 пазык (401 529 дзес. зямлі), таварыствам пакупнікоў – 12 561 (1 296 102 дзес.), вясковым грамадам – 1227 (280 394 дзес.) [239, с. 13–15]. Да 1897 г. у Мінскай губерні набытая сялянамі пры дапамозе Сялянскага банка зямля складала 5,3 % адносна надзельнай зямлі [741, с. 13]. У 1901 г. адносная вага купленай зямлі да надзельнай складала ў Магілёўскай губерні ўжо 28 %, у той час як у Гродзенскай – 10 % [273, табліца 1А].

Калі на пачатковым этапе дзейнасці Сялянскага банка большасць зямлі прадавалася таварыстам пакупнікоў і вясковым грамадам, дык у часе рэалізацыі сталыпінскай рэформы значна ўзрасла доля індывідуальных пакупнікоў. Даследчык праблемы Артур Кухарэнка прыйшоў да высновы, што банк пераважна даваў пазыкі якраз малазямельным і беззямельным сялянам (у 1914 г. беззямельныя складалі 8,2 % ад колькасці пакупнікоў), і толькі ў 1914 г. уладальнікі надзелаў, большых за 6 дзес. склалі 51,1 % ад агульнай колькасці пакупнікоў [239, с. 13]. Кошты зямлі выраслі з сярэдняй цаны 30 руб. за дзесяціну ў 1883–1895 гг. да 99 руб. у 1906–1914 гг. [239, с. 14–15].

Напрыклад, за 1883–1899 гг. у Віленскай губерні сяляне купілі 187 700 дзес. зямлі, у тым ліку 43 100 дзес. (23 %) з дапамогай Сялянскага банку, а ў Гродзенскай губерні – 118 300 дзес., у тым 63 100 дзес. (53,3 %) з дапамогай банку. Сярэдняя плошча купленых надзелаў за 1895–1905 гг. склала па Віленскай губерні 4,1 дзес., па Гродзенскай – 6,7 дзес. [508, 51–51 адв.]. За 1905 г. у Гродзенскім павеце 224 селяніны набылі з дапамогай Сялянскага банка 633 дзес. зямлі (у сярэднім па 2,8 дзес. на гаспадара)[472; 496; 497]. Толькі адзін Якуб Уласевіч купіў участак плошчай амаль 15 дзес., які дазваляў стварыць новую гаспадарку хутарскога тыпу, для астатніх пакупка зямлі з'яўлялася спробай хоць неяк павялічыць свой надзел і адсунуць пагрозу малазямелля.

Але для большасці сялян выкарыстанне крэдытаў Сялянскага банка нават для набыцця маленькіх кавалкаў зямлі на практыцы выглядала нерэальным з прычыны іх нізкіх даходаў і адпаведна слабай здольнасці выплатаў па крэдытах. Падатковы інспектар Гродзенскага павета адзначаў у 1910 г., што «набыць зямлю ўдаецца толькі рэдкім счасліўцам» [542, арк. 47], паколькі кошты на панскую зямлю былі тут вельмі высокімі. Напрыклад, сярэдні кошт зямлі ў Гродзенскай губерні вырас з 1893 па 1903 гг. з 47 да 95 руб. за дзесяціну [508, арк. 51 адв.].

У 1905 г. у пяці беларускіх губернях, паводле афіцыйных даных, налічвалася 27 142 індывідуальныя землеўладальнікі сялянскага паходжання (40,5 % ад агульнай лічбы прыватных землеўладальнікаў), якім належалі 825 512 дзес. зямлі (7,5 % ад агульнай плошчы прыватнай зямлі і 10,4 % ад плошчы сялянскай надзельнай зямлі) (табліца 2.8). У сярэднім выходзіла 30,4 дзес. на адно індывідуальнае прыватнае землеўладанне. Паводле памераў прыватныя землі сялянаў падзяляліся наступным чынам: да 10 дзес. – 12 920 (62 601 дзес.), ад 10 да 20 дзес. – 5758 (88 940 дзес.), ад 20 да 50 дзес. – 5161 (164 114 дзес.), ад 50 да 100 дзес. – 1439 (110 077 дзес.), ад 100 да 500 дзес. – 1321 (249 221 дзес.), ад 500 да 1000 дзес. – 104 (69 551 дзес.), звыш 1000 – 37 (61 006 дзес.).

Такім чынам, 8062 (29,7 % ад агульнай іх лічбы) прыватныя землеўладальнікі сялянскага паходжання мелі ў сваім валоданні больш за 20 дзес. Больш за 100 дзес. мелі 1462 асобы (5,4 %). Колькасць апошніх у параўнанні з данымі за 1877 г. вырасла амаль у пяць разоў, але ад агульнай колькасці сялян-гаспадароў яны складалі прыкладна 0,16 %. Больш важным паказчыкам статыстыкі 1905 г. уяўляецца той, што апроч індывідуальных прыватных землеўладальнікаў 243 458 дзес. прыватнай зямлі належалі 1061 сялянскай вясковай грамадзе (у сярэднім 229,5 дзес. на адну грамаду) і 855 272 дзес. – 6407 таварыствам пакупнікоў (у сярэднім 133,5 дзес. на таварыства).

Табліца 2.8 – **Прыватнае сялянскае землеўладанне ў беларускіх губернях у 1905 г.** [734–738]

| Губерня | Індывідуальныя валоданні | | Грамады, купіўшыя зямлю | | Таварыствы, купіўшыя зямлю | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць | Плошча, дзес. | Колькасць | Плошча зямлі | Колькасць | Плошча зямлі |
| Віленская | 4835 | 170 947 | 4 | 557 | 106 | 12 909 |
| Віцебская | 4691 | 178 369 | 153 | 13 868 | 2124 | 167 220 |
| Гродзенская | 7862 | 114 313 | 70 | 15 126 | 990 | 113 721 |
| Магілёўская | 6340 | 219 992 | 829 | 208 805 | 1555 | 224 086 |
| Мінская | 3414 | 141 891 | 5 | 5102 | 1632 | 337 336 |
| Разам | 27 142 | 825 512 | 1 061 | 243 458 | 6 407 | 855 272 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Гэта сведчыла, што ў працэс набыцця зямлі актыўна ўключаліся сераднякі і беднякі. Пра размеркаванне зямлі ўнутры гэтых грамад і таварыстваў паміж асобнымі гаспадарамі даныя не прыводзіліся. Але дастаткова відавочным уяўляецца той факт, што багатым сялянам не было сэнсу ўступаць у таварыствы і займацца складанымі працэдурамі падзелу купленых земляў паміж іх сябрамі.

Усяго ж у 1905 г. сялянам пяці беларускіх губерняў належала 1 924 242 дзес. прыватнай зямлі, што складала 24,2 % ад надзельнай зямлі. Даныя пра тое, колькі надзельнай зямлі належала прыватным уладальнікам сялянскага паходжання, у статыстыцы 1905 г. адсутнічаюць. Удзельная вага купленай сялянамі зямлі адносна надзельнай складала на тэрыторыі сучаснай Беларусі паводле падлікаў В. П. Панюціча 21,7 % [96, с. 265]. Адносна асобных губерняў гэты паказчык быў наступным: Магілёўская – 33,7 %, Мінская – 20,6 %, беларускія паветы Віцебскай – 20,5 %, Гродзенскай – 14,8 %, Віленскай – 9,4 % [96, с. 265]. Найбольш бурнае развіццё сялянскага землеўладання назіралася на Магілёўшчыне, дзе плошча купленых земляў складала трэцюю частку ад надзельнай зямлі, што можна патлумачыць заможнасцю сялянства і адноснай слабасцю там «польскага» памешчыцкага землеўладання, прадстаўнікі якога лічылі продаж зямлі сялянам, асабліва праваслаўным, здрадай польскай нацыянальнай справе, нават калі гэта было эканамічна апраўданым. Таму сялянскае землеўладанне ў Віленскай і Гродзенскай губернях расло меншымі тэмпамі, чым на ўсходзе Беларусі. У цэлым плошча прыватнага сялянскага землеўладання на беларускіх землях паводле афіцыйнай статыстыкі павялічылася з 1877 па 1905 гг. у 8 разоў [676, с. 121].

Калі параўнаць даныя 1905 г. па Віцебскай губерні з вынікамі пагаспадарчага даследавання за 1907 г., атрымліваецца, што працэнтны паказчык уладальнікаў, якім належала да 10 дзес. зямлі, паводле статыстыкі 1907 г. вышэйшы ў два разы, а паказчык тых, каму належала больш за 20 дзес. – меншы болей за два разы (табліца 2.9). Гэтыя адрозненні, на думку аўтара, тлумачацца тым, што ў даследаванні 1907 г. больш дакладна ўлічваліся падзелы сялянскіх гаспадарак і, адпаведна, колькасць гэтых гаспадарак.

Табліца 2.9 – **Дыферэнцыяцыя плошчы купленай сялянамі зямлі ў Віцебскай губерні паводле даных 1905 і 1907 гг., %**
[737; 790, с. 26–27]

| Групы гаспадароў паводле велічыні валодання, дзес. | 1905 | | 1907 | |
|---|---|---|---|---|
| | Колькасць уладальнікаў | Плошча ўладанняў | Колькасць уладальнікаў | Плошча ўладанняў |
| Да 10 | 35,2 | 4,6 | 71,0 | 26,3 |
| 10 –19 | 24,3 | 9,7 | 15,2 | 28,4 |
| 20–49 | 24,0 | 20,3 | 10,7 | 20,2 |
| 50–99 | 9,0 | 16,7 | 2,3 | 13,1 |
| 100–499 | 6,8 | 32,5 | 0,8 | 12,0 |
| 500 і болей | 0,7 | 16,2 | – | – |
| Разам | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

У Віцебскай губерні ў 1907 г. з ліку даследаваных сялянскіх двароў надзельную зямлю мелі 155 669 (91,1 %) [790, с. 12]. Сярод іх 19 253 (12,4 %) двары ў дадатак мелі 144 818 дзес. набытай зямлі (7,5 дзес. на двор). Такім чынам, прыкладна адзін з васьмі надзельных двароў меў купленую зямлю. Апроч таго, 5358 двароў, якія не мелі надзельнай зямлі, купілі 140 172 дзес. (26 дзес. на двор). Сярод іх былі і вельмі заможныя сяляне, якія аддалі сваю надзельную зямлю сваякам, ці прадалі яе, а таксама і беззямельныя з часоў рэформы вяскоўцы, якія змаглі зарабіць грошы і купіць зямлю ў прыватную ўласнасць. З усіх даследаваных двароў купілі зямлю 14,4 %, ці прыкладна кожны сёмы. Не мелі ні надзельнай, ні купленай зямлі 9829 сялянскіх двароў (5,8 % ад агульнай колькасці).

Апроч таго 28 309 (16,6 %) гаспадароў Віцебскай губерні арандавалі 68 462 дзес. надзельнай і 81 784 дзес. ненадзельнай зямлі, а 8497 гаспадароў (5,5 % уладальнікаў надзельнай зямлі) здавалі ў арэнду 54 948 дзес. (5,5 %) сваёй надзельнай зямлі і 453 гаспадары (1,8 % уладальнікаў прыватнай зямлі) – 12 054 дзес. ненадзельнай зямлі

(6,6 %) [790, с. 12]. Адносна надзельнай зямлі плошча арандуемай сялянамі складала 12,1 %. Аўтары даследавання адзначалі, што «число сдающих землю хозяев незначительно» [790, с. 78]. Усе сялянскія пасевы ў Віцебскай губерні падзяляліся: на надзельнай зямлі 72,8 %, на купленай – 17,2 %, на арандаванай – 9,0 % [790, с. 80].

Пакінулі зямлю на 1907 г. у Віцебскай губерні 4738 гаспадароў (3 %), ці адзін з 33, а ў пяці беларускіх паветах гэтай губерні – 1910 з 67 644 (2,8 %). Па асобных паветах лічбы былі наступнымі: Віцебскі – 144, Дрысенскі – 939, Гарадоцкі – 100, Лепельскі – 464, Полацкі – 269. Такім чынам, палова пакінуўшых зямельныя надзелы прыходзілася на самы заходні Дрысенскі павет, а ва ўсходніх беларускіх паветах гэты паказчык з'яўляўся нашмат меншым. У беларускіх паветах колькасць надзельных гаспадарак (66 922) складала 91,8 % ад агульнай колькасці сялянскіх гаспадарак (72 822) [790, с. 61]. Самы нізкі працэнт надзельных гаспадарак быў сярод тых сялян, якія зусім не мелі пасеву, а таксама сярод уладальнікаў пасеваў за 50 дзес. (табліца 2.10). Самы высокі працэнт купленай зямлі назіраўся ў групах гаспадароў з вялікай плошчай пасеву. Высокім ён быў і ў гаспадароў, якія зусім не мелі пасеву. А найменш купленай зямлі (ад 11,2 да 15,3 % ад агульнай плошчы) мелі гаспадаркі з плошчай пасеву да 6 дзес.

Табліца 2.10 – **Структура сялянскіх гаспадарак Віцебскай губерні ў 1907 г. у залежнасці ад велічыні пасеву** [790, с. 65]

| Велічыня пасеву, дзес. | Агульная колькасць сялянскіх гаспадарак | | Колькасць надзельных гаспадарак | | % надзельных гаспадарак ад агульнай колькасці |
|---|---|---|---|---|---|
| | Абсалютныя паказчыкі | % | Абсалютныя паказчыкі | % | |
| Без пасеву | 16 944 | 9,9 | 8932 | 5,7 | 52,6 |
| Да 1 | 9950 | 5,8 | 8455 | 5,4 | 85,0 |
| 1–2 | 26 004 | 15,2 | 25 533 | 16,3 | 98,2 |
| 3–4 | 61 574 | 36,1 | 60 003 | 38,3 | 97,3 |
| 5–6 | 32 432 | 19,1 | 31 259 | 20,6 | 96,3 |
| 7–8 | 12 682 | 7,4 | 11 890 | 7,6 | 93,7 |
| 9–10 | 5480 | 3,2 | 4967 | 3,2 | 90,6 |
| 11–14 | 4331 | 2,5 | 3627 | 2,3 | 83,8 |
| 15–19 | 910 | 0,5 | 663 | 0,4 | 72,9 |
| 20–49 | 517 | 0,3 | 326 | 0,2 | 63,0 |
| 50 і болей | 32 | 0,0 | 14 | 0,0 | 43,8 |
| Разам | 170 856 | 100,0 | 155 669 | 100,0 | 91,7 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Табліца 2.11 – **Дыферэнцыяцыя набытай сялянамі Віцебскай губерні зямлі ў 1907 г. у залежнасці ад велічыні пасеву** [790, с. 70–72]

| Велічыня пасеву, дзес. | Колькасць гаспадарак | Структура гаспадарак, % | % ад агульнай колькасці | Плошча, дзес. | Структура, % | % адносна надзельнай | Плошча на 1 гаспадарку, дзес. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Без пасеву | 629 | 2,6 | 3,7 | 10 938 | 3,8 | 24,0 | 17,4 |
| Да 1 | 722 | 2,9 | 7,3 | 2134 | 0,7 | 11,4 | 3,0 |
| 1–2 | 3283 | 13,3 | 12,6 | 12 373 | 4,3 | 11.2 | 3,8 |
| 3–4 | 7844 | 31,9 | 12,7 | 50 535 | 17,7 | 12,3 | 6,4 |
| 5–6 | 5244 | 21,3 | 16,1 | 48 065 | 16,9 | 15,3 | 9,2 |
| 7–8 | 2818 | 11,5 | 22,2 | 35 961 | 12,6 | 23,2 | 12,8 |
| 9–10 | 1561 | 6,3 | 28,4 | 28 701 | 10,1 | 36,9 | 18,4 |
| 11–14 | 1615 | 6,6 | 37,3 | 43 779 | 15,4 | 61,0 | 27,1 |
| 15–19 | 513 | 2,0 | 56,3 | 22 302 | 7,8 | 146,2 | 43,5 |
| 20–49 | 362 | 1,5 | 70,0 | 27 357 | 9,6 | 408,2 | 75,6 |
| 50 і болей | 20 | 0,1 | 62,5 | 2845 | 1,0 | 702,2 | 142,3 |
| Разам | 24 611 | 100 | 14,4 | 284 990 | 100 | 23,3 | 11,6 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

У Віцебскім павеце на адну надзельную гаспадарку прыходзілася 6,4 дзес., на гаспадаркі, якія не мелі надзельнай зямлі – 19,7 дзес., у Гарадоцкім павеце – адпаведна 7,7 і 24,3 дзес., у Дрысенскім – 11,4 і 36,1 дзес., у Лепельскім – 4,9 і 21,0 дзес., у Полацкім – 7,2 і 26,1 дзес. [790, с. 71] (табліца 2.11). Гэтыя лічбы сведчаць, што багатыя сяляне пазбаўляліся сваіх надзелаў, калі мелі шмат купленай зямлі, а таксама і перасяляліся з родных вёсак.

Паводле крытэрыя працоўнай жывёлы даследаваныя гаспадаркі Віцебскай губерні размяркоўваліся: бясконныя гаспадаркі – 20,3 %, 1 конь – 53,3 %, 2 кані – 21,2 %, 3–5 коней – 5,0 %, больш 5 коней – 0,2 % ад усіх гаспадароў [790, с. 161]. Аўтары даследавання прыйшлі да высновы, што «лишь 1/14 часть всех хозяйств обладает тем количеством рабочего скота, которое может быть признано достаточным не только для обычнаго полеводства, но и для улучшения приемов обработки земли» [790 с. 156] (табліца 2.12). Паводле гэтага даследавання ў беларускіх паветах губерні сярод сялян, якія мелі пасевы, беднякі складалі 45,1 % сялянскіх гаспадарак, серадністы – 35,4 %, заможныя сяляне – 4,9 %. [790, с. 53]. Да першай групы былі аднесены ўладальнікі зямельных надзелаў плошчай да 4 дзес., да другой – ад 4 да 10, і да трэцяй – уладальнікі звыш 10 дзес. Апроч таго, 1,9 % гаспадароў пакінулі зямлю, а 12,4 % не мелі сваіх пасеваў. Іх з вялікай доляй верагоднасці можна аднесці да катэгорыі беднякоў.

Табліца 2.12 – **Размеркаванне працоўнай жывёлы сярод сялянскіх гаспадарак Віцебскай губерні ў 1907 г. у залежнасці ад велічыні пасеву, %** [790, с. 164]

| Велічыня пасеву, дзес. | Колькасць коней у гаспадарцы | | Усе гаспадаркі |
|---|---|---|---|
| | 2 і болей | 0-1 | |
| Без пасеву | 1,1 | 98,9 | 100 |
| Да 1 | 1,8 | 98,2 | 100 |
| 1–2 | 6,9 | 93,1 | 100 |
| 3–4 | 17,5 | 82,5 | 100 |
| 5–6 | 42,8 | 57,2 | 100 |
| 7–8 | 65,6 | 34,4 | 100 |
| 9–10 | 84,0 | 16,0 | 100 |
| 11–14 | 92,6 | 7,4 | 100 |
| 15–19 | 95,4 | 4,6 | 100 |
| 20–49 | 91,9 | 8,1 | 100 |
| 50 і болей | 100,0 | – | 100 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Савецкія даследчыкі, якія аналізавалі гэтую крыніцу, звузілі катэгорыю сераднякоў уладальнікамі ўчасткаў ад 4 да 8 дзес. [805], што дазволіла зменшыць удзельную вагу сераднякоў. У Віленскай губерні паводле даных на 1909 г. налічвалася 175 255 сялянскіх гаспадарак (у 2,2 разы болей першапачатковай колькасці сялянскіх надзелаў). Плошча надзельнай зямлі налічвала 1 195 689 дзес. (82,9 %), купленай – 70 513 дзес. (4,9 %), арандуемай – 176 880 дзес. (12,3 %) [74, с. 621]. Амаль 35 % сялянскіх сямей у гэтай губерні, паводле азначаных даных, мела менш за 3 дзес. зямлі [74, с. 624–630].

Рост прыватнага сялянскага землеўладання паскорыўся напярэдадні Першай сусветнай вайны. Паводле памятнай кніжкі Віцебскай губерні на 1912 г. сялянам у індывідуальным парадку належала 178 369 дзес. зямлі (8,4 % ад агульнай плошчы прыватнага землеўладання). У параўнанні з 1878 г. памеры індывідуальнага сялянскага землеўладання ў гэтай губерні выраслі ў 5,4 раза. З набытымі землямі сялянскіх грамад і таварыстваў пакупнікоў сялянскае землеўладанне складала 16,8 % ад агульнай плошчы прыватнага землеўладання ў губерні [645]. У Магілёўскай губерні ў 1914 г. сярод прыватных землеўладальнікаў налічвалася 41 290 сялян (71 % ад агульнай колькасці), якім належалі 635 537 дз. прыватнай зямлі (24,6 %) [671, с. 6–7]. У сярэднім на аднаго землеўладальніка-селяніна прыходзілася тут каля 15 дзес. зямлі. У Гродзенскай губерні ў 1909 г. колькасць сялянскіх зямельных таварыстваў (1190), вырасла на 20 % у параўнанні з 1905 г. [469, арк. 324, 388].

Паводле падлікаў В. П. Панюціча за 1907–1914 гг. у пяці беларускіх губернях сялянскае прыватнае землеўладанне павялічылася на 1105,8 тыс. дзес., ці на 56,1 % [96, с. 354]. З 1905 па 1910 гг. прыватнае землеўладанне сялян і мяшчан павялічылася на 18,5 %, а шляхты – паменшылася на 7,2 % [251, с. 180]. Усяго ж за паслярэформенны перыяд сяляне Беларусі купілі ў прыватную ўласнасць каля 3 млн дзес. зямлі. За гэтымі лічбамі стаялі цяжкая праца і велізарныя намаганні людзей, якія імнуліся рэалізаваць традыцыйную мару беларускага вяскоўца пра сваю зямлю і волю – галоўныя каштоўнасці ў свядомасці сялянства.

## 2.3. Заможнае сялянства і вясковая беднata

У беларускай гістарыяграфіі даследчыкі праблемы маёмаснай дыферэнцыяцыі сялянства ў сваіх працах заўсёды падавалі дакладныя лічбы, якія, на іх думку, адлюстроўвалі колькасныя параметры трох маёмасных груп вясковых гаспадароў – кулакоў, сераднякоў і

беднякоў. Пры гэтым так і не быў выпрацаваны агульнапрыняты падыход адносна таго, каго, напрыклад, лічыць кулакамі ці заможнымі сялянамі. К. І. Шабуня адносіў да сельскай буржуазіі «самостоятельных хозяев, ведущих торгово-промышленное земледелие» [804, с. 112]. Прычым даследчык адзначаў, што «употребление наёмного труда не является обязательным признаком мелкой сельской буржуазии», паколькі такую працу выкарыстоўвалі і небагатыя сяляне, у сем'ях якіх не хапала рабочых рук [804, с. 93]. У статыстычных даных да «кулакоў» Шабуня адносіў уладальнікаў трох і болей коней, як галоўнай цяглай сілы ў сялянскай гаспадарцы, а да беднаты – бясконных і аднаконных гаспадароў. Паводле яго падлікаў у 1905 г. на беларускіх землях «кулакі» складалі 11 % ад усіх сялянскіх гаспадарак, серадзякі – 28 %, беднякі – 61 % [804, с. 92]. Падлікі амаль усіх астатніх даследчыкаў прынцыпова не адрозніваліся ад гэтых лічбаў. Прычым беднata паволі ператваралася ў беззямельны пралетарыят. Паводле падлікаў Шабуні, у 1893 г. у беларускіх губернях налічвалася 54 553 (8,8 % ад агульнай колькасці) беззямельныя сялянскія двары, у тым ліку: у Гродзенскай губерні 10 234 (7,5 %), Мінскай – 11 370 (8,3 %), Віцебскай – 12 262 (9,7 %), Магілёўскай – 11 774 (6,7 %), Віленскай – 8913 (9,6 %) [803, с. 22].

В. П. Панюціч таксама прыйшоў да высновы, што наёмных працаўнікоў выкарыстоўвалі многія сялянскія гаспадаркі, але для адных гэта было жыццёвай неабходнасцю, а для другіх (кулакоў) сродкам матэрыяльнага ўзбагачэння [676, с. 292–293]. Х. Ю. Бейлькін лічыў, што заможнае сялянства Беларусі падзялялася на кулакоў і фермераў: «Среди зажиточного крестьянства Беларуси довольно широко были представлены кулаки, проводившие ростовщические операции и прибегавшие к отработкам» [23, с. 118]. Фермераў Х. Ю. Бейлькін атаясамляў з сялянамі, якія вялі гаспадарку хутарскога тыпу. Паводле гэтага аўтара, заможных сялян у Беларусі напярэдадні Першай сусветнай вайны было 15 %, а кулакоў (ліхвяроў) сярод іх – 3–4 % (астатнія з'яўляліся фермерамі) [23, с. 150–151]. Падобны погляд крытыкаваў В. П. Панюціч: «Под кулакамі подразумеваются не все богатые крестьяне <…> а лишь те из них, кто жил чужим трудом, эксплуатировал наемную рабочую силу. Именно в этом социальная сущность кулака, а не в том, что он предприниматель-спекулянт, ростовщик, живущий торговлей, ссужением денег под проценты, как полагает автор» (Х. Ю. Бейлькін. – *С.Т.*) [673, с. 220]. Паводле падлікаў В. П. Панюціча, у канцы 90-х гадоў XIX ст. у Беларусі налічвалася каля 50 тыс. (7,6 % ад агульнай лічбы) сялянскіх двароў, якія выкарыстоўвалі працу парабкаў: «Это и были кулацкие хозяйства, на которых работало до 55 тыс. батраков» [673, с. 220]. У іншай

сваёй працы гэты даследчык сцвярджаў, што ў канцы XIX ст. у Беларусі налічвалася 70 тыс. гаспадарак, якія пастаянна карысталіся наёмнай працай, а $^{2}/_{3}$ з іх з'яўляліся заможнымі [675, с. 44–45].

Гэтыя прапорцыі падзелаў вясковых гаспадароў на тры сацыяльна-маёмасныя групы наўрад ці адпавядалі ўяўленням саміх жыхароў тагачаснай беларускай вёскі, а таксама і ўяўленням тагачасных даследчыкаў. Вылучэнне характэрных тыпаў заможных, сярэдніх і бедных гаспадароў, але без колькасных паказчыкаў гэтых груп выкарыстоўвалася ў апісаннях валасцей і прыходаў, праведзеных па замове Рускага геаграфічнага таварыства ў канцы 1860-х гадоў [34–45]. Міравы пасярэднік 1-га ўчастка Гродзенскага павета пісаў у 1869 г., што на 5 двароў «слабых хозяев приходится 1 двор зажиточного хозяина» [446, арк. 161]. Заможны гаспадар, паводле гэтага чыноўніка, звычайна меў 20 дзес. зямлі, 9 галоў коней і быдла, 10 авечак, 5 свіней, а «слабы» – 5-6 дзес., 3 галавы коней і быдла, 5 авечак, 2 свінні. Акрамя таго, «у зажиточного скот крупнее и лучше, избы и все подворные постройки просторнее и лучше сделаны, у него есть хорошая тележка и запасная лошадь для праздничных выездов» [446, арк. 161].

Аўтары пагаспадарчага даследавання Віцебскай губерні за 1907 г. прыкладна $^{1}/_{4}$ сялянскіх гаспадарак (26,4 %) адносілі да групы самастойных, што маглі (тэарэтычна) усе свае патрэбы задаволіць за кошт уласных рэсурсаў, а астатнія $^{3}/_{4}$ не маглі існаваць без пабочных заробкаў [790, с. 156]. Да беднякоў у гэтым даследаванні былі аднесены ўладальнікі надзелаў плошчай да 4 дзес., да серадняков – ад 4 да 10 дзес, і да заможных сялян – звыш 10 дзес. зямлі. У выніку, сярод беларускага насельніцтва Віцебскай губерні, якое мела свае пасевы, паводле азначанага падыходу, атрымалася 45,1 % беднякоў, 35,4 % серадняков і 4,9 % заможных сялян [790, с. 53]. Сярэдняя бядняцкая сям'я складалася з 5,4 асоб, серадняцкая – з 7,4, заможная з 9,1 [790, с. 67]. Апроч таго 12,4 % гаспадароў зусім не мелі пасеваў, а 1,9 % адсутнічалі ў родных вёсках.

Пазней савецкія даследчыкі, якія выкарыстоўвалі матэрыялы азначанага даследавання Віцебскай губерні, панізілі маёмасную планку для заможных сялян. Паводле падлікаў Э. Хромавай у беларускіх паветах Віцебскай губерні да беднякоў (да 4 дзес. зямлі) належала 66,9 % гаспадароў, да серадняков (ад 4 да 8 дзес.) – 26,4 %, да кулакоў (звыш 8 дзес.) – 6,7 % [791, с. 67]. Гэтая даследчыца сцвярджала, што «бедната ўсё больш закідала надзелы, кулацтва ж не абмяжоўвалася адной надзельнай зямлёй і будавала сваю гаспадарку пераважна на зямлі купленай і арандаванай, якая ў іх намнога перавышала плошчу надзельнай зямлі» [791, с. 70]. У выніку гэтага працэсу «з адна-

го боку выдзялялася невялікая заможная верхавінка, а з другога – пралетарызаваліся масы сялянскіх гаспадарак» [791, с. 66]. К. І. Шабуня таксама сцвярджаў, што «значная частка надзельных сялянскіх зямель была сканцэнтравана ў руках заможнай, кулацкай верхавінкі вёскі за кошт страты зямель бяднейшымі слаямі сялянства» [803, с. 21]. Гэтым сцверджанням супярэчылі вынікі пагаспадарчага даследавання Віцебскай губерні, паводле якіх з ліку 155 669 надзельных гаспадарак купленую зямлю мелі 19 253 (12,3 %), а з тых, што не мелі надзелаў (15 187), набылі зямлю 5358 (35,6 %) [790, с. 67].

Праведзены аналіз маёмаснай дыферэнцыяцыі сялян на мікраўзроўні паказвае абсалютную непрыдатнасць вышэйазначаных крытэрыяў. Напрыклад, захаваліся падрабязныя звесткі адносна маёмаснага стану сялян вёсак Чашнікі, Чапялінка і Зайцава Горацкай воласці і павета Магілёўскай губерні за 1908 г. [388]. У гэтых трох вёсках налічвалася 108 двароў і 744 сялянскія душы (366 мужчын і 378 жанчын). Сялянам належала 785,75 дзес. надзельнай зямлі, 188,25 дзес. набытай зямлі, 245 коней, 291 карова, 651 галава дробнай жывёлы. Сярэдні двор складаўся з 6,9 душ, 7,3 дзес. надзельнай зямлі, 1,7 купленай, 0,7 арэнднай, 2,3 каня, 2,7 каровы, 6,0 галоў дробнай жывёлы. Больш за 20 дзес. надзельнай і купленай зямлі мелі толькі 2 гаспадары (1,9 %), ад 15 да 20 дзес. – 7 (6,5 %), зусім не мелі зямлі 2 сям'і (1,9 %). Паводле прынятага ў айчыннай гістарыяграфіі крытэрыя бедната складала ажно 91,6 % сярод гаспадароў азначаных вёсак, якія адносна сярэдняга беларускага ўзроўня выглядалі якраз дастаткова заможнымі. Купленую зямлю мелі 52 сям'і, што складала вельмі высокі паказчык – 48,1 %. А калі выкарыстаць крытэрый забяспечанасці гаспадарак коньмі, карціна дыферэнцыяцыі змяняецца на супрацьлеглую. Бясконных гаспадарак налічвалася толькі 8 (7,4 %), аднаконных – 28 (25,9 %), двухконных – 31 (28,7 %), трохконных і больш – 41 (38,0 %). У гэтым выпадку бедната складала 33,3 % гаспадарак, а кулакі – 38,0 %. У самай заможнай гаспадарцы было 9 душ (5 мужчын і 4 жанчыны), 34 дзес. зямлі (24 надзельнай і 10 купленай), 7 коней, 6 кароў і 10 галоў дробнай скаціны. У другой заможнай гаспадарцы было 16 душ (4 мужчыны і 12 жанчын), 29 $^1/_4$ дзес. зямлі (11 $^1/_4$ надзельнай і 18 купленай), 8 коней, 9 кароў і 20 галоў дробнай скаціны. Такім чынам, гэтым дзвюм сем'ям належала амаль чвэрць набытай зямлі ў трох вёсках. У той жа час дзве сям'і не мелі ні зямлі, ні хатняй жывёлы, а яшчэ 6 сямей – не мелі хатняй жывёлы.

Вельмі падрабязныя звесткі пра маёмасны стан сялян захаваліся таксама адносна вёскі Сухаўляны Гродзенскага павета. Прычынай паслужыла тое, што ў 1910 г. жыхары Сухаўлянаў першымі ў павеце

пагадзіліся перайсці на хутары, і былі абраны губернскай камісіяй па справах землеўпарадкавання ў якасці своеасаблівага выпрабавальнага палігону. Дзяржаўныя чыноўнікі зрабілі падрабязнае апісанне маёмаснага становішча сухаўлянцаў [478; 506]. У верасні 1911 г. у часе правядзення рэформы ў гэтай вёсцы налічвалася 46 сялянскіх участкаў, з ліку якіх 7 засталіся непадзеленымі з часу рэформы (15,2 %). Яны складалі 31,8 % ад колькасці першапачатковых надзелаў. Менавіта гэтыя 7 надзелаў лічылі трохі болей за 15 дзес. зямлі, і іх можна аднесці да серадняцкіх. Шэсць гаспадароў вёскі мелі па тры кані (13,0 %) і два (4,3 %) – па два. Астатнія гаспадаркі (82,6 %) былі аднаконныя. У сярэднім на адзін двор выходзіла 1,7 каня і 1,5 каровы. Купленай зямлі ў жыхароў вёскі Сухаўляны не было ўвогуле. У параўнанні з гаспадарамі вышэйразгледжаных вёсак Горацкага павета Магілёўскай губерні жыхары Сухаўлянаў выглядалі заўважна бяднейшымі, хаця на ўзроўні Гродзенскага павета гэтая вёска з'яўлялася сярэднезаможнай. Такім чынам, мікрагістарычны аналіз паказвае ўмоўнасць крытэрыяў плошчы зямлі і колькасці працоўнай жывёлы для вызначэння рэальнай карціны маёмаснай дыферэнцыяцыі сялянства без уліку якасці зямлі і спецыфікі гаспадарання ў розных рэгіёнах Беларусі.

Як вышэй ужо адзначалася, адрозненні ў забеспячэнні асобных гаспадарак надзельнай зямлёй унутры вясковай грамады вызначаліся найперш сямейнымі раздзеламі і дэмаграфічным фактарам. Апрача колькасці зямлі на розніцу ў заможнасці вяскоўцаў уплывалі гаспадарчыя ўменні гаспадара і працавітасць членаў яго сям'і. Знешне гэта знаходзіла сваё адлюстраванне ў якасці і выглядзе хаты і гаспадарчых пабудоў, колькасці свойскай жывёлы, адзенні сялян і іх харчаванні. Мітрафан Доўнар-Запольскі сцвярджаў, што ўжо па выгляду сялянскіх пабудоў у вёсцы адразу можна адрозніць заможных гаспадароў ад беднаты: «Бедность и достаточность и даже богатство смешиваются в пинском селе на каждом шагу; уже сразу, въезжая в село, можно отметить, какой процент состоятельных крестьян здесь живет» [170, с. 187].

Этнограф Эма Яленская сцвярджала, што багацце не прыносіць ніякіх змен у стыль жыцця сялян, хаця, паводле яе назіранняў, у вёсках сустракаліся людзі, якім удавалася сабраць вялізныя па тых часах сумы грошай да 10 тыс. руб. Але такія багацеі найчасцей мянялі папяровыя грошы на срэбра і хавалі яго ў надзейным месцы (звычайна закопвалі): «Такія багацеі не змяняюць аднак ані адвечнага свайго строю, ані хат лепшых не маюць, ніякіх навінак у сябе не ўводзяць, ані нават зямлі не купляюць». Толькі зрэдку, як піша Яленская, заможныя гаспадары пазычалі аднавяскоўцам грошы пад працэнты, а

так ні ў чым не адрозніваліся ад іншых сялян. Яна сцвярджала, што ніводнага разу не заўважыла хоць бы цень зайздрасці да заможных сярод бедных, ані пагарды ў багатых: «Кожны селянін, якой бы не была яго маёмасць, ёсць для іншага наш брат і ў паняццях сваіх яны сапраўды сабе зусім роўныя. Тыя нават, якія не маюць зямлі, што, зрэшты, не вельмі часта бывае, не дазнаюць ніколі з тае прычыны абразы ці пагарды» [844, s. 290, 307–308]. Гэтае сцверджанне Яленскай трэба прызнаць пэўнай ідэалізацыяй тагачаснага сялянства. Доўнар-Запольскі лічыў багатыя сялянскія сем'і больш кансерватыўнымі і архаічнымі, лепшымі захавальнікамі сялянскіх традыцый, чым сем'і беднякоў, што таксама ў нечым было іх ідэалізацыяй [170, с. 201].

Ва ўзаемаадносінах паміж заможнымі і беднымі сялянамі несумненна выяўляліся супярэчнасці і ўзаемная непрыязнасць. Віленскі губернатар М. А. Грэвеніц пісаў 7 студзеня 1895 г., што сярод сялян часта заўважаецца «чувство недовольства и вражды против тех из них, которые по каким-либо обстоятельствам, получив из надела лучшие части и будучи обременены меньшими семьями в материальном отношении более обеспечены» [154, арк. 70 адв.]. Іван Карскі сцвярджаў адносна сялян Гродзенскага павета, што калі камусьці з гаспадароў лепш жывецца ў матэрыяльных адносінах, і ў яго з'яўляюцца грошы, дык аднавяскоўцы вераць, што яму іх прыносіць чорт: «Дали Бохь! Я сам бачыў, як у ночы на яго хату агонь паляцеў, гэта значыць – чорт... Богачи между крестьянами пользуются в своей среде дурной репутацией; их считают волшебниками, чародеями, продавших свою душу нечистой силе <...> Бедняки же из крестьян думают, что они оттого бедны, что не могут обезопасить себя от вреда, наносимого нечистой силою» [276, с. 305–306]. Падобныя ўяўленні пра паходжанне багацця і беднасці беларускія сяляне пераносілі з сабой, калі перасяляліся ў Сібір і на Далёкі Усход. Расійскія этнографы ў Прыамур'і зафіксавалі факт, калі ў паселішчы такіх перасяленцаў аднавяскоўцы абвінавацілі адну ўдаву ў вядзьмарстве. Прычынай паслужыла тое, што яна атрымала лепшы ўраджай збожжа, бо наняла кітайскіх парабкаў, якія выкарыстоўвалі больш эфектыўны для той мясцовасці спосаб апрацоўкі глебы [12, с. 92].

Як вышэй адзначалася, заможныя сяляне часам практыкавалі пазычанне грошай сваім аднавяскоўцам пад працэнты. Але ліхвярства сярод сялян усё ж было з'явай малапашыранай. Існаваў і адваротны бок пазычання грошай. Баляслаў Грабінскі пісаў, што яго дзед меў звычай пазычаць на векселі (звычайна гэта былі распіскі, якія не мелі юрыдычнай сілы) грошы суседзям з ваколіцы і не браў за гэта працэнтаў. Даўжнікі, калі вярталі грошы, прыходзілі з бутэлькай гарэлкі і рабілі пачастунак. Гэта была тыповая форма ўзаемаадносін

у сялянскім асяроддзі, якая падтрымлівала ўнутраную салідарнасць сялянскай супольнасці. Але былі і такія даўжнікі, як пісаў Грабінскі, што свядома не вярталі грошы, паколькі ведалі, што «крэдытор» не падасць у суд. На пачатку XX ст. многія заможныя сяляне ўжо пачалі класці грошы ў банк пад працэнты [105, с. 183].

На адваротным ад багацеяў полюсе сялянскага соцыуму знаходзілася вясковая бедната. Да гэтай групы ў першую чаргу належалі беззямельныя сяляне. Зямля з'яўлялася асновай самога існавання сялянскай сям'і. Яна мела як эканамічнае значэнне – выступала матэрыяльнай гарантыяй выжывання, так і з'яўлялася сацыяльнай каштоўнасцю – была крыніцай прэстыжу ў вясковым асяроддзі. Зямля мела і культурнае вымярэнне – як сімвал прадаўжэння роду (бацькаўшчына) [823, s. 150]. Са стратай зямлі сялянская сям'я губляла сваю сілу ў вясковай грамадзе, сваю ўнутраную салідарнасць, паколькі яе члены траплялі ў залежнасць ад іншых, часта вымушаныя былі пакідаць родную вёску ў пошуках заробку і разыходзіцца па свеце. Таму галоўным крытэрыем прыналежнасці да беднаты найперш лічыліся малыя памеры ці поўная адсутнасць зямельнай уласнасці ў сялянскай сям'і, а таксама адсутнасць працоўнай жывёлы.

Беззямельных сялян у дакументах расійскай адміністрацыі звычайна называлі бабылямі, выкарыстоўваліся таксама мясцовыя назвы – агароднікі (мелі толькі прысядзібныя зямельныя ўчасткі), халупнікі (толькі хаты) і кутнікі (не мелі нерухомай уласнасці). Але дакладнай мяжы паміж гэтымі катэгорыямі правесці нельга, і самі дзяржаўныя чыноўнікі іх часта блыталі ў дакументах. Паводле падлікаў В. П. Панюціча, у канцы 50-х гадоў XIX ст. у Беларусі налічвалася каля 110 тыс. бабылёў абодвух палоў [676, с. 32]. Да катэгорыі беззямельных сялян адносіліся таксама дваровыя людзі, якія выконвалі функцыі парабкаў пры панскім маёнтку і часта там жылі разам са сваімі сем'ямі. Дваровых людзей на беларускіх землях у 1861 г., «по преуменьшенным данным», як сцвярджае В. П. Панюціч, налічвалася 60 066 (3,2 % ад колькасці ўсіх памешчыцкіх сялян) [676, с. 47].

Не ўсе беззямельныя сяляне былі беднымі ў матэрыяльным плане. Сярод іх сустракаліся і вельмі заможныя гаспадары. Звычайна гэта былі запатрабаваныя ў мясцовай супольнасці рамеснікі, а таксама млынары, карчмары і іншыя дробныя прадпрымальнікі. Сярод дваровых людзей таксама сустракаліся вельмі заможныя асобы, якія выконвалі важныя функцыі ў кіраванні панскай гаспадаркай – былі цівунамі, пісарамі, касірамі і г. д. Але абсалютная большасць беззямельных усё ж належала да бяднейшай часткі сялянства.

Якім чынам сфарміравалася ў беларускай вёсцы гэтая група беззямельных? Па-першае, існавалі спадчынныя дынастыі беззя-

мельных прафесійных рамеснікаў і дваровых служак. Калі ў прыгонныя часы ў сілу нейкіх прычын (напрыклад, смерці ці калецтва гаспадара) сялянская сям’я не была ў стане выконваць павіннасці на карысць памешчыка, апошні часта далучаў яе зямельны надзел да фальварка, а членаў сям’і пераводзіў у катэгорыю дворных парабкаў. Па-другое, калі ў пэўнай гаспадарцы назіраўся лішак працоўнай сілы, маладыя сяляне (звычайна сіроты, пляменнікі гаспадароў) ішлі парабкамі ў іншыя сялянскія гаспадаркі, дзе назіраўся дэфіцыт такой працоўнай сілы. З цягам часу яны маглі страціць спадчынныя правы на бацькоўскую гаспадарку і ўсё сваё жыццё пражыць у якасці парабка. Уся гэтая складаная сацыяльная рэчаіснасць беларускай вёскі не магла атрымаць дакладнага адлюстравання ва ўрадавай статыстыцы, таму існуючыя статыстычныя даныя трэба ўспрымаць як вельмі прыблізныя.

На пачатку 1860-х гадоў дзяржаўныя ўлады спрабавалі вырашыць праблему з беззямельнымі сялянамі, паколькі разумелі, што гэтая група можа быць прычынай сацыяльнай нестабільнасці на вёсцы. Паводле даных, сабраных губернскай адміністрацыяй у 1863 г., у беларускіх губернях налічвалася 8212 бабылёў, у тым ліку ў Віленскай – 3229, Віцебскай – 1666, Гродзенскай – 1751, Магілёўскай – 816 і ў Мінскай – 750 [126, арк. 7]. Удзельная вага беззямельных узрастала ў кірунку з усходу на захад і дасягала свайго максімуму ў Ковенскай губерні – 5433. Новыя даныя ўлады збіралі ў 1865 г. Паводле даных адміністрацыі Ковенскай губерні, атрыманых на падставе аналізу зацверджаных выкупных актаў, парабкі складалі тут 27,4 % ад усяго мужчынскага насельніцтва [132, арк. 50]. Статыстычныя даныя былі патрэбны дзяржаўным уладам, каб забяспечыць мінімум існавання для гэтай групы. Напрыклад, у сакавіку 1866 г. гродзенскі губернатар падаў у Міністэрства ўнутраных спраў пайменны спіс 323 парабкаў ва ўзросце да 15 і пасля 60 год, якія «не могут себя прокормить» [132, арк. 180].

Паводле распараджэння віленскага генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва ад 18 кастрычніка 1863 г., сяляне, пераведзеныя памешчыкамі ў катэгорыю дворных парабкаў пасля ўвядзення абавязковых інвентароў у 1846 г., павінны былі атрымаць 3-дзесяцінныя зямельныя надзелы (пераведзеным у парабкі пасля 1857 г. надзел вяртаўся цалкам) [301, арк. 14]. Такі 3-дзесяцінны надзел не мог забяспечыць патрэбы звычайнай сялянскай сям’і (7-8 душ), а таму прадстаўнікі гэтай групы былі вымушаны наймацца на заробкі. Як пісаў тагачасны аўтар пра гэтых сялян у Віленскай губерні: «<...> рабочий скот нанимают у крестьян-хозяев из-за дней, отрабатываемых летом, так что половина летней рабочей поры проходит на этих

заработках, другая половина на работе по собственному хозяйству, и только поздней осенью освобождаются они для отыскания вольнонаемных работ, необходимых для их существования» [816, с. 121–122].

15 студзеня 1866 г. віленскі генерал-губернатар К. П. Каўфман загадаў сабраць «в скорейшем времени сведения» адносна колькасці і ўладкаванасці парабкаў паводле адмысловых бланкаў, распрацаваных Асобай камісіяй па сялянскай справе [303, арк. 1]. Звесткі гэтыя збіраліся вельмі марудна, і 5 сакавіка 1869 г. генерал-губернатар паўтарыў свой загад [303, арк. 19]. Паводле сабраных даных на 1870 г. у Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай губернях сярод былых прыватнаўласніцкіх сялян, адносна якіх ужо былі складзены выкупныя акты, уладальнікі 3-дзесяцінных надзелаў складалі 9,5 %, а агароднікі – 3,4 %. Самы высокі паказчык прадстаўнікоў гэтых груп назіраўся ў Ковенскай губерні – 33,4 %, а самы нізкі ў Віцебскай – 1,9 % (табліца 2.13). Можна меркаваць, што сітуацыя ў Магілёўскай губерні была падобнай да Віцебскай.

Табліца 2.13 – **Структура былога прыватнаўласніцкага сялянскага насельніцтва Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай губерняў паводле зямельных надзелаў у 1870 г., %** [137]

| Губерня | Уладальнікі поўных надзелаў | Уладальнікі 3-дзесяцінных надзелаў | Агароднікі | Разам |
|---|---|---|---|---|
| Віленская | 79,8 | 17,5 | 2,7 | 100 |
| Віцебская | 98,1 | – | 1,9 | 100 |
| Гродзенская | 87,0 | 8,3 | 4,7 | 100 |
| Ковенская | 66,7 | 23,1 | 10,2 | 100 |
| Мінская | 84,7 | 12,0 | 3,3 | 100 |

*Заўвага.* Падлікі аўтара.

Немагчыма дакладна падлічыць, колькі ўсяго беззямельных сялян засталося на беларускай вёсцы пасля рэалізацыі рэформы. Існавала вялікая група тых, хто прэтэндаваў на страчаныя зямельныя надзелы, пра што сведчаць шматлікія справы ў валасных судах. У якасці прыкладу можна прывесці лічбы па асобных мікрарэгіёнах. Напрыклад, у трэцім міравым участку Брэсцкага павета сярод былых прыватнаўласніцкіх сялян гаспадары з поўнымі надзеламі (1821) складалі 72,6 % ад агульнай лічбы сялянскіх гаспадарак, уладальнікі 3-дзесяцінных надзелаў (241) – 9,6 %, уладальнікі меншых за 3 дзес. надзелаў (28) – 1,1 %, а беззямельныя сяляне (418) – 16,7 % [442,

арк. 89–100]. У маёнтку Расна графа Грабоўскага беззямельныя складалі 22 % ад усіх гаспадароў.

У Абрубніцкай воласці Беластоцкага павета Гродзенскай губерні гаспадары з поўнымі надзеламі складалі 80,0 % ад агульнай лічбы сялянскіх гаспадарак, уладальнікі 3-дзесяцінных надзелаў – 4,4 %, уладальнікі меншых за 3 дзес. надзелаў – 5,2 %, беззямельныя сяляне – 10,4 % [442, арк. 115–118]. Адносна гэтай воласці захаваўся і паіменны спіс парабкаў, які ўключаў 119 галоў сямей [442, арк. 134–143]. З іх ліку займаліся падзённымі заробкамі 75 (63,0 %), гаспадараннем на маленькіх кавалачках зямлі – 27 (22,7 %), на «годичной» службе былі 11 асоб (9,2 %), адносна роду заняткаў 7 асоб у дакуменце нічога не гаварылася. Зусім не мелі зямлі 77 глаў сямей, што складала 64,7 % ад лічбы ўсіх парабкаў. Адносная колькасць беззямельных змяншалася ў кірунку на паўднёвы ўсход. Напрыклад, міравы пасярэднік 2-га ўчастка Рэчыцкага павета пісаў мінскаму губернатару ў 1866 г.: «Цифра безземельных во вверенном мне участке весьма незначительна и <…> большая часть этих людей имеет усадьбы или вернее сказать хаты с несколькими грядами под огородные овощи, устроенные в дворах крестьян-домохозяев» [302, арк. 69]. Нягледзячы на малалікасць беззямельных, гэты пасярэднік не змог аднак падаць дакладную іх лічбу.

Рэформы 1860-х не спынілі працэс абеззямельвання сялян, які падштурхоўвалі памешчыкі напярэдадні рэформы, але надалі яму новую якасць і дынаміку. Асаблівую цікавасць адносна гэтага пытання ўяўляе запіска члена паверачнай камісіі Ашмянскага павета Віленскай губерні Івана Ціхеева, складзеная ў 1865 г. Паводле яго даных, у 6 валасцях гэтага павета налічвалася 392 селяніны, абеззямеленых памешчыкамі да рэформы 1861 г., а таксама 73 селяніны, абеззямеленых самімі ж сялянамі ўжо пасля 1 мая 1863 г. [132, арк. 89–89 адв.]. На думку гэтага чыноўніка, у паслярэформеннай вёсцы фарміраваліся два новыя класы: дробная землеўласніцкая арыстакратыя і пралетарыят: «Каждый лишний человек в семье тягость для остальных членов <…> брат всегда готов обезземелить брата». А таму колькасць беззямельных, паводле Ціхеева, будзе хутка ўзрастаць: «Я полагаю, что можно без опасений оставить существующих батраков без надела, лишь бы только уничтожить возможность разложения их в будущем» [132, арк. 92 адв.]. Галоўнай крыніцай абеззямельвання Ціхееў лічыў падворнае землекарыстанне і прапаноўваў, як і ў вялікарасійскіх губернях, увесці ў Беларусі абшчыннае землеўладанне [132, арк. 93]. Гэтая прапанова была адкінута іншымі экспертамі з ліку мясцовых чыноўнікаў, паколькі не вырашала ключавой праблемы – наяўнасці ў сялянскай гаспадарцы лішніх рабочых рук па існуючай сістэме земляробства.

Якім шляхам сяляне маглі патрапіць у катэгорыю беззямельных ужо ў пасляэформенныя гады? Па-першае, гэта былі тыя, хто адсутнічаў у роднай вёсцы на момант правядзення рэформы (служыў парабкам у іншай гаспадарцы, быў недзе на заробках альбо «в бегах») і не быў запісаны ў акты паверачных камісій. Па-другое, катэгорыю беззямельных папаўнялі салдаты, якія вярталіся з вайсковай службы. У дзяржаўных вёсках грамада павінна была забяспечыць іх невялікім надзелам (агародам) з рэзервовага зямельнага фонду. З развіццём перасяленчага руху катэгорыю беззямельных пачалі папаўняць тыя гаспадары, якія не змаглі прыжыцца ў Сібіры (ці ў іншых аддаленых рэгіёнах імперыі) і вярталіся на радзіму, дзе ўжо прадалі сваю зямлю.

Паводле падлікаў В. П. Панюціча, у 1893 г. у Беларусі налічвалася 39,4 тыс. (7,7 % ад агульнай колькасці) беззямельных двароў, у якіх налічвалася прыкладна 200 тыс. чалавек [676, с. 32]. Гэты аўтар сцвярджае, што «зажиточное крестьянство усиленно “собирало” землю, беднота, напротив, теряла ее» [676, с. 34]. Аднак апошняе сцверджанне не падмацоўвалася аналізам канкрэтных прыкладаў таго, як бедната губляла зямлю на карысць багацеяў. У афіцыйнай тагачаснай статыстыцы сустракаюцца розныя лічбы адносна колькасці беззямельных. Паводле даных статыстычнага камітэта Магілёўскай губерні, у 1895 г. тут налічвалася 33 802 мужчынскія душы беззямельных сялян, што складала 5,6 % ад усіх сялянскіх мужчынскіх душ [668, с. 99]. У Гродзенскай губерні ў 1895 г. беззямельных сялян паказана 20 275 душ (4 % ад агульнай колькасці сялянскіх мужчынскіх душ) [657]. У Мінскай губерні ў 1897 г., паводле даных Ф. Ястрэмскага, налічвалася 21 712 беззямельных двароў (11,9 % ад агульнай колькасці сялянскіх двароў) і, апроч таго, 4869 (2,7 % ад агульнай колькасці) двароў без паўнацэнных работнікаў [698, с. 94].

Паводле падлікаў К. І. Шабуні, у 1905 г. на тэрыторыі сучаснай Беларусі налічвалася 70 тыс. беззямельных сялянскіх двароў ці каля 400 тыс. душ абодвух палоў, што складала каля 10 % ад усяго сялянскага насельніцтва [804, с. 78]. Гэтыя даныя пацвярджае В. П. Панюціч, паводле якога на рубяжы XIX–XX стст. у Беларусі налічвалася 400 тыс. беззямельных [675, с. 32], якіх аўтар адносіць да ліку беднаты і парабкаў. Паводле яго падлікаў, у канцы XIX ст. налічвалася 180 тыс. гадавых парабкаў (5 % працаздольнага сельскага насельніцтва), з іх ліку 130 тыс. працавалі ў памешчыцкіх (75 тыс.) і сялянскіх (55 тыс.) гаспадарках [675, с. 58]. У 1897 г., паводле даных перапісу насельніцтва, колькасць парабкаў у 5 губернях дасягнула 182 219 чалавек, што складала больш за 5 % працаздольнага сельскага насельніцтва.

Але ўсе афіцыйныя статыстычныя даныя трэба лічыць вельмі прыблізнымі. Як справядліва адзначыў тагачасны даследчык Ю. Э. Янсан: «<…> во всех западных губерниях весьма большое число крестьян совершенно безземельных, однодворцев, бобылей и проч. Мы не знаем полной цифры их; но их много везде» [816, с. 120]. Напрыклад, паводле даных адносна Віцебскай губерні за 1915 г., сярод сялян, якія мелі свойскую жывёлу (коней і быдла), беззямельныя складалі толькі 1,3 %, а ў пяці беларускіх паветах губерні – 0,8 % [697, с. 32]. Статыстычныя даныя не даюць падстаў гаварыць пра хуткі рост адноснай вагі беззямельных двароў. Сяляне ўпарта трымаліся за зямлю. Калі гаспадар прадаваў зямлю, дык звычайна назаўсёды пакідаў родныя мясціны. Колькасць беззямельных у вёсцы магла ўзрастаць коштам тых сялян, якія ў сілу нейкіх жыццёвых абставін (сіроты, салдаты і г. д.) трацілі спадчынныя правы на «бацькаўшчыну».

Значна больш актуальнай для беларускай вёскі стала праблема малазямелля. У працы полацкага камітэта па справах сельскай гаспадаркі гаварылася, што малазямельныя гаспадаркі не маглі забяспечыць жыццё сялян: «Такое количество земли (1–1,5 дес. на душу) <…> представляется слишком малым для того, чтобы прокормить крестьянскую семью, не говоря уже о том, чтобы дать ея владельцу возможность покрыть следуемые с него налоги» [772, с. 381]. Разам з тым у высновах аднаго з камітэтаў Віцебскай губерні гаварылася, што нават на маленькіх надзелах можна было паспяхова гаспадарыць: «Можно указать на старых отставных солдат, имеющих при деревне по одной десятине; на бывших дворовых, получивших в подарок от помещика тоже одну десятину; все эти лица отлично ведут свое хозяйство и с одной десятины собирают достаточно для целой семьи на год хлеба <...> в города не переселяются и живут часто зажиточнее другого надельного хозяина» [772, с. 180]. Праўда, тут жа дадавалася, што гэтыя гаспадары арандуюць, «где можно», лугі і падзарабляюць «на стороне».

Сялянская бедната з'яўлялася самай дынамічнай і актыўнай групай вясковага насельніцтва. З яе асяроддзя выйшла шмат таленавітых людзей, якія змаглі ўзняцца па сацыяльнай лесвіцы, дзякуючы здольнасцям да навукі. Напрыклад, бацька этнографа Адама Багдановіча служыў дваровым кухарам, беззямельным рамеснікам быў бацька дзеяча беларускага нацыянальнага руху ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага [193]. Беднейшае сялянства актыўна мігравала ў пошуку заробкаў, а таму адыгрывала важную ролю ў трансляцыі ў вясковае асяроддзе новых ідэй, рэчаў і звычаяў. Пра гэта пісаў Мітрафан Доўнар-Запольскі: «Дымник тут (у хаце бедна-

га селяніна. – *С. Т.*) заменен лампой, найдется стакан, воду черпают жестяной кружкой, а не деревянным самодельным ковшом, в хате довольно чисто, но зато сараи и амбары пусты» [170, с. 201]. Аднаchасова бедната выступала і найбольш радыкальнай часткай сялянскага грамадства. Адсутнасць перспектыў павышэння сацыяльнага статуса і матэрыяльнага дабрабыту ўнутры сваёй супольнасці падштурхоўвала беднякоў да непадпарадкавання традыцыйным вясковым аўтарытэтам, рабіла іх падатлівымі на радыкальныя сацыяльныя і палітычныя ідэі.

Такім чынам, няма падстаў сцвярджаць, што працэсы сацыяльнай дыферэнцыяцыі ў пасляэформеннай беларускай вёсцы прывялі ў пасляэформенны перыяд да сфарміравання двух антаганістычных сацыяльных класаў: сельскай буржуазіі (кулакоў) і сельскіх пралетарыяў. Таксама нельга гаварыць пра эксплуатацыю вясковых беднякоў кулакамі як пашыраную сацыяльную з'яву. Сацыяльна-маёмасная дыферэнцыяцыя сярод беларускага сялянства несумненна ўзрастала, але яе тэмпы вельмі моцна тармазіліся трывалымі пазіцыямі памеснага землеўладання ў Беларусі і дамінацыяй яўрэйскіх прадпрымальнікаў у сферах эканомікі, звязаных з продажам і перапрацоўкай прадуктаў сельскагаспадарчай вытворчасці. Паміж заможнымі і беднымі сялянамі не існавала заўважнай культурнай дыстанцыі і прынцыповых адрозненняў у вобразе і стылі жыцця. Агульныя інтарэсы жыхароў беларускай вёскі ў цэлым пераважалі над іх сацыяльнымі адрозненнямі.

# Глава 3
# САСЛОЎНАЕ СЯЛЯНСКАЕ САМАКІРАВАННЕ

## 3.1. Валаснoе кіраванне: характар і накірункі дзейнасці

Рэформа 1861 г. кардынальным чынам змяніла сістэму кіравання вясковымі супольнасцямі і механізм узаемадзеяння сялян з дзяржаўна-бюракратычным апаратам. Землеўладальнікі страцілі свае адміністрацыйныя і судовыя функцыі адносна вясковага насельніцтва, якія перайшлі да новаўтворанага сялянскага самакіравання. Дзяржаўныя ўлады ўскладвалі на валасныя і сельскія ўстановы тыя задачы, якія да адмены прыгону выконваў панскі двор: забеспячэнне выплаты падаткаў сялянамі і выкананне натуральных павіннасцей, пастаўка рэкрутаў і да т. п. Кантроль за дзейнасцю сялянскага самакіравання ажыццяўляўся з дапамогай міравых пасярэднікаў, абіраных з ліку мясцовых землеўладальнікаў. З'езды міравых пасярэднікаў (звычайна аб'ядноўваў пасярэднікаў аднаго-двух паветаў) і Губернская па сялянскіх справах прысутнасць (узначальвалася губернатарам) завяршалі сістэму кіравання паслярэформеннай вёскай на ўзроўні асобнай губерні. Трэба адзначыць, што ў дзяржаўнай вёсцы сялянскае самакіраванне было ўведзена раней, чым у прыватнаўласніцкай – у ходзе рэалізацыі рэформы міністра дзяржаўных маёмасцей П. Д. Кісялёва, якая распачалася ў 1839 г. Вопыт гэтай рэформы паслужыў ураду для ўтварэння органаў самакіравання ўжо ў прыватнаўласніцкай вёсцы [194].

Паўстанне 1863 г. аказала вельмі істотны ўплыў на характар дзейнасці сістэмы сялянскага самакіравання ў беларускай вёсцы. У канцы мая 1863 г. віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў загадаў губернатарам неадкладна звольніць усіх абраных мясцовымі

землеўладальнікамі міравых пасярэднікаў, «кроме политически благонадежных», паколькі яны «старались вовлекать крестьянские общества к участию в мятеже», але пры гэтым, «где это возможно, сохранить мировые учреждения, определять чинов от правительства по Вашему усмотрению» [294, арк. 1]. У верасні 1863 г. Мураўёў рэкамендаваў губернатарам «по возможности замещать посредников из местных дворян благонадежными чиновниками из русских уроженцев» [294, арк. 14 адв.]. А ў снежні таго ж года ён загадаў апошнім, «чтобы без моего предписания Вы никого не назначали и не вызывали на должности мировых посредников» [294, арк. 18]. У выніку кантроль над сялянскім самакіраваннем поўнасцю перайшоў ад мясцовых землеўладальнікаў да дзяржаўнай бюракратыі [124]. На абноўленыя міравыя ўстановы ўскладаліся вельмі важныя для імперыі палітычныя і ідэалагічныя задачы. У справаздачы Мінскай па сялянскіх справах губернскай прысутнасці за 1863 г. мэта дзейнасці сялянскіх установ фармулявалася такім чынам: «Минская губерния ничем не должна отличаться от прочих чисто русских губерний» [295, арк. 62 адв.].

У 1864 г. у 35 паветах, якія адпавядалі сучаснай тэрыторыі Беларусі, была ўтворана 921 воласць, да якіх было прыпісана каля 80 % усяго насельніцтва Беларусі [94, с. 115]. У 1880-я гады сярэдняя воласць складалася з 4900 жыхароў сялянскага саслоўя. На працягу другой паловы XIX ст. колькасць валасцей скарачалася шляхам іх узбуйнення [753, 7–10]. У 1891 г. на тэрыторыі сучаснай Беларусі налічвалася ўжо 683 воласці [94, с. 114]. Адной з галоўных прычын такога скарачэння з'яўлялася эканомія сродкаў. У статыстычным даследаванні Магілёўскай губерні за 1871–1881 гг. сцвярджалася, што «мірскія» зборы на сельскае кіраванне былі зменшаны «посредством сокращения числа малых сельских обществ и соединения в одно двух и трех, весьма близких между собою» [619, с. 14].

Валасныя ўстановы ад самога пачатку свайго існавання выконвалі функцыі нізавой структуры дзяржаўна-бюракратычнага апарату і адначасова павінны былі прадстаўляць інтарэсы сялян, як выбарныя органы мясцовага самакіравання. Гэты дуалізм функцый захоўваўся на працягу ўсяго паслярэформеннага перыяду. Перажыткам мінулай эпохі з'яўляўся саслоўны характар валасных установ. Прадстаўнікі іншых саслоўных груп, якія пражывалі на тэрыторыі воласці, не бралі ўдзелу ў сялянскіх сходах і не падлягалі іх уладзе, што стрымлівала працэсы сацыяльнай інтэграцыі лакальных супольнасцей. Доўга захоўвалася архаічная ментальнасць адказных асоб сялянскага самакіравання, якія часта паводзілі сябе адносна аднавяскоўцаў, як былыя панскія войты і цівуны часоў прыгону [54,

№ 5, с. 57–58]. Іх самаўладдзе і бескантрольнасць спараджалі амаль паўсюдную карупцыю ў сістэме валаснога кіравання. Пра факты хабарніцтва сярод валасных чыноў і міравых пасярэднікаў, як успамінаў этнограф Адам Багдановіч, выдатна ведалі ўсе сяляне ад старога да малога: хто сколькі каму дае і бярэ, праз каго і з якіх прычын [54, № 7, с. 54]. Але гэты ж аўтар адзначыў, што сяляне паступова вызваляліся ад самаўладдзя мясцовага начальства [54, № 5, с. 58].

Першыя сялянскія выбары ў былых прыватнаўласніцкіх вёсках адбыліся ўжо ў 1861 г. Але ў чэрвені 1863 г. віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў загадаў неадкладна правесці ва ўсіх беларускіх губернях новыя выбары «под ближайшим наблюдением Уездных Военных Начальников», паколькі папярэднія прайшлі пад моцным уплывам памешчыкаў і прызначаных з іх асяроддзя міравых пасярэднікаў, якія імкнуліся «ограничить предоставленное положением 19 февраля 1861 г. право самоуправления и независимость (сялян. – *С. Т.*) от бывших их помещиков» [125, арк. 4; 449, арк. 1–168].

Крыніцы дазваляюць у дэталях разгледзець механізм правядзення новых выбараў на прыкладзе Гродзенскай губерні. 25 чэрвеня 1863 г. губернатар У. А. Бобрынскі аддаў распараджэнне ваенна-павятовым начальнікам правесці выбары «по возможности» з удзелам праваслаўнага духавенства і пад наглядам «надежных чинов земской полиции <...> или надежных офицеров и других чиновников». Апошнім надавалася права асабіста прызначаць сваёй уладай валасных старшыняў і іншых службовых асоб валаснога кіравання, калі яны палічаць гэта палітычна мэтазгодным. Захаваліся вельмі падрабязныя справаздачы калежскага саветніка Чапліна, накіраванага губернатарам Бобрынскім назіраць за выбарамі ў Гродзенскім павеце. Ён асабіста раздаваў сялянам бабы рознага колеру, якія апошнія клалі ў шапку таго кандыдата, якога жадалі бачыць сельскім старастам ці валасным старшынёй. Абраныя асобы адразу ж павінны былі даваць прысягу на вернасць імператару.

На гэтых датэрміновых выбарах 1863 г. сяляне Гродзенскай губерні зноў абралі шмат тых, хто займаў пасады ўжо з 1861 г., часам нават насуперак патрабаванням дзяржаўных чыноўнікаў [449, арк. 163 адв.]. Паводле даных губернатара ў Гродзенскай губерні перавыбралі на валасныя і сельскія пасады 557 праваслаўных і 129 каталікоў, якія ўжо займалі іх з 1861 г., а новых адказных асоб было абрана 864 праваслаўных і 364 каталіка [125, арк. 59]. Чыноўнік Чаплін так тлумачыў факт, чаму ў некаторых валасцях на выбарных пасадах аказаліся сяляне-каталікі: «<...> хотя общества состоят из смешанных вероисповеданий, но крестьяне единодушно избрали католиков, прося об утверждении их, как людей честных, справедли-

вых и преданных Правительству» [449, арк. 180]. Ваенны начальнік Брэсцкага павета таксама пісаў губернатару 2 жніўня 1863 г., што выбары адбываліся абсалютна свабодна, хаця пры гэтым дадаваў: «<…> только в немногих случаях, где были избраны старшинами люди сомнительные из католиков, я не утверждал выборов и предлагал крестьянам избрать православных, но таких случаев было немного» [449, арк. 180]. Губернатар Бобрынскі па выніках выбараў прыйшоў да высновы, што «понятия крестьян о правах на самостоятельное управление оказались весьма мало развитыми, так же и обязанности волостных лиц понимались ими крайне привратно» [125, арк. 49 адв. –50]. У справаздачы аб дзейнасці міравых устаноў Мінскай губерні за 1864 г. нават гаварылася, што сярод валасных старшыняў сустракаюцца асобы, «несоответствующие своему назначению и занявшие это место вследствие поспешности выборов 1863 года» [295, арк. 52].

Ва ўмовах уведзенага пасля паўстання 1863 г. ваеннага становішча дзейнасць валасных устаноў значна ўскладнілася. Яны неслі адказнасць за паводзіны сваіх аднавяскоўцаў, павінны былі неадкладна паведамляць уладам пра з’яўленне паўстанцаў на тэрыторыі воласці. Чыноўнікі ж патрабавалі ад сялян дэманстрацыі палітычнай лаяльнасці. Напрыклад, ваенны начальнік Ашмянскага павета пісаў у жніўні 1863 г. віленскаму губернатару, што сяляне некалькіх валасцей пастанавілі на сваіх сходах адмовіцца ад ужывання польскай мовы, што, на яго думку, «будет служить соревнованием в среде других крестьянских обществ» [127, арк. 20–20 адв.]. Для тых вяскоўцаў, якія ўжывалі ў размове польскую мову, прадугледжваўся штраф у памеры 3 руб. Невядома, ці калі-небудзь такія штрафы спаганяліся, і як увогуле магла адбывацца працэдура абвінавачвання ў выкарыстанні польскай мовы сярод беларускамоўных сялян. Хутчэй за ўсё падобныя пастановы былі вынікам празмернага «служебного рвения» мясцовых чыноўнікаў.

Пад уплывам чыноўніка Паўла Нябольсіна ў шасці валасцях Слонімскага павета Гродзенскай губерні сяляне пастанавілі на сваіх сходах адмовіцца ад выкарыстання цялесных пакаранняў, «как припоминающих прежнюю панскую власть». Аднак генерал-губернатар Мураўёў напісаў начальніку Гродзенскай губерні адносна Нябольсіна, каб «на будущее время он не выходил из пределов возложенных на него обязанностей» [128, арк. 12–12 адв.]. Фізічныя пакаранні заставаліся важным элементам прымусу ў вясковым грамадстве.

Дзяржаўныя ўлады праяўлялі вялікую ўвагу да дзейнасці сялянскіх устаноў. У 1867 г. віленскі генерал-губернатар Баранаў

накіраваў чыноўнікаў сваёй канцылярыі Зіноўева і Сяльверстава рэвізаваць сялянскае самакіраванне. Калежскі асэсар Сяльверстаў абследаваў 104 валасці ў Гродзенскай губерні. Аднак яго выніковая справаздача выглядае дастаткова павярхоўнай. У якасці тыповага прыкладу парушэння законнасці Сяльверстаў прывёў факт, што старшыня ў адной валасці пакараў розгамі жанчыну, за што быў аштрафаваны мясцовым міравым пасярэднікам [136, арк. 146 адв.]. Запіска Зіноўева па Віленскай губерні была куды больш грунтоўнай і крытычнай. Ён, напрыклад, адзначаў, што «крестьяне вовсе не понимают предоставленного им права проверять действия должностных лиц и требовать от них ответа» [136, арк. 18 адв.]. Вяскоўцы не разумелі прадстаўнічага характару валасных сходаў: «Весьма часто крестьяне и даже сами старшины не знают, на ком лежит обязанность выбирать всех должностных лиц и полагают, что в выборах этих могут участвовать все домохозяева, что подтверждается подписями на приговоре» [136, арк. 21]. Паводле ж закона ў валасным сходзе, акрамя адказных асоб, мелі права ўдзельнічаць толькі дэпутаты ад кожных пяці сялянскіх двароў. Прычынай такога становішча, на думку чыноўніка, з’яўлялася неадукаванасць вясковых жыхароў, паколькі непісьменнымі былі нават многія валасныя старшыні. Праўда, Зіноўеў заўважыў, што на непісьменнасць апошнія звычайна спасылаліся, каб апраўдаць усе парушэнні і недахопы ў сваёй дзейнасці [136, арк. 26 адв.]. Зіноўеў прыводзіў у сваёй справаздачы і факты карупцыі сярод міравых пасярэднікаў. Так, міравы пасярэднік Меншыкаў узяў (сам ён сцвярджаў, што пазычыў) з касы Варапаеўскага валаснога праўлення 150 руб. і не вяртаў на працягу трох месяцаў [136, арк. 6–7].

У канцы 1867 г. чыноўнік Гродзенскай па сялянскіх справах прысутнасці П. І. Нябольсін наведаў з інспекцыяй Жыдамлянскую валасць Гродзенскага павета. Яго вельмі падрабязная справаздача з гэтай паездкі адлюстроўвае стаўленне сялянства да новых устаноў і іх разуменне сваіх правоў і абавязкаў. Праверка дакументацыі валаснога праўлення і размовы з мясцовымі жыхарамі пераканалі Нябольсіна, што апошнія мелі вельмі цьмяныя ўяўленні пра свае правы адносна ўдзелу ў самакіраванні. Старшыня і пісар карысталіся ў валасці амаль неабмежаванай уладай і нават не дапускалі думкі, як адзначыў Нябольсін, што сяляне могуць кантраляваць іх дзейнасць [450, арк. 10]. Прычыну поўнай пакорлівасці сялян валасным уладам чыноўнік тлумачыў цяжкай спадчынай нядаўняй паншчыны і прыйшоў да высновы, што з прычыны непісьменнасці сяляне не могуць зразумець і засвоіць «новыя, нередко весьма существенныя формы общественного строя, требуемые писанным законом» [450, арк. 11].

Аднак часам сяляне адкрыта выступалі на сходах супраць тых службовых асоб, якія іх не задавальнялі. Напрыклад, у ліпені 1865 г. адбыўся канфлікт на валасным сходзе ў Шчучынскай воласці Лідскага павета Віленскай губерні, калі частка сялян запатрабавала перавыбараў старшыні. Ваенны начальнік павета па просьбе міравога пасярэдніка загадаў казакам разагнаць сялян, пры гэтым шмат людзей былі пабітыя нагайкамі. Пасярэднік Балагоўскі прапаноўваў зачыншчыкаў беспарадкаў выслаць у аддаленыя губерні імперыі. Генерал-губернатар Каўфман прызначыў следства па справе, паколькі «такие действия, поселяя в народе неуважение к закону, могут иметь самые гибельные последствия» [130, арк. 27 адв.]. У маі 1868 г. у Мінскай губерні міравы пасярэднік Пушкароў арыштаваў у Пухавіцкай воласці на 7 сутак былога старшыню Фядоса Пархомчыка за «подстрекательство к беспорядкам» і селяніна Каленіка Рамановіча «за нанесение дерзостей» валасному старшыні Шаховічу, а яшчэ 22 селяніна былі ім перапісаны за тое, што выступілі ў абарону Пархомчыка і патрабавалі, каб іх пасадзілі пад арышт разам з ім. Пушкароў пісаў мінскаму губернатару, што пасадзіў былога старшыню за «самовольное сборище сходов для зловредных толкований крестьянам». На просьбу сялян вызваліць Пархомчыка з арышту, міравы пасярэднік заявіў: «Вы не имеете права рассуждать, кто прав и кто виноват». У гэтым выказванні яскрава адлюстравалася стаўленне вялікай часткі тагачаснай бюракратыі да самастойнасці сялянскага самакіравання [308, арк. 1–6].

У студзені 1868 г. мінскі губернатар Я. А. Касінаў запатрабаваў ад міравых пасярэднікаў падаць яму для справаздачы імператару звесткі адносна таго, «на сколько между крестьянами восстанавливаются русские дух и жизнь, и на сколько крестьяне удаляются от вкравшихся среди них в прежнее время польских привычек» [306, арк. 5]. Несумненна, што пасярэднікі сталі адным з важнейшых элементаў у сістэме мясцовага дзяржаўнага кіравання на беларускіх землях і рэалізацыі ўрадавай палітыкі адносна сялянства. На практыцы іх улада была значна шырэйшай, чым гэта прадугледжвала заканадаўства. У 1878 г. у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях у сувязі з увядзеннем міравых судоў адміністрацыйныя функцыі міравых пасярэднікаў ускладаліся на павятовыя па сялянскіх справах прысутнасці. На гэтыя ўстановы выдаткоўваліся значныя фінансавыя сродкі. Напрыклад, у Мінскай губерні ў 1878 г. на дзейнасць павятовых па сялянскіх справах прысутнасцей было затрачана 56 457 руб. і на дзейнасць губернскай па сялянскіх справах прысутнасці – 16 916 руб. [333, арк. 88]. У той жа час грашовае ўтрыманне ўсіх валасных старшыняў і пісараў, а таксама выдаткі на

валасныя канцылярыі ў суме склалі ў Мінскай губерні 100 019 руб., а выдаткі на сельскіх адказных асоб – 34 582 руб. [333, арк. 89]. У Віленскай і Гродзенскай губернях інстытут міравых пасярэднікаў быў захаваны і праіснаваў да 1904 г.

У 1889 г. у сістэму мясцовага кіравання Расійскай імперыі ўводзілася пасада земскіх начальнікаў, якая спалучала ў сабе адміністрацыйную і судовую ўладу, што азначала ўзмацненне кантролю над сялянскім самакіраваннем з боку дзяржаўнага апарату. На беларускія губерні гэтая рэформа спачатку не распаўсюджвалася, хаця мясцовая бюракратыя таксама выступала за ўзмацненне сваіх уладных паўнамоцтваў адносна сялянскага насельніцтва [148]. Напрыклад, 1 лютага 1891 г. гродзенскі губернатар Д. М. Бацюшкаў даслаў віленскаму генерал-губернатару І. С. Каханаву запіску аб мерах для паляпшэння функцыянавання сялянскага самакіравання [151]. На пачатку запіскі ён выказаў вельмі негатыўную ацэнку дзейнасці выбарных сялянскіх устаноў. Губернатар сцвярджаў, што сяляне часта абіраюць на службовыя пасады «лиц слабохарактерных, малоспособных, неграмотных и не пользующихся уважением в обществе», а міравыя пасярэднікі не ў стане на гэта паўплываць, паколькі паводле закона могуць адмяніць вынікі выбараў толькі ў тых выпадках, калі абраны кандыдат не мае 25 гадоў узросту, быў пад судом ці «заведомо развратного поведения» [151, арк. 4 адв.]. Тут губернатар несумненна «лукавил» і свядома прыўмяншаў рэальны ўплыў пасярэднікаў на сялянскія сходы.

На валаснае праўленне, на думку гродзенскага губернатара, таксама вялікі ўплыў мелі «кабатчики-евреи» і розныя іншыя нядобранадзейныя людзі [151, арк. 9]. Таму ён прапанаваў надаць міравым пасярэднікам права зацвярджаць абраных адказных асоб і падвяргаць іх пакаранням, а таксама права прызначаць валасных пісараў, хаця дэ факта гэта і так рабілася, пра што губернатар не мог не ведаць. Сутнасць прапаноў Бацюшкава зводзілася да ўзмацнення і пашырэння паўнамоцтваў міравых пасярэднікаў і ступені іх кантролю за дзейнасцю валасных устаноў. Віленскі генерал-губернатар Аржэўскі цалкам падзяляў падобны падыход і пісаў 19 лютага 1894 г., што «разъединение властей (адміністрацыйных і судовых. – *С. Т.*) вредно отражается на обыденной жизни сельского населения», а «национальное и вероисповедальное различие населения требует присутствия на местах энергичной и твердой власти» [151, арк. 91–92].

Жаданне мясцовай бюракратыі ўзмацніць свой кантроль за сялянскім самакіраваннем неўзабаве рэалізавалася. У 1900 г. пасады земскіх начальнікаў былі ўведзены ў Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях, а ў 1904 г. – у Віленскай і Гродзенскай (замест пасадаў міравых

пасярэднікаў). С. А. Талмачова нават сцвярджае, што «менавіта з гэтага часу быў пакладзены пачатак працэсу атаясамлівання, з аднаго боку, сельскай грамады з адзінкай сапраўднага самакіравання, а з другога – воласці – толькі з адміністрацыйнай адзінкай». На яе думку, у далейшым гэта прывяло да змяншэння актыўнасці большасці сялян пры ўдзеле ў валасных сходах, чым у сельскіх [94, с. 123–124]. Такое сцверджанне ўяўляецца занадта катэгарычным. Ва ўмовах Беларусі і міравыя пасярэднікі на практыцы карысталіся пашыранымі ўладнымі паўнамоцтвамі, што вынікала з цэлага комплексу адміністрацыйных распараджэнняў і той культуры кіравання, якія сфарміраваліся ў часе ваеннага становішча пасля паўстання 1863–1864 гг. Але земскіх начальнікаў колькасна стала больш, чым было міравых пасярэднікаў. Таму практычныя магчымасці кантролю за дзейнасцю выбарных устаноў у іх павялічыліся.

У сферу дзейнасці валасных і сельскіх устаноў уваходзіла шырокае кола самых розных пытанняў мясцовага жыцця. Галоўная роля ў іх вырашэнні, паводле закона, належала валасным сходам, але на практыцы звычайна справа выглядала іначай. Чыноўнік П. І. Нябольсін, які рэвізаваў Жыдамлянскую воласць Гродзенскага павета, звярнуў увагу на тое, што ў кнізе прыгавораў валаснога сходу за ўвесь 1867 г. былі зроблены толькі чатыры запісы: «<…> стало быть, волостные сходы только четыре свои совещания сочли “делами особой важности”» [450, арк. 12 адв.]. З гэтых чатырох прыгавораў два датычылі рэкруцкага набору, адзін – продажу грамадскага будынку, а яшчэ адзін – спосабу выканання павіннасцей былымі дзяржаўнымі сялянамі воласці. На думку чыноўніка, гэта даказвала «слишком малое стремление крестьян обсуждать настоятельные нужды целой волости на волостных сходах» [450, арк. 12]. Адначасова Нябольсін адзначыў, што кніга прыгавораў валасных судоў і кніга здзелак і дамоў паміж сялянамі вяліся «в безукоризненном порядке». Можна меркаваць, што менавіта гэтыя сферы дзейнасці валаснога самакіравання з’яўляліся тады для сялян самымі важнымі і надзённымі.

Сваё адлюстраванне характар дзейнасці валаснога кіравання знаходзіў у размеркаванні выдаткаў гадавых бюджэтаў, якія абмяркоўваліся і зацвярджаліся на валасных і сельскіх сходах. Большая частка гэтых выдаткаў трацілася на ўтрыманне саміх жа валасных устаноў. У 1869 г. у беларускіх губернях (без уліку Магілёўскай) «мірскія» зборы складалі 15–18 % ад сумы ўсіх падаткаў, што плацілі сяляне (без уліку выкупных плацяжоў за зямлю) [137, арк. 16]. У Мінскай губерні, напрыклад, з мужчынскай сялянскай душы сярод былых прыватнаўласніцкіх сялян земскія і дзяржаўныя падаткі

складалі ў сярэднім 215,5 капеек у год, а «мірскі» збор на мясцовае самакіраванне – 61 капейку [137, арк. 56].

У 1881 г. сяляне Магілёўскай губерні плацілі грамадскі («мирской») збор на ўтрыманне валасных і сельскіх устаноў у памеры 377 994 руб., што складала 13,2 % ад сумы ўсіх падаткаў і абавязковых выплатаў [621, с. 263]. У 1889 г. агульная сума валасных і сельскіх расходаў склала ўжо суму 622 505 руб. З гэтай сумы 236 207 руб. (37,9 %) расходавалася на патрэбы сельскіх устаноў і 386 298 (62,1 %) на патрэбы валасных. На адну мужчынскую сялянскую душу выходзіла 1 руб. 22 капейкі, ці 37 капеек на дзесяціну сялянскай надзельнай зямлі. Асноўныя выдаткі ішлі на наступныя артыкулы: утрыманне службовых асоб – 173 689 руб. (27,9 %), школы – 91 249 руб. (14,7 %), вясковую пошту, дарожную карэспандэнцыю і канцылярыю – 78 407 (12,6 %), грамадскія будынкі – 56 612,5 руб. (9 %), цэрквы – 54 059 руб. (8,7 %), дарожную і падводную павіннасці – 41 059 руб. (6,6 %), паліцыю 35 646,5 руб. (5,7 %), бальніцы – 6632 руб. (1 %) [608, с. 12].

У Віцебскай губерні ў канцы 1880-х гадоў абавязковыя (валасныя, адмяніць іх сяляне не мелі права) «мірскія» зборы складалі 321,5 тыс. руб., а неабавязковыя (сельскія, устанаўліваліся ці скасоўваліся сходам вясковай грамады) – каля 147 тыс. руб. На наяўную мужчынскую душу гэта складала ў сярэднім 1 руб. 30 кап. [586; 587].

У 1900 г. выдаткі ўсіх валасных і сельскіх устаноў Магілёўскай губерні склалі 592 176 руб. Амаль палова гэтай сумы (каля 49 %) ішла на ўтрыманне службовых асоб і будынкаў валаснога кіравання: на жалаванне валасным пісарам і іх памочнікам прызначаліся 14,5 %, на валасных старшыняў і іх намеснікаў 5,9 %, на наём пасыльных, стойкавых і вартаўнікоў для валасных праўленняў – 12,9 %, на ацяпленне і асвятленне будынкаў – 3,7 %, валасным суддзям – 0,9 %, вартаўнікам запасных хлебных магазінаў 0,8 %, соцкім і дзясяцкім паліцэйскім служкам і на памяшканні для паліцэйскіхураднікаў – 7,0 %, на канцылярскія расходы – 3,4 %. У той жа час на ўтрыманне народных вучылішчаў і настаўнікаў пайшлі 16 % ад агульнай сумы, на бальніцы і ўтрыманне фельчараў – 4,3 %. Даволі шмат выдаткавана было на гадоўлю коней – 4,3 % [610, ведомость № 25]. У сярэднім гадавы бюджэт адной воласці ў Магілёўскай губерні складаў на той час каля 4 тыс. руб. У 1913 г. «мирские расходы» па валасцях Магілёўскай губерні склалі 667 071 руб., і выраслі ў параўнанні з 1900 г. прыкладна на 11,6 % [617, приложение 15]. У Віцебскай губерні ў 1914 г. абавязковыя грамадскія зборы складалі 490 534 руб., а неабавязковыя 156 070 [590, с. 60]. У суме яны выраслі за 30 год прыкладна на 30 %. Але на сялянскую мужчынскую душу прыходзілася прыкладна такая ж сума, як і раней.

У Мінскай губерні «мірскія павіннасці» з 1881 па 1904 гг. выраслі з 663 464 руб. да 1 002 098 руб. і пераўзышлі на той час выкупныя плацяжы сялян за зямлю. Праўда, ільвіную іх долю складала так званая стойка, ці пошта (абавязак воласці трымаць фурманку пры праўленні для раз'ездаў службовых асоб). Без уліку стойкі мірскія зборы выраслі з 480 184 да 887 347 руб. ці на 84,8 %. Галоўнай прычынай росту «мірскіх» збораў чыноўнік і даследчык Ф. Ястрэмскі лічыў павелічэнне ўтрымання службовых асоб, на якое валасныя сходы звычайна пагаджаліся толькі пад моцным ціскам з боку дзяржаўных чыноўнікаў. Ястрэмскі звярнуў увагу, што значная частка валасных і сельскіх збораў затрачвалася не на патрэбы мясцовага самакіравання, а на выкананне задач дзяржаўнага кіравання, і сцвярджаў, што валаснае кіраванне абслугоўвае «не столько интересы крестьян, сколько интересы государства и сословий, не участвующих в расходах на содержание этих учреждений» [819, с. 105].

Праблемы сялянскага самакіравання актыўна абмяркоўваліся губернскімі і павятовымі камітэтамі і нарадамі па праблемах сельскай гаспадаркі на пачатку XX ст. Прычым пераважалі выразна негатыўныя ацэнкі гэтага інстытута. Магілёўскі камітэт, напрыклад, пісаў: «Мирской сход – это несколько праздных, пьяных, никуда не годных горлодеров; мирской приговор – с этим почему то всегда сочетается представление о ведре, двух, трех водки» [775, с. 26]. Сапраўды, як сведчаць шматлікія крыніцы, спажыванне гарэлкі на сялянскіх сходах было з'явай паўсюднай і амаль абавязковай. Некаторыя чыноўнікі спрабавалі з гэтым змагацца. Так, міравы пасярэднік з Гродзенскага павета дабіўся ад сялян Сабалянскай воласці пастановы аб пакаранні штрафам сялян, «дозволяющих себе перед судом и сходами посещать буфет при станции» [434, арк. 20]. На думку гэтага чыноўніка, гарэлка дадавала сялянамі смеласці адкрыта не пагаджацца з яго прапановамі.

Член ашмянскага камітэта Е. П. Дахнеўскі сцвярджаў: «Опыт времени показал, что крестьянские учреждения не дали крестьянам ни умственного просветления, ни нравственного развития, ни экономического благосостояния, а, напротив, все время служили тормозом всякого развития» [771, с. 178]. Таксама на пасяджэннях Мінскай губернскай нарады па перагляду заканадаўства аб сялянах у 1904–1905 гг. выказваліся падобныя меркаванні. Нават прапаноўвалася ўвогуле ліквідаваць валаснае кіраванне, якое нібыта не мае пад сабой «исторической почвы» [292, арк. 8]. Член губернскай прысутнасці А. А. фон Брынкен сцвярджаў, што «в настоящее время волостное правление является не самостоятельной самоуправляемой сословной единицей, а лишь исполнительным органом

общего управления» [292, арк. 8 адв.]. Частка ўдзельнікаў нарады выступала за тое, каб сялянскае самакіраванне атаясамляць толькі з вясковай грамадой. Але большасць усё ж палічыла патрэбным захаваць воласць. Буйны землеўладальнік і вядомы грамадскі дзеяч Эдвард Вайніловіч, напрыклад, заявіў, што да валасных устаноў усе ўжо прывыклі, і яны з'яўляюцца неабходнымі ў жыцці вёскі [292, арк. 9].

Адным з важных кірункаў дзейнасці валасных праўленняў стала арганізацыя дробнага крэдыту для сялян. Як адзначалася ў апісанні Магілёўскай губерні за 1881 г.: «<…> явилась необходимость неотложно озаботиться образованием для крестьян хотя мелкого кредита для его текущих нужд, чтобы ослабить зависимость от евреев и вообще деревенского ростовщичества, которым занимаются сверх евреев и многие крестьяне кулаки и другие сословия» [619, с. 18]. Таму былі ўтвораны валасныя пазычковыя капіталы, за расходванне якіх адказвалі валасныя праўленні. Напрыклад, у 147 валасных пазычкова-зберагальных касах Магілёўскай губерні за 1900 г. было выдадзена сялянам пазычак на суму 1 595 534,5 руб. [610, ведомость 31]. Гэта пераўзыходзіла суму ўсіх падаткаў, якія выплочвалі сяляне. Але, як адзначалася на нарадзе міравых пасярэднікаў Гродзенскай губерні ў 1899 г., атрымаць пазыку з валасных касаў для большасці сялян уяўлялася справай няпростай. Не існавала дакладных правілаў іх выдачы, ды і вярталіся сялянамі ўзятыя пазыкі не вельмі акуратна [751, с. 271]. Тым не менш, Мітрафан Доўнар-Запольскі сцвярджаў у сваім даследаванні палескай вёскі, што добра арганізаваныя пазычковыя касы дапамагалі вяскоўцам спраўна выплочваць падаткі і ратавалі іх ад запазычанасці ў ліхвяроў [170, с. 199]. І ўвогуле на пачатку XX ст. кола пытанняў, якімі займаліся валасныя ўлады, значна пашырылася, пра што сведчыць дакументацыя валасных праўленняў [543; 551; 552].

Валасныя сходы адыгралі важную ролю ў арганізацыі выбараў у Дзяржаўныя Думы Расійскай імперыі [470]. У часе выбараў 1912 г. высокапастаўлены чыноўнік Гродзенскай губерні адзначаў, што сярод сялянскага насельніцтва назіралася імкненне сярод тых, хто меў права ўдзелу ў выбарах, патрапіць у Дзяжаўную Думу: «<…> на каждом из волостных сходов кандидатура на избрание в уполномоченные от волостей выставлялась целым рядом лиц» [471, арк. 236 адв.]. У выніку былі абраны ўпаўнаважанымі ад сялян на павятовыя сходы «большиею частью должностные лица крестьянского самоуправления». Але ўжо той факт, што існавала канкурэнцыя паміж кандыдатамі, сведчыў пра рост палітычнай актыўнасці, хаця б і сярод часткі вяскоўцаў.

Такім чынам, на працягу ўсяго паслярэформеннага перыяду ключавымі праблемамі ў дзейнасці сялянскага самакіравання з'яў-

ляліся яго дваісты характар і залежнасць ад дзяржаўнай адміністрацыі, а таксама саслоўная замкнёнасць. І гэтыя праблемы так і не былі вырашаны. Тым не менш роля валасных і сельскіх установ у развіцці вёскі была вельмі значнай. Яны выконвалі важныя задачы ў галіне народнай асветы, аховы здароўя, добраўпарадкавання вёсак, а таксама служылі камунікацыйнай пляцоўкай, дзе сяляне маглі выказаць свае меркаванні, прэтэнзіі да ўлады і выявіць уласнае бачанне вясковых праблем.

## 3.2. Валасныя старшыні і пісары

Хаця ўстановы сялянскага самакіравання функцыянавалі пад строгім наглядам міравых пасрэднікаў, на практыцы апошнія наведвалі валасныя праўленні не так і часта. Як сведчаць архіўныя дакументы, некаторыя маглі не з'яўляцца там гадамі. Уладу на штодзень вяршылі валасныя старшыні і пісары, ад дзеянняў якіх даволі многае залежала ў жыцці сялян паслярэформеннай вёскі. Чыноўнік Гродзенскай губерні Нябольсін сцвярджаў, што самі валасныя старшыні і пісары звычайна ўяўлялі сябе ўрадавымі чыноўнікамі і прадстаўнікамі дзяржаўнай улады: «<…> должностным лицам льстит собственно чиновное их значение, а не итог того добра, которое, по закону, они должны приносить обществу» [450, арк. 12]. Старшыні атрымлівалі грашовае ўтрыманне, памеры якога вызначаліся валаснымі сходамі. У 1870 г. у некаторых валасцях яно складала 350 руб. у год, што ўяўляла сабой вельмі значную для сялян суму [94, с. 116]. А ў некаторых валасцях жалаванне ўвогуле не прызначалася [753, с. 12]. Дзяржаўныя ўлады таксама шмат увагі надавалі гэтаму пытанню [138]. Аднак не меншымі за афіцыйныя звычайна з'яўляліся нелегальныя, карупцыйныя прыбыткі старшыняў. Адам Багдановіч сцвярджаў, што яны прыкладна раўняліся афіцыйным заробкам [54, № 7, с. 127]. У матэрыялах дзяржаўных установ захоўваецца вялізная колькасць скаргаў сялян на хабарніцтва валаснога начальства. Прычым і само начальства актыўна давала хабары ўжо міравым пасрэднікам і іншым чыноўнікам [330].

На выбар валасных старшыняў у беларускіх губернях істотны ўплыў аказваў палітычны фактар. Асабліва гэта датычыла змешаных у канфесійных адносінах мясцовасцей. Дзяржаўная адміністрацыя строга кантралявала выбары на пасады старшыняў [305]. У ліпені 1866 г. віленскі генерал-губернатар Каўфман загадаў, каб у такіх валасцях старшынямі абавязкова былі праваслаўныя [443, арк. 1 адв.]. У выніку на выбарах 1866 г. у Гродзенскай губерні былі абраны 171 праваслаўны старшыня і толькі 16 каталікоў (у валасцях з выключна каталіцкім насельніцтвам). Міравы пасрэднік Мілюкоў

нават атрымаў вымову ад генерал-губернатара за тое, што дазволіў абраць у адной з валасцей свайго ўчастка старшынёй каталіка [443, арк. 92].

Галоўным крытэрыем паспяховасці працы валаснога старшыні ў вачах вышэйшых улад, акрамя палітычнай лаяльнасці, было забеспячэнне выплаты сялянамі дзяржаўных падаткаў і выканання натуральных павіннасцей. Калі гэта ўдавалася, на ўсё іншае, у тым ліку і на хабарніцтва, не звярталася асаблівай увагі. У сваю чаргу выбар «слабага» старшыні, які не зможа эфектыўна выбіваць падаткі і прымушаць адбываць натуральныя павіннасці з'яўляўся стратэгіяй сялян ва ўзаемаадносінах з уладамі. Пра гэта пісалі і гродзенскі губернатар Д. М. Бацюшкаў у сваёй запісцы генерал-губернатару ў 1891 г., і этнограф Эма Яленская ў апісанні вёскі Камаровічы на Палессі [844, z. 2, s. 291]. Адзін з членаў магілёўскай нарады па справах сельскай гаспадаркі вылучыў два асноўныя тыпы валасных старшыняў: «Волостной старшина это хозяин, наставник, руководитель и воспитатель волости. А много ли таких в действительности? Больше встречается вот каких: если он дело понимает, тогда он ловкий унтер, кулак, ради личных выгод держащий в руках волость, или он дела не понимает – тогда он в волости ноль» [775, с. 26]. Дзяржаўная адміністрацыя, у першую чаргу міравыя пасярэднікі, часта пазбаўляла пасадаў тых старшыняў, якія яе не задавальнялі [452].

Ашмянскі камітэт Віленскай губерні нават вылучыў такую прапанову: «<...> руководитель крестьянской сельской единицы (волостной старшина) должен быть назначаем от Правительства, ибо крестьяне систематически устраняют от выбора более деловитых и нравственно наделенных людей, завидуя превосходству и опасаясь их неподатливости» [771, с. 179]. Гродзенская губернская нарада па сялянскай справе прыйшла ў 1900 г. да высновы, што дрэнны асабовы склад старшыняў з'яўляецца адной з галоўных праблем валаснога кіравання [236, с. 11]. Пераважна негатыўныя ацэнкі дзейнасці валасных улад у цэлым і старшыняў у прыватнасці сустракаем у газеце «Наша Ніва». Напрыклад, высмейваўся парадак выбараў старшыні, які звычайна суправаджаўся масавым спойваннем выбаршчыкаў [61; 792].

Некаторыя валасныя старшыні паводзілі сябе адносна сялян як сапраўдныя дэспаты і нават асабіста ўжывалі фізічную сілу для запалохвання сваіх апанентаў. У 1882 г. селянін Грэскай воласці Мінскай губерні Міхал Вітко выказаў на сходзе «дерзости» валаснаму старшыні Клебановічу, за што апошні «посадил его в холодную, таскал за волосы головою об пол», а на наступны дзень гэтага селяніна яшчэ пакаралі розгамі паводле прыгавору валас-

нога суда. Пасля скаргі Вітко, павятовая прысутнасць прысудзіла старшыні Клебановічу 2 дні арышту за самаўпраўства [331, арк. 20 адв.]. Селянін Ляхавіцкай воласці Мінскай губерні Кандрат Мікуліч скардзіўся губернскім уладам, што валасны старшыня Пётр Сапун у 1883 г. уласнаручна збіў яго на сходзе, пасадзіў пад арышт, а потым яшчэ загадаў пакараць 20 ударамі розгаў без пастановы валаснога суда. Цікава, што скарга Мікуліча была пададзеная ўжо ў маі 1887 г., ці праз чатыры гады пасля апісанага здарэння. Прычым ён дамогся новага разгляду гэтай справы, але вынік нам не вядомы [332, арк. 4–5]. Гэты прыклад з'яўляецца цікавым з таго пункту гледжання, што сяляне шмат гадоў маглі дамагацца справядлівасці ў розных інстанцыях. Такіх спраў было вельмі шмат, і ў цэлым яны ўсё ж вялі да паступовага абмежавання свавольства валасных улад.

Аўтарам было праведзена мікрагістарычнае даследаванне дзейнасці валасных старшыняў Скідзельскай воласці Гродзенскага павета за весь паслярэформенны перыяд [764; 766]. Яго вынікі сведчаць, што часта за пасаду старшыні вялася ўпартая барацьба, сяляне вылучалі мноства кандыдатаў і вялі за іх актыўную агітацыю. Прычым некалькі разоў старшыні абіраліся насуперак жаданню міравых пасярэднікаў і земскіх начальнікаў. Усяго ў Скідзельскай воласці з 1861 па 1915 гг. пасаду старшыні займалі 13 асоб. Найбольш разоў абіраліся Рыгор Мазалеўскі, Лявон Бубен і Мікалай Сыралевіч, якія ў суме выконвалі абавязкі старшыні больш за 30 год. Гэта былі асобы з дэспатычным складам характара, жорсткія адносна сваіх землякоў, але паслухмяныя начальству. Яны наводзілі страх на мясцовых сялян, пра што сведчылі пісьмовыя скаргі апошніх. Рыгор Мазалеўскі займаў пасаду валаснога старшыні з 1861 па 1869 гг., здолеў стаць за гэты час самым багатым у Гродзенскай губерні землеўладальнікам сялянскага паходжання, уласнікам больш за 1000 дзес. зямлі, скупленай ім у мясцовых памешчыкаў [763]. Адстаўны артылерыйскі унтэр-афіцэр Мікалай Сыралевіч быў старшынёй з 1890 па 1905 гг. Міравы пасярэднік называў яго лепшым старшынёй у сваім участку [434, арк. 28]. А губернскае жандарскае ўпраўленне мела звесткі ў 1905 г., што асабістыя грашовыя зберажэнні Сыралевіча за гэты час склалі вялізную для селяніна суму ў 18 тыс. руб. [475, арк. 2].

У дзейнасці валаснога праўлення вельмі значная роля належала пісарам. Паводле закона яны толькі адказвалі за пісьмовае справаводства і павінны былі выконваць волю валаснога сходу і распараджэнні старшыні. Але на практыцы сітуацыя звычайна выглядала іначай. Сярод масы непісьменных сялян (а такімі пераважна былі і валасныя старшыні) пісары атрымлівалі вялізную ўладу. Напрыклад, у 1879 г. у Мінскай губерні з ліку 228 старшыняў толькі 48

былі пісьменнымі (21,0 %), прычым адносна дзевяці з іх яшчэ было пазначана «малапісьменныя» [315]. Ад самага пачатку дзейнасці валасных установаў дзяржаўныя ўлады надавалі вялікае значэнне пасадзе валаснога пісара і кантралявалі іх прызначэнні [123]. У беларускіх губернях «в виду особого положения Северо-Западного края» пісараў прызначалі на пасады са згоды губернатараў міравыя пасярэднікі (пазней земскія начальнікі) [153, арк. 8 адв.], і апошнім яны непасрэдна падпарадкоўваліся. Часта пісары станавіліся сапраўднымі валаснымі дыктатарамі, якія навязвалі сваю волю і старшыням, і сходам, і валасным суддзям [766].

У 1861 г. на пасады валасных пісараў пераважна прызначаліся выхадцы з мясцовай дробнай шляхты каталіцкага вызнання. Іншых адукаваных людзей, здольных ажыццяўляць пісьмовае справаводства валасных праўленняў, у беларускай вёсцы на той час проста не было. Напрыклад, у першым міравым участку Мінскага павета ў студзені 1864 г. з 14 валасных пісараў 6 належалі да шляхты, трое былі сынамі праваслаўных духоўных, двое паходзілі з вольных людзей, па аднаму – з мяшчан, сялян і нямецкіх каланістаў [299, арк. 8–31]. Паводле веравызнання 10 былі каталікамі, 3 праваслаўнымі і 1 евангелікам. У цэлым узровень іх адукацыі быў высокім, пяцёра нават вучыліся ў Мінскай гімназіі.

Напярэдадні і ў часе паўстання 1863 г. многія валасныя пісары шляхецкага паходжання адкрыта ці тайна выступалі супраць расійскіх улад і падтрымлівалі паўстанцаў. Напрыклад, пісар Свіслацкай воласці Ваўкавыскага павета Серкучэўскі ў снежні 1862 г. чытаў «Мужыцкую праўду» Канстанціна Каліноўскага ў валасным праўленні «пред старшиною Антонием Овсейко и народом» [411, арк. 16]. Генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў загадаў мясцовым дзяржаўным уладам звяртаць на валасных пісараў асаблівую ўвагу і, «если которые неблагонадежные в политическом отношении и вредно влияют на крестьян, то отстранять от должности или даже рекомендовать выслать из края» [449, арк. 39 адв.–40].

Чыноўнік Чаплін сцвярджаў у 1863 г., што на пасадах валасных пісараў у Гродзенскай губерні застаюцца «большею частию отставныя чиновники польского происхождения, совершенно неблагонадежные люди». І хаця самыя «вредные» з іх ліку былі, як пісаў Чаплін, выдалены са сваіх пасадаў, многія засталіся «по неимению ввиду надежных, которыми можно было бы заменить их», а таму трэба «избавить крестьян от влияния столь зловредных людей» [449, арк. 179 адв.–80]. Асабліва ж непакоіў улады той факт, што ў многіх валасных праўленнях справаводства вялося на польскай мове, і на гэтай жа мове былі нават выразаны надпісы на імянных службовых пячатках,

якімі забяспечваліся непісьменныя старшыні і старасты. Пра гэта нагадвала віленскаму генерал-губернатару Мураўёву Міністэрства ўнутраных спраў у жніўні 1863 г. [127, арк. 1].

Замяніць дробную шляхту на пасадах валасных пісараў выхадцамі з іншых саслоўных груп на практыцы было вельмі складана. Так, гродзенскі губернатар І. М. Скварцоў пісаў 13 верасня 1863 г. пра «совершенный недостаток лиц на должности волостных писарей» [125, арк. 49]. Таму ўлады пайшлі па шляху прызначэння на гэтыя пасады адстаўных унтэр-афіцэраў і навучэнцаў праваслаўных духоўных семінарый, якіх мабілізавалі ў цэнтральных губернях імперыі шляхам адмысловых агітацыйных кампаній. Магілёўскі губернатар А. П. Беклямішаў пісаў Мураўёву 9 верасня 1863 г., што «30 апреля вменил им (міравым пасярэднікам. – *С. Т.*) между прочим уволить всех писарей Поляков, а также русских, подозреваемых в сочуствии мятежу» [125, арк. 62 адв.]. Хаця міравыя пасярэднікі і хадайнічалі, каб пакінуць на пасадах 3 добранадзейных пісараў каталіцкага веравызнання, Беклямішаў ім адмовіў.

У жніўні 1864 г. Міністэрства ўнутраных спраў запрасіла ў віленскага генерал-губернатара Мураўёва звесткі пра колькасць семінарыстаў, патрэбную для замяшчэння пасад валасных пісараў [299, арк. 1]. Рапарты міравых пасярэднікаў паказалі, што на гэтых пасадах яшчэ заставалася шмат каталікоў. Напрыклад, міравы пасярэднік 2-га ўчастка Навагрудскага павета Мінскай губерні пісаў, што ў яго ўчастку сярод пісараў налічваецца 5 каталікоў і 1 праваслаўны, але апошні «неспособный», а таму існуе 6 вакансій. Міравы пасярэднік 1-га ўчастка Пінскага павета Мінскай губерні паведамляў, што з 12 валасных пісараў 10 з'яўляюцца каталікамі, а таму «вызов волосных писарей составил бы одну из самых благодетельных мер для уничтожения зла, укоренившегося в самой недре крестьянского быта» [299, арк. 3]. Міравы пасярэднік 1-га ўчастка Мінскага павета напісаў, што ў яго ўчастку з 14 пісараў 3 праваслаўных, а ўсе астатнія каталікі, але за пяцёх з іх ён гатовы асабіста паручыцца [299, арк. 6]. Сяляне Навасёлкаўскай воласці з 3-га міравога ўчастка Мінскага павета нават звярнуліся з такой просьбай да губернатара пакінуць на пасадзе пісара ў іх воласці шляхціча-каталіка Эдварда Зяльвовіча [299, арк. 32–32 адв.].

У канцы 1864 г. надворны саветнік Сіняўскі па загаду губернатара Шалгунова аб'ехаў шэсць паветаў Мінскай губерні. Паводле сабраных ім звестак у Навагрудскім павеце сярод валасных пісараў налічваўся 21 каталік і 14 праваслаўных, у Слуцкім – 17 праваслаўных, 4 каталікі і 1 мусульманін, у Пінскім – 41 каталік і 7 праваслаўных [295]. Сіняўскі на падставе гэтых лічбаў прыйшоў да высновы, што

«надо поспешить исправить дело, иначе придется водворять порядок войском и штыками» [295, арк. 159 адв.]. Для замены «польских писарей шляхтичей» ён прапаноўваў: «а) во многих губернских городах России есть так называемые военные училища – классы <…> кантонистов. Неспособных к военной службе приглашать сюда в писаря, они же могут быть и сельскими учителями; б) училища детей канцелярских служащих; в) унтер-офицеров из армии и флота, даже и солдат. Нашлись же хорошие для корпуса жандармов, отчего не найти и в писаря» [295, арк. 160].

У снежні 1864 г. генерал-губернатар Мураўёў прадпісаў губернатарам матэрыяльна забяспечыць побыт былых семінарыстаў, прысланых на пасады валасных пісараў дадатковай матэрыяльнай падтрымкай ад урада [298, арк. 1]. Напрыклад, у канцы 1864 г. у Гродзенскай губерні сярод валасных пісараў налічвалася 56 былых навучэнцаў духоўных семінарый з вялікарускіх губерняў, што складала каля 30 % ад агульнай іх колькасці [456, арк. 3–4]. Віленскі губернатар Ф. С. Панюцін пісаў у лютым 1865 г. генерал-губернатару, што з ліку семінарыстаў, якія прыехалі ў Вільню, 114 было прызначана на пасады валасных пісараў, 13 на пасады настаўнікаў і 2 у ведамства дзяржаўных маёмасцей, а 6 было звольнена «за худое поведение», і адзін звольніўся сам [131, арк. 2]. Апроч таго з Вільні 67 семінарыстаў было адпраўлена ў Гродна і 25 у Мінск. У Віцебскую губерню таксама прыбылі 24 семінарысты, з якіх 5 прызначылі сельскімі настаўнікамі, а астатніх – валаснымі пісарамі. У Магілёўскую губерню семінарыстаў з Расіі не выклікалі, бо, як напісаў тамтэйшы губернатар А. П. Беклямішаў, «в вызове таковом по местным обстоятельствам не предстоит надобности» [131, арк. 6]. Беклямішаў сцвярджаў, што на гэтыя пасады ў яго губерні прызначаюцца пераважна выхадцы з духоўнага саслоўя. Так, з красавіка 1864 г. было прызначана 11 такіх асоб, з якіх 2 паходзілі са Смаленскай губерні, а астатнія былі мясцовымі ўраджэнцамі [131, арк. 6 адв.].

Віленскі генерал-губернатар Э. Т. Баранаў у снежні 1867 г. загадаў падпарадкаваным яму начальнікам губерняў асаблівую ўвагу звяртаць на запаўненне пасад валасных пісараў асобамі рускага паходжання і праваслаўнага веравызнання, якія павінны стаць «надежными истолкователями в среде крестьян правительственных распоряжений и сочувствуя вполне мерам, принимаемым для развития начал русской народности, неуклонно действовали б в этом духе» [443, арк. 74]. Адначасова Баранаў прадпісваў губернатарам неадкладна звольніць усіх каталікоў, якія яшчэ заставаліся на гэтых пасадах, а таксама падаць яму спісы тых валасных пісараў, у якіх жонкі былі каталічкамі. Пісар Арлянскай воласці Бельскага па-

вета Гродзенскай губерні здолеў захаваць сваю пасаду толькі тады, калі перайшоў разам з усёй сваёй сям’ёй у складзе дзевяці душ з каталіцтва ў праваслаўе [444, арк. 22]. А калі валасны пісар Казакоў са Слонімскага павета той жа губерні вырашыў узяць шлюб з каталічкай, то атрымаў на гэта дазвол губернатара пасля таго, як нявеста пісьмова пацвердзіла згоду прыняць праваслаўе [458, арк. 32].

Гэтая палітыка неўзабаве дала вынікі. У 1868 г. з 213 валасных пісараў Мінскай губерні паводле крытэрыя веравызнання налічваліся толькі 3 каталікі і 2 мусульманіны, а ўсе астатнія ўжо былі праваслаўнымі [307, арк. 1–19]. Паводле ж саслоўнага паходжання сярод іх налічвалася 66 сялян (31 %). У 1876 г. на пасадах валасных пісараў і іх памочнікаў у Мінскай губерні знаходзіліся 33 каталікі, а таксама 123 асобы, якія не належалі да сялянскага саслоўя. У Стаўпецкай воласці Мінскага павета памочнікам пісара быў нават яўрэй Саламон Разоўскі, пра якога мясцовы чыноўнік напісаў так: «<…> сравнив его с другими евреями, человек недурной» [313, арк. 2]. Але цяжкасці з пошукам належных кандыдатаў заставаліся. У 1877 г. паліцэйскі спраўнік Навагрудскага павета Мінскай губерні пісаў губернатару, што «во вверенном мне уезде крестьян православного исповедания, которые по способности и знанию дела могли бы занять должности волостных писарей, не оказалось» [314, арк. 4].

У 1879 г. у Мінскай губерні з ліку 228 валасных пісараў налічвалася 13 каталікоў (6,7 %) і 1 кальвініст [315]. Паводле саслоўнага паходжання сярод пісараў шасці паветаў (Бабруйскага, Барысаўскага, Ігуменскага, Мазырскага, Навагрудскага і Слуцкага) сяляне складалі 44 %, мяшчане – 25,8 %, шляхта – 16,4 %, духавенства – 10,2 %, разначынцы – 14,0 %. Сярод прадстаўнікоў апошняй групы таксама, напэўна, было нямала выхадцаў з сялян, а на той ужо час адстаўных ваенных чыноў. Паводле адукацыі пісары Барысаўскага павета падзяляліся: хатняя адукацыя – 7, павятовыя вучылішчы – 8, гімназіі – 2, прагімназіі – 1, духоўная семінарыя – 2, павятовае духоўнае вучылішча – 2, прыходскія вучылішчы – 4, народныя вучылішчы – 4. У Слуцкім павеце з ліку 23 пісараў 6 навучаліся ў гімназіях.

Валасному пісару прыходзілася выконваць вельмі шмат папяровай працы. Паводле даных С. А. Талмачовай, сярэдняя колькасць уваходных папер на беларускую воласць павялічылася з 377,5 у 1871 г. да 737,5 у 1878 г. У некаторых валасных установах колькасць розных афіцыйных папер даходзіла да 3 тыс. за год [94, с. 118]. Такая ж лічба агучвалася на нарадзе прадвадзіцеляў дваранства Гродзенскай губерні ў 1900 г. [236, с. 11]. У 1901 г. член Гродзенскай губернскай прысутнасці В. В. Сталяроў, які рэвізаваў сялянскія ўстановы,

пісаў у сваёй справаздачы: «Все волостные правления буквально завалены перепискими. Кроме обязательного ведения целой массы различных книг, записи приговоров волостного суда, составления разного рода ведомостей и т.п., волостные писаря направляют громадное число поступающих бумаг» [434, арк. 39]. Напрыклад, у даволі вялікай Скідзельскай воласці за 1900 г. налічвалася 2073 уваходныя і 3242 выходныя паперы [434, арк. 39 адв.].

Пісарам прыходзілася выдаваць мноства самых розных даведак мясцовым сялянам. Гэты абавязак з'яўляўся і вельмі істотнай крыніцай неафіцыйных прыбыткаў. У Мінскай губерні за 1878 г. было аддадзена пад суд 5 валасных старшыняў і 4 пісары, а выдалена са сваіх пасадаў без суда 28 старшыняў і 29 пісараў [333]. За 1887 г. у Віцебскай губерні было аддадзена пад суд за службовыя злоўжыванні 4 старшыні і 2 пісары, а звольнены без суда 14 старшыняў і 19 пісараў [586, с. 77]. У Віленскай губерні за 1899 г. было аддадзена пад суд 8 старшыняў і 1 пісар, а выдалены з пасад 3 старшыні і 3 пісары [583, с. 97].

Часта пісары падпарадкоўвалі сабе старшыняў і станавіліся сапраўднымі валаснымі дыктатарамі, якія самаўпраўна вяршылі ў воласці ўладу і суд. Прыкладам такога лакальнага дыктатара можа паслужыць Мікалай Цынцэвіч з Берштаўскай воласці Гродзенскага павета. Паводле скаргі, пададзенай сялянамі летам 1881 г. віленскаму генерал-губернатару Э. І. Тотлебену, Цынцэвіч больш 10 гадоў займаў пасаду пісара і «сделался всемогущим обитателем и помещиком Берштовской волости, домохозяева оной его крепостными». Сяляне сцвярджалі, што мясцовы міравы пасярэднік Шахаў ужо 6 гадоў не наведвае воласць, дзе ўсе справы вяршыў азначаны пісар: «Жалобы наши на действия писаря не получают никакого результата, и ни один раз Мировым Посредником не было собрано Сельского схода и неопрошено претензии крестьян на должностных лиц, кроме того, что писарь Цынцевич занимает место: Старшины, старост и волостных судей, но даже на сходах сам постановлял приговоры по всякого рода делам» [430]. У скарзе таксама гаварылася, што Цынцэвіч як пажадае, так і запісвае пастановы валасных судоў, не пытаючы нават згоды суддзяў.

У лістападзе 1882 г. гродзенскі губернатар Цэймерн даручыў члену губернскай па сялянскіх справах прысутнасці Хвастову расследаваць дзейнасць валасных улад ва ўчастку вышэйзгаданага Шахава. Гэтае расследаванне выкрыла татальную карумпаванасць усіх валасных пісараў. Пра пісара Азёрскай воласці Шостака Хвастоў пісаў, што апошні «положительно систематически обирает крестьян <…> все решения волостного суда составляются за деньги по его

же указанию, часто даже помимо желания волостных судей, которые иногда даже и не знают, как решено дело <…> одно и то же дело решается на волостном суде несколько раз, то в пользу одной, то в пользу другой стороны, смотря потому, кто больше заплатит писарю <…> составляются волостным писарем совершенно неправильные приговоры сельских сходов, о существовании которых суд даже и не знает» [143, арк. 6]. А міравы пасярэднік не прымаў ад сялян скаргі на пісара, паколькі апошні шчодра яго частаваў [143, арк. 8]. Хаця справа дайшла да віленскага генерал-губернатара, пасярэдніку Шахаву ўсё сышло з рук.

Вясной 1888 г. віленскі генерал-губернатар В. М. Даўгарукаў сабраў звесткі пра асабовы склад валасных пісараў у Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губернях. У першай з іх тады налічвалася 150 пісараў [147, арк. 2–25]. Паводле веравызнання сярод іх было 120 праваслаўных (80 %), каталікоў – 27 (18 %), мусульман – 3, лютэранін – 1. Паводле саслоўнага паходжання склад пісараў выглядаў наступным чынам: сяляне – 79 (52,7 %), мяшчане – 35 (23,3 %), шляхта – 17 (11,3 %), выхадцы з духоўнага саслоўя – 11 (7,3 %), разначынцы – 6 (4,0 %). Пісараў сялянскага паходжання налічвалася ўжо больш за палову ад агульнай іх колькасці. Большасць пісараў мела хатнюю адукацыю – 32 асобы (21,3 %), народныя вучылішчы скончылі 26 чалавек (17,3 %), настаўніцкія семінарыі – 22 (14,7 %), павятовыя вучылішчы – 19 (12,7 %), духоўныя вучылішчы – 13 (8,7 %), ваенныя вучылішчы – 5 (3,3 %). Трое пісараў вучыліся ў гімназіях, а адзін у прагімназіі. Астатнія навучаліся ў самых розных спецыялізаваных установах, такіх як, пісарска-егерскія школы, школы кантаністаў, ваенна-фельчарскія школы і да т. п. Малодшае пакаленне пісараў рэкрутавалася пераважна з сялян, якія скончылі настаўніцкія семінарыі і народныя вучылішчы.

Сярод 184 пісараў Гродзенскай губерні паводле веравызнання, апроч лютэраніна і двух мусульман, усе былі праваслаўнымі [147, арк. 62–127]. Паводле сацыяльнага паходжання пераважалі сяляне – 110 (59,8 %), мяшчан было 37 (20,1 %), выхадцаў з духавенства – 15 (8,2 %), дзяцей чыноўнікаў – 9 (4,9 %), дваран – 7 (3,8 %), грамадзян спадчынных і асабістых – 6 (3,3 %). Паводле адукацыі (без уліку аднаго ўчастка Беластоцкага павета) пераважалі навучэнцы павятовых вучылішчаў – 63. Народныя вучылішчы скончылі 20 валасных пісараў, духоўныя вучылішчы – 16, настаўніцкія семінарыі і прыходскія вучылішчы – па 12, пісарска-егерскую школу – 9, палатныя вучылішчы – 4, кандуктарскія школы – 2, фельчарскія школы – 2, ваенныя вучылішчы – 2. Толькі хатнюю адукацыю мелі 25 чалавек, а 3 сталі пісьменнымі на ваеннай службе. У прагімназіях

вучыліся 6 пісараў і адзін у Кранштацкім рэальным вучылішчы. Сярод пісараў сялянскага паходжання таксама пераважалі былыя навучэнцы павятовых вучылішчаў – 38, народныя вучылішчы скончылі 18 чалавек, прыходскія вучылішчы – 9, пісарска-егерскую школу – 8, настаўніцкія семінарыі – 7, палатныя вучылішчы – 4. Толькі адзін пісар-селянін навучаўся ў Навагрудскай прагімназіі, а 13 асоб мелі хатнюю адукацыю. І звесткі пра асабовы склад валасных пісараў віленскі генерал-губернатар збіраў перыядычна [150].

Дзяржаўныя ўлады на працягу ўсяго паслярэформеннага перыяду надавалі вялікае значэнне валасным пісарам у кіраванні вёскай. Калі ў 1891 г. гродзенскі губернатар Д. М. Бацюшкаў склаў запіску аб рэфармаванні валаснога самакіравання, ён падкрэсліваў вельмі вялікую ролю пісара ў яго дзейнасці [151, арк. 8]. У 1898 г. у Гродзенскай губерні налічвалася 180 валасных пісараў [428, арк. 1–675]. Паводле саслоўнай прыналежнасці сялян было 122 (67,8 %). Апроч сялян налічвалася 28 мяшчан, 9 ганаровых грамадзян, 7 дваран, 6 выхадцаў з духоўнага стана (дзеці святароў і псаломшчыка). Саслоўная прыналежнасць астатніх пісараў не была дакладна акрэсленая: 2 адстаўныя пісары, губернскі сакратар, народны настаўнік, палкавы пісар, кантаніст. Адносна двух валасных пісараў звесткі пра іх саслоўную прыналежнасць у дакуменце ўвогуле адсутнічалі.

Паводле адукацыі сярод пісараў Гродзенскай губерні пераважалі выпускнікі павятовых вучылішчаў – 53 (29,4 %). Настаўніцкія семінарыі скончылі 28 чалавек (15,5 %), народныя вучылішчы – 22 (12,2 %), духоўныя вучылішчы і семінарыі – 13 (7,2 %), гімназіі – 4, пісарска-егерскія вучылішчы – 3, батальёны кантаністаў – 2, павятовыя шляхецкія вучылішчы – 2, гарадскія вучылішчы – 1, ваеннае вучылішча – 1, прыватнае вучылішча – 1. Чацвёра пісараў вучыліся ў гімназіях і прагімназіях, а адзін у Беластоцкім рэальным вучылішчы. Адносна 34 чалавек было пазначана, што атрымалі хатнюю адукацыю, а пра адукацыю астатніх дакладныя звесткі адсутнічалі.

Сярод пісараў Гродзенскай губерні было даволі шмат былых народных настаўнікаў – 33 чалавекі (18,3 %). Гэта тлумачылася тым фактам, што матэрыяльная пазіцыя валаснога пісара выглядала больш прываблівай за настаўніцкую. Таксама 18 чалавек прайшлі ваенную службу (пераважна ў якасці штабных пісараў). Сустракаліся і былыя паліцэйскія – два ўраднікі і гарадскі «акалотачны». Паводле веравызнання ўсе пісары губерні з'яўляліся праваслаўнымі, акрамя двух лютэран і двух мусульман. Толькі ў аднаго пісара была жонка каталічка, што знайшло адлюстраванне ў статыстыцы.

Палітычны аспект у прызначэнні валасных пісараў у беларускіх губернях захаваўся і на пачатку XX ст. Так, 13 студзеня 1901 г. віленскі

генерал-губернатар В. М. Троцкі рэкамендаваў выконваючаму абавязкі гродзенскага губернатара чыноўніку «напомнить Мировым Посредникам вверенной Вам губернии о необходимости замещения вакансий волостных писарей исключительно лицами русскаго происхождения и православного исповедания <…> по возможности из неуроженцев западных губерний, которые, не подчиняясь влиянию мелочных партийных интересов местного свойства, могли-бы оказывать под руководством Мирового Посредника содействие к тому, чтобы деятельность органов крестьянского самоуправления носила не только истинно-русский, но и отвечающий государственной пользе характер» [492, арк. 1 адв.]. Пажаданне генерал-губернатара было вельмі складана выканаць, і пасады пісараў на пачатку XX ст. усё больш займалі выхадцы з мясцовага сялянства.

Але складанасці з падборам адпаведных кандыдатаў захаваліся. Чыноўнік В. В. Сталяроў пісаў гродзенскаму губернатару ў 1901 г., што міравым пасярэднікам «в высшей степени затруднительно подыскать честных, знающих и дельных лиц для замещения должности писарей» [434, арк. 12 адв.]. У красавіку 1904 г. земскі начальнік з Брэсцкага павета пісаў гродзенскаму губернатару М. М. Асаргіну, што з прычыны «неимения подходящего лица» часова прызначыў пісарам адной воласці каталіка Івана Шыдлоўскага [493, арк. 9]. Губернатар адказаў, што «признает возможным допустить Ивана Шидловского лишь к временному исполнению обязанностей волостного писаря, пока не будет подыскано подходящее лицо православного исповедания» [493, арк. 12].

Падрабязныя звесткі пра асобовы склад валасных пісараў Гродзенскай губерні захаваліся за 1914 г. [480]. Іх налічвалася на той час 178. З гэтага ліку служылі на адным месцы менш за 1 год 34 асобы, ад 1 да 10 год – 109, ад 10 да 20 – 9, больш за 20 – 1. Сярэдні тэрмін службы ўсіх пісараў складаў трохі больш за 5 год, сярэдні ўзрост – 35 год, а сярэдні заробак – 624 руб. Паводле сямейнага стану 44 пісары былі халастымі, 732 жанатымі і 4 удаўцамі. Сярэдняя сям'я складалася з трох асоб.

Пасада валаснога пісара часам станавілася прыступкай для далейшай кар'еры. Напрыклад, у Пружанскім павеце Гродзенскай губерні ў 1880-я гады служылі пісарамі браты Лука і Сцяпан Саланевічы, якія паходзілі з сялян вёскі Навасёлкі Гродзенскага павета. Яны абодва скончылі настаўніцкія семінарыі і працавалі пэўны час народнымі настаўнікамі [424, арк. 82–82]. Пазней Лука Саланевіч пераехаў у Гродна, а затым у Вільну, дзе стаў вядомым грамадскім дзеячам заходнерускага кірунку, публіцыстам і выдаўцом.

## 3.3. Валасны суд. Вясковая грамада

Валасныя суды пасля рэформы замянілі вотчынны суд землеўладальніка. Яны разглядалі дробныя крымінальныя (бойкі, невялікія крадзяжы, асабістыя абразы) і грамадзянскія (звычайна маёмасныя спрэчкі) справы. Суддзі абіраліся на валасных сходах на адзін ці на тры гады з ліку гаспадароў воласці, якія не падвяргаліся судом пакаранням за розныя правіны і мелі ўзрост 25 год і болей (абраны не мог адмовіцца ад пасады, калі не дасягнуў узросту 60 год), у колькасці ад чатырох да дванаццаці асоб у залежнасці да памераў воласці. Кожную асобную справу разглядалі тры суддзі, вызначаныя па волі жэрабя. Свой прыгавор яны выносілі на падставе нормаў звычаёвага права, пашыраных у іх мясцовасці, і гэты прыгавор меў канчатковую сілу (адмяніць яго можна было толькі ў выпадку парушэння працэсуальных нормаў).

З самага пачатку дзейнасці выявіўся галоўны недахоп у дзейнасці валаснога суда – залежнасць ад выканаўчай улады. Адам Багдановіч пісаў пра валасных старшыняў і пісараў, што «к их услугам всегда был волостной суд, который постановлял то, что эти власти хотели» [54, № 5, с. 57–58]. У часе рэвізіі валасных устаноў Гродзенскай губерні ў 1868 г. чыноўнік Сяльвестраў адзначаў, што «старшина нередко имеет влияние на ход волостных судов», і пісаў пра «вмешательство писаря» ў валасное судаводства [136, арк. 39]. У справаздачы Бабруйскага з’езда міравых пасярэднікаў Мінскай губерні ў сакавіку 1868 г. гаварылася, што валасны суд «принадлежит к предметам еще наименее развившимся: причиною тому еще слабая гражданственность» [313, арк. 13]. Вышэй прыводзіўся прыклад з Азёрскай воласці, дзе маніпуляцыя валасным судом з боку пісара набыла гратэскавыя формы [143, арк. 6–8].

Колькасць судовых спраў моцна вагалася ў залежнасці ад велічыні воласці і ментальнасці яе жыхароў. Але яна ўвесь час узрастала ва ўсіх беларускіх губернях. Паводле даных С. Талмачовай, у Віленскай губерні колькасць спраў валасных судоў узрасла з 1,6 тыс. у 1871 г. да 2,4 тыс. у 1876 г., а ў Мінскай за гэты ж перыяд – з 3,5 тыс. да 5,9 тыс. [94, с. 118]. У 1887 г. у Віцебскай губерні валасныя суды разгледзелі 7331 крымінальную справу (абвінавачвалася 9172 асобы, ці прыкладна 1 асоба на 78 душ сялянскага насельніцтва) і 19 074 грамадзянскіх спраў. У сярэднім выходзіла на адзін суд 31 крымінальная справа і 97 грамадзянскіх. На прыгаворы валасных судоў тут было пададзена 3899 скаргаў (абскарджвалася кожная сёмая пастанова), і 653 пастановы (адна з 40) былі адмененыя павятовымі прысутнасцямі

[586, с. 77]. У 1888 г. у гэтай губерні колькасць спраў у валасных судах трохі зменшылася (6562 крымінальныя і 16 209 грамадзянскіх), але колькасць апеляцый узрасла – 5187 скаргаў [587, с. 88].

У Магілёўскай губерні ў 1888 г. было прыцягнута да суда па крымінальных учынках 13 255 чалавек (11 726 мужчын і 1529 жанчын), што складала 0,14 % ад колькасці сялянскага насельніцтва (2,5 % мужчынскага і 0,3 % жаночага). З іх ліку апраўдана было 3126 (2683 мужчыны і 443 жанчыны), прысуджана да фізічнага пакарання 1845 мужчын, да арышту – 2087 чалавек (1604 мужчыны і 483 жанчыны), да грашовых штрафаў – 5014 (4622 мужчыны і 392 жанчыны), да грамадскіх работ – 831 (664 мужчыны і 167 жанчын), атрымалі вымовы – 356 (308 мужчын і 44 жанчыны) [665, с. 183]. У 1899 г. валаснымі судамі Магілёўскай губерні разглядаліся дробныя крымінальныя ўчынкі 14 488 асоб, у тым ліку 12 894 мужчын (1,9 % ад усяго мужчынскага насельніцтва) і 1594 жанчын (0,2 % ад усяго жаночага сялянскага насельніцтва). З іх ліку 2047 мужчын былі прыгавораныя да фізічнага пакарання (0,3 % ад мужчынскага сялянскага насельніцтва), 2445 асоб (1906 мужчын і 539 жанчын) арыштаваныя, 5083 (4674 мужчыны і 409 жанчын) аштрафаваныя, 1052 асобы (920 мужчын і 132 жанчыны) прыгавораныя да грамадскіх работ, 348 (312 мужчын і 36 жанчын) атрымалі вымовы [609]. За 1900 г. у Магілёўскай губерні ў валасных судах былі заведзены 15 277 спраў па дробных крымінальных учынках і 39 593 справы па маёмасных спрэчках [670, ведомость 45]. Па дробных крымінальных учынках судзіліся 15 705 чалавек, у тым ліку 13 131 мужчына (каля 2 % ад усяго сялянскага мужчынскага насельніцтва) і 2574 жанчыны (0,4 % ад усяго сялянскага жаночага насельніцтва). З іх ліку былі апраўданыя 3625 мужчын і 822 жанчыны, а асуджаныя да розных пакаранняў і спагнанняў 9505 мужчын і 1752 жанчыны. Сярод асуджаных 1124 чалавекі прыгаварылі да цялеснага пакарання (каля 0,2 % ад усяго мужчынскага насельніцтва), да арышту – 3800 мужчын (0,6 %) і 1018 жанчын (0,1 %), да грашовых штрафаў – 2120 мужчын і 277 жанчын, да грамадскіх работ – 2286 мужчын і 412 жанчын, 175 мужчын і 45 жанчын атрымалі толькі вымовы [670, ведомость 33].

У Віленскай губерні ў 1889 г. валаснымі судамі разглядалася 5715 спраў па дробных учынках (абвінавачвалася 7005 асоб) і 11 227 спраў па маёмасных спрэчках [581, с. 52]. У 1897 г. валаснымі судамі Віленскай губерні былі разгледжаны 4189 дробных крымінальных учынкаў і 7200 маёмасных спраў. Па крымінальных учынках былі прызнаныя вінаватымі 4073 асобы (0,4 % ад усяго сялянскага насельніцтва), з ліку якіх 400 пакарана розгамі, што складала 0,09 % ад сялянскага насельніцтва мужчынскага полу, а 1953 апраўдана, і

883 (21 %) справы залагоджаны прымірэннем бакоў. Па маёмасных спрэчках 534 справы (7,4 %) былі завершаны мірам [582, с. 95]. У гэтай губерні працэнт зваротаў сялян у валасныя суды быў ніжэйшым, чым на ўсходзе Беларусі. Так, у Віцебскай губерні ў 1899 г. валасныя суды разглядалі справы аб дробных учынках 14 488 асоб, у тым ліку 12 894 мужчын (2,2 % ад усяго мужчынскага сялянскага насельніцтва) і 1594 жанчыны (0,3 % ад усяго жаночага сялянскага насельніцтва). З іх ліку 2047 чалавек былі прыгавораныя да фізічнага пакарання (0,35 % ад усяго сялянскага насельніцтва мужчынскага полу), 2445 да арышту (0,4 %), 4083 да штрафаў (0,7 %), 1052 да грамадскіх работ, 348 атрымалі вымовы [588].

У 1897 г. у Гродзенскай губерні валаснымі судамі былі разгледжаны 34 273 грамадзянскія справы і 8814 дробных крымінальных [429]. У параўнанні з 1869 г. колькасць грамадзянскіх спраў вырасла ў 9,5 раза [447]. З ліку грамадзянскіх спраў у 1897 г. 15 538 (45,3 %) былі прыпынены (з прычыны прымірэння бакоў ці іх не з'яўлення на суд). У ходзе разгляду крымінальных спраў было прыцягнута да адказнасці 8884 асобы, з якіх 2705 (30,4 %) апраўдана, а 4791 асоба (у тым ліку 4005 мужчын і 786 жанчын) прысуджана да розных пакаранняў: да грашовых спагнанняў – 2325, арышту – 1337, фізічнага пакарання – 447, грамадскіх работ – 360. Колькасць прысудаў да фізічнага пакарання ў параўнанні з 1869 г. зменшылася ў 3,4 раза. А фактычна было пакарана толькі 166 асоб (38,6 % ад агульнай колькасці прыгавораных да біцця). Астатнія пазбеглі пакарання ці пасля апеляцыі ў вышэйшыя інстанцыі (35,8 % прыгавораных), ці з іншых прычын. Гэта сведчыла пра выразную гуманізацыю паставы валасных судоў у дадзеным пытанні. Можна меркаваць, што ў 1897 г. галоўнай прычынай крымінальных разбіральніцтваў былі сваркі і бойкі паміж сялянамі, паколькі дробныя крадзяжы складалі толькі 1,3 % ад агульнай колькасці такіх спраў. Усяго ж у 1897 г. на прыгаворы валасных судоў Гродзенскай губерні было пададзена 5550 апеляцый у вышэйшыя інстанцыі (12,8 %). Гэта сведчыла, што ў цэлым дадзеныя ўстановы карысталіся даверам сялян і выконвалі свае функцыі.

У Мінскай губерні ў 1897 г. было разгледжана 34 626 грамадзянскіх і 13 118 крымінальных спраў на 12 605 паседжаннях [320, арк. 1–2]. З ліку грамадзянскіх спраў 45 638 (44,4 %) былі завершаны мірам. У ходзе разгляду было прыцягнута да адказнасці 36 904 асобы, з якіх 14 394 (39,0 %) былі апраўданы, а 20 700 (у тым ліку 17 378 мужчын і 3322 жанчыны) асуджаны на розныя пакаранні: грашовых спагнанняў – 8227, арышту – 5397, фізічнага пакарання – 3400 (пакараных было 1508, ці 44,4 %), грамадскіх работ – 2512. Крадзяжы (728) складалі 1,8 % ад агульнай колькасці крымінальных спраў. На

прыгаворы валасных судоў у Мінскай губерні было пададзена 4500 апеляцый (3,1 %).

Пры валасных судах сфарміравалася нефармальная адвакатура, якая пераважна складалася з мясцовых пісьменных сялян і яўрэяў. Паслугі гэтых «адвакатаў» былі запатрабаваны сялянамі пры разборы іх спраў. Але гэтая дзейнасць выклікала незадаволенасць прадстаўнікоў дзяржаўнай адміністрацыі. Віленская па сялянскіх справах прысутнасць нават сцвярджала ў 1891 г., што «в редкой волости не найдется таких крестьян, которые мало-мальски зная грамоту, совсем бросают занятия хлебопашеством, избирая адвокатуру» [151, арк. 61].

У 1891 г. гродзенскі губернатар Бацюшкаў пісаў, што валасныя суды вырашаюць справы, «как им подкажет писарь, или какая из сторон, которая вдобавок угостит или заплатит еще за это» [151, арк. 6]. Каб выправіць сітуацыю, губернатар лічыў патрэбным абіраць суддзяў толькі на тры гады, а не на год, узмацніць іх асабістую адказнасць за прынятыя пастановы і перадаць валасным судам справы да 300 руб. (было да 100 руб.). Валасных жа старшыняў прапаноўваў зрабіць адначасова і старшынямі судоў [151, арк. 10–11].

Гэтыя прапановы часткова рэалізаваліся з увядзеннем у беларускіх губернях інстытута земскіх начальнікаў, пад кантроль якіх была пастаўлена дзейнасць валасных судоў. Цяпер чатырох валасных суддзяў земскія начальнікі прызначалі з ліку яе найменш васьмі выбраных сялянамі кандыдатаў. Яны павінны былі мець узрост не менш за 35 год і пажадана ведаць грамату. Адзін з іх станавіўся старшынёй суда. Прыгавор валаснога суда траціў свой канчатковы характар і мог быць перагледжаны земскім начальнікам ці іншымі вышэйшымі інстанцыямі. Але адначасова ўзрасла кампетэнцыя суда, якому цяпер падлягалі маёмасныя іскі на суму да 300 руб., а за крымінальныя ўчынкі суд мог пакараць арыштам да 25 сутак і штрафам да 30 руб. У цэлым гэтая рэформа павысіла эфектыўнасць дзейнасці валасных судоў. Раней іх вялікай праблемай з'яўлялася не выкананне сялянамі судовых пастаноў. Гродзенскі чыноўнік Сталяроў пісаў адносна гэтага: «Крестьяне не только добровольно не подчиняются решениям волостного суда, но и наложенные старостами и старшинами штрафы не платят без назначения в продажу их имущества» [434, арк. 45]. З увядзеннем пасады земскіх начальнікаў гэтае пытанне ў цэлым было знятае.

У тагачаснай публіцыстыцы і нават навуковай літаратуры ўвогуле пераважалі негатыўныя ацэнкі дзейнасці валасных судоў. Даследчык Мінскай губерні чыноўнік Ястрэмскі пісаў, што «волостной суд находится в руках юркого покладистого энциклопедиста волостного писаря», а інстытут земскіх начальнікаў «только

поддерживает силу волостного писаря в ущерб достоинству судей и самаго суда» [819, с. 97–98]. Шмат увагі дзейнасці валасных судоў надавалі члены камітэтаў і нарадаў аб патрэбах сельскай гаспадаркі на пачатку XX ст. Адзін з членаў віленскай нарады пісаў, што валасныя суды «руководствующие неопределенным, шатким понятием обычного права, являются постоянным источником нескончаемых тяжб между крестьянами»: «О начале строгой справедливости здесь не может быть речи ибо свидетельскими показаниями возможно всегда установить существование в данной местности такого обычая, какой необходим для более зажиточной и более влиятельной из заинтересованных сторон» [771, с. 47]. Большасць удзельнікаў гэтых нарадаў лічыла патрэбным падпарадкаваць сялян «общему с остальным населением правопорядку и <…> руководствоваться во всех своих житейских нуждах твердыми основаниями закона, единого и равного для всех» [771, с. 47].

Лідскі камітэт нават прыйшоў да высновы, што існаванне валаснога суда з'яўляецца шкодным: «Полный произвол, взятки, пьянство – вот спутники этого учреждения, извратившего смысл и значение высокогуманного закона» [771, с. 132]. Ашмянскі камітэт прапаноўваў «подвергнуть так называемое крестьянское обычное права кодификации», а «нынешние волостные суды упразднить», а калі гэта немагчыма зрабіць, дык унесці такія змены: «а) избирать в волостные суды лиц не моложе 35-летняго возраста, обязательно окончивших народные училища; б) назначить им вознаграждение; в) решения считать не окончательными; г) ввести институт почетных волостных судей из местных помещиков» [771, с. 179–180].

У 1904–1905 гг. на паседжаннях Мінскай губернскай нарады па перагляду заканадаўства аб сялянах выказваліся меркаванні, што сяляне крайне негатыўна ставяцца да валаснога суда і жадаюць, каб іх справы разглядаў суд з «паноў». Адзін з удзельнікаў называў валаснога пісара «нелегальным» і «единоличным» суддзёй у воласці [292, арк. 11 адв.]. Але іншы, наадварот, сцвярджаў, што валасныя суды апраўдваюць сваё прызначэнне, а «народ любит свой выборный, близко стоящий к нему суд, который лучше знает их нужды, чем чиновник» [292, арк. 12]. Прапановы кадыфікацыі сялянскіх прававых нормаў на практыцы вымагалі велізарнай юрыдычнай працы. Валасныя суды, пры слушнасці многіх крытычных закідаў адносна іх дзейнасці, усё ж у цэлым выконвалі свае функцыі ў развязанні шматлікіх спрэчак і канфліктаў паміж сялянамі.

Праведзены аўтарам мікрагістарычны аналіз судовых спраў у Скідзельскай і Берштаўскай валасцях Гродзенскага павета пераконвае, што ў большасці выпадкаў суддзі імкнуліся да справядлівага вы-

рашэння справы і маглі станавіцца на бок беднякоў у іх спрэчках з заможнымі сялянамі [758; 764]. І сяляне ўсё часцей звярталіся ў валасны суд. У 1905 г. валаснымі судамі Гродзенскай губерні было разгледжана 27 402 дробныя крымінальныя справы, ці па 154 справы ў сярэднім на адзін суд. Большасць складалі справы па асабістых крыўдах сялян – 53,6 %, на справы аб крадзяжах і падманах прыходзілася 13,8 %. Паводле гэтай статыстыкі прасочваюцца адрозненні ў праваслаўных і каталіцкіх мясцовасцях. З іх вынікае, што праваслаўныя сяляне ахвотней звярталіся ў валасны суд, чым каталікі. Напрыклад, у Сакольскім павеце Гродзенскай губерні, дзе абсалютная большасць сялян належала да каталіцкай канфесіі, адна дробная крымінальная справа прыходзілася прыкладна на 70 сялянскіх душ, а ў пераважна праваслаўных Брэсцкім і Кобрынскім паветах – адпаведна на 32 і 38 душ. Асабліва хутка расла колькасць грамадзянскіх спраў. Усяго ў Гродзенскай губерні ў 1905 г. валаснымі судамі было разгледжана 61 077 такіх спраў, ці ў сярэднім 343 справы на адну воласць [474, арк. 18–19]. Абсалютная большасць з іх (75 %) датычыла маёмасных спрэчак паміж сялянамі.

Захавалася традыцыя пачастунка валасных суддзяў гарэлкай выйграўшым справу бокам, хаця земскія начальнікі нярэдка накладвалі за такую правіну на суддзяў грашовыя штрафы [758]. Дадзеную традыцыю, на наш погляд, нельга разглядаць толькі як праяву карумпаванасці і цалкам атаясамляць з хабарам. Гэта быў своеасаблівы спосаб камунікацыі ў сялянскім асяроддзі, спосаб абмеркавання і выпрацоўкі нормаў звычаёвага права.

З пачаткам Першай сусветнай вайны ў 1914 г. адбылося рэзкае скарачэнне спраў у валасных судах. Земскі начальнік Азнабішын з Гродзенскага павета пісаў, што пасля забароны продажу спіртных напіткаў у вёсках «воцарилась полнейшая тишина и спокойствие», колькасць крымінальных спраў скарацілася на 60 %, а грамадзянскіх – амаль на 90 %: «<…> уменьшение дел в волостном суде, преимущественно сутяжнического характера зависит главным образом от прекращения продажи в сельских местностях спиртных напитков, этого великого соблазна, как для совести волостных судей, так и вообще крестьянской совести» [479, арк. 17–21 адв.]. Ва ўмовах вайны многія маёмасныя спрэчкі і прэтэнзіі сялян перасталі быць актуальнымі, паколькі на першы план выйшлі зусім іншыя праблемы.

Самым суровым пакараннем, на якое ад пачатку існавання меў права валасны суд, было біццё розгамі за дробныя крымінальныя ўчынкі – не больш 20 удараў. Фізічны гвалт над асобай выступаў неад'емным элементам штодзённага жыцця тагачаснай вёскі. Адам Багдановіч успамінаў, што ў першыя пасляэформенныя гады ў воласці

«порка была явлением обычным – и какая порка!»: «Пороли беспощадно и за недоимку в подушных, и за недоимку в выкупных (это, так сказать, административная порка) <…> за ссоры, драки, сопротивления» [54, № 5, с. 57–58]. Прычым валасныя старшыні і пісары часта асабіста загадвалі секчы сялян, а потым ужо валасныя суды прымалі адпаведныя пастановы. Але паступова падобныя практыкі становяцца ўсё больш рэдкімі. У некаторых валасцях пакаранне розгамі было вельмі пашыранае, а ў іншых амаль не выкарыстоўвалася. Гэта залежала ад асобы валаснога старшыні, які ўплываў на пастановы суда, а таксама ад звычаяў і традыцый, што панавалі ў той ці іншай мясцовасці. Напрыклад, у 1871 г. у Свіслацкай воласці Ваўкаваскага павета Гродзенскай губерні цялесныя пакаранні скасаваліся 28 разоў, а ў Юшкаўскай воласці таго ж павета – ніводнага разу [420, арк. 4]. У Косаўскай воласці Слонімскага павета Гродзенскай губерні ў 1888 г. секлі по прыговорах валаснога суда ажно 39 разоў. У Гродзенскім павеце ў тым жа годзе валасныя суды ў сярэднім прыгаворвалі да біцця розгамі 5 асоб. У Магілёўскай губерні ў 1900 г. да цялеснага пакарання было прыгаворана 1124 селяніны, ці ў сярэднім асобны валасны суд прыгаворваў да гэтага пакарання 7–8 чалавек за год [670, ведомость 33]. У 1904 г. цялесныя пакаранні ў валасных судах былі забароненыя. З таго часу за невялікія крадзяжы і іншыя дробныя крымінальныя злачынствы валасны суд максімальна мог прысудзіць да арышту тэрмінам на 1 месяц.

У 1912 г. у Віленскай губерні разглядалася 17 438 дробных крымінальных і 42 726 грамадзянскіх спраў. На адзін валасны суд у сярэднім выходзіла 119 крымінальных і 291 грамадзянская справа [584, с. 93]. У Мінскай губерні ў 1913 г. у валасных судах разглядаліся 39 784 дробныя крымінальныя і 107 353 грамадзянскія справы, ці адпаведна 197 і 531 на адзін валасны суд у сярэднім [607, с. 67]. У 1913 г. у Магілёўскай губерні перад валаснымі судамі была абвінавачана за дробныя крымінальныя ўчынкі 36 471 асоба (31 134 мужчыны і 5337 жанчын), што ў 2,5 разы перавышала паказчык 1899 г. З іх ліку 9710 (8266 мужчын і 1444 жанчыны) было арыштавана, на 3253 асобы (2950 мужчын і 303 жанчыны) накладзены грашовыя штрафы, 282 (248 мужчын і 34 жанчыны) атрымалі вымовы [617, приложение 23]. У Віцебскай губерні за 1914 г. валаснымі судамі было разгледжана 73 089 спраў, у тым ліку 16 634 крымінальных і 56 455 грамадзянскіх, ці ў сярэднім на адзін суд 85 крымінальных і 288 грамадзянскіх [590, с. 59]. Такім чынам, негледзячы на ўсе праблемы і недахопы, гэтыя ўстановы адыгрывалі вельмі важную ролю ў жыцці вёскі, прычым, як можна меркаваць на падставе дынамікі колькасці спраў, роля валасных судоў толькі ўзрастала.

Апроч валасных улад істотныя функцыі ў дзейнасці сялянскага самакіравання выконвала і вясковая грамада. Яна з'яўлялася першым базавым узроўнем гэтага самакіравання. Грамада як сацыяльны інстытут функцыянавала ў беларускай вёсцы з часоў глыбокай старажытнасці. І ў часы прыгону землеўладальнік не мог цалкам замяніць ці адмяніць нефармальныя функцыі грамады, якія грунтаваліся на агульных правах карыстання (пасьбішчамі, лесам, вадаёмамі) і агульных сялянскіх справах (калектыўная арэнда, супольная пабудова грамадскіх аб'ектаў і г. д.) [104]. У ходзе рэформы 1861 г. утвараліся «сельские общества», якія звычайна аб'ядноўвалі некалькі суседніх населеных пунктаў. Часта гэта было фармальнае аб'яднанне, не звязанае агульнымі інтарэсамі жыхароў. Рэальнай грамадой ці адзінкай самакіравання і самаарганізацыі найчасцей з'яўляліся сялянскія супольнасці вёсак, аб'яднаных агульнай зямельнай уласнасцю, зафіксаванай спачатку ва ўстаўной грамаце з памешчыкам, а потым выкупным актам, складзеным паверачнымі камісіямі ў часе далейшай рэалізацыі аграрнай рэформы (ці люстрацыйнымі актамі адносна былых дзяржаўных сялян). У тагачаснай афіцыйнай літаратуры гэтыя супольнасці называліся «абшчынамі», хаця самімі беларускімі сялянамі такі тэрмін не выкарыстоўваўся. У часе рэалізацыі рэформы значэнне такой грамады-абшчыны вельмі ўзрасло, паколькі сяляне амаль у кожным канкрэтным выпадку зацята змагаліся за спрэчную зямлю са сваімі былымі ўладальнікамі, а гэта патрабавала ад іх моцнай салідарнасці і супольнага дзеяння. Але гэтая дзейнасць грамады часта мела нефармальны характар, паколькі ўлады забаранялі і абвяшчалі незаконнымі ўсе сходы сялян і іх пастановы, якія датычылі, напрыклад, пазямельных адносін з памешчыкамі, правоў уласнасці на тыя ці іншыя спрэчныя зямельныя ўгоддзі. За грамадой у паслярэформенны час фактычна заставаліся хутарскія сялянскія гаспадаркі палясоўшчыкаў, хаця фармальна яны і былі прыпісаныя да бліжэйшага «сельского общества». У афіцыйнай статыстыцы часам нават асобна прыводзіліся даныя пра «общества» і «общины» [749].

Такім чынам, рэальная сялянская грамада адпавядала найчасцей асобнай вёсцы і ўяўляла сабой прыклад традыцыйнай вясковай супольнасці. Яе члены выразна ўсведамлялі сабе прасторавыя межы гэтай супольнасці. Невялікі памер групы і адносна нізкая мабільнасць большасці яе членаў прыводзілі да таго, што вяскоўцы ўсё жыццё асабіста кантактавалі пераважна толькі паміж сабой. Цесныя сувязі і ўзаемазалежнасці ўтваралі цэласны эканамічны ўклад, які станавіў падставу існавання гэтай супольнасці. Гэта ў сваю чаргу выклікала да жыцця цэлы шэраг механізмаў, якія заспакойвалі

асноўныя сацыяльныя і культурныя патрэбы вяскоўцаў. У выніку фарміравалася вельмі моцнае пачуццё прыналежнасці да ўласнай вясковай супольнасці і адпаведна адрозненні ад іншых лакальных супольнасцей і больш шырокіх сацыяльных укладаў. Гэтае пачуццё ўтварала падставу самаідэнтыфікацыі селяніна.

В. П. Панюціч сцвярджае, што «на востоке Белоруссии после отмены крепостного права роль поземельной функции общины и общественного землевладения заметно возросли» [676, с. 71]. Хаця і ў тых беларускіх вёсках, дзе фармальна існавала грамадскае землеўладанне, перадзелы зямлі фактычна не праводзіліся [753, с. 52]. В. П. Панюціч таксама лічыць, што працэсы маёмаснай дыферэнцыяцыі сялянства прыводзілі да распаду сялянскай абшчыны: «На сельских сходах обострялась борьба между зажиточным и беднейшим крестьянством. Засилье кулачества в общине <…> захватывавшего земли крестьянской бедноты, возрастало» [676, с. 82]. Аднак гэтыя высновы аўтара не падмацоўваліся аналізам канкрэтных прыкладаў такога супрацьстаяння.

Архіўныя крыніцы даюць падставы сцвярджаць, што ў першыя пасляпрэформенныя гады фармальны інстытут грамады і сельскіх сходаў дзейнічаў вельмі слаба. Калежскі асэсар Зіноўеў, які ў 1867 г. рэвізаваў валасныя ўстановы Віленскай губерні, напрыклад, адзначаў, што сельскія сходы ўвогуле не збіраюцца, за выключэннем правядзення рэкруцкіх набораў [136, арк. 14 адв.]. Да падобных высноў у Гродзенскай губерні прыйшоў чыноўнік П. І. Нябольсін, які пісаў, што ў Жыдамлянскай воласці Гродзенскага павета на працягу 1867 г. было прынята толькі 11 прыгавораў сельскіх сходаў, хаця ў воласці налічвалася 15 «обществ» [450, арк. 12 адв.]. Нябольсін сцвярджаў, што «основная единица и существенный, жизненный корень крестьянского самоуправления – сельский сход, "мир" или, как здесь говорят, "громада", если и существует, то существует только фиктивно, и если на нее иногда и ссылаются, то разве только для одной проформы, кроме, быть может рекрутских дел и весьма немногих других». Мясцовы пісар таксама патлумачыў чыноўніку, што сельскіх сходаў у вёсках не праводзяць, а збіраюць жыхароў у валасную канцылярыю і звычайна праводзяць сельскія сходы адначасова з валаснымі: «<...> домохозяев «сгоняют» в канцелярию <...> без всякой церемонии, не разбирая, далеко ли крестьянам тащиться из дому в «волость» и легко ли им покидать часто самыя спешныя, самыя насущныя и настоятельныя свои по хозяйству надобности и обязанности». Прычынай таму была, па словах пісара, непісьменнасць сялян: па вёсках нібыта няма каму запісаць прыгавор грамады [450, арк. 12 адв.]. Можна меркаваць, што ў многіх валасцях традыцыя

праводзіць вясковыя сходы ў цэнтры воласці захавалася да Першай сусветнай вайны. Хаця Баляслаў Грабінскі ўзгадваў, што ў яго вёсцы сходы адбываліся проста на вясковай вуліцы: «Часта стараста, заказваючы на сход, падаваў месца: “На калодах каля Кірэйчыка”» [105, с. 186].

У абсалютнай большасці валасцей афіцыйнае справаводства вясковых грамад («сельских обществ») на працягу другой паловы XIX – пачатку XX ст. ажыццяўлялася валаснымі пісарамі ці іх памочнікамі, а дакументы (у першую чаргу пастановы сельскіх сходаў) захоўваліся ў валасной канцылярыі. Там жа, пад кантролем валаснога старшыні, звычайна захоўваліся і грашовыя складкі грамад. Інакш кажучы, вясковыя грамады не мелі ўласнай канцылярыі і аўтаномнага бюджэту. Гэта ставіла іх у моцную залежнасць ад валасной улады.

Слабасць афіцыйнага інстытута сельскай грамады пацвярджалася тым фактам, што сяляне не жадалі займаць пасаду сельскага старасты і звычайна пагаджаліся прыняць яе толькі пад прымусам. Адзін з міравых пасярэднікаў Слонімскага павета Гродзенскай губерні пісаў у 1870 г.: «Сельские старосты мало имеют значения у крестьян. В сельские старосты крестьяне выбирают лиц вовсе не способных к служебной деятельности, охотников служить не является <…> каждый домохозяин прибегает к разного рода уловкам, чтобы не быть выбранным на должность. Староста, будучи уволен от должности за какой-либо по службе проступок благодарит Посреднику за оказанную ему начальством милость» [446, арк. 331–333 адв.]. Паводле закона, асоба, абраная на такую пасаду, не магла ад яе адмовіцца. Толькі нямногія старасты атрымлівалі грашовае ўзнагароджанне (звычайна вельмі нязначнае). Іх галоўным прывілеем з’яўлялася вызваленне ад «мірскіх» збораў і выканання натуральных павіннасцей. Але гэтыя прывілеі пераважваліся выкананнем вельмі непрыемных абавязкаў. Галоўным з іх было забеспячэнне выплаты гаспадарамі вёскі дзяржаўных падаткаў і выканання натуральных павіннасцей. Паколькі звычайна сяляне вельмі неахвотна плацілі падаткі, на старастаў часта абрушваўся гнеў дзяржаўных чыноўнікаў. Таму сельскія старасты і былі шчыра ўдзячныя міравым пасярэднікам, калі апошнія звальнялі іх з пасадаў за «нерадзівасць» па службе. Напрыклад, у Мінскай губерні за 1878 г. было аддадзена пад суд 6 сельскіх старастаў, а вызвалена са сваіх пасадаў без суда 120 [333]. Віцебскі губернатар В. М. Даўгарукаў у справаздачы за 1887 г. пісаў: «Старшины и старосты большиею частию неграмотны или полуграмотны и по развитию далеко не удовлетворяют своему назначению, почему нередко злоупотребляют должностью» [586, с. 77]. За 1887 г. у Віцебскай губерні было аддадзена пад суд за службовыя

злоўжыванні 2 сельскія старасты, а звольнена без суда 68 [586, с. 77]. У Віленскай губерні за 1899 г. было аддадзена пад суд 8 старастаў, а вызвалены з пасадаў 30 [583, с. 97].

Пра слабасць інстытута грамады ў беларускай вёсцы і неразвітасць калектыўных формаў дзейнасці пісалі многія тагачасныя аўтары. А. Ф. Лісоўскі так характарызаваў рысы грамадскага жыцця сялян Віцебшчыны: «Если и была когда нибудь у нас община, то следы ея, по крайней мере в Витебской губернии, совершенно затерялись. Никогда белорусы ничего не делают сообща» [276, с. 4]. Таму, на думку гэтага аўтара, грамада як сацыяльны інстытут не набыла ў беларускай вёсцы выразна сфарміраваных рыс: «Никогда в белорусских деревнях не бывает никаких сходок для обсуждения мирских дел <...> слова: мир, мирской, общество, общественный — до реформы совсем неизвестны были белорусам» [276, с. 5]. Праваслаўны святар Дзем’яновіч са Слонімскага павета Гродзенскай губерні пісаў пра мясцовых сялян: «Общественность у наших крестьян в зародыше. Предприятий общества сообща никаких не затевают, разве сельский староста с руганью и угрозами штрафа под каждым окном, выгонит целое общество для починки какой-нибудь гребли и только» [276, с. 368]. Іван Карскі прыводзіў характэрнае выказванне сялян у адказ на прапановы рэалізаваць супольныя праекты: «Ат! Пережыли нашы дзеды и бацьке, не копали сажалок, – переживем и мы. Не трэба лишней работы» [276, с. 59]. Аднак праваслаўны святар з Беластоцкага павета Аляксей Ваўкавыцкі сцвярджаў, што «против громады никто никогда не пойдет, хотя мнение народа о громаде невысокое, так как крикуны имеют в ней решающее значение» [880, s. 66].

Індывідуалізм беларускіх сялян меў пад сабой глыбінныя гаспадарчыя падставы. Самым эфэктыўным тыпам арганізацыі земляробчай дзейнасці ў прыродных умовах Беларусі з’яўлялася хутарская гаспадарка ці аднасель. Стральцы (палясоўшчыкі), якія здаўна жылі на лясных хутарах, пацвярджалі гэта сваім вопытам. Іх гаспадаркі звычайна былі больш заможныя, чым у вясковых жыхароў. Але з пунтку гледжання дзяржавы і землеўласнікаў кіраваць вёскай, спаганяць з сялян падаткі і павіннасці было лягчэй, сабраўшы вяскоўцаў у больш-менш вялікім паселішчы. Пра гэта пісаў у сваім даследаванні Гродзенскай губерні Павел Баброўскі: «При барщинном хозяйстве помещику тем выгоднее, чем более сгруппированы его крестьяне, но при освобождении труда, каждый крестьянин станет заботиться уже сам о своих выгодах, почему в будущем <...> можно ожидать и даже желать расселения крестьян» [49, с. 496]. Этнограф Павел Шэйн таксама адзначаў: «Хотя белорусы имеют большое стремление к подворному пользованию землей,

однако селятся они деревнями» [276, с. 3]. Прычынай гэтага Шэйн таксама лічыў памешчыкаў. Найбольш пашыраны тып прасторавай арганізацыі беларускай вёскі з вялікай колькасцю выцягнутых уздоўж адной вуліцы двароў з'яўляўся спараджэннем фальваркавай прыгонніцкай сістэмы.

Але ў цэлым уплыў вясковай грамады на паводзіны канкрэтнага чалавека ці цэлай сям'і ў паслярэформенны час заставаўся моцным. Апроч сілы грамадскай думкі існавалі нефармальныя практыкі пакарання парушальнікаў прынятых нормаў. Праваслаўны святар Келясцін Брэн у этнаграфічным апісанні Бельскага павета адзначаў, што ў дзяржаўных вёсках селянін, злоўлены на крадзяжы, страчваў права голасу на грамадскіх сходах, на яго вешалі скрадзеныя рэчы і ў такім выглядзе вадзілі па вёсцы ды білі дубцамі [253, с. 370]. Грамада выступала гарантам розных дамоў і здзелак паміж сялянамі. Сяляне часта прадавалі, закладвалі, аддавалі ў арэнду свае зямельныя надзелы без ніякіх папераў. Пры падзеле маёмасці пасля смерці гаспадара прысутныя сведкі фіксавалі ў сваёй памяці ўласнасць, якая належала непаўналетнім дзецям таксама без ніякіх вопісаў і пячатак: «...крестьяне на эту опись совсем не обращают внимания; хотя бы она каким-нибудь образом и затерялась, им решительно все равно, так как бывшие при описи свидетели все держат в памяти» [276, с. 22]. Аднак у канцы XIX – на пачатку XX ст. у такіх справах сяляне ўсё часцей звяртаюцца да натарыусаў і афармляюць афіцыйныя паперы, што сведчыла пра аслабленне ролі нефармальнага грамадскага кантролю.

Адным з самых цяжкіх абавязкаў вясковай грамады і выпрабаваннем салідарнасці сялян з'яўлялася пастаўка рэкрутаў у царскае войска. Хабары за вызваленне ад службы сталі вельмі істотнай крыніцай узбагачэння валасных чыноў. Святар Астрынскага прыхода ў Віленскай губерні Мікалай Пігулеўскі пісаў, што пагроза аддання ў рэкруты з'яўлялася эфектыўным сродкам запалохвання вясковай беднаты – грамада на сходзе магла пастанавіць аддаць у рэкруты неплацельшчыка падаткаў [44, арк. 20 адв.]. Аналіз архіўных дакументаў сведчыць, што родныя амаль усіх без выключэння рэкрутаў падавалі скаргі на несправядлівасць сельскіх і валасных улад, але амаль усе гэтыя скаргі адхіляліся ўладамі [764]. Увядзенне ўсеагульнай вайсковай павіннасці ў 1874 г. здымала з вясковай грамады гэты непрыемны абавязак.

Вясковая грамада мела таксама права прымаць пастанову аб выключэнні са свайго складу сялян, якіх лічыла асацыяльным элементам, што азначала для апошніх высылку на пасяленне ў Сібір ці іншыя аддаленыя рэгіёны імперыі. Калі хтосьці з сялян трапляў у турму за крымінальнае злачынства, дык незадоўга перад яго вый-

сцем на волю грамада павінна была прыняць пастанову, ці згодна яна прыняць арыштанта назад у свой склад. У выпадку адмовы вязня чакала высылка ў Сібір. Напрыклад, у Мінскай губерні за 1862–1880 гг. сельскімі грамадамі было адмоўлена ў прыёме 382 асобам, а прынята зноўку ў свой склад 338 [328, арк. 91–91 адв.]. Прычым колькасць такіх прыгавораў увесь час узрастала. За 1862–1866 г. былі прыняты ў склад сваіх грамад 3 асобы, а 4 адмоўлена, а ў 1880 г. гэтыя лічбы складалі адпаведна 64 і 59. Сярод тых асоб, якім было адмоўлена ў праве вярнуцца ў родную вёску, 2 абвінавачваліся ў забойстве, 2 – у бадзяжніцтве і разбоі, 6 – у падпалах, 55 – у «порочном поведении» і 319 – у крадзяжах. Падобныя справы часта падзялялі вясковыя супольнасці, паколькі сваякі высылаемага звычайна станавіліся на яго бок і дамагаліся прыняцця ў грамаду. На такія пастановы таксама моцна ўплываў ціск з боку валасных улад і міравых пасярэднікаў (пазней – земскіх начальнікаў) [764]. Але часам вясковая супольнасць тварыла ўласны самасуд над асобамі, якія атручвалі сваімі крымінальнымі ўчынкамі жыццё аднавяскоўцаў. У такіх выпадках усіх жыхароў вёскі абавязвала правіла своеасаблівай «амэрты», калі паліцыя не магла ад іх нічога даведацца пра акалічнасці забойства.

Радыкалізацыя настрояў у беларускай вёсцы ў час рэвалюцыі 1905–1907 гг. часта прыводзіла да расколу грамады на прыхільнікаў рашучых сілавых дзеянняў адносна памешчыкаў і дзяржаўных улад з аднаго боку, і прыхільнікаў кампрамісу – з другога. Існуючыя крыніцы не дазваляюць дакладна ўстанавіць, наколькі гэты падзел карэляваўся з маёмаснай дыферэнцыяцыяй унутры вясковых супольнасцей. Таксама складана адказаць на пытанне, як паўплывала на функцыянаванне грамады хутарызацыя вёскі ў выніку сталыпінскай рэформы, тым болей, што гэты працэс набірае сілу толькі ў апошняе перадваеннае дзесяцігоддзе.

## 3.4. Узаемадачыненні з іншымі саслоўнымі групамі

Сельская мясцовасць Беларусі была населена не толькі сялянамі, каля 20 % жыхароў складалі тут прадстаўнікі іншых саслоўных груп. Апошнія не ўдзельнічалі ў сялянскім самакіраванні, что з’яўлялася адным з асноўных архаізмаў у яго арганізацыі. Між тым гаспадарчыя і сацыякультурныя ўзаемаадносіны сялян з прадстаўнікамі іншых саслоўных і этнаканфесійных груп адыгрывалі велізарную ролю ў развіцці паслярэформеннай беларускай вёскі. Можна вылучыць тры асноўныя групы: яўрэі, засцянковая шляхта і памешчыкі.

У некаторых мясцовасцях заўважную ролю адыгрывалі таксама расіяне-стараверы, татары, цыгане. Колькасна самай вялікай пасля сялян этнасацыяльнай групай па-за гарадамі з'яўляліся яўрэі – асноўнае насельніцтва шматлікіх беларускіх мястэчак. Сфера гандлю амаль цалкам кантралявалася яўрэямі, яны ж дамінавалі і ў сферы рамёстваў і дробнай вытворчасці, паколькі пазіцыі выхадцаў з сялян сярод прадпрымальнікаў Беларусі былі вельмі слабыя [63, с. 24]. Хаця яўрэям з 1882 г. забаранялася сяліцца ў вёсках, але на практыцы гэтая забарона паўсюдна парушалася [423, арк. 1]. Большасць вясковых карчмароў у Беларусі былі яўрэямі, і іх роля ў жыцці вясковай супольнасці з'яўлялася вельмі важнай, пра што пісаў этнограф Мікалай Нікафароўскі: «Ицка с мельчайшими и только для него одного известными подробностями знает быт и жизнь всех и каждого, Ицка советник и подмога во многих, нередко и важных делах своих клиентов»[560, с. 108]. Многія вясковыя яўрэі зараблялі сабе на жыццё адвакатурай пры валасных і міравых судах, а таксама напісаннем прашэнняў і скаргаў для сялян, чым наклікалі на сябе гнеў з боку дзяржаўных улад і абвінавачанні ў штучным раздзьмухванні маёмасных спрэчак і цяжбаў паміж вяскоўцамі. Захавалася вялізная колькасць скаргаў, у якіх яўрэі абвінавачваліся ў незаконным продажы гарэлкі, подкупе валасных улад і г. д. Але праведзены аўтарам мікрагістарычны аналіз такіх спраў па Берштаўскай і Скідзельскай валасцях Гродзенскага павета паказаў, што за ўсімі імі стаяла канкурэнтная барацьба, а аўтарамі некаторых скаргаў, характар тэксту якіх можна было б з сённяшняга пункту гледжання акрэсліць як антысеміцкі, таксама з'яўляліся яўрэі [758; 764].

У 1883 г. Міністэрства ўнутраных спраў узняло пытанне пра магчымасць надання сялянскім грамадам права прымаць пастановы аб высылцы ў аддаленыя губерні мяшчан, якія жылі ў вёсках і вызначаліся асацыяльнымі паводзінамі. Гродзенскі губернатар Цэймерн падтрымаў гэтую ідэю, а таксама прапанаваў даць магчымасць сялянам, якія жывуць у мястэчках, мець права голасу ў мяшчанскіх грамадах пры разглядзе пытанняў падобнага характару, паколькі «местечки служат притоном и рассадником воров-конокрадов» [423, арк. 10 адв.]. Такім чынам, само жыццё пераконвала ў неабходнасці стварэння надсаслоўнага мясцовага самакіравання, якое б аб'ядноўвала ўсіх жыхароў лакальных супольнасцей. Але дзяржаўныя ўлады гатовы былі пайсці толькі на выбарачныя адступленні ад саслоўнага прынцыпу. Выпадкі прыгавораў сялян аб высяленні асобных яўрэяў з іх вёскі на практыцы сустракаліся, як і выпадкі абароны яўрэяў ад высялення, якіх сяляне характарызавалі, як добрых і сумленных людзей [758, с. 226].

Амаль штодзённа прыходзілі ў кожную вёску вандроўныя яўрэйскія гандляры, якія падтрымлівалі цесныя, часта сяброўскія, сувязі з мясцовымі сялянамі. Увогуле, беларускія сяляне абсалютна не былі закрытыя ў дачыненнях з прадстаўнікамі іншых сацыяльных і этнаканфесійных груп, нягледзячы на адрозненні ў рэлігіі і мове. Баляслаў Грабінскі ўзгадвае, што хата яго дзеда была месцам начлегу ўсім, хто меў патрэбу пераначаваць у вёсцы: «Жабрушчы дзед, жыд – гандляр збожжам ці жывёлаю, жыдоўка з кашом, што купляе яйкі й прадае іголкі, ґузікі ды цукеркі, а зімою – сям'я цыганоў, – усе ведалі, што начлег пэўны. Некаторыя з іх былі заўсёдашнімі начлежнікамі шмат гадоў. Жыдоўку з Дубровы, Фэйґу, мы, дзеці, называлі цёткаю. Яна, як прыйдзе нанач, памагае матцы варыць вячэру (рабіла смачную зацерку), а як матка занятая, а каторае з нас, дзяцей, перад сном мовіла пацер і ня ўмела добра, то яна памагала пераказаць пацер» [105, с. 182]. Таксама і сяляне, калі прыходзілі ў мястэчка па сваіх справах, часта спыняліся ў хаце сваіх знаёмых яўрэяў. Здаўна дакладна ўсталяваны падзел роляў у эканамічным жыцці паміж яўрэямі і сялянамі-беларусамі садзейнічаў таму, што не існавала сур'ёзных падстаў для вострых сацыяльных канфліктаў. Як адзначыў адзін з карэспандэнтаў этногафа П. Шэйна, «нигде в Белоруссии не было ничего похожаго на еврейские погромы» [276, с. 20]. Канфліктныя сітуацыі, крыніцай якіх былі забабоны, час ад часу ўзнікалі [764, с. 232], але ў цэлым вельмі рэдка. Патэнцыяльнай прычынай для канфліктаў у першую чаргу магла быць канкурэнцыя паміж яўрэйскімі прадпрымальнікамі і сялянскай буржуазіяй. Але з прычыны слабасці і малалікасці апошняй гэтая канфліктная лінія ў мясцовым жыцці амаль не выяўлялася. Разам з тым, паміж сялянамі і яўрэямі пралягала вялікая сацыяльная дыстанцыя, характэрная для кожнага традыцыйнага грамадства. Напрыклад, змешаныя шлюбы паміж імі былі практычна выключаны, і парушэнняў гэтага правіла, здаецца, не было.

Гэта ж датычыла і ўзаемаадносін паміж сялянамі і дробнай засцянковай шляхтай, якая складала другую па колькасці сацыяльную групу ў сельскай прасторы Беларусі. Большасць такой шляхты вяла сялянскі лад жыцця. У выніку рэалізацыі ўрадавай палітыкі дэкласацыі значная частка яе прадстаўнікоў была пераведзена ў ападаткаваныя разрады «аднадворцаў» і «грамадзян», альбо ў склад дзяржаўных сялян [256]. Напрыклад, у Мінскай губерні ў 1869 г., паводле даных мясцовай адміністрацыі, сярод сялянскага насельніцтва налічвалася 9310 мужчынскіх душ «аднадворцаў» (2,5 %), 1584 «грамадзян» (0,3 %) і 2731 «бывшей польской шляхты» (0,7 %) [137, арк. 56]. У Гродзенскай губерні ў 1869 г. налічвалася 5153 мужчынскія

душы аднадворцаў [393, арк. 13]. У ходзе рэалізацыі рэформы 1861 г. «аднадворцы» і пераведзеная ў сялян шляхта далучаліся да сістэмы валаснога самакіравання. Але яны ўсімі сіламі імкнуліся перайсці ў мяшчанства і прыпісацца да гарадскіх грамад. Гродзенскі губернатар М. М. Цэймерн, напрыклад, пісаў у 1883 г.: «Крестьяне при переходе иногда целыми деревнями в мещанское сословие участков своих <…> не продавали и никогда в города не переселялись, а продолжают жить в деревнях и заниматься земледелием» [423, арк. 16 адв.]. Імкненне да пераходу ў мяшчанства сярод былой шляхты было выклікана жаданнем захаваць свой асобны ад сялян сацыяльны статус, хаця б і ў сімвалічнай форме. Асабліва ж баялася гэтая шляхта магчымых цялесных пакаранняў паводле прыгавораў валасных судоў, што было б для шляхціча страшэннай ганьбай і поўнай стратай шляхецкай годнасці. Міравы пасярэднік са Слонімскага павета нават пісьмова запытаў губернатара, «могут ли быть подвергаемы телесному наказанию землевладельцы, не доказавшие прав на дворянство» [441, арк. 1]. Дзяржаўная адміністрацыя ўсё ж старалася не дапускаць такіх выпадкаў, каб не даводзіць сітуацыю да адкрытага канфлікту. Магчыма, што такіх прэцэдэнтаў і не было ўвогуле.

Такім чынам, выразная сацыякультурнае адрозненне былой шляхты захоўвалася, прычым нават у далёкай Сібіры, куды ў выніку высылкі пасля паўстання ці добраахвотнага перасялення патрапіла частка беларускай шляхты [759]. Праведзены аўтарам сацыядэмаграфічны аналіз насельніцтва шляхецкіх ваколіц Гродзенскага павета, паводле матэрыялаў рэвізскага перапісу 1858 г., паказвае, што для дробнай шляхты ў параўнанні з сялянамі характэрнымі былі меншыя сем'і (пераважала мадэль малой нуклеарнай сям'і), шляхецкая моладзь пазней уступала ў шлюб, для гэтай групы характэрная была больш высокая тэрытарыяльная мабільнасць у параўнанні з сялянамі. Па сутнасці, у асяроддзі дробнай шляхты ўжо ў сярэдзіне XIX ст. выявіліся тыя дэмаграфічныя змены, якія пазней адбываліся ў вясковых сялянскіх супольнасцях. Асаблівы ўплыў дробная шляхта аказвала на сялян каталіцкага веравызнання, з якімі рэгулярна спатыкалася ў касцёле. Гэты ўплыў праявіўся ў больш хуткіх зменах дэмаграфічных паказчыкаў сярод насельніцтва каталіцкіх вёсак, больш дынамічным працэсе разбурэння традыцыйнай культуры і знікненні фальклору. На пачатку XX ст. павялічваецца і колькасць шлюбаў паміж дробнай шляхтай і сялянамі [765].

Найбольш важнымі з эканамічнага пункту гледжання для развіцця паслярэформеннай вёскі былі ўзаемаадносіны сялян з сацыяльнай групай буйных землеўладальнікаў. Апошнім належала пасля рэформы 1861 г. прыкладна палова сельскагаспадарчых зямель у

Беларусі, у тым ліку большасць лясоў і лугавых пасьбішчаў. А сяляне пакутавалі ад малазямелля, асабліва ж катастрафічна бракавала ім якраз пашы для хатняй жывёлы. І ў гэтым заключалася галоўная супярэчнасць і крыніца канфліктаў у развіцці паслярэформеннай вёскі. В. Насевіч слушна заўважыў, што нават поўная ліквідацыя памеснага землеўладання прынцыпова не вырашала праблему абеззямельвання сялянства, а толькі адкладала яе на некаторы час, што пацвердзіў вопыт сацыялістычных пераўтварэнняў ужо ў паслярэвалюцыйны перыяд [571, с. 288]. Але адсутнасць сур'ёзных урадавых рэформаў, скіраваных на абмежаванне памешчыцкага землеўладання, спараджала існаванне перманентнай канфліктнай сітуацыі ў сялянскім грамадстве і моцна павышала градус сацыяльнага напружання.

На характар узаемадачыненняў сялянства і памешчыкаў у паслярэформенны перыяд велізарны ўплыў аказвала спадчына эпохі прыгону. Абвешчаныя ў 1861 г. умовы вызвалення аказаліся для сялян праўдзівым расчараваннем і выклікалі шматлікія хваляванні, самай пашыранай формай якіх стала адмова ад выканання паншчыны. Варожасць паміж панскім дваром і вёскай у часе паўстання 1863–1864 гг. часта выяўлялася ў тым, што сяляне пераследавалі паўстанцаў, бо лічылі, што тыя хочуць вярнуць назад паншчыну, а таксама даносілі ўладам на сваіх памешчыкаў [852, s. 104]. У кастрычніку 1863 г. Ядвіга Кяневіч з Мазырскага павета пісала, што яе сям'я перапыніла, наколькі гэта было магчыма, усялякія стасункі з вёскай, каб пазбегнуць канфліктных сітуацый, а большасць землеўладальнікаў у гэтым павеце ўвогуле кінулі свае маёнткі і паўцякалі ў горад [852, s. 152]. Такім чынам, 1863 год у многіх мясцовасцях Беларусі выразна паглыбіў і без таго вялікую сацыяльна-культурную дыстанцыю паміж сялянамі і панскім дваром. На гэта ўплывалі і дзяржаўныя ўлады. У Віцебскай губерні, напрыклад, у 1866 г. губернатар У. М. Вяроўкін забараніў памешчыкам ужываць у размовах з сялянамі польскую мову [356].

Наладжванню сувязяў паміж буйнымі землеўладальнікамі і сялянамі не садзейнічаў той факт, што ў асяроддзі памешчыкаў на беларускіх землях у другой палове XIX ст. культывалася ідэя захавання выразнай сацыяльнай дыстанцыі паміж дваром і вёскай, перакананне пра натуральную вышэйшасць памеснай шляхты над сялянамі [881, s. 282]. Аднак эканамічныя адносіны захоўваліся, паколькі маёнтак і вёска былі патрэбныя адзін другому. Мельхіор Ванькові̌ч, які паходзіў з маёнтка Калюжыцы Мінскай губерні, сцвярджаў у сваіх мемуарах, што і ў паслярэформенны час панскі двор заставаўся гаспадарчым цэнтрам для лакальнай сялянскай супольнасці і паранейшаму дэ-факта выконваў судова-адміністрацыйныя функцыі

для навакольнага вясковага насельніцтва. Ён пісаў, што ў маёнтак на суд прыходзілі людзі з усіх вёсак, якія належалі да яго ўлады перад вызваленнем, а пазней засталіся з дваром у гаспадарчым сімбіёзе (лес – паша – адпрацоўкі). І панскі двор заставаўся для вяскоўцаў не толькі матэрыяльнай апорай, але і залагоджваў канфлікты ў вясковым асяроддзі [878, s. 76]. На нашу думку, Ванькові́ч яўна перабольшваў ролю панскага двору. Ён мог на практыцы захоўваць функцыі патранажу толькі ў адносінах да невялікай часткі сялянскіх сямей, якія заставаліся ў трывалай эканамічнай залежнасці ад яго.

Ідылічную карціну патрыярхальнага і шчаслівага сужыцця вёскі і панскага двара ў паслярэформенныя гады падаюць у сваіх успамінах многія мемуарысты шляхецкага паходжання. На думку Караля Барысовіча, вёску і двор злучаў не толькі матэрыяльны інтарэс, але і старадаўні звычай. Напрыклад, на другі дзень вялікодных святаў, як успамінаў гэты аўтар, з суседніх вёсак прыходзілі да двара гаспадары, прыбраныя ў чыстыя белыя світкі і кожны прыносіў вялікодныя фарбаваныя яйкі ў хустцы, а памешчык (бацька мемуарыста) з кожным урачыста цалаваўся. Потым усе сядалі за святочны стол, накрыты панам: «Бацька браў удзел у тым прыёме: прыязна размаўляў з сялянамі пра іх сямейныя справы, пра хатнія клопаты, пра сыноў, што былі ў войску. Веснавое сонейка асвятляла тую учту, і здавалася мне, што лепшы дзень – супрацоўніцтва і братэрскага кахання – хутка надыйдзе» [883, s. 38–39]. Мельхіёр Ваньковіч таксама ўспамінаў, што кожную вясну да двору з ваколічных вёсак прыходзілі натоўпы сялян, каб узяць у арэнду кавалак пашы за адпрацоўку. Кожны з іх прыносіў з сабой у вузялку яйкі, як сімвалічную даніну, а ўзамен двор частаваў вяскоўцаў гарэлкай з панскага бровара. Старэйшы брат Мельхіёра, паводле ўспамінаў апошняга, строга прытрымліваўся гэтай традыцыі і гаварыў: «Хай бы каторы не прынёс яек <…> ні за што не дам яму пашы» [878, s. 77].

Прыхільныя выказванні сялян пра паншчыну ў паслярэформенныя гады прыводзяць у сваіх успамінах многія мемуарысты шляхецкага паходжання, а таксама і Адам Багдановіч [56, с. 36–37]. Але наколькі падобная ідылічная карціна, створаная шляхецкімі мемуарыстамі, адпавядала сацыяльнай рэчаіснасці другой паловы XIX – пачатку XX ст.? Вялікая колькасць іншых крыніц выразна гэтаму пярэчыць. Напрыклад, невядомы карэспандэнт польскамоўнага часопіса „Kraj" пісаў аднекуль „znad Niemna": «Патрыманіяльны да 1861 г. характар стасункаў паміж дваром і вёскай не пакінуў па сабе ніякіх слядоў. Сёння вёска з'яўляецца альбо суседам двору, альбо пастаўшчыкам працоўных рук для дворных палеткаў, і як у адным, так і ў другім выпадку адчуваецца не вельмі прыхільнае стаўленне,

якое прыводзіць да непаразуменняў, звязаных з менш ці больш балючымі для абодвух бакоў стратамі» [881, s. 287].

Гэтую карціну пацвярджаюць і дакументальныя матэрыялы дзяржаўнай адміністрацыі, дзе захавалася велізарная колькасць скаргаў сялян на сваіх былых уладальнікаў. Менавіта гэтыя скаргі з'яўляюцца адлюстраваннем ужо сялянскага пункту гледжання на характар адносін паміж панскім дваром і паслярэформеннай вёскай. Трэба, канешне, улічваць, што ў іх сяляне звычайна празмерна перабольшвалі свае беды і няшчасці, і гэта з'яўлялася іх тактыкай барацьбы. Але няма сумнення, што найбольш балючай праблемай сялянскай гаспадаркі з'яўляўся недахоп пашаў для жывёлы і лесу, які даваў будаўнічы матэрыял. А большая частка гэтых рэсурсаў знаходзілася ва ўласнасці былых паноў. Да рэформы сяляне маглі карыстацца імі супольна з памешчыкам паводле так званых сервітутаў, а ў парэформенны час землеўладальнікі пачалі забараняць сялянам доступ, спасылаючыся на выключнае права прыватнай уласнасці. Такім чынам, землеўладальнікі проста трансфармавалі феадальнае права ўласнасці, якое было звязанае і з іх адказнасцю (як агентаў дзяржаўнай улады) за мясцовых жыхароў, у капіталістычнае права, звязанае толькі з атрыманнем прыбыткаў ад зямельнай уласнасці. Гэта спараджала ў сялян пачуццё, што менавіта памешчыкі з'яўляюцца прычынай усіх іх бедаў і няшчасцяў.

Этнаграфічныя матэрыялы сведчаць, што для большасці беларускіх сялян у паслярэформенныя часы не было характэрным паважлівае стаўленне да землеўладальнікаў, якіх яны называлі «крукамі» [276, с. 92]. Спрэчкі за зямлю станавіліся найчасцей прычынай канфліктаў паміж вёскамі і землеўладальнікамі. Звычайна гэтыя канфлікты вяліся судовым шляхам, але нярэдка набывалі форму адкрытага супрацьстаяння з выкарыстаннем гвалтоўным метадаў і выклікам войскаў і паліцыі. Сяляне не былі толькі ахвярамі, часта яны выкарыстоўвалі тактыку «паўзучага» захопу памешчыцкіх земляў. У якасці прыкладу можна прывесці гісторыю пісьменніцы Элізы Ажэшкі, якая з'яўлялася ўладальніцай родавага маёнтка Мількаўшчына ў Гродзенскім павеце і скардзілася гродзенскаму губернатару на захоп яе зямлі сялянамі [764, с. 166]. У рэшце рэшт Ажэшка была вымушана прадаць свой маёнтак.

У такіх умовах многія землеўладальнікі спрабавалі да мінімума абмежаваць кантакты з навакольнымі сялянамі, а таксама пазбегнуць залежнасці ад іх працоўнай сілы. З'яўленне машын і новых тэхналогій дазваляла двару скарачаць патрэбы ў паслугах часовых работнікаў з сялян. Часам гэтыя патрэбы хаця б часткова пакрываліся коштам прыцягнення парабкаў з аддаленых, нават за-

межных краёў, якіх некаторыя памешчыкі пачалі асаджваць на сваіх землях [844, z. 2, s. 308–309; 851, s. 34–35; 879, s. 12]. Але імкненне двара цалкам забяспечыць свае патрэбы ў рабочай сіле лаяльнымі прыбышамі з'яўлялася ўсё ж недасягальным, а ў дадатак выклікала нарастанне напружання ў адносінах з суседнімі вёскамі.

Рэзкае абвастрэнне канфлікту вёскі і панскага двара выклікала рэвалюцыя 1905–1907 гг., калі сяляне пад уплывам агульных рэвалюцыйных настрояў у грамадстве і аслаблення дзяржаўнай улады пачалі паводзіць сябе значна больш агрэсіўна [162; 164–166]. Тыповым прыкладам сялянскага бунту могуць паслужыць падзеі ў маёнтку Моладава Кобрынскага павета Гродзенскай губерні, які належаў вельмі багатаму і ўплывоваму землеўладальніку Канстанціну Скірмунту. Уражанне сям'і памешчыка ад гэтых падзей ілюструе ліст сястры ўладальніка Ядвігі Скірмунт ад 27 снежня 1906 г., у якім яна пісала: «Гэта былі страшныя дні, тлумы збіраліся кожны дзень ад ранку, што раз больш адважныя і небяспечныя, усе работы былі перапынены, быдла стаяла галоднае, адзін дзень мелі ў доме больш за 120 чалавек, бо ўся фальварачная служба з сем'ямі і адміністрацыя схавалася ў нас пад пагрозай смерці» [863, s. 28]. Ядвіга Скімунт сцвярджала, што яе сям'я ў час канфлікту марыла пра тое, каб захаваць сваё жыццё і выехаць за мяжу. Толькі з дапамогай аддзела драгунаў, прысланага гродзенскім губернатарам І. Л. Блокам, выступленне сялян у Моладаве было падаўленае [501, арк. 1–163].

Дыстанцыя паміж дваром і ваколічнымі сялянамі пасля такіх падзей станавілася яшчэ большай. У лісце да пісьменніцы Элізы Ажэшка Ядвіга Скірмунт пісала 20 сакавіка 1907 г.: «Ведала ўжо даўно, што люд наш адрозніваецца ад нас мовай, нацыянальнасцю і верай, ведала, што можа захоўваць дрэнныя ўспаміны з часоў паншчыны <…> але не дапускала, што так ад нас далёкі, так замкнёны перад намі, так пойдзе за кожным ненавісным павевам» [863, s. 29]. Падобныя выпадкі здараліся ў той час у многіх месцах Беларусі. Ірэна Галынская пісала пра падзеі на Гомельшчыне, калі ўзброеныя банды сялян рабавалі маёнткі і нават забівалі ўладальнікаў. Толькі заступніцтва мясцовага праваслаўнага святара выратавала ад пагрому маёнтак яе бацькоў [852, k. 25]. Прычым сяляне ўсё часцей фармулявалі свае прэтэнзіі да землеўладальнікаў у ідэалагічных катэгорыях. У часе канфлікту з-за сервітутаў сялян вёскі Верхполье Брэсцкага павета з графіняй Патоцкай вясковы стараста Адамчук адкрыта выказаў павятоваму шляхецкаму маршалку сваё меркаванне, што «следовало бы крестьянам отдать вообще всю землю, так как помещики по большей части имеют еще и посторонние доходы – жалованье на государственной службе и т. п., тем более, что крестьяне

праліваюць свою кровь за господ в Маньчжурии, одни платят подати и чинят дороги» [160, арк. 123]. Гродзенскі губернатар М. М. Асаргін пісаў 16 сакавіка 1905 г. міністру ўнутраных спраў Расійскай імперыі А. Р. Булыгіну: «Сознанию крестьян не чужда мысль о том, что земля должна принадлежать тем, которые сами обрабатывают ее, в виду этого, а также недостатка для них земли, по случаю прироста, помещичье землевладение должно быть уничтожено и за счет этого произведен дополнительный надел их землей» [160, арк. 21].

У абвастрэнні канфлікту адыгрывала сваю ролю і пісьмовая агітацыя з боку рэвалюцыйных партый. Сяляне і самастойна выкарыстоўвалі набытую пісьменнасць у барацьбе з панамі. Пасля пажару ў маёнтку Вайцахоўшчына Мала-Бераставіцкай воласці Гродзенскага павета яго ўладальнікі ўзгадалі, што за два тыдні да здарэння ім падкінулі рукапіснае пасланне, «составленное безграмотно на простом белорусском наречии, в котором предлагалось Корибут-Дашкевичу платить крестьянам за поденные работы по 1 руб. в день и уничтожить все жатвенные и сенокосные машины, имеющиеся в имении, под угрозой поджога» [160, арк. 84]. Гэты бунт супраць машын быў выкліканы страхам сялян страціць свае заробкі ў маёнтку ў выніку яго тэхнічнай мадэрнізацыі.

У такіх умовах многія памешчыкі выкарыстоўвалі своеасаблівыя стратэгіі прыстасавання, скіраваныя на максімальнае пазбяганне канфліктаў з навакольнымі сялянамі, імкнуліся аказваць апошнім дапамогу ў самых розных справах [884, k. 31]. Нягледзячы на сацыяльна-эканамічныя супярэчнасці, а таксама цяжкую спадчыну мінулага, магчымасці для супрацоўніцтва існавалі, а некаторыя землеўладальнікі бачылі сваім грамадзянскім абавязкам культурную працу сярод сялян. Асабліва важнай праблемай у гэтым кантэксце выступала пазіцыя двара ў нацыянальным пытанні, якое з часам станавілася ўсё больш вострым і актуальным. Частка памешчыкаў усведамляла той факт, што пашырэнне беларускай самасвядомасці сярод вясковага насельніцтва можа стаць эфектыўным сродкам супрацьдзеяння ўрадавай палітыцы русіфікацыі сялян-беларусаў і захавання прыязных сувязяў паміж дваром і вёскай. Міхал Паўлікоўскі з Мінскай губерні ўспамінаў, што памешчыкі ахвотна ўжывалі ў размовах з сялянамі іх гаворку, а падтрымка беларускай мовы, фальклору і традыцыйных звычаяў лічылася адзіным паспяховым і да таго ж легальным спосабам барацьбы з русіфікацыяй [867, s. 301]. Караль Барысовіч сцвярджаў, што асабіста браў удзел у беларускай нацыянальнай агітацыі, выпісваў беларускія календары і раздаваў іх народным настаўнікам [883, s. 41]. Але адначасова ён займаўся польскай нацыянальнай агітацыяй у асяроддзі беларускамоўнай засцян-

ковай шляхты: «Марыў пра спальшчэнне дробнай шляхты польскага паходжання, але пераважна ўжо збеларусізаванай і беларусізацыі тутэйшага сялянства, ужо ў вялікай ступені праз войска і школу зрусіфікаванага» [883, s. 41].

Лібералізацыя палітычнай сістэмы Расійскай імперыі пасля рэвалюцыі 1905 г. зрабіла актуальнай праблему ўзаемадзеяння памеснай шляхты з мясцовым сялянствам падчас выбараў у Дзяржаўную Думу. Але культурная дыстанцыя аказалася цяжкаадольнай перашкодай. Абшарнік Канстанцін Прушынскі з Мінскай губерні пісаў у часе выбараў да І-й Дзяржаўнай Думы: «Абывацелі (памешчыкі. – *С. Т.*) у Беларусі не ведалі беларускай мовы. На сходзе ў Слуцку адзін толькі змог прамовіць да народа на яго мове» [846, s. 97].

Адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху Вацлаў Іваноўскі, сын заможнага землеўладальніка, склаў зварот да інтэлігенцыі на польскай мове з заклікам далучацца да беларускага нацыянальнага руху [877, s. 28]. Але большасць памеснай шляхты падтрымлівала польскую культурна-асветніцкую працу. Зыгмунт Даманьскі са Слуцкага павета Мінскай губерні пісаў, што ў многіх панскіх маёнтках засноўваліся ўладальнікамі тайныя польскія школкі, дзе «вучылі польскаму чытанню і пісьму, польскай гісторыі» [885, s. 21–22]. Паводле ўспамінаў Анджэя Брахоцкага, пасля 1905 года яго бацька ў кожным сваім маёнтку ўтрымліваў настаўніц, якія арганізоўвалі такія школы» [886, s. 19]. Праўда, гэтыя школы былі найперш арыентаваныя на дзяцей дворнай службы і засцянковай шляхты, а на сялянскіх дзяцей іх уплыў быў невялікім.

У цэлым жа можна сцвердзіць, што ў другой палове XIX – на пачатку XX ст. сялянскае самакіраванне ўяўляла сабой ніжэйшае звяно дзяржаўна-бюракратычнага апарату, чым прадстаўнічы орган лакальнай сялянскай супольнасці. Разам з тым валасныя і сельскія выбарныя ўстановы выконвалі шматлікія і вельмі важныя для мясцовай супольнасці задачы. Нягледзячы на саслоўны характар і залежнасць ад дзяржаўнай бюракратыі яны сталі адным з важнейшых мадэрнізацыйных фактараў у развіцці пасляэформеннай беларускай вёскі. Істотным недахопам у дзейнасці сялянскага самакіравання з'яўлялася яго ізаляванасць адносна іншых саслоўных груп, якія пражывалі ў сельскай мясцовасці, што не садзейнічала інтэграцыі лакальных супольнасцей. Працягвала існаваць і нават павялічвацца культурная дыстанцыя паміж панскім дваром і вёскай, якую не маглі пераадолець асветніцкія намаганні і дабрачыннасць асобных прадстаўнікоў памеснай шляхты. Гэта служыла крыніцай для разгарання сацыяльнага канфлікту ў беларускім грамадстве.

# Глава 4
# САЦЫЯЛЬНАЯ І ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАЯ МАБІЛЬНАСЦЬ СЯЛЯНСТВА

## 4.1. Заробкавая міграцыя сялян

Адным з ключавых працэсаў мадэрнізацыі традыцыйнага аграрнага грамадства амаль заўсёды выступае рост сацыяльнай мабільнасці вясковага насельніцтва. Гэта датычыць як тэрытарыяльнай (гарызантальнай) мабільнасці, калі сяляне перамяшчаюцца з аднаго месца жыхарства ў іншае, але застаюцца на тым самым узроўні сацыяльнай іерархіі, так і вертыкальнай, калі індывіды ўзнімаюцца ўверх (альбо апускаюцца ўніз) па сацыяльнай лесвіцы і змяняюць свой статус. Галоўнай прычынай таго, што сяляне пакідалі родныя хаты, звычайна з'яўлялася немагчымасць забяспечыць патрэбы як асобнага індывіда, так і ўсёй сялянскай сям'і за кошт рэсурсаў уласнай дворагаспадаркі. У першыя паслярэформенныя гады на беларускіх землях на заробкі за межы родных вёсак пераважна выпраўляліся бяднейшыя сяляне. Калежскі асэсар Сяльвестраў падчас рэвізіі валасных устаноў Гродзенскай губерні ў 1867 г. адзначаў у сваёй справаздачы, што «требование паспортов на отлучку составляет самый ничтожный процент, оставаясь необходимостью только для безземельного класса людей» [136, арк. 145 адв.].

Сяляне выпраўляліся з роднай вёскі на аддаленыя заробкі без асаблівага жадання. Праваслаўны святар з Гродзенскай губерні Канстанцін Макавельскі так пісаў у 1866 г. пра стаўленне да адыходніцтва на заробкі сярод мясцовых сялян: «Наш Белорус домосед, пускаться на дальние заработки он не большой охотник. Редкие крестьяне нанимаются в летнее время в другой уезд. В прошлом году смельчаки из них ходили на работу в Новогеоргиевск (крепость в Царстве Польском), и им казалось, что они удаляются от своей родины нисколько не ближе, как в тридесятое государство» [257]. Падобнае меркаванне выказваў карэспандэнт этнографа Паўла Шэйна

Іван Карскі: «Попробуйте сказать крестьянину нашего уезда (Гродзенскага. – *С. Т.*), чтобы он пошел на заработки за 100 или 200 верст, так он непременно вам скажет: «Хіба ашалеўшы, што пайду на край света?» [276, с. 81]. Часта валасныя ўлады прымушалі бяднейшых сялян наймацца на такія цяжкія работы, як сплаў тавараў па рэках, будаўніцтва шашэйных дарог і да т. п., каб пакрыць «нядоімку» ў выплаце падаткаў [672, с. 135]. Гэтыя практыкі прымусовага найму, цесна звязаныя з карупцыяй сярод адказных асоб валаснога кіравання, яскрава апісвае ў сваіх успамінах Адам Багдановіч [56, с. 514–516].

Беларускія сяляне, асабліва ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі, таксама выпраўляліся на часовыя заробкі ў вялікія гарады імперыі [672, с. 102]. Карэспандэнт П. Шэйна з Віцебскай губерні пісаў пра тамтэйшых сялян, што летам многія адпраўляюцца «в Петербург или Ригу, где большей частью занимаются выгрузкою судов» [276, с. 11]. У статыстычным апісанні Магілёўскай губерні за 1871–1881 гг. давалася негатыўная ацэнка адыходніцтва сярод вясковага насельніцтва: «К сожалению этот промысел вредно отзывается на крестьянах; только воздержные приносят домой заработанные деньги, а многие приучаются к разгулу, картежной игре и возвращаются без всяких средств и нередко с болезнями» [619, с. 481]. Гаварылася там і пра нежаданне вяскоўцаў пакідаць родныя хаты: «<…> белорус в общем скорее враг всякого передвижения и переселения, и нередко можно встретить в селении стариков, которые во всю свою жизнь не были далее 30–40 верст от своего селения, не видели и не знают ни одного города и местечка, кроме своего ближайшего, где продают дрова и покупают соль» [619, с. 481].

Працэсы адыходніцтва ў паслярэформенны час знаходзяць сваё лічбавае адлюстраванне ў выдачы валаснымі ўладамі пашпартоў для выезду на заробкі за межы роднай воласці. Колькасць такіх пашпартоў увесь час узрастала, хаця Беларусь і саступала ў маштабах заробкавай міграцыі большасці рэгіёнаў Расійскай імперыі [216, с. 124]. Паводле падлікаў В. П. Панюціча, за ўвесь паслярэформенны перыяд колькасць выдаваемых пашпартоў у Беларусі ўзрасла прыкладна ў дзесяць разоў, што прыкладна ў пяць разоў перавышала рост сялянскага насельніцтва [672, с. 71]. Прычым гэты даследчык лічыць, што афіцыйныя статыстычныя даныя былі заніжанымі. Калі ў першыя паслярэформенныя дзесяцігоддзі, паводле даных В. П. Панюціча, адыходніцтва праяўлялася больш актыўна на ўсходзе Беларусі, дык на пачатку XX ст. гэты працэс набірае большую дынаміку ў заходніх рэгіёнах.

Паводле даных Ф. Ястрэмскага, на 1897 г. у Мінскай губерні наймаліся штогод 113 411 сялян на мясцовыя заробкі (8,2 % ад усяго

сялянскага насельніцтва губерні) і 19 616 на «отхожие» (1,4 % ад усяго сялянскага насельніцтва губерні). Мясцовыя заробкі ў сярэднім прыносілі 21,19 руб. на адну асобу, што ў суме давала 2 388 872 руб. для ўсёй губерні, а «отхожие» – 27,24 руб. на адну асобу і 534 321 руб. у суме [698, с. 126–127]. Такім чынам, паводле гэтага даследчыка, у Мінскай губерні 133 027 асоб (9,6 % ад усяго сялянскага насельніцтва губерні) зараблялі па-за ўласнай дворагаспадаркай 2 923 193 руб. у год, што пераўзыходзіла суму ўсіх падаткаў, выплочваемых тады сялянамі. Асноўную масу такіх работнікаў па-ранейшаму давала бяднейшая частка вёскі. Як пісаў у сваім даследаванні Ю. Э. Янсан: «<...> безземельные, огородники, значительная часть получивших пешие наделы – все это в западных губерниях живет не наделом, а заработками» [816, с. 122].

Адыходніцтва патрабавала ад селяніна вялізных высілкаў і часта адмоўна адбівалася на яго здароўі. Як паказалі даследаванні польскіх аўтараў адносна адыходніцтва ў польскай вёсцы ў дадзены перыяд, рэгулярнае знаходжанне на працягу многіх месяцаў па-за родным домам негатыўна ўплывала на натуральны прырост у гэтым асяроддзі – запазняўся час уступлення моладзі ў шлюб, змяншалася нараджальнасць, павялічвалася колькасць няплодных кабет [823, s. 253]. Напэўна, што ў беларускай вёсцы сітуацыя была вельмі падобнай.

Аднак імклівы дэмаграфічны рост сялянскага насельніцтва на працягу ўсяго паслярэформеннага перыяду няспынна абвастраў праблему малазямелля і множыў колькасць гаспадарак, якія не маглі абысціся без дадатковых заробкаў. На пачатку XX ст. сітуацыя стала асабліва крытычнай. Паводле ацэнкі К. І. Шабуні, звыш 80 % сялянскіх двароў у Беларусі на гэты час адчувалі праблему малазямелля і не маглі пражыць са свайго надзела, што змушала значную частку сялянства да наёмнай працы ў памешчыцкіх і заможных сялянскіх гаспадарках [804, с. 92]. Ацэнкі дзяржаўных чыноўнікаў былі блізкімі да гэтай лічбы. Падатковая інспекцыя Гродзенскай губерні ў 1907 г. лічыла, што каля 75 % сялянскіх гаспадарак не маглі пражыць без дадатковых заробкаў [482, арк. 9].

Паводле вынікаў даследавання Віцебскай губерні за 1907 г., 70 489 сялянскіх сямей з ліку 176 872 давалі разам 97 754 прамысловыя работнікі мужчынскага полу і 20 789 жаночага. Такім чынам, 41 % ад агульнай колькасці даследаваных сялянскіх сямей пастаўлялі прамысловых работнікаў, якія складалі 16,8 % ад усяго мужчынскага насельніцтва (21,7 % работнікаў) и 3,7 % жаночага (6,4 % работніц) [790, с. 39, 174]. Канешне, тут патрабуе ўдакладнення само паняцце «прамысловы работнік», якім аперыравалі аўтары даследавання. Яны, напрыклад, далучалі сюды чыноўнікаў, прадстаўнікоў воль-

ных прафесій і нават жабракоў. Іншымі словамі, пад гэтае паняцце падпадалі ўсе сяляне, а таксама выхадцы з сялянства, для якіх галоўнай крыніцай даходу стала праца ці кожны іншы занятак па-за сельскай гаспадаркай. Як сцвярджалі аўтары даследавання: «Только незначительная часть сельского населения, благодаря усиленному расширению площади посева, может жить одними доходами земледелия, большинство же должно искать других занятий» [790, с. 173]. Яны прыйшлі да высновы, што ў Віцебскай губерні, «не считая контингента лиц временного найма на сельскохозяйственные работы <…> постоянно занимаются различными промыслами около 29 % всех работников и полуработников мужчин, а одних только работников занято промыслами около 30 % общего числа» [790, с. 174]. Праведзены аўтарамі гэтага даследавання аналіз паказвае выразную карэляцыю паміж велічыней пасеву ў сялянскіх гаспадарках з працэнтам прамысловых работнікаў. Самым высокім гэты паказчык быў у катэгорыі беспасяўных гаспадарак – 28,4 %, а самым нізкім – у групе гаспадарак з пасяўной плошчай ад 20 да 50 дзес. (табліца 4.1). Павышэнне гэтага паказчыку ў самай заможнай групе ўладальнікаў больш за 50 дзес. зямлі адлюстроўвае той факт, што да ліку прамысловых работнікаў аўтары даследавання далучалі і тых выхадцаў з вёскі, якія атрымалі добрую адукацыю і новыя прафесіі. А гэтых асоб адносна найбольш пастаўляла якраз група заможных сялян.

Табліца 4.1 – **Прамысловыя работнікі сярод сялян Віцебскай губерні паводле пасяўных груп за 1907 г.** [790, с. 176]

| Памеры пасеву, дзес. | Колькасць | % ад агульнай колькасці сялянскага насельніцтва дадзенай групы |
|---|---|---|
| Без пасеву | 21 477 | 28,4 |
| Да 1 | 9627 | 19,4 |
| 1–2 | 16 505 | 10,9 |
| 3–4 | 36 467 | 9,2 |
| 5–6 | 18 448 | 8,0 |
| 7–8 | 7075 | 7,2 |
| 9–10 | 2906 | 6,5 |
| 11–14 | 2145 | 5,7 |
| 15–19 | 411 | 4,8 |
| 20–49 | 201 | 3,9 |
| 50 і болей | 13 | 6,0 |
| Разам | 115 275 | 10,2 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

З прамысловых работнікаў Віцебскай губерні мясцовымі заробкамі займаліся 26 755 мужчын і 4807 жанчын, а адыходніцтвам – 67 999 мужчын і 15 991 жанчына [790, с. 195]. Прычым адыходніцтвам найбольш актыўна займаліся сяляне, якія не мелі пасеваў – 70,7 % усіх прамысловых работнікаў (табліца 4.2). Сярэдні гадавы заробак адыходнікаў складаў тут 65 руб. [790, с. 197].

Табліца 4.2 – **Заняткі сялян Віцебскай губерні мясцовымі промысламі і адыходніцтвамі ў залежнасці ад велічыні пасеву ў гаспадарках за 1907 г.** [790, с. 197]

| Памеры пасеву, дзес. | Мясцовыя промыслы | | Адыходніцтва | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць | % | Колькасць | % | Колькасць | % |
| Без пасеву | 6274 | 19,9 | 15 203 | 18,2 | 21 477 | 18,6 |
| Да 1 | 3977 | 12,6 | 5650 | 6,7 | 9627 | 8,4 |
| 1–2 | 4291 | 13,6 | 12 214 | 14,6 | 16 505 | 14,3 |
| 3–4 | 9356 | 29,5 | 27 111 | 32,4 | 36 467 | 31,6 |
| 5–6 | 4350 | 13,8 | 14 098 | 16,8 | 18 448 | 16,0 |
| 7–8 | 1730 | 5,5 | 5345 | 6,4 | 7075 | 6,1 |
| 9–10 | 775 | 2,5 | 2131 | 2,5 | 2906 | 2,5 |
| 11–14 | 589 | 1,9 | 1556 | 1,9 | 2145 | 1,9 |
| 15–19 | 151 | 0,5 | 260 | 0,3 | 411 | 0,4 |
| 20 і болей | 69 | 0,2 | 145 | 0,2 | 214 | 0,2 |
| Разам | 31 562 | 100,0 | 83 713 | 100,0 | 115 275 | 100,0 |

*Заўвага.* Падлікі аўтара.

У Віленскай губерні ў 1909 г., паводле даных дзяржаўнай адміністрацыі, налічвалася 175 255 сямейных гаспадарак і 1 091 584 сялян (559 554 мужчыны і 532 030 жанчын). Адсутнічалі ў сваіх гаспадарках 114 908 асоб (10,5 % ад агульнай колькасці жыхароў), у тым ліку 72 286 мужчын (12,9 %) і 42 622 жанчыны (8 %) [74, с. 621]. Асабліва высокім быў працэнт адсутных у Віленскім павеце – 13 %, а ў Вілейскім павеце ён з'яўляўся найменшым – 6 %. Можна меркаваць, што гэтыя асобы ў большасці сваёй знаходзіліся на заробках.

У выніку развіцця ўзаемазвязаных працэсаў абеззямельвання і адыходніцтва на беларускіх землях складвалася, па сутнасці, парадаксальная сітуацыя: у сельскагаспадарчай аграрнай краіне, асноўную масу насельніцтва якой складалі сяляне-земляробы, неабходнай умовай падтрымання жыццёвага мінімуму існавання для большай часткі апошніх стаў пошук імі дадатковых заробкаў паза ўласнай дворагаспадаркай. Такая ж сітуацыя склалася ў той час

у большасці краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы [854, s. 184]. Магчымасці пошуку заробкаў у Беларусі былі абмежаванымі з прычыны адносна павольнай (у параўнанні з многімі іншымі рэгіёнамі Расійскай імперыі) індустрыялізацыі беларускіх земляў, дзе адсутнічалі буйныя прамысловыя цэнтры ці рэгіёны. Знайсці мінімальны заробак найперш можна было ў межах роднай вёскі і ў блізкіх ваколіцах – у гаспадарках заможных сялян і панскіх маёнтках. Адным з варыянтаў жыццёвай стратэгіі бедных сялян станавіўся лёс панскага парабка, які ўвесь час жыў у маёнтку, заводзіў там сям'ю і траціў сувязі са сваёй вясковай грамадой. Але жыццёвай марай большасці беларускіх вяскоўцаў з'яўлялася набыццё ва ўласнасць такой колькасці зямлі, каб стаць самадастатковым і незалежным гаспадаром-земляробам, што адлюстраваў у паэме «Новая зямля» Якуб Колас. Зарабіць дастатковыя для ажыццяўлення гэтай мары грошы працай парабка пры існуючых коштах на зямлю было немагчыма. У пошуку лепшага заробку беларускія сяляне вымушаны былі надоўга пакідаць родныя мясціны і адпраўляцца ў далёкія падарожжы. Дзяржаўная адміністрацыя спрабавала аналізаваць працэсы заробкавай міграцыі і падлічваць заробкі сялян па-за іх уласнай гаспадаркі. На пачатку ХХ ст. валасныя праўленні абавязваліся збіраць і падаваць земскім начальнікам падобнага роду звесткі.

Аўтарам праведзены аналіз такой інфармацыі па валасцях 3-га, 5-га і 6-га земскіх участкаў Гродзенскага павета за 1911 г. У Дубнаўскай воласці, размешчанай на беразе ракі Нёман, каля 600 сялян за год зараблялі на сплаве амаль 6000 руб., ці ў сярэднім па 10 руб. на чалавека. На заробкі ў Паўночную Амерыку з гэтай воласці выехалі 52 селяніна, якія прысылалі дахаты каля 10 000 руб. у год (192 руб. на аднаго мігранта) [544, арк. 3 адв.]. У суседняй Каменкаўскай воласці вываз лесу зімой прыносіў сялянам у год 1200 руб., праца ў памешчыцкіх маёнтках – 1500 руб., з Амерыкі эмігранты прысылалі сваякам каля 5000 руб. У суме гэта складала 7700, а амаль 65 % гэтай сумы давалі заробкі «амерыканцаў» [544, арк. 8 адв.]. У Мастоўскай воласці лясным промыслам займаліся 495 сялян (дзённы заробак складаў ад 65 капеек да 1,5 руб.), сплавам па Нёмане – 220 сялян (супольны іх заробак складаў каля 2200 руб. у год), на заробкі ў межах Расійскай імперыі (дакладных месцаў у справаздачы не прыводзілася) выбіраліся 45 сялян воласці (супольны іх заробак складаў каля 450 руб., ці каля 10 руб. на асобу), 85 мясцовых вяскоўцаў прысылалі з Амерыкі 8450 руб. (каля 100 руб. на асобу) [544, арк. 28 адв.]. У Гожскай воласці лясным промыслам займаліся 115 сялян (супольны іх заробак складаў каля 230 руб., ці каля 2 руб. на чалавека), зборам грыбоў і ягадаў – 200 (супольны іх

заробак складаў каля 70 руб.), на заробкі ў межах Расійскай імперыі выбіраліся 20 (супольны іх заробак складаў каля 600 руб.), 170 мясцовых сялян прысылалі з Амерыкі 3400 руб. (па 20 руб. на чалавека) [544, арк. 28 адв.]. У Берштаўскай воласці налічвалася звыш 200 сялян, якія падаліся на заробкі ў ЗША і Канаду. Яны, паводле звестак валаснога праўлення, прысылалі штогод дадому грошай на суму каля 6000 руб. (па 30 руб. на чалавека). Толькі ў 1906 г. з гэтай воласці выехалі ў Амерыку 49 мужчын і 19 жанчын [545, арк. 113]. Працай у лесе ў Берштаўскай воласці займаліся 2500 мясцовых мужчын, якія зараблялі ў год каля 4000 руб. Апроч таго, у 1910 г. берштаўскае валасное праўленне выдала 218 пашпартоў для выезду на заробкі ў межах Расійскай імперыі. У тым жа годзе 30 чалавек з Берштаўскай воласці выехалі на заробкі ў Амерыку [544, арк. 16].

Прыведзеныя вышэй лічбы заробкаў з'яўляюцца прыблізнымі, ацэначнымі, але ўсё ж падаюць агульную карціну пазаземляробчых заробкаў сялян Гродзенскага павета на пачатак XX ст., паколькі больш дакладнай інфармацыяй, чым валасныя ўлады, на той час ніхто не валодаў. Як вынікае з гэтых даных, самымі высокімі былі заробкі «амерыканцаў», лясныя вёскі зарабляліляснымі промысламі, прырэчныя – сплавам, усе без выключэння давалі работнікаў у межах Расійскай імперыі. За кошт гэтых знешніх заробкаў многія мясцовыя сяляне сплочвалі падаткі, а таксама збіралі капітал на набыццё новай зямлі для сваіх гаспадарак. Падатковы інспектар Гродзенскага павета адзначаў схільнасць беларускіх вяскоўцаў да індывідуалізму ў параўнанні з расійскімі сялянамі, паколькі яны звычайна «не собираются в артели, а наоборот идут в одиночку за свой страх и риск и нанимаются исключительно чернорабочими» [542, арк. 46 адв.]. Гэтыя заробкавыя вандроўкі ўплывалі як на саміх адыходнікаў, так і на ўсё вясковае грамадства. Сяляне, якія сутыкаліся з іншымі ўзорамі паводзін, іншай іерархіяй каштоўнасцей пасля вяртання ў родную вёску часта станавіліся элементамі грамадскага неспакою, былі больш схільныя да бунту і непадпарадкавання [870, s. 149].

У Клімавіцкім павеце Магілёўскай губерні за 1911 г. было выдадзена валаснымі праўленнямі 12 193 пашпарты (каля 8 % ад усяго сялянскага насельніцтва), а за 1913 г. – 14 862, што складала каля 11 % ад усяго сялянскага насельніцтва. З гэтага павета на адыходніцтва пераважна на вугальныя шахты Данбаса адпраўлялася вясковая моладзь. Але, паводле меркавання падатковага інспектара, такое адыходніцтва не паляпшала матэрыяльнага становішча сялянства, паколькі адыходнікі трацілі свае заробкі на чужбіне, а «домой перепадают самые ничтожные гроши». Акрамя таго, яно дрэнна ўплывала на стан сельскай гаспадаркі, паколькі «от полевых работ отрывает-

ся здоровый физически элемент и возделывание земли переходит в слабые руки, да и вернувшаяся с заработков молодежь, привыкшая к фабрично-заводской жизни, весьма неохотно берется вновь за плуг» [385, арк. 70 адв.]. Падатковы інспектар таксама сцвярджаў, што сяляне неахвотна адпускаюць сваіх сыноў на шахты, паколькі побыт там адмоўна ўплывае на іх маральнасць: «Весьма значительный процент преступности в уезде является делом шахтерских рук, почти все хулиганские проступки совершаются разнузданной шахтерской молодежью, с которой даже родители не в силах справиться» [386, арк. 82]. Акрамя таго, яшчэ адным негатыўным наступствам адыходніцтва стала «масса искалеченных парней, подорвавшихся на шахтах» [386, арк. 82], што адмоўна ўплывала на наборы ў вайсковую службу. Падатковы інспектар нават не браўся сцвярджаць, колькі грошай прыносіць мясцоваму сялянству адыходніцтва. Мясцовыя ж земляробчыя заробкі давалі вяскоўцам 170–200 тыс. руб, што пераўзыходзіла суму мірскіх і земскіх збораў (каля 150 тыс. руб.). Яшчэ 200–250 тыс. руб. давалі лясныя заробкі [386, арк. 82 адв.– 83].

Асаблівую ролю ў заробкавай міграцыі жыхароў беларускай вёскі з канца XIX ст. пачынае адыгрываць міграцыя ў Амерыку. Паводле даных мясцовай дзяржаўнай адміністрацыі, толькі ў 1890 г. з Віленскай губерні выехалі 1229 чалавек, а да гэтага года – 4797. З гэтай лічбы паводле веравызнання было 1207 хрысціян (пераважна сялян) і 4819 іўдзеяў [149, арк. 43]. Такім чынам, спачатку дарогу за акіян пракладалі прадпрымальныя яўрэі, а ўслед за імі пацягнуліся і вясковыя жыхары. З Гродзенскай губерні ў 1890 г. выехалі ў Амерыку 600 асоб, а да гэтага – 649 [149, арк. 43 адв.]. 20 кастрычніка 1890 г. гродзенскі губернатар Д. М. Бацюшкаў пісаў у Вільню, што ён атрымаў звесткі «о проявившемся в некоторых уездах Гродненской губернии эмиграционном движении крестьян, преимущественно католиков, в Бразилию». Губернатар загадаў міравым пасярэднікам «оказать самое энергичное противодействие столь пагубному для благосостояния крестьян заблуждению» [149, арк. 1]. А 24 лістапада таго ж года віленскі губернатар М. А. Грэвеніц пісаў, што «между эмигрировавшими значительное число запасных нижних воинских чинов» [149, арк. 14 адв.]. Ён указваў таксама на важную ролю ў развіцці гэтага працэса агітацыі яўрэяў сярод сялянскага насельніцтва.

Гродзенскі губернатар Бацюшкаў паведаміў у Вільню 24 лістапада 1890 г., што ў яго губерні пажадалі выехаць за мяжу 649 чалавек. У красавіку 1892 г. прычынай гэтага жадання ён назваў перапіску сялян са сваімі знаёмымі і аднавяскоўцамі, якія раней выехалі ў Амерыку, прысылаюць адтуль значныя сумы грошай і абяцаюць дапамогу ў пераездзе і ўладкаванні на новым месцы. Эміграцыйны

рух, паводле інфармацыі губернатара, пераважна развіваўся сярод каталіцкага вясковага насельніцтва, прычым «эмигрируют не целые семьи, а лишь некоторые члены значительных по составу крестьянских семейств, представляющих как бы излишек рабочей силы данного хозяйства» [149, арк. 32 адв.]. Губернатар прагназаваў далейшы рост міграцыйнага руху і выказаў меркаванне, што «не следовало бы препятствовать отдельным крестьянам в их намерении выезжать за границу и <…> разрешать выдачу таким крестьянам беспрепятственно установленных паспортов» [149, арк. 26 адв.]. Падобныя погляды выказвалі таксама віленскі і ковенскі губернатары. Такім чынам, мясцовая губернская адміністрацыя пачала разглядаць міграцыйны рух за акіян у якасці своеасаблівага клапана, які змяншаў дэмаграфічны ціск на вёсцы. Збор звестак пра развіццё эміграцыйнага руху стаў з гэтага часу важнай задачай мясцовай адміністрацыі [156; 159].

Як і прагназаваў гродзенскі губернатар Бацюшкаў, міграцыйны рух у Амерыку ў наступныя дзесяцігоддзі пашыраецца. Паводле даных губернскай камісіі землеўпарадкавання за 1907 г., з Гродзенскай губерні штогод выязджала на заробкі за акіян каля 2500 чалавек [483, арк. 175 адв.]. Пяцігадовае знаходжанне ў ЗША дазваляла працавітаму мігранту сабраць суму грошай, эквівалентную прыкладна 1500 расійскіх руб., хаця ўдавалася гэта далёка не кожнаму [862, s. 114]. За такую суму ў Беларусі можна было купіць 10–15 дзес. зямлі, неабходных для стварэння новай гаспадаркі фермерскага тыпу. Гродзенская губернская камісія землеўпарадкавання прыйшла да высноў, што міграцыя сялян за акіян мае характар выключна часовага адыходу на заробкі і не адбіваецца адмоўна на стане рабочай сілы ў мясцовай сельскай гаспадарцы. У Амерыку пераважна адпраўляліся мужчыны ва ўзросце ад 20 да 30 гадоў, малодшыя браты ці сыны гаспадароў. Такім чынам, выезд у Амерыку з'яўляўся шляхам вырашэння эканамічных праблем сялянскай сям'і і здымаў пытанне лішку працоўных рук у сямейнай гаспадарцы. Заробленыя за акіянам грошы ішлі ці на мадэрнізацыю існуючай гаспадаркі ці на стварэнне новай пасля вяртання мігранта дадому.

Паводле падлікаў чыноўнікаў, у Гродзенскай губерні за 1907 г. каля 3 % сельскага насельніцтва наважылася адправіцца ў далёкае падарожжа за акіян [483, арк. 9]. Губернская камісія землеўпарадкавання прыйшла да высновы, што побыт у Амерыцы ў цэлым станоўча ўплывае на мігрантаў, якія пасля вяртання вылучаюцца сярод аднавяскоўцаў большай працавітасцю і эфектыўнасцю працы, большай павагай да закона і чужой уласнасці [483, арк. 9 адв.]. Паліцэйскі спраўнік Сакольскага павета паведамляў, што з Амерыкі сяляне

прысылаюць дахаты ў сярэднім каля 150 даляраў (прыблізна 300 царскіх руб.) у год [483, арк. 10]. Паводле даных Сакольскай павятовай камісіі землеўпарадкавання, у гэтым павеце ўсяго налічвалася 84 368 сялян, а ў Амерыцы працавалі на той час 3370 (каля 4 %) [483, арк. 67 адв.]. Гэты быў адзін з самым высокіх паказчыкаў у беларускіх губернях.

Камісія землеўпарадкавання Бельскага павета Гродзенскай губерні таксама адзначала, што сяляне вяртаюцца з Амерыкі больш культурнымі і працавітымі [483, арк. 108 адв.]. Чыноўнікі Слонімскай павятовай камісіі землеўпарадкавання заўважылі, што калі ў Амерыцы «рабочий попадает на хорошо оплачиваемую работу, то в год зарабатывает до 600 рублей, но из них около 300 рублей идет на путевые расходы туда и обратно» [483, арк. 79]. У гэтым павеце вылучалася Пескаўская воласць, з вёсак якой толькі за перыяд з 1 верасня 1906 г. па 1 верасня 1907 г. выехалі ў Амерыку каля 250 чалавек [483, арк. 78]. Адносна ўплываў эміграцыі на сялян слонімская камісія адзначала: «<…> бывшие в Америке на заработках крестьяне производят впечатление людей более развитых, толковых, они имеют основательное понятие о законах и вообще не только в нравственном, но и в умственном отношении стоят гораздо выше своих односельчан» [483, арк. 79].

Прадстаўнік Беластоцкага павятовага з’езда земскіх начальнікаў пісаў, што сяляне працуюць у Амерыцы на фабрыках, рудніках і вугальных шахтах, штогод прысылаюць сваім сваякам у гэтым павеце каля 350 000 руб. [483, арк. 119]. Паводле даных адміністрацыі Ваўкавыскага павета, выехалі адтуль у Паўночную Амерыку на верасень 1907 г. 294 чалавека. Дынаміка міграцыі па гадах выглядала ў гэтым павеце наступным чынам: да 1904 г. – 31, у 1904 г. – 24, 1905 г. – 15, 1906 г. – 81, 1907 г. – 143. З іх ліку вырашылі застацца ў Амерыцы назаўсёды 14 чалавек (4,8 %), а праслалі за гэты час поштай грошы сваім сваякам 124 (63,9 %) эміграна на суму 22 114 руб., ці ў сярэднім па 178 руб. на чалавека [483, арк. 159]. Узроставая структура эмігрантаў з Ваўкавыскага павета выглядала наступным чынам: ва ўзросце да 20 год – 38 чалавек (12,9 %), ад 20 да 30 год – 165 (56,1 %), старэйшых за 30 год – 91 (31,0 %). З іх ліку толькі 26 ведалі нейкія рамёствы, астатнія былі звычайнымі сялянамі-земляробамі.

Справаздачы пра ход і наступствы міграцыі за акіян пісалі начальству і валасныя ўлады. Напрыклад, пісар Скідзельскай воласці Гродзенскага павета паведаміў мясцоваму земскаму начальніку ў 1911 г., што за 10 год з гэтай воласці ў Амерыку выехалі 49 чалавек: у 1901 – 1, 1902 – 1, 1904 – 3, 1905 – 4, 1906 – 6, 1907 – 8, 1908 – 10, 1909 – 7, 1910 – 9. Ён даваў мігрантам такую характарыстыку: «Все

рабочие по национальности белорусы, православные, хлебопашцы, малоземельные, частью не состоятельные. Все мужчины и одна женщина в возрасте от 19 да 40 лет» [548, арк. 71]. Прычынай міграцыі пісар назваў агітацыю з боку яўрэяў і добрыя заробкі ў Амерыцы. Ён адзначаў, што пры выездзе за акіян ліквідацыі гаспадарак не адбываецца, бо на іх застаюцца працаваць родныя і сваякі мігрантаў.

Паездка за акіян патрабавала значных грашовых выдаткаў. Амаль усе мігранты з'яўляліся нелегаламі. Толькі за пераход дзяржаўнай мяжы Расійскай імперыі яны плацілі яўрэям-пасярэднікам ад 15 да 25 руб., а яшчэ ад 100 да 150 руб. патрэбна было аддаць за білет на параход у Гамбургу ці Амстэрдаме, каб перасекчы Атлантыку. Таму будучаму эмігранту звычайна дапамагала сабраць такую суму ўся сям'я, якой ён пазней і перасылаў большую частку зароблены грошай. Часта грошы на дарогу прысылалі сваякі ці сябры, якія ўжо раней выехалі за акіян. Гэта не быў просты альтруізм, бо такім чынам яны ўзмацнялі ў чужым асяроддзі кола блізкіх сяброў і землякоў, ад якіх чакалі падтрымкі ў выпадку нейкіх цяжкасцей. Высокія заробкі ў Амерыцы не даваліся лёгка. Імігранты выконвалі самую цяжкую, самую небяспечную працу. Калі сярэдні амерыканец (грамадзянін ЗША) у 1910 г. зарабляў за год 595 даляраў, дык сярэдні заробак імігрантаў складаў 385 [823, s. 253]. І далёка не ўсе вярталіся з Амерыкі багацеямі. Скідзельскі валасны пісар сцвярджаў, што «некоторые рабочие, побыв в Америке 3–4 года, возвращаются без всяких средств, а некоторые привозят с собой 50–100 руб. Из всех возвратившихся один только рабочий привез с собой через 5 лет 600 руб.» [548, арк. 71].

Інтэнсіўнасць міграцыі ў Паўночную Амерыку была самай высокай на паўночным захадзе Беларусі і паволі зніжалася ў паўднёва-ўсходнім кірунку. Паводле звестак рэдактара газеты «Наша Ніва» Аляксандра Уласава, у Беларусь у 1911 г. «прыйшлі» каля 50 млн руб. «амерыканскіх» грошай. Гэтая лічба ўяўляецца ўсё ж значна завышанай. Уласаў прыводзіў прыклад, што толькі ў Радашковіцкай воласці Віленскай губерні на той час за акіянам знаходзіліся 126 чалавек, ці 1,7 % мясцовага сялянскага насельніцтва. Паколькі ўсяго ў Беларусі 1008 валасцей, аўтар рабіў выснову аб масавасці дадзенай з'явы [782]. Пры гэтым даваў і песімістычную ацэнку: «<...> найлепшыя, найбайчэйшыя сілы уцякаюць ад нас шукаць шчасця у Амерыцы» [782]. Карэспандэнт каталіцкай газеты «Belarus» у артыкуле «Naszaje narekannie» таксама ацэньваў эміграцыю ў Амерыку негатыўна: «Ciapier, naprykład, moda pajszła szukać szczaścia pa czużych krajach: moładź – a znaczycca samyje lepszyje siły naszych wiosak – jedzie u Ameryku nażywać hroszy <…> Usia biada nasza u

tym, szto nasza wioska pazbywajecca usich lepszych sił swaich na pracu abo dla czużyncau, abo kidajucca jany u harady, szukajuczy lohkich, jak im zdajecca zarabotkau» [842]. А шукаючы лепшай долі па чужых старонках сяляне мала ўвагі звяртаюць на ўласнае багацце. Такім багаццем аўтар лічыў адукацыю і заклікаў траціць свае сілы не на чужынцаў, а таксама не на чыноўнікаў вучыць сваіх дзяцей, а аддаваць у сельскагаспадарчыя школы. На старонках «Нашай Нівы» распачалася дыскусія па гэтым пытанні. У 1911 г. аўтар пад псеўданімам Бульба пісаў пра падман, здзек, жахлівыя ўмовы працы ў Амерыцы, і адзначаў, што «тые з іх, што вяртаюцца назад, большай часьцю інваліды» [62, с. 69]. Аўтар І. Дубровік падаваў вельмі непрываблівую карціну: «Калі пайсці і паглядзець у парк Даун-Тавнах, то аж страх бярэ, колькі нашых беларусоў абарваных, босых і голых, чорных ад пылу і сонца» [184, с. 366]. Іншы аўтар папярэджваў пра пагрозу сухотаў ад працы на шкодных прадпрыемствах [720]. Найбольш пазітыўны погляд у 1912 г. выказаў Аляксандр Уласаў, які сцвярджаў, што бываюць выпадкі, калі за 2 гады эмігранты прысылаюць з Амерыкі дамоў да 900 руб., а за 3–4 гады прывозяць 1000–1500: «<…> добрая старана Амэрыкі <…> бо беларус пабыўшы там не траціць свайго національнаго аблічча, а навучаецца многа чаму новаму. Беларусы, вярнуўшыся з Амэрыкі, пачынаюць ешчэ лепей з грашымі ў кішэні гаспадарыць» [5]. О. Семігальскі слушна прызнаваў, што «калі хто выбіраецца ў Амэрыку, то можна ехаць туды толькі тады, калі мае там сваіх добрых знаёмых, каторым можна верыць» [576, с. 3].

З прычыны адсутнасці дакладнай афіцыйнай статыстыкі даследчыкі прыводзяць вельмі розныя лічбы адносна колькасці беларускіх сялян, якія выязджалі за акіян на заробкі [216, с. 146; 220]. В. П. Панюціч лічыць, што выехала з Беларусі да Першай сусветнай вайны каля 800 тыс. чалавек, а вярнуліся з іх дадому каля 600 тыс. [672, с. 90; 676, с. 96]. Гэтыя лічбы ўяўляюцца значна завышанымі. Адносна сялян яны былі як мінімум у пяць-шэсць разоў меншыя. У кожным выпадку, міграцыя ў Амерыку закранула вялікую частку сялянства, асабліва ў заходніх і паўночных рэгіёнах Беларусі і аказала істотны ўплыў на гаспадарчае і сацыяльнае развіццё вёскі.

Далёкія вандроўкі не маглі не ўплываць на самасвядомасць і светапогляд сялян. Аднак, як паказваюць архіўныя матэрыялы, архаічнасць і кансерватызм сялянскага светаўспрымання аказаліся даволі ўстойлівымі. Уласны кавалак зямлі па-ранейшаму заставаўся ў вачах большасці з іх галоўнай каштоўнасцю. Нават высокія заробкі ў Амерыцы не маглі перамагчы гэтай цягі беларускага селяніна да сваёй малой радзімы, паколькі большасць мігрантаў

вярталася дадому. Урадавы чыноўнік Гродзенскай губерні пісаў пра мігрантаў у 1911 г.: «В Америку едут на два-три года, скопливают немного денег, возвращаются назад <…> стараются по возможности улучшить свое хозяйство, прикупить земли» [542, арк. 46 адв.]. Пісар Скідзельскай воласці сцвярджаў: «Судя по возвратившимся на родину рабочим, пребывание за границей никакого культурного влияния на рабочих не оказывает, как видно, вследствие не продолжительного пребывания, а главное не знания иностранных языков» [548, арк. 71]. Але ўсё ж больш пераканаўчымі падаюцца меркаванні тых урадавых чыноўнікаў, якія бачылі ў мігрантах прадпрымальнасць, працавітасць і павагу да законнасці. Аўтар газеты «Наша Ніва» пісаў у 1910 г.: «На нашу думку, выезд у Амэрыку на кароткі час, на тое толькі, каб зарабіўшы грошы вярнуцца назад, справа карысная. А карысна гэта таму, што наш селянін, пабываўшы ў Амэрыцы, вертаецца дамоў не толькі багацейшым, але і святлейшым» [802, с. 2]. Менавіта «амерыканцы», як часта называлі іх аднавяскоўцы, складалі высокі працэнт сярод уладальнікаў хутарскіх гаспадарак і выступалі рухавіком развіцця новых тэхналогій і спосабаў гаспадарання на вёсцы.

## 4.2. Міграцыя ў горад і вертыкальная сацыяльная мабільнасць

Для многіх беларускіх сялян у паслярэформенны перыяд адзіным магчымым выхадам з сітуацыі безнадзейнага малазямелля стала развітанне з роднай вёскай і спроба наладзіць новае жыццё ў горадзе. Гэта быў вельмі няпросты выбар, паколькі веды і ўменні, набытыя ў працэсе сацыялізацыі ў сялянскай сям'і і традыцыйнай вясковай супольнасці, маглі быць недастатковымі, каб паспяхова функцыянаваць у гарадскім асяроддзі. Але часта нават самая цяжкая і малааплочваемая праца ў горадзе дазваляла бедным сялянам мець лепшыя матэрыяльныя ўмовы жыцця, чым у сваёй вёсцы. Таму многія мігранты з вёскі, якія не валодалі рамяством і не мелі адукацыі, пагаджаліся на тыя ўмовы, што прапаноўваў ім горад і займалі ніжэйшую нішу ў яго сацыяльнай структуры.

Паводле падлікаў В. П. Панюціча, удзельная вага прадстаўнікоў сельскіх станаў вырасла ў гарадах Беларусі з 1866 па 1897 гг. з 3,6 % да 19,1 % [676 с. 359]. Але даследчык не ўлічваў таго факту, што ў матэрыялах перапісу 1897 г. да сялянскага стану адносілі і салдат сялянскага паходжання, якія служылі ў размешчаных у беларускіх гарадах вялікіх вайсковых гарнізонах, а пасля дэмабілізацыі вярталіся ў родныя вёскі. Калі ж адняць гэтую групу сялян-вайскоўцаў, дык

працэнт перасяленцаў з вёскі ў беларускіх гарадах будзе меншым. Паводле падлікаў Захара Шыбекі, за 1866–1896 гг. колькасць сялян у гарадах Беларусі вырасла з 12 627 (3,6 % ад колькасці ўсіх гараджан) да 31 357 (4,5 %), ці на 148,3 % [810, с. 263]. Але гэтыя даныя, якія грунтаваліся на афіцыйнай паліцэйскай статыстыцы, былі далёкія ад рэальнасці і нашмат заніжаныя.

У 1866 г. у пяці губернскіх гарадах, паводле памятнай кніжкі віленскага генерал-губернатарства, налічвалася 3494 дзяржаўныя селяніны (1828 мужчын і 1666 жанчын) і 2196 прыватнаўласніцкіх (1065 мужчын і 1131 жанчына). Яны складалі 2,8 % насельніцтва гэтых губернскіх цэнтраў. Прычым, апрача Вільні і Мінска, у астатніх гарадах сярод сялян было больш жанчын, чым мужчын. Гэта можна патлумачыць тым фактам, што сялянкам лягчэй было знайсці службу ў якасці хатніх служанак у дамах заможных гараджан. Гэта таксама сведчыць, што сяляне перабіраліся ў горад больш у індывідуальным парадку, чым цэлымі сем'ямі. Аднак можна меркаваць, што рэальная колькасць сялян у губернскіх гарадах была тады нашмат вышэйшай. Частка сялян з часам адаптавалася ў горадзе і пераходзіла ў мяшчанскае саслоўе. Напрыклад, паводле падлікаў З. В. Шыбекі, у 1882–1893 гг. 444 селяніны Мінскай губерні былі прыпісаныя да мяшчан беларускіх губерняў, а яшчэ 73 – да мяшчан іншых губерняў [810, с. 258]. Асабліва актыўна ў склад мяшчанства прыпісвалася былая дробная шляхта, аднадворцы, якія праходзілі ў матэрыялах урадавай статыстыкі ў графе «сельскія саслоўі». Прыпіска да мяшчанскага саслоўя вызваляла іх ад улады валаснога сялянскага кіравання, але звычайна яны працягвалі па-ранейшаму жыць і гаспадарыць у сваіх шляхецкіх ваколіцах. Некаторыя з сялян перыядычна перамяшчаліся паміж горадам і вёскай.

Найбольш дакладныя даныя адносна колькасці сялян у беларускіх гарадах падаюць матэрыялы перапісу насельніцтва 1897 г. Аднак адносна мужчынскай часткі сялянскага насельніцтва гарадоў, як вышэй ужо гаварылася, яны не могуць быць адэкватнымі. А вось даныя перапісу адносна жанчын дастаткова поўна адлюстроўваюць працэс перасялення сялянскага насельніцтва ў гарады. Паводле гэтых даных, у 1897 г. у пяці беларускіх губернях сялянкі складалі 15,3 % жаночага гарадскога насельніцтва, а ў губернскіх цэнтрах гэты паказчык дасягаў 17 % (табліца 4.3). У той жа час ад усяго жаночага сялянскага насельніцтва гараджанкі складалі 2,3 %. Узровень пісьменнасці сярод сялянак, якія жылі ў горадзе, быў вышэйшым за сярэдні паказчык.

Узроставая структура гараджанак сялянскага паходжання паводле даных перапісу 1897 г. выглядала наступным чынам: да 10 год – 22,3 %, 10–19 – 17,8 %, 20–29 – 28,1 %, 30–39 – 16,1 %, 40–49 – 6,9 %,

Табліца 4.3 – **Жаночае гарадское насельніцтва сялянскага паходжання ў беларускіх губернях у 1897 г.** [684–692]

| Губерня | Губернскі горад | | Усе гарады губерні | | % ад жаночага сялянскага насельніцтва |
|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць | % ад жаночага насельніцтва | Колькасць | % ад жаночага насельніцтва | |
| Віленская | 15 916 | 21,1 | 19 142 | 19,8 | 3,2 |
| Віцебская | 4627 | 14,3 | 16 956 | 16,0 | 2,9 |
| Гродзенская | 2744 | 13,7 | 13 691 | 11,5 | 2,5 |
| Магілёўская | 2337 | 14,3 | 12 452 | 23,1 | 1,8 |
| Мінская | 6442 | 14,5 | 12 042 | 11,0 | 1,6 |
| Разам | 32 066 | 17,0 | 74 283 | 15,3 | 2,3 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

50–59 – 4,0 %, 60 і болей – 4,7 %. З гэтых лічбаў вынікае, што найбольш актыўна працэс перасялення адбываўся ва ўзросце ад 20 да 30 год. Даныя ж пра грамадзянскі стан гарадскога насельніцтва сялянскага паходжання паказваюць, што сярод іх налічвалася 48 417 жанатых мужчын і 23 910 замужніх жанчын, а таксама 6606 удоў і 1623 удаўцы. Гэтыя лічбы сведчаць, што працэс перасялення адбываўся пераважна ў індывідуальным парадку, а не цэлымі сем'ямі.

Лічбы перапісу 1897 г. кардынальна адрозніваліся ад даных адміністрацыйнай статыстыкі. Напрыклад, у 1897 г. паліцэйская статыстыка паказвала ў губернскім Гродне 388 (161 мужчыну і 227 жанчын) дзяржаўныя сяляніны і 187 (96 мужчын і 91 жанчына) сялян-уласнікаў, што разам складала 575 асоб, ці 1,5 % ад сталага насельніцтва горада [658, с. 2]. Гэтыя лічбы амаль у дзевяць разоў меншыя, чым даныя перапісу. Праўда, у губернскай статыстыцы каля 7 % сталага насельніцтва горада складалі адстаўныя ваенныя чыны (2612 чалавек), сярод якіх было шмат выхадцаў з сялянскага саслоўя. У кожным разе афіцыйная паліцэйская статыстыка была вельмі недакладнай і паказвала значна меншую колькасць сялян у складзе гарадскога насельніцтва, чым гэта было ў рэчаіснасці.

Многія выхадцы з вёскі папаўнялі ў гарадах маргінальныя групы насельніцтва. У матэрыялах губернскай статыстыкі сярод злачынцаў, асуджаных за самыя розныя крымінальныя ўчынкі (разбоі, крадзяжы і г. д.), усё часцей сустракаюцца сяляне. Праведзенае аўтарам мікрагістарычнае даследаванне Скідзельскай воласці пераконвае, што большасць крымінальных злачынстваў тут здзяйснялі сяляне, якія ўжо перабраліся ў губернскі Гродна [764; 158]. Яны як бы

знаходзіліся паміж двума светамі: традыцыйным вясковым і гарадскім. Вызваліліся ад кантролю сваёй вясковай грамады, але не маглі знайсці сябе ў новым гарадскім асяроддзі, якое адводзіла ім маргінальнае месца.

Доля сялян сярод гарадскога насельніцтва працягвала ўзрастаць на пачатку XX ст. У 1912 г. у гарадах Віленскай губерні налічвалася 81 129 сялян, што складала 24 % усяго гарадскога насельніцтва [584, с. 36]. У гарадах Магілёўскай губерні ў 1914 г. сяляне складалі 18 % жыхароў [671, с. 51]. Прычым гэтыя даныя, як можна меркаваць, былі значна меншымі за рэальныя лічбы.

Для адносна невялікай групы вяскоўцаў горад станавіўся магчымасцю сацыяльнага поспеху. З часам выкрышталізаваліся два асноўныя шляхі перасялення сялян у горад, якія адначасова станавіліся важнымі каналамі вертыкальнай сацыяльнай мабільнасці, выконвалі функцыі сацыяльнага ліфту для найбольш актыўнай часткі вясковага насельніцтва. Гэтымі шляхамі стала атрыманне адукацыі ў горадзе і паступленне на дзяржаўную службу. Часта адукацыя станавілася прыступкай для кар’еры дзяржаўнага чыноўніка, і, такім чынам, гэтыя два шляхі паядноўваліся. Можна было паступіць на дзяржаўную службу і без дыплома гарадской навучальнай установы. Напрыклад, адстаўных ваенных пісараў і унтэр-афіцэраў ахвотна бралі ў паліцыю і жандары. Але магчымасці ўзвышэння па службовай лесвіцы без добрай адукацыі для іх былі абмежаваныя.

Мікалай Улашчык пісаў у даследаванні вёскі Віцкі, што для сялян найбольш даступнымі сталі дзве «вучоныя спецыяльнасці»: тэлеграфіста і вясковага настаўніка [777, с. 36]. Каб стаць тэлеграфістам, трэба было скончыць гарадское чатырохкласнае вучылішча і курсы тэлеграфістаў, а будучыя настаўнікі пераважна паступалі ў настаўніцкія семінарыі, дзе навучанне было бясплатным, ды яшчэ многія навучэнцы атрымлівалі стыпендыі. Хто меў большыя жыццёвыя амбіцыі, імкнуўся паступіць у гімназію, якая адчыняла дарогу і да вышэйшай адукацыі. У першыя пасляреформенныя дзесяцігоддзі ў гімназіях сялянскіх дзяцей было вельмі мала. Напрыклад, у 1861 г. у мінскай губернскай гімназіі было ўсяго 4 селяніны сярод 634 вучняў (0,6 %). У 1866 г. іх адносны паказчык вырас: 12 сярод 380 (3,2 %) [207, с. 380]. У Слуцкай гімназіі Мінскай губерні ў 1861–1865 гг. сярэдні працэнт сялянскіх дзяцей складаў 5,2 [207, с. 234–235]. Трохі вышэйшым з’яўляўся гэты паказчык у Мазырскай гімназіі, а ў Пінскай ён дасягаў тады нават 8–9 %.

У Віцебскай губернскай гімназіі ў 1874 г. навучалася ўсяго 4 селяніны (1,1 % ад колькасці ўсіх вучняў) [358, арк. 96], а ў 1880 г. тут налічвалася ўжо 19 вясковых хлопцаў (4,4 % ад агульнай навучэнцаў)

[359, арк. 177]. У 1877 г. у гродзенскай губернскай гімназіі вучыліся 11 сялянскіх хлопцаў, што складала 3,6 % ад агульнай колькасці навучэнцаў [647, с. 67].

Сяляне складалі абсалютную большасць сярод навучэнцаў настаўніцкіх семінарый ад пачатку іх заснавання. Напрыклад, у Свіслацкай семінарыі, адчыненай у 1876 г. у мястэчку Свіслач Ваўкавыскага павета, у 1877 г. налічвалася 132 вучні сялянскага паходжання (78,1 % ад агульнай колькасці) [647, с. 67]. У Нясвіжскай семінарыі ў Мінскай губерні ў 1880–1890-я гады сяляне складалі каля 70 % ад агульнай колькасці вучняў [660–664]. Усе настаўніцкія семінарыі Беларусі выпускалі ў паслярэформенны перыяд штогод 80–120 народных настаўнікаў, а ўдзельная вага сялян сярод іх з часам наблізілася да 90 % [75, с. 70]. Праўда, у перыяд адукацыйных «контррэформаў» з 1880 па 1886 гг. колькасць навучэнцаў семінарый скарацілася з 588 да 510 [114, с. 53].

Менавіта настаўніцкія семінарыі сталі для сялянскіх дзяцей найбольш даступнай магчымасцю набыць адукацыю (навучанне там было бясплатным) і ўзняцца па сацыяльнай лесвіцы. Паводле падлікаў В. М. Астрога, у 1880 годзе сярод вясковых настаўнікаў Беларусі выхадцы з сялян складалі 30,2 % [14, с. 12]. Сярод настаўнікаў усіх пачатковых школ Віленскай навучальнай акругі на 1880 г. асоб сялянскага паходжання налічвалася 635 (41 % ад колькасці ўсіх настаўнікаў) [216, с. 248]. Хаця ўсе прадметы ў настаўніцкіх семінарыях выкладаліся на рускай мове і ў духу заходнерускай ідэалогіі, гэтыя ўстановы сталі сапраўднымі кузнямі будучай беларускамоўнай творчай інтэлігенцыі. Іх навучэнцамі ў розны час былі такія асобы, як Адам Багдановіч, Якуб Колас, Кузьма Чорны, Макар Краўцоў, Міхась Чарот і многія іншыя вядомыя прадстаўнікі беларускай нацыянальнай культуры. Усе заснаваныя ў другой палове XIX ст. настаўніцкія семінарыі размяшчаліся ў мястэчках ці невялікіх павятовых гарадах – Маладзечне, Нясвіжы, Полацку, Свіслачы і г. д. Можна меркаваць, што гэта была свядомая палітыка улад, каб ізаляваць будучых настаўнікаў ад шкоднага ўплыву вялікіх гарадоў, дзе былі моцныя пазіцыі польскай і яўрэйскай нацыянальных культур. Такім чынам, значная частка прадстаўнікоў першых пакаленняў беларускай інтэлігенцыі сялянскага паходжання набывала адукацыю і распачынала сваю асветніцкую і грамадска-палітычную дзейнасць не атрымаўшы вопыту гарадскога жыцця, што мела істотны ўплыў і на працэсы фарміравання беларускай інтэлігенцыі як асобнай сацыяльнай групы, і на развіццё беларускага нацыянальнага руху. Пасля 1910 г. былі заснаваныя настаўніцкія інстытуты ў губернскіх гарадах Беларусі – Віцебску, Магілёве і Мінску. Большасць навучэнцаў

у гэтых установах таксама складалі сяляне. Напрыклад, у 1912 г. у Віцебскім настаўніцкім інстытуце сярод 68 навучэнцаў налічвалася 59 сялян (86,7 %) [15, с. 40].

Апроч настаўніцкіх семінарый сялянскія дзеці ахвотна ішлі і ў іншыя прафесійныя ўстановы, што вынікала з сялянскага прагматызму і рацыянальнага разліку. Напрыклад, у Мар'інагорскай сельскагаспадарчай школе ў Мінскай губерні сяляне складалі ад 70 да 90 % вучняў [564, с. 63]. У Бабруйскай школе садаводства сялян было менш – 30–40 % [564, с. 63]. Сялян увогуле было менш у прыватных школах, дзе адсутнічалі стыпендыі для бяднейшых вучняў. У знакамітым Горы-Горацкім земляробчым інстытуце ў 1878 г. сялян было 14,8 % ад колькасці ўсіх навучэнцаў, але ў 1910 г. – ужо 38,9 % [564, с. 62]. З адкрыццём рамесных вучылішчаў туды таксама пайшло шмат сялянскіх хлопцаў, тым болей, што многія з іх атрымлівалі стыпендыі валасных праўленняў. Напрыклад, у гродзенскім рамесным вучылішчы ў 1906 г. сялянскія хлопцы складалі 54 % ад агульнай колькасці навучэнцаў [597, с. 93]. А ў 1914 г. у рамесных вучылішчах Віленскай навучальнай акругі сялян было 69,2 % [564, с. 64].

Гэта ж можна сцвярджаць і адносна іншых прафесійных устаноў. Напрыклад, у гомельскім чыгуначным вучылішчы сяляне ў 1912 г. складалі амаль 55 % навучэнцаў, а ў гомельскай фельчарскай школе – 73,8 %. Даволі высокім быў працэнт сялян і ў камерцыйных вучылішчах. Так, у Беластоцкім (Гродзенская губерня) і Гомельскім (Магілёўская губерня) камерцыйных вучылішчах у 1913 г. сялян было па 16 % ад агульнай колькасці вучняў [602, ведомость 21; 616, с. 78], а ў Віленскай гандлёвай школе – 27 % [584, с. 85].

Адносна няшмат было выхадцаў з сялянства у праваслаўных духоўных семінарыях, паколькі гэтыя ўстановы традыцыйна арыентаваліся на дзяцей духавенства. У мінскай духоўнай семінарыі ў 1889 г. сяляне складалі 5,7 % ад усіх навучэнцаў [662, с. 215], а ў 1890 – 5,4 [663, с. 14]. У 1893 г. у віцебскай духоўнай семінарыі налічвалася 15 сялян (4,4 % ад агульнай колькасці вучняў). У павятовых духоўных вучылішчах працэнт сялян быў ужо значна вышэйшым. Напрыклад, у полацкім духоўным вучылішчы ў 1893 г. сяляне складалі 14,3 % ад агульнай колькасці вучняў [643, с. 235–236]. На пачатку XX ст. працэнт сялян у духоўных навучальных установах заўважна вырас. У Віцебскай духоўнай семінарыі ў 1914 г. сялян было 12,3 %, віцебскім і полацкім духоўных вучылішчах – 25,2 %, а ў жаночым Спаса-Еўфрасіннеўскім духоўным вучылішчы – 29,9 %. У Літоўскай духоўнай семінарыі ў Вільні ў 1912 г. сяляне складалі 11,8 %, у мужчынскім духоўным вучылішчы – 19,9 %. Асабліва высокай была адносная вага выхадцаў з сялянства сярод студэнтаў Віленскай рыма-каталіцкай

семінарыі – 69,1 % [584, с. 85]. Паколькі для сялян каталіцкага веравызнання была фактычна зачынена дарога ў настаўніцкія семінарыі і інстытуты, духоўная семінарыя была для іх адной з самых даступных навучальных устаноў, якая адкрывала магчымасці вельмі прэстыжнага ў каталіцкай вёсцы жыццёвага шляху ксяндза.

Паступова ўзрастала і колькасць сялянскіх дзяцей сярод вучняў губернскіх навучальных устаноў сярэдняга тыпу. Паводле падлікаў Г. І. Маскевіч, за 70–90-я гады XIX ст. удзельная вага сялян сярод навучэнцаў сярэдніх навучальных устаноў Беларусі павялічылася з 3,7 да 30 % [268, с. 3, 17]. Пэўны спад назіраўся ў другой палове 1880-х гадоў і быў звязаны з палітыкай контрэформаў, накіраваных у тым ліку і на абмежаванне колькасці выхадцаў з ніжэйшых станаў у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. Напрыклад, у Гродзенскай губернскай гімназіі колькасць сялян у 1883 г. дасягнула 31, а ў 1888 г. скарацілася да 17 [653; 654]. Але гэта была часовая з’ява, і колькасць выхадцаў з вёскі зноў пачала ўзрастаць. Прычым вясковым дзецям паступаць у гімназіі было асабліва складана, паколькі навучанне лацінскай і замежным мовам звычайна патрабавала платных прыватных заняткаў. Але ўсё больш і больш сялянскіх дзяцей пераадольвала гэтыя цяжкасці.

У 1889 г. у дзвюх гімназіях і дзвюх прагімназіях (гэтыя ўстановы давалі няпоўную сярэднюю адукацыю) Мінскай губерні сялян налічвалася 44 (4,26 % ад агульнай колькасці вучняў), а ў 1890 г. – 38 (3,8 %). А ў мінскай жаночай гімназіі вучылася ў 1889–1890 гг. усяго адна сялянская дзяўчынка [662, с. 215]. У 1893 г. у Віцебскай класічнай мужчынскай гімназіі сялян налічвалася 6 (1,5 % ад усіх навучэнцаў), а ў жаночай – 4 (1,25 %) [643, с. 233–236].

На пачатку XX ст. паскараецца рост колькасці прадстаўнікоў сялянства ў сярэдніх навучальных установах. У Мінскай губернскай гімназіі ў 1913 г. з 643 вучняў было 72 селяніны (11,2 %), а ва ўсіх васьмі мужчынскіх гімназіях – 295 (11,3 %) [607, ведомость об учебных заведениях в Минской губернии]. У 1913/1914 навучальным годзе ў Віцебскай дзяржаўнай гімназіі налічвалася 90 сялян сярод 712 вучняў (12,6 %), у Полацкай дзяржаўнай гімназіі – 15 сярод 74 (20,3 %), прыватнай гімназіі Неруша – 13 сярод 212 (6,1 %). У Гродзенскай дзяржаўнай мужчынскай гімназіі ў 1913/1914 навучальным годзе налічвалася 99 сялян паводле паходжання (16 % ад агульнай колькасці навучэнцаў)[603, ведомость 21]. У дзвюх дзяржаўных гімназіях Вільні ў 1912 г. сярод 1271 вучня сялян было 163 (12,8 %). [584, с. 83]. У Магілёўскай дзяржаўнай мужчынскай гімназіі ў 1913 г. выхадцы з сялян складалі 7,8 % вучняў (41 з 527) [617, с. 76]. Такім чынам, працэнт выхадцаў з сялян у большасці мужчынскіх гімназій

перавышаў напярэдадні Першай сусветнай вайны 10, а ў некаторых набліжаўся да 20.

Ніжэйшым заставаўся на пачатку XX ст. адносны паказчык вучаніц сялянскага паходжання ў жаночых гімназіях, што вынікала з даўняй традыцыі, паводле якой адукацыі хлопцаў у сялянскіх сем'ях надавалася большае значэнне, чым дзяўчынак. Але на пачатку XX ст. розніца выразна зменшылася. Напрыклад, у Мінскай жаночай Марыінскай гімназіі ў 1913 г. было 29 вучаніц сялянскага паходжання (5,2 % ад агульнай колькасці) [607, ведомость об учебных заведениях в Минской губернии]. У Віцебскай Марыінскай жаночай гімназіі налічвалася ў 1914 г. 70 сялянак (11,4 %), у Аляксееўскай – 40 (7,7 %), у Полацкай – 46 (12,3 %). У дзвюх віцебскіх прыватных жаночых гімназіях вучыліся 77 сялянак (11 % ад усіх вучаніц) [590, с. 49]. У Гродзенскай прыватнай жаночай гімназіі Шмеман у 1913–1914 гг. было 19 (8,4 %), а ў Марыінскай гімназіі 33 з 581 (5,0 %) дзяўчынкі сялянскага паходжання [603, ведомость 21]. У дзвюх Віленскіх дзяржаўных жаночых гімназіях у 1912 г. вучаніцы сялянскага паходжання складалі 10 % [584, с. 83]. У Магілёўскай жаночай Марыінскай гімназіі ў 1913 г. налічвалася 126 сялянак з 626 вучаніц (20,1 %), у Гомельскай жаночай гімназіі – 66 з 560 (11,8 %), Аршанскай – 50 з 424 (11,8 %) [617, с. 76].

У большай ступені, чым гімназіі, прыцягвалі сялянскіх хлопцаў рэальныя вучылішчы (гэтыя сярэднія навучальныя ўстановы, арыентаваныя на дакладныя дысцыпліны, пачалі засноўвацца з 1872 г.). Азначаны факт можна патлумачыць прагматызмам вяскоўцаў, іх арыентацыяй на практычныя веды, якія маглі забяспечыць чалавека надзейнай працай і заробкам. Сяляне, укладаючы вялізныя высілкі ў адукацыю сваіх дзяцей, не маглі дазволіць сабе неабгрунтаванай рызыкі. У двух рэальных вучылішчах Мінскай губерні сялян было ў 1889 г. 28 (9,21 %), а ў 1890 – ужо 41 (10,6 %). У Віленскім рэальным вучылішчы ў 1912 г. сялян было 99 (16,6 %) [584, с. 83]. У Віцебскім рэальным вучылішчы ў 1914 г. вучні сялянскага паходжання складалі 23,7 %, а ў Дзвінскім – 22,8 % [590, с. 50]. У Гродзенскім рэальным вучылішчы сялян у 1913 г. было 61 з 329 вучняў (19 %), а ў Беластоцкім яны складалі амаль 32 % ад агульнай колькасці вучняў [603, ведомость 21]. У Магілёўскім рэальным вучылішчы сялян налічвалася 17,4 % ад колькасці ўсіх навучэнцаў, у Аршанскім – 10,5 %, Рагачоўскім – 22,3 % [617, с. 76].

Вельмі высокім з'яўляўся працэнт сялян у гарадскіх вучылішчах, якія дзейнічалі ў павятовых гарадах. Напрыклад, ва ўсіх такіх вучылішчах Віленскай губерні ў 1912 г. сярод 1897 навучэнцаў налічвалася 1014 (53,5 %) сялянскіх хлопцаў [584, с. 84]. Для часткі з іх

гарадское вучылішча станавілася прыступкай для далейшай вучобы ў гімназіі ці рэальным вучылішчы.

Але асноўная частка вясковых дзяцей, якая прагнула атрымаць адукацыю і змяніць свой сацыяльны статус, і на пачатку ХХ ст. па-ранейшаму ішла ў настаўніцкія семінарыі. У 1913 г. у Рагачоўскай настаўніцкай семінарыі ў Магілёўскай губерні сяляне складалі 87 % [617, с. 78] ад колькасці ўсіх навучэнцаў, а ў Свіслацкай семінарыі ў Гродзенскай губерні – 95 % [603, ведомость 21]. Меншым быў паказчык сялянскіх дзяўчынак у жаночых семінарыях. Напрыклад, у Аршанскай жаночай – 19 з 95 (20 %) [617, с. 78].

Можна меркаваць, што сярод навучэнцаў сярэдніх і спецыяльных устаноў сялянскага паходжання пераважалі выхадцы з заможнага сялянства. Напрыклад, сярэдні кошт навучання ў настаўніцкім інстытуце складаў каля 150 руб. за год [117, с. 123]. Гэта была вельмі вялікая сума нават для заможнага вясковага гаспадара. Для здольных выхадцаў з небагатых сялянскіх сямей выратаваннем станавіліся дзяржаўныя і прыватныя стыпендыі. Навука часта з’яўлялася адзінай магчымасцю для дзяцей беззямельнай беднаты вырвацца з галечы і ўзняцца па сацыяльнай лесвіцы. Але гэта была вельмі няпростая задача. Нават сярод навучэнцаў настаўніцкіх семінарый, дзе не было аплаты за навучанне, самай пашыранай прычынай адлічэння з установы з’яўлялася беднасць – трэба было зарабляць грошы, а не вучыцца [112, с. 7].

На мяжы ХІХ–ХХ стст. выхадцы з сялянства складалі ў грамадстве Беларусі яшчэ вельмі нізкі працэнтны паказчык сярод асоб, якія мелі адукацыю вышэй за пачатковую. Паводле даных усеагульнага перапісу насельніцтва 1897 г. у пяці беларускіх губернях налічвалася 2367 сялян (1808 мужчын і 559 жанчын) з сярэдняй адукацыяй (гімназіі і рэальныя вучылішчы), 2002 (1881 мужчына і 121 жанчына) скончылі спецыяльныя сярэднія ўстановы, 148 – сярэднія ваенныя вучылішчы, 38 – універсітэты і спецыяльныя вышэйшыя ўстановы (табліца 4.4).

Працэнтны паказчык асоб з адукацыяй вышэй за пачатковую ў беларускіх губернях сярод сялянскага насельніцтва нідзе не перавышаў дзясятай долі працэнта (табліца 4.5), ці адна такая асоба ў сярэднім прыходзілася на тысячу сялян. Але ў рэчаіснасці многія адукаваныя выхадцы з сялянства канцэнтраваліся ў вялікіх гарадах, такіх як Вільня ці Мінск. Сярод адукаванага грамадства яны таксама складалі вельмі невялікую частку.

Колькасць сялян з адукацыяй вышэй за пачатковую ўвесь час узрастала ў паслярэформенны перыяд. Калі сярод асоб, якія нарадзіліся ў 1858–1867 гг., такіх было 855, дык сярод тых, хто нарадзіўся

Табліца 4.4 – **Асобы сялянскага паходжання з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй у беларускіх губернях у 1897 г.** [684–692]

| Губерня | Універсітэты | | Спецыяльныя і тэхнічныя ВНУ | | Спецыяльныя сярэднія ўстановы | | Сярэднія ўстановы | | Сярэднія ваенныя вучылішчы | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Муж | Жан | Муж | Жан | Муж | Жан | Муж | Жан | Муж | Жан | Муж | Жан |
| Віленская | 9 | – | 2 | – | 380 | 14 | 378 | 167 | 83 | – | 852 | 181 |
| Віцебская | 9 | – | 3 | – | 124 | 1 | 403 | 125 | 15 | – | 554 | 126 |
| Гродзенская | 4 | 1 | 4 | – | 469 | 37 | 361 | 102 | 16 | – | 854 | 140 |
| Магілёўская | 2 | – | – | – | 352 | 42 | 255 | 87 | 25 | – | 634 | 129 |
| Мінская | 2 | – | 2 | – | 556 | 27 | 411 | 78 | 9 | – | 980 | 105 |
| Разам | 26 | 1 | 11 | – | 1881 | 121 | 1808 | 559 | 148 | – | 3874 | 681 |

Табліца 4.6 – **Сяляне з адукацыяй вышэй за пачатковую ў беларускіх губернях у 1897 г. паводле ўзроставых груп** [684–692]

| Губерня | 0–9 | | 10–19 | | 20–29 | | 30–39 | | 40–49 | | 50–59 | | 60 і болей | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | М | Ж | М | Ж | М | Ж | М | Ж | М | Ж | М | Ж | М | Ж |
| Віленская | 3 | 1 | 240 | 59 | 338 | 78 | 166 | 31 | 49 | 9 | 41 | 2 | 15 | 1 |
| Віцебская | – | 1 | 203 | 48 | 194 | 48 | 88 | 20 | 44 | 6 | 18 | 3 | 7 | – |
| Гродзенская | 3 | – | 224 | 29 | 265 | 58 | 192 | 34 | 82 | 9 | 47 | 12 | 33 | 7 |
| Магілёўская | 1 | 3 | 259 | 37 | 192 | 58 | 96 | 20 | 43 | 7 | 24 | 6 | 17 | 1 |
| Мінская | 6 | – | 283 | 29 | 370 | 39 | 178 | 30 | 79 | 9 | 33 | 1 | 27 | – |
| Разам | 13 | 5 | 1209 | 202 | 1359 | 281 | 720 | 135 | 297 | 40 | 163 | 24 | 99 | 9 |

Табліца 4.5 – **Адносныя паказчыкі асоб з адукацыяй вышэй за пачатковую сярод сялянскага насельніцтва пяці беларускіх губерняў у 1897 г. , %** [684–692]

| Губерня | Мужчыны | Жанчыны | Разам |
|---|---|---|---|
| Віленская | 0,15 | 0,03 | 0,09 |
| Віцебская | 0,09 | 0,02 | 0,06 |
| Гродзенская | 0,14 | 0,03 | 0,09 |
| Магілёўская | 0,10 | 0,02 | 0,06 |
| Мінская | 0,13 | 0,01 | 0,07 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

ў 1868–1877 гг., ужо 1640 (табліца 4.6). Трэба ўлічваць яшчэ той факт, што адукаваныя сяляне часта імкнуліся перабрацца ў Пецярбург, Маскву, Кіеў і іншыя вялікія гарады, дзе яны бачылі больш магчымасцей для самарэалізацыі. Мітрафан Доўнар-Запольскі так пісаў пра гэтую праблему: «Независимо от того, к какому классу общества принадлежит образованный белорус, прошедший среднюю или высшую школу, он охотно оставляет родной край и ищет места на чужбине. Немногие поэтому из окончивших курс в разных высших учебных заведениях возвращаются на родину, да и возвращающиеся редко поддерживают связи с сельским людом» [72, с. 98].

У сельскай мясцовасці пяці беларускіх губерняў сярод асоб з адукацыяй вышэй за пачатковую сяляне складалі ўсяго 9,6 % (12,6 % сярод мужчын і 3,8 % сярод жанчын), а ў гарадах гэты паказчык быў меншы – 6,6 % (табліца 4.7). Такім чынам, складаючы выразную меншасць сярод адукаваных пластоў грамадства, выхадцы з сялянства звычайна былі вымушаны адаптавацца да новага асяроддзя і асімілявацца ў культурным і моўным сэнсах. Другім шляхам перасялення сялян у горад і ўзвышэння па сацыяльнай лесвіцы, як вышэй ужо адзначалася, стала паступленне на дзяржаўную службу. Для гэтага патрэбна было, як мінімум, быць пісьменным. У першыя паслярэформенныя дзесяцігоддзі выхадцы з беларускага сялянства выключна рэдка сустракаліся ў асабовым корпусе дзяржаўнага чыноўніцтва. Але пастýпова іх колькасць павялічвалася, асабліва на самых ніжэйшых прыступках бюракратычнага апарату. Напрыклад, у 1884 г. у Віленскай па сялянскіх справах прысутнасці з 19 служачых налічвалася 2 селяніны, у Гродзенскай – 2 з 16. У міравых пасярэднікаў Віленскай губерні на той час працавалі 5 пісьмаводаў сялянскага паходжання, у Гродзенскай губерні – 7 [145, арк. 3, 17, 21–26].

Табліца 4.7 – **Асобы сялянскага паходжання з адукацыяй вышэй за пачатковую ў пяці беларускіх губернях у 1897 г.** [684–692]

| Губерня | Месца пражывання | Сяляне з адукацыяй вышэй за пачатковую | | | % ад асоб з адукацыяй вышэй за пачатковую | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Муж | Жан | Разам | Муж | Жан | Разам |
| Віленская | Гарады | 405 | 114 | 519 | 5,7 | 2,2 | 4,2 |
| | Паветы | 447 | 67 | 514 | 15,0 | 5,2 | 12,0 |
| | Разам | 852 | 181 | 1033 | 8,5 | 2,8 | 6,2 |
| Віцебская | Гарады | 305 | 72 | 377 | 5,5 | 2,3 | 4,4 |
| | Паветы | 249 | 54 | 303 | 10,3 | 4,8 | 8,6 |
| | Разам | 554 | 126 | 680 | 7,0 | 2,9 | 5,6 |
| Гродзенская | Гарады | 226 | 36 | 262 | 4,9 | 1,3 | 3,6 |
| | Паветы | 628 | 104 | 732 | 14,4 | 7,5 | 12,7 |
| | Разам | 854 | 140 | 994 | 9,6 | 3,4 | 7,6 |
| Магілёўская | Гарады | 373 | 80 | 453 | 8,6 | 3,2 | 6,6 |
| | Паветы | 261 | 49 | 310 | 8,8 | 3,7 | 7,2 |
| | Разам | 634 | 129 | 763 | 8,7 | 3,4 | 6,9 |
| Мінская | Гарады | 383 | 40 | 423 | 6,2 | 1,5 | 4,8 |
| | Паветы | 597 | 65 | 662 | 13,1 | 4,8 | 11,2 |
| | Разам | 980 | 105 | 1085 | 9,1 | 2,7 | 7,4 |
| Разам | Гарады | 1692 | 342 | 2034 | 6,1 | 2,5 | 6,6 |
| | Паветы | 2182 | 339 | 2521 | 12,6 | 3,8 | 9,6 |
| | Разам | 3874 | 681 | 4555 | 8,6 | 3,0 | 6,7 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Калі ў 1878 г. быў створаны інстытут паліцэйскіхураднікаў – прафесійных паліцэйскіх з правамі дзяржаўнай службы, гэтая пасада стала вельмі прываблівай для выхадцаў з вёскі. У 1884 г. у Віленскай губерні сярод 126 ураднікаў налічвалася 15 сялян (з іх 10 праваслаўных і 5 каталікоў). З іх 7 мелі хатнюю адукацыю, 3 скончылі павятовыя вучылішчы, столькі ж народныя, па аднаму – духоўнае і прыходскае вучылішчы. Але ў рэчаіснасці працэнтны паказчык выхадцаў з сялян быў нашмат вышэйшым, паколькі да іх належала абсалютная большасць адстаўных і запасных ніжніх чыноў, якіх сярод ураднікаў Віленскай губерні налічвалася 74 (58,7 %) [144, арк. 18–30]. Падобная сітуацыя назіралася ў Гродзенскай губерні. Сярод 154 ураднікаў быў 21 (13,6 %) селянін (усе праваслаўнага веравызнання) і 83 (53,9 %) адстаўныя і запасныя ніжнія ваенныя чыны. Сярод сялян 10 скончылі павятовыя вучылішчы, па 3 – духоўныя і народныя вучылішчы, двое – настаўніцкую семінарыю, двое мелі хатнюю адукацыю, а яшчэ адзін ураднік сялянскага паходжання атрымаў пасведчанне фельчара [144, арк. 4–14].

У 1897 г. у Мінскай губерні налічвалася 137 штатных паліцэйскіх чыноўнікаў (паліцмайстраў, спраўнікаў, прыставаў і іх памочнікаў). Сярод іх было 20 сялян паводле паходжання (14,6 %) [351]. Напрыклад, у штаце мінскай гарадской паліцыі было 26 чыноў, а сялян сярод іх – 6 (23 %). Ігнат Пякарскі (44 гады), прыстаў 2-га ўчастка, паходзіў з Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні, скончыў там павятовае вучылішча і настаўнічаў. З 1891 г. паступіў на паліцэйскую службу ў Мінск [352]. Памочнік прystава Рыгор Кніга (31 г.) скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, паходзіў са Скідзельскай воласці Гродзенскага павета. Памочнік прыстава Васіль Чумакоў паходзіў з мястэчка Чачэрск Рагачоўскага павета, скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю. Памочнік прыстава Шахлевіч (31 г.) скончыў Нясвіжскую семінарыю, паходзіў з Раманаўскай воласці Слуцкага павета. Яго земляком быў наглядчык прывакзальнага ўчастка Стэфан Шышко (32 г.), таксама выхаванец Нясвіжскай семінарыі. Памочнік наглядчыка мінскай турмы Амвросі Невяроўскі (47 г.) меў хатнюю адукацыю і паходзіў з Бабруйскага павета.

У 1905–1906 гг. у штаце гарадской паліцыі Гродна выхадцы з сялян складалі каля 50 % чыноўнікаў [416]. Аналіз 363 фармулярных спіскаў чыноўнікаў губернскага праўлення, паліцыі і дваранскіх устаноў Гродзенскай губерні на 1905 г. паказвае, што сярод іх налічвалася 123 селяніны паводле саслоўнага паходжання (34 %) [415–418]. У большасці яны з'яўляліся ўраджэнцамі Гродзенскай губерні праваслаўнага веравызнання. Найбольш было сялян сярод паліцэйскіх служачых – 98 з 242 (40,5 %). Аднак сярод 18 па-

ліцмайстраў і павятовых спраўнікаў губерні толькі паліцмайстар Беластока Пётр Мятленка паходзіў з сялян Віленскай губерні [416, арк. 247–254], а пасады памочнікаў павятовых спраўнікаў займалі выхадцы з сялян Канстанцін Мацэвіч і Філіп Аўдзяевіч. Фармулярныя спіскі сведчаць, што чыноўнікі сялянскага паходжання часта імкнуліся ажаніцца на асобах з больш высокім сацыяльным статусам. Напрыклад, паліцэйскі прыстаў Канстанцін Шакун, сын селяніна Магілёўскай губерні, скончыў ваеннае вучылішча і ажаніўся з дачкой падпалкоўніка [416, арк. 746]. Гэта можна інтэрпрэтаваць як своеасаблівую жыццёвую стратэгію, якая дапамагала сялянскім сынам інтэгравацца ў новае сацыяльнае асяроддзе.

Узровень адукаванасці чыноўнікаў сялянскага паходжання Гродзенскай губерні быў ніжэй сярэдняга ўзроўню адукаванасці сярод чыноўнікаў. Толькі адзін са 123 такіх чыноўнікаў, чые фармуляры былі даследаваныя, скончыў рэальнае вучылішча і меў завершаную сярэднюю адукацыю. Павятовыя вучылішчы (няпоўная сярэдняя адукацыя) скончылі 35 асоб (28,5 %), столькі ж навучалася ў народных вучылішчах, у гарадскіх вучылішчах – 3 асобы, у настаўніцкіх семінарыях – 2, у царкоўна-прыходскім вучылішчы – 1. Астатнія мелі хатнюю адукацыю. Невысокі ўзровень адукацыі выхадцаў з сялянства ўскладняў ім магчымасці паспяховай кар’еры.

Паводле пагаспадарчага даследавання Віцебскай губерні за 1907 г. з ліку жыхароў даследаваных гаспадарак 1500 асоб (1 499 мужчын і адна жанчына) знаходзілася на дзяржаўнай службе [790]. Гэта складала 1,6 % ад колькасць работнікаў мужчын. Праўда, дзяржаўную службу ў дадзеным выпадку нельга атаясамляць з чыноўніцкай службай. Самую вялікую групу сярод дзяржаўных служачых з сялян, паводле даных гэтага даследавання, складалі паліцэйскія соцкія – 312 асоб (гэта былі звычайныя гаспадары, на якіх вясковыя грамады яшчэ ўскладвалі абавязак выканання паліцэйскай службы), далей ішлі паліцэйскія ўраднікі – 312, стражнікі – 174, «нарочные всадники» – 124, пажарнікі – 117, паліцэйскія гарадавыя – 110, паштальёны – 102, тэлеграфісты – 78, жандары – 65, ніжнія чыны – 54, турэмныя наглядчыкі – 30, тэлефаністы – 18, судовыя прыставы – 14, акалодачныя паліцэйскія – 9. Калі для паліцэйскіх соцкіх іх служба была хутчэй накладзенай на іх дадатковай павіннасцю, дык паліцэйскія гарадавыя ці жандары ўжо з’яўляліся прафесійнымі службоўцам і складалі ніжэйшы ўзровень дзяржаўнага апарату. Менавіта з сялян пераважна фарміравалася ў той час паліцыя і жандармерыя. Высокіх чыноў сярод выхадцаў з сялянства Віцебскай губерні было вельмі мала: 3 паліцэйскія прыставы, 2 міравыя суддзі і адзін суддзя (без тлумачэння яго пасады і ўзроўня), начальнік турмы, інспектар вучылішчаў, 6 за-

гадчыкаў вучылішчаў, 3 начальнікі паштовых кантор, 5 наглядчыкаў паштовых станцый, 5 афіцэраў (без указання іх звання).

Валасных пісараў і іх памочнікаў з ліку сялян Віцебскай губерні налічвалася 154 асобы, духоўных асоб – 128 (у тым ліку 81 святар і псаломшчык). Настаўнікі былі аднесены да прадстаўнікоў свабодных прафесій. Іх налічвалася 223 мужчыны і 25 жанчын. Акрамя іх у гэтай катэгорыі знаходзіліся: прысяжныя і прыватныя давераныя – 4, перакладчык – 1, урачы – 2, фельчары – 136 мужчын і 1 жанчына, ветэрынарныя ўрачы – 6, ветэрынарныя фельчары – 6, аптэкары – 2, акушэркі – 10, медыцынская сястра – 1. Усяго ж аўтары далучылі да свабодных прафесій 693 асобы (653 мужчыны і 40 жанчын), што складала 0,6 % ад усіх прамысловых работнікаў. Праўда, яны далучылі сюды, між іншых прафесій, будаўнікоў, музыкантаў, канавалаў і «асфальтавых майстроў». Гандлем займаліся 1672 селяніны (1321 мужчына і 153 жанчыны). На чыгунцы працавалі 2834 мужчыны і 13 жанчын. Некаторыя выхадцы з сялян дасягнулі поспеху на прыватнай службе. Напрыклад, упраўляючымі маёнткамі былі 50 асоб, бухгалтарамі – 27.

Інтэнсіўнасць міграцыйных працэсаў з беларускай вёскі ў гарады была неаднолькавай у розных рэгіёнах і мясцовасцях. Мікалай Улашчык пісаў пра вёску Віцкаўшчына на Міншчыне, што працэс адыходу ў горад там толькі распачынаўся напярэдадні Першай сусветнай вайны [777, с. 37]. Аналіз фармулярных лістоў перапісу 1897 г., якія захаваліся адносна вялікіх лясных вёсак Шчанец, Ліхачы і Сабаляны паўночнай часткі Гродзенскага павета, паказвае, што ў гэтых вёсках працэс міграцыі закрануў на той час невялікую частку жыхароў – ад 1,5 да 4,4 % адсутнічалі ў родных вёсках («служылі» ў горадзе, выехалі на заробкі ў Амерыку, працавалі на чыгунцы і г. д.) [509–513]. Напрыклад, міграцыя з вёскі Ліхачы закранула 7 сем'яў, ці 8 % ад агульнай іх лічбы ў гэтай вёсцы [510].

Некаторыя сяляне самі вярталіся пасля некалькіх гадоў жыцця ў горадзе ў родную вёску, а іншых улады вярталі прымусова, калі апошнія не маглі знайсці легальны занятак і атрымаць пашпарт. На вёсцы яны часта станавіліся «нядобранадзейным элементам» і каталізатарам грамадскага неспакою. Напрыклад, міравы пасрэднік Ваўкавыскага павета пісаў у 1869 г. пра селяніна Рыгора Бірыцкага, які вучыўся ў гімназіі і жыў некаторы час у горадзе, але вярнуўся ў родную вёску, што апошні «занялся писанием от крестьян кляузных прошений, начал подстрекать крестьян к разным противузаконным действиям, собирая их несколько раз в день на самовольные сходки и подкрепляя свое значение пренебрежением властей, успел <...> довести Тарнопольскую волость до безпорядков». У выніку пасрэднік

дамогся ад валаснога схода пастановы аб выдаленні Рыгора Біріцкага, што азначала для таго высылку ў аддаленыя губерні імперыі. Але ўсе сяляне роднай вёскі Бірыцкага Сямёнаўка падпісалі прашэнне на імя гродзенскага губернатара Крапоткіна з просьбай не высылаць апошняга [445, арк. 1–5]. Напэўна, землякі былі зацікаўлены ў яго паслугах пісьменнага чалавека. І падобнага кшталту асобы з'яўляліся ў паслярэформенныя гады практычна ў кожнай мясцовасці. А для дзяржаўных улад так званая адміністрацыйная высылка (без судовага разгляду справы) стала адным з галоўных сродкаў супраць палітычных нядобранадзейных асоб [161]. З часам у вясковым грамадстве фарміруецца цэлая група такіх асоб, якія атрымалі пэўную адукацыю, але не змаглі ўладкавацца ў горадзе. І. Д. Гарбачэўскі пісаў пра гэтую праблему ў 1895 г.: «В последнее время встречается масса молодых неудачников, которые оторвались от родного хозяйства, но при малом образовании не могли устроиться в жизни и горько жалуются на мнимую несправедливсть судьбы» [247, с. 21].

Асноўнымі каналамі вертыкальнай сацыяльнай мабільнасці для сялян ў паслярэформенны перыяд стала навука, а таксама служба ў войску. Дзякуючы атрыманай адукацыі сялянскія дзеці, пераважна з заможных сямей, пачалі набываць новыя прафесіі (настаўніка, пісара, фельчара, тэлеграфіста і г. д.), а разам з імі і новы сацыяльны статус у грамадстве. На пачатку XX ст. выхадцы з сялянства складалі ўжо даволі значны працэнт сярод ніжэйшага і сярэдняга чыноўніцтва беларускіх губерняў, сярод розных груп інтэлігенцыі і прадстаўнікоў вольных прафесій.

## 4.3. Перасяленне ў Сібір і на Далёкі Усход

У першай палове XIX ст. беларускія сяляне траплялі ў Сібір і іншыя аддаленыя рэгіёны Расійскай імперыі звычайна ў якасці салдат і «ссыльных». Паводле даных Паўла Баброўскага, толькі ў Гродзенскай губерні за 15 перадрэформенных год было выслана ў Сібір 2700 человек [47, с. 611]. Здараліся, хаця вельмі рэдка, і выпадкі добраахвотнага перасялення цэлых вясковых грамад [108; 259]. Сярод высланых у Сібір удзельнікаў паўстання 1863 г. большую частку складалі сяляне і дробная засцянковая шляхта [ 334; 339]. Гэтыя практыкі высылкі ў Сібір крымінальных злачынцаў і нядобранадзейных асоб працягваліся і ў паслярэформенныя гады. Так, у 1869 г. у Віцебскай губерні 17 чалавек былі высланыя ў Сібір паводле прыгавораў грамад (мяшчанскіх і сялянскіх), 34 асобы – паводле судовых пастаноў, а 26 чалавек улады выслалі так званым адміністрацыйным парадкам без суда і следства, «как людей вредных для губернии» [357, арк. 27].

Аднак паступова перасяленчая плынь з беларускай вёскі на ўсход імперыі пачала набіраць новую якасць і дынаміку. 13 красавіка 1868 г. быў выдадзены цыркуляр Міністэрства ўнутраных спраў, які рэгуляваў парадак перасялення сялян на свабодныя казённыя землі [135]. Гэты цыркуляр выклікаў бурную рэакцыю сярод беларускіх вяскоўцаў. Мінскі губернатар Я. А. Касінаў пісаў 14 жніўня 1868 г. павятовым паліцэйскім спраўнікам, што ў некаторых мясцовасцях сяляне «целыми обществами стали составлять приговоры о переселении <…> почему намереваются оставлять полевые участки без обработки и засева <…> предлагая принять от них по оценке их строения» [336, арк. 1]. Летам 1868 г. такія прыгаворы склалі 350 сялянскіх сямей у Велятыцкай, Ухвальскай і Дмітравіцкай валасцях [336, арк. 3]. У выніку падобных падзей 5 лістапада 1868 г. дзеянне цыркуляра ад 13 красавіка 1868 г. было прыпыненае [70, с. 62, 63]. У 1870-я гады нешматлікія перасяленцы з Беларусі ў Сібір і іншыя аддаленыя рэгіёны імперыі накіроўваліся пераважна з Магілёўскай (у сярэднім 19 чалавек у год) і Віцебскай (50 чалавек у год) губерняў [70, с. 60].

10 ліпеня 1881 г. Аляксандр III зацвердзіў «Часовыя правілы», якія спрашчалі фармальныя ўмовы і парадак перасялення сялян на новыя землі. Гэта паслужыла штуршком для развіцця перасяленчага руху па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Паводле гродзенскага губернатара Д. М. Бацюшкава ў яго губерні пачатак перасяленчага руху трэба аднесці менавіта да 1881 г., калі было пададзена каля 3000 прашэнняў ад сялян [158, арк. 414]. У 1882 г. толькі ў самым заходнім Бельскім павеце гэтай губерні заявілі пра сваё жаданне перасяліцца ў Сібір каля 1500 чалавек. Адзін з чыноўнікаў пісаў, што сяляне былі «увлечены рассказами административно-ссыльных, приезжавших на родину за своими семьями» [599, с. 101]. За 1885–1892 гг. з пяці беларускіх губерняў мігравалі ў Сібір 2770 чалавек. Пік прыйшоўся на 1888 г., калі лічба перасяленцаў склала 1212 душ абодвух палоў [70 с. 73].

Вельмі часта сялян падштурхоўвала да перасялення безвыходная галеча. Напрыклад, сялянкі Панеўскай воласці Мінскай губерні Фядора Мароз і яе дачка Вольга Дрык, у якой былі малалетнія сын і дачка, у 1882 г. пісалі да мінскага губернатара А. І. Пятрова, што ім належала ўсяго 3,5 дзес. зямлі, якая «совершенно истосчилась», і «наше хозяйство с года на год все ухудшается, не имея при том никакой надежды на улучшение». Зяць Фядоры Мароз са сваёй сям'ёй ужо перасяліўся 6 гадоў таму ў Табольскую губерню і абяцаў дапамагчы ў пераездзе і прыняць у сваю гаспадарку. Гэты прыклад можна лічыць дастаткова тыповым. Сярод жадаючых перасяліцца было

вельмі шмат тых, чые сваякі ўжо асталяваліся ў Сібіры. Гэта маглі быць салдаты, што там служылі, ці крымінальныя або палітычныя ссыльныя. Вельмі часта сяляне прасілі дзяржаўныя ўлады аплаціць іх пераезд на далёкія землі, але заўсёды атрымлівалі адмовы [433].

У 1888 г. у Віцебскай губерні колькасць сялян, якія заявілі ўладам аб сваім жаданні перасяліцца ў Сібір, склала 282 душы. Губернатар М. М. Трубяцкой у сваёй гадавой справаздачы сцвярджаў, што асобых прычын для гэтага не было, паколькі эканамічнае становішча тых, хто пажадаў перасяліцца, «ни в чем не уступало положению прочих крестьян, населяющих губернию». На думку губернатара, перасяленчы рух паўстаў сярод сваякоў сялян, якія раней былі высланыя ў Сібір паводле судовых пастаноў. Дзяржаўныя ўлады паспрабавалі гэты рух спыніць: «<...> своевременно принятыми мерами стремление крестьян к переселению вскоре прекратилось, чему способствовало отчасти и возвращение на родину переселившихся, ненашедших тех выгод, которыми были соблазнены своими ходоками и разведчиками» [587, с. 88–89].

У 1889 г. імператарам Аляксандрам III быў зацверджаны закон, які прадугледжваў складаны парадак выдачы дазволаў на перасяленне, бязвыплатную перадачу перасяленцамі сваіх надзелаў грамадзе, прымусовае вяртанне самавольных перасяленцаў. Але і гэты закон паслужыў новым штуршком для развіцця перасяленчага руху на беларускіх землях. Некаторыя сяляне падыходзілі да такога кроку вельмі разважна і рацыянальна. Напрыклад, селянін Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні Якуб Карпук 18 снежня 1890 г. падаў губернатару Бацюшкаву прашэнне аб перасяленні ва Усурыйскі край, у якім, між іншым, цікавіўся, «на какие именно средства мог бы <…> переселиться и сколько это может стоить на человека» [433, арк. 5]. Канцылярыя губернатара адказала Карпуку, што на казённы кошт перасяленне не дазваляецца, а калі ён жадае перасяліцца на ўласны кошт і мае для гэтага належныя сродкі, дык павінен звярнуцца да міравога пасярэдніка [433, арк. 6]. Падобных прашэнняў падавалася губернскім уладам ад сялян на пачатку 1890-х гадоў вялізнае мноства. Часта вяскоўцы мелі наяўныя грошы на дарогу (патрабавалася ў сярэднім сума каля 30 руб. на сям'ю), але не мелі сродкаў, каб абзавесціся на новым месцы гаспадаркай, таму іх прашэнні адхіляліся ўладамі [433, арк. 26].

На развіццё перасяленчага працэсу ў Беларусі вялікі ўплыў аказваў палітычны фактар. Гродзенскі губернатар Д. М. Бацюшкаў у сакавіку 1891 г. атрымаў ліст з канцылярыі міністра ўнутраных спраў І. М. Дурнаво, у якім, між іншым, гаварылася: «Т[ак].к[ак]. выселение коренного русского населения из губерний северо-западного

края признано вообще нежелательным, то имею честь покорнейше просить Вас <…> приказать объявить, что их (сялян. – *С. Т.*) ходатайства оставлены МВД без последствий» [433, арк. 95]. Улады гэтай губерні звычайна тлумачылі адмоўны адказ на сялянскія прашэнні аб перасяленні адной фразай: «Переселение из Гродненской губернии воспрещено» [433, арк. 108]. Тады сяляне часта накіроўваліся ў далёкую дарогу на сваю ўласную рызыку без усякіх дазволаў [433, арк. 127]. Селянін мястэчка Сялец Пружанскага павета Гродзенскай губерні Віктар Лашкевіч прачытаў у газеце пра засяленне Усурыйскага краю і даслаў у Міністэрства ўнутраных спраў ліст, у якім, між іншага, напісаў, што ў Гродзенскай губерні шмат беззямельных сялян, якія хацелі б туды перасяліцца, «но раньше встречают необходимость в верных и подробных сведениях об том, т. е. климате <…> не существует ли каких местных повальных болезней на людей и скот, какая местность, т. е. холмистая или ровная, болотистая или сухая; имеется ли в достаточном количестве лес и какой породы; реки, озера, ручьи; почва; цены на скот и продукты; какие правила приобретения земли; льготы; какой удобный путь из Гродненской губернии». Гэты вельмі практычны селянін прасіў «прислать мне описание Уссурийского края и сведения о правах для желающих переселиться» [433, арк. 134). Сялецкае валаснное праўленне паведамляла пазней на запыт паліцыі, што Лашкевічу быў выдадзены ў верасні 1892 г. звычайны пашпарт для выезду на заробкі, які ён скарыстаў, каб самастойна адправіцца ў Усурыйскі край.

Мясцовая дзяржаўная бюракратыя выдатна разумела прычыны ўздыму перасяленчага руху сярод вясковага насельніцтва. Гродзенскі губернатар Д. М. Бацюшкаў пісаў віленскаму генерал-губернатару П. В. Аржэўскаму 10 снежня 1894 г., што сялянскія гаспадаркі прыходзяць у заняпад з прычыны росту насельніцтва, сямейных раздзелаў і малазямелля, а таму, «не смотря на циркуляр МВД 6 марта 1892 г. о приостановлении переселения поступило в эти годы более 1400 прошений крестьянских семей» [154, арк. 65 адв.–66]. Бацюшкаў прапаноўваў, каб перасяленцы, якія не выкупілі яшчэ свае надзелы, перадавалі іх сваякам. Ён таксама прасіў распаўсюдзіць правілы аб перасяленні і на мясцовую шляхту (870 сямей засцянковай шляхты жадалі перасяліцца толькі ў Гродзенскай губерні), выказаўшы думку, што гэта будзе карысна «для уменьшения польского влияния» [154, арк. 67 адв.]. Губернатар таксама сцвярджаў, што 90 % тых, хто жадае перасяліцца, «следует отнести к самым бедным, которые могут выручить до 30 руб. при продаже имущества» [154, арк. 193–194].

Віленскі генерал-губернатар П. В. Аржэўскі прапанаваў мясцовым уладам «относиться с крайней осторожностью к просьбам пе-

реселения из таких районов, где население смешанное, или где православный элемент находится в меньшинстве» [154, арк. 420 адв.]. Віленскі губернатар М. А. Грэвеніц пісаў Аржэўскаму 7 студзеня 1895 г.: «Следовало бы, по моему мнению, при разрешении переселения из Виленской губернии, в видах политических оказывать предпочтение крестьянам католикам, уменьшение которых в губернии не может не послужить к столь желательному усилению в ней русского элемента» [154, арк. 71–72]. Аднак у Віленскай губерні імкненне да перасялення ў Сібір у найбольшай ступені праявілася з боку сялян Дзісненскага і Вілейскага паветаў, «население коих по большей части православного исповедания» [154, арк. 477–477 адв.]. Губернатар прызнаваў, што на зямельных надзелах памерам 15–20 дзес. звычайна налічваецца ад 20 да 60 сялянскіх душ, таму зразумелым з'яўляецца жаданне сялян перасяліцца на новыя землі.

Палітыка стрымлівання перасяленчага руху ва ўсходніх губернях Беларусі была больш мяккай. Напрыклад, Барысаўская павятовая па сялянскіх справах прысутнасць у Мінскай губерні звярнулася 4 ліпеня 1895 г. да валасных праўленняў з заклікам «разьяснить крестьянам, что условия хозяйства в Сибири при суровом климате ея, отнюдь не легче здешних», а «при наличности же некоторых денежных средств в случае недостатка земли крестьянину значительно легче приобрести таковую здесь же, в уезде, хотя бы при посредстве поземельного банка, нежели бросать свое хозяйство и ехать за тысячи верст в незнакомые ему края и обзаводиться опять тем, что без цены распродал на месте» [321, арк. 372–372 адв.]. Некаторыя сяляне на ўласным вопыце пацвярджалі слушнасць гэтай перасцярогі. Так, жыхары вёскі Юсічы ў студзені 1896 г. падалі прашэнне аб перасяленні ў Сібір, але ўжо ў чэрвені адмовіліся: «Некоторые из просителей отправились в Тобольскую губернию самовольно, будучи завлечены туда рассказами людей, которые сами не имели понятия о Сибири. Ныне некоторые переселенцы с плачем возвратились на родину и передали нам о крайних лишениях <…> и тяжелой жизни в Сибири» [454, арк. 142].

У 1890-я гады сяляне засыпалі мясцовыя ўлады прашэннямі аб перасяленні на «казённы кошт», называючы часам даволі экзатычныя прычыны: «<…> бедные и жалкого положения, зусим почти что не имеем, а имеющаяся часть съедается постоянно дикими кабанами» і да т. п. [433, арк. 157; 487, арк. 89, 323]. Міравы пасярэднік з Ваўкавыскага павета 19 студзеня 1896 г. пісаў гродзенскаму губернатару Д. М. Бацюшкаву, што сярод сялян распаўсюджваюцца чуткі аб шматлікіх ільготах, якія надаюцца перасяленцам, у тым ліку аб надзяленні зямлёй і інвентаром, грашовых дапамогах, бясплат-

ным праездзе па чыгунцы, вызваленні ад падаткаў. Паколькі, як сцвярджаў пасярэднік, падобныя чуткі негатыўна ўплываюць на сялян і выклікаюць прагу да перасялення нават у тых, у каго не было для гэтага асаблівай патрэбы, ён прасіў губернатара «сообщить мне действительные основания и условия переселения в Сибирь» [433, арк. 159]. У лютым 1896 г. гродзенскі губернатар разаслаў усім міравым пасярэднікам цыркуляр, у якім гаварылася, што на перасяленне «надеяться могут только те, которые имеют средства на проезд и хозяйство, да и то не ранее 1897 г.» [433, арк. 160]. Прычым папярэдне мясцовая адміністрацыя павінна была сабраць звесткі пра маёмасць і склад сям'і патэнцыйных перасяленцаў. Таксама губернатар загадаў міравым пасярэднікам не дапускаць продажу сялянамі сваёй маёмасці да атрымання дазволу, а валасным праўленням не выдаваць пашпарты тым, хто імкнецца перасяліцца без дазволу. Пасярэднікі павінны былі збіраць звесткі пра веравызнанне патэнцыйных перасяленцаў, наяўнасць ці адсутнасць зямельнага надзелу, магчымасці перадачы зямлі і інвентара іншым гаспадарам, «чтобы не уехало большинство» [433, арк. 160 адв.].

А 15 красавіка 1896 г. быў выдадзены закон, які спрошчваў фармальнасці ў атрыманні дазволу на перасяленне, уводзіў ільготны чыгуначны тарыф для перасяленцаў, прызнаваў дэ факта нават самавольнае перасяленне пры наяўнасці свабодных участкаў. Закон гэты заахвочваў сялян спачатку пасылаць у Сібір так званых хадакоў. Ён выклікаў новы ўсплеск перасяленчай актыўнасці беларускага сялянства. Улады ізноў спрабавалі стрымліваць перасяленчы рух, што аказалася справай вельмі складанай. У рапарце Барысаўскай павятовай па сялянскіх справах прысутнасці мінскаму губернатару М. М. Трубяцкому ад 21 жніўня 1896 г. гаварылася, што калі мясцовыя сяляне даведаліся пра спыненне выдачы дазволаў на перасяленне, дык яшчэ болей «взволновались» і «намериваются самовольно отправиться в Сибирь и, несмотря на принимаемые волостными начальствами меры <…> тайно распродают свои движимые имущества» [317, арк. 34]. Барысаўскі павятовы спраўнік пісаў губернатару 19 жніўня таго ж года, што «некоторые крестьяне <…> распродают свое движимое имущество, а недвижимое по условиям, заключаемым волостными Правлениями, переуступают другим лицам и по выданным теми же волостными Правлениями паспортам собираются переселиться в Томскую губернию». Бярэзінскае валаснное праўленне паведаміла паліцэйскаму спраўніку, што амаль палова жыхароў «осаждают волостные правления с требованием видов на заработки, на самом деле разоряют свои имущества и с семьями выезжают в Сибирь, не смотря ни на какие убеждения» [317, арк. 35–37 адв.]. Ад-

казных асоб сялянскага самакіравання міравыя пасярэднікі сажалі пад арышт за дапушчэнне самавольных перасяленняў, але гэта не давала эфекту [433, арк. 208]. У Гродзенскай губерні ў 1896 г. адзін з міравых пасярэднікаў пісаў губернатару, што «крестьяне настолько возбуждены к переселению, что никакие увещевания и препятствия не имеют успеха <…> решаются на все, лишь бы уйти в Сибирь, хотя бы пришлось землю и имущество бросить непроданными» [433, арк. 194 адв.].

У 1896 г. з пяці беларускіх губерняў перасяліліся 11,5 тыс. чалавек, што ў 14 разоў перавысіла ўзровень 1884 г. [58, с. 74]. З 1895 па 1899 гг. лічба адных хадакоў склала 22 тыс. чалавек. Калі з 1885 па 1893 гг. з Беларусі ў Сібір эмігравалі ўсяго 2969 чалавек, дык за 1894–1898 гг. – 52 760 (у сярэднім па 10 543 асобы ў год) [70, с. 56, 57]. Першае месца належала Віцебскай губерні – 36,4 % мігрантаў, за ёю ішлі Магілёўская – 25,9 %, Мінская – 14, 2 %, Віленская – 13,7 %, Гродзенская – 9,5 % [70, с. 76]. У 1897 г. урад прыйшоў да высновы, што неабходна «всемерно сдерживать переселения из Северо-Западного края, а особенно по отношению к православному населению» [70 с. 56, 57]. Асноўнай фармальнай прычынай адмовы з боку ўлад з'яўлялася беднасць патэнцыйнага перасяленца і недахоп рабочых рук у яго сям'і. Напрыклад, у Магілёўскай губерні ў 1897 г. было разгледжана 15 877 прашэнняў, а перасялілася толькі 3107 чалавек [70, с. 93].

У 1-м міравым участку Барысаўскага павета Мінскай губерні ў 1898 г. выказалі жаданне перасяліцца ў Сібір 907 сялянскіх сямей [327, арк. 69-86]. З іх ліку 405 (44,7 %) атрымалі адмову з прычыны матэрыяльнай «несостоятельности» і недахопу рабочых рук. У некаторых вёсках жаданне перасяліцца выказвала палова гаспадароў. Напрыклад, у вёсцы Варлынь Бярэзінскай воласці ўсяго налічвалася 301 душа мужчынскага і жаночага полу, а ў тых сем'ях, якія пажадалі перасяліцца ў Сібір – 162 (53,8 % ад усяго насельніцтва вёскі). Сяляне гэтай вёскі мелі ў карыстанні 499 дзес. надзельнай зямлі, а на 20 сем'яў патэнцыйных перасяленцаў прыходзілася толькі 114 (22,8 %). Такім чынам, забяспечанасць зямлёй у пераліку на адну асобу сярод іх была значна ніжэйшай за сярэднюю па вёсцы. Але сярод ахвотнікаў да перасялення сустракалася і шмат вельмі заможных гаспадароў. Напрыклад, Сямён Азаронак з Бярэзінскай воласці, сям'я якога налічвала 8 душ, меў 16 дзес. зямлі, 3 коней, 8 галоў рагатай жывёлы і 16 дробнай. Яго рухомая маёмасць ацэньвалася сумай 512 руб., за зямлю мог выручыць 200 руб., акрамя таго меў 50 руб. наяўнымі [327, арк. 127]. У шляхціча Фелікса Астроўскага сям'я налічвала 12 душ, ён меў 30 дзес. зямлі, 4 коней, 17 галоў рагатай

скаціны, 21 галаву дробнай. Яго рухомая маёмасць ацэньвалася сумай 1500 руб., а зямля – 100 руб. [327, арк. 77].

Усяго ж толькі за 1895–1897 гг. у Мінскай губерні сялянамі было пададзена 9800 хадайніцтваў аб перасяленні ў Сібір, амаль палова з якіх прыйшлася на Ігуменскі павет – 4610 прашэнняў [323]. У выпадку адмовы з боку ўлад многія адважваліся на нелегальнае перасяленне. Улады ў сваю чаргу імкнуліся прыпыніць нелегальны перасяленчы рух. Напрыклад, сяляне Пухавіцкай воласці Уладзімір Лапко, Мацей Слонімец і Фама Качура былі прыгавораныя валасным праўленнем да цялеснага пакарання 20 розгамі за тое, што адмовіліся распісацца ў выслуханні адміністрацыйнага загаду аб спыненні выдачы дазволаў на перасяленне ў Сібір і сцвярджалі, быццам улады схавалі праўдзівы загад, які дазваляў перасяляцца [326, арк. 1–8]. Селянін вёскі Дулебы Ігуменскага павета Мікалай Цэдрык, які сам нядаўна вярнуўся з Сібіры, збіраў подпісы аднавяскоўцаў (за 25 капеек з чалавека), жадаючых перасяліцца ў Томскую губерню [323]. Як пісаў у сваім рапарце мясцовы павятовы спраўнік, Цэдрык «подговаривал путем лживых уверений крестьян разных деревень к переселению в Сибирь, которое воспрещено по Минской губернии». Пры затрыманні азначанага Цэдрыка сяляне за яго заступіліся і аказалі супраціў паліцыі, а сам агітатар збег.

У Віленскай і Гродзенскай губернях на першы план у разглядзе хадайніцтваў на перасяленне выходзіў палітычны фактар. У канцы 1898 г. віленскі губернатар І. І. Чапялеўскі прыводзіў лічбы, што ад пачатку 1897 г. па верасень 1898 г. з 3083 праваслаўных сямей, якія падалі прашэнні аб перасяленні, атрымала дазвол толькі 761 (24,7 %). Ён асабіста не лічыў гэтую стратэгію стрымлівання перасялення праваслаўных сялян правільнай: «Громадное большинство православных крестьян, стремящееся путем переселения в Сибирь улучшить свое существование, не достигло цели» [154, арк. 478]. Гэта, на думку губернатара, магло выклікаць незадаволенасць уладай з боку праваслаўнага сялянства [154, арк. 478]. Чапялеўскі сцвярджаў, што не існуе пагрозы пераходу зямлі праваслаўных перасяленцаў у рукі каталікоў, чаго вельмі баяўся ўрад, паколькі зямля «большей частью достается родственникам за деньги или даром» [154, арк. 478 адв.].

У студзені 1898 г. віленскі губернатар прапаноўваў даваць дазвол на перасяленне тым сялянам, хто валодае маёмасцю на суму не менш 400 руб., і для якіх «по заключению мировых посредников переселение является единственным путем улучшения быта» [154, арк. 346 адв.]. Гродзенская па сялянскіх справах прысутнасць у сакавіку 1898 г. устанавіла для сялян гэтай губерні наступны маёмасны цэнз: валоданне рухомай і нерухомай маёмасцю на агульную суму 200 руб.

і наяўнасць 4 рабочых душ у сям'і [154, арк. 412]. У 1898 г. гродзенскі губернатар Бацюшкаў прызнаваў, што імкненне сялян да перасялення ў многіх выпадках выклікана неабходнасцю: «<…> в большем числе случаев заявляют желание переселиться не вся семья, а члены семьи, составляющие избыток проживающих на данном участке, и такая небольшая убыль весьма скоро пополняется естественным приростом, по сему <…> вредные последствия от переселения православных едва ли могут отразиться на Гродненской губернии» [154, арк. 414 адв.]. Ён так жа, як і віленскі губернатар, бачыў небяспеку ў палітыцы штучнага стрымлівання ўладамі перасялення менавіта праваслаўных сялян, паколькі «строгое различие переселившихся по вероисповеданию может породить неудовольствие православных крестьян <…> может оказать влияние на религиозные убеждения <…> ибо большинство православных крестьян были униатами, и даже теперь встречаются "колеблещиеся"» [154, арк. 414 адв.]. Каб зняць праблему магчымага аслаблення «рускага элементу», Гродзенская губернская прысутнасць нават прапанавала 15 чэрвеня 1899 г. забараніць «переход земли православных переселенцев в руки крестьян католиков», але віленскі генерал-губернатар В. М. Троцкі і міністр унутраных спраў І. Л. Гарамыкін палічылі гэта немэтазгодным [154, арк. 505]. За 1897 г. у Гродзенскай губерні было выдадзена ўсяго 14 прахадных пасведчанняў на перасяленне 94 сялянскіх душ абодвух палоў, а ў 1898 г. – ужо 367 [448, арк. 24, 41, 62, 129, 151, 173, 217, 218, 242, 265, 275].

Ва ўсіх амаль справах па пытаннях перасялення ўтрымліваюцца даныя пра матэрыяльны стан сялян, якія жадалі перасяліцца [157; 318; 319; 324; 325; 350; 366; 367; 369–372; 382; 383; 435; 438; 439; 455; 473]. І беднасць кандыдатаў найчасцей служыла падставай для адмовы з боку ўлад. Калі ж наяўных грошай хапала, дык падставай для адмовы часта служыў недахоп працоўных мужчынскіх рук. Але прычынай адмовы магла паслужыць і заможнасць гаспадара. Восіп Бялецкі з Галынскай воласці Гродзенскага павета атрымаў ад улад адказ з такой фармулёўкай: «Проситель, владеющий 16 дес. надельной земли и зажиточным хозяйством в переселении в Сибирь не нуждается» [437, арк. 127 – 128, 130]. Селянін вёскі Мілейкі Косаўскай воласці Слонімскага павета Іван Пархута таксама атрымаў адмову з прычыны заможнага стану. Яго нерухомая ўласнасць (без уліку зямлі) ацэньвалася сумай 804 руб., апрача 300 руб. наяўных грошай. Пархуце належалі цагельня, якая прыносіла 300 руб. прыбытку ў год, і вятрак [436, арк. 65–66]. Сваё жаданне перасяліцца ён тлумачыў гродзенскаму губернатару ў красавіку 1900 г.: «Желаю непременно переселиться в Сибирь в виду того, что в деревне Милейках, на роди-

не, мне плохо живется, так как я хотя и имею ветряную мельницу и маленький кирпичный завод, но окрестные жители по злобе ко мне в последних 2-х годах сожгли дотого, что ничего и нет <…> инвентарь весь погорел, <…> лошадь вынужден был продать на погашение долгов <…> нахожусь в великой крайности» [436, арк. 65–65 адв.]. У дадзеным выпадку прычынай жадання перасяліцца хутчэй за ўсё з'яўляўся канфлікт заможнага селяніна з аднавяскоўцамі. Але тамтэйшы міравы пасярэднік адмовіў яму, «так как у просителя на месте достаточно земли и семейство вполне обеспечено» [436, арк. 68].

Тады многія сяляне бралі ў валасных праўленнях звычайны пашпарт для выезду на заробкі і накіроўваліся з ім у Сібір. Міравы пасярэднік з Ваўкавыскага павета ў чэрвені 1899 г. пісаў гродзенскаму губернатару, што «многие крестьяне, получившие отказ в просьбе о переселении в Сибирь, едут туда по паспорту, по которому местные крестьянские начальники делают отметки о зачислении за ними земли вопреки закону» [433, арк. 137]. Міравы пасярэднік Гродзенскага павета скардзіўся губернатару, што сяляне Галынскай воласці прыйшлі да яго і «требовали дерзко и нахально выяснения тех причин, которые послужили для отказа в их ходатайстве по переселению»: «Я же <…> не только не считаю возможным, но даже признаю не в праве, объявлять крестьянам те мотивы, которые служат в отказе крестьянам в ходатайстве по переселению в Сибирь, так как мною руководящие распоряжения по этому вопросу являются секретными, и их обнародование может повести к различным волнениям среди крестьян, не говоря, что я по своей должности не могу выдавать вверенные мне Правительственные секретные распоряжения» [437, арк. 197]. Сакрэтнымі прычынамі было імкненне ўлад не дапускасць перасялення праваслаўных сялян з тых мясцовасцяў, дзе быў высокі працэнт каталіцкага вясковага насельніцтва. Напрыклад, Міхалу Рудзеніку з вёскі Дзякі Мсцібаўскай воласці Ваўкавыскага павета адмовілі ў выдачы прахаднога пасведчання з той прычыны, што «деревня Дьяки одна православная среди сплошь католической Мстибовской волости» [433, арк. 49 адв.].

Важным пытаннем заставаліся ўмовы продажу ці перадачы грамадзе сялянскага зямельнага надзелу ў выпадку перасялення цэлай сям'і ў Сібір. Сяляне вёскі Сінявічы Пескаўскай воласці Ваўкавыскага павета, якія вясной 1898 г. былі ў Сібіры хадакамі і замацавалі там за сабой зямельныя надзелы, звярнуліся да губернатара з просьбай высветліць ім умовы продажу ўласных зямельных надзелаў: «Можем ли мы отдавать в аренду или продавать свои земельные угодья кроме ближайших родственников, дальнейшим или посторонним и каким порядком?» [433, арк. 4 адв.]. 11 лютага 1899 г. губернская пры-

сутнасць выдала такое тлумачэнне па гэтым пытанні: «Т[ак].к[ак]. в гродненской губернии не общинное, а подворное владение землею, то при выселении части семейства, владеющего участком совместно или на основании не утвержденного Гродненским присутствием фактического раздела, земля должна переходить также безвозмездно к оставшимся членам семьи <…> т. к. по аналогии семья заменяет собою общину, если же семья выезжает в полном составе, то участок может быть продан однообщественнику» [433, арк. 5]. У такой сітуацыі для некаторых заможных сялян магло быць выгодным па заніжаным цэнам скупляць зямлю ў тых, хто перасяляўся ў Сібір. Улады нават выказалі меркаванне, што слухі аб выгодах перасялення маглі якраз распаўсюджваць такія асобы, зацікаўленыя ў набыцці зямлі па нізкім кошце. Але наўрад ці гэты фактар мог мець істотнае значэнне. Напрыклад, у вялікай вёсцы Бершты Гродзенскага павета намі быў выяўлены толькі адзін факт продажу зямлі перасяленцамі ў Сібір за ўвесь пасляэформенны перыяд [504].

Частка хадакоў, пабываўшы ў Сібіры, адмаўлялася ад перасялення. Сяляне каталіцкага веравызнання часта адмаўляліся па прычыне адсутнасці паблізу новага месца жыцця каталіцкага касцёла [448, арк. 293]. З аднаго міравога ўчастка Гродзенскага павета ў Сібір пайшлі 79 хадакоў, але ўсе яны адмовіліся перасяляцца, хаця патрацілі на дарогу 2406 руб. Паводле іх апытання высветлілася, што самая пашыраная прычына адмовы ад перасялення – суровы клімат, а ўсе дзесяць хадакоў з Валпянскай воласці заявілі, што ім «вообще не понравилась Сибирь» [448, арк. 297–298]. У Слонімскім павеце з 60 чалавек, якія атрымалі пасведчанні хадакоў, паехалі ў Сібір 48, а ў выніку пастанавілі перасяліцца толькі 6 [448, арк. 316–316 адв.]. Міравы пасярэднік з Брэсцкага павета таксама пісаў у Гродна ў лістападзе 1898 г., што ў яго ўчастку налічваецца 77 хадакоў, пабываўшых у Сібіры і не пажадаўшых перасяліцца: «Одни побоялись сурового сибирского климата, другие не нашли подходящих для себя земельных участков, а некоторым не понравились условия сибирской жизни, за дальностью от церквей, от торговых пунктов и по неудобности сообщений с ними» [448, арк. 335]. Хадакі з Бельскага павета тлумачылі міравому пасярэдніку, што прычынай адмовы ад перасялення з'яўляецца «не желание расстаться с родиной и ея обычаями, отсутствие заработков в Сибири, трудность разработки наделяемых участков и суровость климата» [448, арк. 342–342 адв.]. З Сакольскага павета толькі адзін селянін паехаў хадаком у Сібір, але адмовіўся перасяліцца, «так как там ему не понравилось разноплеменность населения и дальнее разстояние населенных мест от городов» [448, арк. 300]. Міравы пасярэднік 1-га ўчастка Ваўкавыскага

павета склаў у лістападзе 1898 г. звесткі пра хадакоў, якія пабывалі ў Сібіры, але адмовіліся перасяляцца. Усяго такіх асоб налічвалася 151 чалавек. Усе разам яны патрацілі на далёкае падарожжа 4118 руб., ці па 27 руб. у сярэднім на аднаго хадака. Прычыны адмовы ад перасялення яны называлі наступныя: дрэнныя кліматычныя ўмовы – 56 чалавек, не знайшлі падыходзячага ім зямельнага ўчастка – 11, не спадабаўся побыт перасяленцаў у Сібіры – 5, «неблагоприятные слухи о жизни в Сибири» – 11, нязгода на перасяленне родных і сваякоў – 7, адсутнасць дастатковых рабочых рук – 6, хваробы членаў сям'і – 4, смерць самога хадака – 1, адсутнасць каталіцкага касцёла ў той мясцовасці, дзе збіраліся пасяліцца – 9, недахоп сродкаў на перасяленне – 37, увогуле не давалі ніякіх тлумачэнняў – 4 [448, арк. 323–324 адв.].

Вярталіся на радзіму і тыя сяляне, якія адважыліся перасяліцца разам з сям'ёй, але праз некаторы час зразумелі, што не змогуць жыць на новым месцы. Міравы пасярэднік з Беластоцкага павета пісаў гродзенскаму губернатару 3 кастрычніка 1898 г., што перасяленец Дамброўскі на новым месцы «нашел в начале Июля месяца в колодцах лед», а раніцай «выпал утренний заморозок и пришлось разводить густой дым, чтобы избавить скот от безчисленного множества мух, комаров и других насекомых и т. п.». Гэта так паўплывала на Дамброўскага, што ён вырашыў вярнуцца на радзіму. Як сцвярджаў пасярэднік, аповяды такіх асоб «настолько подействовали на местных крестьян, что стремление к переселению в настоящее время вполне прекратилось» [448, арк. 290–290 адв.]. Сем'і, якія вярталіся назад з Сібіры, траплялі ў цяжкае становішча. Напрыклад, сям'я Грачышкаў з Гродзенскага павета мела да перасялення 980 руб., а пасля вяртання засталося 250. У сям'і Пікаў з 520 руб. засталося 155. Гэтыя сяляне паздавалі свае землі ў арэнду на 12 гадоў, а «в настоящее время занимаются поденными заработками <…> находятся в бедном положении» [448, арк. 326–327]. Селянін Іван Петрулевіч з Поразаўскай воласці перасяліўся ў Енісейскую губерню, але з прычыны дрэннага клімату – «из-за сибирской мошки» – вярнуўся назад. Тут ён не змог ужыцца з родзічамі, якія засталіся на яго зямлі і не жадалі з ім ёю дзяліцца. Петрулевіч зноў стаў прасіць улады адпусціць яго ў Сібір да брата Сцяпана. У выніку яму самому, а таксама яго жонцы, шасцярым дзецям і брату Лукіяну было выдадзена новае праходнае пасведчанне ў маі 1898 г. [433, арк. 22, 81]. Селянін вёскі Міхайлы Поразаўскай воласці Ваўкавыскага павета Восіп Навасад перасяліўся ў Енісейскую губерню, але неўзабаве вярнуўся на радзіму разам са сваёй сям'ёй. Аднавяскоўцы адмовіліся прыняць яго ў родную грамаду, паколькі выехаў ён у Сібір без ведама вя-

сковага сходу [433, арк. 252]. Апроч таго аднавяскоўцы скардзіліся губернатару, што Навасад «до отъезда в Сибирь занимался знахарством и чародейством, т. е. шептанием на воде, курением больных разными травами, словесные заговоры и т.п., чем наводил на нас и наших жен и детей страх» [433, арк. 255]. Можна ўсё ж меркаваць, што сапраўднай прычынай адмовы прыняць Навасада з'яўлялася нежаданне дзяліцца з ім зямлёй, а не страх перад яго «чародейством», якім, як вынікае з дакументаў, сяляне раней ахвотна карысталіся. У выніку ўлады пастанавілі перасяліць «чародея» Восіпа Навасада ў іншую воласць Ваўкавыскага павета [433, арк. 257]. Падобных прыкладаў непрыняцця ў сваю былую грамаду няўдачлівых перасяленцаў можна прывесці шмат.

Перасяленчы працэс на ўсходзе Беларусі развіваўся куды больш дынамічна, чым на захадзе. У Віцебскай губерні ў 1899 г. было выдадзена 995 пасведчанняў хадакам на 10 537 душ абодвух палоў і 571 прахадное пасведчанне на канчатковае перасяленне ў Сібір 4526 сялянскіх душ, што складала прыкладна 0,34 % ад усяго насельніцтва губерні. Губернатар І. І. Чапялеўскі пісаў у гадавой справаздачы імператару, што імкненне сялян да перасялення не перапыняецца і тлумачыў гэта «крайнею распущенностью крестьянского населения, отличающегося весьма низким уровнем нравственного развития» [360, арк. 4]. Член камісіі па сялянскіх справах Люцынскага павета Віцебскай губерні пісаў, што ва ўмовах малазямелля і неўраджаяў на сялян вельмі моцна ўплываюць лісты іх сваякоў, якія ўжо перасяліліся ў Сібір, «восхваляющие привольную жизнь и урожаи хлебов в Сибири и личные сообщения о Сибири двух-трех крестьян переселенцев, прибывших зимою на родину за своими семьями». Гэта выклікала моцнае імкненне да перасяленне ў масах вясковага насельніцтва, хаця «к переселению в Сибирь стремится много таких земельных и безземельных крестьян, которые по бедности своей не могут переселиться и водвориться в Сибири» [361, арк. 6].

За 1899–1903 гг. было зарэгістравана 117 767 перасяленцаў з беларускіх губерняў, якія накіроўваліся ў Сібір, ці ў сярэднім па 23,5 тыс. чалавек у год [58, с. 76]. Паводле даных З. М. Сямейных, з 1900 па 1903 гг. з пяці беларускіх губерняў выехалі ў Сібір звыш 105 тыс. перасяленцаў, прычым 65 % складалі самавольныя перасяленцы [747, с. 69], а найбольш актыўна перасяляліся на ўсход сяляне Магілёўскай і Віцебскай губерняў. Менш маштабным выглядаў гэты працэс у Мінскай губерні, дзе, напрыклад, у 1902 г. пасведчанні на перасяленне атрымалі 512 сямей (4387 душ абодвух палоў), а перасяліліся 390 сямей. У наступным 1903 г. у гэтай губерні атрымалі дазвол 518 сямей, а перасяліліся 177 [368, арк. 1–9]. У Гродзенскай

губерні за 1901–1905 г., паводле даных мясцовай адміністрацыі, перасяліліся ўсяго 469 сямей (3257 душ) [592–596].

У Магілёўскай губерні перасяленчы працэс аказваў істотны ўплыў на жыццё вёскі, што выдатна бачна і на мікраўзроўні. Напрыклад, у вёсцы Шапчыцы Доўскай воласці Рагачоўскага павета ў 1903 г. налічвалася 189 двароў і 835 мужчынскіх душ. Ім належалі 2470 дзес. надзельнай зямлі (13 дзес. на двор) і 260 дзес. купленай (1,4 дзес. на двор). На той час 65 гаспадароў гэтай вёскі ўжо перасяліліся ў Сібір. У 1903 г. пажадалі перасяліцца яшчэ 14. У іх сем'ях налічвалася 120 душ (62 мужчынскія і 60 жаночых). Ім належала 268,5 дзес. зямлі, ці ў сярэднім 19 дзес. на адзін двор. Купленая зямля – 22 дзес. коштам 1100 руб., мелася толькі ў двух гаспадароў. Рухомая і нерухомая маёмасць патэнцыйных перасяленцаў ацэньвалася: пабудовы 2435 руб. (174 руб. на двор), свойская жывёла – 1206 руб. (86 руб. на двор), гаспадарчы інвентар – 205 руб. (14,6 руб. на двор). На падставе гэтых даных нельга сцвярджаць, што яны належалі да беднаты. Самым заможным з'яўляўся Зміцер Ярмошын, якому належала 45,5 дзес. надзельнай зямлі, 10 дзес. купленай, забудова на 200 руб., 6 коней і 5 кароў. Сям'я Ярмошына складалася з 7 мужчынскіх і 7 жаночых душ [381, арк. 4–18].

Істотным стрымліваючым фактарам з'яўляўся маёмасны цэнз. Напрыклад, на пачатку 1904 г. у вёсцы Пятровічы Бабруйскага павета Мінскай губерні пажадалі перасяліцца ў Туркестанскі край 9 сямей [373, арк. 6–8]. У гэтых сем'ях налічвалася 35 мужчынскіх і 25 жаночых душ, што складала 13,3 % насельніцтва вёскі. Патэнцыйным перасяленцам належала 24,5 дзес. надзельнай зямлі (3,3 % ад надзельнай зямлі вёскі) і 77 дзес. купленай, а таксама 10 коней, 35 галоў рагатай скаціны, 29 галоў дробнай жывёлы, пабудоў на 2000 руб. і 1450 руб. наяўнымі. Такім чынам, сярэдняя гаспадарка перасяленцаў складался з 6–7 асоб, якім належалі 2,7 дзес. надзельнай зямлі і 8,6 дзес. купленай, 1 конь, каля 4 галоў рагатай скаціны і 3 дробнай, пабудоў на суму 222 руб. і 161 руб. наяўнымі. Гэтыя сем'і нельга назваць беднымі, хоць ім належала вельмі мала надзельнай зямлі. Але перавага купленай зямлі над надзельнай сведчыла, што патэнцыйныя перасяленцы належалі да актыўнай часткі беларускага сялянства. Толькі Майсей Пятух быў зусім беззямельным, але меў каня, па дзве галавы рагатай і дробнай жывёлы, забудову на 245 руб. і 100 руб. наяўнымі. У выніку дазвол на перасяленне атрымаў з дзевяці гаспадароў толькі адзін Цімафей Белы, сям'я якога складалася з 8 мужчынскіх і 6 жаночых душ, і якому належалі 17 дзес. набытай зямлі, два кані, 7 галоў рагатай скаціны і 2 дробнай, забудова на 300 руб. і 500 руб. наяўнымі грашыма.

Новы штуршок перасяленчаму руху надала сталыпінская аграрная рэформа. 10 сакавіка 1906 г. Мікалай II зацвердзіў Палажэннне Савета Міністраў аб парадку перасялення сялян на казённыя землі за Уралам. З гэтага часу свабода перасялення залежала толькі ад колькасці падрыхтаваных зямельных участкаў і магчымасці перавозцы па чыгунцы ўсіх жадаючых. Новыя правілы дазвалялі адпраўляць хадакоў для агляду зямель за Уралам без папярэдняга спраўджвання ўладамі іх маёмаснага становішча. Такім чынам, скасоўваўся маёмасны цэнз на права перасялення. Для хадакоў і перасяленцаў устанаўліваўся ільготны тарыф на праезд чыгункай. У 1906 г. рэзкага росту перасяленцаў яшчэ не назіралася. Напрыклад, у Мінскай губерні ў 1903 г. перасяліліся 677 сямей і 4362 душы сялян, а ў 1906 г. – 180 сямей і 877 душ (паводле даных на канец лістапада 1906 г.) [374, арк. 139 адв.]. Але з 1907 г. пачынаецца рэзкі ўздым перасяленчага руху ва ўсіх беларускіх губернях. За 1906–1914 гг. агульная колькасць перасяленцаў па пяці беларускіх губернях, паводле афіцыйных даных, склала лічбу 350 994 чалавекі, што болей чым у два разы пераўзыходзіла колькасць перасяленцаў за папярэдняе дзесяцігоддзе (1896–1905 гг.), калі іх налічвалася 171 895 чалавек. Прычым амаль палова прыходзілася на Магілёўскую губерню – 165 369 (47,13 %), на Віцебскую – 88 953 (25,45 %), на Мінскую – 64 480 (18,4 %), на Віленскую – 17 739 (5 %). Менш за ўсё перасялілася сялян з Гродзенскай губерні – 14 273 человека ці 4 % ад агульнай лічбы перасяленцаў з Беларусі [756, с. 56].

У Віленскай і Гродзенскай губернях улады па-ранейшаму стрымлівалі перасяленчы рух з палітычных меркаванняў, каб не аслабляць тут «русский элемент». Яшчэ адной прычынай яго слабасці ў гэтым рэгіёне з'яўлялася тое, што альтэрнатывай Сібіры на пачатку XX ст. стала эміграцыя ў Паўночную Амерыку. Выезд на заробкі ў ЗША ці Канаду пакідаў беларускаму селяніну надзею на вяртанне дамоў і набыццё тут зямлі. Перасяленне ж у Сібір азначала развітанне з роднай вёскай назаўсёды. Гродзенская камісія па землеўпарадкаванні канстатавала ў чэрвені 1907 г.: «<…> вообще переселение (у Сібір. – *С. Т.*) заметно уменьшилось, так как крестьяне по заявлению Земских начальников неохотно туда идут <…> возвратившиеся рассказали, что климат там суров, вести хозяйство несравненно тяжелее, чем в Гродненской губернии, и условия быта совершенно иные, чем на родине. Вернувшиеся говорили, что лучше владеть дома небольшим количеством земли, чем в Сибири жить при таких тяжелых условиях» [483, арк. 351]. Падатковы інспектар Гродзенскага павета адзначыў у 1911 г., што мясцовыя сяляне «уходят в Сибирь <…> только в крайности, ког-

да совершенно пропадает надежда устроиться сносно у себя дома» [542, арк. 47].

Але ў паўднёвых паветах Гродзенскай губерні перасяленчае пытанне заставалася вельмі актуальным. Адзін з членаў Пружанскай павятовай камісіі ў сакавіку 1908 г. аб'ехаў 15 валасцей і запісаў 635 сямей, «изъявивших серёзное намерение переселиться». Гэтым сем'ям належала 2355 дзес. надзельнай (у сярэднім па 3,7 дзес. на сям'ю) і 614 дзес. набытай (у сярэднім 0,97 дзес. на сям'ю) зямлі. Чыноўнік лічыў перасяленне адзіным выхадам для дадзеных сялян, а таксама карысным для ўсяго мясцовага насельніцтва: «Переселенческое дело вообще имеет громадное общегосударственное значение, а в частности для Пружанского уезда, по его острому малоземелью и полному отсутствию земельного фонда оно становится необходимым фактором <…> Уход из сельских обществ более значительного числа домохозяев даёт существенные результаты в деле обеспечения землёй остающихся на родине крестьян и в некоторых случаях может содействовать <…> в улучшении землепользования» [484, арк. 89]. Па выніках гэтага даклада пружанская павятовая камісія пастанавіла звярнуць больш сур'ёзную ўвагу на перасяленне сялян у Сібір «как единственный путь для расширения землевладения и поднятия их (сялян. – *С. Т.*) благосостояния, тем более, что оставляемая переселенцами на месте находившаеся в их пользовании земля может быть продана оставшимся крестьянам» [484, арк. 89].

Палітычныя аргументы ў гэты перыяд ужо не адыгрывалі такой істотнай ролі, як раней. Але перасяленчы рух на захадзе Беларусі відавочна ішоў на спад. Многія перасяленцы мелі праблемы з продажам сваёй нерухомай маёмасці. Напрыклад, Іван Бачэль са Шчорсаўскай воласці Навагрудскага павета Мінскай губерні атрымаў участак зямлі ў Паўднёва-Усурыйскім краі, але не мог прадаць сваю зямлю: «При всем нашем старании скорее распродать свое движимое и недвижимое имущества, дабы к назначенному сроку отправиться на зачисленную землю, за неимением желания у наших односельчан покупать нашу землю, нам едва удалось продать окончательно землю и движимое имущество» [379; арк. 159]. Некаторыя сяляне выкарыстоўвалі права ільготнага праезду ў Сібір па чыгунцы для таго, каб ездзіць у далёкі край на часовыя заробкі. У 1908 г. слонімская павятовая камісія прасіла гродзенскага губернатара В. М. Барзенку скасаваць права ільготнага праезду для 8 мясцовых сялян, «так как просители ездят в Сибир не для приискания переселенческих участков, а чаще на заработки, пользуясь ходаческими документами для дешёвого проезда; некоторые из просителей уже были в Сибири два раза» [488, арк. 51]. У пяці беларускіх губернях

за 1906–1909 гг. з ліку 288 697 перасяленцаў самавольна выехалі 71 497 (25 %). Прычым у Віцебскай губерні самавольныя перасяленцы складалі палову ад агульнай лічбы, а ў Гродзенскай – толькі 14 % [746, с. 58].

Пасля 1910 г. назіралася заўважнае зніжэнне перасяленчага руху па ўсіх беларускіх губернях. Многія перасяленцы не змаглі прыжыцца на новым месцы і вярнуліся на радзіму, дзе распавялі землякам пра цяжкія ўмовы жыцця ў Сібіры і на Далёкім Усходзе. Лепшыя землі ўжо былі занятыя першымі хвалямі перасяленцаў. Адыграў сваю ролю ў зніжэнні дынамікі перасяленчага руху агульны эканамічны пад'ём у паўночна-заходніх рэгіёнах імперыі, які даваў большыя, чым раней, магчымасці заробкаў на радзіме. Асноўную масу перасяленцаў у гэты перыяд складалі малазямельныя сяляне. Паводле падлікаў Л. П. Ліпінскага, у 1913 г. беззямельныя сяляне складалі 21,2 % ад агульнай колькасці перасяленцаў з Беларусі, а малазямельныя – 55,5 %. За 1906–1914 гг. у Беларусь вярнуліся 36 163 перасяленцы, ці 10,3 % ад агульнай колькасці [251, с. 126, 129]. Пасля скасавання маёмаснага цэнзу ў дакументах ужо значна радзей падавалася падрабязная інфармацыя пра маёмасны стан перасяленцаў [375–378; 481; 482; 485–491]. Але, несумненна, што сярод іх паранейшаму сустракаліся і вельмі заможныя гаспадары. Напрыклад, дробны шляхціч Ігнат Гушча з ваколіцы Гіжгалава Ігуменскага павета пісаў у сваім прашэнні ўладам у 1909 г.: «По недостаточности и малоземельности желаю поехать в качестве ходока в Сибирь для выбора там казенного участка» [380, арк. 175]. Між тым, яму належала 60 дзес. купленай зямлі, 2 кані, 10 кароў, 7 свіней. Сям'я Гушчы складалася з жонкі, пяці сыноў і двух дачок. Напэўна, перасяленне ў Сібір уяўлялася яму шляхам вырашэння сямейнага дэмаграфічнага крызісу. Імкненне да перасялення дробных шляхцічаў было прычынай выдання 22 чэрвеня 1900 г. адмысловага закона аб перасяленні дваран [380, арк. 105].

Сярод даследчыкаў існуюць розныя меркаванні адносна агульнай колькасці беларускіх перасяленцаў у Сібір і на Далёкі Усход. З улікам зваротных перасяленцаў іх колькасць складала 450–500 тыс. чалавек [216, с. 133–134]. Гэта быў важны клапан, які зніжаў дэмаграфічны ціск, а адпаведна і зямельны голад у сялянскім грамадстве. Але з другога боку, у Магілёўскай губерні, на якую прыходзілася большасць перасяленцаў, паказчыкі нараджальнасці сярод вясковага насельніцтва зніжаліся павольней, чым на захадзе Беларусі, дзе перасяленцаў, асабліва сярод жаночага насельніцтва, было значна меней. Такім чынам, перасяленне магло спрыяць кансервацыі патрыярхальных мадэляў адносін.

Такім чынам, рэформа 1861 г. дала істотны штуршок дынаміцы працэсаў сацыяльнай мабільнасці ў беларускай вёсцы. Галоўнымі каналамі вертыкальнай сацыяльнай мабільнасці сталі сістэма адукацыі і служба ў войску. Дзякуючы атрыманай адукацыі сялянскія дзеці, пераважна з заможных сямей, пачалі набываць прафесіі настаўніка, пісара, фельчара і г. д. На пачатку ХХ ст. выхадцы з сялянства складалі ўжо даволі высокі працэнт сярод ніжэйшага і сярэдняга чыноўніцтва беларускіх губерняў. Важнымі кірункамі тэрытарыяльнай мабільнасці стала міграцыя сялян у гарады, выезд на заробкі ў Паўночную Амерыку, перасяленне ў Сібір і на Далёкі Усход. Міграцыя ў гарады, асабліва ў беларускія, не атрымала вялікага пашырэння да Першай сусветнай вайны і закранула адносна вельмі невялікую частку сялян. Галоўным кірункам адтоку жыхароў з беларускай вёскі, асабліва ва ўсходніх рэгіёнах, стала перасяленне ў Сібір і на Далёкі Усход. Заробкавая міграцыя ў Паўночную Амерыку атрымала найбольшае развіццё на паўночным захадзе Беларусі, у Віленскай і Гродзенскай губернях.

# Глава 5
# ЗМЕНЫ Ў КУЛЬТУРНЫМ ЖЫЦЦІ: ІНСТЫТУТЫ АДУКАЦЫІ І РЭЛІГІІ

## 5.1. Пашырэнне пісьменнасці сярод сялянскага насельніцтва

Адным з важнейшых працэсаў мадэрнізацыі традыцыйнага сялянскага грамадства з'яўляецца пашырэнне пісьменнасці сярод мас вясковага насельніцтва. У дарэформенны час абсалютная большасць жыхароў беларускай вёскі не ведала граматы. Непісьменнымі часам былі нават панскія цівуны, якія кіравалі фальваркамі [54, с. 31]. Ускосным паказчыкам узроўня пісьменнасці дарэформеннай вёскі могуць паслужыць даныя перапісу 1897 г. Напрыклад, у Гродзенскай губерні ў 1897 г. сярод сялян, якія нарадзіліся да 1838 г., пісьменных налічвалася 12,7 % сярод мужчын і 5,9 % сярод жанчын (гэта быў самы высокі паказчык сярод беларускіх губерняў), а ў Магілёўскай губерні – 4,9 % сярод мужчын і 0,7 % сярод жанчын (самы ніжэйшы паказчык) (гл. дадатак 2) [690; 692].

У дарэформенную эпоху існавалі два асноўныя асяродкі пашырэння пісьменнасці сярод сялян – царква (касцёл) і панскі двор. Пры некаторых цэрквах і касцёлах засноўваліся прыходскія (парафіяльныя) школы, дзе маглі вучыцца і сялянскія дзеці. Вучнем такой школы быў, напрыклад, першы беларускі паэт сялянскага паходжання Паўлюк Багрым [222, с. 186–190]. Школы для сваіх сялян засноўвалі і некаторыя землеўладальнікі [54, с. 27]. Адам Багдановіч адзначаў у сваіх успамінах, што адукацыя там адбывалася на «польском языке, хотя и понятном, с грехом пополам, белорусу, но все же не родном и даже смешноватом, хотя на нем и говорили паны» [54, с. 27]. Сацыяльная напружанасць паміж панскім дваром і прыгоннай вёскай з'яўлялася галоўнай перашкодай на шляху больш актыўнага развіцця такіх школ. Пра гэта пісаў польскі асветнік і педагог Гуга Калантай: «Такога тыпу школкі ўладальнікі закладаць не будуць

<…> бо хто ж будзе такі неразважны, каб на сваё няшчасце даваць зброю (адукаванасць. – *С. Т.*) у рукі народа і неадукаваных папоў?» [821, s. 409]. Этнограф і краязнавец Віцебскай губерні Мікалай Нікіфароўскі нават сцвярджаў, што часам школкі пры праваслаўных цэрквах засноўваліся і дзейнічалі тайна, каб пра гэта не ведаў мясцовы землеўладальнік [561, с. 8].

Мікалаю Нікіфароўскаму належыць найбольш грунтоўнае апісанне вясковых школ напярэдадні рэформы 1861 г. Аўтар сцвярджаў, што «в грамотном человеке простолюдин не переставал чтить <…> письменного человека, одукаванца, видущаго, Божжиго блыгысловенца», а патаемнай марай бацькоў было ўбачыць гэта ў сваіх уласных дзецях. Мясцовы грамацей, як пісаў Нікіфароўскі, заўсёды быў акружаны натоўпам «цекавых», якія прагнулі паслухаць што-небудзь «от письма» [561, с. 4], хаця такі «благовеститель "письменного" мог иногда читать по своей только книжке, что читаемое прослушивалось много раз и прежде даже запоминалось завсегдатаями вместе с манерностью и голосом чтеца» [561, с. 4]. Асаблівай пашанай акружаліся ў вёсцы тыя асобы, якія маглі чытаць сялянам лісты ад іх сваякоў – салдат, ссыльных ці адыходнікаў [561, с. 5].

Разглядаючы дворную панскую школу для сялян, Нікіфароўскі сцвярджаў, што «на самом же деле она преследовала узкия цели, подготовляла лакеев, будущих писарей, счетчиков, или таких подьючков, которым предстояло завершать образование в городской мастерской» [561, с. 34]. Набор дзяцей у такую школу, паводле Нікіфароўскага, нагадваў «тогдашнюю ловлю в рекруты, и родители не менее горько оплакивали поступление в эту школу своих детей»: «По заказу набирались сюда «одномастные» однолетки, отличающиеся наружностью и не имевшие телесных недостатков» [561, с. 34]. Аўтар сцвярджаў, што ў дворных школах панавала польская пісьменнасць, так жа, як у прыкасцёльных. Ён звярнуў пры гэтым увагу на тую істотную акалічнасць, што ў касцёльных школах вучылася шмат дзяўчынак: «Дальновидные служители католичества и полонизма понимали настоящую цену грамотных матерей, к образованию которых и направляли свои воспитательные силы» [561, с. 34].

У дарэформенны час з'яўляюцца першыя друкаваныя выданні на беларускай мове, адрасаваныя сялянам: катэхізіс «Кароткі збор Хрысціянскай навукі для вяскоўцаў каталіцкага вызнання, якія размаўляюць на польска-рускай мове» [847], кнігі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча [223, с. 227–228]. У 1859 г. Дунін-Марцінкевіч пераклаў на беларускую мову паэму Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», але цэнзура забараніла распаўсюджванне ўжо аддрукаванай

у тыпаграфіі кнігі, каб «не допускать употребления польского алфавита при печатании сочинений на белорусском наречии» [222, с. 136]. Сам аўтар так тлумачыў чыноўнікам Галоўнага цэнзурнага камітэта выбар алфавіта: «В наших провинциях из ста крестьян, наверное, можно найти 10, которые хорошо читают по-польски, когда, напротив, из тысячи насилу сыщется один, знающий русский язык» [222, с. 134].

Напрыклад, у 1860 г. у Гродзенскай губерні, паводле даных Паўла Баброўскага, у 239 навучальных установах налічвалася 1498 вучняў сялянскага паходжання (26,7 %) [50, с. 248–253]. Большасць з іх наведвала вучылішчы, падпарадкаваныя губернскай палаце дзяржаўных маёмасцей (прызначаныя для дзяржаўных сялян) – 988 вучняў, і прыходскія (парафіяльныя) школы – 285. У цэлым жа сярод сялянскага насельніцтва Гродзенскай губерні адзін вучань прыходзіўся на 330 чалавек, у той час як сярод шляхты гэты паказчык складаў 1 на 30. Найбольшую актыўнасць у справе пашырэння адукацыі сярод сялян праяўляла каталіцкае духавенства. У якасці мовы навучання выкарыстоўвалася пераважна польская мова. Павел Баброўскі лічыў, што «польская грамота отделяет детей от их родного Русского языка, на котором говорят их отцы и деды» [47, с. 692]. У павятовых вучылішчах Гродзенскай губерні, якія ўтваралі першую ступень сярэдняй адукацыі, у 1860 г. выхадцаў з сельскіх станаў налічвалася 17 % ад колькасці ўсіх вучняў [50, с. 248–249].

Пасля скасавання прыгоннай залежнасці пытанне адукацыі сялянскага насельніцтва стала вельмі актуальным. Імператарскі ўказ ад 18 студзеня 1862 г. прадпісваў мясцовым уладам ствараць у «Заходніх» губернях сельскія вучылішчы Міністэрства народнай асветы [96, с. 486]. На пачатковую вясковую школу ўскладвалася ў першую чаргу ідэалагічная місія. Напрыклад, гродзенскі губернатар І. У. Галлер у 1862 г. называў важнейшай задачай мясцовай адміністрацыі «<…> повсеместное открытие народных училищ под надзором учебного и духовного православного ведомства и с преподаванием в оных учения в духе православия, русской народности и преданности Отечеству и престолу» [413, арк. 50]. Падзеі паўстання 1863 г. яшчэ больш актуалізавалі ў вачах урадавых чыноўнікаў менавіта гэтую функцыю народнай школы на беларускіх землях. Папячыцель Віленскай навучальнай акругі І. П. Карнілаў у сваім звароце да чыноўнікаў сялянскіх устаноў ад 4 верасня 1863 г. пісаў: «При настоящем положении западно-русскаго края распространение в народе образования в духе православия и русской народности посредством открытия возможно большего числа школ <…> это единственный путь к обезсилению и уничтожению влияния поль-

ско-католической пропаганды, действующей на развитие народа в духе неприязненных для России стремлений» [440, арк. 58]. У падобным духу думалі і пісалі мясцовыя кіраўнікі ў сістэме адукацыі [354]. У справаздачы вучылішчнага савета Віцебскай губерні за 1866 г. гаварылася: «Главная цель училищ – воспитать детей простого народа в духе русском, православном» [624, с. 33]. Гродзенскі губернатар Д. М. Крапоткін пісаў у снежні 1868 г., што народныя вучылішчы «кроме нравственного и умственного развития крестьянского населения для Северо-Западного края имеют не менее важную цель в отношении уничтожения латино-польских влияний, глубоко укоренившихся в некоторых сельских местностях» [456, арк. 3].

І гэтая ідэалагічная задача народнай школы бачылася ўладам у якасці галоўнай і ў далейшым. Папячыцель Віленскай навучальнай акругі М. А. Сергіеўскі пісаў у чэрвені 1883 г., што ў «Паўночна-Заходнім краі» «возлагалась на народную школу обширная задача – не только распространение грамотности среди сельского населения, но и дать народу такое политическое и религиозное воспитание, которое содействовало бы органическому слиянию края с Россией <…> с полным устранением польской интеллигенции и римско-католического духовенства не только от непосредственной деятельности по распространению в народе просвещения, но и от какого бы то ни было влияния на школу» [142, арк. 25 адв.].

Адразу з пачаткам арганізацыі масавага школьніцтва паўстала праблема мовы навучання ў вясковых школах. На пачатку 1860-х гадоў Міністэрства асветы Расійскай імперыі ініцыявала публічную дыскусію па гэтым пытанні. Маршалак шляхты Віленскай губерні Аляксандр Дамейка, напрыклад, заяўляў, што выкладаць у народных вучылішчах патрэбна «на господствующем в каждой местности простонародном диалекте» [732, с. 272]. Адзін з членаў Вучонага камітэта Міністэрства народнай асветы, спасылаючыся на ўласны вопыт і веданне сітуацыі ў Заходнім краі, прапаноўваў зрабіць мовай навучання для сялян-каталікоў польскую «и в пособие к нему местное наречие», а для праваслаўных – царкоўнаславянскую, «употребляя буквы русские и объясняясь с учениками на местном наречии» [732, с. 274]. На пасяджэнні таго ж камітэта ў снежні 1862 г. прапаноўвалася ў Беларусі як для каталікоў, так і для праваслаўных пачынаць навуку на «местном наречии» і потым паступова пераходзіць на расійскую мову [732, с. 274].

У справаздачы за 1861 г. папячыцель А. П. Шырынскі-Шыхматаў прапаноўваў навучаць каталікоў Закону Божаму на беларускай гаворцы, тую ж думку ён выказаў і вясной 1862 г.: «Преподавание закона

Божия католического исповедания производить на местном языке: в Жмуди – на жмудском, в белорусских губерниях – на белоруском, но отнюдь не на польском» [713, с. 38]. Перашкодай для выкарыстання беларускай мовы ва ўрадавай школе, як лічыў папячыцель, было тое, што няма «одного общего для всех белорусов языка» [732, с. 276]. У цыркуляры ад 12 студзеня 1863 г. ён дапускаў выкарыстанне «местного наречия» ў гутарках настаўнікаў з вучнямі. У інструкцыі чыноўнікам навучальнай акругі Шырынскага-Шыхматава, выдадзенай у кастрычніку 1863 г., прадпісвалася «обратить внимание на употребление в училищах местного белорусского наречия: в какой мере полезно и необходимо его допущение». І некаторыя ўрадавыя чыноўнікі прызнавалі, што «знание белорусского наречия необходимо учителям при первом знакомстве их с детьми» [732, с. 278]. Самі сяляне, як каталікі, так і праваслаўныя, часта выказвалі жаданне вучыцца на польскай мове. Гэтае жаданне было абумоўлена тым фактам, што польская мова лічылася «панскай». На ёй размаўлялі памешчыкі – эліта тагачаснага грамадства, а за імі цягнулася дробная шляхта, якая служыла пры фальварках у якасці эканомаў, цівуноў і стражнікаў. Паводзінам шляхты наследавалі ўжо сялянскія вярхі – войты, старасты, панскія лакеі. Вялікая частка сялян Беларусі ў сярэдзіне XIX ст., як каталікоў, так і праваслаўных (былых уніятаў) малілася на польскай мове і слухала на ёй казанні ў цэрквах і касцёлах.

Адначасова з урадавымі пачатковымі школамі на пачатку 1860-х гадоў развіваецца нелегальнае «тайнае» школьніцтва, якому актыўна садзейнічалі землеўладальнікі і каталіцкае духавенства. У гэтых школах навучанне сялян грамаце звычайна адбывалася на польскай мове, ці на беларускай, але з дапамогай «лацінкі». У 1862 г. у Варшаве быў выдадзены першы ў XIX ст. беларускамоўны падручнік «Elementarz dla dobrych dzietak katalikou» [831], прызначаны якраз для такіх нелегальных школак. У лямантары так тлумачылі патрэбу граматы для сялян: «Старайся, каб дзеткі твае ўчыліся <…> чытаць і пісаць, якое гэта шчасце ўмець всячыну перачытаць, што захочаш напісаць і пісара ніякага прасіць не нада» [8, с. 18]. Тым самым падкрэслівалася практычная значнасць ведання граматы. Лямантар прапагандаваў таксама ідэю згоды паміж панскім дваром і вёскай: «Злога не жычце двару, памагайце, калі вас пан папросіць; жывіце ў згодзе, як добрыя суседзі, а ўвідзіш, што ўсё добра будзець» [8, с. 19]. Тайныя школкі бачыліся мясцовым шляхецкім элітам у якасці сродку ідэалагічнага выхавання сялян у духу польскага патрыятызму (у тагачасным разуменні польскасці), любові да страчанай Рэчы Паспалітай і імкнення да яе адраджэння. Аднак удзельнік паўстання 1863–1864 гг. Ежы Парай-Кучэўскі скеп-

тычна ацэньваў у сваіх успамінах вынікі дадзенай адукацыйнай акцыі і пісаў, што, хаця школы закладаліся амаль у кожнай вёсцы, «народ з недаверам глядзеў на гэта і дзяцей да школ не пасылаў» [870, s. 151].

Віленскі генерал-губернатар У. І. Назімаў устрывожана пісаў у Пецярбург у лютым 1863 г., што ўсе аддаленыя куткі, вёскі і засценкі, у якіх знаходзіцца хоць колькі асоб, што ўмеюць пісаць і чытаць – усё запоўнена вялізнай лічбай друкаваных лямантароў, катэхізісаў і іншых рознага роду брашур для простага народу на польскай мове і на мясцовым беларускім дыялекце «польскім алфавітам» [870, s. 352]. Падпольная газета паўстанцаў «Мужыцкая праўда» стала найбольш яскравым прыкладам спробы ўплыву на сялян з дапамогай друкаванага слова. Яе стваральнік Канстанцін Каліноўскі прамаўляў ад імя селяніна «гаспадара Яські», каб атрымаць большы прапагандысцкі эфект.

Расійскія ўлады таксама выкарыстоўвалі беларускую мову ў агітацыйных мэтах. У 1861 г. у Магілёве выйшла брашура «Бяседа старога вольніка з новымі пра іхняе дзела» [67]. Пазней там жа былі выдадзены «Прамова старовойта да сялян аб свабодзе» і «Прамова старовойта» аўтарства чыноўніка Ф. Блуса [8, с. 14]. Гэтыя выданні тлумачылі сялянам сэнс рэформы 1861 г. Прычым улады выкарыстоўвалі той жа прыём, што Канстанцін Каліноўскі і іншыя аўтары антыўрадавых «гутарак» – іх ідэі тлумачыў сялянам нібыта іх болей дасведчаны аднавясковец. На пачатку 1862 г. генерал-губернатар У. І. Назімаў і папячыцель віленскай навучальнай акругі А. П. Шырынскі-Шыхматаў выказалі ідэю выдання ў Вільні часопіса (ці газеты) для простага народа. Разглядалася і магчымасць выкарыстання ў гэтым выданні «белорусского наречия». Шырынскі-Шыхматаў у справаздачы за 1861 г. прапанаваў выдаваць газету «для жмудинов на жмудском и русском языке, а для белорусов – на их родном наречии русским шрифтом и на русском языке». Назімаў таксама лічыў магчымым выданне на дзвюх мовах: «Русский или лучше сказать Белорусский, состоящий в переложении на бумагу Русским шрифтом местного русинского наречия, как это весьма успешно сделано Львовскою газетою «Слово», – и Жмудский, с сохранением усвоенного уже этому языку Латинского шрифта» [732, с. 283]. Аднак прысланы з Пецярбурга чыноўнік П. Шчэбальскі крытычна ацэньваў магчымасць выкарыстання беларускай мовы, прапаноўваючы «приспособить чисто русскую речь к местному говору», паколькі «литературы Белорусской нет и не было, и создавать искусственным образом белорусский литературный язык представляется ничем иным, как пустым доктринерством» [732, с. 283].

Асаблівую цікавасць выклікае брашура «Разсказы на белорусском наречии», выдадзеная ў Вільні на пачатку 1863 г. ананімнымі аўтарамі [243; 706]. Яна прызначалася для народных вучылішчаў у якасці кнігі для чытання і складалася з невялікіх апавяданняў. У адным з апавяданняў зборніка – «Кто булы наши найдавнийши диды и якая их была доля до унии?», напісаным на заходнепалескай гаворцы, была выкладзена, па сутнасці, першая канцэпцыя гісторыі беларусаў як асобнага народу, хаця і «роднага з народамі, каторыя даўней жылі і цяпер жывуць у паўднёвых і ўсходніх рускіх краях». Галоўнымі крытэрыямі беларускай ідэнтычнасці для аўтара выступалі паходжанне ад славян-крывічоў, беларуская мова і праваслаўная вера. Невядома, аднак, ці патрапілі гэтыя «Разсказы…» ў народныя вучылішчы, паколькі няма дакументальных пацверджанняў гэтаму.

Але ў далейшым расійскія ўлады адмаўляюцца ад падобных эксперыментаў з беларускай мовай у сістэме школьнага навучання. Генерал-губернатар Мураўёў 1 студзеня 1864 г. прадпісаў, каб «ни под каким видом и ни в каких сельских училищах не был преподаваем крестьянам польский язык» [281, с. 71]. У ліпені 1863 г. выйшаў цыркуляр міністра ўнутраных спраў імперыі П. А. Валуева, які забараняў выпуск дыдактычнай літаратуры на ўкраінскай мове, што аўтаматычна пашыралася і на беларускую мову. Літоўскі гісторык Дарыюс Сталюнас прыйшоў да высновы, што «в начале 60-х годов местные власти, особенно попечитель Віленскай навучальнай акругі А. Ширинский-Шихматов, пробовали использовать «белорусское наречие» (печатание тогда уже допускалось только «русскими буквами») в антипольской политике, но с началом «мятежа» и назначением генерал-губернатором М. Н. Муравьева, а попечителем – И. П. Корнилова это прекратилось. Белорусскость в общественном дискурсе допускалась уже только как выражение народного творчества» [732, с. 290]. Беларуская мова цяпер успрымалася як перашкода на шляху эфектыўнага навучання сялянскіх дзяцей грамаце. Напрыклад, у справаздачы Віцебскага вучылішчнага савета за 1866 г. гаварылася адносна навучання сялянскіх дзяцей расійскай мове: «Общий недостаток по русскому чтению, замеченный во всех училищах, тот, что дети не могут отвыкнуть от особенностей местного произношения. С этим недостатком долго еще придется бороться нашим училищам. Дети постоянно находятся под неотразимым влиянием местного произношения» [624, с. 23–24].

Забароны ўлад не маглі зліквідаваць нелегальнае школьніцтва. Ва ўмовах уведзенага ў часе паўстання 1863 г. ваеннага становішча пакаранне за адкрыццё такіх школ стала значна больш суровым. Сялян, якія аддавалі сваіх дзяцей у тайныя школы, у выпадку вы-

крыцця такіх, штрафавалі, а настаўнікаў нават саджалі ў турму. Аднак такія школы працягвалі існаваць [405; 407–409; 468]. Нярэдка, там разам навучаліся дзеці каталіцкага і праваслаўнага веравызнання, якія вучыліся чытаць і пісаць «па-польску» і «па-руску» [406, арк. 1–8; 407, арк. 1–5]. Галоўным матывам пасылання дзяцей у нелегальную школу выступала для сялян жаданне навучыць іх маліцца па кніжцы. Гэта ж датычыла і афіцыйных школ. Вяршыняй навучання для праваслаўных сялян, напрыклад, часта бачылася ўменне чытаць Апостал у царкве і Псалтыр пры нябожчыку [624, с. 36]. Але для часткі сялянскага насельніцтва, пераважна заможнага, навучанне грамаце ўжо стала магчымасцю для ўзвышэння па сацыяльнай лесвіцы тагачаснага грамадства. Гэта нават выклікала асуджэнне з боку некаторых прадстаўнікоў адукаваных эліт. Напрыклад, праваслаўны святар Канцэвіч з мястэчка Дзярэчын у Слонімскім павеце Гродзенскай губерні пісаў, што сяляне «если принимаются за грамоту, то с тем, чтобы впоследствии занять должность писаря, объездчика, старшины или что то другое в этом роде»: «Очевидно, цель та, чтобы с меньшим физическим трудом добыть средства к жизни более покойной и выгодной. Религиозная сторона мало выигрывает у таких грамотеев» [228, с. 158]. У зборніку апавяданняў «Разсказы на белорусском наречии» адзін з персанажаў Янка такім чынам тлумачыў аднавяскоўцу Хвядосу карысць навучання пісьму для сялян: «Треба тэпэръ нэ одним панамъ учитыся; здаетця наука и мужиковы всякому. Або жъ ты сам нэ радъ будэшъ, кеды твуй сын выйдэ в людэ, зробытця учоным, розумным и тэбэ нэ покинэ, шановаты нэ пэрэстанэ <…> нарешти, хоть и в мужиках вунъ останэтця, и то одно много значитъ, ежэли вунъ выучитця въ школи пацера, якъ налэжитъ, и кныжку яку розумну прочитаты, и тоби ще самому сказаты якую историю святу, розумну, що въ кныжкахъ пышутця. Трэба ще, напрыкладъ, рахунокъ тоби якій зробыты, – грамотный хлопэц зробыть тоби живо, худко и регулярно, якъ и сам пысарь иншій не потрапытъ» [706, с. 28].

У 1860-я гады нярэдка здараліся канфлікты на ніве развіцця сялянскай адукацыі паміж мясцовымі духоўнымі і свецкімі ўладамі. Даследчык праблемы М. А. Гулюк сцвярджае, што віленскі генерал-губернатар М. М. Мураўёў з'яўляўся прыхільнікам рэалізацыі на беларускіх землях клерыкальнай мадэлі пачатковай асветы для беларускіх сялян, у якой галоўную ролю адыгрывала б прыходскае праваслаўнае духавенства [115, с. 12; 188]. Але на практыцы рэалізацыя гэтай мадэлі сутыкнулася з сур'ёзнымі цяжкасцямі. Напрыклад, у кастрычніку 1864 г. Літоўская духоўная кансісторыя звярнулася з лістом да гродзенскага губернатара І. М. Скварцова, у

якім сцвярджалася, што міравыя пасярэднікі і валасныя ўлады перашкаджаюць святарам у распаўсюджванні пісьменнасці. Надворны саветнік Шаблоўскі, якому губернатар даручыў праверыць гэтую справу, пісаў у Гродна 18 лютага 1865 г., што ў тых вучылішчах, дзе працуюць штатныя настаўнікі, «успехи детей стоят далеко выше школ священно-учительских, и грамотность там развивается гораздо быстрее»: «<...> я положительно убеждаюсь, что священники вовсе не так энергичны в занятиях с крестьянскими мальчиками, как они постоянно о том твердят, сами они отзываются, что ежедневно не могут посещать школ, будучи занятыми отправлением разных треб по приходу, многие из них вместо себя нанимают учить мальчиков разных лиц, далеко не умеющих исполнить обязанности учителей и успехов при таком порядке обучения не скоро можно надеяться» [461, арк. 3 адв.–4]. М. А. Гулюк прыйшоў да высновы, што спроба Мураўёва рэалізаваць клерыкальны варыянт асветы пацярпела няўдачу з прычыны негатоўнасці самога праваслаўнага духавенства да выканання гэтай місіі, а таксама і супраціўлення з боку неправаслаўнага насельніцтва беларускай вёскі [115, с. 14].

На пачатку 1860-х гадоў дзяржаўныя ўлады дамагліся даволі значных поспехаў у развіцці школьнай справы на беларускай вёсцы. Напрыклад, у Гродзенскай губерні за 1862–1866 гг. былі адчынены 152 народныя вучылішчы, у якіх навучалася 6430 хлопчыкаў і 852 дзяўчынкі [630, с. 9]. Апроч таго налічваліся 3 пазаштатныя вучылішчы, 33 вучылішчныя аддзяленні, а таксама 44 так званыя палатныя (падпарадкаваныя Міністэрству дзяржаўных маёмасцей) школы ў вёсках дзяржаўных сялян. У сярэднім на адну ўстанову прыходзіліся 43 вучні (у штатных народных вучылішчах – 55). Сярод настаўнікаў штатных народных вучылішчаў налічвалася 85 святароў, 6 дыяканаў, 13 былых прычэтнікаў, 35 выхаванцаў духоўных семінарый, 6 выпускнікоў наваўтворанай Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, 2 валасныя пісары, 1 вучань прагімназіі і 1 асоба «ваеннага звання». У вучылішчах Міністэрства дзяржаўных маёмасцей настаўнікамі былі 33 святары, 1 дыякан і 6 выхаванцаў духоўных семінарый. А сярод настаўнікаў вучылішчных аддзяленняў налічвалася 11 вучняў народных вучылішчаў, 3 мешчаніны, 5 сялян, 7 ваенных чыноў і 1 валасны пісар [630, с. 15]. Такім чынам, праваслаўныя святары і служкі, а таксама ніжнія ваенныя чыны складалі ў той час большасць сярод настаўнікаў вясковых школак на Гродзеншчыне. Падрыхтаваных настаўнікаў катастрафічна не хапала, і ўладам прыходзілася прыкладаць вялікія намаганні ў справе іх матэрыяльнага забеспячэння [133], а таксама падштурхоўваць

сялянскія грамады больш актыўна фінансаваць навучальныя ўстановы [310].

Большасць штатных народных вучылішчаў Гродзенскай губерні (107) размяшчалася ў новых будынках, прычым 82 з іх былі збудаваных паводле адмысловага праекта. Дзяржава вылучыла на гэтыя вучылішчы 30 200 руб., а з віленскай дырэкцыі народных вучылішчаў было перададзена 21 348 экзэмпляраў кніг [630, с. 23]. Напрыклад, налічвалася каля 5 тыс. экзэмпляраў «Книги для чтения в народных училищах Виленского учебного округа». Сур'ёзнай праблемай для вучылішчнага начальства бачылася моўнае пытанне: «Вообще трудно еще приучить детей к великорусскому выговору, как в чтении, так и в разговоре и устранить особенности местного произношения» [630, с. 31]. Настаўнік Антон Давідовіч з Ваўкавыскага павета пісаў у сваёй справаздачы, «что они (вучні. – *С. Т.*) не понимают меня от того, что не привыкли к звукам русского языка». Гэты настаўнік знайшоў наступны выхад з сітуацыі: «Я стал беседовать с ними на их наречии <…> мне стало ясно, что меня наконец понимают» [65, с. 83]. Але для школьных улад такое выйсце было непрымальным. Дырэкцыя народных вучылішчаў для выпраўлення сітуацыі з мовай вучняў нават планавала «озаботиться приобретением сборника великорусских народных песень, положенных на ноты, для выбора из них подходящих песен для народных училищ» [630, с. 34]. З цяжкасцю сутыкнулася і навучанне царкоўнаславянскай мове: «<…> ни в одном училище ученики не могут объяснить все прочитанное по славянски» [630, с. 23].

На ўсходзе Беларусі ў Магілёўскай губерні на пачатак 1867 г. налічваліся 72 мужчынскія і 8 жаночых штатных народных вучылішчаў, а таксама 162 мужчынскія і 1 жаночае другаразрадныя [631, с. 3]. На штатныя вучылішчы ўрад выдаваў 14 113 руб. Кожнае чацвёртае вучылішча месцілася ў будынку валаснога праўлення, дзе шматлікія наведвальнікі моцна перашкаджалі навучальнаму працэсу. Сярод настаўнікаў налічвалася 22 святары, 15 дыяканаў і прычэтнікаў, 7 выпускнікоў і 17 былых навучэнцаў духоўных семінарый, 18 выпускнікоў павятовых вучылішчаў, 5 чыноўнікаў, 1 ваенны чын, а таксама 9 жанчын (з іх ліку 7 належалі да духоўнага стану) [631, с. 4]. У другаразрадных вучылішчах сярод настаўнікаў было 47 святароў, 53 дыяканы і прычэтнікі, 9 выхаванцаў духоўных навучальных устаноў, 3 чыноўнікі, 8 шляхцічаў, 11 мяшчан, 38 сялян, 3 асобы «ваеннага звання», 1 жанчына духоўнага стану. Прыкладна трэцяя частка другаразрадных вучылішчаў (57) месцілася ў будынках валасных праўленняў, новазбудаваных школак было толькі 19. У параўнанні з Гродзенскай губерняй дзяржаўныя ўлады

ў Магілёўскай губерні прыкладалі менш намаганняў у арганізацыі вясковага школьніцтва, што можна патлумачыць палітычнымі меркаваннямі (на Гарадзеншчыне больш актуальнай з’яўлялася праблема змагання з паланізмам і каталіцызмам). Характарызуючы ўзровень вучняў, дырэкцыя Магілёўскай губерні сцвярджала, што найбольш развітыя з іх ліку «в состоянии передать содержание небольших статей своими словами, конечно, просторечью» [631, с. 22]. Цяжкасці назіраліся і ў навучанні царкоўнаславянскай мове: «Обучение славянскому языку чисто механическим способом <…> не приносило существенной пользы, убивало много времени и отнимало у детей охоту к занятиям научным» [631, с. 22]. А галоўнай мэтай адукацыі сялян дырэкцыя лічыла наступную: «<…> сделать их разумно-нравственными христианами и, в то же время, развить и укрепить в них сознание, что и белорус имеет счастие быть живым членом русской великой, сильной и славной семьи» [631, с. 23].

Паводле школьнага перапісу 1880 г., у Віленскай навучальнай акрузе (уключала пяць беларускіх губерняў і Ковенскую) дзейнічалі 1514 сельскіх школ, з якіх 159 было заснавана да 1861 г., з 1861 па 1863 гг. былі адчынены 244 школы (у сярэднім 81 у год), з 1864 па 1868 гг. – 655 (131 у год), з 1869 па 1873 гг. – 171 (34 у год), з 1874 па 1879 гг. – 236 (39 у год) [618, с. 6–7]. Такім чынам, 1860-я гады былі перыядам найбольш актыўнага заснавання вясковых школ, а ў наступныя 10 гадоў гэты працэс замарудзіўся. Многія школкі паўставалі з ініцыятывы саміх сялян, якія наймалі за ўласныя грошы так званых дарэктараў. У якасці апошніх выступалі самыя розныя асобы, якія ў большай ці меншай ступені валодамі граматай. У афіцыйнай статыстыцы такія школкі акрэсліваліся як «училищные отделения» ці «школы грамоты». Напрыклад, дырэктар народных вучылішчаў Гродзенскай губерні пісаў у 1870 г., што «крестьяне, говоря вообще, не чуждаются грамоты», але ім «трудно найти мало-мальски порядочного наставника за каких-нибудь 10 или 15 копеек от ученика в месяц» [393, арк. 43]. Улады імкнуліся кантраляваць гэты працэс заснавання школак самімі сялянамі. У маі 1870 г. папячыцель Віленскай навучальнай акругі П. М. Бацюшкаў пісаў гродзенскаму губернатару Д. М. Крапоткіну, што ў яго губерні сялянамі засноўваюцца школкі «без всякого ведома о том дирекции», і пры гэтым «нанимаются лица, не имеющие образования, часто худого образа жизни и иногда даже римско-католического исповедания» [405, арк. 1].

Вельмі грунтоўнае і падрабязнае апісанне зместу навучання ў афіцыйных народных вучылішчаў у першыя паслярэформенныя дзесяцігоддзі знаходзім ва ўспамінах Адама Багдановіча, які распачаў навуку ў народным вучылішчы ў 1868 г. Ён пісаў, што на па-

чатку свайго навучання вучні на памяць вучылі «Гісторыю Старога і Новага Запавета» расійскага аўтара Базарава, вывучалі рускую мову, «иногда» займаліся арыфметыкай, «т. е. решали, с грехом пополам, задачки», але галоўным чынам чыталі «Рассказы из русской истории» Петрушэўскага [56, с. 302]. Далей Багдановіч узгадваў, што малады настаўнік Якімовіч, які ўжо скончыў курс настаўніцкай семінарыі, «ввел в вечерних беседах ознакомление со всеобщей географией и начатками народоведения» [55, с. 303]. У 1860-я гады прафесійна падрыхтаваных настаўнікаў для народных школ катастрафічна не хапала, паколькі першая семінарыя ў Маладзечне была заснаваная толькі ў 1864 г. Выхадцам з дробнай шляхты каталіцкага веравызнання, а большасць адукаваных людзей у беларускай вёсцы належала менавіта да гэтай сацыяльнай групы, пасля паўстання 1863 г. дарога да пасады народнага настаўніка была катэгарычна зачыненай, за выключэннем толькі пераходу іх у праваслаўе. Каб запоўніць вакансіі настаўнікаў улады прызначалі ў школы адстаўных салдат, пісараў, выключаных за непасляховасць і дрэнныя паводзіны навучэнцаў духоўных семінарый. Але іх прафесійны і маральны ўзровень нярэдка быў катастрафічна нізкі. Каля паловы настаўнікаў у народных школах Беларусі ў 1865 г. складалі прысланыя з цэнтральных губерняў Расіі навучэнцы духоўных семінарый [115, с. 13]. Напрыклад, у 150 штатных народных вучылішчах Віцебскай губерні ў 1866 г. выкладалі 13 святароў, 5 дыяканаў, 2 прычэтнікі, 41 выпускнік духоўнай семінарыі, 2 гімназісты, 17 выпускнікоў павятовых вучылішчаў, 1 выпускнік народнага вучылішча, 2 валасныя пісары, 2 афіцэры (хутчэй за ўсё меліся на ўвазе адстаўныя унтэр–афіцэры), 1 чыноўнік, 2 жанчыны (так і падавалася ў тэксце) [624, с. 7]. У 1869/1870 навучальным годзе ў 152 штатных вучылішчах гэтай губерні настаўнікамі было 30 святароў, 3 дыяканы, 3 прычэтнікі, 77 навучэнцаў духоўных семінарый, 2 гімназісты, 26 навучэнцаў павятовых вучылішчаў, 2 выпускнікі прыходскіх вучылішчаў, 2 валасныя пісары і 12 жанчын-настаўніц. У 48 пазаштатных вучылішчах настаўнікамі былі 3 святары, 4 прычэтнікі, 1 семінарыст, выпускнік павятовага вучылішча і 14 валасных пісараў. У штатным вучылішчы ў сярэднім налічвалася 29 вучняў, у пазаштатным – 17 [623, с. 7].

Пачатковым вясковым школам востра не хапала дзяржаўнага фінансавання. На дзяржаўным забеспячэнні знаходзіліся так званыя штатныя школы, а пазаштатныя ўтрымліваліся найперш самімі сялянамі, і толькі часткова фінансаваліся дзяржавай. Грамадскія ж вучылішчы цалкам забяспечваліся за кошт вясковых грамад. Ды і ў штатных школах дзяржаўнае забеспячэнне ішло на заробак настаўнікаў і набыццё літаратуры, а школьныя будынкі павінны былі

будаваць ці наймаць валасныя праўленні. Напрыклад, у 1866 г. на 85 штатных народных вучылішчаў Віцебскай губерні было затрачана 14 113 руб. дзяржаўных грошай і 5013 руб. выдаткавана валаснымі сходамі [624, с. 14].

5 мая 1880 г. гродзенскі губернатар М. М. Цэймерн даслаў віленскаму генерал-губернатару П. П. Альбядзінскаму запіску, у якой прапаноўваў меры па павелічэнні колькасці народных вучылішчаў. Губернатар лічыў, што ўрад павінен узяць на сябе выдаткі па пабудове школьных будынкаў, а таксама павялічыць заробак настаўнікаў, які тады не перавышаў 200 руб. у год, для большасці настаўнікаў складаў суму каля 150 руб., а ў некаторых выпадках – нават менш за 50 руб. [142, арк. 2 адв. – 3]. Ад дзяржавы настаўнік па закону мог атрымліваць не больш за 226 руб. [142, арк. 31], а валасныя ці сельскія ўлады маглі прызначыць дадатковае ўтрыманне – так званую ссыпку зернем і іншымі прадуктамі (з магчымасцю замены прадуктаў на грошы).

У Гродзенскай губерні ў 1880 г. налічвалася 330 школ (3126 жыхароў на школу), Мінскай – 295 (4542 жыхары на школу), Віцебскай – 191 (4832), Магілёўскай – 200 (5450), Віленскай – 186 (5763) [142, арк. 44]. Сярэдняя колькасць вучняў на адну школу складала ў Гродзенскай губерні 56 асоб, Мінскай – 42, Віцебскай – 37, Магілёўскай – 42, Віленскай – 39 [142, арк. 68]. Дзяржава ў сярэднім на адно пачатковае вучылішча выдаткоўвала 214 руб. на асабовы склад (настаўнікі і абслугоўваючы персанал) і 115 руб. на кнігі і гаспадарчыя патрэбы. Паводле даных Мітрафана Доўнар-Запольскага, у сярэдзіне 1880-х гадоў наведвалі школы 11,3 % дзяцей школьнага ўзросту, у тым ліку ў Гродзенскай губерні 17,2 %, у Магілёўскай – 15,9 %, Мінскай – 13,8 %, Віленскай – 12,3 %, Віцебскай – 8,3 % [172, с. 433].

Сярод настаўніцтва ў 1880 г. пераважалі выхадцы з духоўнага саслоўя – 36,8 %. Прычым сярод настаўніц яны складалі абсалютную большасць. Але сярод настаўнікаў-мужчын большасць ужо належала выхадцам з сялянства – 51,5 %. Праўда, сярод настаўніц сялянак па паходжанні было вельмі мала – 1,2 % (табліца 5.1). І сітуацыя з кадрамі ў вясковай школе прынцыпова не змянілася да канца XIX ст. У статыстычным аглядзе Гродзенскай губерні за 1897 г. пра гэта гаварылася: «Относительно педагогического персонала народных училищ нужно сказать, что, вследствие незначительности получаемого учителями содержания, в последнее время наблюдается сильное стремление учителей оставить службу по ведомству Министерства народного просвещения и перейти в другое ведомство, так что с каждым годом все труднее и труднее становится замещать учительские вакансии по отсутствию лиц, желающих занять таковые» [591, с. 161].

Табліца 5.1 – **Настаўнікі пачатковых школ Віленскай навучальнай акругі паводле саслоўнага паходжання ў 1880 г.** [618, с. 15]

| Саслоўнае паходжанне | Настаўнікі | | Настаўніцы | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць | % | Колькасць | % | Колькасць | % |
| Дваране | 52 | 4,2 | 77 | 23,8 | 129 | 8,3 |
| Духавенства | 349 | 28,5 | 222 | 68,5 | 571 | 36,8 |
| Сяляне | 631 | 51,5 | 4 | 1,2 | 635 | 41,0 |
| Гарадскія станы | 125 | 10,2 | 12 | 3,7 | 137 | 8,8 |
| Іншыя | 69 | 5,6 | 9 | 2,8 | 78 | 5,1 |
| Разам | 1 226 | 100 | 324 | 100 | 1 550 | 100 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

У дзейнасці вясковых школ уладамі заўсёды першаснае значэнне надавалася іх ідэалагічнай функцыі, выхаванню сялянскіх дзяцей у «рускім» духу і вернасці манархіі. У гэтым асаблівую ролю павінна была адыгрываць «Книга для чтения Виленского учебного округа», якая складалася з трох раздзелаў: царкоўнаславянскага, рускага гістарычнага і хрэстаматыі. Адам Багдановіч так апісвае ўласныя ўражанні ад чытання гэтай кнігі: «Из первой статьи я узнал, что мое отечество имеет особое имя Россия (это «звучало гордо» в моем сердце); что в ней 59 мил. жителей (это по статистике 60-х годов; вряд ли я имел ясное представление о значении этого числа); что она делится на губернии и области (это я очень плохо понимал); что есть еще другие государства, но русское самое сильное и самое большое <…> А затем пошли – Русь языческая, Владимир-язычник (это языческая, язычник – казалось чем-то странным и нам, белорусским детям, непонятным: язык он, что-ли высовывал?), Крещение Руси, Владимир-Христианин и пр.» [56, с. 280–281]. Дзяржаўныя ўлады клапаціліся пра тое, каб кнігі патрэбнага ідэалагічнага зместу ў дастатковай колькасці траплялі ў вясковыя школы. Найчасцей у вясковых бібліятэках былі наступныя падручнікі і кнігі: «Детский мир» і «Родное слово» Ушынскага, «Народная азбука» Сталпянскага, «Уроки русского чистописания» і «География и история» Пуцыковіча, «Атлас» Ільіна, часам нават «Чтения по истории Западной России» Міхала Каяловіча [502]. Паводле Адама Багдановіча, у іх школьную бібліятэку патрапілі такія кнігі, як «Белорусские песни, сказки, обряды и обычаи» Дзмітрыева, зборнік украінскіх песень Максімовіча, том твораў этнографа Афанасьева-Чужбінскага, зборнік гістарычных дакументаў украінскага народазнаўцы Куліша і інш. Як адзначыў мемуарыст: «Знакомство с фольклором откры-

ло для меня целый мир народных чувств, воззрений и верований и вскоре повело меня к моим личным этнографическим записям» [56, с. 322–323]. Хаця большасць кніг была запатрабавана толькі адзінкамі сярод вучняў, але народнае вучылішча патэнцыяльна давала добрыя магчымасці для інтэлектуальнага развіцця сялянскага дзіцяці. Многае тут залежала ад асобы настаўніка.

У 1880 г. у Віленскай навучальнай акрузе налічвалася ўсяго 1383 сельскія школы. У сярэднім адна школа прыходзілася на 3720 жыхароў і 531 дзіця школьнага ўзросту. З беларускіх губерняў найлепшым азначаны паказчык выглядаў у Гродзенскай губерні, а найгоршым – у Віленскай (табліца 5.2). У 1883 г. у Віцебскай губерні ўжо налічвалася 208 школ, у якіх навучалася 6890 сялянскіх дзяцей. Паводле падлікаў дзяржаўных чыноўнікаў, з 16 дзяцей школьнага ўзросту ў гэтай губерні школу наведвала ўсяго адно дзіця [639, с. 213]. З ліку 206 настаўнікаў (138 мужчын і 68 жанчын) 75 скончылі настаўніцкія семінарыі (36,5 %), 62 – сярэднія навучальныя ўстановы, пераважна духоўныя семінарыі (30,5 %), а 60 скончылі толькі пачатковыя школы і атрымалі пасведчанні на званне народных настаўнікаў (33,5 %) [639, с. 214].

Табліца 5.2 **– Ахоп пачатковымі школамі вясковага насельніцтва Віленскай навучальнай акругі на 1880 г.** [618, с. 41]

| Губерня | Колькасць школ | Жыхароў на адну школу | Дзяцей школьнага ўзросту на адну школу | Населеных пунктаў на адну школу |
|---|---|---|---|---|
| Віленская | 186 | 4463 | 637 | 78 |
| Віцебская | 191 | 4116 | 589 | 79 |
| Гродзенская | 330 | 2368 | 338 | 17 |
| Ковенская | 181 | 5115 | 730 | 72 |
| Магілёўская | 200 | 4197 | 599 | 31 |
| Мінская | 295 | 3325 | 475 | 24 |
| Па ўсёй акрузе | 1383 | 3720 | 531 | 44 |

У аддаленых ад гарадоў і буйных мястэчак вёсках вясковыя школкі на працягу ўсёй другой паловы XIX ст. часта заставаліся вельмі патрыярхальнымі. У такой школцы праходзіў навуку ў 1892–1894 гг. адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху Вацлаў Ластоўскі: «Акром “букаўкаў”, “буквароў”, часасловаў, псалтыроў і евангелій, задачніка, некалькіх гісторый святых, іншых кніг у школьнай кніжні, здаецца, не было. Дзяўчаты прыходзілі са сваімі ўласнымі польскімі Elementarzami і Złotymi Ołtarzykami» [242,

с. 176]. Прычым, як сцвярджаў Вацлаў Ластоўскі, выкарыстоўваліся нават рукапісныя кнігі, якія перапляталіся тут жа ў вёсцы мясцовым умельцам. Мовай навучання ў гэтай школе была беларуская: «Не было нават спробы гаварыць іншай мовай». Для большасці вучняў, паводле Ластоўскага, адзінай мэтай навукі было навучыцца маліцца па кніжцы. Практычныя вымогі свецкага характару ставіліся толькі да пісьма – «умець падпісацца» [242, с. 181]. Трэба меркаваць, што Вацлаў Ластоўскі пісаў пра так званую школу граматнасці, якія слаба кантраляваліся ўладамі і поўнасцю знаходзіліся на ўтрыманні саміх сялян. Праўда, як узгадваў аўтар успамінаў, неўзабаве ў школу прыйшоў пасля заканчэння семінарыі настаўнік, які ўжо завёў новыя афіцыйныя падручнікі і буквары [242, с. 182].

Адам Багдановіч таксама пісаў, што асноўнай мэтай школьнага навучання было «научиться молиться Богу по книжке», а спяванне ў царкве на клірасе «было высшее и, пожалуй, единственное применение грамотности» [54, № 7, с. 39, 74]. Аднак ужо ў сярэдзіне XIX ст. і свецкая кніга нярэдка сустракалася ў сялянскай хаце, а пісьменны чалавек успрымаўся вяскоўцамі як крыніца новых ведаў. Той жа Адам Багдановіч успамінаў пра свайго адукаванага дзядзьку Ануфрыя, што з яго прыездамі ў родную вёску ў хаце збіраўся народ «послушать человека бывалого и притом «письменного», книжки читающего и по-польски, и по-руски» [56, с. 212]. Падобныя асобы станавіліся своеасаблівымі транслятарамі новых ідэй, поглядаў і густаў у кансерватыўнае сялянскае асяроддзе. Праўда, асабліва папулярнымі сярод сялян былі такія кнігі, як соннікі, календары з прадказаннямі надвор’я, розныя «Оракулы» и «Черные книги», з дапамогай якіх вяскоўцы спадзяваліся навучыцца магічным штучкам і лёгка разбагацець [54, № 7, с. 23]. Сустракаліся і кнігі на беларускай мове. Адам Багдановіч піша, што ў яго дзядзькі Ануфрыя «была книжка на белорусском языке, напечатанная польским шрифтом, – знаменитый «Гапон» Дунина-Мартинкевича <…> Была и другая любопытная народная книжка на белорусском языке, которая мне потом в белорусской библиографии не встречалась. Книжка была с лубочными картинками, тоже печатанная польским шрифтом и направленная против пьянства» [54, № 7, с. 40].

Як ужо адзначалася вышэй, пасля дынамічнага росту на працягу 1860-х гадоў, пашырэнне вясковага школьніцтва на беларускіх землях запаволілася. Так, з 1861 па 1879 гг. у Віленскай навучальнай акрузе было адчынена 1306 вясковых школ (у сярэднім па 69 у год), з 1880 па 1893 гг. – 781 (56 у год) [618, с. 5]. На тэрыторыі сучаснай Беларусі да 1861 г. існавала 95 народных вучылішчаў, на працягу 1861–1874 гг. было адчынена 689, а за перыяд з 1874 па 1885 гг. – усяго

152 [96, с. 487]. У апісанні Магілёўскай губерні за 1881 г. гаварылася: «Народных училищ не только во многих волостях, но в некоторых мировых участках <...> не было вовсе и всего в губернии находилось правильно устроенных народных школ около 120» [619, с. 5].

У чэрвені 1884 г. выйшла палажэнне аб царкоўна-прыходскіх вучылішчах, якія з гэтага часу падпарадкоўваліся царкоўнаму ведамству, а не Міністэрству народнай асветы, і знаходзіліся пад кантролем прыходскага праваслаўнага духавенства. Гэтыя школы былі больш кансерватыўнымі, чым народныя вучылішчы Міністэрства народнай асветы, але ўзровень навучання ў іх быў звычайна ніжэйшым. Менавіта царкоўна-прыходскія вучылішчы атрымалі асабліва шырокае распаўсюджванне на беларускіх землях, паколькі дзяржаўная ўлада разглядала гэтую тэрыторыю як прастору цывілізацыйнага супрацьстаяння паміж усходнім праваслаўем і заходнім каталіцтвам. Такім чынам, была зроблена спроба зноў рэалізаваць у нейкай ступені ранейшы мураўёўскі праект клерыкальнай мадэлі пачатковай адукацыі для беларускіх сялян.

Напрыклад, паводле даных паліцыі за 1886 г., у Гродзенскай губерні налічвалася 258 народных вучылішчаў і 377 царкоўна-прыходскіх [396, арк. 1–88]. Сярод настаўнікаў царкоўна-прыходскіх школ большасць складалі мясцовыя сяляне, а таксама адстаўныя салдаты, унтэр-афіцэры і пісары, якія таксама амаль усе паходзілі з сялян. У Бельскім павеце, дзе сетка падобных школак была самай густой у губерні, а магчыма і ва ўсёй Беларусі, сярод настаўнікаў 95 царкоўна-прыходскіх вучылішчаў налічваліся 8 адстаўных салдат і унтэр-афіцэраў, 1 салдацкі сын, 19 мяшчан (у гэтым павеце быў вельмі высокі працэнт праваслаўнага мяшчанства ў шматлікіх мястэчках і невялікіх гарадках), сын пісара, паповіч, 3 псаломшчыкі, а ўсе астатнія – сяляне. Усе яны без выключэння належалі да праваслаўнага веравызнання [396, арк. 34–48].

У Магілёўскай губерні ў 1886/87 навучальным годзе налічвалася 271 царкоўна-прыходская школа і 595 школак граматнасці. У гэтых установах навучалася 16 103 хлопчыкі і 1537 дзяўчынак [625, с. 17]. Склад настаўнікаў быў наступным: сяляне – 430 (у тым ліку 6 жанчын), адстаўныя салдаты і унтэр-афіцэры – 128, ганаровыя грамадзяне і мяшчане – 42 (у тым ліку 2 жанчыны), дваране – 8, псаломшчыкі і дыяканы – 109, выпускнікі духоўных семінарый – 10, асобы, якія не завершылі поўны курс у духоўнай семінарыі – 14, выпускнікі Полацкай настаўніцкай семінарыі – 2, дзеці святароў і псаломшчыкаў, якія навучаліся ў духоўных вучылішчах – 66, дзеці прычэтнікаў з хатняй адукацыяй – 9, настаўніцы, якія закончылі епархіяльнае жаночае вучылішча – 23, настаўніцы, якія скончылі пансіёны і жаночыя

гімназіі – 14, дочкі святароў і псаломшчыкаў з хатняй адукацыяй – 6, дочкі чыноўнікаў і дваран – 5, дачка памешчыка – 1, удава святара – 1 [625, с. 23–24]. Такім чынам, абсалютную большасць настаўнікаў складалі сяляне і прадстаўнікі духоўнага саслоўя. Аўтары справаздачы аб дзейнасці царкоўна-прыходскіх школ у Магілёўскай губерні прызнавалі, што вучні гэтых устаноў, «почувствовав в себе способность к учению и подготовившись, переходят в народные училища» [625, с. 31]. У 1890 г. на прыходскае праваслаўнае духавенства было ўскладзена і загадванне «школамі граматнасці», якія раней кантраляваліся Міністэрствам асветы.

Паводле ж даных анкеты Імператарскага вольнага эканамічнага таварыства, на пачатак 1894 г. у Віленскай навучальнай акрузе налічвалася 6128 вясковых школ і 182 264 вучня, з іх 162 061 хлопчык і 20 203 дзяўчынкі. На сто жыхароў у сярэднім прыходзілася крышку больш за 2 вучні [618, с. 3]. Асабліва кепскай была сітуацыя з навучаннем сялянскіх дзяўчынак. У аглядзе Мінскай губерні за 1881 г. гаварылася: «Число обучающихся в училищах девочек еще ничтожно по той причине, что крестьяне не находят обходимым и полезным обучать дочерей своих; притом преподаватели и преподавательницы не особенно заботятся о привлечении в училища девочек, имея не мало труда при обучении мальчиков» [604, с. 37]. У вясковых вучылішчах Віленскай навучальнай акругі, паводле статыстычных даных, на 1884 г. дзяўчынкі складалі ўсяго 3,6 % ад колькасці вучняў [742, с. 72]. У вясковых школах Віцебскай губерні ў 1888 г. адна дзяўчынка прыходзілася на 73 вучні [76, с. 380]. Вялізная перавага хлопчыкаў над дзяўчынкамі ў вясковых школах тлумачылася тым фактам, што сяляне ў большасці сваёй не бачылі сэнсу і практычнай карысці ў школьным навучанні дзяўчынак. У зімовую пару, калі ўласна і працавала школа, хлопцы не мелі асаблівай работы ў сялянскай гаспадарцы і часта толькі замінілі гаспадыні ў хаце, таму прасцей было адправіць іх у школу. Дзяўчаты ж і зімой выконвалі важную работу: падмяталі хату, мылі посуд, даглядалі малых. Таму адпраўка іх у школу была стратай істотнай дапамогі для гаспадыні. Мінскі губернатар князь М. М. Трубяцкой у справаздачы за 1897 г. прызнаваў, што «крестьяне еще очень мало сознают пользу обучения грамоте своих дочерей» [347, арк. 26 адв.]. На той час у Мінскай губерні ў народных вучылішчах дзяўчынкі складалі толькі 10,7 % ад агульнай колькасці вучняў. Трубяцкой слушна звярнуў увагу на сур'ёзныя наступствы такога стаўлення сялян да адукацыі дзяўчынак: «<…> в крестьянском быту воспитательное влияние на подрастающее поколение почти всецело имеет женщина – мать семьи, и можно смело сказать, что грамотная

мать не допустит, чтобы ее дети стали безграмотными» [347, арк. 26 адв.]. На пачатку XX ст. член магілёўскага камітэта па праблемах сельскай гаспадаркі Н. А. Лютц так выказаўся па гэтым пытанні: «На женское крестьянское образование у нас почти вовсе не обращено никакого внимания: женских крестьянских школ у нас почти нет. Если встречается иногда в школе 2, 3–5 девочек – это редкость» [775, с. 24].

Пра абыякавасць сялян Мазырскага павета Мінскай губерні да навучання сваіх дзяцей пісаў Мітрафан Доўнар-Запольскі, паводле якога вясковыя школы з вялікай цяжкасцю паспявалі набіраць да снежня дзясяткі два вучняў. Прычым валасныя ўлады і вясковыя старасты ледзь не сілай прымушалі бацькоў адпраўляць дзяцей у школу: «Год-другой мальчик походит в школу, но уже в 9–10 лет он становится настолько полезным работником в семье, что родители забирают его из школы» [170, с. 147]. Але даследчык прызнаваў, што такое стаўленне сялян да школы мела рацыянальныя падставы: «А что в действительности дает наша школа? Из десяти окончивших найдется через два–пять лет по окончании один-два грамотных <…> а остальные, проучившись 2–3 года, уходят ни с чем <...> Все, что остается в памяти у некоторой части учеников, – это знание молитв, если настоятель со своей стороны усердно прилагает труд» [170, с. 148]. Дырэктар Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў пісаў у 1893 г.: «Неаккуратность учеников в посещении училищ и бывает причиной того, что они оказываются в состоянии справиться с курсом их в течение 4,5 и даже 6 лет и в результате должны оставить училища не окончив курса их» [427, арк. 195 адв.–196]. Паводле назіранняў школьных інспектараў, толькі каля 20 % вучняў больш-менш нармальна праходзілі поўны курс школьнай навукі народнага вучылішча [427, арк. 205]. Члены Чэрыкаўскага павятовага камітэта аб патрэбах сельскагаспадарчай прамысловасці прыйшлі да падобнай высновы: «Большинство лиц, прошедших чрез школу, получивших свидетельства об окончании курса, в течение первых же лет утрачивают и ту начальную грамоту, которую приобрели в этих школах <…> Из числа окончивших народную школу является весьма незначительный процент личностей, не утративших полученныя в школе знания, и еще меньший процент, которыя увеличили эти знания путем обучения в школе высшаго разряда или путем самообразования». Усе такія асобы імкнуліся знайсці сабе занятак па-за сельскай гаспадаркай: «<…> идут в писаря, прикащики, на государственную службу, всюду, где, по их мнению, прибыльнее и доходнее живется, уходя от земли, работу с которой, при нынешнем положении земледелия, признают

менее выгодной и более трудной, чем какая либо другая профессия» [775, с. 151].

Важнай асаблівасцю складу вучняў пачатковых дзяржаўных школ у мясцовасцях са змешаным у канфесійных адносінах насельніцтвам была вялізная перавага праваслаўных над каталікамі. Напрыклад, у 1895 г. сярод праваслаўнага вясковага насельніцтва Гродзенскай губерні вучні ўрадавых школ складалі 2,25 % ад агульнай колькасці жыхароў, сярод каталіцкага – 0,47 % [657, с. 49]. Гэтая дыспрапорцыя тлумачылася адмоўным стаўленнем каталіцкага сялянскага насельніцтва да «обрусительной» працы ў школах, якая, апроч таго, мела яшчэ і выразны антыкаталіцкі характар, асабліва ў царкоўна-прыходскіх школах. Акрамя таго дзеці сялян-каталікоў амаль не мелі шанцаў пасля заканчэння народнага вучылішча паступіць вучыцца ў настаўніцкую семінарыю, патрапіць на службу ў дзяржаўную ўстанову. Школа не давала ім магчымасцей для сацыяльнага поспеху. У 1885 г. міравы пасярэднік з Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні пісаў у дырэкцыю народных вучылішчаў, што сяляне-каталікі Баярскай воласці заявілі яму на сходзе, прысвечаным праблеме адкрыцця народнага вучылішча: «<…> няма сэнсу вучыць сваіх дзяцей грамаце, паколькі каталікоў не прымаюць ні ў настаўніцкую семінарыю, ні на службу ў паліцэйскія ўраднікі і жандары, калі ж урад жадае мець пісьменных салдат, то няхай сам іх і вучыць, а для гаспадара-хлебароба грамата не патрэбная» [503, арк. 3].

Таму каталіцкае вясковае насельніцтва аддавала перавагу нелегальным тайным школкам, дзе іх дзеці маглі навучыцца чытаць каталіцкі малітоўнік на польскай мове, што для большасці сялян лічылася дастатковай навукай. Напрыклад, толькі ў адным Гродзенскім павеце за 1884 г. паліцыя выкрыла 27 тайных вясковых школ [505]. Намаганні ўрада змагацца паліцэйскімі метадамі з нелегальнай адукацыяй у каталіцкай вёсцы не маглі прынесці поспеху, паколькі гэтыя школкі былі цесна звязаныя з касцёлам і рэлігійным жыццём вяскоўцаў. Сапраўдным каталіком, паводле пашыраных сярод сялян уяўленняў, мог стаць толькі той, хто навучыўся самастойна чытаць малітоўнік.

У красавіку 1892 г. урадам былі выдадзеныя спецыяльныя правілы, якія прадугледжвалі за арганізацыю тайных школак высокія грашовыя штрафы і турэмнае зняволенне да трох месяцаў [890, s. 244]. Але гэтыя забароны і пакаранні не былі эфектыўнымі. Пра ўласны вопыт настаўніцтва ў нелегальнай школе распавядаў у сваіх успамінах дзеяч беларускага нацыянальнага руху Вінцэнт Гадлеўскі: «Калі прыйшла зіма, я сабраў нешта з 20 дзяцей і пачаў іх вучыць (меў 3 класа гімназіі ў Варшаве). Плацілі па рублю з дзіцяці. На дру-

гую зіму зноў сабраў дзяцей, але браў ужо даражэй і сабраў трохі грошай, каб паехаць і здаць экзамены з 4 класаў» [193, с. 121]. Паводле вынікаў перапісу 1897 г., многія сяляне-каталікі адзначалі ўменне чытаць і пісаць па-польску. Прычым у перапісных лістах некаторыя шчыра пазначалі, што навучыліся польскай грамаце ў касцёле.

Перапіс насельніцтва 1897 г. засведчыў таксама, што беларускамоўнае насельніцтва пяці беларускіх губерняў (Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай), якое было ў абсалютнай большасці сялянскім, значна саступала іншым этнічным супольнасцям края па паказчыку пісьменнасці. Сярод беларусаў пісьменных налічвалася 794 341 асоба ці 14,7 % ад іх агульнай колькасці. Працэнт пісьменных сярод усяго насельніцтва названых губерняў складаў 23. Сярод сялян пяці беларускіх губерняў, паводле даных перапісу 1897 г., пісьменныя складалі 16,8 %. Самым высокім гэты паказчык быў сярод сялян Віленскай і Гродзенскай губерняў – каля 23 %, а самы нізкі назіраўся сярод сялян Магілёўскай губерні – 11 % (табліца 5.3).

Табліца 5.3 – **Абсалютныя і адносныя (у дужках, %) паказчыкі пісьменнасці сялянскага насельніцтва пяці беларускіх губерняў у 1897 г.** [684–692]

| Губерня | Мужчыны | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|
| | Непісьменныя | Пісьменныя | Непісьменныя | Пісьменныя |
| Віленская | 424 704 (70,7) | 175 881 (29,3) | 492 282 (82,4) | 105 196 (17,6) |
| Віцебская | 440 131 (75,8) | 140 438 (24,2) | 498 595 (85,4) | 85 311 (14,6) |
| Гродзенская | 404 704 (67,5) | 194 444 (32,5) | 489 833 (87,7) | 68 457 (12,3) |
| Магілёўская | 533 890 (80,1) | 132 494 (19,9) | 668 416 (97,6) | 16 742 (2,4) |
| Мінская | 641 986 (83,1) | 130 312 (16,9) | 743 942 (96,8) | 24 881 (3,2) |
| Разам | 2 445 415 (76,0) | 773 569 (24,0) | 2 893 068 (90,6) | 300 587 (9,4) |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Працэнтны паказчык пісьменных сялян значна перавышаў колькасць тых, хто наведваў афіцыйныя школы. Істотным фактарам тут выступала нелегальная школа і хатняе навучанне, якое асабліва было пашыранае сярод сялян каталіцкага веравызнання. Напрыклад, паводле даных перапісу сярод праваслаўных беларускамоўных жыхароў Гродзенскай губерні, працэнт пісьменных складаў 17,3 ад агульнай лічбы насельніцтва, а сярод каталікоў – 35,4. Сярод беларускамоўных жанчын праваслаўнага веравызнання азначаны паказчык дасягаў усяго 5,4 %, а сярод каталічак – 31,2 %. Пры гэтым

сярод навучэнцаў народных і царкоўна-прыходскіх вучылішчаў назіралася выразная перавага праваслаўных над каталікамі. З гэтага вынікае, што больш высокі паказчык пісьменных асоб сярод беларускамоўных каталікоў Гродзенскай губерні забяспечвала якраз нелегальнае школьніцтва. У 1900 г. у гэтай губерні толькі 18,2 % дзяцей школьнага ўзросту наведвала вучылішчы Міністэрства народнай асветы [236, с. 78].

Гэтая канфесійная спецыфіка пацвярджаецца данымі праведзенага аўтарам мікрагістарычнага даследавання ўзроўню адукаванасці сялян пяці вёсак паўночнай часткі Гродзенскага павета, адносна якіх захаваліся запоўненыя фармуляры перапісных лістоў 1897 г. [509–513]. Адносна мужчынскага насельніцтва паказчык пісьменнасці сярод каталікоў і праваслаўных быў блізкім: у праваслаўных вёсках вагаўся ад 46 да 67 % пісьменных сярод дарослых мужчын (пасля 18 год), у каталіцкіх – ад 60 да 71 %. Сярод дарослых жанчын у праваслаўных вёсках пісьменных налічвалася каля 2 %, а ў каталіцкіх азначаны паказчык набліжаўся да 40 %. Большасць пісьменных асоб навучыліся грамаце хатнім спосабам, а каталікі часта прызнаваліся, што навучыліся «польскай грамаце» ў касцёле. Выявілася таксама тэндэнцыя, што сярод праваслаўных больш высокі працэнт пісьменных назіраўся ў маленькіх вёсках, якія ў гэтым мікрарэгіёне з’яўляліся больш заможнымі. Менавіта там налічвалася найбольш асоб, скончыўшых народныя вучылішчы. У заможнай вёсцы Баброўня, якая складалася ў 1897 г. з 10 хат да Першай сусветнай вайны сямёра хлопцаў сталі настаўнікамі, а адзін скончыў ваенна-медыцынскую акадэмію ў Пецярбурзе [211, с. 136]. З гэтай вёскі паходзілі беларускія пісьменнікі Макар Краўцоў і Міхась Васілёк.

З часам стаўленне сялян да навучання сваіх дзяцей паступова змянялася ў лепшы бок. І. Д. Гарбачэўскі пісаў у даследаванні Лепельскага павета: «В настоящее время трудно найти деревушку, в которой бы не было хотя одного грамотея <…> 25 лет тому назад бабы плакали, отдавая детей в училища. В настоящее же время они плачут, когда их детям отказывают в поступлении в школу за переполненностью» [247, с. 20]. Аднак і гэты аўтар прызнаваў, што «в женском образовании кр-не не видят практической пользы» [247, с. 21].

На пачатку XX ст. захавала сваю вастрыню праблема недахопу падрыхтаваных настаўнікаў для вясковых вучылішчаў. Так, 9 красавіка 1901 г. дырэктар народных вучылішчаў Гродзенскай губерні пісаў губернатару М. П. Урусаву, што «незначительное содержание, получаемое учителями народных училищ, весьма часто побуждает последних переходить на службу в другие ведомства и

оставлять занятия в училищах даже в средине учебного года» [492, арк. 43]. Таму на настаўніцкую працу ахвотна бралі больш-менш адукаваных людзей без усякай педагагічнай адукацыі. Дырэктар вучылішчаў нават прасіў начальніка Гродзенскай губерні выдаткаваць грошы на летнія падрыхтоўчыя курсы для такіх асоб пры Свіслацкай настаўніцкай семінарыі. У 1902 г. было выдадзена «Палажэнне аб царкоўных школах», згодна з якім засноўваліся другакласныя і вучыцельскія царкоўна-прыходскія школы [115, с. 14]. На гэтыя ўстановы ўскладвалася задача падрыхтоўкі настаўнікаў для аднакласных царкоўна-прыходскіх школ і школ граматы. Сярод іх выпускнікоў 90 % складалі сяляне. У Бельскім павеце Гродзенскай губерні праваслаўны святар Ф. Сасноўскі, які ахвяраваў на такую школу ўвесь свой прыватны набытак, стварыў пры школе сельскагаспадарчы курс [115, с. 15–16]. Паводле падлікаў А. Р. Гулюка, царкоўна-вучыцельскія школы ў 1907 г. скончылі 450 чалавек, ці ў чатыры разы болей, чым настаўніцкія семінарыі [75, с. 71]. Найбольшае пашырэнне такія школы атрымалі ў Гродзенскай і Магілёўскай губернях.

Сярод мясцовага дзяржаўнага чыноўніцтва нярэдка сустракалася скептычнае стаўленне да адукацыі сялян. Адзін з міравых пасярэднікаў Слонімскага павета сцвярджаў, што «деревенские грамотеи в большинстве случаев причастны к так называемой подпольной адвокатуре, получающей все большее развитие в сельском быту» [492, арк. 248]. Паводле яго ацэнак, колькасць пісьменных сялян у гэтым рэгіёне не перавышала 10 %. Такая ацэнка нават выклікала абурэнне гродзенскага губернатара М. П. Урусава. Апошні прыводзіў аргумент, што з навабранцаў Гродзенскай губерні 80 % аказаліся пісьменнымі, «тогда как новобранцы из других губерний дали значительно низший % грамотных» [492, арк. 459 об.]. Сярод усіх навабранцаў Віцебскай губерні ў 1907 г. пісьменных было 2978 (49,2 % ад агульнай колькасці), а 644 умелі толькі чытаць (10,7 %) [589, ведомость 16]. У Мінскай губерні напярэдадні Першай сусветнай вайны паказчык пісьменных навабранцаў быў трохі вышэйшым за 60 % [606–607].

У сакавіку 1906 г. земскі начальнік 2-га ўчастка Гродзенскага павета Вальдэмар Вайчынскі выклаў губернатару У. К. Кістэру такія свае думкі адносна адукацыі сялян: «<...> народное образование поставлено у нас так плохо, что оно идет в разрез благонравию и действует атрофирующим образом на природныя качества населения <…> не надо такого образования, которое способно поколебать природныя качества крестьянина [495, арк. 122]. У красавіку 1906 г. губернатар У. К. Кістэр прасіў генерал-губернатара прызначыць на

месца Вайчынскага іншага чыноўніка, «отзывчиваго к делу народного образования», а апошняга ён прапаноўваў перавесці на ўчастак, дзе былі толькі праваслаўныя сяляне, што «будет более уместным, чем нынешнее пребывание его во 2-м уч. Гродненского уезда со смешанным населением с небольшим преобладанием православных, при том в известной части их бывших униатов» [495, арк. 138 адв.]. Гэты факт паказвае, што мясцовая вышэйшая адміністрацыя надавала школам вялікае палітычнае значэнне, і асабліва ў тых мясцовасцях, дзе пражывала змешанае ў канфесійных адносінах насельніцтва.

Пад уплывам рэвалюцыйных падзей 1905–1907 гг. царскі ўрад пайшоў на саступкі нацыянальным меншасцям імперыі ў справе арганізацыі школьніцтва на іх роднай мове. Гэта абвастрыла праблему выкарыстання польскай мовы ў народных вучылішчах на беларускіх землях, дзе быў высокі працэнт каталіцкага насельніцтва. 22 красавіка 1906 г. імператар Мікалай II дазволіў выкладаць польскую мову ў той частцы Гродзенскай губерні, якая межавала з Польскім Каралеўствам, і дзе пражывала этнічна-польскае насельніцтва [400, арк. 1 адв.]. На нарадзе вышэйшых чыноў мясцовай дзяржаўнай адміністрацыі пад старшынствам генерал-губернатара К. Ф. Кршывіцкага, якая праходзіла ў Вільні 5 мая 1906 г., гродзенскі губернатар У. К. Кістэр заявіў, што ўлады павінны прытрымлівацца жорсткай лініі ў гэтым пытанні: «Скорее можно примириться с возникновением школ тайных, чем поощрительными мерами содействовать национализации школы и умалению русского дела в Северо-Западном крае» [400, арк. 6]. Але прадстаўнікі Віленскай навучальнай акругі займалі больш мяккую і кампрамісную пазіцыю. Паводле сцверджання чыноўніка гэтай установы В. А. Флярова, многія ўрадавыя школы з прычыны недапушчэння польскай мовы апусцелі, а «наряду с этим распространяется масса школ тайных, где уже нет русского языка, и где полонизация происходит во всю мочь и ширь, без всякого стеснения» [400, арк. 200]. На той час губернскія ўлады ў Вільні, Гродне і Мінску былі літаральна засыпаныя хадайніцтвамі ад сялян-каталікоў з просьбай увядзення ў школу польскай мовы. На гэтыя заявы ўлады заўсёды адказвалі адмовамі, якія абгрунтоўваліся тым, што сяляне размаўляюць на беларускай мове, і таму з’яўляюцца беларусамі. Але выключна рэдка чыноўнікамі гаварылася пра магчымасць выкладання менавіта на беларускай мове. У снежні 1907 г. кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі на хадайніцтва жыхароў мястэчка Ружаны Слонімскага павета аб дазволе выкладаць Закон Божы для дзяцей-каталікоў на польскай мове адпісала: «<…> преподавание

закона Божия инославных христианских исповеданий для учащихся сего исповедания должно вестись на родном языке учащихся. В Рожанском же училище <…> родной язык всех учащихся белорусский. Поэтому преподавание закона Божия для учащихся римско-католического исповедания в названном училище должно вестись на языке белорусском» [400, арк. 194].

Большасць каталіцкага духавенства таксама адмоўна ставілася да магчымасці выкладання закона Божага на роднай мове сялян. Ксёндз-адміністратар Віленскай дыяцэзіі Казімір Міхалькевіч пісаў у 1912 г. у Дэпартамент духоўных спраў: «Пра беларускую мову, па маім меркаванні, і гаворкі быць не можа, бо мова гэтая не ўведзена ні ў школах, ні ў мясцовых адміністрацыйных і судовых установах, ні ў праваслаўнай царкве, да якой, як вядома, належыць большасць беларусаў <...> Дзеля таго, каб беларуская мова ў будучым магла ўжывацца ў каталіцкіх касцёлах, неабходна перш за ўсё ўвесці яе хаця б у пачатковую школу» [727, с. 201]. Часам каталіцкія ксяндзы нават заклікалі сваіх прыхаджан-сялян пераходзіць на польскую мову ў штодзённым жыцці, каб пазбавіць расійскія ўлады аргументаў супраць выкладання яе ў школе. Участковы школьны інспектар Беластоцкага павета Гродзенскай губерні паведамляў у 1908 г., што сяляне-каталікі з 1905 г. імкнуцца размаўляць паміж сабой на «ламанай» польскай мове [400, арк. 206].

Нелегальнае школьніцтва атрымала шырокае развіццё ў Віленскай і Гродзенскай губернях, а таксама на захадзе Віцебскай і Мінскай, нягледзячы на забароны ўлад і пакаранні [152; 155; 168; 362; 363; 401]. У 1905–1906 гг. дзяржаўныя ўлады выкрылі толькі ў Гродзенскай губерні 33 тайныя школкі. Захаваліся біяграфічныя звесткі пра 18 настаўнікаў, 13 з якіх паводле саслоўнага паходжання былі сялянамі. Чыноўнік канцылярыі гродзенскага губернатара Д. В. Рамейкаў пісаў у лістападзе 1905 г., што беларускамоўныя сяляне-каталікі жадаюць вучыць польскую мову, каб «понимать богослужение и <…> удостоится таинств причастия». Свой рапарт ён падсумаваў высновай: «<…> до той поры, пока дополнительное богослужение в костелах белорусского края будет вестись на польском языке, тайные польские школы будут существовать <…> и способствовать полонизации края» [399, арк. 15–15 адв.]. Гродзенскі губернатар В. М. Барзенка адзначаў у 1909 г., што «устройство тайных школ обставлено большой конспиративностью, и часто полиции довольно затруднительно обнаружить их существование» [402, арк. 100 адв.]. Як вынікае з мемуараў сучаснікаў, паліцыя звычайна падкуплялася і не прадпрымала сур’ёзных крокаў у барацьбе з нелегальнай школай [886, s. 19].

Змест і характар навучання ў тайнай школе падрабязна апісаў у сваіх мемуарах беларускі дзеяч Баляслаў Грабінскі, які паходзіў з Сакольскага павета Гродзенскай губерні. Яго дзед арганізаваў у сваёй хаце школу і знайшоў для яе настаўніка з чатырохкласнай адукацыяй, «які мог падрыхтаваць вучняў да так званага аптэкарскага экзамена». Прычым ён вучыў адразу рускай, польскай і лацінскай мовам [105, с. 183]. Галоўным недахопам такіх школ з непрафесійнымі (у большасці выпадкаў) настаўнікамі з'яўляўся іх выключна практычны характар. Але, як вынікае з успамінаў Грабінскага, «тайныя» школкі на пачатку XX ст. ужо давалі сваім вучням магчымасць сацыяльнага поспеху ў будучым. Абсалютна прагматычна разам з польскай сялянскія дзеці-каталікі часта вучылі і расійскую мову, каб мець потым магчымасць паступіць у гімназію ці рэальнае вучылішча. Сам Баляслаў Грабінскі пасля такой школкі спачатку скончыў дзяржаўнае народнае вучылішча, а пасля паступіў у Гродзенскую гімназію. Падобныя хатнія школкі, паводле ўспамінаў Грабінскага, існавалі ў кожнай каталіцкай вёсцы: «Дарэктар не абавязкава мусіў быць адукаваным, часта гэта быў пастух, які летам пасвіў каровы або авечкі ў вёсцы, а зімою ня меў нічога да работы, гадзіўся вучыць дзяцей». Бацькі лічылі сваім маральным абавязкам навучыць як сыноў, дак дачок, чытаць малітоўнік у касцёле. "Дарэктар" мусіў ведаць лацінку і вучыў дзяцей чытаць "на ксёнжках да набажэнства"» [105, с. 194]. Польскую мову, на якой адбывалася навучанне, большасць такіх хатніх настаўнікаў ведала дрэнна. Грабінскі ўспамінаў, што школа пераносілася кожны тыдзень з адной хаты ў другую, гаспадары забяспечвалі «дарэктара» харчаваннем і начлегам, а калі з'яўлялася паліцыя, дзеці выбягалі на двор і пачыналі гульню [105, с. 194]. Яшчэ адзін дзеяч беларускага руху з гэтага рэгіёна Станіслаў Грынкевіч таксама ўспамінаў, што кожная вёска мела свайго «дырэктара», які, звычайна, летам выконваў функцыі пастушка. Галоўнай мэтай навучання, паводле Грынкевіча, з'яўлялася патрэба умець маліцца з кніжкі па-польску, прычым «найчасцей вучань умеў чытаць выключна на сваёй кніжцы да набажэнства» [109, с. 16–17]. Карэспандэнт газеты «Наша Ніва» з вёскі Бутрыманцы Віленскай губерні пісаў пра механізмы пашырэння пісьменнасці ў яго ваколіцы: «Чытаць умеюць ня толькі мужчыны, але і ўсе блізка кабеты; кабеты ж і вучаць чытаць дзяцей, сабраўшы па якіх 2-3, больш ня можна бо пацягнуць... Глаўная мэта гэтай навукі чытаньне на малітвенніку. На малітвенніку дзеці і чытаць вучацца, ён і астаецца у іх на заўсёды едзінай літэратурай, якую чытае тутэйшы грамацей» [3, с. 4]. Польскі сацыёлаг Рышард Радзік адзначае, што зварот беларускамоўных сялян-каталікоў да польскай мовы не быў выкліканы пачуццём на-

цыянальнага патрыятызму ў сённяшнім разуменні гэтага тэрміна, але вынікаў з моцнай прывязанасці селяніна да сваёй рэлігіі і касцёла [870, s. 152]. Большасць вучняў тайных школак не авалодвала літаратурнай польскай мовай нават у дастатковай для нармальнай камунікацыі ступені. Толькі ў нямногіх такіх школах, добра фінансаваных памешчыкамі, выкладаліся гісторыя і геаграфія Польшчы [402, арк. 3].

Праблемы сялянскай адукацыі шмат абмяркоўваліся на нарадах камітэтаў па патрэбах сельскай прамысловасці на пачатку XX ст. Іх удзельнікі ў абсалютнай большасці падзялялі тую думку, што вельмі важна наблізіць вясковую школу да патрэбаў жыцця вёскі і сямейнай гаспадаркі, а таму як мага актыўней развіваць кампанент сельскагаспадарчай адукацыі. Напрыклад, члены Дзісненскай павятовай камісіі прыйшлі да высновы, што «нужно и необходимо открыть в уезде сельскохозяйственную и ремесленную школу, чтобы дать возможность крестьянам изыскивать средства к жизни не одним только хлебопашеством, но и посредством ремесленного труда» [771, с. 98]. У беларускай вёсцы выявілася адна з галоўных дылемаў у развіцці вясковага школьніцтва ў перыяд мадэрнізацыйнага пераходу, якую даследчыкі праблемы таксама часта называюць гіпотэзай падвойнай адаптацыі [823, с. 446]. Гэтая дылема палягае на тым, ці школа павінна адукоўваць сялянскіх дзяцей найперш на патрэбы вёскі і сельскай гаспадаркі, ці, у адпаведнасці з дэмакратычнымі ліберальнымі ідэаламі, даваць ім агульную адукацыю. Даследчык польскай вёскі Юзаф Халасінскі адзначаў, што школа заўсёды была інстытутам выхавання вёскі з пункту гледжання царквы, дзяржавы і нацыі з абсалютным ігнараваннем выхавання і адукацыі сялянскай моладзі з увагі на самую вёску і яе патрэбы [827, с. 3]. У выніку падвойная сацыяльна-культурная роля вясковай школы зводзілася да ўзбраення сялянскай моладзі пэўным мінімумам ведаў (найперш наборам ідэалагічных штампаў) і адначасова селекцыі сярод іх кандыдатаў на «паноў». Лепшыя вучні атрымлівалі магчымасць прадоўжыць адукацыю ў горадзе, але ў вёску ўжо звычайна не вярталіся, а часам нават парывалі з ёю ўсе сувязі. Пра гэта гаварылася на старонках газеты «Наша Ніва» ў 1912 г.: «Калі хлопец скончыў народнае вучылішча, то вярнуўшыся дахаты, ён астаецца такім самым памочнікам бацькі на дзедоўскай зямлі, а скончыўшы гарадзкое вучылішча, ён адрэзаецца як скіба ад мужыцкага жыцця, ад работы адвык, чатыры гады вучыўся усяго, апрыч патрэбнага для гаспадаркі» [6, с. 2]. Гэта прыводзіла да фарміравання, як выказаўся аўтар «Нашай Нівы» Аляксандр Уласаў «піджачнай цывілізацыі», ці групы своеасаблівай паўінтэлігенцыі, прасякнутай пыхай і пачуццём вышэйшасці адносна вясковага ася-

роддзя, з якога самі гэтыя людзі і выйшлі. Мікалай Улашчык так апісваў азначаны феномен: «Некаторыя «вучоныя» ўспрымалі сваю «вучонасць» гэтак сур'ёзна, што, прыязджаючы ў родную вёску, увесь час маўчалі, бо не знаходзілі сабе годных суразмоўнікаў» [6, с. 36]. Адзін з аўтараў «Нашай Нівы» пісаў у 1912 г., што «між нашымі беларусамі цвёрда йшчэ дзержыцца думка, бытцым-то для чэлавека, каторы працуе на раллі, навука зусім не патрэбна», а калі сяляне і пасылаюць дзяцей, дык з надзеяй, што «сын "выйдзеў людзі", зробіцца "чэлавекам", значыцца будзе не такім як яго сермяжныя браты, а зробіцца "панам"». Пры гэтым аўтар адзначаў, што жыццё дробнага чыноўніка, тэлеграфіста ці паштафіка часта не менш цяжкае і беднае, чым жыццё земляроба, і «калі-б ён не ўцекаў у горад на лёгкі заработак, а ўсё сваё знаньне, сваю граматнасць, выкарыставаў-бы дзеля развіцьця своей гаспадаркі, дык бадай-што яму на зямлі лепш жылося-бы, як у чынах у горадзі»[2]. Выхад з сітуацыі рэдактар «Нашай Нівы» Аляксандр Уласаў бачыў у беларусізацыі вясковай школы: «Школа павінна быць блізкая да жыцьця, родная, у роднай беларускай мове, і выробляць з хлапцоў не панічоў, каторые сваіх родных бацькоў «хамамі» і «мужыкамі» прозываюць, а практычных і карысных свайму краю грамадзян і праўдзівых «людзей», не адрезаючы іх ад роднай хаты і народу» [6, с. 3].

Трэба адзначыць, што дзяржаўныя ўлады прыкладалі даволі значныя намаганні ў развіцці практычнага кірунку школьнай адукацыі. Напрыклад, у Магілёўскай губерні ў 1913 г. налічваліся тры рамесных вучылішчы, пры двух вышэйшых і трох ніжэйшых вучылішчах існавалі рамесныя аддзяленні, у 43 вучылішчах вучні займаліся садаводствам і агародніцтвам, у 70 вучылішчах дзяўчынкі навучаліся рукадзельніцтву [192, с. 30]. Сярод народных настаўнікаў было шмат таленавітых аграномаў, садаводаў, пчаляроў і г. д., якія станавіліся прыкладам для мясцовага сялянскага насельніцтва [748, с. 103–108].

Вельмі цікавыя даныя адносна ўзроўню адукацыі сялянства ўтрымлівае пагаспадарчае даследаванне Віцебскай губерні за 1907 г. Паводле яго даных, у гэтай губерні налічвалася 80 314 сялянскіх сямей, у якіх былі пісьменныя асобы (47 %), апроч таго налічвалася яшчэ 18 884 сям'і (11 %), дзе былі толькі вучні [790, с. 4]. Пісьменных мужчын было 116 035 (20,5 %), а жанчын – 19 880 (3,6 %). Школьных вучняў мужчынскага полу налічвалася 18 884 (3,35 % ад мужчынскага насельніцтва), а жаночага полу – усяго 0,07 %. У 1907/1908 навучальным годзе ў Віцебскай губерні ўжо 49,6 % дзяцей ва ўзросце 8–13 гадоў вучылася ў школах, а ў «правильно организованных школах» – 39,3 % [235, с. 9]. Па-ранейшаму востра стаяла праблема

з кваліфікаванымі настаўніцкімі кадрамі. Напрыклад, выпускнікі настаўніцкіх семінарый складалі толькі 43,8 % сярод настаўнікаў міністэрскіх школ, 20,0 % сярод настаўнікаў народных школ і 2,2 % – царкоўна-прыходскіх школ [192, с. 10]. Бібліятэкі меліся ў 61,3 % школ, газеты і часопісы выпісваліся ў 28 %. Сярэдняя колькасць кніг у сельскай школе складала лічбу 264 [235, с. 39].

У цэлым на пачатку XX ст. справа распаўсюджання адукацыі сярод сялянскага насельніцтва Беларусі зрабіла значны крок наперад. У студзені 1911 г. быў праведзены аднадзённы перапіс пачатковых школ па ўсёй Расійскай імперыі, матэрыялы якога даюць уяўленне пра ступень развіцця пачатковай адукацыі сярод сялянскага насельніцтва на беларускіх землях [618]. На тэрыторыі Віленскай навучальнай акругі налічвалася 10 287 школ (сярод іх 3758 народных 1-класных вучылішчаў і 2323 1-класных царкоўна-прыходскіх школ) і 544,7 тыс. вучняў. У параўнанні з 1856 г. колькасць школ павялічылася ў дванаццаць разоў, а колькасць вучняў – у дваццаць чатыры разы. Прычым, як заўважыў А. Г. Каханоўскі, асабліва дынамічна расла колькасць пачатковых школ у 1907–1910 гг. [216, с. 77]. На адну пачатковую школу ў сярэднім прыходзілася 1416 жыхароў: у Віленскай губерні – 1757, Віцебскай – 1214, Гродзенскай – 1254, Магілёўскай – 1085, Мінскай – 1375 (гэта без уліку тайных нелегальных школ, асабліва распаўсюджаных у Віленскай і Гродзенскай губернях) [618, с. 6–7]. Такім чынам, найбольшая шчыльнасць афіцыйных пачатковых навучальных устаноў у гэты час назіралася на ўсходзе Беларусі. Дадзены факт можна патлумачыць негатыўным стаўленнем да дзяржаўнай школы значнай часткі сялянскага каталіцкага насельніцтва, сканцэнтраванага ў Віленскай і Гродзенскай губернях. Але тут, на паўночным захадзе Беларусі, меншая колькасць дзяржаўных школ кампенсавалася ў нейкай ступені актыўнасцю нелегальнай тайнай школы.

Вясковых школ у Віленскай навучальнай акрузе налічвалася 8314. Сярод вясковых дзяцей ва ўзросце ад 7 да 14 год наведвалі школу 25,9 % хлопчыкаў і 9,7 % дзяўчынак. Сяляне складалі 81,7 % вучняў у школах Міністэрства народнай асветы і 90,5 % вучняў школ, якія падпарадкоўваліся Ведамству праваслаўнага вызнання. Сярод вучняў вясковых школ пераважалі, паводле веравызнання, праваслаўныя – 72,3 %, каталікоў было 16,6 %, іўдзеяў – 7 %. Цікава, што 52 % хлопчыкаў і 30 % дзяўчынак у гэтых школах прызналі ў часе перапісу (а хутчэй за ўсё за іх вырашылі настаўнікі) роднай мовай беларускую. Перавага хлопчыкаў тлумачыцца, на нашу думку, тым фактам, што працэнт дзяўчынак быў большы ў пачатковых вучылішчах, размешчаных у гарадах, дзе хутчэй адбываліся працэсы

моўнай асіміляцыі беларускага насельніцтва, у тым ліку і дзяцей [618, с. 20, 22]. Таксама працэнт дзяцей, якія прызналі роднай мовай беларускую, быў вышэйшым у заходніх губернях – Віленскай і Гродзенскай. Напрыклад, у школах Міністэрства народнай асветы ў Гродзенскай губерні беларуская мова названа роднай мовай 75 % хлопчыкаў і 65,5 % дзяўчынак, у той час як у Магілёўскай губерні, дзе, паводле перапісу 1897 г., налічваўся самы высокі працэнт беларускамоўнага насельніцтва, адпаведныя паказчыкі складалі 44 і 42,6 % (гл. дадатак 3). У вясковых школах Ведамства праваслаўнага веравызнання Гродзенскай губерні беларуская мова пазначана роднай мовай 67,5 % хлопчыкаў і 64,3 % дзяўчынак, а ў Магілёўскай губерні – 44 % хлопчыкаў і 42,5 % дзяўчынак (гл. дадатак 4). Няма сумнення, што і ў Гродзенскай, і ў Магілёўскай губернях, абсалютная большасць дзяцей у вясковых школах размаўляла на беларускай мове. Але вышэйпрыведзеныя лічбы адлюстроўваюць этнанацыянальную самаідэнтыфікацыю настаўніцтва, і ў Гродзенскай губерні беларуская самаідэнтыфікацыя была на той час больш выразна сфарміраванай сярод вясковых настаўнікаў як у народных вучылішчах, так і ў царкоўна-прыходскіх школах. Працэсы пашырэння расійскай мовы сярод сялянскага насельніцтва больш дынамічна развіваліся ў мястэчках. І. Д. Гарбачэўскі пісаў, што «в местечках все стараются говорить по русски, но в глухих деревнях разговаривают на чистейшем белорусском наречии» [247, с. 23].

Настаўнікі пачатковых школ у большасці былі вельмі маладымі людзьмі. Так, сярод мужчын настаўнікі ва ўзросце да 25 год складалі 60,7 %, а сярод жанчын – 73,6 %. У той жа час толькі 7,7 % настаўнікаў і 3,6 % настаўніц мелі ўзрост старэйшы за 40 год (табліца 5.4). Сярод настаўнікаў паводле грамадзянскага стану было 70,3 % нежанатых сярод мужчын і 85,8 % незамужніх сярод жанчын.

Табліца 5.4 **– Узроставы склад настаўнікаў пачатковых школ Віленскай навучальнай акругі за 1911 г., %** [618 с. 13]

| Палавыя групы | Да 20 год | 20–25 год | 26–30 год | 31–40 год | 41 і болей год | Узрост невядомы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Мужчыны | 19,7 | 41,0 | 19,3 | 11,4 | 7,7 | 0,9 |
| Жанчыны | 35,9 | 37,7 | 11,2 | 7,8 | 6,7 | 0,7 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Паводле ўзроўню адукацыі сярод настаўнікаў-мужчын 30,9 % мелі сярэднюю педагагічную адукацыю, у той час як пачатковую і хатнюю – 66,7 %. Сярод жанчын пераважалі асобы з духоўнай аду-

кацыяй – 33,3 %, з пачатковай і хатняй адукацыяй было 37,9 %. Такім чынам, настаўнікаў з педагагічнай адуацыяй па-ранейшаму востра не хапала. У асаблівай ступені гэта датычыла царкоўна-прыходскіх школ і школ граматы (табліца 5.5).

Табліца 5.5 **– Паказчыкі адукацыі настаўнікаў вясковых пачатковых школ Віленскай навучальнай акругі ў 1911 г., %** [618, с. 13]

| Тып навучальнай установы | Сярэдняя | | Сярэдняя духоўная | | Сярэдняя педагагічная | | Пачатковая і хатняя | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | М | Ж | М | Ж | М | Ж | М | Ж | М | Ж |
| Усе пачатковыя школы | 0,6 | 27,6 | 1,8 | 33,3 | 30,9 | 1,2 | 66,7 | 37,9 | 100,0 | 100,0 |
| 1-класныя народныя вучылішчы | 0,7 | 29,6 | 1,9 | 36,0 | 39,2 | 0,8 | 58,2 | 33,6 | 100,0 | 100,0 |
| 1-класныя царк.-прых. школы | 0,1 | 5,1 | 2,2 | 41,3 | 2,7 | 2,1 | 95,0 | 51,5 | 100,0 | 100,0 |
| Школы граматы | – | 1,2 | – | 3,6 | 0,4 | – | 99,6 | 95,2 | 100,0 | 100,0 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Паводле саслоўнай прыналежнасці сярод настаўнікаў-мужчын у 1911 г. выразна пераважалі сяляне – 61 %. Прычым сярод мужчын яны складалі ўжо 81,6 %, а сярод жанчын – 23,7 %. Сярод настаўніц большасць па-ранейшаму належала да прадстаўніц духоўнага саслоўя – 31,5 %, але і настаўніцы сялянскага паходжання складалі ўжо 23,7 % (табліца 5.6). Адносная вага жанчын сярод вясковага настаўніцтва дасягнула ў 1911 г. амаль 35 % (у 1880 г. – каля 21 %). Цікава, што адносная вага прадстаўнікоў гарадскіх станаў сярод настаўнікаў-мужчын з 1880 г. амаль не змянілася, а сярод настаўніц вырасла болей чым у чатыры разы.

Рост колькасці пачатковых школ і вучняў працягваўся да Першай сусветнай вайны. Напрыклад, у 1914 г. у Гродзенскай губерні ў навучальных установах рознага тыпу налічвалася 104 940 сялян, што складала 81,65 % ад агульнай колькасці вучняў [466, арк. 44–47]. На пачатку ХХ ст. колькасць навучэнцаў у вясковых школах гэтай губерні вырасла прыкладна на палову. У 1914 г. 1 навучэнец прыходзіўся на 15 жыхароў губерні. Але многія праблемы заставаліся нявырашанымі. Адзін з карэспандэнтаў «Нашай Нівы» пісаў у 1912 г.

Табліца 5.6 – **Настаўнікі сельскіх школ Віленскай навучальнай акругі паводле саслоўнага паходжання ў 1911 г.** [618, с. 15]

| Саслоўная прыналежнасць | Настаўнікі | | Настаўніцы | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Агульная лічба | % | Агульная лічба | % | Агульная лічба | % |
| Дваране | 153 | 2,0 | 492 | 15,2 | 645 | 7,0 |
| Духавенства | 204 | 3,4 | 1019 | 31,5 | 1223 | 13,2 |
| Сяляне | 4900 | 81,6 | 765 | 23,7 | 5665 | 61,0 |
| Гарадскія станы | 578 | 9,6 | 531 | 16,4 | 1109 | 12,0 |
| Іншыя | 210 | 3,4 | 426 | 13,2 | 636 | 6,8 |
| Разам | 6045 | 100,0 | 3233 | 100,0 | 9278 | 100,0 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

пра цяжкасці, якія трэба пераадолець сялянам, каб адкрыць школу ў сваёй вёсцы: «Перш наперш трэба напісаць грамадскі прыгавор, каб у ём было напісана, што мужыкі даюць для школы дзесяціну зямлі, стоража, апал, асвятленне, будуць папраўляць школьны будынак, і каб той прыгавор пасведчыў земскі начальнік і заверыў, што мужыкі не маюць заробкаў, малазямельныя, тагды вучэбнае начальства пасля вялікай валакіты і перапіскі, і калі грамадой сасчасціцца вывезці з лесу дрэва, аткрывае школу, а тымчасам грамада на свае грошы наймае хату» [120, с. 4]. І гаворка ў дадзеным выпадку вялася пра так званую дачасную школу, у якой звычайна набіралася 50–60 дзяцей, якія, як адзначыў карэспандэнт «Наша Нівы», «не вучацца, а мучацца, хвараюць ад недастачы воздуха, хварэюць на вочы, а вучыцелі ў пяцьшэсць лет дастаюць сухоты» [120, с. 4]. Іншы аўтар «Нашай Нівы» пісаў у 1911 г. пісаў пра цеснату, недахоп паветра і бруд у вясковых школах: «<…> праз сьцены і с-пад падлогі сьвішчэ вецер» [1, с. 437].

Сялянскія дзеці, якія заканчвалі першы клас двухкласнага народнага вучылішча, а гэта значыць, правучыліся ў сярэднім тры-чатыры гады, «умелі чытаць простыя тэксты, хаця некаторыя і не надта ўпэўнена, умелі пісаць (перапісаць з кнігі ці пад дыктоўку), ведалі чатыры дзеянні арыфметыкі, у самых кароткіх рысах ведалі гісторыю і геаграфію Расіі, троха разбіраліся па карце» [777, с. 310]. У тых, хто заканчваў другі клас (пяць-шэсць гадоў навучання), веды былі ўжо куды больш грунтоўныя. Яны рашалі матэматычныя задачы з дробамі і працэнтамі, вывучалі геаметрыю, планіметрыю, стэрэаметрыю, кароткі курс гісторыі і геаграфіі Расіі, пісалі дыктанты на царкоўнаславянскай мове, добра ведалі катэхізіс. Пасля двухкласнага народнага вучылішча можна было паспрабаваць паступіць адразу ў чацвёрты клас гімназіі. Але для гэтага трэба было самастойна ці з рэ-

петытарам падвучыць замежныя мовы і лаціну, якія не выкладаліся ў вясковых школах. У другі клас народнага вучылішча пераважна ішлі дзеці заможных сялян і так званай валасной знаці [767, с. 109].

Узровень пісьменнасці таксама быў вышэйшым сярод заможнай часткі вясковых жыхароў: «Калі багаты селянін меў магчымасць наняць на зіму (і не на адну зіму) сваім дзецям настаўніка, то ў беднага такой магчымасці не было» [777, с. 311]. Паводле вынікаў пагаспадарчага даследавання Віцебскай губерні за 1907 г., відавочнай з'яўляецца карэляцыя паміж велічынёй пасяўной плошчы ў сялянскай гаспадарцы і ўзроўнем адукаванасці яе членаў (табліца 5.7).

Табліца 5.7 – **Узровень адукаванасці сялян Віцебскай губерні ў 1907 г. у залежнасці ад велічыні пасеву ў гаспадарцы** [790, с. 42]

| Велічыня пасеву ў гаспадарцы, дзес. | % сямей з пісьменнымі асобамі і вучнямі | % пісьменных асоб | % вучняў адносна усіх асоб, старэйшых за 8 год | Сярэдняя велічыня сям'і, чал. |
|---|---|---|---|---|
| Без пасеву | 35,6 | 29,8 | 6,3 | 4,5 |
| Да 1 | 35,5 | 26,3 | 8,9 | 5,0 |
| 1–2 | 36,7 | 25,5 | 4,5 | 5,8 |
| 3–4 | 44,7 | 27,5 | 4,6 | 6,4 |
| 5–6 | 52,1 | 30,6 | 4,9 | 7,1 |
| 7–8 | 60,0 | 34,9 | 6,5 | 7,7 |
| 9–10 | 67,1 | 38,6 | 8,3 | 8,2 |
| 11–14 | 72,7 | 43,5 | 9,0 | 8,6 |
| 15–19 | 80,7 | 46,5 | 13,8 | 9,7 |
| 20 і болей | 87,2 | 55,7 | 19,0 | 10,1 |

Такая ж карэляцыя назіраецца і адносна паказчыка наведвальнасці школы сялянскімі дзецьмі. Адносна самых вялікіх гаспадарак ён быў удвая вышэйшы, чым адносна малапасяўных. Прычым паказчык гэты, асабліва датычна дзяўчынак, быў вышэйшым і ў беспасяўных гаспадарках, чым у малапасяўных (табліца 5.8). Апошні факт можна патлумачыць тым, што для дзяцей беззямельных сялян адукацыя была шанцам вырвацца з беднасці і змяніць свой жыццёвы лёс. Аўтары даследавання Віцебскай губерні таксама прыйшлі да высновы, што адыходніцкія промыслы не садзейнічалі развіццю пісьменнасці, паколькі ў тых паветах, дзе найбольш сялян займалася знешнімі заробкамі, паказчык пісьменнасці быў ніжэйшым [790, с. 42].

З пашырэннем пісьменнасці ўсё больш распаўсюджваліся ў беларускай вёсцы кнігі і практыкі чытання. Традыцыйна пераважала

Табліца 5.8 – **Наведвальнасць школ дзецьмі Віцебскай губерні ў 1907 г. у залежнасці ад велічыні бацькоўскай гаспадаркі, % ад агульнай колькасці дзяцей школьнага ўзросту** [790, с. 46]

| Велічыня пасеву ў гаспадарцы, дзес. | Хлопчыкі | Дзяўчынкі |
|---|---|---|
| Без пасеву | 21,7 | 9,1 |
| Да 1 | 17,7 | 5,9 |
| 1–2 | 19,7 | 4,0 |
| 3–4 | 21,9 | 4,6 |
| 5–6 | 23,9 | 4,9 |
| 7–8 | 26,3 | 6,6 |
| 9–10 | 29,0 | 9,2 |
| 11–14 | 32,6 | 7,4 |
| 15–19 | 39,5 | 13,1 |
| 20 і болей | 42,4 | 20,8 |

рэлігійная літаратура. Праваслаўны святар Аляксей Ваўкавыцкі з Бельскага павета адзначаў вялікую павагу да кнігі сярод сваіх прыхаджан: «Молитвослов можно найти в каждом доме, нередкость встретить и часослов, псалтирь и Библию. Польские молитвенники тоже в большом употреблении по домам прихожан. Нам встречалось встретить Библию на польском языке» [880, s. 76]. Але пашыраліся і свецкія кнігі самага рознага жанру. Мікалай Улашчык пісаў, што па яго вёсцы Віцкаўшчына хадзіла кніга «Соннік», якая вандравала з хаты ў хату, а «адзін селянін меў кнігу «Таямніца чорнай магіі» [777, с. 110]. Сярод вяскоўцаў станавілася папулярным калектыўнае чытанне. Асабліва сялянам падабаліся вершы на беларускай мове, у якіх высмейваліся багацеі і гарадское жыццё. Такія вершы многія запаміналі на памяць на ўсё жыццё [777, с. 112].

Кнігі на беларускай мове, прызначаныя для сялян, траплялі ў вёску рэдка з прычыны іх малалікасці і палітыкі расійскіх улад, якія бачылі ў іх пагрозу для сваёй нацыянальнай палітыкі. Зборнік Францішка Багушэвіча «Dudka Biełaruskaja Macieja Buraczka» [830] быў выдадзены ў 1891 г. у замежным Кракаве. Выдавецкая суполка «Круг беларускі, або Гурток беларускае народнае прасветы» выдала ў 1903 г. у Пецярбургу зборнік вершаў Янкі Лучыны «Вязынка» і ў 1904 г. – зборнік «Казкі». Абедзве кнігі былі надрукаваныя кірыліцай са згоды цэнзуры накладам у 5000 экзэмпляраў [877, s. 36]. Суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца», заснаваная ў Санкт-Пецярбургу ў ліпені 1906 г., у тым жа годзе выдала буквар «Biełaruski lementar abo

pierszaja nawuka czytania» лацінскім і кірылічным шрыфтом. Пазней быў выдадзены дапаможнік Алаізы Пашкевіч «Pierszaje czytannie dla dzietak biełarusau» лацінкай і кірыліцай, а трэці падручнік «Гутаркі аб небе і зямлі» аўтарства Казіміра Кастравіцкага і Станіслава Шаўлоўскага выйшаў на пачатку 1907 г. кірыліцай. У тым жа годзе пачалося выданне серыі «Беларускія песняры», якую склалі кнігі Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Адама Міцкевіча. Усяго выйшла сем тамоў накладам па 4300 экзэмпляраў, друкаваных лацініцай [8, с. 133]. Паводле падлікаў С. Х. Александровіча, у 1901–1917 гг. было выдадзена 245 кніг на беларускай мове, з іх 158 кірыліцай і 87 лацінкай [8, с. 163]. Аднак большасць сялян, асабліва на ўсходзе Беларусі, не сутыкалася з кнігай на беларускай мове і нават не ведала пра яе існаванне.

З лістапада 1906 г. пачала выходзіць штотыднёвая газета «Наша Ніва», якая друкавалася кірыліцай і лацінкай (3 тыс. экзэмпляраў выходзілі кірыліцай і 1,5 тыс. лацінкай, хаця гэтыя прапорцыі, як і наклад, маглі змяняцца). «Наша Ніва» пераважна распаўсюджвалася ў Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях. Кнігі і газеты на беларускай мове не мелі шанцаў афіцыйным шляхам патрапіць у школу, якая па-ранейшаму ігнаравала праблему роднай мовы вучняў і іх этнічнай самабытнасці. Беларускія нацыянальныя дзеячы на старонках «Нашай нівы» і іншых беларускіх выданняў асуджалі характар афіцыйнай адукацыі, якая выхоўвала ў вясковых дзяцей пагарду да ўсяго свайго, мясцовага: «Маленькі хлопчык-беларус вучыцца ў школе. Цэлых пяць альбо шэсць год ходзіць ён у школку. Чы чуе жэ ён свае роднае слова? Не. Ён чуе адну толькі насмешку над сваею моваю <…> Такім спосабам засеваецца ненавісць у душу будучаго інтэлігента-беларуса к роднай мові, звычаю, парадкам» [121]. На думку аднаго з аўтараў «Нашай Нівы», сялянскія дзеці вымушаны «адначасьне навучыцца разумець і гаварыць парасейску», што значна ўскладняе працэс навучання [233, с. 4]. Аўтар Л. Гмырак сцвярджаў, што «ўся пачатковая навука павінна вясьціся толькі па нашаму» [103]. І гэта была прынцыповая пазіцыя дзеячаў беларускага нацыянальнага руху.

Спецыфіка гістарычнага мінулага «Северо-Западного края» ў вясковых школах разглядалася ў рэчышчы «западно-русского» дыскурсу. Напрыклад, у 1912 г. у пачатковыя школы Беларусі паступілі «Краткая отечественная история» і «Краткая география» аўтарства С. Манаховіча, былога настаўніка царкоўна-прыходскага вучылішча. Абодва гэтыя падручнікі даволі шмат увагі надавалі гісторыі і геаграфіі «паўночна-заходніх» губерняў, трактуючы іх як неадрыўную частку Русі-Расіі [861, s. 56].

Шматлікія крыніцы пераканаўча сведчаць, што беларускія сяляне як праваслаўнага вызнання, так і каталікі, не мелі сфарміраванай нацыянальнай свядомасці ў сучасным разуменні гэтага паняцця. Адзін з карэспандэнтаў этнографа Паўла Шэйна з Віцебскай губерні так пісаў пра саматоеснасць тамтэйшых сялянаў: «Зовут себя белорусы наськими, тутейшами, русскими же или белорусами – никогда. Раскольников зовут москалями, панов и мелкую шляхту – поляками, на вопрос же «Какой он веры?» – отвечают: руськой, а католики – панской веры» [276, с. 21]. Іван Карскі практычна тое ж самае пісаў пра сялян Гродзеншчыны: «Крестьяне нашей губернии не называют себя ни русскими, ни белорусами <...> Вообще о себе и о своей стране они выражаются так: мы тутейшые, наша страна ни руска, ни польска, але забраны край!» [276, с. 97–98]. Падобныя рысы самасвядомасці беларускага вяскоўца падмеціў і Адам Багдановіч: «Но даже и теперь есть немало белоруссов, которые под словом «русские» разумеют староверов, издавна живущих в Западном крае. А если вы к таким белорусам обратитесь с вопросом – кто они такие в смысле национальности, то очень многие вам только и могут сказать, что они «тутэйшие», т. е. здешние, или что они мужики, словно бы это их национальное отличие или словно бы только одним белорусам и свойственно быть мужиками» [55, с. 5]. Феномен тутэйшасці, альбо свядомае ўхіленне сялян ад выразнай дэкларацыі сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, быў народжаны імкненнем вяскоўцаў пазбегнуць патэнцыйных канфліктаў на рэлігійнай і этнічнай глебе, а таму найбольш выразна выявіўся на абшарах канфесійнага праваслаўна-каталіцкага сумежжа на паўночным захадзе Белаусі. У той жа час на ўсходзе Беларусі выпадкаў тутэйшай самаідэнтыфікацыі даследчыкамі не было зафіксавана [870, s. 173].

Адсутнасць выразнай нацыянальнай самасвядомасці тлумачыцца спецыфікай самой структуры самаідэнтыфікацыі селяніна ў традыцыйным аграрным грамадстве. Гэтая структура звычайна мае тры складовыя элементы: сацыяльны, канфесійны, тэрытарыяльны. Напрыклад, адносна беларускага сялянскага грамадства самаідэнтыфікацыю селяніна можна ўявіць з дапамогай наступнай мадэлі: «Я тутэйшы, я селянін-земляроб, я праваслаўны (рускі) ці каталік (паляк)» [874, s. 63]. На пытанні «чужога чалавека» сяляне звычайна адказвалі так: «Хто ты?» — «Гаспадар», «Як гаворыш?» — «Па-просту», «Як молішся?» — «Па-руску» («па-польску»)» [870, s. 181]. Характэрная для сялян у традыцыйным аграрным грамадстве форма ідэнтыфікацыі з асяроддзем грунтавалася на асабістых узаемадачыненнях аднавяскоўцаў і моцнай эмацыянальнай прывязанасці. Яна звычайна датычыла геаграфічна невялікай тэрыторыі і такса-

ма параўнаўча невялікай групы людзей. Гэты маленькі абшар, населены добра знаёмымі з маленства людзьмі, кожны куток якога адлюстроўваўся ў памяці чалавека, можна акрэсліць як «асабістую айчыну» селяніна [866, s. 203]. Вобраз такой асабістай айчыны рэканструяваў у паэтычнай форме Францішак Багушэвіч словамі свайго героя Мацея, які так адказвае на пытанне казака:

«Тутэйшы, — кажу я, свой чалавек:
сын бацькі свайго, а бацька дзяцей,
Тут і радзіўся, тут жыву век;
Юркам зваць бацьку, я дык Мацей.
Вун гдзе і хата, і выган, і сад;
Там жнець мая жонка, а тут гарэць брат!..» [18, с. 37]

Каб мець нацыянальную свядомасць у сучасным разуменні гэтага паняцця селянін павінен быў засвоіць паняцце «ідэалагічнай айчыны», апісаць якую ўжо можна толькі пры дапамозе абстрактных катэгорый і сімвалаў, не характэрных для традыцыйнай сялянскай свядомасці і мовы, у якой дамінуюць канкрэтныя паняцці і вобразы [866, s. 203]. Селянін павінен быў засвоіць веды пра геаграфічны абшар, які ўяўляецца «нашай» тэрыторыяй (тэрыторыяй маёй нацыі), пра колькасць і характэрныя рысы суайчыннікаў («нашых»), пра асноўныя «знакавыя» падзеі з гісторыі свайго народа і пантэон нацыянальных герояў. Навучанне ў вясковых вучылішчах і было на гэта скіраванае, але і спосаб мыслення, і мова жыхароў тагачаснай беларускай вёскі не былі яшчэ прыстасаваныя да ўспрыяцця такіх ідэалагічных катэгорый. Напрыклад, калі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч пераклаў на беларускую мову «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча, дык тлумачыў патэнцыйным чытачам сэнс слова Атчызна: «Зямля, на каторай мы радзілісь, каторую ўпраўляем сваёй працай, на каторай пахароненыя косьці бацькоў, дзядоў дый праатцоў нашых, паветрыя, каторым мы атдыхаем, то завецца атчызна» [222, с. 141]. Гэтае тлумачэнне было адаптавана аўтарам для сялянскага светаўспрымання, паколькі словам бацькаўшчына сяляне называлі надзел зямлі, які перадаваўся ў спадчыну ад бацькі.

Вясковыя жыхары ў абсалютнай большасці не ўяўлялі сабе ні абшару распаўсюджання іх мовы, ні хоць бы прыблізнай колькасці прадстаўнікоў сваёй этнічнай супольнасці. Эма Яленская напісала ў сваім этнаграфічным нарысе пра той цікавы факт, што сяляне лічылі ўвесь свет падобным да свайго краю: «У іх перакананні селянін-мужык ва ўсім свеце да іх падобны, гаворыць па-беларуску, папросту і вызнае такую самую праваслаўную веру» [870, s. 183]. Гэтая ж аўтарка адзначала: «Камунікацыя паміж вёскамі вельмі слабая.

Яўрэі ўвесь час рухаюцца, але сярод сялян трапляюцца людзі, якія на працягу дзесяцігоддзяў не адважыліся на вандроўку, даўжэйшую за пару міляў» [870, s. 184].

Можна сцвярджаць, што менавіта лакальная ідэнтыфікацыя з асабістай айчынай з'яўлялася асновай самаідэнтыфікацыі беларускага селяніна. Яна была цесна звязаная з сацыяльнай ідэнтыфікацыяй. Селянін называў сябе мужыком-хлебаробам і ўсведамляў той факт, што знаходзіцца на самай нізкай ступені сацыяльнай лесвіцы тагачаснага грамадства. Толькі рост сацыяльнай мабільнасці, павелічэнне колькасці кантактаў вясковых жыхароў з гарадскім светам, далучэнне іх да надлакальных сацыяльных структур і інфармацыйных плыняў маглі кардынальна змяніць гэтую традыцыйную структуру самаідэнтыфікацыі вяскоўцаў. І змены ў гэтым кірунку ў паслярэформеннай вёсцы несумненна адбываліся. Але ўсё ж дынаміка іх не была дастаткова моцнай, каб у разглядаемым перыядзе сітуацыя змянілася карэнным чынам. І ў гэтым заключалася прычына таго, што афіцыйная дзяржаўная школа не змагла дасягнуць сваёй мэты і зрабіць селяніна-беларуса такім жа рускім, якімі былі жыхары цэнтральнай Расіі.

Гэтыя ж перашкоды стаялі і на шляху беларускай нацыяльнай агітацыі. Акрамя таго, прыхільнасць да беларускай нацыянальнай ідэі і папулярызацыя беларускамоўнай літаратуры маглі каштаваць вясковаму настаўніку пасады. Тым не менш, такія настаўнікі былі і спрабавалі праводзіць беларускую нацыянальную агітацыю сярод вучняў і іх бацькоў. Баляслаў Грабінскі пісаў у сваіх успамінах пра такога настаўніка па прозвішчы Краўцэвіч: «Гэта быў першы раз, калі я пачуў назоў беларусы. Быў я тады ў веку 9 гадоў і з кніжак ведаў пра Расію і пра Польшчу, але ніколі не чуў пра Беларусь» [105, с. 195]. Пра сваё настаўніцтва ў перадваенныя гады на Сакольшчыне распавядаў і невядомы аўтар (напэўна, гэта быў паэт Макар Краўцоў) на старонках газеты «Беларускі звон» у 1921 г. Паводле слоў аўтара, калі ў 1912 г. ён першы раз прыйшоў у клас, то дзеці адразу запыталіся: «Ці вы, паночку, рускі ці паляк?». Малады настаўнік адказаў на гэта, што ён беларус, чым выклікаў здзіўленне дзяцей, а потым пачаў чытаць на ўроках газету «Наша Ніва»: «<…> дзеці былі незвычайна здзіўленыя тым, што і «простаю» (як яны разумелі) моваю друкуюцца газэты. Аб «Нашай Ніве» ад дзяцей даведаліся бацькі й былі й такія з іх, што на яе падпісаліся, просячы, каб я выпісаў ім «нашу простую газэту, але лепей каб друкованую польскімі літарамі» [255].

Але большасць народных настаўнікаў мелі заходнерускую самасвядомасць, прывітую ў семінарыях, і былі абыякавыя да беларускай нацыянальнай ідэі. Беларускі нацыянальны дзеяч і навуковец

Язэп Лёсік пісаў, што ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі ў навучэнцаў выхоўвалі пагарду да беларускай мовы, а калі ён, стаўшы настаўнікам, захапіўся беларускай ідэяй і літаратурай на беларускай мове, дык сутыкнуўся з абыякавасцю сваіх калегаў-настаўнікаў: «У 1908 г. я дастаў ад выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» вершы Янкі Купалы і нашыя казкі. Тагды я меў вялікую радасьць чытаць гэтыя кніжкі і радзіў сваім сябрам-вучыцелям чытаць іх, але дарэмна. Яны з пагардай адварачваліся ад роднага слова» [248, с. 43].

Новай з'явай у паслярэформеннай беларускай вёсцы становяцца бібліятэкі. Найчасцей яны ствараліся пры школах. Паводле даных аднадзённага перапісу пачатковых школ 1911 г., у сельскіх вучылішчах Віленскай навучальнай акругі налічвалася 1369 народных бібліятэк [618, с. 132]. Але стаўленне сялян да школьных бібліятэк было неаднaзначным. Напрыклад, у студзені 1906 г. луненскі валасны сход у Гродзенскім павеце адмовіўся выдаткоўваць сродкі на ўтрыманне бібліятэк пры двух мясцовых народных вучылішчах, паколькі, як запісалі на сходзе сяляне: «<...> от пользования детьми книгами библиотек мы не видим существенного результата» [496, арк. 143]. Мясцовы інспектар народных вучылішчаў сцвярджаў, што гэта не адпавядае рэальнасці, і прыводзіў лічбы, паводле якіх на працягу двух гадоў кнігі браліся чытачамі больш за 1500 разоў: «Чтение книг из названных библиотек во всяком случае может содействовать распространению среди этого населения здравых понятий и полезных сведений и служить противовесом чтению книжек и газетных статей крайних направлений» [496, арк. 143 об.]. Цікава, што аднachасова з адмовай ад падтрымкі бібліятэк сяляне таксама прызналі «военную гимнастику в народных школах <…> совершенно ненужною, потому что дети наши и без гимнастики развиваются физически в достаточной степени» [496, арк. 143 об.].

Праўрадавыя газеты і часопісы выпісвалі валасныя праўленні, але там іх мала хто чытаў, па меншай меры, такіх узгадак знайсці не ўдалося. Бібліятэкі часам стваралі прыходскія святары. Мікалай Улашчык успамінае, што самым адукаваным чалавекам у вёсцы Віцкаўцы лічыўся поп, які меў бібліятэку, «але ніхто не мог прыгадаць, каб бацюшка раіў каму-небудзь гэтыя кнігі пачытаць, ці пераказваў іхні змест» [777, с. 110]. У некаторых мясцовасцях бібліятэкі ствараліся самімі сялянамі з уласнай ініцыятывы [861].

Якасць кніжных фондаў школьных бібліятэк часта была нізкай. На нарадзе інспектараў народных вучылішчаў Магілёўскай губерні ў канцы 1913 г. гаварылася, што «запас книг в ученических библиотеках так мал, што дети, обучающиеся в школах <…> имеют весьма слабую возможность пользоваться училищными книгами для даль-

нейшего умственного развития», а настаўнікі не маюць магчымасці «пополнять запас своих профессиональных знаний», і пазбаўлены кніг «полезных для общаго умственного их развития» [192, с. 39]. На той час у гэтай губерні налічвалася 1282 пачатковых вучылішчаў і 1685 настаўнікаў. Сярод апошніх спецыяльную педагагічную адукацыю мелі 413 (24,2 %) мужчын і 297 (17,4 %) жанчын, а сярэднюю і пачатковую агульную адукацыю – 424 (24,8 %) мужчыны і 551 (32,3 %) жанчына. Такім чынам, каля 80 % настаўнікаў не мела спецыяльнай прафесійнай адукацыі. У Магілёўскай губерні на той час штогод адкрывалася прыкладна 130 новых школ, а дзве настаўніцкія семінарыі – Рагачоўская мужчынская і Аршанская жаночая, рыхтавалі 40–50 выпускнікоў у год [192, с. 31]. Прычым навучальны год у вясковых школах па-ранейшаму пачынаўся звычайна ў другой палове верасня, ці часам нават на пачатку кастрычніка, а летнія канікулы – з 1 мая [192, с. 4].

Такім чынам, на працягу другой паловы XIX ст. і на пачатку XX ст. пісьменнасць і кніжная культура ўсё больш дынамічна пашыраліся сярод беларускага сялянства. Аднак веданне граматы для большасці сялян не мела ніякага практычнага ўжытку, апрача чытання малітоўніка. Але з часам кнігі, газеты, лістоўкі пачыналі адыгрываць усё больш важную ролю ў працэсе пранікнення на вёску новых ідэй і інфармацыі ўвогуле. Адукаваныя асобы («грамацеі», «кніжнікі») часта выконвалі функцыю транслятараў новых поглядаў і густаў у сялянскае асяроддзе, станавіліся ідэйнымі лідарамі лакальных вясковых супольнасцей. Друкаванае слова на беларускай мове становіцца важным чыннікам у развіцці беларускага нацыянальнага руху. Напрыклад, беларускі дзеяч Вінцэнт Гадлеўскі ўзгадваў пра свайго бацьку: «Калі паўстаў беларускі рух, мой бацька прыльнуў да яго шчыраю душою і стараўся пашыраць. Бывала стане ў Поразаве перад касцёлам з «Беларусам» у руках і чытае, а каля яго цэлае грамада людзей. Слухаюць, дзівяцца з «простай» газеты, а бацька выказвае патрэбу беларускага друку» [193, с. 130]. Сяляне ўсё часцей пачалі выкарыстоўваць веданне граматы ў палітычных мэтах і нават для арганізацыі беспарадкаў [316].

Дзяржаўныя ўлады так і не здолелі дасягнуць да Першай сусветнай вайны стопрацэнтнага ахопу сялянскіх дзяцей афіцыйнай школай. Як сведчаць даныя адносна прызыўнікоў, сярод маладых хлопцаў працэнт пісьменных на той час складаў ад 60 да 80 %, а сярод дзяўчат азначаны паказчык быў непараўнальна меншым. Для ўрада галоўнай мэтай пачатковай адукацыі з’яўлялася ідэалагічнае выхаванне вясковых дзяцей на лаяльных падданых імперыі. Як засведчылі падзеі рэвалюцыі, гэтая мэта так і не была дасягнута.

## 5.2. Рэлігійны фактар у сацыяльна-культурным развіцці вёскі

У часе пераходу ад традыцыйнага да індустрыяльнага тыпу грамадства звычайна назіралася пашырэнне працэсу секулярызацыі і зніжэнне ўзроўню рэлігійнасці сярод шырокіх мас насельніцтва. У беларускай вёсцы сітуацыя яшчэ ўскладнялася наслаеннем розных сістэм вераванняў. У этнаграфічных матэрыялах і мемуарах сучаснікаў вельмі часта сустракаюцца сцверджанні, што тут даволі трывала захоўваліся шматлікія паганскія традыцыі і рытуалы, якія цесна перапляліся з хрысціянскімі традыцыямі. Ужо ў першай палове XIX ст. некаторыя аўтары адзначалі, што беларускія сяляне слаба разбіраюцца ў пытаннях рэлігійнай дагматыкі і добрасумленна выконваюць як паганскія, так і хрысціянскія абрады і рытуалы, часта спалучаючы адны з другімі [870, s. 182]. Вядомы літаратар Уладзіслаў Сыракомля пісаў, што веданне сялянамі Міншчыны, як каталікамі, так і праваслаўнымі, сваёй веры «абмяжоўваецца толькі тым, што яны ўмеюць памаліцца» [745, с. 290].

Даследчык Гродзенскай губерні Павел Бабpоўскі лічыў прысутнасць шматлікіх паганскіх элементаў адной з галоўных асаблівасцяў беларускай народнай культуры і пісаў пра беларускіх сялян: «Неосновательное и безрассудное верование в некоторые естественные приключения, как в нечто необыкновенное, предубеждения, вера в колдовство и чародейство, образуют для них религию, свою мораль, загадку и разгадку обыденной жизни, книгу судеб» [47, с. 821]. Менавіта захаванне архаічных паганскіх вераванняў Бабpоўскі лічыў той галоўнай асаблівасцю, якая адрознівае сялян-беларусаў, незалежна ад іх рэлігійнай прыналежнасці да праваслаўя ці каталіцтва, ад іншых этнічных супольнасцей [52, с. 16]. Этнограф Адам Кіркор таксама сцвярджаў, што Беларусь у большай за іншыя славянскія землі ступені захавала міфы і абрады з эпохі паганства [190, с. 251]. Праз дзясяткі гадоў пазней падобныя меркаванні выказваў польскі этнограф і даследчык беларускай народнай культуры Міхал Федароўскі: «<…> бадай што на ўсім абшары сённяшняй славяншчыны не можна было б знайсці падобны закутак, дзе б народ яшчэ пры сваіх міфалагічных паняццях, жыва афарбаваных архаізмам першабытных часоў, падлягаў з такой скрупулёзнасцю, як дагэтуль Беларусы свайму непісанаму, аднак складзенаму з тысяч формулаў кодэксу звычаяў» [832, s. VIII]. У падобных сцверджаннях магла прысутнічаць пэўная доля перабольшвання, рамантызацыя традыцыйнай вясковай культуры, своеасаблівая міфалагізацыя аб’екту назірання з боку даследчыкаў. Але несумненным з’яўляецца

той факт, што ў сілу збегу цэлага шэрагу гістарычных абставін прысутнасць элементаў старажытных дахрысціянскіх вераванняў і рытуалаў у беларускай народнай культуры сапраўды выяўлялася вельмі яскрава і насычана.

Тут трэба падкрэсліць, што падобныя рысы з'яўляюцца характэрнымі для рэлігійнасці кожнай традыцыйнай сялянскай супольнасці. У такіх супольнасцях рэлігійнасць мае найперш грамадскае, сацыяльнае вымярэнне – з'яўляецца спачатку фактам калектыўнага жыцця грамады, а толькі потым ужо індывідуальнага жыцця асобы. Для сялян, напрыклад, характэрнымі былі супольныя малітвы, як у царкве, так і ў сям'і, і менавіта такія малітвы лічыліся сапраўднымі. Вяскоўцы надавалі вельмі вялікую вагу рэлігійнай абраднасці і рытуалам, але мала задумваліся пра рэлігійныя дагматы. Мала хто ў вёсцы вымяраў свае паводзіны ў адпаведнасці з хрысціянскімі запаветамі. Маральнае самаўдасканаленне асобы не бачылася важнай мэтай рэлігійных практык. Сялянская рэлігійнасць мела выразны магічна-анімістычны характар. Вяскоўцы верылі ў агульнае ажыўленне прыроды, у свет духаў, якіх падзялялі на добрых і злых (з апошнімі, напрыклад, можна было кантактаваць пры дапамозе чорнай магіі) [823, s. 510]. Праявы ж рэлігійнага містыцызму былі сярод сялян з'явай выключна рэдкай.

Дзяржаўныя і царкоўныя ўлады на працягу стагоддзяў асабліва не ўмешваліся ў духоўнае жыццё беларускай вёскі, не імкнуліся жорсткімі мерамі выкараняць сляды паганства, калі апошнія выразна не супярэчылі хрысціянскім традыцыям. Ад вяскоўцаў патрабавалася ўдзельнічаць у набажэнствах у храме, ведаць асноўныя малітвы і бываць на споведзі. Адам Багдановіч успамінаў пра навучанне дзяцей малітвам: «семья смотрела на эту процедуру, как на благочестивое упражнение, к которому надо привыкать с детства и которое понадобится и для спасения души, и для житейских целей: не умеющих молиться строгий батюшка не допустит к причастию, а что самое главное – не даст «шлюбу», как вырастешь» [54, с. 21]. Можна зрабіць выснову, што менавіта сям'я, а калі гаварыць больш канкрэтна – жанчыны, навучалі малітвам і іншым рэлігійным рытуалам сялянскіх дзяцей. Ва ўспамінах шляхціча Адама Буцькевіча пра сялян Гродзеншчыны гаварылася, што «амаль кожная гаспадыня ўмела на памяць гадзінкі пра непакананае пачацце і каронку», а кожная маці-сялянка вучыла тым малітвам сваіх дзяцей, і ў нядзелю, калі не маглі ісці да касцёла, «уся сям'я з ранку хорам спявала гадзінкі і песні» [864, s. 45].

Беларускае сялянства ў пасляэформенны перыяд у абсалютнай большасці належала да дзвюх канфесій – праваслаўя і каталіцтва.

На жаль, адсутнічаюць дакладныя даныя па канфесійнай структуры сялянскага насельніцтва. У 1897 г. сярод беларускамоўнага насельніцтва пяці губерняў праваслаўныя складалі 81 %, а каталікі – 18 %. Прычым большасць беларускамоўных каталікоў пражывала ў заходніх губернях – Віленскай, Гродзенскай і Мінскай (табліца 5.9).

Табліца 5.9 – **Канфесійная структура беларускамоўнага насельніцтва беларускіх губерняў у 1897 г.** [684 – 692]

| Губерня | Праваслаўныя | Каталікі | Іўдзеі | Лютэране | Стараверы | Інш. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Віленская | 366 310 | 522 076 | 209 | 51 | 1548 | 1709 | 891 903 |
| Віцебская | 685 159 | 82 995 | 85 | 213 | 20 123 | 24 | 788 599 |
| Гродзенская | 490 211 | 213 623 | 398 | 124 | 126 | 563 | 705 045 |
| Магілёўская | 1 359 279 | 27 323 | 216 | 70 | 2878 | 16 | 1 389 782 |
| Мінская | 1 483 258 | 148 193 | 292 | 175 | 820 | 353 | 1 633 091 |
| Разам | 4 384 217 | 994 210 | 1200 | 633 | 25 495 | 2665 | 5 408 420 |

У рэлігійным жыцці праваслаўнай (да 1839 г. пераважна ўніяцкай) і каталіцкай вёскі існавалі пэўныя адрозненні. Яшчэ на пачатку XIX ст. этнограф Зарыян Даленга-Хадакоўскі (сапр. Адам Чарноцкі) заўважыў, што ў «рускіх» (уніяцкіх) прыходах значна больш захавалася старажытных паганскіх абрадаў і ўзораў народнай творчасці, чым у каталіцкіх [829, s. 183]. Сам Даленга-Хадакоўскі тлумачыў азначаны факт большай лагоднасцю і добразычлівасцю «рускіх» святароў да слядоў паганства ў народным жыцці. Пацверджаннем слушнасці такога меркавання можна лічыць і той факт, што многія ўніяцкія, а пазней ужо праваслаўныя святары даволі ахвотна прымалі ўдзел у збіранні фальклору, апісаннях народных звычаяў і традыцый, а сярод каталіцкага духавенства ў XIX ст. цяжка знайсці аматараў гэтай справы. На большы кансерватызм і архаічнасць праваслаўнай сялянскай грамады ў параўнанні з каталіцкай у часы мадэрнізацыйнага пераходу звяртае ўвагу даследчык заходнебеларускай вёскі Уладзімір Паўлючук, які сцвярджаў, што «дахрысціянскія элементы ў праваслаўных супольнасцях захаваліся ў непараўнальна большай ступені, чым у супольнасцях каталіцкіх» [868, s. 48]. У каталіцкай царкве ў рэчышчы развіцця контррэфармацыйных працэсаў ад прыходскіх святароў духоўнае начальства патрабавала рашуча і паслядоўна змагацца з рэшткамі язычніцкіх вераванняў. Гэтаму садзейнічаў і склад вернікаў каталіцкіх прыходоў, сярод якіх адносна высокі працэнт станавілі прадстаўнікі шляхты, у тым ліку і заможныя

землеўладальнікі, якія знаходзіліся пад моцным уплывам рацыянальных ідэй Асветніцтва.

Аднак адрозненні ў канфесійнай прыналежнасці істотна не ўплывалі на ўзаемныя стасункі паміж сялянамі праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў. Пацверджаннем таму з'яўляюцца шматлікія змешаныя шлюбы. Такія шлюбы ў сялянскім асяроддзі сустракаліся непараўнальна часцей, чым шлюбы паміж асобамі сялянскага і шляхецкага стану, нават і аднолькавай веры. Сацыяльны бар'ер у дадзеным аспекце быў мацнейшым за канфесійны. Больш таго, як сцвярджаў Адам Багдановіч, «разноверие в одной семье вело к взаимной веротерпимости, тем более, что все одинаково молились по-польски и одни и те же молитвы читали» [54, с. 40]. Паводле яго ўспамінаў, сяляне аднолькава наведвалі і праваслаўную царкву, і каталіцкі касцёл, і « религиозной розни не чувствовалось, и я в детстве ее не наблюдал» [54, с. 40].

Напрыклад, за 1843–1902 гг. у даследаваным аўтарам Глыбоцкім праваслаўным прыходзе на памежжы Віленскай і Гродзенскай губерняў змешаныя шлюбы паміж праваслаўнымі і каталікамі складалі 7,6 % ад агульнай колькасці (1790). Але палітычныя падзеі накладалі свой адбітак на міжканфесійныя адносіны, што адлюстроўвала і дынаміка змешаных шлюбаў. Так, за 1843–1862 гг. у Глыбоцкім прыходзе было зафіксавана 15,5 % змешаных шлюбаў, за 1863–1882 гг. – 5,7 %, за 1883–1902 гг. – 2,87 %. Падобная дынаміка назіралася і адносна дзяцей, народжаных у змешаных шлюбах і ахрышчаных у Глыбоцкай царкве. Усяго ў гэтым прыходзе за 1843–1902 гг. нованароджаныя ад змешаных шлюбаў складалі 4,85 %. За 1843–1862 гг. яны складалі 8,5 % ад агульнай колькасці, за 1863–1882 гг. – 6,1 %, за 1883–1902 – 2,5 % [765]. Так палітычнае супрацьстаянне эліт накладалася на адносіны паміж простымі сялянамі і ўзмацняла бар'еры, якія абмяжоўвалі магчымасці ўзаемадзеяння паміж людзьмі, што жылі ў прасторы агульнай этнічнай культуры і размаўлялі на адной мове. Гэта ўзмацняла тэндэнцыю да атаясамлення канфесійнай прыналежнасці і нацыянальнасці, калі сялянекаталікі лічылі і называлі сябе палякамі, а праваслаўныя – рускімі, на што звяртаў увагу ўжо ў 1863 г. ананімны аўтар «Разсказов на белорусском наречии»: «Вот тутыцька і вялікая памылка наша і падабенства да цыган, што тыя з нас, каторыя веруць па-каталіцку, завуцца Палякамі. Якія яны Палякі? У іх мова простая, беларуская, звычаі простыя, беларускія; і звычаі, і мова ў мужыкоў католікаў тыя самыя, што і ў мужыкоў праваслаўных, ці рускіх» [706, с. 19].

Вельмі складана даць адказ на пытанне: Ці пачаў зніжацца ўзровень рэлігійнасці сялян у паслярэформенную эпоху? У ме-

муарных і этнаграфічных крыніцах другой паловы XIX – пачатку XX ст. часта сустракаюцца назіранні, якія фіксуюць скептычнае стаўленне беларускіх вяскоўцаў да свайго духавенства, а таксама адзначаецца нізкі ўзровень іх рэлігійнасці. А. Ф. Лісоўскі пісаў пра вясковых жыхароў Віцебскага ўезда, што яны адрозніваюцца крайнім індыферэнтызмам да рэлігіі: «В церковь белорусы ходять только для препровождения времени; крестят детей, венчаются в церкви потому только, что без этого нельзя, но внутренняя духовная сторона религии, кажется их вовсе не занимает <…> о Боге, как о существе милующем и карающем, они не имеют не малейшего понятия. О безсмертности души они выражаются: Ну куды там пойдзиш на той свет? Опухнишь, згниеш у гробу – вот и усё тут!» [276, с. 7, 13]. Дадзены аўтар таксама адзначаў той факт, што сяляне вельмі часта ўспрымаюць хрысціянскіх святых без належнай павагі: «Есть много сказок, в которых святые ходят по земле и занимаются воровством, при чем поп и дзяк непременно им помогают» [276, с. 14].

Канешне, тут трэба ўлічваць і той факт, што назіральнікі, якія часта паходзілі з асяроддзя адукаванай каталіцкай шляхты, мелі ў паслярэформенны час выразна сфарміраванае негатыўнае стаўленне да праваслаўя, што магло ўплываць і на аб’ектыўнасць іх ацэнак рэлігійнасці праваслаўных сялян. Але падобныя назіранні сустракаем, напрыклад, і ў Івана Карскага, карэспандэнта этнографа Паўла Шэйна, які, будучы псаломшчыкам, несумненна, выдатна ведаў узровень рэлігійнасці сваіх прыхаджан і іх стаўленне да рэлігіі: «Нельзя сказать, чтобы наши крестьяне и в настоящее время посещали храм Божий усердно и охотно <…> попадаются и очень усердные к храму Божию крестьяне и крестьянки, но таковых очень мало <…> у крестьян Гродненского, Сокольского, Волковысского и Белостоцкого уездов Гродненской губернии вы ни у одного крестьянина не найдете какой бы то ни было иконки» [276, с. 64]. Паводле І. Карскага, у Лашанскім прыходзе ў Гродзенскім павеце налічвалася каля 5000 сялян, а на святы ў царкву прыходзілі толькі каля 200 чалавек. Падобнага роду назіранні фіксуюць многія прыходскія праваслаўныя святары. Напрыклад, святар Жытлінскай царквы Слонімскага ўезда С. М. Дзем’яновіч пісаў этнографу П. Шэйну ў 1897 г.: «В отношении крестьян к религии замечается апатия. Этот недостаток общий для Слонимского уезда, а также и Пинского. О Боге наши поселяне имеют весьма материальное представление. Он может ходить пешком по дороге» [276, с. 371]. Міхал Федароўскі, які некалькі дзясяткаў гадоў даследаваў жыццё заходнебеларускай вёскі, сцвярджаў, што ўзровень рэлігійнасці беларускага селяніна быў у цэлым ніжэйшы,

чым польскага: «Тутэйшы селянін імя Бога ніколі не вымаўляе з такой пашанай і набожнасцю, як тое, напрыклад, прывык рабіць Мазур. Бог заўсёды выступае ў яго праклёнах як сіла помслівай кары, вымавіць імя Бога ў жартаўлівым аповядзе не лічыцца грахом» [832, s. 250]. Польскі даследчык таксама звярнуў увагу на выразны антрапамарфізм вобраза Бога ў свядомасці беларускіх сялян: «Пан Бог старэнькі, сівенькі і барадаты» [832, s. 9]. На гэты момант звяртала ўвагу і Эма Яленская, якая сцвярджала, што беларускімі сялянамі Бог звычайна ўяўляўся ў постаці старэнькага сівога дзеда [844, z. 3, s. 490]. Тут трэба адзначыць, што антрапамарфізм быў універсальнай з'явай традыцыйнай сялянскай рэлігійнасці. Таксама, як і сацыямарфізм, ці перанос на вобразы бога і святых уяўленняў і сацыяльных роляў з вясковай рэчаіснасці [823, s. 512]. Згодна з такімі ўяўленнямі нябесны «той» свет выглядаў як двор «Пана Бога», у якім асобныя святыя выконвалі функцыі эканомаў, цівуноў і г. д. Класічны твор беларускай літаратуры XIX ст. «Энеіда навыварат» з'яўляецца геніяльным паэтычным увасабленнем тагачасных сялянскіх уяўленняў пра свет багоў.

Міхал Федароўскі і на пачатку XX ст. лічыў, што беларускі вясковец заставаўся яшчэ ў большай ступені язычнікам, чым хрысціянінам: «Селянін верыць у Бога, аднак за крыўды і кепскія ўчынкі ў сто разоў болей баіцца розных чараў і слова, выказанага ў кепскім часе, чым кары нябёсаў. Адным словам Бог яго ёсць богам паганскім і толькі хіба тая розніца, што ў атачэнні святых і анёлаў сам адзін кіруе ў небе, на зямлі і на кожным месцы» [832, s. 251]. Федароўскі прыводзіць і вельмі скептычныя выказванні, якія ён сустракаў сярод сялян Гродзеншчыны, што мелі ўжо выразна атэістычны характар: «Без грошай няма і збавення» [831, s. 173], «Бог пастарэў і трэба даць яму адстаўку» і да т. п. [832, s. 251]. Вось гэтая незадаволенасць боскай уладай уяўляецца ўжо з'явай прынцыпова новай і вынікам перапляцення цэлага шэрагу розных фактараў ва ўмовах павольнага развіцця мадэрнізацыйных працэсаў.

Крыніцы дазваляюць выказаць меркаванне, што такі параметр рэлігійнасці, як наведванне набажэнстваў і выкананне рэлігійных абрадаў у сямейным коле ў беларускай вёсцы (асабліва праваслаўнай) у другой палове XIX – на пачатку XX ст. не меў вельмі высокага ўзроўню і падтрымліўвася пераважна жанчынамі старэйшага ўзросту. Мэмуарыст М. Паўлікоўскі пісаў пра сялян Міншчыны, што малодшае пакаленне захоўвае да праваслаўнага кліру абыякавасць, афарбаваную гумарам: « З часам размовы з палясоўшчыкамі і браканьерамі ўмацавалі ўва мне перакананне, што беларускі селянін вальнадумец, скептык, ба — агностык» [867, s. 194]. Праваслаўны

святар з Кобрынскага павета пісаў у «Литовские епархиальные ведомости»: «Совершать богослужение в совершенно пустой церкви даже в великие праздники нередкость здесь, а полностью видеть прихожан своих в церкви священнику никогда в году не случается» [721, с. 202]. Прычынамі такой адмоўнай з'явы ён лічыў кірмашы, яўрэяў, валаснoе кіраўніцтва і валасныя суды, якія «адбываюцца заўсёды ўначы і заканчваюцца масавай выпіўкай» [721, с. 203].

Аднак пры тым неабходна падкрэсліць, што рэлігійныя інстытуты ў цэлым выконвалі вельмі істотныя функцыі ў працэсах мадэрнізацыі сялянскага грамадства. Асабліва важную ролю адыгрываў інстытут казанняў. У сваіх павучэннях святары імкнуліся прывіваць сялянам новыя маральная каштоўнасці, новае светаўспрыманне, выступалі дарадцамі, што і як рабіць у новых жыццёвых умовах. Але тут неабходна звярнуць увагу на адзін істотны фактар. Царкоўныя прыходы ў паслярэформенны час маглі налічваць да 5 тыс. прыхаджан. А драўляныя пераважна вясковыя цэрквы звычайна маглі змясціць не больш за 200 чалавек. У вялікія святы большасць вернікаў прысутнічала на богаслужэнні, стоячы на царкоўным падворку. Іншымі словамі, гэтая прысутнасць мела выключна сімвалічнае значэнне, паколькі толькі некалькі дзясяткаў асоб маглі проста пачуць святара, не кажучы ўжо аб тым, каб добра зразумець сэнс яго казання. Гэта былі тыя, хто стаяў у першых шэрагах вернікаў – звычайна прадстаўнікі вясковых эліт. Споведзь з увагі на вялізную колькасць прыхаджан таксама набывала пераважна фармальны характар. Таму эфектыўнасць рэлігійнага выхавання сялянскіх масаў з боку прыходскага духавенства ў прынцыпе не магла быць высокай. Сітуацыя пачала істотна зменьвацца разам з пашырэннем масавага школьнага навучання на вёсцы. На занятках Закона Божага святар мог прымусіць дзяцей на памяць вывучыць Катэхізіс і цэлыя фрагменты Бібліі. Па сутнасці, менавіта з гэтага часу і пачалася сапраўдная евангелізацыя шырокіх мас беларускага сялянства.

Несумненна, што на рэлігійнае жыццё беларускай вёскі надзвычай істотны ўплыў аказваў палітычны фактар. І дзяржаўныя ўлады, і апазіцыйныя ім мясцовыя шляхецкія эліты ў значнай ступені разглядалі царкоўныя інстытуты і прыходскае духавенства як найбольш эфектыўны сродак кантролю за сялянскім грамадствам, інструмент ідэалагічнага ўздзеяння на вясковых жыхароў. Гэты фактар ва ўмовах польска-расійскага ідэалагічнага супрацьстаяння на беларускіх землях часта падмяняў сабой ўласна рэлігійны элемент у дзейнасці мясцовага духавенства. Важнейшым палітычным мерапрыемствам расійскай улады ў Заходніх губернях у першай пало-

ве XIX ст. стала далучэнне тутэйшых уніятаў (грэка-каталікоў) да праваслаўя. Пры гэтым дзяржаўныя ўлады шырока выкарыстоўвалі сродкі адкрытага прымусу вернікаў і рэпрэсіі супраць нязгоднага на далучэнне духавенства. Кансерватыўнае па сваёй прыродзе сялянства часта вельмі негатыўна ўспрымала тыя даволі кардынальныя змены ў парадку правядзення набажэнстваў і ў інтэр'еры іх храмаў, якія навязвалі царкоўныя і дзяржаўныя ўлады. Яно таксама бачыла інструментальнае выкарыстанне ўладамі прыходскага духавенства ў палітычных мэтах, што не магло садзейнічаць узвышэнню аўтарытэта апошняга.

У гадавой справаздачы віцебскага губернатара П. М. Клушына за 1858 г. гаварылася адносна рэлігійнай сітуацыі на вёсцы, што «многие из бывших униат положительно не знают, какую они исповедают религию, называют себя переворотами» [353, арк. 13 адв.]. Іван Карскі пісаў пра праваслаўных сялян Гродзенскага павета, што яны да 1855 г. амаль усе царкоўныя абрады выконвалі на ўніяцкі лад: «Ходили они правда в церковь, но все молитвы и песни церковные там читали и пели все польские, и в то же время не в состоянии были пропеть по-русски даже «Господи помилуй!». Если священник или причетник бывало предложит им это сделать, то они обыкновенно отвечали: «Мы не москале, каб спевать Господи помилуй». Из 5 тысяч прихожан только 5 знали русские молитвы, остальные молились по-польски, коверкая слова на свой лад» [276, с. 86–87]. Адам Багдановіч у сваіх успамінах таксама сцвярджае, што сяляне яго мясцовасці, як праваслаўныя, так і каталікі, маліліся «все на польском языке, который в то время, в бывших униятских семьях, положительно вытеснил славянский: только школа в новом поколении вводила его в молитвенный оборот» [54, с. 39]. Большасць праваслаўнага духавенства да 1860-х гадоў таксама шырока выкарыстоўвала польскую мову ў сямейным побыце і таварыскіх адносінах.

І. Карскі пісаў пра канфесійны індыферэнтызм вяскоўцаў Гродзеншчыны ў першыя паслярэформенныя гады: «Вообще должно сказать, что если и ходят молиться, то охотнее в костел, чем в церковь. «Усё роўна хвала Боска», говорят они. Словом и к костелу они относятся с таким же равнодушием» [276, с. 88]. Ён адзначаў нізкі паказчык наведвальнасці храмаў на прыкладзе Капцёўскага прыхода, дзе служыў псаломшчыкам: «Они (сяляне. – *С. Т.*) если и ходили когда в церковь, то весьма неохотно, так сказать вынужденным образом, только для исповеди <…> в воскресные дни там более 10 баб и 2-х или 4-х мущин никогда не бывало» [276, с. 88]. Часам духавенства нават звярталася да мясцовых улад за падтрымкай, каб змусіць прыхаджан наведваць храмы. Напрыклад, у 1871 г.

святар Харастоўскай царквы ў Ленінскай воласці Рэчыцкага павета Леў Мацкевіч паспрачаўся з мясцовымі валаснымі ўладамі адносна спосабу пакарання сялян, якія не былі на святочнай службе. Святар патрабаваў, каб яны тры дні адпрацавалі ў царкве, а воласць хацела задзейнічаць гэтых сялян у рамонце мясцовай дарогі. Ніхто не пераймаўся тым фактам, што азначанае пакаранне з'яўлялася незаконным [311, арк. 491–492].

Каталіцкае духавенства ў цэлым аказвала на сваіх прыхаджан-сялян больш моцны ўплыў, чым праваслаўнае. Пра гэта пісаў Павел Баброўскі, які паходзіў з асяроддзя заходнебеларускага ўніяцкага духавенства і выдатна арыентаваўся ў гэтым пытанні: «Католики усердны к вере и храмы их всегда полны; они следуют вполне за указанием своих верностных пастырей <…> Само римское духовенство строго следит за исполнением христианских обязанностей и находит средства при костелах содержать богодельни и школы» [47, с. 692]. Народазнаўца-славянафіл Пётр Бяссонаў, які з 1863 па 1865 гг. працаваў у дзяржаўнай адміністрацыі на беларускіх землях, так характарызаваў тыповага прадстаўніка каталіцкага прыходскага духавенства: «Ксендз не пропустит урочной мши и беспрестанно служит, ксендз без устали разъезжает по требам, по приходу <…> регулирует воспитание детей и поведение взрослых, он первый друг дома, защитник его » [110, с. 97]. Гэтаму тыпу незвычайна актыўнага і хітрага ксяндза Бяссонаў супрацьстаўляў вобраз апатычнага і бяздзейнага прыходскага праваслаўнага святара: «<…> местный белорусский, православный священник по месяцам иногда не служит, по нескольким неделям не крестит, по году и больше не видит на духу, по десятку дней не идет со святою водою, в праздник и вовсе не ходит, – малочислен сотоварищами, рассадниками питомцев, не обставлен монашествующими; с семействами не сближается, безучастен к их положению, воспитанию» [110, с. 97]. Несумненна, што аўтар перабольшваў тыпалагічныя рысы святароў дзвюх канфесій, але ў цэлым такая ацэнка адпавядала рэчаіснасці. Было некалькі прычын падобнага стану рэчаў. Каталіцкае прыходскае духавенства паходзіла ў большасці са шляхты і мела добрую адукацыю. Каталіцкія храмы былі непараўнальна багацейшыя і больш прасторныя, чым пераважна маленькія цэрквы з саламянымі дахамі. На богаслужэнні ў касцёлах прысутнічала ўся мясцовая шляхецкая эліта, а багатыя памешчыкі шчодра фундавалі сродкі на карысць сваёй парафіі. Для сялян-каталікоў прысутнасць на набажэнстве хаця б сімвалічна ўраўноўвала іх са шляхтай (праўда, нават размяшчэнне вернікаў у прасторы храма ў часе службы адлюстроўвала сацыяльную іерархію мясцовага гра-

мадства). Таму сяляне часта называлі каталіцтва «панскай верай», а праваслаўе – «мужыцкай».

Адносна праваслаўных сялян П. Баброўскі адзначаў, што яны «неохотно посещают православные церкви, нередко предпочитая им костелы, к которым приучила их униатская церковь» [47, с. 691]. Праўда, даследчык тлумачыў гэты факт наяўнасцю такой станоўчай рысы беларусаў, як адсутнасць рэлігійнага фанатызму [47, с. 17]. Яшчэ адной вельмі прагматычнай прычынай акрэсленай сітуацыі з'яўлялася, на яго думку, тое, што «значительную часть времени священник (праваслаўны. – *С. Т.*) должен употреблять на уход за хозяйством, а это затрудняет его в отправлении прямых обязанностей» [47, с. 692]. Баброўскі лічыў, што для выпраўлення становішча «поучения на народном языке были бы весьма полезным орудием» [47, с. 692].

Беларускія сяляне амаль не чулі ад сваіх святароў і ў праваслаўнай царкве, і ў каталіцкім касцёле роднай беларускай мовы. Літургія ў каталікоў праводзілася на лаціне, а ў праваслаўных – на царкоўнаславянскай мове. Галоўным было тое, што казанні, задачай якіх з'яўлялася тлумачэнне сялянам рэлігійных ісцін і асноў хрысціянскай маралі, у большасці вясковых храмаў гучалі на польскай і расійскай мовах, а свядомае выкарыстанне беларускай мовы сустракалася вельмі рэдка [195, с. 495–496; 814, № 2, с. 65]. Прафесар Пецярбургскай духоўнай акадэміі і ўраджэнец Гродзенскай губерні Міхаіл Каяловіч у 1863 г. на старонках «Литовских епархиальных ведомостей» разважаў пра гістарычнае прызванне «западнорусского» духавенства і пісаў пра адарванасць і адчужанасць прыходскіх святароў ад сваіх прыхаджан. Прычынай гэтаму, на яго думку, з'яўлялася тое, што святары не жадалі звяртацца да народа на яго мове [232, № 2, с. 66]. Як сцвярджаў Каяловіч, праваслаўнае святарства Заходніх губерняў не здолела адказаць на гэты выклік часу і знайсці ў сабе сілы звярнуцца да прыхаджан на іх роднай мове: «Я достоверно знаю, что во многих местностях западной России есть такие достойные православные священники, особенно в Малороссии и в серединной части Белоруссии <…> Но к великому сожалению, они все вместе – очень не многочисленны» [232, № 2, с. 66–67]. Хаця сустракаліся і супрацьлеглыя ацэнкі сітуацыі. Дзяржаўны чыноўнік у апісанні Барысаўскага павета за 1866 г. адзначаў: «Здешние крестьяне религиозны <...> исполняют обряды религии без упущения, посещают церкви в праздники и, сколько я заметил, любят слушать проповеди священников, которые, надо отдать справедливость, совершенно понимают дух народа и его понятия, объясняют евангелие, праздники и обязанности христиан на простом народном наречии» [633, с. 92].

Пра неабходнасць выкарыстання беларускай мовы ў царкве ў 1860-я гады выказваліся многія святары. Напрыклад, І. Канцэвіч з мястэчка Дзярэчын Слонімскага павета Гродзенскай губерні пісаў у снежні 1862 г. у «Литовские епархиальные ведомости», што ён лічыць неабходным, каб «наши сослужители при об'яснении с прихожанами употребяли Русский или простонародный язык, а отнюдь не прибегали к Польскому» [228, с. 163]. Гэты святар таксама прызнаваў той факт, што ў рэлігійным жыцці мясцовых сялян пануе польская мова: «<...> теперь же сколько не заставляй их изучивать Славянские молитвы, они все таки молятся по польски, а Славянские молитвы у них для официальности, например для того, что священник спросит пред браком, или при исповеди» [228, с. 161].

Цікавым прыкладам праваслаўнага святара, які спрабаваў выкарыстоўваць «простую» мову ў сваім храме, з'яўляўся настаяцель Чарнаўчыцкай царквы ў Брэсцкім павеце Стэфан Пашкевіч. Ён нават распавёў пра свой вопыт на старонках «Литовских епархиальных ведомостей» у 1863 г. [683]. Прычыну звароту да роднай мовы вяскоўцаў Пашкевіч тлумачыў тым, што яго прыхаджане больш ахвотна наведвалі прыгожы мураваны касцёл, а не «убогую, требующую починки» царкву. На самыя вялікія святы на богаслужэнне прыходзіла ўсяго некалькі дзясяткаў асоб. І тады святар пачаў прамаўляць казанне на «простай» мове сялян. Спачатку прыхаджане вельмі здзівіліся гэтаму, а праз месяц, «оставив Богослужения в костёле, начали в большом числе собираться в свою церковь, сперва быть может более из любопытства, а в последствии, конечно, из любви к своему родному и сознательно». Яго прыкладу, як адзначыў святар, паследавалі «многие из окрестных священников», якія «по тому же прекрасному побуждению также научились простонародному наречию и с большой пользою проповедуют на нём слово Божие своим прихожанам». Аднак у цэлым падобныя выпадкі свядомага выкарыстання «простай» мовы ў богаслужэнні з'яўляліся ўсё ж даволі рэдкімі выпадкамі ў асяроддзі праваслаўнага духавенства. Прычым нават не была сфармулявана ідэя выдання беларускамоўных рэлігійных кніжак для праваслаўнага сялянства.

Ва ўмовах абвастрэння палітычнай сітуацыі на пачатку 1860-х гадоў дзяржаўная адміністрацыя разглядала праваслаўную царкву ў якасці сваёй галоўнай апоры сярод сялянскага насельніцтва Беларусі і надавала вельмі шмат увагі рэлігійнаму пытанню. Напрыклад, гродзенскі губернатар І. У. Галер у гадавой справаздачы за 1862 г. важнейшай задачай дзяржаўнай улады лічыў «устройство православных храмов в таком виде, чтобы не уступали римско-католическим костелам и тем привлекали бы к себе прихожан» [403, арк. 52]. У 1865 г.

віцебскі губернатар У. М. Вяроўкін паведамляў у Вильню, што «крестьяне западных уездов Витебской губернии, православного исповедания <…> не только безразлично посещают костел или церковь, на даже часто первый предпочитают последней» [355, арк. 1]. Царскі чыноўнік А. К. Гейнс пісаў пасля падарожжа па Гродзенскай губерні ў 1863 г. пра цяжкае пачуццё, якое ён адчуў пры наведванні мясцовых праваслаўных цэркваў: «Крестьяне пришли приобщиться в православную церковь, а крестятся католическим крестом, лежат “кжижем” и вообще верно проделывают все, чему их обучали ксендзы в старое время» [177]. Такое становішча Гейнс назваў «продуктом исторического безобразия». Віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў таксама сцвярджаў, што беларускае сялянскае насельніцтва «исповедует Православную веру только номинально, усвоив между тем в общежитии обряды церкви католической, и что вследствие сего необходимо предварительно упрочить в нем ослабевшее Православие» [732, с. 280]. Такім чынам, прадстаўнікі мясцовай дзяржаўнай адміністрацыі адной з галоўных задач урадавай палітыкі ў Паўночна-Заходнім краі лічылі ўзмацненне мясцовага праваслаўя і яго «ачышчэнне» ад каталіцкіх уплываў.

Пасля выбуху паўстання ў 1863 г. улады дзейнічалі ў гэтым кірунку жорстка і радыкальна. Напрыклад, у 1866 г. гродзенскі губернатар І. М. Скварцоў загадаў святарам перанесці ўсе прыдарожныя крыжы на тэрыторыю могілак. Азначанае распараджэнне, скіраванае найперш супраць каталікоў, выклікала незадавальненне і сярод праваслаўных сялян. Вясковыя бацюшкі спрабавалі тлумачыць уладам, што ставяць крыжы пры дарогах «по давнему обычаю» [390, арк. 1]. Але і саміх праваслаўных святароў часта абвінавачвалі ў выкарыстанні польскай мовы ў грамадскім і сямейным жыцці [391, арк. 1]. У новай палітычнай сітуацыі дзяржаўная ўлада патрабавала ад прыходскага праваслаўнага духавенства кардынальна змяніць і хатнюю мову, і характар свайго таварыскага акружэння. Гэта нярэдка прыводзіла да канфліктаў паміж святарамі і прадстаўнікамі мясцовай адміністрацыі. У 1865 г. віленскі генерал-губернатар К. П. Каўфман камандзіраваў у Мінскую губерню свайго даверанага чыноўніка А. П. Старажэнку для вывучэння рэалізацыі палітыкі ўрада ў рэлігійнай сферы. Справаздачы Старажэнкі ўтрымлівалі вельмі негатыўныя ацэнкі дзейнасці прыходскага праваслаўнага духавенства, якое, паводле гэтага чыноўніка, «заботится только о своих материальных выгодах; оно является не добрым пастырем народа, но торгашами обрядов и иногда грязными торгашами <…> священники интригуют, подрывают доверие к властям» [129, арк. 5 адв.–6]. Прычым Старажэнка сцвярджаў, што беларускае духавенства ў матэры-

яльным плане жыве значна лепш, «чем наше сельское духовенство в Велико-Российских губерниях» [129, арк. 15 адв.]. У гэтых справаздачах знайшоў адлюстраванне канфлікт паміж мясцовым праваслаўным духавенствам і дзяржаўным чыноўніцтвам, у большасці сваёй на той час прысланым з вялікарасійскіх губерняў [309].

Пад уплывам палітычных падзей у 1860-я гады ў рэлігійным жыцці праваслаўных сялян Беларусі адбываюцца істотныя змены. Так, 26 снежня 1863 г. Мітрапаліт Іосіф загадаў, каб прыходскае духавенства «усугубило старание свое об окончательном выведении из употребления своих прихожан польских молитв и польских молитвенников <…> и о заменении их молитвами и молитвенниками на Славянском или на Русском языке» [281, с. 196]. Актыўную ролю ў гэтым працэсе спрабавалі адыгрываць і многія дзяржаўныя чыноўнікі. Так, пад уплывам ваеннага начальніка Ашмянскага павета Віленскай губерні сяляне некалькіх валасцей прынялі пастановы, паводле якіх яны адмаўляліся ад малітоўнікаў на польскай мове і каталіцкіх абразоў, а таксама ад наведвання каталіцкага касцёла пад пагрозай штрафа ў памеры 3 руб. Сяляне Курылавіцкай грамады, напрыклад, здалі ў валасное праўленне 29 такіх малітоўнікаў, а з Вільні былі высланы ў гэтую воласць 50 праваслаўных абразоў [127, арк. 33]. У выніку значна паскараецца працэс замены мовы малітвы беларускага праваслаўнага селяніна з польскай на царкоўнаславянскую, які, аднак, расцягнуўся на дзесяцігоддзі.

Пасля паўстання 1863 г. расійскія ўлады таксама прадпрымаюць актыўныя захады па пераводу каталіцкага насельніцтва Заходніх губерняў у праваслаўе. У кастрычніку 1863 г. гродзенскі губернатар І. М. Скварцоў пісаў Міхаілу Мураўёву аб неабходнасці «<…> как для упрочения в здешнем крае русского владычества, так и для нравственного влияния на простой народ <…> покровительствовать обращению крестьян католиков в православие» [389, арк. 9]. Ва ўмовах уведзенага ў час паўстання ваеннага становішча ўлады нярэдка выкарыстоўвалі метады адкрытага прымусу. Напрыклад, ваенны начальнік Сакольскага павета Гродзенскай губерні М. І. Воранаў пасля таго, як жыхары мястэчка Новы Двор адмовіліся вярнуцца ў праваслаўе (калісьці яны былі ўніятамі), прапанаваў губернатару «некоторых лиц выслать административным порядком в одну из восточных губерний России». Чыноўнік абгрунтоўваў сваю прапанову так: «Народ бы увидел, что правительство совращенным не дает поблажки» [389, арк. 153–154]. Таксама ваўкавыскі ваенны начальнік Л. І. Портэн прапаноўваў перасяліць у Сібір некалькі асоб, якія працівіліся перайсці ў праваслаўе [389, арк. 173]. У выніку былі сасланыя ў Сібір два жыхары шляхецкай ваколіцы Ляжайкі, якіх

мясцовы праваслаўны святар Макавельскі ў лютым 1864 г. далучыў да праваслаўя, але яны пазней адмовіліся выконваць праваслаўныя абрады. У 1864 г. 18 гаспадароў гэтай ваколіцы далі падпіскі, як яны самыя пазней сцвярджалі, пад прымусам казакоў, аб пераходзе ў праваслаўе. З таго часу яны бясконца скардзіліся ўладам і прасілі дазволу вярнуцца ў каталіцтва [134, арк. 173]. І падобных спраў аб гвалтоўнай канверсацыі было мноства [140; 141; 335; 337; 338; 341].

Вышэйузгаданы чыноўнік Аляксандр Старажэнка пісаў у 1865 г. з Мінскай губерні ў Вільню пра дрэнную арганізацыю справы пераводу каталікоў у праваслаўе: «<…> этот предмет в самом жалком положении. Священники действуют хотя ретиво, но не последовательно, между тем как администрация не принимает никакого участия. Нет никакого плана» [129, арк. 25 адв.]. Ён прыводзіў даныя, што ў Рэчыцкім павеце з 5490 каталікоў 1 018 (18,5 %) прынялі на той час праваслаўе [129, арк. 32 адв.]. Пазней Аляксандр Старажэнка ўзначаліў у Вільні дзяржаўную камісію, якая адмыслова займалася гэтым пытаннем. Паводле яе даных за перыяд з 1863 па ліпень 1866 г., ва ўсіх шасці Паўночна-Заходніх губернях было пераведзена ў праваслаўе 42 440 чалавек, у тым ліку ў Віленскай губерні 14 788, у Гродзенскай – 13 462, Мінскай – 10 036 чалавек, Віцебскай – 2947, Магілёўскай – 983, Ковенскай – 224 [727, с. 63]. У большасці гэта былі сяляне паводле саслоўнай прыналежнасці. Асноўная колькасць пераведзеных прыходзілася на Віленскую і Гродзенскую губерні, дзе быў і самы высокі працэнт каталікоў сярод беларускага насельніцтва. Паводле падлікаў В. В. Грыгор’евай, у 1860-х гадах у Літоўскай рыма-каталіцкай епархіі (Віленская, Гродзенская і Ковенская губерні) былі далучаны да праваслаўя каля 30 тыс. каталікоў [209, с. 72]. Прыходскія праваслаўныя святары былі абавязаны весці ў метрычных кнігах дакладны ўлік пераведзеных.

Метады прымусу часта прыводзілі да адваротнага выніку. У канцы 1865 г. генерал-губернатар К. П. Каўфман пісаў да магілёўскага губернатара П. М. Шалгунова, каб чыноўнікі «не проповедовали» праваслаўе «именем Правительства, которое отнюдь не должно быть вмешиваемо в разговоры о религии» [177]. Тыя сяляне, якія прымалі праваслаўе пад адміністрацыйным ціскам, вельмі часта станавіліся праваслаўнымі толькі фармальна і працягвалі прытрымлівацца каталіцкай абраднасці, што служыла крыніцай бясконцых канфліктаў, спрэчак і судовых разбіральніцтваў. Напрыклад, жыхары вёсак Рачкі і Гаслаўшчына Слуцкага павета Мінскай губерні пісалі ў лістападзе 1881 г. губернатару А. І. Пятрову: «<…> в продолжение более 15-ти лет мы остаемся без всякой религии, без исповеди, без Святого Писания, без всяких треб христианских, без

малейшего религиозного утешения, дети рождаются и мрут некрещеными, покойников хоронят тайно, браки не совершаются». Сяляне прасілі разгледзець іх справу і «оставить в католической вере, в которой мы родились и должны в ней умереть» [344, арк. 6 адв.–7]. Губернатар Пятроў у сваю чаргу тлумачыў міністру ўнутраных спраў Д. А. Талстому ў ліпені 1882 г., што азначаныя сяляне ў 1867 г. добраахвотна далі падпіску ў тым, што далучаюцца да праваслаўя. Пасля выхаду так званага ўказа аб верацярпімасці ў красавіку 1905 г. вялікая частка такіх канверсантаў на працягу некалькіх гадоў вярнулася ў каталіцтва. Напрыклад, у Віленскай епархіі іх лічба склала 62 тыс. асоб [209, с. 113].

Дзяржаўныя ўлады таксама пачынаюць у 1860-я гады рэалізацыю палітыкі моўнай русіфікацыі каталіцкага касцёла на беларускіх землях. 12 красавіка 1863 г. папячыцель Віленскай навучальнай акругі А. Шырынскі-Шыхматаў прапанаваў у тых мясцовасцях, дзе жыве «народ русский», замяніць польскую мову ў каталіцкім богаслужэнні «местным наречием» [733, с. 574]. Яго наступнік І. П. Карнілаў займаў яшчэ больш радыкальную пазіцыю: «весьма важно <…> провести в народное сознание ту мысль, что русский народ, принадлежащий по вере к римскому обряду и живущий в некоторых местностях западного края, есть такой же русский народ, как и те русские, которые исповедают православную веру» [733, с. 575].

У канцы 1865 г. генеральны вікарый Магілёўскай рыма-каталіцкай архіепархіі біскуп Ю. Станеўскі паінфармаваў улады аб хадайніцтве каталіцкага духавенства Віцебскай і Магілёўскай губерняў дапусціць казанні на «белорусском языке». Па іншай версіі, ініцыятыва належала царскаму чыноўніку А. Уладзіміраву, які ў той час працаваў у Віленскай навучальнай акрузе і свае меркаванні па гэтаму пытанню выклаў генерал-губернатару К. П. Каўфману ў канцы студзеня 1866 г. [733, с. 576]. У рэчаіснасці, многія каталіцкія ксяндзы на ўсходнебеларускіх землях і так прамаўлялі казанні на мове сваіх парафіян, аб чым сведчаць матэрыялы дзяржаўнай адміністрацыі. Ужо ўзгаданы вышэй А. П. Старажэнка дакладваў начальніку края М. Мураўёву летам 1864 г. пасля паездкі па Магілёўскай губерні: «Священники (праваслаўныя. – *С. Т.*) по деревням никогда не говорят проповедей, а напротив допускают православный народ, по выходе из церкви, отправляться в костел и слушать казание (проповедь), которое ксендз пропагандист говорит им на белорусском наречии» [177]. Атрымаўшы гэтае паведамленне, генерал-губернатар рэкамендаваў магілёўскаму архіепіскапу Яўсевію прыняць захады, каб прыходскія святары мелі «неослабное наблюдение» за сялянамі, і тыя «не ходили слушать проповеди в католические костелы». Прысланыя з усходу

дзяржаўныя чыноўнікі таксама лічылі сваім абавязкам указваць на ўсе «лацінскія» (як ім здавалася) асаблівасці ў рэлігійнасці мясцовых праваслаўных. Адзін з такіх чыноўнікаў пісаў пра сялян Барысаўскага павета: «Постороннему посетителю бросится в глаза в сельских церквах, что мущины, в особенности женщины, во время молитвы ударяют себя в грудь и цалуют пол, как то делают католики» [633, с. 92].

Дзяржаўныя ўлады звярнуліся па пытанні аб магчымым выкарыстанні беларускай мовы ў каталіцкім касцёле да мінскага праваслаўнага епіскапа Міхаіла Галубовіча, які ў лютым 1866 г. напісаў свае меркаванні для Обер-пракурора Святейшага Сінода графа Д. А. Талстога. Ягонае стаўленне да ўвядзення беларускай мовы ў каталіцкае набажэнства было катэгарычна адмоўным. Галубовіч сцвярджаў, што не існуе адзінай беларускай мовы, а толькі мноства гаворак. Апроч таго, на думку епіскапа, «белорусский язык не обработан, на нем невозможно выразить отвлеченных мыслей, евфония его весьма неприятна, зачем же его ставить на подмостки литературного наречия, когда неуклонною целью правительства должно быть обобщение чисто русского языка». Ды і «просты народ», паводле Галубовіча, добра разумее літаратурную расійскую мову, чаму садзейнічалі, як ён пісаў, заснаваныя ўладамі народныя вучылішчы [705, с. 12]. Цікава, што сам Міхаіл Галубовіч свой дзённік да 1862 г. вёў на польскай мове [187].

Праваслаўнае духавенства працівілася таксама выкарыстанню расійскай мовы ў каталіцкім касцёле, паколькі апасалася, што гэта можа пасадзейнічаць пераходу праваслаўных у каталіцтва. Але ў снежні 1869 г. Аляксандр II дазволіў прыхаджанам «иноверных церквей <…> которые считают родным языком русский, в том или другом его наречии <…> слушать на русском языке проповедь и те части богослужения, которые совершаются не на латинском», а ў лютым 1870 г. віленскі генерал-губернатар А. Л. Патапаў прадпісаў падначаленым яму губернатарам давесці гэты дазвол праз міравых пасярэднікаў да каталіцкага прыходскага духавенства і простых вернікаў, а таксама заахвоціць апошніх пісаць уладам звароты з просьбай аб набажэнствах на рускай мове [392, арк. 82]. З гэтага моманту пачалася рэалізацыя палітыкі ўвядзення рускай літаратурнай мовы ў каталіцкі касцёл на беларускіх землях. Асабліва актыўна яна праводзілася на Міншчыне і атрымала там падтрымку часткі каталіцкага духавенства. Адзін з найбольш актыўных прыхільнікаў гэтай палітыкі канонік Фердынанд Сенчыкоўскі на пачатку выкарыстоўваў у сваіх казаннях беларускую мову, але потым перайшоў на расійскую [727, с. 68–72]. Аднак большасць прыходскага каталіцкага духавенства і вернікаў рэзка негатыўна паставілася да

змен у мове богаслужэння, што служыла прычынай мноства канфліктных сітуацый [167; 340; 342; 345; 346].

У Гродзенскай губерні гэтая рэалізацыя азначанай палітыкі пасоўвалася значна горш. У лютым 1874 г. губернатар А. Е. Зураў пісаў генерал-губернатару, што толькі кобрынскі дэкан Брадовіч «попытался было совершать дополнительное богослужение на русском языке, но и тот в настоящее время перестал» [392, арк. 237]. У красавіку 1870 г. ксёндз касцёла ў мястэчку Сухаволя Сакольскага павета Гіпаліт Маркевіч напісаў мясцоваму міравому пасярэдніку, што «на чисто русском языке не мог бы преподавать еще проповеди, потому что народ не разумилбы, но на их русском крестьянском наречии мог бы проповеди давать» [392, арк. 103]. Гэтая прапанова так і не была рэалізаваная, а адсутнасць дакументаў не дазваляе выявіць прычыны.

У 1877 г. той жа гродзенскі губернатар А. Е. Зураў адказаў на запыт віленскага генерал-губернатара П. П. Альбядзінскага, што ў яго губерні казанні ў касцёлах праводзяцца толькі на польскай мове [392, арк. 237]. У 1884 г. віленскі генерал-губернатар зноў звярнуўся да падпарадкаваных яму губернатараў з просьбай падаць звесткі пра мову набажэнстваў у каталіцкіх касцёлах. Паліцыя сабрала даныя пра родную мову прыхаджан, з якіх вынікала, што большасць каталікоў, асабліва сялянскага паходжання, «в домашнем быту» размаўляюць па-беларуску. Гродзенскі губернатар А. М. Пацёмкін, напрыклад, пісаў у Вільню 31 ліпеня 1887 г.: «<…> эти данные заставляют придти к заключению,что введение русской речи при дополнительном богослужении и произношении проповедей по отношению к степени понимания этого языка народом не представило бы трудностей» [146, арк. 59–59 адв.]. Аднак улады не рызыкнулі ў адміністрацыйным парадку ўводзіць тут у набажэнства расійскую мову, каб не выклікаць хваляванняў сярод вернікаў. Ды і ў Мінскай губерні палітыка «обрусения» касцёла не прынесла ўраду жаданых вынікаў, і расійская мова так і не ўвайшла трывала ў рэлігійнае жыццё сялянскіх каталіцкіх супольнасцей. У справаздачы за 1897 г. мінскі губернатар М. М. Трубяцкой пісаў, што ў 1869–1872 гг. расійская мова была ўведзена ў богаслужэнне ў 30 касцёлах губерні, але да 1897 г. такіх засталося ўсяго каля 10 [346, арк. 31–31 адв.].

У выніку бурлівых падзей 1860-х гадоў на беларускіх землях усталявалася сітуацыя своеасаблівай «халоднай» канфесійнай вайны. Прыходскае каталіцкае духавенства адчувала сябе ў становішчы асаджанай крэпасці, а праваслаўнае апасалася «згубных» каталіцкіх уплываў на сваіх прыхаджан. Напрыклад, святар Аляксей Ваўкавыцкі з Беласточчыны пісаў у царкоўным летапісе свайго прыхода пра шкодны ўплыў на яго прыхаджан з боку суседніх касцёлаў: «Это

влияние более всего обнаруживается в соблюдении постов и праздников по католическому обряду, а также в ношении шкаплеров, рожанцев и коронок, в употреблении польских молитвенников и икон, в преобладании польского элемента в разговорной речи» [880, s. 19–21, 60]. Прычым гэты ж святар адзначаў, што «религиозной вражды между православными и католиками в простом народе не заметно <…> Бывают, примеры иногда посещения католиками православных храмов» [880, s. 66].

Адносна ўзроўню рэлігійнасці беларускіх сялян у крыніцах сустракаюцца розныя ацэнкі. Святар Яраслаў Брэн так пісаў пра рэлігійнасць праваслаўных сялян у Бельскім павеце Гродзенскай губерні ў «Литовских епархиальных ведомостях» у 1887 г.: «Даже при самом поверхностном знакомстве с крестьянами <…> нельзя не заметить, что они весьма религиозны. Это видно в особенности в праздничные дни, когда стар и млад спешат в церковь и переполняют ее до последней возможности; значительная часть молящихся стоит на погосте вокруг церкви на коленях» [59, с. 4–11]. Аўтар адзначаў, што на вялікія святы да храма, дзе існаваў культ таго ці іншага святога, збіраліся жабракі «чуть не со всех уездов Гродненской губернии. Идут и едут деды верст за сто и более» [59, с. 6]. Адначасова сустракаецца і шмат звестак пра вельмі нізкі ўзровень рэлігійнасці, прыклады якіх вышэй ужо прыводзіліся.

Нягледзячы на працэс секулярызацыі, які на той час ужо несумненна набіраў моц і сярод вясковага насельніцтва, рэлігійныя інстытуты да самага пачатку Першай сусветнай вайны захоўвалі моцны ўплыў на жыццё сялян і выконвалі ролю важнага мадэрнізацыйнага фактару. Асабліва вялікі ўплыў прыходскае духавенства аказвала на пашырэнне пісьменнасці сярод сялян. Часам духавенствам пры вясковых храмах утвараліся бібліятэкі [880, s. 76]. Святары часта выконвалі для сялян ролю дарадцы і суддзі па самых розных жыццёвых пытаннях: «Обращается народ и к суду священника, особенно в делах, так сказать повседневных, имеющих нравственный характер. Женщины почти всегда прежде всего обращаются к суду священника» [880, s. 66].

Працэсы мадэрнізацыі ў праваслаўнай і каталіцкай вёсцы на беларускіх землях мелі пэўную спецыфіку. Назіраюцца адрозненні ў параметрах дэмаграфічных змен. Ужо статыстычныя даныя за 1850 г. па Гродзенскай губерні сведчаць, што сярод каталіцкага насельніцтва назіраліся больш нізкія паказчыкі нараджальнасці і смяротнасці. Сярод праваслаўных жыхароў нараджальнасць складала 46 ‰, смяротнасць – 36 ‰, а сярод каталіцкага насельніцтва – адпаведна 40 ‰ і 32 ‰ [410, арк. 42]. Падобныя адрозненні зафіксаваў

у сваім даследаванні Гродзенскай губерні Павел Баброўскі [47, с. 589]. Яны захаваліся і ў далейшым. Напрыклад, у Гродзенскай губерні ў 1883 г. сярод праваслаўнага вясковага насельніцтва паказчык нараджальнасці складаў 50,6 ‰, а смяротнасці – 44,8 ‰, сярод каталіцкага насельніцтва адпаведныя паказчыкі выглядалі так – 39,9 ‰ і 30 ‰ [650–653]. Падобныя адрозненні назіраліся і ў іншых беларускіх губернях. Яны тлумачацца як больш высокім паказчыкамі шляхты сярод каталіцкага насельніцтва, дзе дамінавалі адрозныя ад сялян мадэлі дэмаграфічных паводзін, так і ўплывам з боку шляхты на нормы паводзін сялян-католікоў.

Вельмі важным фактарам у рэлігійным жыцці каталіцкай вёскі стаў той факт, што большасць прыходскага духавенства на пачатку ХХ ст. ужо паходзіла з сялян. Напрыклад, сярод навучэнцаў Віленскай каталіцкай семінарыі ў 1912 г. 122 належалі да сялянскага саслоўя, 28 паходзілі з мяшчан і 24 – са шляхты [27, с. 487–491]. Паколькі католікоў не прымалі ў настаўніцкія семінарыі і неахвотна бралі на чыноўніцкія пасады, кар'ера святара ўяўлялася самай прываблівай магчымасцю сацыяльнага поспеху для жыхароў беларускай каталіцкай вёскі. Ксяндзы сялянскага паходжання даскантала ведалі вясковае жыццё, праблемы сялян і іх ментальнасць і карысталіся вялікім аўтарытэтам сярод прыхаджан, якія ў большасці сваёй дастаткова строга прытрымліваліся рэлігійнай абраднасці на працягу ўсяго паслярэформеннага перыяду [105, с. 191]. На пачатку ХХ ст. сярод каталіцкага духавенства назіраецца пашырэнне беларускай нацыянальнай свядомасці. У 1904 г. Віленскае рымска-каталіцкае біскупства на запыт да святароў даць інфармацыю пра сваю нацыянальную прыналежнасць атрымала даволі шмат адказаў з пацверджаннем прыналежнасці да беларускай нацыянальнасці [769, с. 66]. Напрыклад, пробашч Пескаўскага касцёла Ваўкавыскага дэканата А. Асціловіч пісаў: «<...> имею честь почтительнейше донести, что я принадлежу к народности кривичской» [769, с. 66]. Асабліва вялікую ролю адыгрывала навучанне ўраджэнцаў Беларусі ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі, з якой выйшлі дзясяткі ксяндзоў з беларускай нацыянальнай свядомасцю [769, с. 67]. Тут меў значэнне фактар адрыву ад радзімы, выхаду з-пад ціску польска-расійскага ідэалагічнага супрацьстаяння. Сярод праваслаўнага вясковага духавенства ўдзельная вага выхадцаў з сялянства таксама ўзрастала, але значна марудней. Беларуская нацыянальная самасвядомасць у гэтым асяроддзі сустракалася вельмі рэдка.

У выніку ўзаемадзеяння шэрагу розных фактараў у рэлігійнай сферы жыцця беларускай вёскі ў паслярэформенны перыяд склалася дастаткова парадаксальная сітуацыя. З аднаго боку, захоўваліся

шматлікія звычаі і абрады паганскага паходжання, багацейшы фальклор, асабліва ў праваслаўнай вёсцы. Але разам з захаваннем гэтых архаічных элементаў традыцыйнай культуры сярод вясковай моладзі ўсё больш пашыраўся скептыцызм адносна святароў і рэлігійных абрадаў, якія выяўляліся ў адкрытай іроніі і выказваннях выразна атэістычнага характару. Небяспечным выклікам для вясковага духавенства стала ўзрастанне папулярнасці сярод сялян радыкальных сацыялістычных ідэй. Дзеяч Польскай Сацыялістычнай Партыі Міхал Панкевіч, які паходзіў з Гродзеншчыны, пісаў у сваіх успамінах, што «прыгнятаючы кожную смелую думку аўтарытэт духавенства» ствараў сур'ёзную перашкоду ў яго агітацыйнай дзейнасці: «Чытання на вёсцы фактычна не існавала. Адзінай кніжкай, якую можна было знайсці ў хаце селяніна, была кніжка да набажэнства, а адзінай газетай, якая ў 1–2 экзэмплярах на цэлую воласць даходзіла да селяніна, была кансерватыўная "Gazeta Swiąteczna", якую цярпелі і часам падтрымлівалі ксяндзы» [887, s. 48]. За распаўсюд сацыялістычнай літаратуры таго ж Панкевіча публічна падверглі ў 1907 г. анафеме з амбона мясцовага касцёла, што, праўда, паводле яго ўспамінаў, толькі паспрыяла папулярызацыі сацыялістычных ідэй у ваколіцы [887, s. 49].

Сутыкненне расійскіх і польскіх асіміляцыйных уплываў у беларускай вёсцы наклала свой адбітак на ўзаемаадносіны паміж праваслаўным і каталіцкім сялянствам, прынёсшы ў другой палове XIX – на пачатку XX ст. пэўнае абмежаванне кантактаў у некаторых сферах грамадскага жыцця. Вышэй ужо гаварылася пра памяншэнне колькасці змешаных шлюбаў сярод сялян. У архіўных матэрыялах, асабліва адносна перыяду пасля 1905 г., сустракаецца шмат спраў датычна дробных канфліктных сітуацый у вёсцы, якія можна інтэрпрэтаваць, як праявы міжканфесійнага канфлікту [32, с. 407–417]. Але паглыблены аналіз большасці такіх выпадкаў паказвае, што яны мелі сацыяльныя ці побытавыя прычыны. Няма звестак пра выпадкі сур'ёзных масавых канфліктаў паміж сялянамі з-за рэлігійных адрозненняў ці разыходжанняў. Напрыклад, у мястэчку Зэльва Ваўкавыскага ўезда Гродзенскай губерні ў 1907 г. з прычыны перадачы будынка каталіцкага касцёла праваслаўнай царкве адбылася сутычка паміж вернікамі і паліцыяй, якая прывяла да людскіх ахвяр [163]. Але мясцовыя праваслаўныя жыхары ў гэтай сутычцы не ўдзельнічалі. Беларускія сяляне праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў адчувалі сваю прыналежнасць да адзінай этнічнай супольнасці, адчувалі адзінства мовы, традыцыйнай культуры і ментальнасці [726, с. 111].

Такім чынам, пасля рэформы 1861 г. істотную ролю ў культурным развіцці беларускай вёскі пачаў адыгрываць інстытут народ-

най адукацыі. На вясковую школу дзяржавай ускладвалася ў першую чаргу задача ідэалагічнага выхавання сялянскіх дзяцей. Сярод каталіцкага вясковага насельніцтва развівалася нелегальнае «тайнае» школьніцтва, якое падтрымлівалася каталіцкім духавенствам і памеснай шляхтай каталіцкага веравызнання. Для большасці сялян галоўнай практычнай мэтай навучання з'яўлялася ўменне чытаць кнігі для набажэнства. Але для невялікай групы сялянскіх дзяцей, пераважна выхадцаў з заможных сямей, адукацыя станавілася трамплінам для сацыяльнага поспеху, магчымасцю набыцця новай прафесіі і павышэння сацыяльнага статусу. Аднымі з галоўных праблем у дзейнасці вясковых школ на працягу ўсяго даследуемага перыяду з'яўлялася поўнае ігнараванне роднай мовы сялянскіх дзяцей, а таксама недастатковая ўвага да практычных патрэб вёскі.

Істотнай спецыфікай рэлігійнага жыцця беларускай вёскі ў паслярэформенны перыяд з'яўлялася таксама захаванне шматлікіх элементаў архаічных паганскіх вераванняў, якія сінтэтычна перапляталіся з хрысціянскімі традыцыямі і рытуаламі. Другой важнай асаблівасцю з'яўлялася ўзаемная канфесійная талерантнасць паміж сялянамі праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў. Інструментальнае выкарыстанне рэлігійных інстытутаў у палітычных мэтах нярэдка прыводзіла да зніжэння іх аўтарытэту ў вачах сялян. Працэсы секулярызацыі пашыраліся на вёсцы і ў найбольшай ступені закраналі праваслаўнае сялянства і інтэлігенцыю вясковага паходжання. Істотнай з'явай трэба лічыць з'яўленне розных плыняў пратэстантызму ў беларускай вёсцы ў канцы XIX – на пачатку XX ст. [209, с. 105–107]. Сяляне шукалі ў гэтых умовах новыя сістэмы светапогляду, якія б задавальнялі іх духоўныя патрэбы і змяншалі пачуццё трывогі ва ўмовах распаду звыклага для іх свету. Новыя рэлігійныя сістэмы, так жа як радыкальныя сацыяльныя ідэалогіі запаўнялі той вакуум, які часта не маглі запоўніць традыцыйныя рэлігійныя інстытуты праваслаўнай і каталіцкай канфесій. Але апошнія таксама выступалі важнымі суб'ектамі мадэрнізацыі вясковага грамадства, адыгрываючы вялікую ролю ў пашырэнні пісьменнасці сярод сялянства і прапаноўваючы сваё бачанне сацыяльнай арганізацыі вясковага соцыуму ва ўмовах распаду традыцыі.

# Глава 6
# ТРАДЫЦЫЙНАЯ КУЛЬТУРА, СЯМ'Я І ШТОДЗЁННАЕ ЖЫЦЦЁ

## 6.1. Дзяцінства ў сялянскай супольнасці

Жыццё селяніна ў даіндустрыяльную эпоху ад самога нараджэння і да скону рэгулявалася нормамі традыцыйнай вясковай культуры, якія вызначалі паводзіны індывідаў у самых розных жыццёвых сітуацыях, акрэслівалі санкцыі супраць парушальнікаў гэтых нормаў, вызначалі парадак і характар узаемаадносін чалавека з прыродным асяроддзем і светам створаных ім самім рэчаў. Галоўнай функцыяй традыцыйнай культуры выступала забеспячэнне выжывання сялянскай сям'і і захаванне жыццяздольнасці і спраўнасці хатняй дварагаспадаркі. Яна грунтавалася на адаптацыі вясковай супольнасці і кожнай сялянскай сям'і да акаляючага прыроднага асяроддзя і была непарыўна звязаная з цыкламі земляробчай працы селяніна і асноўнымі этапамі яго жыццёвага шляху. Яе падмуркам з'яўлялася штодзённасць сялянскага жыцця, якая складалася з вялікага мноства руцінных дзеянняў, узаемадачыненняў і рытуалаў. Апошнія ўяўляліся вясковым жыхарам абсалютна звычайнымі і нармальнымі. Традыцыйная культура прадвызначала падазронасць і насцярожанасць у стаўленні селяніна да любых новых ці нетыповых з'яў, да інавацыйнасці ў гаспадарцы і індывідуалізму ў паводзінах асобы. Вясковец гатовы быў змірыцца з многімі цяжкасцямі і нават няшчасцямі свайго жыцця, калі яны былі прывычнымі элементамі яго штодзённага свету. Традыцыйная культура была звязаная найперш з хатай селяніна і яго сям'ёй, затым з вясковай грамадой, царкоўным прыходам, воласцю, ці з тымі інстытутамі, з якімі вясковец стала ўзаемадзейнічаў на працягу ўсяго свайго жыцця.

Галоўнай каштоўнасцю ў аксіялагічнай сістэме жыхароў традыцыйнай вёскі з'яўлялася выжыванне сям'і і прадаўжэнне роду. Таму

нараджэнне дзіцяці ўспрымалася сялянамі як справа вельмі пажаданая. На працягу ўсяго паслярэформеннага перыяду ў беларускай вёсцы захоўваўся вельмі высокі паказчык нараджальнасці, які паволі пачынае зніжацца толькі на пачатку ХХ ст. [93, с. 370–371]. Але для нованароджанага сялянскага дзіцяці прыход на свет азначаў пачатак цяжкай барацьбы за выжыванне. Дзіцячая смяротнасць таксама заставалася вельмі высокай, а галоўнымі яе прычынамі з'яўляліся шматлікія інфекцыйныя захворванні, выкліканыя дрэннымі (з сённяшняга пункту гледжання) санітарнымі ўмовамі ў сялянскай хаце і недастатковай апекай з боку дарослых, практычна ўвесь час занятых цяжкай фізічнай працай. Напярэдадні рэформы 1861 г. большасць вясковых хат у Беларусі заставаліся курнымі. Напрыклад, паводле даных Паўла Баброўскага, у Гродзенскай губерні на канец 1850-х гадоў у вёсках «казённых» сялян з 34 000 двароў 17 246 былі забяспечаны комінамі, «а у помещичьих, из 47 000 дворов, едва 8-я часть с трубами» [47, с. 493].

Сялянскія хаты амаль не праветрываліся, маленькія вокны не адчыняліся, дым ад печы і лучынаў насычаў паветра вуглякіслым газам. Аўтар апісання Барысаўскага павета за 1866 г. адзначаў: «<...> окна прорубают очень малыя, часто один фут в длину и ¾ фута в ширину, два, три, редко бывает четыре окна, отчего в избе закопченной от лучины (многия же живут в курных избах) темно; нет ни света, ни воздуха, что зимою делает страшный вред здоровью, в особенности страдают дети, всегда бледные и болезненные. Я не знаю ни одного здорового ребенка» [633, с. 91). Этнограф Эма Яленская пісала ў 1891 г., што «жахліва горача звычайна ў хаце, і трэба захапляцца здаровым арганізмам людзей, якія адразу з той лазні выходзяць у хатнім адзенні, часта босыя, на снег і мароз і з лёгкасцю вытрымліваюць падобныя змены» [844, z. 2, s. 314].

Тыповае сялянскае жытло мела невялікія памеры. У апісанні Магілёўскай губерні за 1881 г. пра хаты мясцовых вяскоўцаў гаварылася, што яны маюць памеры 7 на 12 аршынаў [619, с. 474], а кошт іх вагаўся ад 30 да 50 руб. Вартасць хаты прыкладна адпавядала вартасці працоўнай жывёлы ў сялянскай гаспадарцы. Паводле Эмы Яленскай, хаты палешукоў у Мазырскім павеце мелі звычайна памеры 7–8 на 14–16 аршынаў, ці прыкладна 5–6 на 10–11 метраў [844, z. 2, s. 312]. Мітрафан Доўнар-Запольскі таксама сцвярджаў, што на Палессі ў 1880-я гады пераважна будуюцца хаты 7–9 аршын у шырыню і 8–12 у даўжыню, хаця «приходилось встречать дома очень больших размеров, в несколько жилых комнат с фасадом на улицу» [170, с. 187]. Еўдакім Раманаў пісаў на пачатку ХХ ст. пра сялян Быхаўскага павета Магілёўскай губерні, што яны звычайна будуюць хаты 7 на 8 аршын,

а хата памерамі 10 на 9 аршын ужо лічыцца вельмі вялікай [711, с. 5]. Такім чынам, памеры тыповай сялянскай хаты кардынальным чынам у паслярэформенны перыяд не змяніліся. У большасці хат у першыя паслярэформенныя гады былі земляныя ці глінабітныя падлогі, а драўляныя сустракаліся толькі ў самых заможных гаспадароў, пра што сведчаць апісанні валасцей і прыходаў, зробленыя па замове Рускага геаграфічнага таварыства [30–41]. Еўдакім Раманаў сцвярджаў адносна беларускай вёскі ў Магілёўскай губерні пачатку ХХ ст.: «Нередки еще случаи, что избы оставляются и совершенно без полов, с так называемыми земляными полами» [711, с. 9]. Але ён адзначаў, што земляныя падлогі сустракаюцца толькі ў беднякоў у бязлесных вёсках.

Зімой у моцныя халады ў хаты бралі з хлявоў яшчэ маладняк свойскай жывёлы, каб выратаваць ад марозу. Павел Баброўскі пісаў, што сяляне «живут в закоптелых от дыма хатах, в которых нередко помещаются вместе с семейством свиньи, гуси, куры – преспокойно ходящие по комнате с ребятишками, и как часто дитя, предоставленное надзору такого же дитяти, становится жертвою нечистоплотного животного!» [47, с. 590]. Эма Яленская ў 1891 г. ужо адзначала, што сяляне хатнюю жывёлу, «апрача кур і катоў, у хатах не трымаюць, часам толькі ўпускаюць свіней, каб іх каля печы пакарміць і тут жа выганяюць» [844, z. 2, s. 317]. Затое куры, паводле гэтай аўтаркі, зімой «звыкла сядзяць пад печчу і там нясуцца» [844, z. 2, s. 305].

Звычай трымаць у халодную пару ў хаце жывёлу пратрымаўся да пачатку ХХ ст. Еўдакім Раманаў пісаў, што ў падполлі паміж спальнымі нарамі і падлогай сяляне «помещают зимою и телят, ягнят, а по местам молодых коз и недавно выведшихся птиц» [711, с. 9]. Сялянскія хаты таксама звычайна былі перапоўненыя прусакамі, клапамі і іншымі дробнымі паразітамі [54, с. 38]. І на пачатку ХХ ст. гігіенічныя ўмовы ў вясковай хаце заставаліся экстрэмальнымі з сённяшняга пункту гледжання. У апісанні Сенненскага павета Магілёўскай губерні аб гэтым гаварылася: «Семья из 10–12 человек помещается в одной комнате, зимою вместе с телятами и овцами; спят все вповалку на палатях и печи; пользуются общей посудой для еды и питья воды, общими полотенцами, часто и общими ложками» [9, с. 99]. У такіх умовах толькі моцная імунная сістэма немаўляці магла выратаваць яго ад фатальных наступстваў непазбежных інфекцый. Трэба падкрэсліць, што падобная антысанітарыя была характэрнай у ХІХ ст. не толькі для беларускай вёскі, але для сялянскага ладу жыцця ў большасці еўрапейскіх краін. Як сцвярджаюць, напрыклад, шведскія антраполагі, сяляне ў Швецыі таксама звычайна трымалі ў халодную пару ў сваіх хатах дробную

жывёлу, і толькі ў другой палове XIX ст. падобны звычай знікае [838, s. 183–185].

Такія ўмовы жыцця ў сялянскай хаце выклікалі высокую смяротнасць сярод немаўлят. Напрыклад, сярод памерлых жыхароў праваслаўнага веравызнання ў Гродзенскай губерні за 1848–1857 гг. дзеці да 5 год складалі 35,3 % [47, с. 511], а ў Мінскай губерні сярод праваслаўных і каталікоў за 1847–1860 гг. – 37,7 % [198, с. 496]. Сярод памерлых жыхароў праваслаўнага веравызнання ў Віленскай губерні за 1853–1858 гг. дзеці ва ўзросце да 1 года складалі 25,1 %, а дзеці ва ўзросце да 5 год – 25,6 % , а сярод каталікоў гэтыя лічбы трохі меншымі: дзеці да 1 года – 19,3 %, да 5 год – 20 % [229, с. 345–346]. Ніжэйшы паказчык дзіцячай смяротнасці сярод каталіцкага насельніцтва тлумачыцца значным працэнтам шляхты і мяшчанства ў яго складзе, побытавыя ўмовы жыцця якіх былі лепшымі за сялянскія. Эма Яленская пісала, што «рэдка сустракаецца хата, у якой не памерла некалькі дзяцей; кожная амаль маці перажывала гэтае балючае растанне» [844, z. 3, s. 479]. Сяляне лічылі, што нельга нават аплакваць маленькіх дзяцей, бо гэта будзе ім цяжарам на «тым свеце». Высокія паказчыкі дзіцячай смяротнасці ў той час назіраліся ва ўсіх краінах Усходняй Еўропы. Напрыклад, паводле даных польскіх даследчыкаў, у тагачаснай польскай вёсцы 20–25 % немаўлят памірала, не дажыўшы да года жыцця, а да пяці год не дажывала 30–40 % [862, s. 37].

У 1860-я гады адбываецца пераход да пячных камінаў у сялянскіх хатах, які распачаўся пад уплывам урадавых распараджэнняў з дзяржаўнай вёскі. Але на мяжы 1860–1870-х гадоў у большасці хат беднякоў і серадднякоў у былых прыватнаўласніцкіх вёсках яшчэ функцыянавалі курныя печы [34–45]. Адам Багдановіч у апісанні хаты сваёй бабулі, пастаўленай ў часы паншчыны, называў драўляную падлогу і комін «культурным достижением» свайго часу [56, с. 84]. У апісанні Магілёўскай губерні за 1881 г. гаварылася, што ў апошнія гады курныя печы паўсюдна замянілі печы з комінам, хаця ў некаторых вёсках захаваліся курныя печы, а самыя «крестьяне полагают, что с такими печами изба теплее, воздух суше» [619, с. 474–475]. Дзеяч беларускага нацыянальнага руху ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі ўспамінаў, што нарадзіўся ў 1888 г. у курнай хаце і, «цэлы год качаўся ў дыме, пакуль не вывелі коміна» [193, с. 120]. Эма Яленская пісала ў 1891 г. пра сялян Мазырскага павета: «<…> да нядаўняга часу комінаў не зналі ўвогуле; сёння ж аднак у Камаровічах і Заполлі курныя хаты належаць да мінулага» [844, z. 2, s. 313]. У апісанні Сенненскага павета Магілёўскай губерні за 1907 г. сцвярджалася, што там «курных изб почти нет» [9, с. 108]. На пачатку XX ст. курныя хаты былі ўжо

выключнай рэдкасцю ва ўсіх рэгіёнах Беларусі: «В настоящее время печей без труб не делается даже у бедных жителей деревень, и если встречаются хаты-курницы, то это остаток прошлых лет» [711, с. 12].

Паляпшалася якасць медыцынскай дапамогі вясковаму насельніцтву. Арганізацыя і фінансаванне медыцынскіх установ стала адным з накірункаў дзейнасці валасных установ. Эма Яленская пісала, што ў яе воласці працаваў фельчар, дзейнічалі шпіталь і аптэка, хаця мясцовыя сяляне толькі ў крайнім выпадку звярталіся за медыцынскай дапамогай, а звычайна ішлі да вясковых шаптух і знахараў, паколькі паслугі апошніх каштавалі значна танней [844, z. 2, s. 496]. Развіццё сістэмы медынскай дапамогі аднак мала ўплывала на паказчыкі дзіцячай смяротнасці, якія заставаліся вельмі высокімі. Паводле статыстычных даных па Магілёўскай губерні за 1871–1881 гг., дзеці да 5 год складалі 52,9 % сярод усіх памерлых, у той час як дзеці ва ўзросце 5–9 год – 6,3 %, асобы ва ўзросце 60 год і больш – 11,6 % [621, с. 33–34]. У Мінскай губерні ў 1888 г. у сельскай мясцовасці дзеці да 1 года складалі 31,4 % ад колькасці ўсіх памерлых, у той час як у гарадах – 23 % (табліца 6.1). У 1892 г. у Мінскай губерні дзеці да 1 года складалі сярод памерлых на вёсцы 29,4 %, у гарадах – 25,5 %, дзеці ва ўзросце да 10 год – 62,4 і 54,9 % адпаведна [664, с. 11].

Табліца 6.1 **– Узроставая структура памерлых у Мінскай губерні за 1888 г., %** [661, с. 207]

| Узрост, гадоў | Мясцовасць | |
|---|---|---|
| | Паветы | Гарады |
| Да 1 | 31,4 | 23,0 |
| 1–9 | 27,7 | 23,3 |
| 10–19 | 4,6 | 4,0 |
| 20–29 | 5,0 | 9,1 |
| 30–39 | 4,0 | 5,0 |
| 40–49 | 5,6 | 6,7 |
| 50–59 | 7,2 | 8,4 |
| 60–69 | 8,0 | 9,8 |
| 70–79 | 5,0 | 7,9 |
| 80 і болей | 1,4 | 2,7 |
| Разам | 100,0 | 100,0 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Высокі паказчык дзіцячай смяротнасці прадвызначаў і вельмі нізкі паказчык сярэдняй працягласці жыцця сярод вясковага

насельніцтва. Паводле падлікаў этнографа Аляксандра Семянткоўскага на падставе даных віцебскага губернскага статыстычнага камітэта за 1877 г., сярод праваслаўных жыхароў сельскай мясцовасці гэтай губерні азначаны паказчык быў ніжэйшым за 23 гады, а сярод гарадскіх жыхароў праваслаўнага веравызнання складаў амаль 25 гадоў. Сярод каталіцкага насельніцтва азначаны паказчык быў вышэйшым: 27 гадоў у сельскай мясцовасці і амаль 31 год у гарадской [637, с. 137].

Асабліва цяжкім быў лёс пазашлюбных дзяцей. Мікалай Улашчык, напрыклад, адзначаў, што сяляне «гэтых дзяцей называлі байструкамі і байстручкамі, а часам – самасейкамі» [777, с. 64]. На вёсцы адносны колькасны паказчык незаконнанароджаных быў ніжэйшым, чым у гарадах. Напрыклад, у Мінскай губерні ў 1857–1860 гг. сярод хрысціянскага насельніцтва гарадоў ён складаў 13,1 %, а у сельскай мясцовасці – 5,1 % [198, с. 491]. У Магілёўскай губерні ў 1871–1881 гг. пазашлюбных дзяцей у сельскай мясцовасці налічвалася 2,2 % ад колькасці ўсіх нованароджаных [621, с. 25]. У 1890-я гады ў гэтай губерні адносны паказчык незаконнанароджаных у сельскай мясцовасці складаў 1,6–1,9 %, а ў гарадах – 3–4 % [665, с. 81; 668, с. 130–131; 669, ведомость 13]. У Віцебскай губерні ў 1887 г. пазашлюбных дзяцей у сельскай мясцовасці налічвалася каля 3 % і ў гарадах – каля 6 % [642, с. 62–63], а ў 1893 г. – адпаведна 3,9 і 5 % [643, с. 199]. У Віленскай губерні ў 1897 г. пазашлюбных дзяцей было ў сельскай мясцовасці 4 % [582, ведамасць 3.], а ў 1902–1912 гг. склалі 3,4 % ад колькасці ўсіх нованароджаных [584, с. 34]. У сельскай мясцовасці Гродзенскай губерні ў 1911–1912 гг. працэнт незаконнанароджаных складаў усяго 1,8 [601; 602].

Такім чынам, павышэння працэнтнага паказчыка незаконнанароджаных дзяцей у паслярэформеннай беларускай вёсцы не назіралася. Гэта пацвярджае мікрагістарычнае даследаванне Глыбоцкага праваслаўнага прыхода, дзе за 1843–1859 гг. пазашлюбныя дзеці складалі 4,2 % ад агульнай лічбы нованароджаных, за 1860–1877 гг. – 2,7 %, а за 1888–1902 гг. – усяго 0,5 % [765]. Праваслаўны святар Аляксей Ваўкавыцкі з Бельскага павета сцвярджаў, што «случаи незаконорождений если и бывают, то все же редко» [880, s. 60]. Гэта можна патлумачыць узмацненнем інстытута шлюбу ў паслярэформеннай вёсцы, звязанага з правамі наследавання зямлі, якая цяпер станавілася прыватнай уласнасцю.

На працягу ўсяго паслярэформеннага перыяду сярод вясковага насельніцтва Беларусі назіраліся больш высокія паказчыкі дэмаграфічнага развіцця, чым сярод гарадскога. Пра гэта, напрыклад, сведчаць статыстычныя даныя па Магілёўскай губерні за

1896–1900 гг. (табліца 6.2). На вёсцы ўслед за горадам паволі пачалі праяўляцца характэрныя рысы дэмаграфічнага пераходу ад традыцыйнай да сучаснай мадэлі дэмаграфічнага развіцця. У 1907–1913 гг. у Магілёўскай губерні, паводле нашых падлікаў на матэрыялах губернскага статыстычнага камітэта, нараджальнасць сярод вясковага насельніцтва склала 39,4 ‰, а смяротнасць – 20 ‰. Але паказчык натуральнага прыросту насельніцтва заставаўся вельмі высокім.

Табліца 6.2 **– Паказчыкі дэмаграфічнага развіцця Магілёўскай губерні за 1896–1900 гг., ‰** [610, с. 21–23]

| Паказчык | Гарады | | | | | Паветы | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1896 | 1897 | 1898 | 1899 | 1900 | 1896 | 1897 | 1898 | 1899 | 1900 |
| Нараджальнасць | 32,4 | 31,5 | 35,1 | 32,3 | 34,5 | 47,2 | 6,7 | 46,7 | 46,0 | 47,1 |
| Смяротнасць | 20,8 | 20,2 | 19,3 | 17,9 | 20,6 | 27,5 | 27,5 | 22,4 | 21,2 | 24,3 |
| Шлюбнасць | 6,4 | 6,0 | 6,2 | 7,7 | 6,5 | 7,2 | 7,8 | 7,6 | 9,1 | 8,1 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Паводле падлікаў на аснове даных статыстыкі Гродзенскай губерні, сярэдні паказчык нараджальнасці сярод вясковага насельніцтва ў 1907–1913 гг. складаў 36,9 ‰, смяротнасці – 23,1 ‰ [598–603]. Прычым назіралася тэндэнцыя да паніжэння паказчыкаў нараджальнасці і смяротнасці. Напрыклад, у 1912 г., каэфіцыент нараджальнасці склаў 32,5 ‰, а каэфіцыент смяротнасці – амаль 18,4 ‰ [601; 602]. Прычым у Беларусі паказчыкі нараджальнасці зніжаліся хутчэй за цэнтральныя губерні Расійскай імперыі [262, с. 136; 704, с. 34].

Важным паказчыкам з'яўляецца тэрмін нараджэння дзяцей. А. Карэва сцвярджаў, што, паводле статыстычных даных, у Віленскай губерні «самое большое число родившихся за 11 лет в июне, июле и августе, самое меньшее в сентябре, ноябре и декабре [229, с. 352]. У сельскай мясцовасці Магілёўскай губерні за перыяд 1871–1881 гг. найбольшая колькасць дзяцей нараджалася ў студзені (116,9 на тысячу нованароджаных) і кастрычніку (96,9), найменшая – у маі (67,7) і красавіку (69,0) [621, с. 15].

Паводле даных мікрагістарычнага даследавання Глыбоцкага праваслаўнага прыхода за 1870–1902 гг., найбольш дзяцей нараджалася ў снежні – сакавіку, а найменш – у красавіку – чэрвені (табліца 6.3). Падобныя вынікі атрымаў таксама Вячаслаў Насевіч у даследаванні Кораньскага каталіцкага прыхода на Міншчыне [571, с. 134–135]. Час зачацця дзяцей, якія нараджаліся ў другой палове вясны і ў першай палове лета, прыходзіўся на ліпень, жнівень і верасень. На гэтыя месяцы прыпадала найбольш сельскагаспадарчых палявых работ,

у якіх былі задзейнічаны жанчыны. Таму зніжэнне нараджальнасці ў перыяд з сакавіка па чэрвень выглядае рацыянальным з пункту гледжання гаспадарчага функцыянавання сялянскай супольнасці. У той жа час перыяд «Вялікага паста», які звычайна прыходзіўся на сакавік-красавік, і ў час якога царква і касцёл забаранялі сваім прыхаджанам сексуальныя адносіны, не ўплываў істотна на паказчык нараджальнасці. Такім чынам, на тэрміны нараджэння дзяцей у беларускай вёсцы ў большай ступені ўплывалі гаспадарчыя, а не рэлігійныя фактары.

Табліца 6.3 **– Нараджэнне дзяцей у Глыбоцкім праваслаўным прыходзе па месяцах года за 1870–1914 гг., %** [516–542]

| Перыяд | 01 | 02 | 03 | 04 | 05 | 06 | 07 | 08 | 09 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1870–1879 | 9,5 | 8,8 | 9,7 | 6,6 | 8,0 | 7,3 | 8,0 | 7,2 | 7,1 | 9,7 | 9,4 | 8,7 |
| 1880–1889 | 10,7 | 9,4 | 9,1 | 6,3 | 6,0 | 6,6 | 9,0 | 7,6 | 7,5 | 8,0 | 9,4 | 10,4 |
| 1890–1902 | 9,4 | 9,6 | 8,8 | 7,8 | 6,6 | 7,0 | 8,8 | 8,9 | 7,4 | 8,2 | 7,8 | 9,7 |
| 1902–1914 | 10,4 | 9,7 | 10,9 | 6,9 | 7,1 | 8,0 | 7,8 | 6,1 | 7,5 | 7,2 | 8,3 | 10,1 |
| 1870–1914 | 9,9 | 9,4 | 9,5 | 7,1 | 6,8 | 7,3 | 8,4 | 7,6 | 7,4 | 8,2 | 8,6 | 9,8 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Першыя пяць гадоў жыцця сялянскага дзіцяці былі перыядам цяжкага выпрабавання яго прыродных сіл, а таксама і першым этапам сацыялізацыі ў вясковую супольнасць, засвойвання яе мовы, сістэмы каштоўнасцей і норм паводзін, што адбывалася пераважна не ў выніку мэтанакіраванага навучання, а шляхам назірання за старэйшымі і пераймання спосабаў іх паводзін. Звычайна малымі апекаваліся старэйшыя браты і сёстры, часам бабуля. У першую чаргу выхоўвалася павага да старэйшых, неабходнасць паслушэнства, але таксама і страх перад чужымі, у якасці якіх звычайна выкарыстоўваліся вобразы пана, цыгана, дзеда-жабрака і г. д. Закладваліся і асновы рэлігійных ведаў, патрэбных у сялянскім жыцці, а ў першую чаргу – веданне асноўных малітваў. Паводле Івана Карскага, сялянскае дзіцё маці (ці бабуля) пачынала ў 4 гады вучыць хрысціцца, а навучанне малітвам адбывалася ва ўзросце 7–8 гадоў [276, с. 78].

Перажыўшы гэты самы небяспечны перыяд сялянскае дзіця пераходзіла ў новую жыццёвую фазу. Прыкладна з пяцігадовага ўзросту ці трошкі пазней яго пачыналі прывучаць да працы. М. Доўнар-Запольскі сцвярджаў, што для малалетніх сялянскіх дзяцей «работа начинается едва ли не с шести-семи лет, в каковом возрасте они уже начинают пасти волов, мелкий скот и пр.» [170, с. 147].

Эма Яленская пісала, што сялянскія дзеці «калышуць і даглядаюць малодшых братоў і сясцёр, замятаюць ізбу, мыюць міскі і лыжкі, потым пасуць свіней ці птушак, нарэшце да палявых работ заўчасна далучаюцца» [844, z. 3, s. 486]. У традыцыйным вясковым грамадстве не існавала выразнага падзелу на свет дарослых і дзяцей. Дзеці ўдзельнічалі ва ўсіх сямейных справах, прысутнічалі на ўсіх вясковых цырымоніях. За правіны іх часта чакала фізічнае пакаранне з боку старэйшых. Аднак Мікалай Улашчык адзначаў, што метады выхавання паволі змякчаліся: «У першыя дзесяцігоддзі (існавання яго роднай вёскі Віцкаўшчына) маці і асабліва бацькі вучылі сваіх дзяцей папругай, дубцом, а часам і бізуном. У XX ст. неслух таксама мог зарабіць поўху і пакаштаваць бізуна, але формы гэтага выхавання былі ўжо значна мякчэйшыя» [777, с. 62].

Супольнае баўленне часу на пашы разам з іншымі пастушкамі адыгрывала велізарную ролю ў працэсе сацыялізацыі сялянскіх хлопчыкаў. Звычайна вёска наймала пастуха пасці кароў і цялят, а дзецям у кожнай асобнай сям'і даручалася пасьба працоўнай жывёлы – валоў і коней, якая прыходзілася на начную пару, вольную ад працы. Дзеці аб'ядноўвалі свае намаганні і такім чынам атрымлівалі шмат часу, які маглі патраціць на супольныя забавы. Тут яны спасцігалі нормы паводзін са сваімі аднагодкамі, устанаўлівалі ўласную іерархію, прывыкалі падпарадкоўвацца старэйшым і грамадзе. Па сутнасці, яны ўзнаўлялі ў сваім дзіцячым свеце сацыяльную мадэль свету дарослых. Баляслаў Грабінскі так апісваў узаемаадносіны хлопцаў у супольнасці пастушкоў: «Валапасы мелі выробленую традыцыю <...> мелі кары за непаслухмянасць або непадпарадкаванне рэгулам (правілам. – *С. Т.*)» [105, с. 188].

Істотная розніца назіралася паміж дзецьмі, якія жылі ў вёсках, і хутаранамі. Апошнія звычайна бавілі час і спасцігалі асновы працоўнай этыкі ў больш вузкім коле сваіх братоў і сясцёр, ці нават у адзіноце. Прыклад менавіта такой сацыялізацыі апісвае Якуб Колас у паэме «Новая зямля». Адзінота мела свае станоўчыя бакі, часта стымулявала пошук заняткаў індывідуальнага творчага характару, такіх як выразанне ножыкам з дрэва, гранне на музычных інструментах, чытанне кніжак. Самотнае знаходжанне на прыродзе садзейнічала развіццю рэфлексіі, паглыбленным назіранням за акаляючым жывёльным і раслінным светам. Набыццё заможнымі сялянамі ва ўласнасць панскай зямлі, а потым працэсы хутарызацыі ў часе сталыпінскай рэформы садзейнічалі большай індывідуалізацыі ў жыцці маленькіх сялян.

У паслярэформенны перыяд усё больш важнае значэнне ў сацыялізацыі сялянскіх дзяцей пачынае адыгрываць школьнае наву-

чанне. Вельмі часта яно мела характар хатняй школы, калі сяляне самі наймалі настаўніка, ці дарэктара, як бачым гэта ў «Новай зямлі» Якуба Коласа. У такім выпадку колькасць вучняў звычайна была невялікая, а дарэктар амаль не адрозніваўся ад іх паводле свайго ўзросту, а часам быў бедным пастушком, якога грамада прымушала зімой займацца дарэктарствам. Але паволі ўзрастала колькасць дзяцей, якія наведвалі дзяржаўныя пачатковыя школы – народныя ці царкоўна-прыходскія вучылішчы. Тут маленькі селянін звычайна трапляў ужо ў вялікі калектыў вучняў, засвойваў асновы дысцыпліны і больш складанай сацыяльнай іерархіі.

Можна сцвярджаць, што ў паслярэформенны перыяд функцыянавалі два асноўныя шляхі сацыялізацыі сялянскага дзіцяці – шлях пастушка і шлях школьнага вучня, хаця гэтыя шляхі часта спалучаліся. Большасць вясковых гаспадароў адпраўляла сваіх дзяцей у школу тады, калі хатнюю жывёлу замыкалі ў хлявах з прычыны надыходу халадоў (звычайна ў канцы кастрычніка ці ў лістападзе), а навучальны год для гэтых дзяцей заканчваўся разам з пачаткам выхаду скаціны на пашу ў красавіку. Але часам дзеці (звычайна заможных гаспадароў) з самога пачатку вызваляліся ад абавязкаў пастушка і крочылі шляхам вучня, калі бацькі выбіралі для іх будучыню «вучонага». Пастух і вучань выступалі двума супрацьлеглымі сацыяльна-асабовымі ўзорамі, паміж якімі існавалі прынцыповыя адрозненні. Сялянскае дзіця як член сям'і з'яўлялася пастушком, і адначасова, як член школьнай супольнасці – вучнем. Гэта былі адрозныя сацыяльна-культурныя сістэмы з рознымі крытэрыямі вартасці чалавека і рознымі сацыяльнымі аўтарытэтамі. Першы базаваўся на згуртаванай сямейнай групе, якая падпарадкоўвала сабе індывідуальнасць яе членаў і захоўвала нязменнасць формаў сумеснага жыцця. Другі грунтаваўся на індывідуальнасці асобы і адчыняў перад ёй разнастайныя і зменныя прасторы жыццёвай кар'еры і індывідуальнага поспеху [827, s. 29–30].

У беларускай вёсцы, як і ў кожным традыцыйным грамадстве, дзеці складалі вельмі вялікі працэнт насельніцтва. Напрыклад, паводле даных X-й рэвізіі (1858 г.) у Гродзенскай губерні, сярод усяго мужчынскага насельніцтва дзеці і моладзь да 18 год складалі ў суме 42,4 %, у той час як асобы ва ўзросце за 60 год – толькі 2,1 % [47, с. 525]. У Віленскай губерні на той час дзяцей да 16 год налічвалася 39,3 % ад усяго насельніцтва [229, с. 337]. У Мінскай губерні сярод хрысціянскага насельніцтва дзеці ва ўзросце да 16 год складалі 40,2 % [198, с. 474].

Узроставая структура насельніцтва вёскі прынцыпова не змянілася на працягу другой паловы XIX ст. Паводле даных перапісу

1897 г., сярод сялянскага вясковага насельніцтва беларускіх губерняў дзецi i моладзь да 20 год складалі 51,5 %, а асобы, старэйшыя за 60 год – 6,5 % (дадатак 5). Самы нізкі паказчык дзяцей ва ўзросце да 15 год ва ўзроставай структуры жыхароў сельскай мясцовасці (з улікам яўрэйскага насельніцтва мястэчкаў) назіраўся ў Віленскай губерні – 38,2 % ад усяго насельніцтва, а самы высокі ў Магілёўскай – 43,4 % (табліца 6.4).

Табліца 6.4 – **Узроставая структура сельскага насельніцтва пяці беларускіх губерняў паводле матэрыялаў перапісу 1897 г., %** [684–692, табл. V]

| Губерня | Узроставыя групы | | | Разам |
|---|---|---|---|---|
| | Да 15 год | 15–59 год | 60 і болей | |
| Віленская | 38,2 | 53,9 | 7,9 | 100,0 |
| Віцебская | 40,0 | 52,9 | 7,1 | 100,0 |
| Гродзенская | 39,2 | 54,6 | 6,2 | 100,0 |
| Магілёўская | 43,4 | 50,3 | 6,3 | 100,0 |
| Мінская | 41,9 | 51,8 | 6,3 | 100,0 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Гэта сведчыць аб тым, што працэс дэмаграфічнай трансфармацыі грамадства, які ішоў між іншага ў кірунку змяншэння адноснай долі дзіцячага насельніцтва і павелічэння адноснай долі прадстаўнікоў старэйшага пакалення, наступаў у кірунку з захаду на ўсход.

## 6.2. Моладзь у паслярэформеннай беларускай вёсцы

Перыяд дзяцінства заканчваўся ў вёсцы прыкладна ў 15–16 год. З гэтага часу бацька пачынаў прывучаць сына да галоўных палявых работ – араць, баранаваць і касіць [276, с. 79]. У дарэформенны перыяд дзяўчаты ва ўзросце 16 год ужо павінны былі адбываць паншчыну разам з дарослымі жанчынамі (хлопцы ішлі на паншчыну ў 18 год), а таксама маглі выходзіць замуж. І хлопцы, і дзяўчаты ў 14–15 гадоў павінны былі выходзіць разам з усімі дарослымі на згоны ці гвалты на панскі палетак. З 15 год яго маглі забраць у рэкруты. Сялянскі хлопец станавіўся дарослым ва ўзросце 18 год і лічыўся тады прыдатным да ўсякай мужчынскай работы. Ад яго патрабаваліся дастаткова ўніверсальныя ўменні: збудаваць хату, зрабіць саху ці барану, адрамантаваць воз і г. д. У гэтым узросце ён мог ажаніцца і стаць паўнавартасным гаспадаром (калі паміраў бацька ці старэйшыя браты), што давала яму права ўдзельнічаць у грамадскіх сходах з поўным

правам голасу. Пасля ўвядзення ўсеагульнай вайсковай павіннасці ў войска пачалі браць ва ўзросце 21 год.

Гэты перыяд маладосці паміж дзяцінствам і дарослым сямейным жыццём (якое пачыналася пасля шлюбу) у беларускім вясковым грамадстве называлі на польскі манер «кавалеркай». Моладзі многае дазвалялася, лічылася, што ёй трэба «вышумецца», «пашалець». Таму маладзёны шмат часу праводзілі на супольных забавах, учынялі розныя жарты сваім аднавяскоўцам. Часам маладыя хлопцы аб'ядноўваліся ў своеасаблівыя «банды» (звычайна групы падросшых сяброў-пастушкоў), якія «тэрарызавалі» ўсю ваколіцу. Паводле пісьменніка Аляксея Карпюка, яго бацька так успамінаў пра забавы маладых хлопцаў: «<…> зацягвалі на ліпу якому-небудзь дзядзьку сані альбо затыкалі снопікам удаве комін ды ішлі да цёткі патрабаваць выкуп» <…> узброеныя бязменамі і нажамі <…> урываліся на музыкі, разганялі сапернікаў» [210, с. 13].

Гэтыя «банды» моладзі станавіліся важным элементам штодзённага жыцця вёскі ў пераходны перыяд ад традыцыйнага да індустрыяльнага грамадства. Часта яны ўяўлялі сабой згуртаваныя групы з уласнай іерархіяй. Лідары такіх груп нярэдка паходзілі з бедных гаспадарак, але імпанавалі сваім аднагодкам адвагай і смелым выклікам, які яны кідалі традыцыйным вясковым аўтарытэтам. Фарміраванне «бандаў» з'яўлялася важным сімптомам набліжэння распаду традыцыйнай сістэмы сацыяльнага жыцця [876, s. 55]. Моладзь пераставала быць паслухмянай старэйшай узроставай групе, пакорна і цярпліва чакаючай на сваю чаргу ў эстафеце пакаленняў. Значная яе частка станавілася ў выразную апазіцыю да пануючых нормаў і звычаяў і стварала тым самым новую лінію канфлікту ў штодзённасці вясковага жыцця [862, s. 124]. У «Нашай Ніве» Аляксандр Уласаў пісаў у артыкуле «Аб вясковай хуліганшчыне» ў 1912 г.: «Маладзеж ужо не тое, што іх забітые працай, заціснутые жыццём бацькі і дзяды, у каторых была адна думка; пакорнасць сваей безпраўнай долі і абы як небудзь прахарчавацца да вясны» [4, с. 2]. На паводзіны вясковай моладзі ўсё часцей звярталі ўвагу тагачасныя даследчыкі вёскі і публіцысты. Адзін з карэспандэнтаў беларускамоўнай каталіцкай газеты «Bielarus» Рыгор Кляновіч пісаў у перадваенным 1913 г., што «z usich bakou Biełarusi można ciapier paczuc sztoraz to czaściejszyja narakańnia na swawolu naszaj moładzi». Паводле гэтага аўтара, старэйшыя людзі гаварылі, што «nikoli hetkich szalmastwau pa wioskach nie bywała» [853].

На працягу другой паловы XIX ст. паволі ўзрасталі паказчыкі крымінальнай злачыннасці на вёсцы. Сярод асуджаных крымінальных злачынцаў Віленскай губерні ў 1848–1860 гг. сяляне было ўсяго

каля 43 % [229, с. 604]. У 1912 г. сярод 18 237 заключаных у турмах гэтай губерні асоб, сяляне складалі 55,9 % [584, ведомость 11]. У Гродзенскай губерні ў 1870 г. сяляне складалі 50 % ад колькасці ўсіх асуджаных за крымінальныя злачынствы [393, арк. 83]. З 1873 па 1879 гг. у гэтай губерні было асуджана 418 сялян (385 мужчын і 33 жанчыны), што складала 52,3 % ад агульнай колькасці асуджаных за крымінальныя злачынствы [647, с. 62]. У губернскай статыстыцы крымінальных здарэнняў усё часцей з'яўляліся прадстаўнікі сялянства [397]. У 1898 г. сярод 695 асуджаных асоб у Гродзенскай губерні сялян налічвалася 490 (70,5 %) [659, с. 31]. Гэты паказчык пратрымаўся прыкладна на адным узроўні да пачатку Першай сусветнай вайны. Так, за 1901–1908 гг. у Гродзенскай губерні было асуджана за розныя крымінальныя злачынствы 4 931 асоба, а сярод іх налічваўся 3 571 селянін (72,4 %) [592–599]. У 1912 г. у розных турэмных установах Гродзенскай губерні знаходзілася 8017 асоб, сярод іх 5373 селяніны (66,6 %) [602, ведомость 17]. У 1907 г. у Гродзенскай губерні сяляне здзейснілі 131 крадзеж (72,8 % ад агульнай колькасці такіх злачынстваў), 29 рабаўнічых нападаў (80,6 %), 26 забойстваў (83,9 %), 13 забойстваў нованароджаных (100 %), 39 выпадкаў нанясення цялесных пашкоджанняў (81,25 %), 40 службовых злоўжыванняў (95,2 %), 93 выпадкі супраціўлення ўладам (98,9 %) [598, ведомость 13].

У Мінскай губерні на мяжы 1880–1890-х гадоў адносная доля сялян сярод асуджаных за крымінальныя злачынствы таксама вагалася каля 50 % [661, с. 266; 663, с. 22]. А ў 1913 г. у гэтай губерні сяляне складалі ўжо 68 % сярод такіх асоб (што ўжо было вышэй працэнтнага паказчыку сялян сярод жыхароў губерні). Прычым сярод асуджаных за злачынствы супраць жыцця, здароўя і гонару асобы іх было 77,8 %, за злачынствы супраць прыватнай уласнасці – 68,3 %, за злачынствы супраць парадку кіравання – 68 % [607, с. 42; ведомость о числе и роде преступлений в Минской губернии за 1913 год].

У 1889 г. у Магілёўскай губерні сярод асуджаных за крымінальныя ўчынкі сялян было 63,7 % [608, с. 19], а ў структуры ўсяго насельніцтва сяляне складалі 73 %. За 1898–1900 гг. сярод 2625 асуджаных за крымінальныя злачынствы асоб у Магілёўскай губерні сялян налічвалася 1849 (70,4 %). Такім чынам, адносная доля асуджаных сялян наблізілася да іх долі ў структуры насельніцтва губерні [610, с. 56].

Сярод асуджаных за крымінальныя злачынствы ў Віцебскай губерні за 1896 г. сялян налічвалася 466 (370 мужчын і 96 жанчын) – 71,4 % ад агульнай колькасці (653 асобы). Па асобных катэгорыях

злачынстваў удзельная вага сялян была тут наступнай: злачынствы супраць жыцця і здароўя прыватных асоб – 86,9 %, супраць грамадскага добраўпрадкавання і спакою – 79,2 %, злачынствы супраць уласнасці прыватных асоб – 62,5 %, супраць парадку кіравання – 51 % [644, с. 23]. У 1907 г. у Віцебскай губерні сярод 1189 асуджаных было ўжо 975 сялян (82 %) [589, с. 44]. Сярод асоб, якія здзейснілі злачынствы супраць жыцця і здароўя прыватных асоб сяляне складалі 82,5 %, а сярод асоб, якія здзейснілі злачынствы супраць уласнасці 70,7 % [589, ведомость 17]. У гэтай губерні ў 1907 г. у турмах утрымліваліся 4877 асоб, а сялян сярод іх налічвалася 3438 (70,4 %) [589, с. 47]. У 1914 г. у гэтай губерні сяляне складалі 74,7 % сярод асуджаных, а ў турмах губерні тады знаходзілася 3285 сялян (75,8 % ад усіх арыштантаў). Прычым земляробамі з'яўляліся 1811 асоб (41,8 % ад колькасці арыштантаў), а работнікаў было 38,8 % [590]. Такім чынам, сярод арыштантаў сялянскага паходжання значная частка ўжо не займалася сялянскай працай і, напэўна, не жыла на вёсцы.

Тут трэба адзначыць, што некаторыя са злачынстваў у сялянскім асяроддзі не падлягалі маральнаму асуджэнню. Напрыклад, супраціўленне ўладам звычайна адбывалася ў часе канфліктаў вяскоўцаў з землеўладальнікамі і ўспрымалася імі як справядлівая барацьба за сваю зямлю. У любым выпадку, сярод правапарушэнняў, звязаных з ужываннем насілля і нанясеннем цялесных пашкоджанняў, сяляне на пачатку ХХ ст. ужо лідзіравалі ў параўнанні з іншымі саслоўнымі групамі. І галоўную ролю тут адыгрывалі прадстаўнікі моладзі.

Пачынае фарміравацца ў сялянскім асяроддзі ў гэты перыяд арганізаваная злачыннасць. Першымі яе праявамі можна лічыць шайкі канакрадаў. Напрыклад, Баляслаў Грабінскі ў сваіх успамінах адзначаў, што ў яго мясцовасці існавала добра арганізаванае канакрадства, якое пратрымалася аж да Першай сусветнай вайны» [105, с. 181]. Стваральнікамі арганізаванай злачыннасці выступалі пераважна яўрэі, расіяне-стараверы і цыганы. Гэтыя этнічныя групы мелі свае шырока разгалінаваныя надлакальныя сеткі сацыяльных сувязяў, якія маглі з поспехам выкарыстоўвацца і крымінальным элементам. Але з часам да злачынных шаек усё больш актыўна далучаюцца і сяляне-беларусы. У кожнай амаль мясцовасці ў канцы ХІХ – на пачатку ХХ ст. з'яўляюцца банды з удзелам вяскоўцаў. Адам Багдановіч у сваіх успамінах апісвае постаць селяніна Якава з Акімаўкі, заснаваная якім банда доўгі час тэрарызавала ўсю ваколіцу, «поджигая гумна и дома тех, с кем имел (Якаў. – *С. Т.*) счеты». Багдановіч адзначыў, што «по нашим местам он был первый бандит из белоруссов» [54, с. 131–132]. У матэрыялах губернатарскіх кан-

цылярый у канцы XIX ст. з'яўляюцца спісы прафесійных злачынцаў, што сведчыла пра сур'ёзнасць праблемы.

У час рэвалюцыі 1905–1907 гг. у сувязі з аграрнымі хваляваннямі роля моладзі ў грамадскім жыцці вёскі ўзрастае. У сялянскіх хлопцаў у гэты перыяд з'яўлялася новая магчымасць жыццёвага шляху – шляху «рэвалюцыянера», бунтара, баявіка. Такі тып асобы быў у цэлым вёскай запатрабаваны ў яе змаганні за зямлю. Хто першы шпурляў камень і адважна кідаўся на паліцыю ці салдат, заваёўваў сабе аўтарытэт у вачах аднавяскоўцаў. З другога боку, гэтыя бунтары маглі і сілай навязваць грамадзе сваё светабачанне, тэрарызаваць тых вяскоўцаў, хто быў з імі нязгодны.

У першыя паслярэформенныя гады цяжкім выпрабаваннем у жыцці маладых хлопцаў заставаўся рэкруцкі набор, хаця тэрміны вайсковай службы ўжо ў 1860-я моцна скараціліся (забіралі ў войска «ўсяго» на 7 год, пасля выслугі якіх былых салдат пераводзілі ў разрад адстаўных ніжніх чыноў). Увядзенне ўсеагульнай вайсковай павіннасці ў 1874 г. яшчэ болей скараціла тэрміны вайсковай службы, якая ахоплівала цяпер значную частку вясковай моладзі (прыкладна трэцюю частку) і перастала ўспрымацца сялянамі як жыццёвая трагедыя. Больш таго, служба ў войску пашырала далягляды сялянскіх хлопцаў, садзейнічала іх інтэлектуальнаму развіццю, а для некаторых з'яўлялася штуршком для павышэння свайго сацыяльнага статусу.

Паводле расійскага гісторыка Б. Н. Міронава, у апошняй чвэрці XIX ст. і на пачатку XX ст. павышаецца сярэдні рост рэкрутаў у Расійскай імперыі са 162 да 165 см [286]. Польскія даследчыкі таксама прыйшлі да высновы, што рост рэкрутаў у Каралеўстве Польскім узрос са 163,3 см у 1866 г. да 166,2 см у 1913 г. [823, s. 230]. Паводле праведзенага аўтарам даследавання роста рэкрутаў Гродзенскага павета за 1869 г. і навабранцаў 1913 г. у першым выпадку сярэдні рост складаў 162,5 см, а ў другім – 164,5 [553; 603, вед. 15]. Гэтыя факты могуць сведчыць пра паляпшэнне ўмоў жыцця, а найперш харчавання сялянскага насельніцтва.

Час «кавалеркі» для большасці сялянскай моладзі не быў працяглым. Напрыклад, у сельскай мясцовасці Магілёўскай губерні, паводле статыстычных даных за 1871–1881 гг., прыкладна палова дзяўчат выходзіла замуж ва ўзросце да 20 год, а сярод мужчын – ва ўзросце да 25 год (табліца 6.5).

Сярод праваслаўных жыхароў у сельскай мясцовасці Віцебскай губерні ў 1887 г., 44 % жанчын бралі шлюб ва ўзросце да 20 год, сярод каталічак гэты паказчык быў трохі ніжэйшы – 37,6 % (табліца 6.6). Толькі 13,9 % жанчын праваслаўнага вызнання выходзілі замуж пасля 25 год, сярод каталічак – 16,7 %.

Табліца 6.5 – **Узрост уступлення ў шлюб у сельскай мясцовасці Магілёўскай губерні ў 1871–1881 гг. (на 1000 шлюбаў)** [621, с. 11]

| Палавыя групы | Узроставыя групы | | | | | | | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 15–19 | 20–24 | 25–29 | 30–34 | 35–39 | 40–44 | 45–49 | 50 і болей | |
| Мужчыны | 269,0 | 364,5 | 157,3 | 74,7 | 49,4 | 35,9 | 25,3 | 23,9 | 1000 |
| Жанчыны | 491,3 | 321,6 | 78,6 | 42,9 | 30,6 | 19,0 | 10,5 | 5,5 | 1000 |

*Заўвага.* Падлікі аўтара.

Табліца 6.6 – **Узрост уступлення ў шлюб сярод праваслаўнага і каталіцкага вясковага насельніцтва Віцебскай губерні за 1887 г. (мужчыны/жанчыны), % ад агульнай колькасці** [642, с. 64–65]

| Канфесія | Узроставыя і палавыя групы | | | | | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 15–19 | 20–24 | 25–29 | 30–39 | 40–49 | 50 і болей | |
| | М / Ж | М / Ж | М / Ж | М / Ж | М / Ж | М / Ж | М / Ж |
| Правасл. | 12,5 / 44,1 | 44,7 / 42,0 | 26,1 / 7,6 | 9,8 / 3,9 | 4,5 / 1,8 | 2,4 / 0,6 | 100 / 100 |
| Каталікі | 1,8 / 36,2 | 30,6 / 46,9 | 37,2 / 9,8 | 22,0 / 5,0 | 6,0 / 1,7 | 2,4 / 0,4 | 100 / 100 |

*Заўвага.* Падлікі аўтара.

Мікрагістарычнае даследаванне Глыбоцкага праваслаўнага прыхода паказала, што сярэдні ўзрост уступлення ў шлюб за 1843–1914 гг. тут прынцыпова не змяняўся і вагаўся каля лічбаў 25 год для мужчын і 22 гады для жанчын [765]. Насельніцтва гэтага прыхода з’яўляецца прыкладам той часткі беларускага сялянства, якое не змяняла кардынальна стратэгіі пабудовы сям’і ў паслярэформенныя гады, хаця, паводле даных польскага даследчыка Эдмунда Пясецкага, у Бейскай парафіі Келецкай губерні Каралеўства Польскага ўзрост уступлення ў шлюб падвышаўся на працягу другой паловы XIX ст.: у 1861–1870 гг. ён складаў 23,5 года для мужчын і 20,86 для жанчын, а ў 1891–1900 гг. – адпаведна 25,24 і 22,38 [869, s. 142–143]. Падобныя змены маглі назірацца ў прыходах, якія ў большай ступені падлягалі гарадскім уплывам.

Шлюбы халастых мужчын з паннамі складалі ў 1870-я гады 74,5 % у Магілёўскай і 72 % у Віцебскай і Мінскай губернях. Болей за чвэрць прыходзілася на шлюбы ўдаўцоў і ўдоваў, прычым апошнім было значна цяжэй знайсці сабе партнёра [621]. Сярод сялян, старэйшых за 30 год, асобы халастога стану сустракаліся ў беларускай вёсцы ў сярэдзіне XIX ст. вельмі рэдка. У традыцыйным сялянскім грамадстве абавязвала правіла, што лепш дрэнна жаніцца, чым ніяк.

Гэта пацвярджаецца і данымі ўсеагульнага перапісу насельніцтва 1897 г. адносна сельскага насельніцтва (табліца 6.7). Напрыклад, ва ўзроставай групе 30–39 гадоў сярод мужчын кавалеры складалі 9,3 %, а панны сярод жанчын – 5,6 %. Сярод асоб старэйшых за 60 год удовы складалі сярод жанчын 30,2 %, а ўдаўцы сярод мужчын – 49,3 %. Паколькі працягласць жыцця на той час была прыкладна аднолькавай у жанчын і мужчын, можна дапусціць, што значная частка мужчын брала шлюбы і ў даволі сталым узросце. Працэнт разведзеных быў вельмі малым,тым не менш ён прысутнічаў у статыстыцы.

Табліца 6.7 – **Сельскае насельніцтва беларускіх губерняў паводле грамадзянскага стану ў 1897 г., %** [684–692]

| Узроставыя групы | Палавыя групы | Грамадзянскі стан | | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Кавалеры і панны | Жанатыя і замужнія | Удаўцы і ўдовы | |
| 15–19 | Муж. | 100,0 | – | – | 100,0 |
| | Жан. | 93,0 | 6,7 | 0,3 | 100,0 |
| 20–29 | Муж. | 54,5 | 45,0 | 0,5 | 100,0 |
| | Жан. | 27,9 | 71,0 | 1,1 | 100,0 |
| 30–39 | Муж. | 9,6 | 89,4 | 1,0 | 100,0 |
| | Жан. | 5,6 | 90,0 | 4,4 | 100,0 |
| 40–49 | Муж. | 3,3 | 93,9 | 2,8 | 100,0 |
| | Жан. | 3,5 | 83,7 | 12,8 | 100,0 |
| 50–59 | Муж. | 2,2 | 88,9 | 8,9 | 100,0 |
| | Жан. | 2,7 | 69,5 | 27,8 | 100,0 |
| 60 і болей | Муж. | 2,2 | 67,4 | 30,4 | 100,0 |
| | Жан. | 3,8 | 40,5 | 55,7 | 100,0 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Істотным паказчыкам развіцця сялянскага грамадства з'яўляліся памеры і тыпы сямей-дворагаспадарак. У сярэдзіне XIX ст. у сялянскім грамадстве пераважалі складаныя сем'і, у якіх налічвалася некалькі шлюбных пар [758]. У паслярэформенны перыяд эвалюцыя памераў сялянскіх дворагаспадарак пачала ісці ў кірунку павышэння ўдзельнай вагі малой нуклеарнай сям'і і скарачэння вагі шматсямейных складаных дворагаспадарак. Напрыклад, мікрагістарычнае даследаванне вёскі Шчанец Гродзенскага павета паказала, што ў 1851 г. тут пераважалі складаныя сем'і, а ў 1897 г. простых нуклеарных і складаных сем'яў налічвалася па 41,1 %, а рэшту (17,8 %) складалі пашыраныя сем'і [758; 498–500].

Паводле матэрыялаў перапісу 1897 г., дворагаспадаркі з колькасцю сямейнікаў 5 і меней асоб (пераважна гэта былі нуклеарныя сем'і) перавышалі 40 % ад агульнай лічбы сямей (без уліку адзінокіх асоб) у сельскай мясцовасці беларускіх губерняў (табліца 6.8). На жаль, немагчыма вылучыць з іх ліку сем'і местачковых яўрэяў і дробнай засцянковай шляхты. Можна меркаваць, што сярод сялян паказчык вялікіх сямей быў вышэйшым. Тэндэнцыя на пашырэнне ўдзельнай вагі малых нуклеарных сямей была звязаная з падзеламі гаспадарак паміж нашчадкамі і ўмацаваннем разумення зямлі як прыватнай уласнасці. Статыстычныя даныя сведчаць, што гэтая тэндэнцыя больш выразна праяўляла сябе ў заходніх Віленскай і Гродзенскай губернях, хаця ў цэлым адрозненні гэтых паказчыкаў паміж беларускімі губернямі выглядаюць невялікімі.

Табліца 6.8 – **Велічыня сямейных дворагаспадарак у сельскай мясцовасці пяці беларускіх губернях ў 1897 г., %** [684–692]

| Губерня | Колькасць членаў сям'і | | | | | | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6–10 | 11 і болей | |
| Віленская | 2,9 | 6,7 | 10,0 | 13,9 | 16,1 | 45,8 | 4,6 | 100,0 |
| Віцебская | 3,0 | 6,1 | 8,8 | 12,6 | 15,1 | 49,1 | 5,3 | 100,0 |
| Гродзенская | 2,9 | 6,2 | 10,0 | 14,2 | 16,7 | 45,5 | 4,5 | 100,0 |
| Магілёўская | 3,2 | 5,6 | 8,8 | 14,0 | 18,2 | 41,7 | 8,5 | 100,0 |
| Мінская | 2,7 | 5,5 | 8,6 | 12,5 | 15,3 | 49,5 | 5,9 | 100,0 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Істотным пытаннем з'яўляецца вызначэнне крытэрыяў выбару шлюбнага партнёра ў сялянскай супольнасці. У апісанні Магілёўскай губерні за 1881 г. сцвярджалася, што ў сялянскіх жаніцьбах самі маладыя мелі мала свабоды выбару: «Сговоры за жениха и невесту идут между стариками <…> о приданном хлопочут мало, им нужны работники и работницы, и потому «хлопцев» спешат женить, а матери дочерей напротив стараются удержать в доме по дольше» [619, с. 482]. Звычайна нявесту для маладога хлопца падбіралі з сям'і прыкладна аднолькавай заможнасці. Гэта не тычылася паўторных шлюбаў, калі пажылыя заможныя ўдаўцы часта жаніліся на маладзейшых, але бедных дзяўчатах. Шлюбы пераважна адбываліся са згоды маладых: «Хлопец ці дзяўчына выбіралі сабе пару пераважна па асабістых сімпатыях. Бацькі, уважаючы на багацце жаніха або нявесты, спрабавалі ўплываць на дзяцей, але вырашала справу ўсё ж

сама моладзь» [777, с. 63]. Некаторыя назіральнікі падкрэсліваюць нязначнасць пачуццёвага боку ў выбары шлюбнага партнёра: «Женятся наши крестьяне большею частью без всякой любви» [276, с. 95].

Аднак асабістыя пачуцці мелі значэнне і браліся пад увагу. Як пісаў Доўнар-Запольскі, эканамічныя меркаванні «не мешают, однако, тому, чтобы браки совершались по влечению молодых» [170, с. 138]. Эма Яленская сцвярджала, што «можа і досыць рэдка, праўдзівае і глыбокае каханне з'яўляецца сярод нашых вяскоўцаў» [844, z. 2, s. 325]. Пазашлюбныя дзеці не былі дыскрымінаванымі ў гэтых адносінах. У праваслаўным Глыбоцкім прыходзе за 1870–1902 гг. адбылося 19 шлюбаў, дзе адзін з маладых (6 жаніхоў і 13 нявест) быў незаконнанароджаным. Гэта складала 1,6 % ад усіх шлюбаў у прыходзе за гэты перыяд (1188). Новай з'явай можна лічыць тое, што сямейныя адносіны паміж сялянамі нярэдка атрымлівалі адпаведнае пісьмовае афармленне. Гэта звычайна датычыла сем'яў, у якія прыходзілі прымакі. Апошнія пісьмова абавязваліся даглядаць бацькоў нявесты да старасці і годна выдаць замуж яе сясцёр, а іх маёмасныя правы ў новай сям'і абараняліся ад пасягальніцтва радні цесця [507, арк. 119].

Верхняя ўзроставая мяжа паміж маладосцю і дарослым векам у вясковым грамадстве не была выразна акрэсленая. З 30 гадоў мужчына ўжо не падлягаў набору ў войска. На пачатку XX ст. пасля рэформы валасных судоў суддзямі маглі быць асобы ва ўзросце не менш за 35 год. Калі мужчына ў такіх гадах яшчэ не быў жанаты, ён ужо ўспрымаўся як дзівак, маргінальная асоба па-за ўзроставай групай. Такіх людзей у вясковых супольнасцях было выключна мала.

У цэлым роля моладзі ў жыцці вясковага грамадства ў паслярэформенны перыяд істотна ўзрасла. Гэта вынікала з усё большай эканамічнай незалежнасці ад сям'і і грамады, з магчымасці скарыстацца альтэрнатыўнымі жыццёвымі перспектывамі. Пашырэнне адукацыі і рост сацыяльнай мабільнасці змянялі светапогляд маладых сялян, павышалі іх асабістую самаацэнку і рабілі непакорлівымі адносна традыцыйных вясковых аўтарытэтаў.

## 6.3. Дарослае жыццё і старасць у сялянскай супольнасці

Для большасці сялян перыяд маладосці заканчваўся пасля вяселля і пачыналася дарослае жыццё, якое складалася найперш з цяжкай штодзённай працы. Свет звычайных рэчаў, якія стагоддзямі акружалі беларускага селяніна, пачаў змяняцца ў паслярэформенныя гады. У сярэдзіне XIX ст. абсалютная большасць патрэбных вясковаму гаспадару і яго сям'і прадметаў, якія ён не мог зрабіць самастойна,

выраблялася рамеснікамі ў межах лакальнай акругі з цэнтрам у мястэчку. Да сярэдзіны XIX ст. жалезныя нарожнікі для сохаў і сякеры – найбольш важныя ў гаспадарцы селяніна металічныя прылады працы – выраблялiся ў архаічных вясковых руднях сялянамі-руднікамі з мясцовай балотнай руды [758, с. 35]. Аналіз апісанняў канфіскацыі сялянскай маёмасці ў часы паўстання 1863 г. паказвае, што ўсе рэчы і прылады працы былі выраблены мясцовымі рамеснікамі [412; 413].

Пасля рэформы 1861 г. хутка і заўважна павысіўся дабрабыт большасці сялян [304]. Этнограф Адам Кіркор пісаў, што многія гаспадары хутка пачалі ўдасканальваць свае гаспадаркі, ужываць новыя тэхналогіі і прылады працы [190, с. 214]. Віленскі чыноўнік А. П. Старажэнка падчас паездкі па Мінскай губерні ў 1865 г. звярнуў увагу на тое, што сяляне паўсюдна ўзводзяць новыя хаты і гаспадарчыя пабудовы: «Везде по селам и застенках на место курных изб, похожих на конуры, строятся большие избы на две половины с печами» [129, арк. 33]. Гэтыя змены былі самым відавочным станоўчым вынікам скасавання паншчыны, якая паглынала шмат фізічных сіл і асабістага часу селяніна.

Але ў цэлым інавацыі ў тэхналогіях працы і побыце прыходзілі павольна. Галоўнай інавацыйнай зменай у земляробчай працы ў другой палове XIX ст. стала замена архаічнай драўлянай сахі жалезным плугам, якая расцягнулася па часе да пачатку Першай сусветнай вайны. У апісанні Мінскай губерні за 1887 г. адзначалася, што «плуг встречается только у помещиков и очень немногих зажиточных крестьян и богатых арендаторов <…> хлеб собирают серпами и почти исключительно женщины» [660, с. 244]. Прычым звычайна сяляне набывалі плугі не фабрычнай вытворчасці, а вырабленыя мясцовымі кавалямі, якія былі таннымі рамеснымі копіямі фабрычных [722, с. 223–258]. Мікалай Улашчык пісаў пра жыхароў вёскі Віцкаўшчына, што ў часе яе заснавання ў 1883 г. сяляне карысталіся характэрнымі прыладамі эпохі прыгону, але пакаленне, якое нарадзілася на пачатку XX ст., пра саху ведала толькі ад старэйшых, паколькі ў вёсцы ўсе ўжо мелі жалезныя плугі [777, с. 54–56].

Паводле падлікаў А. Р. Бухаўца, у 1910 г. у сялянскіх гаспадарках Беларусі жалезныя плугі складалі 36,4 % ад усіх прылад для ўзворвання глебы, а жалезныя і драўляныя з жалезнымі зубамі бораны – 34 % [96, с. 383]. Таксама налічвалася 32 528 сельскагаспадарчых машын, прычым 99,5 % з іх складалі малатарні і веялкі [96, с. 383]. Скарачэнне працоўнага часу селяніна ў выніку ўдасканалення прылад і тэхналогій працы было важнейшым наступствам тэхнічнай мадэрнізацыі вёскі, што ў сваю чаргу, павінна было аказваць уплыў і на штодзённае жыццё яе насельнікаў, і на спецыфіку сацыяльных

адносін. Напрыклад, Мікалай Улашчык адзначаў, што «у тых гаспадарках, дзе былі жняяркі (машыны. – *С. Т.*), аб'ём неабходнай на жніве працы скараціўся прыблізна напалову» [777, с. 59]. Жанчыны ўсё больш вызваляліся ад удзелу ў палявых работах. У выніку яны маглі больш часу прысвяціць дагляду за малымі дзецьмі і выхаванню падлеткаў, а гэта, у сваю чаргу, істотна змяняла працэсы сацыялізацыі дзяцей у вясковай супольнасці. Але з выцясненнем жанчыны-жняяркі мужчынам-касцом на ўборцы зерневых культур пачынае знікаць фальклор, існаванне і развіццё якога было звязана з калектыўнай працай жанчын падчас жніва [868, s. 142–143].

Новыя тэхналогіі дазвалялі селяніну акрамя часу эканоміць і свае фізічныя сілы. Напрыклад, аднаконным жалезным плугам узворвалася за аднолькавы адрэзак часу прыкладна такая ж плошча ворыва, як раней драўлянай сахой, але на гэта трацілася ўжо значна меней фізічных высілкаў. Замена сахі плугам паскорыла і выцясненне канём пары валоў у якасці галоўнай цяглавай сілы ў цэнтральнай і заходняй частках Беларусі, дзе валы да рэформы былі галоўнай працоўнай жывёлай. Хаця ў многіх мясцовасцях валоў з сохамі выкарыстоўвалі да Першай сусветнай вайны і нават пазней [105, с. 190], а ў некаторых вёска першыя плугі пачалі з'яўляцца толькі на пачатку XX ст. [253, с. 373]. У апісанні Сенненскага павета Магілёўскай губерні за 1907 г. гаварылася: «Преобладающим орудием обработки земли у крестьян служит деревянная соха <…> и деревянные бороны, хотя в последнее время более зажиточные хозяева обзаводятся и плугами» [9, с. 118].

Індустрыялізацыя ўваходзіла ў традыцыйную беларускую вёску найперш у выглядзе ўсё большай колькасці жалезных прылад і механізмаў, часта выраблены ужо масавым спосабам на заводах і фабрыках, а таксама самых розных побытавых рэчаў фабрычнай вытворчасці. Этнограф Еўдакім Раманаў адзначаў, што на пачатку XX ст. у выніку паляпшэння цэнавой кан'юнктуры і прытоку наяўных грошай у вясковыя гаспадаркі «крестьянин получил возможность освободить себя от долгих и тяжелых работ по изготовлению холста и сукна и стал покупать на белье и одежду дешевые ситцы, бумазеи, изделия лоздинских фабрик, заменил лапти сопогами»: «Затем явилась возможность улучшить сбрую, приобрести окованную телегу, заменить допотопную соху плугом и т. п. Были, конечно, при этом и пересолы в роде зонтиков, перчаток, лакированных сапог и т. п., но это так извинительно после тысячелетней нищеты» [712, с. 3]. Узгаданыя даследчыкам «перасолы» аднак мелі важную сімвалічную функцыю, сігналізавалі іншым пра жыццёвы поспех вясковага гаспадара.

Такім чынам, фабрычныя рэчы змянялі штодзённасць сялянскага жыцця, што ў сваю чаргу ўплывала на стаўленне сялян, асабліва моладзі, да традыцыйнай вясковай культуры [777, с. 59]. Відавочная перавага прылад прамысловай вытворчасці падрывала прыроджаны кансерватызм вяскоўцаў, пераконвала іх у перавазе знешняй гарадской цывілізацыі над сваёй уласнай, якая ўсё часцей успрымалася многімі сялянамі, як малавартасная і смешная. Гэта мела далёкасяжныя негатыўныя наступствы для традыцыйнай культуры. Прычым заўважныя змены адбываліся адносна вельмі хутка – на працягу жыцця аднаго-двух пакаленняў. І яны вельмі істотна закраналі адзін з галоўных інстытутаў вясковага грамадства – сялянскую сям'ю. У гістарычнай і этнаграфічнай літаратуры часта гаворыцца пра патрыярхальнасць традыцыйнай беларускай сям'і. Пры гэтым маецца на ўвазе дамінуючая роля ў яе функцыянаванні старэйшага мужчыны-гаспадара. Карэспандэнт этнографа П. Шэйна Іван Карскі прыводзіць характэрны, на яго думку, погляд мужчын на сваю прывілеяваную ролю ў тагачаснай сям'і: «Што жонка значыць? Умры ена … то, як то кажа: Бохь за одну, а я за другую. А барани, Божа, якъ мужчына умрэ, да яшчэ господарь, да покине маленьких дзеток – от тоды – то беда до горе, дзетки з голоду поумераюць» [276, с. 95]. Мітрафан Доўнар-Запольскі звярнуў увагу на той цікавы факт, што «в решениях суда (валаснога. – *С. Т.*) нет дел между мужем и женой» [170, с. 136]. Гэта значыла, што тагачаснае вясковае грамадства не лічыла магчымым умешвацца ў гэтую сферу сямейных адносін. Праўда, у канцы XIX – на пачатку XX ст. падобныя справы, хоць і рэдка, але ўсё ж з'яўляюцца ў валасных судах.

Уся праца ў сялянскай гаспадарцы традыцыйна строга падзялялася на мужчынскую і жаночую: «Хозяин даже не возьмет, например, белья сам – должна выдать хозяйка, не станет доставать из печи пищи, сала из бочки и т. д. – выдать должна хозяйка» [170, с. 137]. І хаця галавой сям'і афіцыйна лічыўся гаспадар-мужчына, на практыцы роля жанчыны была вельмі значнай. Доўнар-Запольскі пісаў, што ў «нармальнай» сялянскай сям'і жонка карыстаецца павагай і роўнымі правамі з мужам, а «случаи жестокого обращения мужа с женой чрезвычайно редки и объясняются какими-либо исключительными обстоятельствами» [170, с. 137]. Паводле Эмы Яленскай, у сялянскай хаце часцей кіравала якраз жонка [844, z. 2, s. 329]. Праўда, пры гэтым яна сцвярджала, што дрэннае абыходжанне мужа з жонкай, біццё яе, праклёны і выгнанне з хаты з'яўляюцца рэччу так звычайнай і распаўсюджанай, што нікога не дзівяць і не абураюць, а «мужа, які б не біў сваёй жонкі, лічылі б нянздатным і няўдалым» [844, z. 2, s. 322].

Новай з’явай у жыцці паслярэформеннай вёскі сталі разводы сямейных пар, зрэдку афіцыйныя, часцей нефармалізаваныя. Напрыклад, паводле матэрыялаў перапісу 1897 г., у сельскай мясцовасці Віцебскай губерні налічвалася 89 разведзеных мужчын і 188 жанчын сялянскага стану, у Гродзенскай губерні – 38 мужчын і 79 жанчын, у Магілёўскай – 40 мужчын і 128 жанчын, у Мінскай – 58 мужчын і 90 жанчын. У рэчаіснасці такіх выпадкаў было нашмат больш, але іх юрыдычнае афармленне адбывалася рэдка. Напрыклад, царква магла скасаваць шлюб па просьбе жонкі, калі яе мужа высылалі на катаргу за злачынства супраць рэлігіі [414, арк. 1]. Але звычайна, калі супольна жыць было немагчыма, жонка без усякіх фармальнасцей пакідала хату мужа і вярталася да сваіх бацькоў [758, с. 225]. Напрыклад, дзяўчат-сірот, бацькі якіх памерлі, сваякі насуперак іх волі маглі выдаць замуж. Здаралася, яны пакідалі нелюбімых мужоў і зараблялі на жыццё наёмнай працай у якасці служанак. Падобныя жыццёвыя драмы сустракаліся амаль у кожнай вёсцы. Такія жанчыны фармальна лічыліся замужнімі і не маглі паўторна выйсці замуж да смерці законнага мужа.

Існавала ў беларускай вёсцы і своеасаблівая прастытуцыя, якой звычайна займаліся бедныя жанчыны, адзінокія ўдовы-бабылкі і салдаткі. Для іх такі занятак станавіўся адным са сродкаў выжывання. Гэтыя жанчыны станавіліся аб’ектамі сексуальных дамаганняў, калі ў вёсцы з’яўляліся вайсковыя аддзелы, і такім чынам яны адводзілі патэнцыйную пагрозу ад сем’яў «прыстойных» гаспадароў [54, с. 55]. У паслярэформенную эпоху паводзіны такіх жанчын часам станавіліся сур’ёзнай праблемай для вясковай супольнасці [329]. Галоўнай небяспекай з’яўлялася распаўсюджванне венерычных захворванняў. Аплата лячэння гэтых хваробаў у шпіталі ўскладвалася на вясковую грамаду, нават калі дадзеная асоба даўно ўжо пражывала ў горадзе. Таму былі прыклады, калі сялянскія сходы прымалі пастановы аб высылцы такіх праблемных жанчын у Сібір.

Цяжкай з’яўлялася доля сялянскай жанчыны пасля смерці мужа, калі ў яе не было дзяцей, ці былі толькі дочкі. Тады сваякі мужа маглі прымусіць удаву вярнуцца да сваіх бацькоў. Мітрафан Доўнар-Запольскі прыводзіў прыклад, калі бацькі такой удавы патрабавалі праз валасны сход матэрыяльнай кампенсацыі за працу, выкананую яе дачкой у сям’і свёкра, і валасны суд гэтае патрабаванне задаволіў [170, с. 139]. Але часта было і так, што жанчына ўсё жыццё згодна жыла і працавала ў сям’і памерлага мужа, даглядала і гадавала пляменнікаў.

Самай актуальнай праблемай паслярэформеннай сялянскай сям’і сталі раздзелы, калі бацькоўская зямля і ўся маёмасць драбілася

паміж жанатымі сынамі, якія будавалі сабе асобныя хаты. Раздзелы з'яўляліся галоўнай прычынай унутрысямейных канфліктаў. Мікалай Улашчык пісаў, што бойкі, калецтвы і нават забойствы на гэтай глебе былі справай звычайнай, а мірныя раздзелы, наадварот, з'яўляліся рэдкасцю [777, с. 285]. Земскі спраўнік са Слонімскага павета У. У. Штэйн таксама даваў драматычную ацэнку гэтай з'явы: «Случаи вынужденного раздела участка при жизни главы семьи очень часты, сопровождаются исками детей к родителям и уголовными делами по обвинению детей в насилиях и самоуправствах, причиняемых родителям. В каких резких формах проявляются вражда и распри в семье при жестоких нравах невежественной крестьянской среды, распространяться не приходится» [508, арк. 94 адв.]. У выніку несправядлівых раздзелаў кроўныя сваякі часта станавіліся лютымі ворагамі на ўсё жыццё. Гэта варожасць перадавалася дзецям і магла доўжыцца многія дзесяцігоддзі, што моцна аслабляла калектыўную салідарнасць вясковай грамады і змяншала яе сацыяльны капітал.

Смяротнасць сярод дарослых вяскоўцаў у паслярэформенны перыяд таксама заставалася вельмі высокай. Галоўнай яе прычынай, як сведчаць матэрыялы метрычных кніг, былі інфекцыйныя захворванні, а ў першую чаргу – сухоты. Гвалтоўныя смерці ў паслярэформеннай вёсцы з'яўляліся вялікай рэдкасцю. Напрыклад, мікрагістарычнае даследаванне Глыбоцкага праваслаўнага прыхода за 1870–1877 гг. паказвае, што «неестественные смерти» складалі ўсяго 2,6 % ад агульнай колькасці смярцей за гэты час: 12 жанчын памерлі пры родах, два мужчыны ўтапіліся, аднаго забіла падаючым дрэвам, адзін селянін памёр, рассёкшы сабе ногу сякерай, адзін памёр ад рака (гэтую смерць святар таксама палічыў «неестественной») [758, с. 217].

Істотным пытаннем з'яўляецца сезоннае размеркаванне смяротнасці. Згодна са статыстычнымі данымі па Віцебскай губерні на 1887 г. [642, с. 66–67] сярод праваслаўных жыхароў сельскай мясцовасці максімум смярцей прыходзіўся на сакавік і чэрвень, а мінімум – на кастрычнік і верасень, у той час як сярод каталікоў максімум выразна прыпадаў на студзень, а мінімум – зноў жа на верасень (табліца 6.9).

Па выніках аналізу метрычных кніг Глыбоцкага прыхода за 1843–1914 гг., аказалася, што найменшая колькасць смярцей вельмі выразна прыходзілася тут на верасень-кастрычнік. Максімум таксама выразна прыпадаў на месяц студзень [765]. Гэта магло быць адлюстраваннем спецыфікі лясных вёсак, дзе большасць мужчын зімой займалася цяжкімі работамі па высечцы і вывазу лесу. Такім чынам, жыццё і смерць у вясковым грамадстве па-ранейшаму былі цесна звязаныя з прыродным асяроддзем і цыкламі земляробчай працы.

Табліца 6.9 – **Смяротнасць сярод жыхароў сельскай мясцовасці Віцебскай губерні па месяцах паводле канфесіі за 1887 г. (на тысячу памерлых)** [642, с. 66–67]

| Месяцы года | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| Праваслаўныя | | | | | | | | | | | |
| 90,4 | 88,6 | 101,2 | 79,8 | 83,9 | 95,1 | 97,6 | 83,3 | 54,8 | 66,2 | 73,5 | 85,6 |
| Каталікі | | | | | | | | | | | |
| 127,6 | 101,7 | 94,7 | 86,7 | 75,9 | 70,5 | 75,3 | 69,6 | 63,0 | 74,6 | 80,8 | 79,0 |

*Заўвага*. Падлікі аўтара.

Вялікай праблемай для большасці сялянскіх сямей у паслярэформенны перыяд заставалася дрэннае харчаванне. Паводле падлікаў даследчыкаў Віцебскай губерні, на 1907 г. на душу аднаго селяніна прыходзілася ў год 10,6 пудоў жытняй мукі, 4,2 пуда ячменя, 2,3 пуда аўса, 17,1 пуда бульбы [790, с. 213]. Такая дыета з'яўляецца, паводле сённяшніх стандартаў, вельмі недастатковай. Галоўным яе мінусам быў востры недахоп тлушчаў, паколькі мясныя і малочныя прадукты ў сялянскім рацыёне былі прадстаўлены вельмі сціпла.

У першыя паслярэформенныя гады ў цэлым на нізкім узроўні знаходзілася асабістая гігіена вясковага насельніцтва. Павел Баброўскі пісаў, што сяляне «питают сильное отвращение к купаньям, столь полезным в гигиеническом отношении, и к баням» [47, с. 590]. Эма Яленская сцвярджала, што вяскоўцы нават не распранаюцца, калі кладуцца спаць: «Увогуле, чысціня да гэтага часу лічыцца (сярод сялян. – *С. Т.*) святочнай аздобай, а не штодзённай патрэбай» [844, z. 2, s. 316, 318]. Але гэтая ж аўтарка ўзгадвала, што ў яе воласці ўжо дзейнічалі грамадскія лазні. Іван Карскі пісаў адносна сялян Гродзеншчыны: «<…> несмотря на отсутствие в наших селах бань, крестьяне и крестьянки наши всегда однако чистоплотны и опрятны» [276, с. 66]. У апісанні Сенненскага павета Магілёўскай губерні за 1907 г. таксама сцвярджалася, што «бани-лазни» в деревнях редки и без всяких удобств» [9, с. 108]. Адносна сялян Віленскай губерні аўтары «Виленского временника» пісалі: «Более состоятельные крестьяне имеют баню, которая обыкновенно строится в поле, в стороне от гумнища. Ею пользуются и соседи односельцы, менее зажиточные за известные услуги» [73, с. 139]. Пачынаюць з'яляцца ў вясковых хатах ложкі. У якасці выключнай з'явы Доўнар-Запольскі прыводзіць факт, што ў хаце аднаго заможнага селяніна ён сустрэў два ложкі і шафу для адзення: «Но это роскошь, свойственная в исключитель-

ных случаях зажиточному крестьянину, побывавшему где-либо на заработках или в солдатах» [170, с. 142].

Як сцвярджаюць шведскія антраполагі Д. Фрыкман і О. Лофгрэн, мыццё цела ў традыцыйнай сялянскай культуры мела рысы рытуалу [838, s. 188–189]. Сяляне мыліся звычайна раз у тыдзень з пэўных канкрэтных прычын – паход у царкву, на рынак і да т. п., а не з гігіенічнымі мэтамі. Калі хто мыўся часцей, дык мог выклікаць неадабрэнне і нават асуджэнне з боку аднавяскоўцаў. Больш таго, бруд (у межах дапушчальнага) нават разглядаўся як з'ява пазітыўная, якая дае чалавеку пэўную абарону перад холадам, камарамі і г. д. Селянін не павінен быў быць занадта чысты, як пан ці гарадскі чалавек. У другой палове XIX – на пачатку XX ст. у гэтай сферы вясковага жыцця пачынаюць адбывацца істотныя і пазітыўныя (з пункту гледжання сучасных уяўленняў пра гігіену) змены, звязаныя з будаўніцтвам і функцыянаваннем грамадскіх і прыватных лазняў, выкарыстаннем мыла і г. д.

У апісаннях знешняга выгляду беларускага селяніна паслярэформеннага часу назіраецца павольны адыход ад устойлівых штампаў забітасці, прыгнечанасці, фізічнай слабасці і разумовай адсталасці, якімі былі насычаны тэксты дарэформеннага перыяду і першых паслярэформенных гадоў. Напрыклад, Мітрафан Доўнар-Запольскі пісаў пра жыхароў Мазыршчыны: «Женщины и мужчины одеты чисто, имеют бодрый вид; о пресловутой загнанности белоруса здесь не может быть помину» [170, с. 149]. Прычым ён асабліва адзначаў мясцовых мужчын: «Особенно красивых встречал я мужчин: высокого роста, с русой окладистой бородой, придающей лицу особенную степенность, солидность, с голубыми умными глазами» [170, с. 149]. Іншы погляд бачым у Эмы Яленскай, якая захаплялася прыгожосцю, паставай і розумам жанчын Мазырскага павета, але ніжэй ацэньвала якасці мужчынскай часткі насельніцтва: «Мужчыны маюць большую дозу той агіднай прыніжанасці адносна тых, якіх лічаць лепшымі за сябе, кланяюцца ў пояс, пакорна трымаюцца сагнутымі і ўвогуле з'яўляюцца менш размоўнымі і больш дзікімі, чым кабеты» [844, z. 2, s. 321]. Тут маем справу з двума адрознымі падыходамі да разгляду сялянскай супольнасці. Доўнар-Запольскі прэзентаваў першыя праявы беларускага нацыянальнага дыскурсу, які шукаў у сялянскай культуры здаровыя, прывабныя элементы, на якіх мог бы грунтавацца беларускі нацыянальны праект, адным з творцаў якога і стаў пазней гэты даследчык. Эма Яленская прэзентавала «панскі», шляхецкі погляд на сялянства, дакладней сказаць, яго ліберальную, добразычлівую адносна сялян версію. У рамках гэтага дыскурсу сяляне павінны былі выглядаць трохі смешнымі, наіўнымі, прыгнечанымі

дзяржаўнымі чыноўнікамі, па сутнасці дзецьмі, якім патрэбна апека з боку асвечанага панства, лепшая, чым апека расійскай улады.

Змяняецца таксама вопратка жыхароў вёскі. Хаця адыходніцтвам займаліся больш мужчыны, як адзначыў Доўнар-Запольскі, жанчыны першымі засвойвалі новыя «гарадскія» ўзоры: «<…> в Дерновичской волости женский наряд совершенно такой, какой носят в городах женщины рабочего класса <…> Только кички и косынки, виднеющиеся из-под платков, и составляют традиционный остаток белорусского костюма» [170, с. 139–140]. Праўда, адносна іншай ужо мясцовасці гэты ж аўтар піша, што «перехода к новшествам в одежде не замечается, везде придерживаются своей, национальной» [170, с. 184]. У «Памятнай кніжцы Віцебскай губерні на 1881 г.» таксама гаварылася: «В последнее время однакож, белорусы начали сильно пристращаться к пестрым, ярких цветов юбкам и платкам, да и у мужчин появились цветные, даже кумачевые рубахи, короткие свитки и цветные панталоны» [638, с. 127].

Еўдакім Раманаў адзначаў на пачатку XX ст., што «не далее двадцати лет назад, одежда белорусских женщин была однообразна и характерна», але «в настоящее время одежда женщин в вышеописанном виде осталась только в глухих селениях, отдаленных от больших городов и весьма бедных» [711, с. 25–26]. Мікалай Нікіфароўскі пісаў пра сялян Віцебскай губерні, што традыцыйнае адзенне і абутак паўсюдна знікаюць, а таму перад вачыма назіральніка беларускай вёскі паўстае цяпер «стрекатая, а не белая толпа» [560, с. 53]. У апісанні Сенненскага павета Магілёўскай губерні за 1907 г. гаварылася, што сялянскія дзяўчаты «одеваются наряднее, применяясь к городским, часто уродливым костюмам» [9, с. 107]. Праваслаўны святар Аляксей Ваўкавыцкі з Бельскага павета адзначаў пра сваіх прыхаджан, што яны вызначаюцца чысцінёй, акуратнасцю і «даже некоторым щегольством», на святы апранаюцца ў адзенне з купленай у крамах і пашытай па новай модзе тканіны. Прычым жанчыны на «свои чепки да фартушки тратят все деньги, выручаемые от продажи яиц (бабский доход)». На тых сялян, якія не жадалі траціцца на новае адзенне, нават аказваўся маральны ціск з боку супольнасці: «Не честь тому, кто не разоденется в церковь» говорит наш народ» [880, s. 62, 64]. Гэтыя новаўвядзенні ў вопратцы часта выклікалі незадаволенасць старэйшага пакалення, якое ўсведамляла сябе захавальнікам і абаронцам традыцыі. Праваслаўны святар Дзем'яновіч са Слонімскага павета Гродзенскай губерні пісаў пра «упреки старушек молодежи, что та носит платки, а не намитки [276, с. 368]. Але на гэтыя папрокі маладыя сяляне звярталі ўсё менш увагі, а вёска ўсё больш ахвотна адкрывалася на знешні «гарадскі» свет, які выглядаў для яе вельмі

прываблівым. І гэта было характэрным не толькі для моладзі, але і для сярэдніх пакаленняў сялянскага соцыуму [105, с. 182].

Убранства сялянскіх хат змянялася марудней, чым адзенне вяскоўца. Мітрафан Доўнар-Запольскі адзначаў, што ў хатах палешукоў амаль няма ўпрыгожванняў, апроч абвешаных ручнікамі абразоў [170, с. 142]. Еўдакім Раманаў таксама адзначаў, што галоўным упрыгожваннем хаты з'яўляюцца абразы, прычым са з'яўленнем танных вырабаў масавай вытворчасці апошнія пачалі выцясняць мясцовыя, напісаныя на дрэве: «Яркость цветов – необходимая принадлежность икон, почему картины с яркой окраской и стали заменять иконы, писанные на дереве» [711, с. 15–16].

Хаця дарослыя вяскоўцы амаль штодзённа былі занятыя цяжкай працай, але ў паслярэформенныя гады ў сялян усё ж з'явілася значна больш вольнага часу, чым пры паншчыне. Асабліва гэта тычылася мужчын у перыяды, вольныя ад палявых работ. Доўнар-Запольскі нават ужываў тэрмін «деревенское убивание времени» [170, с. 144]. Найгоршым было тое, што вольны час нярэдка «забіваўся» спажываннем гарэлкі. Эма Яленская малюе проста трагічны выгляд беларускай вёскі ў гэтым адносінах: «Пьянства – гэта праўдзівая бяда нашых вёсак. Пьюць усе, маладыя, старыя, мужчыны і кабеты. Большая частка зробленых грошай ідзе на гарэлку» [844, z. 2, s. 493]. Падобныя назіранні сустракаем і ў Доўнар-Запольскага, які сцвярджаў, што цэлыя вёскі і нават воласці ахоплены п'янствам, як эпідэмічнай хваробай, хаця, з другога боку, у іншых вёсках яно лічыцца вялікім злом [170, с. 196]. Але ў цэлым сітуацыя са спажываннем алкаголю ў паслярэформеннай вёсцы ўсё ж паступова паляпшалася [349].

Галоўным месцам спажывання алкаголю была карчма, якая заставалася і асноўнай публічнай прасторай у вясковай супольнасці [276, с. 110]. Іван Карскі сцвярджаў, што «карчма для беларуса и биржа, и, так сказать, справочная контора и клуб» [276, с. 102]. Падобны погляд у апісанні Барысаўскага павета за 1866 г. выказваў і дзяржаўны чыноўнік: «Корчма это сборное место для крестьян, не только в праздники, но и в будни по вечерам, хотя не все пьют там <…> крестьяне ходят в корчмы, как они называют, погаманить, поговорить; там расказываются разные вещи, передаются новости, назначаются рандеву <...> корчма – это клуб, биржа, кафе, словом все, что хотите» [633, с. 96]. Мікалай Нікіфароўскі заўважаў новую небяспечную тэндэнцыю, што «белорусская корчма мало по малу теряет свой характер, свое общественное значение в сельском быту и становится исключительно притоном для широкого пьяного разгула» [276, с. 111]. Корчмы і шынкі ўсё часцей станавіліся месцам збору асоб з бандыцкай рэпутацыяй, месцам, дзе не варта прысутнічаць

жанчынам і дзецям, што раней было абсалютна нармальным. Там усё чацей адбываліся бойкі, панажоўшчына. Аднак гэты працэс трансфармацыі функцый карчмы быў вельмі павольным, паколькі вясковыя грамады доўгі час былі ў стане кантраляваць дэвіянтных індывідаў. Эма Яленская пісала, што забойствы і разбой заставаліся выключнай рэдкасцю ў сялянскім асяродддзі ў яе мясцовасці [844, z. 2, s. 492]. Даследчыца адзначала, што сяляне ніколі не замыкаюць дзвярэй у сваіх хатах [844, z. 2, s. 492].

Прынцыпова новай пазітыўнай з'явай у баўленні вольнага часу сялян у паслярэформенны перыяд стала чытанне кніжак. Праўда, Эма Яленская пісала, што ёй асабіста ніколі не давялося ўбачыць, каб хтосьці чытаў, альбо сустрэць у сялянскай хаце якую-кольвек кніжку: «Здаецца мне, што чытанне па-за школай з'яўляецца рэччу зусім не практыкуемай. Сумняюся, што знойдзецца ў вёсцы дзесяць дарослых людзей, якія змогуць падпісацца, а пра напісанне ліста і размовы быць не можа» [844, z. 2, s. 487]. Але і Адам Багдановіч, і Мікалай Улашчык прыводзяць прыклады, калі сяляне калектыўна чыталі кнігі (дакладней, чытаў уголас звычайна хтосьці адзін) і абмяркоўвалі прачытанае. На пачатку ХХ ст. гэтая з'ява калектыўнага чытання сустракалася амаль у кожнай вёсцы і аказвала істотны ўплыў на развіццё самасвядомасці сялян, іх светапогляд. Кніга становіцца вельмі важным фактарам змен у вясковым жыцці. Яе сусвет з'яўляецца часава і прасторава неабмежаваным, і гэтая якасць кнігі прыводзіць да сапраўднай рэвалюцыі ў жыцці непісьменных людзей, замкнёных у абмежаванай сацыякультурнай прасторы. Без кніжкі прынцыпова не магчымым быў пераход ад лакальнай супольнасці да надлакальнага свету нацыянальнай культуры [823, s. 460; 826, s. 61].

Разам з тым беларуская вёска ў паслярэформенны час заставалася ў цэлым даволі кансерватыўнай, як і кожная традыцыйная сялянская супольнасць, і часам упарта супраціўлялася зменам. Прычым нават такім зменам, якія павінны былі дапамагаць сялянам у вядзенні гаспадаркі і аблягчыць іх цяжкую фізічную працу. Мітрафан Доўнар-Запольскі пісаў, што яму часта даводзілася сустракацца з гаспадарамі, якія, нават не ведаючы сутнасці тэхнічнага наваўвядзення, адразу «стараются изобретать всякие аргументы для того, чтобы доказать его негодность» [170, с. 144]. Эма Яленская таксама адзначала, што «люд палескі яшчэ мала верыць у дабрачынны ўплыў цывілізацыі і староніцца ад усяго, што з'яўляецца навіной» [844, z. 2, s. 493]. Яна прыводзіла прыклады, як сяляне адмаўляліся ў панскім двары працаваць з механічнай касілкай і са страхам жагналіся, убачыўшы пана, які ехаў на ровары.

У традыцыйным сялянскім грамадстве праца мае, па сутнасці, сакралізаваны характар, успрымаецца як пэўнае магічнае дзеянне. Менавіта таму ў сялянскай гаспадарцы часам так цяжка прыжываліся розныя тэхнічныя наваўвядзенні, якія падрывалі гэтую сакральнасць. Мікалай Улашчык пісаў, як неахвотна сяляне ў яго вёсцы пераходзілі да ўжывання круп, абадраных на механічным, а не на ручным млыне, а куццю на Каляды доўга яшчэ гатавалі традыцыйным спосабам у ступах [777, с. 61]. Страх перад новымі з'явамі часамі выяўляў сябе самым дзіўным чынам. Адам Багдановіч успамінаў, што калі ўлады праводзілі ў яго мясцовасці тэлэграфную лінію, дык сяляне патрабавалі, каб яе працягнулі падалей ад вёскі, а калі ад іх просьбы адмахнуліся, дык падпілавалі слупы, а на судзе апраўдваліся: «Нашы дзеды и прадзеды не знали, каб мима свянцоных дамоу чэрци летали» [54, с. 61]. Цікавым прыкладам з'яўляецца выпадак з паветраным шарам, які расійскія вайскоўцы запусцілі ў палёт з двума афіцэрамі «воздухоплавательного отделения» 30 жніўня 1898 г. з Коўна. Прызямліўся ён на тэрыторыі Ігуменскага павета Мінскай губерні. «Воздухоплаватели» паскардзіліся, што па шару тройчы стралялі з дубальтовак мясцовыя сяляне: «<...> в местечке Рубежевичи, второй – около болота Большое Вьюжнево, и, наконец, при спуске шара около Каменки крестьянин тоже хотел стрелять, но отказался от своего намерения вследствие испуга от выброшенного мешка с балластом». Каля Рубяжэвічаў страляў дробны шляхціч Катлоўскі, які, паводле яго слоў, «принял означенный шар за чудовище» [348, арк. 295–298].

Падобная рэакцыя на новыя незвычайныя з'явы была абсалютна тыповай для прадстаўнікоў традыцыйнага грамадства. Пры тым, што ў паслярэформенны час большасць жыхароў беларускай вёскі па-ранейшаму не пакідала межаў свайго лакальнага свету і мала што ведала пра далёкія краіны. Часта гэтыя ўяўленні былі вельмі блытанымі і проста фантастычнымі. Пра далёкія народы прыдумваліся самыя неверагодныя небыліцы [844, z. 2, s. 488]. Салдаты, якія вярталіся з войска, распавядалі аднавяскоўцам пра чужыя краіны, дзе ім давялося пабываць. Колькасць такіх падарожнікаў у вёсцы ўвесь час узрастала, і больш-менш аб'ектыўныя веды пра далёкі свет, хаця і павольна, але пашыраліся ў вясковым асяроддзі.

Старасць спрадвеку з'яўлялася самым цяжкім адрэзкам жыцця чалавека ў сялянскім грамадстве. Пачыналася яна тады, калі асоба з прычыны ўзросту не была ўжо ў стане паўнавартасна працаваць. У інвентарах панскіх маёнткаў прыгонных часоў мужчыны абавязаны былі хадзіць на паншчыну да 55 гадоў, а жанчыны – да 50. А на згоны ці гвалты на панскі палетак усім трэба было выходзіць да 60 гадоў.

У метрычных кнігах, калі чалавек паміраў пасля 60 год, то прычынай смерці часта пазначалася старасць. У першыя паслярэформенныя гады гэтыя параметры старасці прынцыпова не змяніліся. А дажыць да яе па-ранейшаму ўдавалася нямногім сялянам. Аднак адносная вага старэйшых людзей ва ўзроставай структуры грамадства хаця і павольна, але няўхільна ўзрастала.

Паводле даных X-й рэвізіі 1858 г. у Гродзенскай губерні, сярод дзяржаўных сялян мужчынскага полу асобы, старэйшыя за 60 год, складалі 2,8 %, а сярод прыватнаўласніцкіх – 2 % [49, с. 144]. Паводле ж даных перапісу 1897 г., асобы за 60 год узростам складалі ў сельскай мясцовасці Гродзенскай губерні 6,2 %. Прыблізныя лічбы бачым і адносна іншых беларускіх губерняў: Віленская – 6,9 %, Віцебская – 7,1 %, Мінская – 6,3 %, Магілёўская – 6,3 % [684–692]. Але гэтыя даныя датычыліся не толькі сялян, але яўрэйскага насельніцтва мястэчка, а таксама дробнай шляхты. Адносна ж сялян, азначаны паказчык напэўна быў ніжэйшым. Так, у Віцебскай губерні ў 1907 г. сярод мужчынскага сялянскага насельніцтва асобы, старэйшыя за 60 год, складалі 4,6 % [790, с. 31].

Сцверджанне пра рост удзельнай вагі старэйшых жыхароў пацвярджаецца данымі аналізу царкоўных метрычных кніг на мікраўзроўні. За 1860–1872 гг. у Глыбоцкім прыходзе памерлі 786 чалавек. Дзяцей да 5 год сярод іх было 414 (52,7 %), дзяцей ад 5 да 15 год – 71 (9 %), асоб ва ўзросце ад 15 да 60 год – 230 (29,2 %), старэйшых за 60 год – 71 асоба (9 %). За 1910–1914 гг. у гэтым прыходзе памерлі 393 чалавека, сярод іх дзяцей да 5 год было 197 (50 %), ад 5 да 15 год – 28 (7,1 %) асоб ва ўзросце ад 15 да 60 год – 101 (25,7 %), старэйшых за 60 год – 67 асоб (17 %) [765]. Гэта дазваляе гаварыць пра рост удзельнай вагі старэйшых людзей у беларускай вёсцы, што было сведчаннем паляпшэння ўмоў жыцця і зніжэннем узроўню смяротнасці сярод асоб сярэдняга ўзросту.

Стаўленне да старых з боку іх родных і сваякоў у сялянскім грамадстве часта было жорсткім і прагматычным. Ад іх патрабавалі працаваць, не зважаючы на век і стан здароўя. Доўнар-Запольскі ў сваім апісанні Палесся ўзгадваў пра сустрэчу з бабуляй, вядомай у сваёй мясцовасці казачніцай і шаптухай, якая прыйшла ў валасць скардзіцца на ўласных унукаў: «Слепа, паночку, стала, совсем ничего не вижу, а внук гонит на работу: иди, старая» [170, с. 180]. У асаблівай ступені жорсткае стаўленне да старых датычыла бедных сямей, якія балансавалі на мяжы голаду. У такіх сем’ях старыя часам былі вымушаныя пакідаць свае хаты і жабраваць па ваколіцы. На нарадзе маршалкаў шляхты і міравых пасярэднікаў Гродзенскай губерні ў 1899 г. сцвярджалася: «Чувство сострадания вообще слабо развито

в крестьянской среде <…> достаточно указать на примеры изгнания детьми из дому престарелых родителей» [236, с. 34].

Аднак у паслярэформенны перыяд гэтая традыцыя выгнання старых з хаты ўжо выклікала канфлікты, якія вырашаліся валаснымі судамі. Напрыклад, у красавіку 1897 г. селянін Даніла Сурмейка з вёскі Хвайняны Скідзельскай воласці скардзіўся гродзенскаму губернатару, што больш за сем гадоў жабраваў, але цяпер яму споўнілася 70 год, а таму «не имею силу таскаться по миру, а с ним вместе жить никак не возможно, ибо он (сын. – *С. Т.*) готов мне забить». Даніла прасіў губернатара абавязаць сына даваць яму «сколько полагается человеку» і апеляваў да таго факту, што з'яўляецца ўласнікам надзелу зямлі, які абрабляе яго сын, а таму на правах уласнасці можа аддаць гэты надзел кожнаму іншаму і жыць за кошт арэнднай платы. У дадзеным выпадку маем справу з цікавым прававым казусам, калі традыцыя сутыкалася з новачаснымі прававымі нормамі. Валасны суд абавязаў сына даваць Данілу на год 4 пуды жыта, 2 пуды ячменя, пуд грэчкі, пуд аўса, 12 пудоў бульбы і 10 фунтаў сала. Можна падлічыць, што на дзень выходзіла прыкладна 12 грамаў сала, 350 грамаў зерня і 0,5 кг. бульбы. Столькі, як тады лічылася, павінна было хапіць старому чалавеку для пражыцця [431, арк. 1–9]. Зрэшты, малодшы Сурмейка і гэтымі прадуктамі не быў у стане забяспечыць старога бацьку (гэта датычыла сала), і валасное праўленне пагадзілася цярпець такі стан рэчаў да новага ўраджаю.

Такія выпадкі ў паслярэформенны час у сялянскім асяроддзі здараліся ўсё ж вельмі рэдка. Эма Яленская сцвярджае, што звычайна дзеці даглядалі за бацькамі да самай смерці: «Ніколі не чула, каб ім адмаўлялі ў ежы, адзенні ці ў цёплым куце» [844, z. 2, s. 493]. Клопат пра старых, якія не маглі ўжо працаваць і нават даглядаць за сабой, лічыўся ў сялянскім грамадстве справай вартай павагі і пахвалы. Павышэнне ўдзельнай вагі старэйшых людзей прыводзіла да якасных змен у жыцці сялянскіх супольнасцей. Па-першае, гэта ўзмацняла лакальную гістарычную памяць вясковай грамады, носьбітамі і захавальнікамі якой былі старыя. Па-другое, многія старэйшыя асобы, каб заставацца карыснымі для сям'і, бачылі сваёй функцыяй клопат пра малых дзяцей – унукаў. У першую чаргу гэта датычыла бабуляў, пра што, напрыклад, пісаў Мікалай Нікіфароўскі [558, с. 2]. І гэта выхаванне станавілася важным урокам гуманізму і дабрыні для маленькіх сялян, закладвала асновы іх светапогляду і прынцыпы стаўлення да людзей і акаляючай рэчаіснасці.

У штодзённым жыцці беларускага сялянства ў паслярэформенны перыяд адбыліся істотныя змены. Палепшыліся побытавыя ўмовы для большасці вяскоўцаў, змянілася стаўленне да асабістай гігіены.

На пачатку XX ст. гэта праявілася ў заўважным зніжэнні паказчыкаў смяротнасці. Пачала паволі зніжацца і нараджальнасць, што сведчыла пра пачатак пераходу да сучаснай мадэлі дэмаграфічнага развіцця грамадства. У вясковую штодзённасць усё часцей траплялі рэчы, якія з'яўляліся прадуктамі індустрыяльнай прамысловасці, а таксама і людзі, якія выступалі носьбітамі новых ідэй і каштоўнасцей. Гэта прыводзіла да ўзмацнення індывідуалізму ў сялянскіх супольнасцях, да большай незалежнасці асобы ад сям'і і вясковай грамады. Калі адразу пасля скасавання паншчыны роля вялікай складанай сям'і ўзрасла, дык пазней з прычынаў малазямелля і раздзелаў гаспадарак назіраецца тэндэнцыя ў кірунку пераходу да мадэлі малой нуклеарнай сям'і. Нарастаюць праявы сацыяльнай дэзарганізацыі вясковых грамад, якія выяўляюцца ў адмаўленні падпарадкавання традыцыйным аўтарытэтам і старэйшым гаспадарам з боку моладзі, зараджэнні арганізаванай прафесійнай злачыннасці, пашырэнні сацыяльнага і рэлігійнага радыкалізму. Традыцыйная культура пачала паступова распадацца пад уплывам іншых культурных узораў, якія падаваліся сялянам больш прываблівымі. Вяскоўцы, асабліва моладзь, адмаўляліся ад традыцыйных абрадаў і рытуалаў, змянялі вопратку і стыль паводзін. Гэтыя працэсы адбываліся павольна, паколькі старэйшае пакаленне звычайна трымалася традыцыі і працівілася пераменам.

## Заключэнне

1. Ключавым працэсам у дынаміцы надзельнага сялянскага землеўладання ў паслярэформенны перыяд сталася драбленне сямейных надзелаў у выніку падзелу гаспадарак паміж нашчадкамі. На пачатку XX ст. колькасць сялянскіх дворагаспадарак у беларускіх губернях вырасла больш за два разы ў параўнанні з 60-мі гадамі XIX ст. Толькі невялікая частка сялянскіх надзелаў з часу аграрных рэформаў у 1860-я гады захавалася ў першапачатковым выглядзе да 1914 г. Галоўным фактарам дыферэнцыяцыі надзельнага землеўладання выступаў імклівы дэмаграфічны рост. Пераразмеркаванне надзельнай зямлі паміж гаспадарамі ўнутры вясковых грамад у цэлым не адыгрывала істотнай ролі ў працэсах маёмаснай дыферэнцыяцыі сялянства, хаця гэтая з'ява магла мець пэўнае значэнне ў тых рэгіёнах, дзе найбольшага размаху дасягнуў працэс перасялення сялян у Сібір і на Далёкі Усход, які суправаджаўся продажам перасяленцамі надзельнай зямлі сваім аднавяскоўцам.

Важным паказчыкам маёмаснай дыфэрэнцыяцыі ў паслярэформеннай вёсцы з'яўлялася набыццё сялянамі зямлі ў прыватную ўласнасць. На пачатку XX ст. прыкладна каля 15 % сялянскіх гаспадарак (гэтая лічба магла істотна змяняцца ў розных рэгіёнах Беларусі) мелі купленую зямлю. Невялікая група выхадцаў з сялян (каля 0,2 % усіх гаспадароў на пачатку XX ст.) набыла землеўладанні памешчыцкага тыпу (больш за 100 дзес. зямлі). Таксама адносна невялікая група (каля 10 % прыватных пакупнікоў і каля 2 % ад усіх гаспадароў) валодала зямельнымі ўчасткамі плошчай ад 20 да 100 дзес., якія дазвалялі весці гаспадарку фермерскага тыпу, арыентаваную на рынак і атрыманне прыбытку. Правядзенне сталыпінскай рэформы на пачатку XX ст. дало штуршок развіццю і стабілізацыі такіх гаспадарак. Аднак прыкладна ¾ сялянскіх гаспадарак у той жа час не маглі забяспечыць мінімальныя жыццёвыя патрэбы сялян за кошт унутраных рэсурсаў і практычна не мелі перспектыў развіцця. Дакладныя статыстычныя даныя адносна дынамікі і колькасці беззямельных жыхароў у беларускай вёсцы адсутнічаюць. Можна сцвярджаць, што яна вагалася каля 5–10 % ад агульнай колькасці сялян у розных рэгіёнах і істотна не змянілася на працягу ўсяго даследуемага перыяду, паколькі сяляне адчайна трымаліся за сваю зям-

лю, а калі і прадавалі яе, дык для таго, каб назаўсёды пакінуць родную вёску і перасяліцца ў горад.

2. У паслярэформеннай беларускай вёсцы не назіралася вострага сацыяльнага канфлікту паміж рознымі маёмаснымі групамі сялян, хаця эканамічныя і сацыяльныя супярэчнасці (найперш звязаныя з размеркаваннем падаткаў і выкананнем натуральных павіннасцей) паміж імі існавалі і ўвесь час праяўляліся. Найчасцей канфлікты здараліся адносна прыняцця стратэгіі і тактыкі ўзаемаадносін вёскі з буйнымі землеўладальнікамі і дзяржаўнай уладай, паколькі заможнае сялянства імкнулася да пошукаў кампрамісу з памешчыкамі і было больш лаяльным у стасунках з уладамі, а бяднейшыя сяляне часцей схіляліся да радыкальных сілавых дзеянняў у абароне інтарэсаў вёскі. Аднак выявіць гэтую карэляцыю паміж маёмасным статусам гаспадароў і іх палітычнай пазіцыяй вельмі складана. Нельга таксама гаварыць пра эканамічную эксплуатацыю бяднейшых сялян заможнымі гаспадарамі ў беларускай вёсцы, як масавую і характэрную з'яву, пра што сведчыць нязначная колькасць судовых спраў адносна гэтага пытання. Звычайна багацейшыя сяляне наймалі настала парабкаў, каб замяніць імі працу сваіх дзяцей, аддадзеных у навуку. Узаемаадносіны гаспадара з парабкам рэгуляваліся традыцыяй, якая не дапускала прыгнёту. У сацыяльна-культурным плане адносна вобразу і стылю жыцця беларускае сялянства на працягу ўсяго даследуемага перыяду заставалася ў цэлым дастаткова аднароднай сацыяльнай групай, хаця сярод заможнага сялянства быў вышэйшым паказчык пісьменных асоб і больш высокі працэнт дзяцей у гэтай групе наведваў навучальныя ўстановы. Але новыя элементы побытавай культуры і нормы паводзін у вясковае жыццё часта прыносіліся бяднейшымі сялянамі, якія вярталіся з аддаленых заробкаў.

3. Сялянскае саслоўнае самакіраванне, створанае ў выніку рэалізацыі рэформы 1861 г., функцыянальна замяніла сабой уладу панскага двору і з самага пачатку мела дваісты характар. На практыцы яно ў большай ступені ўяўляла сабой ніжэйшае звяно дзяржаўна-бюракратычнага апарату, чым прадстаўнічы орган лакальнай сялянскай супольнасці, што вынікала з жорсткай падпарадкаванасці сялянскіх выбарных устаноў дзяржаўным чыноўнікам (міравым пасрэднікам, земскім начальнікам, паліцыі) і тымі задачамі, якія ўскладаліся на сялянскія ўстановы (у першую чаргу забеспячэнне выканання сялянамі дзяржаўных павіннасцей). Гэта спараджала праблему карупцыі сярод выбарных асоб, што падмацоўвалася непісьменнасцю, нізкай прававой культурай і невысокай сацыяльнай актыўнасцю большасці вясковага насельніцтва, асабліва ў першыя паслярэформенныя дзесяцігоддзі. Але наяўнасць самога інстытута выбараў, інстытута валасных і сельскіх сходаў з магчымасцю абмеркавання шырокага (хаця і

абмежаванага заканадаўствам) кола пытанняў павышалі сярод сялян зацікаўленасць праблемамі мясцовага жыцця, прыводзіла да з’яўлення канкурэнцыі ў барацьбе за ўладу на лакальным узроўні. Валасныя і сельскія ўстановы выконвалі шматлікія і вельмі важныя для мясцовай супольнасці задачы ў развіцці школьніцтва, медыцынскай дапамогі, добраўпарадкаванні вёсак і паляпшэнні санітарна-гігіенічных умоў штодзённага жыцця сялян. Нягледзячы на саслоўны характар і залежнасць ад дзяржаўнай бюракратыі сялянскае самакіраванне стала адным з важнейшых мадэрнізацыйных фактараў у развіцці паслярэформеннай беларускай вёскі.

Значную ролю ў развіцці паслярэформеннай беларускай вёскі адыгрывалі ўзаемадачыненні сялян з іншымі сацыяльнымі групамі сельскага насельніцтва. Апошнія не маглі непасрэдна ўдзельнічаць ў сялянскім самакіраванні, што абмяжоўвала магчымасці інтэграцыі лакальных супольнасцей. Яўрэйскае мяшчанства дамінавала ў сферы гандлю, а яго прадстаўнікі арганізоўвалі і падтрымлівалі сувязі сялянскіх гаспадарак з рынкам. Сацыяльна-культурныя ўаемадачыненні сялян-беларусаў з яўрэямі з’яўляліся ў цэлым прыязнымі і талерантнымі, але з захаваннем выразных межаў і падзелаў, абумоўленым этнічнымі і рэлігійнымі традыцыямі. Дробная засцянковая шляхта прытрымлівалася стратэгіі сацыяльна-культурнага дыстанцыравання ад сялян і імкнулася вызваліцца з-пад валаснной улады. Аднак некаторыя нормы паводзін, тыповыя для прадстаўнікоў гэтай сацыяльнай групы, асабліва ў сферы сямейнага жыцця, пераймаліся сялянамі, а ў першую чаргу – вяскоўцамі каталіцкага веравызнання.

Вялікае значэнне для развіцця паслярэформеннай вёскі мелі ўзаемадачыненні сялянства з памешчыкамі-землеўладальнікамі. Апроч эканамічных супярэчнасцей (у першую чаргу вострая канкурэнцыя за зямельныя рэсурсы) паміж сялянамі і памешчыкамі існавала вялікая культурная дыстанцыя, якая зводзіла да мінімуму магчымасці супрацоўніцтва ў гаспадарчай сферы, а таксама магчымасці фінансавай і інтэлектуальнай падтрымкі з боку заможных землеўладальнікаў культурнага развіцця вёскі. Арыентацыя большасці памешчыкаў на польскую нацыянальную культуру абмяжоўвала патэнцыял падтрымкі беларускага нацыянальнага руху. Асобныя прыклады канструктыўнага супрацоўніцтва хоць і давалі добрыя вынікі, не маглі пераламаць агульнай тэндэнцыі. Негатыўнае стаўленне і нават варожасць беларускай вёскі да панскага двору заставалася адным з асноўных элементаў рызыкі і нестабільнасці ў сацыяльным і палітычным развіцці беларускага грамадства.

4. Імклівы дэмаграфічны рост насельніцтва ў беларускай вёсцы ў паслярэформенны перыяд стымуляваў тэрытарыяльную і сацыяльную мабільнасць сялянства. Немагчымасць задаволіць мінімальныя

фінансавыя патрэбы за кошт унутраных рэсурсаў сямейных двара-гаспадарак падштурхоўваў сялян, асабліва бяднейшых, да пошукаў знешніх заробкаў. На пачатку XX ст. працэнтная вага такіх дворагаспадарак складала прыкладна тры чвэрці ад агульнай колькасці. Працэнтны паказчык тых, хто надоўга пакідаў родныя гаспадаркі і займаўся адыходніцтвам на пачатку XX ст. набліжаўся да 10 % працаздольнага насельніцтва. Асобы, якія пабывалі ў знешнім адносна сваёй вясковай супольнасці свеце, станавіліся «транслятарамі» новых ідэй, крыніцай культурных змен, а часта таксама грамадскага неспакою ў вясковым асяроддзі. Важным накірункам заробкавай міграцыі ў канцы XIX – на пачатку XX ст. стаў выезд беларускіх сялян на заробкі ў Паўночную Амерыку, які атрымаў найбольшае развіццё на паўночным захадзе Беларусі ў Віленскай і Гродзенскай губернях. Пасля вяртання на радзіму гэтыя мігранты станавіліся пашыральнікамі новых ідэй і тэхналогій, часта стваралі хутарскія гаспадаркі фермерскага тыпу. Істотным клапанам для змяншэння наступстваў дэмаграфічнага ціску і нарастаючага малазямелля стала перасяленне сялян у Сібір і на Далёкі Усход. Большая частка гэтых перасяленцаў прыходзілася на ўсходнія рэгіёны Беларусі – Віцебскую і Магілёўскую губерні. На захадзе Беларусі працэс перасялення сялян (асабліва праваслаўнага веравызнання) у Сібір стрымліваўся ўладамі па палітычных меркаваннях.

5. Міграцыя ў гарады, асабліва ў беларускія (з прычыны іх адносна павольнай індустрыялізацыі і перанаселенасці яўрэйскім мяшчанствам, якое было абмежаванае ў сваім перамяшчэнні «рысай аседласці») не атрымала вялікага пашырэння да Першай сусветнай вайны і закранала адносна вельмі невялікую частку сялян. На мяжы XIX–XX стст. сярод насельніцтва беларускіх гарадоў налічвалася каля 15 % сялян, якія складалі прыкладна 2 % ад усяго сялянскага насельніцтва. На пачатку XX ст. гэты працэс міграцыі паскорыўся. У гарады перасяляліся пераважна прадстаўнікі заможнай і бяднейшай груп вясковага насельніцтва. Узровень пісьменнасці гэтых перасяленцаў у сярэднім быў вышэйшым, чым адпаведны паказчык сярод усіх жыхароў вёскі. Галоўнымі каналамі вертыкальнай сацыяльнай мабільнасці для сялян стала адукацыя, а таксама служба ў войску. Дзякуючы атрыманай адукацыі сялянскія дзеці, пераважна з заможных сямей, пачалі набываць новыя прафесіі (настаўніка, пісара, фельчара, тэлеграфіста і г. д.), а разам з імі і новы сацыяльны статус у грамадстве. На пачатку XX ст. выхадцы з сялянства складалі значны працэнт сярод ніжэйшага і сярэдняга чыноўніцтва беларускіх губерняў, сярод інтэлігенцыі і прадстаўнікоў вольных прафесій.

6. Пасля рэформы 1861 г. пачынаецца арганізацыя дзяржаўнай сістэмы пачатковага навучання ў беларускай вёсцы, якая павінна была з часам ахапіць усіх сялянскіх дзяцей школьнага ўзросту. На

вясковую школу дзяржавай ускладвалася ў першую чаргу задача ідэалагічнага выхавання сялян у манархічным духу як верных падданых самадзяржаўнай улады, а таксама прывіванне ім «рускай» нацыянальнай самасвядомасці і расійскай мовы. Асаблівая роля ў сістэме сельскай адукацыі адводзілася праваслаўнаму прыходскаму духавенству. Адначасова з урадавымі школамі сярод каталіцкага вясковага насельніцтва развівалася нелегальнае «тайнае» школьніцтва з навучаннем на польскай мове, якое падтрымлівалася каталіцкім духавенствам і паместнай шляхтай каталіцкага веравызнання. Для большасці сялян галоўнай практычнай мэтай навучання з'яўлялася ўменне чытаць кнігі для набажэнства. Але для невялікай групы сялянскіх дзяцей, пераважна выхадцаў з заможных сямей, адукацыя станавілася трамплінам для сацыяльнага поспеху, магчымасцю набыцця новай прафесіі і павышэння сацыяльнага статусу. Гэтая група адукаваных выхадцаў з сялянства на працягу даследуемага перыяду павольна пашыралася, хаця на мяжы XIX–XX ст. у беларускіх губернях адносная вага сялян з адукацыяй вышэй за пачатковую сярод усяго сялянскага насельніцтва была блізкай да 0,1 %. Прычым у гэтай групе абсалютную большасць складалі мужчыны. Аднымі з галоўных праблем у дзейнасці вясковых школ на працягу ўсяго даследуемага перыяду з'яўлялася поўнае ігнараванне роднай мовы сялянскіх дзяцей, а таксама недастатковая ўвага да практычных патрэбаў вёскі.

7. Важнай спецыфікай рэлігійнага жыцця беларускай вёскі ў даследуемы перыяд з'яўлялася захаванне шматлікіх элементаў архаічных язычніцкіх вераванняў, якія сінтэтычна перапляталіся з хрысціянскімі традыцыямі і рытуаламі. Пасля рэформы 1861 г. роля прыходскага духавенства ў развіцці вёскі значна ўзрасла. Дзяржаўная ўлада разглядала праваслаўную царкву ў якасці важнейшага інструмента рэалізацыі сваёй палітыкі на беларускіх землях, а каталіцкі касцёл – як небяспечную перашкоду для рэалізацыі гэтай палітыкі. Гэта адмоўна ўплывала на аўтарытэт царквы сярод сялян і садзейнічала зніжэнню ўзроўню рэлігійнасці вяскоўцаў. Працэсы секулярызацыі пашыраліся на працягу даследуемага перыяду, у найбольшай ступені закранаючы жыхароў праваслаўнай вёскі і інтэлігенцыю вясковага паходжання, якія ўсё часцей захапляліся радыкальнымі сацыялістычнымі ідэямі. Аднак у цэлым рэлігійныя інстытуты адыгрывалі ролю важнага мадэрнізацыйнага фактара ў сацыяльна-культурным развіцці вёскі.

8. У штодзённым жыцці беларускай вёскі ў паслярэформенны перыяд адбыліся істотныя цывілізацыйныя змены. Палепшыліся побытавыя ўмовы ў сялянскай хаце, стала больш вольнага часу, змянілася стаўленне вяскоўцаў да асабістай гігіены. На пачатку XX ст. гэта праявілася ў павольным зніжэнні паказчыкаў смяротнасці і ўзрастанні сярэдняй працягласці жыцця. Паволі зніжаліся адносныя паказчыкі

нараджальнасці і шлюбнасці, што сведчыла пра пачатак пераходу да мадэлі дэмаграфічнага развіцця, характэрнай для індустрыяльнага грамадства. Дадзеная тэндэнцыя ў большай ступені праяўлялася ў паўночна-заходніх рэгіёнах Беларусі. Вясковыя дзеці па традыцыі з малога ўзросту далучаліся да працы ў сямейнай дворагаспадарцы. Але з развіццём школьнай адукацыі ў іх жыцці з'яўляецца новая сацыяльная роля – школьнага вучня, якая змяняла распарадак часу, адкрывала новыя жыццёвыя перспектывы і вызначалася арыентацыяй на індывідуальныя здольнасці і дасягненні асобы.

У выніку развіцця працэсаў сацыяльнай мабільнасці, адыходніцтва на заробкі і службы ў войску сялянская моладзь станавілася з часам усё больш незалежнай ад сваёй сям'і і вясковай грамады. У яе з'яўляліся магчымасці для самарэалізацыі і здабыцця сродкаў для існавання па-за сямейнай гаспадаркай і лакальным вясковым светам. Гэта прыводзіла да ўсё больш частых праяваў сацыяльнай дэзарганізацыі, якія выяўляліся ў адмаўленні падпарадкавання традыцыйным аўтарытэтам (старэйшым гаспадарам, сялянскім і валасным уладам, духавенству), зараджэнні прафесійнай злачыннасці, захапленні радыкальнымі сацыяльнымі ідэямі і далучэнні да рэвалюцыйнага руху. У цэлым роля моладзі як узроставай сацыяльнай групы ў вясковым жыцці ў дадзены перыяд значна ўзрасла.

У паслярэформенны перыяд праявілася тэндэнцыя да павелічэння ўдзельнай вагі ў сялянскім грамадстве малой нуклеарнай сям'і. Пранікненне ў вясковы свет новых рэчаў, прылад і тэхналогій аблягчала працу селяніна і садзейнічала павелічэнню яго вольнага часу. Жанчыны ўсё больш вызваляліся ад палявых работ і маглі больш часу прысвяціць хатнім заняткам, а таксама выхаванню дзяцей. З'яўляліся такія новыя формы баўлення часу, як калектыўнае чытанне кніг. Змяняўся знешні выгляд сялян, якія перапраналіся ў фабрычную вопратку, а таксама інтэр'ер сялянскай хаты. Гэтыя змены прыўносіліся ў вёску найперш тымі сялянамі, якія адлучаліся на часовыя заробкі ці перасяляліся ў горад, але працягвалі наведваць сваякоў. Павольнае павелічэнне якасці і працягласці жыцця прывяло да адноснага павелічэння групы старэйшых людзей у вясковых супольнасцях. Гэта ўзмацняла лакальную гістарычную памяць вясковай грамады, носьбітамі і захавальнікамі якой былі пажылыя сяляне. Многія старэйшыя асобы, каб заставацца карыснымі для сям'і, бачылі сваёй функцыяй клопат пра малых дзяцей – унукаў. Выхаванне бабуляй (радзей дзедам) стала важным этапам сацыялізацыі для многіх сялянскіх дзяцей.

Такім чынам, у паслярэформенны перыяд у беларускай вёсцы адбываюцца істотныя змены ва ўсіх сферах сацыяльна-культурнага жыцця, якія былі абумоўленыя эканамічнымі, палітычнымі, тэхналагічнымі і дэмаграфічнымі фактарамі. Гэтыя змены спараджалі як пазітыўныя,

так і негатыўныя з’явы. Да першых можна аднесці дэмаграфічны рост, паляпшэнне якасці жыцця (гігіена, харчаванне, павелічэнне вольнага часу і г. д.), дэмакратызацыю і гуманізацыю ўзаемаадносін у сялянскіх супольнасцях, пашырэнне пісьменнасці і распаўсюджанне новых ведаў. Але адначасова распачынаецца працэс раскладання традыцыйнай сялянскай культуры і заняпад фальклору. Назіралася павольнае падзенне аўтарытэту старэйшых гаспадароў, рост злачыннасці і іншых праяваў дэвіянтных паводзін сярод вясковых жыхароў. Павялічвалася сацыяльная напружанасць у сялянскім грамадстве і ўзрастала пагроза патэнцыйных сацыяльных канфліктаў. Беларуская вёска ўступіла ў фазу дынамічнага развіцця са шматлікімі фактарамі рызыкі. Напярэдадні Першай сусветнай вайны яна прайшла прыкладна палову пераходнага шляху ад традыцыйнага да індустрыяльнага тыпу арганізацыі грамадства, і далейшыя перспектывы і канкрэтныя спосабы завяршэння гэтага пераходу заставаліся на той час няпэўнымі.

## Бібліяграфічны спіс


1. А. Н-а. Школы і граматнасць у Беларусі // Наша Ніва : першая беларус. газ. з рыс. – Факс. выд. – [Мінск, 2003]. – Вып. 4. – 1911. – С. 435–437.
2. А. Н. Граматнасць і заработкі // Наша Ніва : першая беларус. газ. з рыс. – Факс. выд., 1912–1915, 1920. – [Мінск, 2009]. – Вып. 5. – 1912. – 30 (12) жн. – № 35. – С. 2.
3. А. С. Бутрыманцы // Наша Ніва : першая беларус. газ. з рыс. – Факс. выд., 1912–1915, 1920. [Мінск, 2009]. – Вып. 5. – 1912. – 13 (26) студня. – № 2. – С. 4.
4. А. У. Аб вясковай хуліганшчыне // Наша Ніва. – 1912. – 21 сьнеж. – № 51–52. – С. 2.
5. А. Ў. Аб выездзе ў Амэрыку // Наша Ніва : першая беларус. газ. з рыс. – Факс. выд., 1912–1915, 1920. – [Мінск, 2009]. – Вып. 5. – 1913. – 17 кастр. – № 42. – С. 2.
6. А. Ў. Што думае народ аб школах? // Наша Ніва. – 1912. – 13 (26) студзеня. – № 2. – С. 2–3.
7. Абезгауз, З. Е. Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX в. / З. Е. Абезгауз. – Минск : Наука и техника, 1971. – 180 с.
8. Александровіч, С. Х. Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX – пачатку XX стагоддзя / С. Х. Александровіч. – Мінск : Беларус. дзярж. ун-т, 1971. – 247 с.
9. Аникиевич, К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии. Опыт описания в географическом, историческом, этнографическом, бытовом, промышленном и статистическом отношениях, с картой уезда, схемой двух озер и рисунками в тексте / К. Т. Аникиевич. – Могилев : Губерн. тип., 1907. – [5], 148 с.
10. Анфимов, А. М. Крестьянское хозяйство европейской России, 1881–1904 / А. М. Анфимов. – М. : Наука, 1980. – 238 с.
11. Анфимов, А. М. Экономическое положение и классовая борьба крестьян европейской России, 1881–1904 / А. М. Анфимов. – М. : Наука, 1984. – 232 с.
12. Аргудяева, Ю. В. Крестьянская семья у восточных славян на юге Дальнего Востока России (50-е годы XIX в. – начало XX в.) / Ю. В. Аргудяева. – М. : РАН, 1997. – 314 с.
13. Астрога, В. М. Адносіны царызму да настаўніцтва Беларусі (другая палова XIX – пачатак XX ст.) / В. М. Астрога // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 8. – С. 28–34.
14. Астрога, В. М. Вясковае настаўніцтва Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX стст. : аўтарэф. дыс... канд. гіст. навук : 07.00.02 / В. М. Астрога; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2005. – 20 с.
15. Астрога, В. М. Настаўніцкія інстытуты ў дарэвалюцыйнай Беларусі / В. М. Астрога // Вышэйшая школа. – 2010. – № 5. – С. 39–44.
16. Астрога, В. М. Настаўніцы Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. / В. М. Астрога // Беларус. гістар. часоп. – 2011. – № 1. – С. 23–29.

17. Астрога, В. М. Падрыхтоўка настаўніцкіх кадраў у Беларусі (другая палова XIX – пачатак XX ст.) / В. М. Астрога // Веснік адукацыі. – 2007. – № 10. – С. 66–72.
18. Багушэвіч, Ф. Творы: вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты; уклад., прадм. Я. Янушкевіча / Ф. Багушэвіч. – Мінск : Мастацкая літаратура, 1991. – 309 с.
19. Байрау, Д. Янус в лаптях : крестьяне в русской революции, 1905–1917 гг. / Д. Байрау // Вопр. истории. – 1992. – № 1. – С. 19–31.
20. Безгин, В. Г. Крестьянская повседневность (традиции конца XIX – начала XX вв.) / В. Г. Безгин. – Тамбов : Изд-во Тамбов. гос. тех. ун-та, 2004. – 304 с.
21. Бейлькин, Х. Ю. Аграрный кризис конца XIX в. и структурная реконструкция сельского хозяйства Беларуси / Х. Ю. Бейлькин. – Минск : Бел. наука, 2001. – 190 с.
22. Бейлькін, Х. Ю. Да пытання аб фермерах и кулаках на Беларуси, другая палова XIX – пачатак XX ст. / Х. Ю. Бейлькін // Беларус. гістар. часоп. – 1994. – № 4. – С. 70–76.
23. Бейлькин, Х. Ю. Капиталистическая трансформация сельского хозяйства Беларуси в начале XX века, 1901–1914 гг. / Х. Ю. Бейлькин. – Гомель : ЦИИР, 2006. – 296 с.
24. Бейлькін, Х. Ю. Кулакі і фермеры на Беларусі / Х. Ю. Бейлькін // Беларус. гіст. часоп. – 2000. – № 2. – С. 34–37.
25. Бейлькин, Х. Ю. Проблема кулачества при рассмотрении вопроса о дифференциации крестьянства Беларуси в эпоху капитализма / Х. Ю. Бейлькин // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: стан і перспектывы развіцця : матэрыялы II Усебел. канф. гісторыкаў, Мінск, 10–11 крас. 1997 г. – Мінск, 1999. – С. 116–118.
26. Бейлькин, Х. Ю. Сельскохозяйственный рынок Белоруссии, 1861–1914 гг. / Х. Ю. Бейлькин ; науч. ред. М. О. Бич. – Минск : Наука и техника, 1989. – 288 с.
27. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст. : Жыццярысы. Мартыралогія. Успаміны / Нац. навук.-асвет. цэнтр імя Ф. Скарыны ; уклад. Ю. Гарбінскі. – Мінск ; Мюнхен : Беларус. кнігазбор, 1999. – XIII, 702, [1] с.
28. Беларусы : [у 13 т.] / НАН Беларусі, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ; рэдкал.: В. К. Бандарчык [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 1995–2012. – Т. 4 : Вытокі і этнічнае развіццё / В. К. Бандарчык [і інш.]. – 2001. – 433 с.
29. Беларусы : [у 13 т.] / НАН Беларусі, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ; рэдкал.: В. К. Бандарчык [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 1995–2012. – Т. 5 : Сям'я / В. К. Бандарчык [і інш.]. – 2001. – 376 с.
30. Беларусы : [у 13 т.] / НАН Беларусі, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ; рэдкал.: В. К. Бандарчык [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 1995–2012. – [Т. 6] : Грамадскія традыцыі / В. Ф. Бацяеў [і інш.]. – 606 с.
31. Белоруссия в эпоху капитализма : сб. док. и материалов : [в 3 т.]. – Минск : Наука и техника, 1983 – 1990. – Т. 1 : Развитие капитализма

в сельском хозяйстве Белоруссии / сост. В. И. Мелешко [и др.]; ред. К. И. Шабуня, В. Н. Жигалов. – 1983. – 272 с.
32. Бендин, А. Ю. Проблемы веротерпимости в Северо-Западном крае Российской империи, 1863–1914 / А. Ю. Бендин. – Минск : Изд-во БГУ, 2010. – 439 с.
33. Березин, В. Восемь лет в Северо-Западном крае / В. Березин // Русский вестник. – 1896 . – № 1–2. – С. 139–157; № 3–4. – С. 170–180; № 7. – С. 185–204.
34. Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў (Vilniaus universiteto biblioteka. Rankraščių skyriaus rinkiniai). – Ф. 34 (Рускае геаграфічнае таварыства). Спр. 84. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в Тернопольскай волости Волковысского уезда.
35. Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. – Ф. 34. Спр. 87. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе Мстибовского сельского училища Мстибовской волости.
36. Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. – Ф. 34. Спр. 87. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе Порозовского сельского училища Порозовской волости.
37. Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. – Ф. 34. Спр. 87. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе Подоросского училища Подоросской волости.
38. Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. – Ф. 34. Спр. 90. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе Песковского народного училища Песковской волости.
39. Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. – Ф. 34. Спр. 91. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе Росского приходского училища Росской волости.
40. Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. – Ф. 34. Спр. 93. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе Свислочской волости.
41. Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. – Ф. 34. Спр. 94. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе Словатичского народного училища Пенюговской волости Волковысского уезда.
42. Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. – Ф. 34. Спр. 96. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе Велико–Лапеницкого народного училища Изабелинской волости Волковысского уезда.
43. Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. – Ф. 34. Спр. 97. Арк. 1–7. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе занимаемым Верейковским приходским училищем Верейковской волости 2-го Мирового участка Волковысского уезда.
44. Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. – Ф. 34. Спр. 431. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в районе Остринского прихода Лидского уезда Виленской губернии.

45. Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў. – Ф. 34. Спр. 432. Сведения о состоянии сельского хозяйства и промышленности в Покровской волости Лидского уезда Виленской губернии.
46. Бич, М. О. Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг. / М. О. Бич. – Минск : Наука и техника, 1983. – 280 с.
47. Бобровский, П. Гродненская губерния : [в 2 ч.] / П. Бобровский. – СПб. : Тип. Департамента Генер. штаба, 1863. – Ч. 1. – XXII, 866 с. – (Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба).
48. Бобровский, П. Гродненская губерния : [в 2 ч.] / П. Бобровский. – СПб. : Тип. Департамента Генер. штаба, 1863. – Ч. 1 : Приложения. – II, 247 с. – (Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба).
49. Бобровский, П. Гродненская губерния : [в 2 ч.] / П. Бобровский. – СПб. : Тип. И. Огризко, 1863. – Ч. 2. – VIII, 1074 с. – (Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба).
50. Бобровский, П. Гродненская губерния : [в 2 ч.] / П. Бобровский. – СПб. : Тип. Департамента Генер. штаба, 1863. – Ч. 2 : Приложения. – VI, 391 с. – (Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба).
51. Бобровский, П. Физические и нравственные элементы Северо-Западных губерний России / П. Бобровский // Вестник Западной России. – 1865. – Т. II, кн. 4–6. – С. 1–69.
52. Бобровский, П. Можно ли одно вероисповедание принять в основание племенного разграничения славян Западной России : (По поводу Этногр. атл. зап.-рус. губ. и сосед. обл. Р. О. Эккерта) / П. Бобровский. – Санкт-Петербург, 1864. – 51 с.
53. Бовуа, Даниэль. Гордиев узел Российской империи: Власть, шляхта и народ на Правобережной Украине, 1793–1914 / Даниэль Бовуа. – М. : Новое литератур. обозрение, 2010. – 1000 с.
54. Богданович, А. Е. Мои воспоминания / А. Е. Богданович // Нёман. – 1984. – № 5. – С. 7–69; № 6. – С. 38–89; № 7. – С. 21–87; № 8. – С. 67–136.
55. Богданович, А. Е. Пережитки древняго миросозерцания у белорусов : этногр. очерк / А. Е. Богданович. – Гродна : Губ. тип., 1895. –[3], III. – 186 с.
56. Богданович, А. Е. Я всю жизнь стремился к свету : в 2 кн. / А. Е. Богданович ; сост., авт. предисл. А. Ващенко. – Минск : Літаратура і мастацтва, 2012. – Кн. 1 : Мои воспоминания. – 544 с.
57. Болбас, М. Ф. Промышленность Белоруссии, 1860–1900 / М. Ф. Болбас. – Минск : Изд-во Белорус. гос. ун-та, 1978. – 312 с.
58. Бочанова, Г. А. Выходцы из Белоруссии в Сибири второй половины XIX – начала XX в. : вопросы миграции и расселения / Г. А. Бочанова // Белорусы в Сибири : сб. ст. / Ин-т истории СО РАН, Ин-т истории НАНБ. – Новосибирск : Ин-т истории, 2000. – Вып. 1. – С. 65–89.
59. Бренн, Я. Особенности религиозного быта крестьян Бельского уезда Гродненской губернии / Я. Бренн // Литовские епарх. ведомости. – 1887. – 11 янв. – С. 4–9.

60. Бригадин, П. И. Социальная структура белорусского общества на рубеже XIX–XX вв. / П. И. Бригадин, А. Г. Кохановский // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. – Сер. 3, Гісторыя. Філасофія. Псіхалогія. Паліталогія. Эканоміка. Права. – 1996. – № 3. – С. 34–37.
61. Булава, Т. Выбор старшыны / Т. Булава // Наша Ніва : першая беларус. газ. з рыс. – 10 (23) ліст. – 1906 г. – С. 3–4.
62. Бульба, А. Якой цэной купляюцца «Амэрыканскіе грошы» на Беларусі / А. Бульба // Наша Ніва : першая беларус. газ. з рыс. – № 5. – 3 лютага. – 1911. – С. 66–69.
63. Бурачонак, А. В. Сацыяльны склад прамысловых прадпрымальнікаў Беларусі (канец XIX – пачатак XX ст.) / А. В. Бурачонак // Працы гістарычнага факультэта БДУ : навук. зб. / Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2011. – Вып. 6. – С. 20–26.
64. Буховец, О. Г. Социальные конфликты и крестьянская ментальность в Российской империи начала XX века: новые материалы, методы, результаты / О. Г. Буховец. – М. : Мосгорархив, 1996. – 398 с.
65. Быховцев, Н. И. История просвещения на Волковыщине : до 1915 года / Н. И. Быховцев. – Минск : Смэлток, 2014. – 356 с.
66. Бэрк, П. Гісторыя і сацыяльная тэорыя / П. Бэрк ; пер. з англ. М. Гілевіча. – Мінск : Тэхналогія, 2003. – 235 с.
67. Бяседа старога вольніка з новымі пра іхняе дзела. – [Б.м.], [1861]. – 31 с.
68. Ван дер Лоо, Ханс. Модернизация как концепт / Ханс Ван дер Лоо, Виллем Ван Райен // Ab Imperio. – № 1. – 2002. – С. 33–64.
69. Вашкевіч, Ю. Вобраз Беларусі і беларусаў у польскай мемуарнай літаратуры 1945–1991 г. / Ю. Вашкевіч // Беларускі гістарычны агляд. – 1999. – Т. 6, сш. 1–2 (10–11). – С. 81–91.
70. Верещагин, П. Д. Аграрные миграции крестьянства Белоруссии на окраины России в конце XIX – нач. XX вв. : автореф. дис. … докт. ист. наук : 07.00.02 / П. Д. Верещагин ; Акад. наук СССР, Ин-т истории. – М., 1981. – 56 с.
71. Верещагин, П. Д. Крестьянские переселения из Белоруссии : вторая половина XIX в. / П. Д. Верещагин – Минск : Изд-во Белорус. гос. ун-та, 1978. – 144 с.
72. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. Полное географическое описание нашего Отечества / сост. : В. П. Семенов (Тян-Шанский), И. В. Довнар-Запольский, Д. З. Шендрик [и др.]. – Минск : БелЭн, 2006. – 456 с. : илл.
73. Виленский временник : в 6 кн. / основатель и редактор А. Н. Харузин. – Вильна : Вилен. генерал-губернат. упр., 1907. – Кн. 2. – 501, [1] с., 97 л. ил.
74. Виленский временник : в 6 кн. / основатель и редактор А. Н. Харузин. – Вильна : Вилен. генерал-губернат. упр., 1909. – Кн. 3 : Крестьянское землевладение Виленской губернии. – 641 с.
75. Виленский учебный округ : политика российского правительства в области образования (вторая половина XIX – начало XX в.) / М. А. Гулюк [и др.] // Российские и славянские исследования : науч. сб. – Вып. 3. – Минск : Изд-во Белорус. гос. ун-та, 2008. – С. 57–75.

76. Витебская губерния. Историко-географический и статистический обзор / сост. по программе и под ред. витебского губернатора, тайного советника, князя В. М. Долгорукова. – Витебск : Губерн. типогр., 1890. – Вып. I : История. Природа. Население. Просвещение. – [2], 387 с., [16] л. цв. карт.
77. Военно-конская перепись = Recensement des chevaux 1888 / под ред. А. Сырнева. – СПб. : Изд. Центр. стат. ком. М-ва внутр. дел; тип. А. Траншель, 1891. – [2], XXIII, 207 с.
78. Военно-конская перепись = Recensement des chevaux 1893 и 1894 гг. / под ред. А. Сырнева. – СПб. : Изд. Центр. стат. ком. М-ва внутр. дел, 1896. – XXII, 246 с.
79. Военно-конская перепись = Recensement des chevaux, 1899–1901 гг. / под ред. А. Сырнева. – СПб. : Изд. Центр. стат. ком. М-ва внутр. дел, 1902. – [6], XIV, 223 с.
80. Военно-конская перепись = Recensement des chevaux 1906. – СПб. : Изд. Центр. стат. ком. М-ва внутр. дел; типо-литогр. Ш. Бусселя, 1908. – 105 с.
81. Военно-конская перепись = Recensement des chevaux 1912. – Пг. : Изд. Центр. стат. ком. М-ва внутр. дел, 1914. – [2], XII, 441 с. [12] л. илл.
82. Временные Правила о добровольном переселении сельских обывателей и мещан-земледельцев : мнение Гос. Совета, 6 июня 1904 г., № 24 701 // Полное собрание законов Российской империи. Собрание 3 : в 33 т. – СПб., 1907. – Т. 24 : 1904, отд-ние 1. – С. 603–607.
83. Вронский, О. Г. Крестьянство и власть, 1900–1923 гг. / О. Г. Вронский. – Тула : Рарус, 1993. – 139 с.
84. Вульф, Э. Крестьяне : реферат / Э. Вульф // Отечественная история. – 1993. – № 6. – С. 82–94.
85. Высочайше утвержденное Местное положение о поземельном устройстве крестьян, водворенных на помещичьих землях в губерниях: Великороссийских, Новороссийских и Белорусских, 19 фев. 1861 г., № 36662 // Полное собрание законов Российской империи. – Собрание 2 : в 55 т. – СПб., 1863. – Т. 36, отд-ние 1. – С. 231–273.
86. Высочайше утвержденное Общее положение о крестьянах, вышедших из крепостной зависимости, 19 фев. 1861 г., № 36657 // Полное собрание законов Российской империи. – Собрание 2 : в 55 т. – СПб., 1863. – Т. 36, отд-ние 1. – С. 141– 169.
87. Высочайше утвержденное положение об устройстве дворовых людей, вышедших из крепостной зависимости, 19 фев. 1861 г., № 36658 // Полное собрание законов Российской империи. – Собрание 2 : в 55 т. – СПб., 1863. – Т. 36, отд-ние 1. – С. 170–174.
88. Высочайше утвержденные Временные правила о переселениях, 10 июля 1881 г. // Полное собрание законов Российской империи. – Собрание 3 : в 33 т. – СПб., 1885. – Т. 1. – С. 653–654.
89. Высочайше утвержденные правила для составления, предъявления и утверждения люстрационных актов по казенным селениям и местечкам в губерниях : Виленской, Витебской, Волынской, Гродне-

ской, Киевской, Ковенской, Минской, Могилевской и Подольской, 20 окт. 1867 г., № 45077 // Полное собрание законов Российской империи. – Собрание 2 : в 55 т. – СПб., 1871. – Т. 42, отд-ние 2. – С. 228–237.

90. Ганчар, А. И. Римско-католический костел в Беларуси, 1864–1905 / А. И. Ганчар. – Гродно : Гродн. гос. агр. ун-т, 2008. – 276 с.
91. Гинзбург, К. Шпроты, рабы и Библия : опыт микроистории / К. Гинзбург // Новое литератур. обозрение. – 2004. – № 65. – С. 18–34.
92. Гирц, К. Интерпретация культур / К. Гирц. – М. : РОССПЭН, 2004. – 557,[2] с. : ил. ; 22 см. – (Культурология. XX век).
93. Гісторыя Беларусі : у 6 т. / рэдкал. : М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.] – Мінск : Экаперспектыва. 2000–2011. – Т. 4 : Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.) / М. Біч [і інш.]. – 2005. – 519 с.
94. Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII–пачатку XXI ст. : у 2 кн. / НАН Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск : Беларус. навука, 2011–2012. – Кн. 1 / А. А. Каваленя [і інш.] ; рэдкал. : А. А. Каваленя (гал. рэд.) [і інш.]. – 2011. – 584 с.
95. Гісторыя Беларускай ССР : у 5 т. / гал. рэдкал.: І. М. Ігнаценка (старш.) [і інш.]. – Мінск : Навука і тэхніка, 1972–1975. – Т. 2 : Беларусь у перыяд капіталізму (1861–1917 гг.) / рэдкал. тома : К. І. Шабуня (гал. рэд.) [і інш.]. – 1972. – 688 с.
96. Гісторыя сялянства Беларусі: са старажытных часоў да 1996 г. : у 3 т. ; рэдкал. : М. С. Сташкевіч [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 1997–2002. – Т. 2 : Ад рэформы 1861 г. да сакавіка 1917 г. / З. Е. Абезгауз [і інш.] ; пад рэд. В. П. Панюціча. – 2002. – 552 с.
97. Главнейшие данные поземельной статистики по обследованию 1887 г. – СПб. : Изд. Центр. Стат. ком-та внутр. дел, 1893–1898. – Вып. 4 : Виленская губерния. – 1897. – [2], 13, 15 с. – (Статистика Российской империи ; 22).
98. Главнейшие данные поземельной статистики по обследованию 1887 г. – СПб. : Изд. Центр. стат. ком-та внутр. дел, 1893–1898. – Вып. 5 : Витебская губерния. – 1898. – 19 с. – [2], 11, 19 с. (Статистика Российской империи ; 22).
99. Главнейшие данные поземельной статистики по обследованию 1887 г. – СПб. : Изд. Центр. стат. ком-та внутр. дел, 1893–1898. – Вып. 11 : Гродненская губерния. – 1896. – 19 с. – [2], 15, 19 с. (Статистика Российской империи ; 22).
100. Главнейшие данные поземельной статистики по обследованию 1887 г. – СПб. : Изд. Центр. стат. ком-та внутр. дел, 1893–1898. – Вып. 17: Ковенская губерния, 1896. – [2], 17, 15 с. – (Статистика Российской империи ; 22).
101. Главнейшие данные поземельной статистики по обследованию 1887 г. – СПб. : Изд. Центр. стат. ком-та внутр. дел, 1893–1898. – Вып. 22 : Минская губерния. – 1896. – [2], 15, 19 с. – (Статистика Российской империи ; 22).
102. Главнейшие данные поземельной статистики по обследованию 1887 г. – СПб. : Изд. Центр. стат. ком-та внутр. дел, 1893–1898. – Вып. 23 :

Могилевская губерния. – 1893. – [2], 15, 19 с. – (Статистика Российской империи ; 22).
103. Гмырак, Л. Якой школы нам трэба / Л. Гмырак // Наша Ніва : першая беларус. газ. з рыс. – 28 верасня. – 1913. – С. 1.
104. Голубеў, В. Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI–XVIII стст. / В. Ф. Голубеў – Мінск : Навука, 2008. – 407 с.
105. Грабінскі, Б. Сакольшчына–Горадня–Вільня / Б. Грабінскі // ARCHE. – № 5. – 2000. – С. 179–208.
106. Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі / В. К. Бандарчык [і інш.]. – Мінск : Навука і тэхніка, 1993. – 256 с.
107. Гренди, Э. Еще раз о микроистории / Э. Гренди // Казус: Индивидуальное и уникальное в истории : альманах / Рос. акад. наук, Ин-т всеобщ. истории ; под ред. Ю. Л. Бессмертного и М. А. Бойцова. – М., 1997. – С. 291–302.
108. Громыко, М. М. Община в процессе переселения «панцирных бояр» Себежского уезда в Сибирь / М. М. Громыко // Общественный быт и культура русского населения Сибири (XVIII – начало XX в.) : [сб. ст.] / АН СССР. Сиб. отд-ние, Ин-т истории, филологии и философии ; редкол.: Л. М. Русакова (отв. ред.) [и др.]. – Новосибирск, 1983. – С. 19–31.
109. Грынкевіч, С. З роднае Сакольшчыны / С. Грынкевіч // Вяртанне да сваіх. – Беласток, 1999. – С. 14–19.
110. Гулак, А. Заходняя Беларусь другой паловы XIX ст. у рукапіснай працы П. Бяссонава / А. Гулак // Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа : зб. навук. прац / Гродз. дзярж. ун-т ; пад рэд. А. М. Пяткевіча. – Гродна, 2003. – С. 92–99.
111. Гулюк, М. А. Женские духовные училища в образовательной политике российского правительства в белорусских губерниях (вторая половина XIX – начало XX в.) / М. А. Гулюк // Веснік Віцебскага дзярж. ун-та. – 2005. – № 1. – С. 26–29.
112. Гулюк, М. А. Молодечненская учительская семинария в период становления, 1864–1870 гг. / М. А. Гулюк // Веснік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Серыя 3. – 2004. – № 3. – С. 3–7.
113. Гулюк, М. А. Педагогическое образование в белорусских губерниях в начале XX в.: Витебский и Могилевский учительские институты / М. А. Гулюк // Працы гістарычнага факультэта БДУ : навук. зб. / Беларус. дзярж. ун-т ; адказны рэд. У. К. Коршук. – Мінск, 2006. – Вып. 1. – С. 222–226.
114. Гулюк, М. Подготовка народных учителей Виленского учебного округа в контексте политики «контрреформ» / М. Гулюк // Гісторыя: праблемы выкладання. – 2005. – № 4. – С. 51–57.
115. Гулюк, М. А. Православная церковь и развитие народного образования в Гродненской губернии в 1861–1907 гг.: кадровый аспект / М. А. Гулюк // Веснік Гродз. дзярж. ун-та. Сер. 1, Гісторыя і археалогія. Філасофія. Паліталогія. – 2012. – № 2. – С. 12–17.
116. Гулюк, М. А. Роль учительских семинарий Виленского учебного округа в правительственной политике по подготовке педагогических кадров

(70-е гг. XIX в.) / М. А. Гулюк // Российские и славянские исследования : сб. науч. ст. / Белорус. гос. ун-т ; отв. ред. О. А. Яновский. – Минск, 2004. – Вып. 1. – С. 122–127.

117. Гулюк, М. А. Учительские институты Виленского учебного округа во второй пол. XIX – начале XX ст. / М. А. Гулюк // Мир Технологий. – 2004. – № 2. – С. 120–125.
118. Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі : [у 4 т.]. – Мінск : Выд-ва Акад. навук БССР, 1936–1954. – Т. 2 : 1772 – 1903 гг. / пад рэд. Н. М. Нікольскага, Д. А. Дудкова, І. Ф. Лочмеля. – 1940. – XVI, 938 с.
119. Данилова, Л. В. Природное и социальное в крестьянском хозяйстве / Л. В. Данилова // Крестьяноведение: Теория. История. Современность : ежегодник / Моск. высш. шк. социал. и эконом. наук ; под ред. В. П. Данилова, Т. Шанина. – 1997. – С. 21–51.
120. Дзед Міхасць. З Гродзеншчыны // Наша Ніва. – 1912. –11(24) кастр. – № 41. – С. 4.
121. Дзядзька Карусь. Беларуская мова у казенной школи // Наша Ніва. – 1906. – 22 снежня. – С. 4.
122. Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (*далей* – ДГАЛ) (Lietuvos Valstybės Istorijos Archyvas). – Ф. 378. (Канцылярыя віленскага генерал-губернатара). Агульны аддзел. Воп. 1861. Спр. 339. Об утверждении мировых посредников. Арк. 1–458.
123. ДГАЛ. – Ф. 378. Палітычны аддзел. Воп. 1862. Спр. 83. О доставлении сведений о происхождении и образовании волостных писарей и делопроизводителей при мировых посредниках.
124. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1863. Спр. 798. О мировых посредниках Гродненской губернии. Арк. 1–738.
125. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1863. Спр. 906. О проведении новых выборов на должности волостных старшин в бывших помещичьих имениях. 1863 г. Арк. 1–89.
126. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1863. Спр. 910. Об устройстве быта бобылей. Арк. 1–26.
127. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1863. Спр. 1688. О использовании русского языка в делопроизводстве волостных правлений. Арк. 1–45.
128. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1864. Спр. 1588. Приговоры об отмене телесных наказаний на волостных сходах. Арк. 1–12.
129. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1865. Спр. 1354. О командировании действительного статского советника А. П. Строженко в Минскую губернию. Арк. 1– 95.
130. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1865. Спр. 2104. О беспорядках на волостном сходе в местечке Щучин Лидского уезда. Арк. 1–93.
131. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1865. Спр. 2107. О количестве вызванных в Северо-Западный край семинаристов. Арк. 1–13.
132. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1865. Спр. 2368. О устройстве быта батраков и кутников. Арк. 1–198.
133. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1866. Спр. 1576. О вознаграждении наставников народных училищ. Арк. 1–146.

134. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1867. Спр. 1198. О прошении однодворцев околицы Лежайки исповедовать католическую веру. Арк. 1–183.
135. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1868. Спр. 2298. О порядке переселения безземельных крестьян на свободные казенные земли в Оренбургскую и Самарскую губернии. Арк. 1–116.
136. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1869. Спр. 1110. О командировании чиновников в Виленскую и Гродненскую губернии. Арк. 1–314.
137. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1869. Спр. 1111. Статистические таблицы по крестьянскому делу. Арк. 1–173.
138. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1871. Спр. 30. О вознаграждении волостных старшин и писарей. Арк. 1–79.
139. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1871. Спр. 1123. О разрешениях покупки земли крестьянам Гродненской губернии. Арк. 1–60.
140. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1874. Спр. 1129. О присоединении к православию крестьян Волковысского уезда. Арк. 1–36.
141. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1874. Спр. 1138. Ходатайства крестьян Волковысского уезда оставить их в римо-католичестве. Арк. 1–13.
142. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1880. Спр. 574. Представление гродненского губернатора о мерах по увеличению количества народных училищ. Арк. 1–81.
143. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1882. Спр. 611. О мировом посреднике 1-го участка Гродненского уезда А. Шахове. 1882–1883. Арк. 1–45.
144. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1884. Спр. 59. Списки полицейских урядников Виленской, Гродненской и Ковенской губерний. Арк. 1–379.
145. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1884. Спр. 111. О лицах, которые находились на службе в Северо-Западном крае. Арк. 1–558.
146. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1884. Спр. 976. О языке богослужения в костелах Северо-Западного края. Арк. 1–84.
147. ДГАЛ – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1888. Спр. 82. Списки волостных писарей и старшин Виленской, Гродненской и Ковенской губерний. Арк. 1–41.
148. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1889. Спр. 460. Об усилении контроля за деятельностью крестьянского самоуправления. Арк. 1–34.
149. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1890. Спр. 103. Сведения о эмиграционном движении крестьян в Америку. Арк. 1–56.
150. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1891. Спр. 80. О предоставлении генерал-губернатору списка писарей Северно-Западного края. Арк. 1–46.
151. ДГАЛ – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1891. Спр. 392. Записка гродненского губернатора о упорядочении крестьянского самоуправления. Арк. 1–313.
152. ДГАЛ. – Ф. 378. Палітычны аддзел. Воп. 1891. Спр. 2. О тайных школах, открытых в Виленской, Гродненской и Ковенской губерниях.
153. ДГАЛ. – Ф. 378. Агульны аддзел. Воп. 1894. Спр. 404. Дело по отзыву МВД о пересмотре законодательства о крестьянах. Арк. 1–262.

